№6 (127)
/лістапад-снежань/ 2023

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Васіль Зуёнак



...І толькі небу падуладны
Мая душа і смутак мой...

# Vita!

## *ВЯСЁЛКА*

Крышталь акрыленай вады
І сонечны прамень – сышліся,
Каб свет стары, як малады,
Заззяў у паднябесных высях.

Так выпадае на дваіх –
Як цуд зямны – адна сустрэча:
Лёс ці выпадак – толькі міг,
Вясёлка ў небе чалавечым.

І тыя, што сышлі ў нябыт,
І хто яшчэ не нарадзіўся, –
Жыцця імгненнага іспыт
Сямікалёрнае адзінства.

## З’ЯЎЛЕННЕ...

З нябёсаў – ліпеньскі лівень,
А з ім – з сакрэтаў сакрэт, –
Кропелька явы бурлівай:
Маё з’яўленне на свет.

Слязінка шчаслівая ў мамы,
І тата – богам з багоў...

І водгуллем сэрца майго –
Маланкі кардыяграма...

## НАЧНОЕ...

Як пытанне над маёю доляй
Месяц, ненавіснік сноў начных:
– Ці не час ужо табе адолець
Прыцягненне клопатаў зямных?
Ці не лепш хіба ў сусветнай хаце? –
Толькі ў неба перайсці мяжу...

– Што ж ты так раздобрыўся, мой браце?!.
Прычакаю сонца – і скажу.

## ЗМЯРКАННЕ

Як певень, захад –
чырвоны грэбень –
хмурынкі-крылы
ўразлёт ускінуў,
чакае: хто ж
на падворку-небе
сыпне зярнятак...–
хоць бы й з мякінай...

Не дачакаўся – не ўгледзеў:
поўня
на двор выносіць,
як гаспадыня,
зярняты-зоркі
сяўнёю поўнай, –
а ён знікае
за лесам сінім...

* * *

Ноч схіляецца ў цёмным паглядзе –
Ні прыспаць яго, ні загушкаць.
На рахунак савы – час крывы,
Час улукаткі. І не прыладзіць
Ні галаву да падушкі,
Ні падушку да галавы...

Што пытаешся?.. –
Хопіць пытанняў! –
Ноч, давай заключым саюз:
Ты прыходзь, каб прынесці адхланне, –
Без цябе ў пытаннях пагруз...

Знаем: хто і калі адкажа, –
Але сон маўчаннем уважым...

### *АДНЫ КАРАНІ...*

Бяззубая мякаць начной цішыні
І хрумсткага яблыка крохкая памяць, –
У вас з адзінотай адны карані,
А шчодрую глебу знаходзіце самі...

* * *

А што такое Сусвет,
Калі ні ў межах, ні ў часе?
І як разгадваць сакрэт,
Калі й адказ не зачаўся:

Не знае й Сусвет, што яго
Няма.
        Не было і не будзе...
Дык не турбуйцеся, людзі,
І меней стварайце багоў.

Інакш немінуча паўстане
"А што за Сусветам?" пытанне...

* * *

Табе і лёс – табе і воля, –
Дарогу славай не зняслаў.
Калі ўзлятаеш, не вымольвай,
Каб Бог саломкі падаслаў.

Калі няўправіца – гартуйся, –
І з крыўдаў плот не гарадзі.
Калі ў жыццё прыйшоў – гуртуйся,
А паміраеш – будзь адзін.

### *СПЕЛАСЦЬ...*

Ёсць злое хрышчэнне:
“спелы лес”, –
То бок, гатоў
пад пілу і сякеру.
Такі ж і ў вайны
“лясны” інтарэс:
паспеў чалавек, –
і ў самую меру...

### *ВОЎК*

Хоць сон змарыў, а ў чарадзе
Ваўку баранчык сніцца:
На паляванне воўк ідзе –
Ваўку і ў сне ваўчыцца.

### *УРОК*

Апоўначы, калі згусцелы змрок
Не пранізаць ні позіркам, ні думкай,
Мне вечнасць паўтарае той урок,
Што ўсім дае жыццё для паратунку:

“Не смерці бойцеся, а бойцеся мяне, –
Так дакляруе ўсім яно дарогу. –
Усё скасуе смерць: як абміне.
Я ж не прабачу: і нікому, і нічога...”

* * *

Што ж, і ў вечнасці
пэўныя ёсць агрэхі, –
Ці, можа, чагосьці
век мой зямны не спасціг?
О смерць, няўжо ты стварыла жыццё
для ўласнай пацехі,
Каб не сумна адной
былося табе ў небыцці?..

## *А ВЕРША ШКАДА...*

Усё было, як бывае ў сне, –
Губляеш тое, што не знайшоў.
Было нас трое: апроч мяне
Былі Законнікаў і Куляшоў.

І верш Куляшова хваліў Сяргей,
На памяць сыпаў цытаты.
І самы, здаецца, быў апагей,
Ды класік сказаў вінавата:

– Прабачце, хлопцы, – усім свой час... –
І знік, і сон абарваўся.
А верш? Няўжо й ён зляцеў ад нас
І ў небыцці застаўся?..

Я тут жа Сяргею тэлефанаваў, –
Даводжу, прыгода якая:
– Ды ты ж там на памяць верш цытаваў... –
А ён аб тым знаць не знае!..

Яшчэ па-законніцку пажартаваў,
Такой абышоўся парадай:
– А ты не смуткуй – не маўчыць трава:
Твой сон і твой верш, – сам і згадвай.

Ды я нічагуткі не прыгадаў.
Сяргей не памог, і бяда ўся –
Няма Куляшова... А верша шкада, –
Магчыма б і мне прыдаўся.

## *СПОСАБ*

Ходзяць розныя дзейкі,
Дайшлі й да мяне:
След касмічна-індзейскі
Перад новым змарнеў.

Той паданнямі сведчыў
Аб прылёце гасцей
З іншасвету, што вечнай
Нам загадкай карцеў.

Ды не зладзілі мовай,
Не пайшло й наўздагад, –

Толькі плюнулі моўчкі
І зляцелі назад.

Аж да сёння зямляне
Трацяць попусту час:
Як на тое пасланне
Даць, нарэшце, адказ.

Не памогуць тут словы, –
А такіх і няма!..

Ды адзін адмысловец
Адшукаўся: “Дарма
Вы мазгі не мазольце, –
Спосаб ёсць! Не ўстарэў:
Для кантакту дазвольце
Мне адправіць гарэм!..”

### *НЕ РУШ…*

І пэўны лес, што я вярнуся,
І знаюць нерушы мае,
Што звыкла зноў перагукнуся,
Як дзень сустрэчы настае.

І вось – бярэцікам з-пад моху –
ЁН!.. –
Нібы ўсіх узварушыў:
Кульнуўся жук з перапалоху,
Бягуць здзівіцца мурашы.

А я схіліўся ў захапленні! –
Зваліўся долу капялюш.
Сам кій укленчыў паралельна!..

– Вось вам і нЕруш! І не рУш!..

*Было: 11 жніўня, 2023.*

### *VITA!*

Якім народам і які
Наканаваны Боскі суд –
Між неаспрэчных ёсць такі:
Цераз пакуты і вякі
Жыць будзе Беларускі Цуд.

## ***ЗЯМНОЕ НЕБУ…***

Люблю – лясоў і ніў адданец –
Нябёсаў зорных вышыню.
Каб грэх зямны не закайданіў,
Малюся зорнаму агню.

Калі бушуюць зарапады,
Зямлі не чую пад сабой, –
І толькі небу падуладны
Мая душа і смутак мой.

<u>*САМОТНЫЯ СТРОФЫ*</u>

*Валянціне Мацвееўне Зуёнак:*
*перад Вечнасцю*

Не знаю, як гэта звязаць
З самотнай зямною бессанню,
А бачу: штосьці сказаць
Мне хоча зорка нябесная...

## ***ТОЙ ДЗЕНЬ…***

Вясковай выкрайкі пальцечка –
Гуллівы ветрык на падбой,
І на дваіх адна сустрэча:
Цябе са мной, мяне з табой.

І на дваіх у парку снежным
Адна сцяжынка – след у след,
Адно наперадзе бязмежжа,
І дзве душы – адзін сусвет...

...Як праляцела ўсё імкліва...
З вышынь самотных паглядзі:
Маўчыць сцяжынка сіратліва, –
Адна. І я на ёй адзін...

Загадка смерці немінучай
Мне засталася аднаму
І дзень той, двойчы неўміручы,
Бо двое верылі яму.

.........

А смутак – за дваіх – агорне
І не развеецца як дым:
Наш скарб адзіны, непаўторны,
Забрала вечнасць назаўжды.
Адно і засталося: згадваць
Мне ў раз’яднанасці зямной,
Як на дваіх дзялілі радасць –
І я з табой, і ты са мной...

### *ДУША*

Такою, як прыйшла ў жыццё,
І пойдзеш, не інакай.
Якое ўжо там небыццё! –
Жывой нязменна бачу:

Там, дзе адвечнаю сцяной
Спакой аберагае,
Душа руплівіцы зямной
Без працы знемагае.

### *ЗБАВЕННЕ*

Ад несустрэчы –
Боскае збавенне:
Твая ўся вечнасць
І маё імгненне.

### *НАД ФОТАЗДЫМКАМ...*

Маўчаць нябёсы, і спытаць
Зямных не маю праў:
Хто прыгажосць мог шчодра даць
І хто яе забраў, –

Такую несмяротную,
Такую незваротную...

### *БЕЗ ЦЯБЕ...*

Усё за нябесным парогам.
І навечна яна такая –
Не вымаліш іншай дарогі:
Паўсюль адзінота чакае.

І не дагукацца нікога,
І мяне ніхто не гукае...

### *ЯК БЫЛА ТЫ ПОБАЧ...*

Як была ты побач, здавалася,
Што была ты, наогул, вечна.
А пайшла – і з табой абарвалася
Нітка часу, – жыццю супярэчна.

І адкрылася мне неаспрэчнае,
Што цябе не было калісьці,
Што й майму з'яўленню сустрэчнаму
З небыцця было суджана выйсці.

Так спаткаліся, так кахаліся,
Праў у вечнасці не пыталіся, –
Бо была яна наша і з намі,
І былі мы вечнасцю самі.

*

І няўжо зямному раздоллю
Зноў вярнуцца ў зямное нікуды:
І цябе зноў не будзе ніколі,
Як і я больш ніколі не буду?!.

* * *

Здаецца, як учора ўсё было:
Над намі неба зорнае цвіло.

Цяпер адзін я перад ім стаю,
Між зорак выглядаючы тваю.

Цяпер мне неба двойчы даражэй, –
І з кожным днём становіцца бліжэй.

# проза



Віктар Варанец



...не прыспешвайце час,
і пра ўсё даведаецеся ў сваю пару...

## Брама

***Апавяданне***

Пачалося ўсё на выхадныя. Напярэдадні я пазычыў у сябра, што не так даўно вярнуўся з камандзіроўкі ў Югаславію, відэамагнітафон «Электроніка» і касету з парнаграфічным фільмам. Ні першага, ні другога мы з жонкай ніколі ў жыцці не бачылі, паколькі «Электроніку» можна было купіць толькі за чэкі «Знешэканомбанка», а дзе можна набыць такі фільм, нават і не ведалі. І вось суботнім вечарам я падключыў апаратуру, уставіў касету і павярнуўся да жонкі.

– Ну што, Аглая, гатова да ўспрыняцця буржуазнай псеўдакультуры?

Тая разгублена паціснула плячыма.

– Зразумела, – падвёў вынік я. – Тады канструктыўная прапанова: трэба прыняць грамаў па сто пяцьдзясят каньяку для лепшага разумення сюжэтнай лініі.

Жонка моўчкі кіўнула галавой. Я накіраваўся на кухню,

дзе наліў у фужэры грамаў сто для суджанай і дзвесце для сабе добрага «Белого аиста», зрабіў два бутэрброды з салам і вярнуўся ў залу.

– Але ж ты і калгаснік, – здзекліва вымавіла Аглая. – Каньяк пад сала. А дзе морапрадукты, лімон нарэшце?

– Усё ў магазіне. А пад рукой была толькі традыцыйная закуска. Ну, за мастацтва!

Я кульнуў адразу ж усю вадкасць, каб потым не адрывацца ад прагляду. Жонка адпіла крышку, зірнула на мяне, на відэамагнітафон і таксама дапіла да рэшты.

– Можам пачынаць? – запытаў я.

– Можам, – дазволіла Аглая.

Я націснуў «Пуск», і мы прыпалі да экрана. Фільм быў на нямецкай мове пра сантэхніка, якога выклікалі рамантаваць краны, але нечакана гаспадыня выкарыстала яго ў сваіх плоцкіх інтарэсах.

– Што такое *dasistfantastisch*? – не паварочваючы галавы, запыталася жонка.

– Гэта проста фантастычна, – пераклаў я.

– Ты ж вучыў англійскую мову? – недаверліва перапытала Аглая.

– Гэта блізкія мовы, – запэўніў я яе.

Яшчэ праз хвілін пяць жонка здзіўлена вымавіла:

– Як гэта магчыма так выкруціцца?

– Галоўнае, жаданне, – сціпла патлумачыў я. – Можам паспрабаваць...

– Распранайся! – загадала Аглая і пачала сцягваць з сябе халат.

Не паспелі мы па-сапраўднаму заняцца эксперыментам, як у дзверы нехта зазваніў.

– Не будзем звяртаць увагі, – прапанавала жонка.

А званок прарэзліва і несупынна звінеў.

– Не, дарагая, так немагчыма, – здаўся я. – Увесь імпэт губляецца!

Я абматаўся ручніком і накіраваўся да дзвярэй.

– Вам чаго? – строга запытаўся няпрошаных гасцей.

– Гэта сусед знізу, – пачуўся мужчынкі голас. – Вы нас заліваеце.

Я хуценька адчыніў дзверы. На парозе стаялі два здаровыя лбы ў чорных касцюмах. За імі быў ледзь бачны лысенькі мужчынка ў плашчы. Адзін з амбалаў адштурхнуў мяне ўбок і прайшоў у кватэру. Другі, наадварот, праявіў да мяне цікавасць, прыціснуўшы да сцяны і запстрыкнуўшы на руках кайданкі. А лысік адразу ж пакрочыў у залу. Атрымаўшы добрага штуршка ў плечы, пацягнуўся за ім і я. Жонка сядзела на канапе, прыкрыўшыся плюшавым мішкам, і дзікімі вачыма глядзела на нас. На экране ў рэжыме стоп-кадр ўражвалі сваімі формамі і памерамі гаспадыня кватэры і сантэхнік. Чалавек у плашчы зірнуў на экран, хмыкнуў і сеў у крэсла.

– Даруйце, Іван Іванавіч, што перашкодзілі прагляду хатняга відэа. Але справа надта важная. Мы ведаем, што вы чалавек гарачы і непрадказальны, таму і пусціліся на крайнія меры. Але, паверце, справа таго вартая...

Тут ён дастаў з кішэні чырвоную кніжачку, раскрыў і, падняўшыся, сунуў мне пад нос.

– Палкоўнік КДБ Мітрошын Якаў Якаўлевіч. Вы нам патрэбны, Іван Іванавіч.

– Няўжо я, просты правінцыяльны доктар, магу дапамагчы такой уплывовай і аўтарытэтнай арганізацыі?

– Можаце, можаце, – ажывіўся палкоўнік. – Гэта ж вы мінулым летам пад Камянцом у пушчы без наркозу аперыравалі чалавека?

– Так, – пагадзіўся я, – аперыраваў. Але не зусім ужо без наркозу. Была шклянка гарэлкі, а ў чалавека пачынаўся перытаніт, і чакаць не было калі. Я ж пісаў на гэты конт тлумачальную запіску.

– Цудоўна! – узрадаваўся Мітрошын. – Зараз нам трэба будзе праехаць у адно цікавае месца. Не пашкадуеце. А кіно дагледзіце іншым разам. Прашу прабачэння ў гаспадыні дома!

І ён па-старасвецку пакланіўся Аглаі. І тут яе панесла.

– Ды што вы сабе дазваляеце? Уварваліся ў кватэру, схапілі чалавека без якой-небудзь прычыны. Сатрапы! Гэта вам не трыццаць сёмы год!

Тут яна хацела шпульнуць у гасцей медзведзянём, але своечасова ўспомніла, што гэта яе адзінае адзенне.

– Поўнасцю падзяляю ваша абурэнне, шаноўная Аглая Сцяпанаўна, – зноў пакланіўся палкоўнік. – Але жыццё так уладкавана, што бываюць непрадбачаныя сітуацыі. І сёння менавіта такі дзень. Тым не менш запэўніваю вас, што з Іванам Іванавічам нічога дрэннага не адбудзецца і хутка вы зноў будзеце займацца кінапраглядам, які дакладна патрапляе пад артыкул 228 УК СССР. Іван Іванавіч, апранайцеся, калі ласка. Вельмі мала часу.

Я быў перакананы, што мы едзем на легендарную вуліцу Тэльмана, дзе і мясцілася ўсім вядомая ў горадзе абласное ўпраўленне КДБ. Але машына накіравалася ў супрацьлеглы бок. Праз паўгадзіны мы праехалі вёску Казлы і спыніліся на краі крэйдавага кар’ера.

– Вось мы і на месцы, – вымавіў Мітрошын, – прашу на выхад, шаноўны Іван Іванавіч.

Я выйшаў з машыны, з абодвух бакоў да мяне тут жа прыліплі маўклівыя спадарожнікі, і мы рушылі за палкоўнікам па сцежцы ўніз кар’ера. Я з цікавасцю пазіраў па баках. Паўсюль былі расстаўлены знакі «Праход забаронены», «Вядуцца выбуховыя працы», «За знаходжанне на тэрыторыі кар’ера штраф 50 рублёў». Там-сям соўгаліся людзі ў форме работнікаў кар’ера, але па выпраўцы няцяжка было здагадацца, хто яны на самой справе. Што ж тут робіцца? Тым часам мы спусціліся на дно кар’ера, якраз пасярэдзіне якога стаяў будаўнічы вагончык. Вось туды мы і зайшлі. Унутры вагончык ніяк не нагадваў будаўнічы: абшыты дрэвам, з утульнымі мяккімі крэсламі, халадзільнікам і мікрахвалёўкай, ён хутчэй быў падобны да заможнай аднапакаёвай кватэры. За сталом сядзеў сівы мужчына сталых гадоў у камуфляжнай форме без пагонаў, вакол яго пачціва замерлі два маладзёны ў робах зваршчыкаў.

– Таварыш генерал! Грамадзянін Судзілоўскі дастаўлены па вашым загадзе! – па форме даклаў Мітрошын.

Генерал з цікавасцю перавёў на мяне позірк, нечаму ўсміхнуўся і паказаў рукою на вольнае крэсла.

– Сядайце, таварыш Судзілоўскі, – ён зірнуў у нейкую паперыну і дадаў: – Іван Іванавіч. І ты, палкоўнік, сядай.

Я ўладкаваўся на прапанавым месцы і пачаў чакаць. Хвіліны на тры завісла паўза.

– А ты малайцом, – парушыў нарэшце цішыню генерал. – Не абураешся, не мітусішся, нават не цікавішся, для чаго цябе прывезлі. Нервы ў парадку. Ну, давай знаёміцца. Мяне завуць Копач Станіслаў Пятровіч. Я намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларускай Савецкай

Сацыялістычнай Рэспублікі. Генерал-маёр, як ты ўжо чуў. А ты, Іван Іванавіч, хірург вышэйшай кваліфікацыі, аматар лазні і турыстычных падарожжаў. Так?

– Так, – пагадзіўся я, – але чаму шаноўны генерал-маёр мне тыкае: гусей мы разам не пасвілі, ды і кілішкі не кулялі? І што тут увогуле адбываецца?

Краем вока я ўбачыў, як у прысутных здзеравянелі твары. Затое генерал ажно заквітнеў добразычлівай усмешкай. Ён нават павярнуўся да сваіх падначаленых і ўзняў угору ўказальны палец:

– Во, глядзіце, нікому не дае спуску. Адразу бачна: наш чалавек!

І працягваў далей ужо спакойным, дзелавым тонам.

– Інфармацыя, якую вы, Іван Іванавіч, зараз пачуеце, выключна сакрэтная. Але спачатку падпішаце адпаведную паперу, і калі з вашага боку будзе нават ненаўмысны зліў пачутага, адказваць будзеце па артыкуле №66 «Разгалошванне дзяржаўных сакрэтаў», а гэта ўжо найвышэйшая мера пакарання.

– А калі я адмоўлюся слухаць вашу сакрэтную інфармацыю?

– А вы не адмовіцеся, шаноўны Іван Іванавіч, – засмяяўся генерал. – Я тут пагартаў вашу асабістую справу – рызыковы чалавек, аматар экстрыму, прыгод. Душа кампаніі. Вы ж сябе потым да інфаркту загрызяце, што адмовіліся ад дзяржаўнага сакрэту. Ці не так?

І тут улез у размову палкоўнік.

– Ды і за захаванне і прагляд парнаграфічных фільмаў таксама артыкул ніхто не адмяняў...

Генерал ажно скрывіўся.

– Фу, палкоўнік, ну што ў цябе за мянтоўскія манеры. Быццам ты не глядзеў гэтых фільмаў... Іван Іванавіч – чалавек азартны, але не палахлівы. Ну што, падпісваем паперу?

Я пакорліва схіліў галаву.

Праз некалькі хвілін мы ўжо сядзелі каля невялічкага экрана, на якім дэманстраваўся не вельмі якасны фільм, а генерал каментаваў яго.

– У час распрацоўкі гэтага кар'ера рабочыя выйшлі на добра ўмацаваны тунэль. Але праз метраў трыццаць сутыкнуліся з вадаспадам, прычым невядома, адкуль ідзе вада і куды сыходзіць. Проста як вадзяная фіранка вісіць на вакне. І яна досыць тоўстая, паколькі выцягнутая рука не выйшла з супрацьлеглага боку. Зразумела, далей ісці рабочыя пабаяліся, паведамілі кіраўніцтву, тое – вышэй, і так дайшлі да нас. На сценах тунэля ёсць запісы на нейкай старадаўняй мове, на падлозе – знакі. Усё, як у фантастычных аповесцях. І мы вырашылі стварыць экспедыцыйную групу, якая пойдзе на той бок вадаспада. У тунэлі ўжо працуюць гісторык з Акадэміі навук Карнееў Мікола Архіпавіч, геолаг Дымаў Пётр Ільіч і біёлаг Сазонава Ірына Вітальеўна. А днямі прыйшлі да думкі, што ў такой экспедыцыі абавязкова павінен быць і доктар. Прычым з навыкамі прафесійнага турыста, уменнем карыстацца зброяй і здольнасцямі павесці за сабой людзей. Вы ж служылі, Іван Іванавіч, у войску?

– Так, тры гады ў пагранічных войсках на фінскай мяжы.

– Вось, і парушальніка там схапілі, за што былі ўзнагароджаны камандаваннем ганаровай граматай і дзесяцідзённым адпачынкам. Такі чалавек нам і патрэбны, тым больш што, скажу прама, астатнія члены групы – тыповыя батанікі, неарганізаваная інтэлігенцыя.

Я павярнуўся да генерала.

– Станіслаў Пятровіч, а чаму б вам у такім выпадку не ўзяць за кіраўніка групы якога-небудзь спецназаўца? З ім бяспечней будзе.

– Магчыма, і бяспечней, – пагадзіўся Копач, – але трэба мець на ўвазе і псіхалагічны момант: нашы спецназаўцы прывыклі дзейнічаць або паасобку, або з калегамі. І да членаў групы абавязкова будуць прымяняць патрабаванні, як да спецназу. Вучоныя такога не вытрымаюць, а ў нас жа навуковая экспедыцыя. Па-другое, прысутнасць сілавіка таксама не спрыяе творчай атмасферы ў калектыве. Іншая справа доктар. Падсвядома кожны ставіцца да яго прыязна. І па-трэцяе, мы не думаем, што на тым баку вадаспада з кімсьці давядзецца ваяваць. Проста дадатковыя меры перасцярогі.

– Зразумела, – адказаў я. – Можа, тады наведаемся ў тунэль?

Тунэль нагадваў маскоўскі метрапалітэн: такія ж паўсферы, высокая столь, падлога з вялізных мармуровых пліт. Праўда, каля ўвахода стаяў не міліцыянер, а два вартаўнікі з аўтаматамі. Генерал паказаў ім пасведчанне, і мы пакрочылі наперад.

– Шырыня калідора – чатыры метры, вышыня – таксама чатыры, – праінфармаваў мяне Копач. – А вось і наш шаноўны гісторык!

Генерал паказаў на высокага хударлявага мужчыну, што стаяў на зялёных скрынях і нешта разглядаў на сцяне.

– Мікола Архіпавіч, спусціцеся, калі ласка, на грэшную зямлю і пазнаёмцеся з кіраўніком вашай групы.

Вучоны з хвіліну здзіўлена разглядаў мяне, як бы не разумеючы, навошта яму тут перашкаджаюць працаваць, але злез са скрыняў і працягнуў мне руку.

– Мікола Карнееў!

– Судзілоўскі Іван Іванавіч, – адрэкамендаваўся і я, тут жа дадаўшы: – Пра сваё кіраўніцтва групай даведаўся дзесяць хвілін назад.

Карнееў паціснуў плячыма і па-дзіцячы пальцам паказаў на сцяну, каля якой толькі што завіхаўся.

– Тут зроблены надпісы на мове, вельмі падобнай на санскрыт. Тоё-сёе ўдалося разабраць.

– І пра што паведамляюць нам старажытныя аўтары? – пацікавіўся я.

– Сэнс прыкладна такі: не прыспешвайце час, і пра ўсё даведаецеся ў сваю пару.

– Гэта значыць, нас папярэджваюць не лезці не ў сваю справу? – падвёў вынік я.

– Так, – коратка пацвердзіў Карнееў.

Тым часам генерал падвёў да мяне яшчэ дваіх навукоўцаў.

– Вось група і ў поўным зборы! – зазначыў Копач. – Знаёмцеся, і прашу ўсіх у штаб-кватэру для ўдакладнення дыспазіцыі.

Мы пакрочылі за генералам да палаткі, што высілася крокаў за трыццаць ад нас. У палатцы стаялі мяккія крэслы, прыемна гуў вентылятар, натужна падпяваў яму халадзільнік «Мінск-2». Мы селі, генерал выцягнуў з халадзільніка бутэльку «Хванчкары», талерку з бутэрбродамі (чорная ікра!), пару бутэлек «Баржомі». Усе не адводзілі вачэй ад такога багацця. Генерал абвёў прысутных вачамі, задаволена ўсміхнуўся.

– Як бачыце, гасцей мы ўмеем прымаць. І аддзячыць карысным для краіны людзям таксама зможам па-царску!

Ён разліў па фужэрах віно і аб'явіў тост:

– За знаёмства!

Калі ўсе выпілі і прыкусілі, генерал перайшоў да сутнасці справы.

– Яшчэ раз пазнаёмімся: кіраўнік групы Судзілоўскі Іван Іванавіч – выдатны доктар, надзейны чалавек і майстар выжывання ў экстрэмальных умовах. Дымаў Пётр Ільіч – найсвятлейшая галава ў геалогіі, чалавек, які адчувае прыроду і можа на яе станоўча ўплываць. Сазонава Ірына Вітальеўна – найбуйнейшы спецыяліст у галіне біялогіі ў Савецкім Саюзе, ведае больш за Вялікую энцыклапедыю. Карнееў Мікола Архіпавіч – гісторык ад бога, аўтар шматлікіх адкрыццяў у галіне археалогіі. Кожны з вас – выдатны вучоны, таленавіты даследчык і, даруйце за шчырасць, няўтульны чалавек. Вы жывяце сваёй справай і не ўмееце прыстасоўвацца да людзей і сітуацый. І таму вас не любяць калегі, не прымаюць у вучоным свеце, не даюць абараніць доктарскую дысертацыю. Тут я не маю на ўвазе шаноўнага Івана Іванавіча. І сёння ў вас з'явіўся рэдкі шанец даказаць усім нядобразычліўцам, што вы геніі, людзі, якія на практыцы дабіліся неверагоднага. Праўда, пакуль невядома чаго, але неверагоднага. Выкарыстайце гэтую магчымасць па поўнай – і вас запомняць на вякі.

Прысутныя слухалі генерала, апусціўшы галовы. І тут Сазонава падняла зусім па-школьнаму руку.

– Можна пытанне, Станіслаў Пятровіч?

– Так, Ірына Вітальеўна, слухаю вас.

– Ну, з намі, вучонымі, усё цяпер зразумела, – гэтая маладая і досыць прывабная жанчына раптам пачырванела, вочы заблішчалі. – А што, наш кіраўнік у адрозненне ад нас белы і пухнаты? Можа, і ў яго шафе засядзеўся які шкілет?

Генерал усміхнуўся і зноў наліў усім віна.

– І на кіраўніка ў нас ёсць справа, як, зрэшты, і на любога грамадзяніна нашай вялікай радзімы. Але кіраўнік, як сонца, павінен хоць бы вонкава быць без плямаў і бруду.

– А на сонцы ёсць плямы, – уторкнуўся ў размову Дымаў.

– Значыцца, наш кіраўнік чысцейшы за сонца, – адказаў генерал. – Затое ён умее рабіць аперацыі без наркозу, і ўжо выратаваў тым чалавека. Але да справы. Вашай групе трэба будзе прайсці на той бок вадаспада, агледзецца, узяць пробы грунту, вады, паветра, зрабіць замалёўкі ўсяго, што пабачыце. Як вы разумееце, мы нават прыблізна не ўяўляем, што там можа чакаць. Таму любыя рэчы, што трапяцца вам на шляху, нясіце сюды.

– Станіслаў Пятровіч, – ужо я падняў руку, – вы сказалі, зрабіць замалёўкі. А чаму не сфатаграфаваць?

Генерал нават уздыхнуў.

– Добрае пытанне, Іван Іванавіч. На працягу двух апошніх тыдняў мы правялі шэраг розных эксперыментаў. Спачатку адправілі на той бок ММ-2, механічную міну, з відэакамерай. Гэта такі невялічкі браніраваны танчык з дыстанцыйным кіраваннем, які выкарыстоўваецца для дастаўкі магнітных мін. На выпадак, калі раптам заглохне, прычапілі да танка трос, каб выцягнуць назад. Танк заехаў у вадаспад – і ўжо праз секунду знікла карцінка, а сам ён спыніўся. Уцягнулі назад. Замест машыны ўбачылі аплаўлены мячык, прычым вельмі халодны. А вось трос застаўся цэлым, паколькі быў з сінтэтычных матэрыялаў. Ну, мы і пачалі пхаць у вадаспад што толькі маглі. У выніку стала зразумела, што любыя сплавы

аплаўляюцца або знікаюць увогуле. Цэлымі засталіся толькі вырабы з жалеза, золата і срэбра. А таксама натуральныя і сінтэтычныя тканіны.

Сазонава ад хвалявання ажно ўскочыла з крэсла.

– Вы хочаце сказаць, таварыш генерал, што наша экспедыцыя зможа ўзяць з сабой толькі рэчы з названых вамі матэрыялаў?

– Так, Ірына Вітальеўна, толькі з іх, – пацвердзіў Копач.

– А як жа мікраскоп, кантэйнеры для ўзораў, палаткі?

– Штосьці мы паспелі падрыхтаваць з натуральных кампанентаў, астатняе будзеце шукаць на тым баку.

– Тады як са зброяй? – запытаўся я.

– Зброя будзе першабытная! – нечакана рассмяяўся Копач. – Дамо кожнаму па нажы з жалеза, сякеру, а для вас, Іван Іванавіч, нашы ўмельцы зрабілі сапраўдны арбалет. Потым патрэніруецеся страляць.

– Тады яшчэ пытанне, – працягваю я. – Ніхто не ведае, якой таўшчыні вадаспад. Як мы праз яго пройдзем, калі, скажам, дарога зойме 10 хвілін?

– Ну, па-першае, гэта малаверагодна. Думаю, вадаспад шырынёю пару метраў. Але для падстрахоўкі кожнага з вас апрануць у вадалазны касцюм з шоўкавай тканіны. На галаву – жалезны звон, на плечы – невялікі жалезны балон з паветрам. Шланг каўчукавы. Усё ўжо зроблена.

– Але ж гэта будзе цяжка на сабе несці, – запярэчыла Ірына.

– Нічога, – супакоіў генерал, – усяго ж пару метраў прайсці. Ну не з золата ж было іх рабіць.

– Я б не адмовіўся, – падаў нарэшце голас і Карнееў.

– Я б таксама, – пагадзіўся з ім генерал і гучна зарагатаў.

А далей пачалася падрыхтоўка да нашай экспедыцыі. Вучыліся хадзіць у вадалазных касцюмах, страляць з арбалета, арыентавацца на мясцовасці, здабываць агонь падручнымі сродкамі і гэтак далей. А па вечарах наладжвалі ўзаемаадносіны ў групе з дапамогай псіхолага: вялі няспешныя размовы пра жыццё, гулялі ў нейкія гульні, расказвалі розныя гісторыі. Калегі падабраліся вельмі розныя па характары. Карнееў – маўчун, сапраўдны флегматык па жыцці, станавіўся актыўным і няўрымслівым толькі пры словах гісторыя, археалогія. Сазонава, наадварот, здзіўляла і нават крыху раздражняла сваёю безапеляцыйнасцю разважанняў, выбухным характарам, поўнаю непрадказальнасцю паводзінаў. А вось Дымаў мне спадабаўся нейкай роднасцю душы. Аматар палаткі, гітары і добрай чаркі віна, ён паблажліва адносіўся да ўсяго свету, рэагуючы толькі на пазітыўныя моманты жыцця. Так прайшоў тыдзень. Увечары перад адпраўкай мяне выклікаў генерал Копач. На стале ўжо стаяла пляшка каньяку, талерка з бутэрбродамі, ляжаў пачак цыгарэт. Станіслаў Пятровіч напоўніў келіхі.

– Ну што, Ваня, сядай зручней, і давай за ўдачу!

Мы выпілі, з хвілінку памаўчалі, закусваючы каньяк. Генерал наліў па другой.

– Другая чарка, як кажуць дактары, за здароўе.

Мы зноў выпілі. Копач зацягнуўся цыгарэтай.

– Ну як, Іван, табе нашы навукоўцы?

Я пацiснуў плячыма.

– Людзі як людзі: не горшыя і не лепшыя за астатніх. Ну, а час пакажа, хто ёсць хто.

Генерал прайшоўся па пакоі і спыніўся каля акна.

– Д'ябал ведае, што там, за вадаспадам. А вельмі хочацца даведацца!

Ён павярнуўся да мяне тварам.

– Разумееш, Ваня, шмат пастаўлена на вашу экспедыцыю. Калі ўсё будзе добра – гонар, слава, узнагароды і да т.п. Усю інфармацыю адпраўім у Маскву і будзем героямі. А калі праз трое сутак ад вас не будзе ніякай інфармацыі, мы ўзарвём кар'ер, як бы нічога і не было. Бо інакш паляціць шмат галоў. Разумееш мяне?

– Вы хочаце сказаць, Станіслаў Пятровіч, што па нас ніхто не пойдзе?

– Так, Ваня, ніхто! Гэта не маё рашэнне, а зверху, і казаць пра гэта я табе не павінен быў, але і не сказаць не магу. Прафесура хліпкая, таму іх не варта палохаць, а ты ведаць павінен.

– Дзякуй за праўду, – як мага бадзёра адказаў я. – Значыць, у нас толькі трое сутак?

– Так, трое, – пацвердзіў Копач. – Але калі вы вернецеся з інфармацыяй нават праз гадзіну, будзеце сапраўднымі героямі. Нас цікавіць адно: што за той заслонай, хто яе паставіў і чаго адтуль чакаць?

– Зразумела.

– Ну тады давай па трэцяй, і спаць. Заўтра цяжкі дзень.

Мы яшчэ кульнулі па кілішку, я падняўся і моўчкі пайшоў да свайго будана. Падумаць было над чым.

Раніцай нас праводзілі генерал і два тэхнікі. Размаўляць не хацелася, ды, зрэшты, і не было пра што. Па тварах калег было бачна, што ўсе моцна хвалююцца. Перад вадаспадам мы спыніліся, надзелі шлемы, тэхнікі праверылі, як паступае кісларод, і я першым рушыў наперад. Хоць гэта і быў вадаспад, але не адчувалася ніякага ціску вады, ды і яе слядоў на касцюме не заставалася. Навокал стаяў нейкі малочны туман, настолькі шчыльны, што не было бачна нават выцягнутай рукі. Я зрабіў яшчэ некалькі крокаў наперад – і апынуўся ў нейкай пячоры, вельмі падобнай на тую, з якой толькі што выйшаў. Адзін за адным з вадаспада пачалі выходзіць і мае спадарожнікі. Крыху павагаўшыся, я прыпадняў шкло шлема і зрабіў маленечкі ўдых. Нармальнае паветра! Мы хуценька пазбавіліся ад цяжкіх і нязручных шлемаў, балонаў з кіслародам і ўселіся на каменную падлогу пячоры.

– Віншую, панове, з паспяховым завяршэннем першага этапу нашай экспедыцыі, – адкрыў я нашае пасяджэнне. – Мы невядома дзе, але жывыя, у розуме і можам свабодна дыхаць. Таму час рухацца далей. Дыспазіцыя будзе наступная: Пеця застаецца ў гэтай пячоры і ўважліва яе аглядае. Магчыма, знойдуцца нейкія схованкі, зноў жа, убачыш нейкія новыя мінералы. А галоўнае – калі мы не вернемся праз двое сутак, вяртаешся назад і расказваеш усё генералу.

– Дык я... – пачаў было гаварыць Дымаў, але я яго досыць груба перапыніў.

– Ніякіх дык! Дэмакратыя скончылася там, перад вадаспадам. І загадваю тут я. Так патрабуе справа. Астатнія ідуць за мной крок у крок. І ніякай самадзейнасці. Зразумела?

Я абвёў усіх цяжкім позіркам. Каманда моўчкі хітнула галовамі ў знак згоды.

– Тады пайшлі.

Мы пакінулі пячору і апынуліся на схіле вялікага ўзгорка сярод густых хмызнякоў. Стаяла глыбокая ноч, але яркае святло поўні добра асвятляла мясцовасць. Наперадзе ўзвышаўся амаль такі ж самы ўзгорак, аперазаны

невялічкай рачулкай і рукатворным ровам. Правей несла свае воды шырокая імклівая рака. Такім чынам гэты ўзгорак уяўляў з сябе добра збудаваную крэпасць з насыпным валам і моцным частаколам па ўсім перыметры. Штосьці да болю знаёмае бачылася ў гэтым краявідзе. Раптам Ірына тузанула мяне за рукаў і паказала рукою за спіну. Я павярнуўся і ледзь не самлеў. Над намі на вяршыні ўзгорка ўзвышалася Каложская царква.

– Мы што, у Гродне? – разгублена прамармытаў я.

– Падобна што так, – пацвердзіў Карнееў. – Толькі царква поўнасцю каменная і зусім навюткая.

– А на тым пагорку, выходзіць, гарадзенскі дзядзінец дванаццатага стагоддзя месціцца, – канстатаваў Мікола.

– А чаму на трэцім узгорку няма Новага замка? – крыху разгублена запытаў я.

– Таму, – церпліва, як дзіцяці, працягваў тлумачыць наш гісторык, – што гэта дванаццатае стагоддзе, а Новы замак пабудаваны ў васямнаццатым.

– Ашалець, – я нават прысеў на кукішкі. – Мы ў дванаццатым стагоддзі. Герберт Уэлс нервова курыць...

На ўсведамленне таго, што перанесліся амаль на дзесяць стагоддзяў назад, нам спатрэбілася хвілін дваццаць. А затым мы рушылі на верх гары да Каложскай (Барыса-Глебскай) царквы. Царква была зачынена, але наперадзе праз гушчыню дрэў пабліскваў невялічкі агеньчык.

– Сядзіце тут! – загадаў я спадарожнікам, а сам, узяўшы арбалет напагатоўку, накіраваўся на агонь. Крокаў праз сто я выйшаў на круглую пляцоўку, па краі абазначаную камянямі. У цэнтры пляцоўкі стаў драўляны ідал, ля ног якога паліў вогнішча сівы стары.

– Сапраўднае капішча! – пачуў я за спінай усхваляваны голас і азірнуўся. За мной стаялі Карнееў і Сазонава.

– Вы што тут робіце? – узлавана запытаўся я.

– Не кідаць жа аднаго начальніка ў небяспечным лесе, – спакойна адказала Сазонава. – А тут такое...

Спрачацца не было ніякага сэнсу. Прынамсі зараз. Я зноў павярнуўся да вайдзілы, які сядзеў па-ранейшаму каля вогнішча, падкідваў туды нейкія зёлкі і глядзеў на нас. Я паволі наблізіўся да яго і сеў з другога боку вогнішча.

– Багі папярэдзілі, што да нас прыйдуць незнаёмцы з іншага свету, – глуха прамовіў стары. – Мой бацька чакаў вас кожную поўню, і я чакаў. І нарэшце дачакаўся. Вы выйшлі з чорнай гары? – ён матануў галавою ў бок Каложы.

– Так, – пацвердзіў я.

– Тады пайшлі, – вайдзіла падняўся і пакрочыў углыб лесу. Мы рушылі следам. Хвілін праз дваццаць мы выйшлі з гушчару на бераг ракі і спыніліся перад высокай пакручастай гарой.

– Бачыце зялёны камень? – стары паказаў пальцам кудысьці ў сярэдзіну гары. Я прыгледзеўся. Сапраўды, нават пры святле месяца была бачна вялікая цёмная пляма на вышыні метраў дваццаці.

– Адкаціце яго ўбок і заходзьце.

– А ты? – запытаў я ў дзеда.

– Мне туды нельга. Я вяртаюся на капішча.

Мы пачалі караскацца наверх. Камень на самой справе быў зялёны ад моху і памерам з чалавека. Я націснуў збоку плячом, і ён надзіва лёгка

адкаціўся, адкрыўшы нам невялічкі праход. Мы ўвайшлі, і тут жа камень стаў на сваё ранейшае месца. Перад намі быў дакладна такі ж тунэль, як і папярэдні. Толькі пасярэдзіне яго стаяла нейкая кабінка, з якой тырчэла нечая кудлатая макаўка і чулася незадаволенае буркаценне. Раптам паказалася ўся галава, і незнаёмы мужчына, убачыўшы нас, нешта запытаў.

– Яшчэ раз паўтарыце, калі ласка, – папрасіў я

– Вы з якога нумара? – ужо выразна пачулі мы.

Я разгублена павярнуўся да калег.

– З чацвёртага, – нечакана вымавіў Карнееў.

– Ага, – нарэшце ўсміхнуўся незнаёмец, – з чацвёртага. Гэта добра...

І зноў нырнуў у кабінку.

– Чаму з чацвёртага? – ледзь чутна запытаў я Міколу.

– Там каля ўвахода была вялізная рымская чацвёрка на падлозе. Вось я і падумаў...

Мужчына тым часам выбраўся з кабінкі і падышоў да нас.

– Айк! – назваўся ён і працягнуў кожнаму руку. Мы акуратна яе паціснулі, назваўшы сябе.

– Давайце прысядзем, – прапанаваў Айк і паказаў рукою ўглыб тунэля, дзе стаялі стол і крэслы. Мы пакорліва пайшлі за гаспадаром. Калі кожны заняў прапанаванае месца, Айк дастаў з тумбы бутэльку з нейкай ружовай вадкасцю і чатыры шклянкі. Наліў кожнаму прыкладна па палове, моўчкі кульнуў сваю і здзіўлена паглядзеў на нас.

– Штосьці не так? – запытаў пасля хвіліннай паўзы.

– Дык усё не так! – не вытрымаўшы, узарвалася Сазонава. – Хто вы такі? Дзе мы знаходзімся? Што гэта ўсё значыць? Вы можаце патлумачыць даходліва і разумна?

Айк з цікавасцю паглядзеў на Ірыну, потым перавёў позірк на гадзіннік, што вісеў на яго руцэ.

– Які ў вас моцны эмацыянальны фон, – з павагай вымавіў гаспадар тунэля.

– Глядзіце, ён яшчэ і здзекуецца, – зноў завялася Ірына.

– Што вы, – спалохана запярэчыў Айк, – я і ў думках не меў нічога такога. Проста вы не выпілі мірскую чарку, і я не ўпэўнены, ці вы прыйшлі з мірам сюды.

Не згаворваючыся, мы ўсе адначасова выпілі падазронага колеру вадкасць, якая на смак нагадвала лімонны лікёр. Айк з палёгкай уздыхнуў.

– Вы з чацвёртага партала. Значыць, дваццатае стагоддзе. Ці не падкажаце, які год?

– 1981, – праінфармаваў я.

– Ага, – задаволена пацёр рукі Айк. – туды мы яшчэ не заходзілі. Цікава.

Мне гэтая гульня пачала надакучваць.

– Паслухайце, паважаны Айк! Днямі мы знайшлі ў кар’еры каля Гродна тунэль, падобны на ваш. Зладзілі экспедыцыю праверыць, што знаходзіцца за вадаспадам. І трапілі зноў у свой горад, але, падобна, гадоў на васемсот назад. А зараз нам вельмі хацелася б атрымаць інфармацыю ад вас, як гэта сталася і што гэта ўсё значыць?

– Што ўсё гэта значыць? – перапытаў Айк і пачухаў свой немаленькі нос. – Канцэрн «Таск» дзесяць гадоў назад знайшоў магчымасць ажыццяўляць падарожжы ў часе. Спачатку быў створаны толькі адзін партал, і жадаючыя маглі трапіць праз яго ў XIX стагоддзе.

– Даруйце, а чаму менавіта ў XIX? – перапыніла яго Ірына.

– Чамусьці ў выніку апытання большасць грамадзян выбрала гэты перыяд, – пацiснуў плячыма Айк. – Дык вось, папулярнасць такіх падарожжаў стала неверагоднай, і канцэрн пачаў адчыняць новыя парталы: XII стагоддзе, XVI, XVIII, а апошні партал размясцілі ў XX. Праўда, паслаць туды нікога не паспелі, паколькі нешта ў сістэме дало збой і парталы зачыніліся.

– А падарожнікі? – пацікавіўся Карнееў.

– Засталіся часова ў адпаведных стагоддзях.

– І як даўно адбыўся гэты збой? – запытаўся я.

– Чатыры гады назад, – адказаў Айк.

Мы толькі пераглянуліся.

– Атрымліваецца, – зноў запытаўся я, – што вы таксама турыст, які захрас у часе?

– Не, – усміхнуўся мужчына, – я не турыст. Я супрацоўнік канцэрна і суправаджаў групу ў XII стагоддзе, паколькі трэба было правесці тут пэўныя прафілактычныя работы ў так званым тунэлі. Але якраз па нашым прыбыцці прыйшла інфармацыя, што зачыняюцца ўсе парталы, а нам трэба набрацца цярпення і чакаць, пакуль яны адновяць функцыянаванне.

– І наколькі вялікая ваша група? І, дарэчы, дзе яна? – зноў падала голас Сазонава.

– Згодна інструкцыі, у групе павінна быць не больш за чатыры чалавекі, каб залішне не прыцягваць увагу тубыльцаў. Плюс інструктар. Адпаведна, наша група, апроч мяне і інструктара, складалася з трох чалавек: дзве жанчыны і адзін мужчына. Пункт дванаццаты інструкцыі аб перамяшчэннях у часе кажа, што ў выпадку адключэння партала група павінна пачаць укараняцца ў структуру грамадства, якое існуе ў дадзеным перыядзе. Мы трапілі ў перыяд станаўлення ўдзельных княстваў і барацьбы з паганствам. Гарадзенскі князь Глеб Усеваладавіч аказаўся дрэнным палітыкам, воінам і гаспадаром. Цэлымі днямі бесперастанку піў віно і забаўляўся з вылягжанкамі. А княства рабавалі ўсе, каму не лянота. Яшчэ б год-два – і горад быў бы канчаткова зруйнаваны, а народ разбегся б у розныя бакі. І тады, у адпаведнасці з пунктам трыццаць шостым інструкцыі аб перамяшчэннях, мы ўзялі справу ў свае рукі.

– А хіба падарожнікам па часе не забаронена ўмешвацца ў гістарычны ход падзей? – запытаўся я.

Айк нават не здзівіўся майму пытанню.

– Вы маеце на ўвазе пункт трыццаць другі інструкцыі аб перамяшчэннях? – у сваю чаргу спытаў ён.

– Так, – упэўнена хітнуў я галавой.

– Дарагі мой, дык яго ўжо шэсць гадоў як замянілі на пункт дванаццаты. Вы, пэўна, даўно не праглядалі інструкцыю па перамяшчэнні?

– Ды неяк не было часу, – сціпла адказаў я.

– Ну вось, – задаволена працягваў гаспадар, – а пункт дванаццаты дае права падарожнікам пад кіраўніцтвам падрыхтаваных інструктараў і супрацоўнікаў фірмы ў экстраных выпадках плаўна ўваходзіць у гістарычны ход падзей, прыстасаваўшыся да ўмоў гістарычнага часу.

– Гэта значыць, – загаварыў нарэшце Карнееў, – вы, не выкарыстоўваючы сучасных дасягненняў навукі і тэхнікі, можаце на свой густ карэкціраваць гістарычны працэс?

– Так, – пацвердзіў Айк, – можам. Тым больш, калі гэта ідзе на карысць грамадству. Неўзабаве п’яны Глеб Усеваладавіч тоне ў рацэ, і месца князя становіцца вольным. І тут у Гародні з’яўляецца яго брат Мсціслаў Усеваладавіч, пра якога да гэтага часу ніхто не чуў. У малодшага сына князя Усеваладкі пры сабе грамата, якая пацвярджае яго княжацкі род і абгрунтаванасць прэтэнзій на княскае крэсла. Дружына прысягае новаму гарадзенскаму князю.

– І, канечне, гэта вы прыклалі руку да з’яўлення граматы? – з’едліва запытала Іра Сазонава. – А князь Мсціслаў – ваш інструктар?

– Вы ўсё правільна зразумелі, – пагадзіўся Айк. – Грамату падрабіць з нашымі тэхналогіямі не ўяўляе вялікай праблемы, а наш інструктар Карх – і сапраўды добра падрыхтаваны спецыяліст. Да таго, уся група да гэтага амаль год праслужыла пры двары князя Глеба і добра вывучыла іх звычкі і правілы.

– Як гэта? – не зразумеў я.

– Мы дапускалі адразу ж па адключэнні парталаў, што працэс запуску можа зацягнуцца. Таму і распрацавалі план. Загрыміраваўшы ўсіх членаў групы пад мясцовае насельніцтва, размеркавалі ролі: паколькі жанчыны ў гэтым грамадстве стаяць на найніжэйшым сацыяльным узроўні, вырашылі іх прыкрыць. Адну з іх, Бэт, знешне невысокую і хударлявую, выдалі за падлетка і прыстроілі да мясцовага вайдзілы, каб нам атрымліваць больш інфармацыі ад мясцовых сялян. Амаль усе яны паганцы. Карх выдатна валодае халоднай зброяй, і таму адразу ж быў прыняты ў дружыну, а нашу прыгажуню Зелу, каб ніхто не скраў і не выкарыстаў, абвясцілі жонкай Карха. Мужчыну па імені Торг апранулі манахам і ўладкавалі да князя пісарам. Адукаваных людзей на княскім падвор’і амаль няма. Ну, а я застаўся тут, у тунэлі, паколькі трэба кантраляваць прыборы і назіраць за парталам. Паралельна наладзіў сувязі з мясцовым вайдзілам, паказаўшы яму пару фокусаў і назваўшы сябе магутным чарадзеем. У што ён хутка і ахвотна паверыў. А затым прадставіўся святару Барыса-Глебскай царквы святым пустэльнікам і сатварыў нават німб на галавой (прыйшлося падключыць галаграму). І той таксама паверыў. Таму я двойчы святы, мяне паважаюць, баяцца і не турбуюць.

– Ну, а як княскі ваяр Карх ператварыўся ў князя Мсціслава? – пацікавілася Ірына.

– Разам з Глебам патануў у рацэ і ваяр Карх.

Мы з Ірынай пераглянуліся.

– Дык, можа, гэта Карх і паспрыяў смерці Глеба? – з абурэннем запытала Сазонава.

Айк глянуў на яе як на малое неразумнае дзіця і ўздыхнуў:

– Я ж казаў, што Глеб моцна піў, і Карх дыягнаставаў у яго цыроз печані. Жыць заставалася князю ад сілы месяц-два. Моцныя болі амаль не пакідалі яго. Але калі б князь проста памёр у ложку, пачаліся б размовы, што нехта атруціў Глеба. А па звестках і Бэты, і Торга, і самога Карха ваявода Барыс падбухторваў некаторых ваяроў абраць яго новым князем. Магла пачацца міжусобная вайна. А так Глеб патануў, з кім не бывае, пакуль аплаквалі і Барыс спакойна чухаўся, піруючы з хаўруснікамі, з’явіўся Мсціслаў, памяняў ваяводу, адарыў грашыма дружыну, і ўсе засталіся задаволенымі. Ну, апроч Барыса, зразумела. Яго пасадзілі спачатку ў яму, а потым далі магчымасць патаемна збегчы да балтаў.

– Слухайце, – вымавіў я, – у мяне галава кругам ад усёй гэтай інфармацыі. Як быццам байка якая. Айк, нам жа трэба вяртацца, бо праз тры дні кар'ер узарвуць разам з парталам, і нам ужо ніколі не вярнуцца дамоў.

– Даруй, Іван, але я не разумею, як можна ўзарваць нешта нематэрыяльнае? Партал – гэта тунэль у часе і прасторы, – сказаў Айк.

– Час і прастору ўзарваць нельга, – пагадзіўся я. – Але можна ўзарваць кар'ер, які засыпле ваш партал, і як мы адтуль выйдзем?

Айк моўчкі ўзяў жменьку пяску з падлогі, роўненька рассыпаў на стальніцы, падняў нейкую палачку і пачаў маляваць, расказваючы:

– Вось так выглядаў ваш партал. Тунэль – гэта галаграфічны праход, зроблены шляхам сціскання элементаў прасторы. Для прыгажосці мы нанеслі малюнкі пліт, роспісу, знакаў, але гэта ўсё можна змяніць на любую форму і змест. Дапусцім, вашы знаёмыя ўзрываюць кар'ер. Партал запраграмаваны такім чынам, што пры выбухах, землятрусах і іншых здарэннях ціск так званага тунэля кампенсуе знешні ціск матэрыялаў. Пясок асыплецца, і складзецца ўражанне, што партала няма. Але як толькі ўсё супакоіцца, уваход у партал будзе закрыты тонкай сценкай спрасаванага пяску, як, зрэшты, было і тым разам, калі вы знайшлі ўваход. Таму парталу нішто не пагражае. Іншая справа, ці прапусціць ён вас. Мне таксама цікава на гэта паглядзець, бо зараз ён анамальна спрацаваў, прапусціўшы вас сюды. Дык можа, паступова пачынаюць уключацца і астатнія парталы? Раніцай сходзім на чацвёрты паглядзець. А там будзем бачыць.

У гэты момант пачуўся скрыгат, і ў тунэль увайшоў высокага росту ваяр вельмі align грознага выгляду. Ён кінуў каля ўвахода шлем і шчыт, але меч пагрозліва сціскаў у руцэ.

– А вось і наш князь Мсціслаў Усеваладавіч – прадставіў незнаёмца Айк.

– Хто гэта? – насцярожана запытаў князь.

– Людзі з 20-га стагоддзя, – адрэкамендаваў Айк.

І ў той жа момант твар Мсціслава расплыўся ад шчасця. Ён кінуў меч, падбег да нас і пачаў кожнага абдымаць, прыгаворваючы:

– Ну нарэшце! Партал запрацаваў!

– Супакойся, – перапыніў яго Айк. – Яшчэ нічога невядома. Магчыма, толькі адзін з іх, самы новы і дасканалы, працуе. Зноў жа, не ведаем, ці задзейнічаны абодва бакі. Усё трэба даследаваць. Дарэчы, а ты што тут робіш?

Мсціслаў, ужо крыху супакоіўшыся, прысеў у вольнае крэсла, наліў сабе шклянку міры і залпам кульнуў.

– Прыйшлі разведчыкі. На нас ідзе войска князя Рурыка Расціслававіча. І немалое, заўважу вам. Аб'явіў па горадзе трывогу. Умацоўваем сцены, варым смалу, рыхтуем катапульты. Але, баюся, сілаў супрацьстаяць не хопіць. Што будзем рабіць, Айк?

Айк на хвіліну задумаўся. Потым падняўся і пакрочыў да вялізнай шафы, што стаяла каля сцяны. Крыху пакорпаўся і выцягнуў аб'ёмістую скрыню.

– Што гэта? – пацікавіўся князь.

– Калі першы раз сюды ішлі, дык не ведалі, каго сустрэнем. А раптам тут шмат драпежных звяроў? Таму і ўзялі петарды. Забіць – нікога не заб'юць, але напалохаць могуць. Вось іх мы і размесцім па схіле. А вось гэта я прыхапіў па ўласнай ініцыятыве.

І ён дастаў невялічкую бліскучую скрыначку.

– Плактыд! – гучна абвясціў.

– Плактыд? – здзіўлена перапытаў Мсціслаў. – Яго ж забаронена ўжываць?

– А што такое плактыд? – сціпла пацікавіўся я.

– Гэта жэлепадобнае рэчыва, якое пры невялікім удары ўзрываецца.

– Ага, як пластыд! – здагадаўся я. – І што будзем з ім рабіць?

– Трэба намазаць стрэлы – і эфект пераўзыдзе ўсе чаканні! – запэўніў Айк.

Мсціслаў задаволена хмыкнуў.

– Вынесі мне на вуліцу, я каго прышлю па гэта багацце.

– Не, – запярэчыў Айк, – без мяне вы не справіцеся. Па-першае, твае варвары ўзарвуць сябе і прыпасы яшчэ па дарозе ў замак. Па-другое, я лепш за ўсіх умею гэтым карыстацца. Ды і адных вас як кінеш? Яшчэ парэжаце адзін аднаго. А так буду за вамі прыглядаць.

– І мяне з самой прыхапіце, – папрасіў я.

– Не, – сказаў Мсціслаў. – Вы пачакаеце тут, у тунэлі. Там і забіць могуць.

– І параніць, – дадаў я.

– І параніць, – пагадзіўся князь.

– Вось, а я добры ўрач, маю пры сабе аптэчку і таму абавязкова спатрэблюся.

Мсціслаў і Айк пераззірнуліся. Князь пацінуў плячыма:

– Ну добра тады, ідзі.

– А я аднаго камандзіра не кіну, – раптам заявіў Карнееў. – Іду з вамі.

– А я, – пачала было гаварыць Сазонава, але Мсціслаў рухам рукі спыніў яе.

– А ты будзеш назіраць за парталам. Раптам з'явіцца інфармацыя, а нас нікога няма. Што, яшчэ чатыры гады чакаць? Таму сядзі тут, і калі хтосьці з'явіцца, усё яму і раскажаш.

Іра разгублена паглядзела на мяне.

– Так, Іра, – пацвердзіў я, – гэта разумна. Заставайся.

Айк даў нам з Карнеевым нейкія лахманы, пераапрануўся сам, і мы рушылі за князем. Па вузкай сцяжынцы ўзняліся на самы верх да крапасных сцен.

– Хто ідзе? – аклікнуў вартавы.

– Князь Мсціслаў! – адказаў Карх.

Са сцяны выпаўзла доўгая драбіна, па якой неўзабаве мы пачалі караскацца наверх.

– Гэта хто, княжа? – запытаўся барадаты ваяр у багатых строях, калі мы апынуліся на двары замка.

– Што, не пазнаеш, Святагор? Гэта магутны Айк, волхв і чараўнік. Ён нам сёння дапаможа. А гэта яго памагатыя Кій і Ізяслаў. Ну як, ваявода, дружына гатова да сечы?

– Так, княжа, – пацвердзіў барадач. – Ніхто жывата свайго не пашкадуе!

Мы прайшлі праз двор у невялікую драўляную пабудову, якая аддалена нагадвала царкву. Унутры віселі абразы, гарэлі свечкі. Князь першым сеў на лаву і паказаў рукою астатнім, каб сядалі і яны.

– Што ж, сябры мае, – загаварыў Мсціслаў, – давайце думу думаць, як сустрэнем ворага. І няхай Бог дасць нам розуму ў нашым доме.

– Дазволь, княжа, слова сказаць? – Святагор падняўся з лавы і пільна ўсіх агледзеў. – Я так мяркую, што нам трэба вывесці на сцены ўсіх мужыкоў, якіх толькі знойдзем, і няхай яны кідаюць у ворага камяні, льюць смалу

і кіпень, пакуль тыя будуць лезці па схіле. А дружына да пары схаваецца за мурамі. І толькі ў апошні момант з'явіцца на сценах, пачаўшы сечу. Гэта дазволіць нанесці страты ворагу і захаваць некранутымі сваіх ваяроў.

– Але ж мужыкі без кальчуг, лат, іх умомант паб'юць стрэламі, дзідамі, снарадамі з катапультаў, – запярэчыў Мсціслаў.

– Мужыкоў мы знойдзем новых, прыгонім з іншых месцаў, – усміхнуўся ваявода. – А вось дружыну набраць справа куды больш складаная. Таму трэба выбіраць, княжа: ці мужыкі, ці ваяры.

– А можна мне? – я падняў руку ўгару.

– Кажы, чалавеча, – дазволіў князь.

– Я так разумею, што войска Рурыка значна большае за наша? – і зірнуў на ваяводу. Той, усеўшыся на лаву, няспешна кіўнуў галавою.

– Значыць, – працягваў я, – патрэбна вайсковая хітрасць. Мы дзелім дружыну на тры часткі. Першая разам з мужыкамі адбівае наступ ворагаў на крапасных сценах. Другую мы хаваем у лесе за Барыса-Глебскай царквой, а трэцюю – з супрацьлеглага ад дзядзінца месца, у ляску на горцы. І як толькі ворагі захраснуць на штурме, наша дружына справа і злева разам па камандзе ўдараць у тыл ворагу. Ну як?

Ваявода, абураны да чырвані на твары, ускочыў з лавы.

– Ты што, волхв, звар'яцеў? З адной і так невялікай дружыны зрабіць тры карузлікавыя горбачкі? Ды нас пераб'юць умомант. Скажы, княжа!

Князь у задуменнасці прайшоўся туды-сюды па царкве, паглядзеў на ваяводу, перавёў позірк на мяне.

– А што, – яго твар нават прасвятлеў, – у гэтым нешта ёсць. Саступаем у колькасці, дык возьмем хітрасцю. Я згодны з Кіем. Як сцямнее, збірай, Святагор, дружыну на плошчы, ды паклапаціся, каб нікога чужога не было: будзем дзяліць войска. На сценах застануся я сам, правае крыло павядзе ваявода, а левае я даручаю табе, Кій. Управішся?

– Так! – упэўнена адказаў я, тут жа адчуўшы, як халодныя струменьчыкі поту пабеглі па спіне. – А які сігнал дасі, княжа, да атакі?

Тут ужо выступіў Айк:

– Як убачыце ў небе рознакаляровы хвост фенікса, ведайце, што трэба выступаць.

Усе ўпэрыліся вачамі ў Айка.

– Я наваражу вам фенікса, – супакоіў ён прысутных

Неўзабаве звечарэла. Разведчыкі данеслі, што Рурык разбіў лагер недалёка ад горада, воіны робяць лесвіцы, чапляюць крукі на вяроўкі, плятуць ахоўныя шчыты з лазы. Раніцай абвешчаны штурм Гародні.

З усімі перасцярогамі мы падзялілі ваяроў на тры невялікія атрады, пажадалі адзін аднаму поспехаў, і я павёў сваю дружыну пад сцены Барыса-Глебскай царквы. Маё войска з цікавасцю пазірала на новага камандзіра, якога князь шчодра надзяліў кальчугай, шаломам, мячом ды шчытом. З непрывычкі я ледзьве цягнуў ногі пад такім цяжарам. Падняўшыся на гару, я зразумеў, што ў такой амуніцыі больш не зраблю і кроку. Таму без шкадавання скінуў усё гэтае жалеза, пакінуўшы на сабе кальчужку, шлем ды кароткі меч з дзідай. Вядома, цяпер мяне лягчэй дастаць і стралой, і прашчай, але я, прынамсі, атрымаў свабоду ў рухах.

Я рассадзіў войска на невялічкай палянцы, выставіўшы дазоры, і строга ўсім забараніў распальваць агонь. І тут жа пачаў распавядаць пра нашу тактыку бою, успомніўшы кніжкі па гісторыі Старажытнага Рыма.

– Па сігнале спускаемся двума ланцужкамі з гары і строімся квадратам па 10 чалавек у кожным радзе. Прыкрываемся шчытамі. А ў сярэдзіне паставім лучнікаў. І такім шчыльным квадратам крочым на ворага. Па маёй камандзе: «Селі!» – усе прысядаюць, а лучнікі страляюць у ворага. Камандую: «Падняцца!» – і зноў сталі шчыльным квадратам. Крайнія прыкрываюць шчытамі бакі, сярэднія прыкрываюць верх. Так нас не кране ні адна страла. А калі каго дастане – не звяртаць увагі, самкнуцца і крочыць далей.

– А як мы квадратам падымемся на крапасны вал? – запытаўся адзін з вояроў, і ўсе згодна загулі.

– А мы і падымацца не будзем. Ворагі, убачыўшы нас і адчуўшы стрэлы лучнікаў, самі спусцяцца ўніз.

– А калі не спусцяцца? – не заспакойваўся ўсё той жа вояр.

– Яшчэ лепей, – усміхнуўся я. – Нашы лучнікі спакойна іх усіх перастраляюць. Але я ўпэўнены, што спусцяцца. А зараз мы павінны патрэніравацца станавіцца квадратам, каб кожны ведаў свае месца.

Палову ночы я патраціў, пакуль больш-менш навучыў іх трымацца строю. І толькі тады дазволіў пару гадзін паспаць. Ну, а мне не спалася. Усё навокал здавалася нейкім нерэальным, казачна-выдуманым. Але, магчыма, і з гэтае прычыны я не адчуваў ніякага страху, быццам бы ўсё адбывалася не са мной ці ў нейкім сне. І толькі калі засвяцілі першыя промні сонца, нешта незразумелае пачало сціскаць сэрца. Я пайшоў падымаць сваю армію.

Гадзіны праз тры напружанага чакання мы пачулі з боку горада крыкі, бразгаценне металу, а затым рэзкія выбухі. «Айк заняўся петардамі!» – падумалася мне, і тут над галавой пачуўся аглушальны трэск. Некаторыя з маіх байцоў ажно прыселі ад нечаканасці. Усе задралі галовы ў неба. І праз хвіліну яно загарэлася прыгожымі рознакаляровымі палосамі.

– Фенікс! – усхвалявана крыкнуў я. – Усе за мной!

І мы, як я і вучыў, двума струменьчыкамі пацяклі ўніз па гары. Уперадзе поўным ходам ішоў бой. Ворагі дапаўзалі да самых крапасных сцен, тут і там закідваючы на яе крукі з прывязанымі вяровачнымі лесвіцамі.

– Квадрат! – скамандаваў я і з прыемным здзіўленнем убачыў, што ён атрымаўся амаль бездакорным. – Нага ад шчыта! Пайшлі! Крок, крок, крок!

Пад мой імправізаваны рытм дружына рушыла да месца бою. Наблізіўшыся метраў за семдзесят да ворага, я скамандаваў:

– Селі!

Лучнікі досыць трапна стрэлілі, і добры дзясятак захопнікаў пакаціўся з гары.

– Падняцца!

Толькі тут нас і заўважылі. Нехта ў чырвоным плашчы гучна крыкнуў, і частка варожых вояроў кінулася з гары на нас.

– Селі!

І зноў паляцелі смяротныя стрэлы ў непрыяцеля.

Тыя, што не пацярпелі ад стрэл, ужо амаль ушчыльную дабеглі да нас.

– Дзіды! – скамандаваў я. Лучнікі, якія ўжо замянілі лукі на новую зброю, рэзка выставілі між шчытоў дзіды. І зноў пачуліся смяротныя крыкі.

– Атака! – аддаў я апошнюю каманду, і тут пачалася сапраўдная сеча на мячах. Паколькі перада мной утварылася сцяна з вояроў, мне досыць складана было дацягнуцца да ворагаў. Але раптам наперадзе ўпаў адзін з байцоў, і прама на мяне з перакошаным ад злосці тварам кінуўся нейкі мацак. Я чыста інстынктыўна тыкнуў яго дзідай у ступню. Ён аж узвыў ад

болю. Я выхапіў з ножнаў меч і сакануў яго па твары. Мацак абмяк і рухнуў на зямлю. У гэты самы момант я адчуў, як мая галава сплюшчылася ад удару, святло ў вачах патухла, і я праваліўся ў выратавальнае бяспамяцтва.

Страшэнна балела галава. Неверагодным намаганнем сілаў я расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ляжу на шырокім ложку, а нада мной зіхаціць прыгожа распісаная святымі лікамі столь. Я здолеў крыху павярнуць галаву ўправа, і мой позірк сутыкнуўся з позіркам дзяўчыны неверагоднай прыгажосці, якая з ласкавай усмешкай глядзела на мяне.

– Апрытомнеў? – пяшчотным голасам запытала дзяўчына.

– Здаецца, так, – паспрабаваў я ўсміхнуцца ў адказ, але гэта не вельмі ўдала атрымалася.

– Вось і добра. А мы так баяліся за цябе. Такі быў моцны ўдар, што шлем на тваёй галаве раскалоўся.

Я крышачку прыўзняўся на ложку і нецярпліва запытаў:

– Дык мы перамаглі Рурыка?

– Так, – пацвердзіла дзяўчына, – разбілі ўшчэнт. Твой план спрацаваў на выдатна.

– А адкуль ты ведаеш пра мой план? – шчыра здзівіўся я. – І ўвогуле, хто ты?

– Я Ізяслава, дачка ваяводы. Ён мне ўсё і расказаў: і як твой план яго спачатку абурыў, і як мужна ты змагаўся. А калі цябе паранілі, княжа загадаў прынесці цябе ў яго церам ды прыставіў мяне лячыць.

– А ты знахарка?

– Так, – сціпла апусціла вочы Ізяслава. – Яшчэ маленькай мяне розным травам, замовам навучыла мая бабуля. Вось і дапамагаю людзям.

Тут зарыпелі дзверы, і ў палаты ўвайшлі Мсціслаў, Святагор і Карнееў.

– Ну, як наш ваяр? – гучна запытаў князь.

Ізяслава паднялася і няспешна пакланілася Мсціславу:

– Апрытомнеў, княжа. Дапамаглі мае зёлкі. Будзе жыць.

– Вось і малайчына, дзеўка, – узрадаваўся князь і падышоў да ложка. Ваявода тут жа падсунуў яму крэсла. Князь сеў, паглядзеў на мяне і нечакана зарагатаў:

– А я думаў, што ў плечы ўвагналі тваю разумную галаву. Гэткі ўдар вытрымаў! Малайца!

Я пачакаў, пакуль ён, а за ім і ўсе прысутныя адсмяюцца, і запытаў:

– Як бітва скончылася, княжа?

Мсціслаў адразу ж пасур'ёзнеў.

– Шмат людзей паклалі, Кій. Але каб не твой разумны план, усе б засталіся на полі. Калі на твой атрад кінулася палова войска Рурыка, нам на сценах адразу ж лягчэй уздыхнулася. Падцягнулі яшчэ камянёў, кіпеню і ўзмацнілі агонь. А тут у спіны ўдарыў ворагам ваявода. Рурыкавічы ледзьве не звар'яцелі, калі ўбачылі, што б'юць з трох бакоў. Частка кінулася наўцёкі, але асабістая ахова Рурыка змагалася да апошняга, пакуль уся не палегла на полі. Багата і нашых пабілі, але горад мы адстаялі. Цяпер надоўга будуць памятаць гарадзенскіх ваяроў.

Мсцілаў падняўся.

– Дзякуй табе, Кій, за дапамогу!

З нагоды перамогі над войскам Рурыка князь зладзіў увечары вялікі пір. Дружына, Айк, мы з Карнеевым, ну і, зразумела, сам князь размясціліся за сталом у княскім палацы. Простаму люду выкацілі на двор бочкі

з медавухай, засмажылі быка, паклікалі скамарохаў. І пачалося вяселле. Жанчыны пасядзелі за сталом з гадзіну, а калі госці ўжо добра падпілі, ціхенька пакінулі палаты. І тут жа непрыкметна іх месцы занялі выляганкі, вясёлыя, ярка размаляваныя, імгненна запоўнілі палац песнямі, смехам, дзявочым віскам. Я выйшаў на двор крыху падыхаць, бо ўжо добра-такі ачмурэў ад выпітага віна. Ды і галава яшчэ пабольвала пасля ўдару. Падняўся на крапасную сцяну, адкуль адкрываўся цудоўны від на Нёман і навакольныя лясы. Было ціха, час ад часу толькі чулася пераклічка вартавых на вежах. Раптам нехта паклаў мне руку на плячо. Я рэзка павярнуўся. Перада мной стаяла і ўсміхалася Ізяслава.

– А ты, – пачаў было гаварыць я, але дзяўчына прыпала сваімі вуснамі да маіх, і я імгненна забыўся, пра што хацеў запытацца. А яшчэ праз хвіліну яна ўжо вяла мяне за руку, як малога, у невядомым мне накірунку. І толькі я адкрываў рот, каб запытацца, Ізяслава прыкладала палец да вуснаў, паказваючы, каб маўчаў. Неўзабаве мы апынуліся ў лесе. А яшчэ крокаў праз сто выйшлі на бераг невялічкага возера, каля якога ўзвышаўся вялізны драўляны стод. Ізяслава павярнулася да мяне і адным рухам сцягнула з плеч маю кашулю. Затым скінула сваю і засталася зусім галюткая. Пры свеце месяца яна была падобнай да русалкі. Зноў узяла мяне за руку і павяла ў возера. Ступіўшы ў ваду, Ізяслава крыкнула: «Даганяй! – і хуценька паплыла. Я кінуўся за ёй. Мы плавалі, пырскаліся, дурэлі, як малыя...

Не ведаю, колькі прайшло часу, але ранішнія крыкі пеўняў у горадзе вярнулі нас да свядомасці. Ізяслава паклала галаву на мае грудзі і ціхенька запыталася:

– Ты хутка пакінеш нас?

– У сэнсе пакінеш? – не зразумеў я.

– Пойдзеш у свой свет, – патлумачыла дзяўчына. Але я ўсё роўна нічога не зразумеў.

– У які гэта свой?

Ізяслава паднялася на ногі, працягнула мне руку. Я падняўся, але руку яе не выпусціў.

– Я ведаю. Кій, што ты тут не застанешся. Ты іншы. І Айк іншы, чым мы. І хутка вы ўсе сыйдзеце. У цябе жонка ёсць? – нечакана запытала дзяўчына. Я ажно разгубіўся.

– Так, ёсць.

– А я ведала, – ледзь чутна прашаптала Ізяслава. – Але я павінна была пакінуць цябе ў сваім сэрцы. І даць кавалачак памяці табе ў дарогу. Не кажы нічога жонцы, бо гэта быў толькі сон. Бывай, мілы.

Дзяўчына вырвала руку з маёй і хутка пабегла да дзядзінца. Я сеў зноў на траву і прыплюшчыў вочы. А можа, і праўда ўсё гэта прыснілася?

Айк чакаў нас каля чацвёртага партала. Мы ўвайшлі ў тунэль і ўбачылі Дымава, які бесклапотна спаў каля вогнішча. Айк адразу ж падышоў да такой жа тумбы, што і ў ягоным тунэлі. Крыху пакорпаўся там.

– Хлопцы, партал працуе.

– Дык мы можам ісці дадому? – нясмела запыталася Ірына.

– Так, толькі трэба актывізаваць партал.

– А як мы сюды трапілі без актывацыі? – падазрона запытаўся я.

Айк паглядзеў на мяне як на малое неразумнае дзіця і суцяшальна ўсміхнуўся.

– Разумееш, Іван, калі партал працуе, дык без дазволу аператара ты праз партал не пяройдзеш: ён будзе, як сцяна, цвёрды. А вось калі партал адключаны ці дае збой, ён можа набываць розныя якасці: быць у выглядзе полымя, вады, рознакаляровага дывана і шмат іншых варыяцый. Такая ж непрадказальнасць з падарожнікамі: партал можа знішчаць жывыя арганізмы, а прадметы прапускаць. І наадварот. А можа ўвогуле замарозіць смельчака ў самай сярэдзіне. Калісьці такое было на першым партале. Вы прайшлі таму, што партал не працаваў, і вам проста пашчасціла, што біяматэрыю ён прапускаў. А вось падыдзі і пакратай «вадаспад» зараз.

Я павольна падышоў да вадаспада і працягнуў руку. Яна і сапраўды ўпёрлася нібы ў камень.

– І што, Айк, мы больш сюды ніколі не трапім? – запытаў я.

– Без дазволу аператара ніколі.

– А калі мы створым такую ж машыну часу?

Айк сумна пакачаў галавою.

– Іван, вы створыце абавязкова такую машыну часу, але не пры табе, і яе аператарам буду я. Бо тая машына – гэта і ёсць вось гэтая машына. Тэорыя часу і прасторы.

– Халера, – вылаяўся я, – мазгі хутка паплывуць тут ад вашых тэорый. Ты вось што скажы: зараз, калі партал запрацаваў, мы можам адсюль вынесці якія-небудзь сувеніры на памяць? А то ж нам ніхто не паверыць на слова.

Айк на хвіліну задумаўся.

– Можна ўзяць тое, што належыла забітым. Гэта не парушыць часовы баланс. І спяшайцеся: нам трэба актывізаваць іншыя парталы. У вас паўгадзіны.

Мы выскачылі з тунэля.

– Вы што возьмеце? – на бягу запытала Ірына.

– Шчыт, меч, кальчугу. У чым біўся. Хай будзе на памяць...

Мы сустрэліся зноў у тунэлі роўна праз трыццаць хвілін. Я быў пры поўнай баявой амуніцыі. Карнееў прыцягнуў цэлы мех збанкоў, місак, посцілак. Сазонава нейкім чынам злапала ці, можа, выменяла на што, некалькі жывых рыб, маленькае кураня, пару матылькоў.

– Будзем вывучаць і параўноўваць, – адказала яна на мой здзіўлены позірк.

Дымаў, як і належыць геолагу, прынёс пробы вады, глебы, нейкія камяні, кавалкі дрэў.

– Ну што, панове, – падышоў да нас Айк, – час развітвацца.

– Перадай ад нас прывітанне князю, – папрасіў я.

– Добра, – пагадзіўся Айк, – перадам. Вось, – працягнуў мне нейкі кавалак пергаменту, – напішы свой адрас. Не абяцаю, але калі завітаем у ваш час, абавязкова знайду.

Я вугельчыкам напісаў хатні адрас і тэлефон, зусім не ўпэўнены ў рэальнасці яго слоў. Мы абняліся па чарзе з нашым новым сябрам і пакрочылі да вадаспада. На самым краі ляжалі нашы вадалазныя касцюмы, але рук вольных, каб іх забраць, не было.

– Скажам, што татары пасеклі, – прапанаваў я.

Усе пагадзіліся. Мы прайшлі туманную сцяну і адразу ж убачылі буданчык, дзе нас частаваў прысмакамі генерал Копач. Уваход ахоўваў аўтаматчык. Убачыўшы нас, ён нешта крыкнуў, і тут жа з нсмёта выскачылі Станіслаў Пятровіч разам з Мітрошыным. Генерал ірвануў было на сустрэчу да нас, але палкоўнік моцна схапіў яго за рукаў.

– Таварыш генерал, а як жа радыяцыя? – ледзь не са слязьмі ў голасе запытаў ён.

Копач разгублена азірнуўся. А насустрач нам ужо беглі тры асобы ў супрацьрадыяцыйных касцюмах. Неўзабаве нас праверылі living прыборамі, затым па чарзе памылі ў падрыхтаванай загадзя душавой, чымсьці папырскалі, далі новае адзенне і толькі тады правялі да генерала.

Станіслаў Пятровіч сядзеў перад накрытым сталом, дзе зноў былі і ікра, і фінскі сервелат, і армянскі каньяк, і яшчэ багата якіх прысмакаў. Ён прапанаваў нам сесці, разліў каньяк па кілішках і падняўся з крэсла.

– За вяртанне! – вымавіў ён і кульнуў сваю чарку.

Мы падтрымалі яго.

– А зараз добра прыкусіце, і Іван раскажа пра ваша падарожжа. Астатнія потым дапоўняць, – тым жа загадным тонам сказаў Копач. Хвілінаў дзесяць вісела цішыня. Мы яшчэ двойчы выпілі, падсілкаваліся і ў вялікім задавальненні адкінуліся ў крэслах. Генерал не праспешваў. Я пачаў расказваць, час ад часу паварочваючыся да калег, каб праяснілі той ці іншы момант.

Дзесьці праз паўгадзіны мой аповед скончыўся, і зноў над сталом запанавала цішыня.

– А гэта трафеі? – паказаў вачыма генерал на рэчы, што мы прынеслі з сабой.

– Так, – пацвердзіў я. – Аўтэнтычныя.

– Там яшчэ і пробы паветра, вады, глебы, – дапоўніла Сазонава.

– Малайцы, – задуменна вымавіў Копач. Затым падняўся, прайшоў некалькі кругоў вакол стала і, спыніўшыся, уважліва агледзеў нас.

– Значыць, так. Што вярнуліся жывыя і здаровыя, яшчэ раз малайцы. Зараз вас адвязуць на нашу базу. Гэта добры санаторый пад Ваўкавыскам. Адпачнеце два дні, і падрабязна кожны напіша справаздачу з вашай камандзіроўкі. А там зноў сустрэнемся і падвядзем вынікі.

– А ці можна патэлефанаваць дадому? – нясмела запытаў Дымаў.

– Не, – адрэзаў Копач. – Пакуль ніякіх кантактаў.

Пад вартай аўтаматчыкаў мы селі ў аўтобусік “РАФ” з цёмнымі шыбамі і паехалі ў санаторый. Здавалася, можна ўжо і расслабіцца, але нешта невядомае не-не ды і сціскала мне сэрца. Зрэшты, потым разбярэмся.

Санаторый аказаўся закрытага тыпу, і апроч нас там была толькі абслуга. Прычым надзіва маўклівая. Толькі кароткія фразы па справе, у астатніх выпадках або так, або не. Нас добра кармілі, правялі праз шэраг прыемных аздараўленчых працэдур, забаўлялі замежнымі фільмамі, рыбалкай, велапрагулкамі. Так і праляцелі двое сутак. А на трэція на тэрыторыю санаторыя ўехалі тры «Волгі» і адна «Чайка». Зразумела, усе чорнага колеру. Да нас у сталоўку прыбег сам дырэктар санаторыя і збялелымі вуснамі прамармытаў:

– Хуценька ў сталоўку. Сам Андропаў прыехаў! Вас выклікаюць...

Юрый Уладзіміравіч Андропаў – усемагутны гаспадар Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР. Такога не чакаў ніхто. Але чаму ў сталоўку?

Калі мы ўвайшлі ў памяшканне, усё стала зразумелым: пасярэдзіне стаяў стол, на ім сапраўдны самавар, прычым не электрычны, а на дровах, вакол яго месціліся нейкія спадачкі з featureнымі варэннямі, печывам і, як я зразумеў, фірмовымі крамлёўскімі сушкамі, да якіх Андропаў (як сцвярджае народная чутка) вялікі аматар. Па краях стала ўзвышаліся шэсць кубачкаў на спадачках. Андропаў стаяў каля стала і сціпла нам

усміхаўся. За яго спінай бачылася постаць генерала Копача, твар якога нагадваў манумент з каменю.

– Ну, а вось і нашыя героі, – прыязна загаварыў Юрый Уладзіміравіч. – Станіслаў Пятровіч, прадстаўце нам гэтых мужных людзей.

Мы пачалі па чарзе падыходзіць да старшыні КДБ, ён паціскаў руку, а Копач даваў кароткія звесткі пра кожнага. Я падышоў апошнім. Генерал нешта паспеў прашаптаць начальніку на вуха, перш чым гучна абвясціў маё прозвішча. Андропаў на імгненне затрымаў маю руку ў сваёй, з цікавасцю разглядаючы мяне. Я, хоць гэта і далося мне нялёгка, не адводзіў вачэй ад яго позірку. Юрый Уладзіміравіч нарэшце адпусціў руку і гучна абвясціў:

– Прашу ўсіх да стала.

Калі мы расселіся, карціна стала амаль камічнай: за сталом сядзяць чатыры ўдзельнікі экспедыцыі, Андропаў і Копач. А вакол стала стаяць адзінаццаць чалавек аховы Андропава і дырэктар санаторыя.

Андропаў таксама хутка заўважыў такі абсурд і махнуў рукою. Да яго тут жа падбег здаровы бугай у цывільным касцюме. Андропаў нешта сказаў яму, той адразу ж паказаў прысутным на дзверы, і праз імгненне апроч нас у зале нікога не было.

– Давайце піць гарбату, – аптымістычна прапанаваў начальнік КДБ. – Мне казалі, што з сапраўднага самавара гарбата найсмачнейшая.

Ён напоўніў кожнаму кубачак, а затым пачаў рэкламаваць варэнне, сушкі. Не чалавек, а бальзам на душу...

Паступова ўсе крышачку расслабіліся, пасёрбваючы гарбату, а Юрый Уладзіміравіч тым часам расказаў нам крамольны анекдот.

– Прыносіць малады аўтар рукапіс аповесці ў рэдакцыю савецкага часопіса. Рэдактар чытае: «На двары стаяла восень. У пакоі адзінока сядзеў граф і панура курыў сваю люльку. Тут увайшла пакаёўка і запытала:

– Граф, ці не выпіць вам кофію?

– Аднак, – адказаў граф і груба авалодаў пакаёўкай...»

– Нядрэнна, – сказаў рэдактар аўтару. – І канфлікт ёсць, і тыранія пануючага класу паказана. Але канцэпцыя сацыялістычнага рэалізму патрабуе адлюстраваць у творы ролю народа, а таксама ўзняць праблему заўтрашняга дня.

– Добра, – адказаў аўтар, – я дапрацую.

Вярнуўся праз месяц і падае твор рэдактару. Рэдактар чытае: «На двары стаяла восень. У пакоі адзінока сядзеў граф і панура курыў сваю люльку. Тут увайшла пакаёўка і запытала:

– Граф, ці не выпіць вам кофію?

– Аднак, – адказаў граф і груба авалодаў пакаёўкай. На двары кавалі жалеза кавалі. Адзін з іх кінуў молат на зямлю і сказаў:

– Ды халера на яго, хлопцы! Пайшлі вып’ем. А заўтра скончым!»

І Юрый Уладзіміравіч гучна засмяяўся:

– Як вам сацрэалізм?

Мы таксама заўсміхаліся, прыкідваючы, які турэмны тэрмін атрымалі б, каб гэты анекдот зараз расказалі мы.

Андропаў раптам пасур’ёзнеў і загаварыў ужо іншым, больш канцылярскім тонам.

– А зараз да справы. Краіна і партыя дзякуюць вам, таварышы, за мужнасць і рашучасць пры выкананні дадзенага задання. Я пазнаёміўся з вашымі справаздачамі. Так, гісторыя неверагодная, але я вам веру. Пытанне

ў іншым: а ці зможа вам паверыць звычайны абывацель, просты савецкі чалавек? А калі нават нехта і паверыць, ці не прывядзе гэта да непрадказальных учынкаў? Усё гэта вельмі сур'ёзна, таварышы. Таму я вас папрашу на пэўны тэрмін нікому, нават самым блізкім, нічога не расказваць пра экспедыцыю. Для ўсіх вы былі на гары Арарат, дзе знайшлі старажытнае паселішча людзей. Вось яго і вывучалі. Дамовіліся?

– Але ж гэта сенсацыя ў навуковым свеце, – падаў голас Дымаў. – Ну, як такое можна схаваць ад свету?

– А мы, шаноўны Пётр Ільіч, і не збіраемся хаваць інфармацыю ад усяго свету. Мы ж не амерыканцы якія... Проста патрэбны час на падрабязнае вывучэнне гэтага фенамену, на аналіз небяспечнасці такіх кантактаў, магчымыя плюсы і мінусы ад наладжвання адносін з тымі асобамі. А калі зараз абвясціць аб знаходках, падымецца такі вэрхал, што будзе не да вывучэння. Таму давайце крыху пачакаем. Згодны?

Усе моўчкі кіўнулі галовамі.

– Ну і добра, – павесялеў Андропаў. – А для поўнага спакою вы зараз пойдзеце з генералам у кабінет дырэктара і паставіце там свае подпісы аб нераспаўсюджванні інфармацыі. Але перад тым дазвольце павіншаваць вас усіх ад імя ЦК КПСС і асабіста Леаніда Ільіча Брэжнева з узнагароджваннем кожнага ордэнам Працоўнай Славы. Таксама Станіслаў Іванавіч перадасць вам дакументы на ВАЗ-2107.

– Кожнаму? – ачумела перапытала Ільіна.

Андропаў ажно засмяяўся.

– Так, кожнаму. Машыны ўжо чакаюць вас у магазіне «Аўтааматар» на...

– На вуліцы Белуша, – падказаў Копач.

– Вось-вось, на вуліцы Белуша. Зараз, таварышы, вы крочыце з генералам, а да таварыша Судзілоўскага ў мяне будзе яшчэ пару пытанняў.

Мае калегі падняліся з крэслаў, развіталіся і пайшлі за Копачам. Юрый Уладзіміравіч пачакаў, пакуль за імі закрыюцца дзверы, і тады прыцішана запытаў:

– Іван Іванавіч, толькі папраўдзе, што гэта за людзі, тыя прышэльцы?

– Людзі як людзі. Простыя, як мы з вамі. Можа, толькі больш разумныя.

– Добра, – пагадзіўся старшыня, – а на якой мове яны размаўлялі?

– На рускай.

– Дык гэта былі рускія, савецкія?

І тут я задумаўся. Айк, убачыўшы нас, сказаў нешта незразумелае. Мне падалося, што я недачуў. Але зараз дакладна памятаю, што не па-руску. Хутчэй на эсперанта (я, як і многія, спрабаваў вучыць эсперанта самастойна, але, зноў жа як і ўсе, хутка кінуў гэтую справу). Але як толькі я загаварыў па-руску, ён тут жа адказаў па-руску.

– Я думаю, Юрый Уладзіміравіч, што ў іх свеце ёсць агульная мова накшталт эсперанта, але ёсць ці мініяцюрныя электронныя перакладчыкі, або яны ўсе ведаюць пэўную колькасць базавых моў: скажам, англійскую, рускую, кітайскую.

Андропаў зняў акуляры, пальцамі пацёр пераносся. Затым зноў начапіў акуляры і запытаў:

– Гэта былі капіталісты?

– Думаю, што так.

– Чаму?

– Яны сказалі, што ёсць прыватная фірма, якая і арганізоўвае падарожжы ў часе. Не савецкая ж...

– Лагічна, – пагадзіўся Андропаў. – Атрымліваецца, што краіны капіталізму не зніклі ў будучым. А сацыялістычны лагер?

– Нават і не ведаю. Нічога пра гэта не гаварылі.

– А ці не дапускаеце вы, шаноўны Іван Іванавіч, што імперыялісты, выкарыстоўваючы сваю машыну, рухаюцца па часе і непрыкметна падрываюць устоі сацыялістычнага грамадства? Гэта вам нават не джынсы з жуйкай. Скажам, прыбываюць яны заўтра да нас, пачынаюць раздаваць грошы, рэчы, карыстаючыся нашымі часовымі цяжкасцямі, і ў некаторых не вытрымліваюць галовы, і яны пачынаюць узнімаць капіталістычны лад жыцця. Асабліва моладзь...

– Мне падалося, Юрый Уладзіміравіч, што яны інтэлігентныя, культурныя людзі.

– Але гарантаваць, што інтэрвенцыі не будзе, вы, Іван Іванавіч, не можаце?

– Не, не магу.

– Вось у тым і справа, шаноўны, – Андропаў чамусьці павесялеў нават. – А калі партала не будзе, яны да нас не трапяць? Праўда?

Тут я ўспомніў словы Айка, што партал знішчыць немагчыма, але чамусьці прамаўчаў.

– Што ж, – працягваў Андропаў, ужо разважаючы сам з сабой, – капіталізм рыхтуе дыверсію, і мы павінны перасцерагчыся. І тады яны не здолеюць умяшацца. Так, гэта адзіна правільнае рашэнне.

І ён пакрочыў да выхаду, але раптам спыніўся, пэўна, успомніўшы пра мяне.

– Іван Іванавіч, дзякуй вам за супрацоўніцтва! Вас мы прадставілі да ордэна Леніна. І неўзабаве вас чакае павышэнне па службе. Бывайце.

І ён выйшаў.

Назаўтра мы сядзелі ў маім пакоі і чакалі аўтобуса. Увайшоў Копач, прывітаўся і прысеў у вольнае крэсла.

– Ну што, сябры мае, дазвольце яшчэ раз падзякаваць вам за супрацоўніцтва і нагадаць просьбу Юрыя Уладзіміравіча: поўная тайна. І каб ведалі: заўтра партал будзе ўзарваны, а кар'ер зачынены для распрацовак. Так што ніякай машыны часу не было. І яшчэ. Згодна з распараджэннем галіновых міністэрстваў Дымаў Пётр Ільіч прызначаецца прарэктарам па навуцы геолага-разведачнага інстытута ў Надыме; Сазонава Ірына Вітальеўна – загадчыцай аддзела інстытута біялогіі Грузінскай ССР; Карнееў Мікола Архіпавіч – дэканам факультэта археалогіі Самаркандскага педагагічнага інстытута; Судзілоўскі Іван Іванавіч – намеснікам міністра аховы здароўя па лячэбнай справе Казахскай ССР. Кожнаму будзе прадстаўлена кватэра па месцы новай працы, пад'ёмныя грошы. Віншую, таварышы!

Мы моўчкі пераглянуліся. Тут і дурню зразумела, што ад нас пазбаўляюцца: раскідалі па ўсім белым свеце, прыкрыўшыся так званым службовым павышэннем. Але добра, хоць не расстралялі.

Па дарозе да аўтобуса, у суправаджэнні аховы, да мяне падышла Ірына і ціхенька шапнула:

– Яшчэ абавязкова сустрэнемся. Гэтыя дурні ж не ведаюць, што партал нельга ўзарваць.

Я моўчкі кіўнуў галавою і непрыкметна паціснуў ёй руку. Вядома, сустрэнемся!

Фелікс Баторын



...Мы ідзем і ідзем, і разгойдваем вагамі.
Вымяраем мы час. Наш завод не сышоў!..

# Дачакацца вясны...

* * *

Я прысніў фівінскага цара
Ў масцы двухгаловай птушкі Сірын.
Тхнула ад яго няўмольнай сілай,
А пагляд не абяцаў дабра.

І паўстаў Майсей перад царом.
Быў чамусьці ў крывіцкім уборы.
У паглядзе годнасць, непакора,
Голас ціхі, а гучаў, як гром.

Цар не чуў ніколі слоў такіх:
"Твой Егіпет у крыві патоне!
Адпусці народ мой, фараоне.
Нам тваіх не трэба пірамід"...

Час мінуў, а мне вяртае слых
Словы, што я сніў тады, і сёння:
“Адпусці народ мой, фараоне.
Нам тваіх не трэба пірамід”.

* * *

Сум, журбота, скруха і туга –
Не адзін праходзіў гэтым шляхам.
Нельга значна болей, чымся льга.
Яснасць саступае месца страхам.

Што расло й квітнела, стане прахам.
Прад вачыма ценяў мітульга.
Нельга значна болей, чымся льга.
Не адзін праходзіў гэтым шляхам.

* * *

Захлынуся ружовым блакітам світання
З яго водарам смол, з яго свежасцю рос –
І адбудзецца ўсё, як туману расстанне
З маладой зелянінаю белых бяроз.
І растану з туманам. І кропелькі слёз,
Як расінкі, асушыць вясёлае ранне.

* * *

Рассыпае жмені нотаў
Вар’яваты музыкант,
Нібы сотні зыркіх кнотаў
Назапальваў рызыкант.

А ў грудзях людзей саломы
Назапашана сухой.
А саломе, як вядома,
Досыць іскаркі адной...

Забяры з пляча ты скрыпку
І схавай у футарал.
Мір наўкол падманны, зыбкі,
Ён не раз ужо згараў.

Шмат было агню і чаду,
І апёкаў не злічыць...

Музыкант прыняў параду,
Але рэха ўсё гучыць.

* * *

Світанак выбіраецца з туману,
Выцягвае, як з багны, ногі дрэў,
Галлё якіх абсыпанае маннай...
Не! – попелам: то змрок начны згарэў.

Дурасліва я скочыў па-хлапечы,
Гады маленства ўспомніўшы свае –
І попел мне пасыпаўся на плечы
І за каўнерам знобка растае.

Пайду блукаць, пахрумстваючы сцежкай,
Са шчок рукой сціраючы мароз:
Мо стрэну дзе цябе дзяўчом з усмешкай
І парай смешных абынелых кос.

* * *

У Хлебным завулку, дзе боханны водар
Казыча не нос, а душу,
Сапраўдную оду, узнёслую оду
Надзённаму хлебу пішу.

Пяром у нататнічку я накалякаў:
“На хлебе трымаецца свет!”
Пры гэтым са смакам ем булачку з макам,
Шчэ й масла намазаў як след.

* * *

Кавалеры Высокае Веры,
Мо разыдземся ўсе па кватэрах,
Дзе пад песеньку “Ба́ю-баю́”
Закалышам мы Веру сваю.

З супастатаў мы будзем цвяліцца,
Ціхім шэптам на Веру маліцца –
І належнае нам аддадуць:
У труну нам яе пакладуць.

* * *

Я ніколі нізашто не паверу –
Сумнявацца даў мне права Гасподзь –
Што, пастукаўшы ў забітыя дзверы,
Я пачую у адказ: “Уваходзь!”

Ды аднойчы (як? – вялікая тайна)
Прагучыць адказ дакладна такі.
Ірвану я тыя дзверы адчайна
І іржавыя зламаю цвікі.

Я на крылах маладога паветра
У задушлівы ўварвуся пакой...
Ты пашлі, Гасподзь, мне гэткую веру:
Вельмі цяжка мне без веры такой!

* * *

Сярмяжная праўда, сурдутная праўда,
Парфірная праўда – вялікая наўда –
Працятыя – ўгледзься! – манюю скразной,
А ісціна ўражвае
Галізной.

* * *

Разгадка вечнай таямніцы
Бліжэе, быццам небакрай,
Дзе дрэвы, дахі і званіцы
Краіны, што завецца Рай.

Не больш за два якія крокі
Да брамы, ўвітае лазой.
Чаму ж напоўнілася вока
Такой пякучаю слязой?

* * *

Маны няма, а толькі праўды розныя
Адна адну зацята абвяргаюць
І прагна, праўдзянятамі паросныя,
На мешанку й паныі налягаюць.

* * *

У пустаце, набітай розным хламам,
Самоцяцца асколкі і аскепкі,
І паўстае-ўзыходзіць над бедламам
З усмешкаю крывой нязводны скепсіс.

Але наіўнасць корпаецца ў друзе
І цешыцца нязбытнаю надзеяй
На тое, што спустошаныя грудзі
Жыццём напоўніць Вышняя Ідэя.

Ды з аскабалкаў мёртвых ідэалаў,
Як з пазлаў, не складаецца нічога,
А пад рукой то з трэшчынай піяла,
То бітая талерка, то панчоха...

* * *

Розных вераў на свеце досць.
Абыходзімся ж мы дзвюма:
Нехта верыць, што Бог – ёсць,
Нехта верыць, Яго няма.

* * *

Ноч спісала ўсё чарніла,
Казкі творачы свае.
Сны душа ўсе адасніла,
Дзень прад ёю паўстае –
Дзень суровы, нават жорсткі,
Як жарсцвянік, мулкі й шорсткі.

* * *

Стамілася ліць. Прарываюць вятры
У хмарах адтуліну – і на плячо мне
Кладзецца цяпло нечаканага промня –
Скупая пяшчота суровай пары.

Спакою душы аніяк не агораць.
А новай вясны ж дачакацца хачу.
Ах, восень! Як востра я сёння адчуў
Усю тваю даўкую слодыч і горыч....

* * *

Мо з іскаркі якой неасцярожнай
Пажар пажэр лясок, што рос за пожняй.
Згарэлі дрэвы, мох і травы ўсе.
Выжарны попел стыне пакрысе.

І не пазнаеш, борам альбо гаем
Быў гэты мёртвы шэры прах спярша.
Вось гэтак жа на попел выгарае
Ахопленая крыўдаю душа.

## ГАРА З ГАРОЮ

Мне насустрач дзед стары ідзе:
Птушкі гнёзды ўюць у барадзе,
Шызы мох звісае з галавы,
Мае кій сучкасты і крывы.

Мне знаёмы нечым гэты дзед.
Я з сумневам вымавіў: "Альфрэд?"
Ён зірнуў са здзівам на мяне
І спытаўся: "Фелік? Ты ці не?"

У юнацтве мы былі сябры.
Шэсць дзясяткаў год з тае пары.
Мы глядзім адзін на аднаго
І сказаць у нас няма чаго.

## ПІЖМА

Нібы зярняты сонца, піжма
Рассыпаная па зямлі.
Гудуць над ёю пчолак сціжмы
І аксамітныя чмялі.

У ледзяны крынічны кіпень
Мачае неба прамяні.
Гаркавай піжмай пахне ліпень,
І спеліць мёд ён дзень пры дні.

## НАСЛЕДВАННЕ ДЖ. КІТСУ

Зыркае, як сонечны ўзыход,
Раптам палыхнула летуценне,

Нібы не было пражытых год,
Смутку і трывання, і цярпення.

Лёгка ацяжэлую душу
Падхапіла плынню жарсных крозаў.
Ды парогаў явы пенны шум
Горка працвярэзіў. Да́лей – проза.

* * *

Клён вясёлы, дуб разложысты,
Купка станістых бяроз...
Божа, гэты дзень пагожы ты
З траўня ў восень перанёс!

Гэта золата па зелені,
Гэту мяккую цяплынь,
Гэты воблачак адбелены
Не знясі ў нябыт, пакінь!

Але вецер цэдзіць з холадам –
Злосць зацяла дух яму:
"Гэту зелень, гэта золата
І цяплынь я ўсю садзьму!"

* * *

У снежаньскае ранне сонца лінула.
У вочы вараннё сляпіцай лезе.
Вярба скупая, што казны не кінула,
Стаіць-дрыжыць у золаце і снезе.

Паслязавейнай белізной нязгаджанай
Напіцца ўволю немагчыма воку.
Кідайце, хлопцы, чортавыя гаджаты –
Гайда гуляць у снежкі і галёкаць!

* * *

Шляху не знайшоўшы да збавення,
Быццам рыба, страціўшы луску,
Одум пераходзіць у здранцвенне
У глухім жыццёвым тупіку.

Пыха ссохлай сыплецца ігліцай.
Ты бездапаможны. І таму

Застаецца толькі памаліцца.
Ды ніяк не ўспомніць: а каму?

* * *

Вачаніцы мае, вачадолы,
Вам хавацца не хочацца ў доле,
Без жывых заставацца вачэй
Цягам дзён сляпых і начэй.

Вы ўсяго толькі частка плоці,
А душа, што пры ёй, у палёце,
Покуль гэтую самую плоць
Не здалее злы мельнік змалоць.

Сам не рады ён славе чорнай,
Ды круціць няўмольныя жорны
Без святочных і вольных дзён
Ад Стваарэння пастаўлены ён.

Вачаніцы мае, вачадолы,
Я прад вечнасцю босы й голы.
Звечарэў мой імклівы лёс.
Я па шыю ўжо ў дол урос.

Мне не трэба ні пекла, ні раю.
Я рукамі жвір адграбаю.
Ды цякучы, рухавы, як вір,
Зноў да плоці вяртаецца жвір.

* * *

*– Бачыш, мама, ты засмучалася, што я не скончыў семінарыі, а я кірую вялікай дзяржавай!*
*– Ах, Сасо, лепш бы ты стаў святаром!*

Што – гонар альбо пошлая гардыня –
Ва ўзнёслых душах нашых паўстае?
Ці не на жвіры мы ўзвялі цвярдыню,
Каб жорсткі подых часу знёс яе?

## СЕНТЫМЕНТАЛЬНА-ІРАНІЧНЫ РАМАНС

У кавярні з тэрасаю “Верас”
Пад пашэптванне ліп і бяроз
Смакавалі мы “Цыцку” і “Херас”,
Заядалі салатай “ля Рос”.

Перастала быць спёка пякельнай,
Як тайм-аўт раптам ліпень узяў.
Быў галантным паслужлівы кельнер,
Ён табе кампліменты казаў.

Сталі лёгкімі думкі, як віны,
Што прыносілі нам да стала,
І луналі наўкол херувімы,
Парадызам кавярня была.

Часцяком і сягоння – паверыш? –
Калі ў кухні я рэдзьку крышу,
Успаміны пра “Цыцку” і “Херас”
Херувім мне ўкладае ў душу.

## ДА ЛЕПШЫХ ЧАСОЎ…

*...лепшы час можа быць толькі адзін.*
*Ён называецца “Цяпер!”*
**Д. Шульман**

Страўніку ежа няміла,
Круціць і ные ў назе.
Сэрца з апошняй сілы
Як воз на гару вязе.
Дыхаўку ветрам забіла,
А пад нагамі слата.
Птушка кроплю згубіла
На голаў мне...
Любата!

## СЛУХАЮЧЫ КАНТАРСКІ СПЕЎ

Знаю: Псалтыр – не пластыр.
Не, не на целе парэзы –
Ён закрывае раны
І жорсткія язвы душы.
Кантар, зрабі ты ласку:
Чароўную Богаву казку,
Высокую Богаву песню
Ты мне ў сэрца ўпішы.

## ПЕРАД ЛЮСТРАМ

У люстры адбіваюцца
Журботныя маршчыны.

Нішто не адбываецца
Без пэўнае прычыны.

Як проста і няпроста ўсё
І сёння, і ў мінулым.
Усё жыццё выпростваўся –
Яно ж мяне сагнула.

Кажу сабе: мінае ўсё,
Канец настане мукам.
Па звычцы разгінаюся –
І застаюся крукам.

## ІРАНІЧНА-ФІЛАСОФСКАЕ

*Інтэлігенцыі*

Тры сасіскі і дзве сардэлькі
Між сабою спрэчку вялі.
Далучыўся кумпяк з-пад бэлькі
І азваўся бурак з зямлі.

Кожны важнасць сваю даводзіў.
Дык і рацыю ж кожны меў!
Кухар спрэчцы не перашкодзіў:
Ён сядзеў за сталом і еў.

* * *

Навірыла віроў завіруха,
Пазганяла з галін вераб'ёў.
А ў душы неадольная скруха
Праз біблійную марнасць гадоў.

Запакоўвай мінулае ў клункі,
Як старызну, яго не трасі.
Не шукай, з кім пазводзіць рахункі
І пазыкі хвілін не прасі.

Ты сябе неаднойчы адужаў,
За здубелы ўхапіўшыся гуж.
Акуніся ў завейную сцюжу,
Супраць ветру, схіліўшыся, руш.

## *НА МАТЫЎ “ЖОРСТКАГА РАМАНСА”*

*В. Жыбулю*

Узбіўся слон
На маленькі ўслон –
Так сядзіцца ў лёсе і мне.
Як у дождж – вады,
Ма́ю я бяды.
Уцячы б куды на слане!

Я навошта змагаўся з млынамі ўвесь час,
Дзіду ў крылы ўтыкаў ім не раз?
Чысціню меў наўме,
Ды ў слановым дзярме
Аж па самыя плечы захрас.

На дварэ мароз.
Слон у лёд урос,
Просіць венікаў на абед.
Палясоўшчык, блін,
Не дае галін,
Ды яшчэ і лаецца ўслед.

Я навошта змагаўся з млынамі ўвесь час,
Дзіду ў крылы ўтыкаў ім не раз?
Чысціню меў наўме,
Ды ў слановым дзярме
Аж па самыя плечы захрас.

Марна дзень пры дні
Сню на яве сны.
Мне сябе няма куды дзець.
Я з табою, слон,
На адзін услон
Узаб’юся і буду сядзець.

Я навошта змагаўся з млынамі ўвесь час,
Дзіду ў крылы ўтыкаў ім не раз?
Чысціню меў наўме,
Ды ў слановым дзярме
Аж па самыя плечы захрас.

* * *

Раптоўна разлілася цішыня.
Я не аглух, бо чуў сваё дыханне.

І дыхала марознай парай ранне.
Парохкваў снег, як сытая свіння,
Калі яна распесціцца ў гуморы.
І не было Садома і Гаморы,
Дзе мусіў я круціцца ў дзень ды з дня.
А потым снег нудотна раставаў,
І чвякала пры кроках і без крокаў.
І хоць не веру ў сілу я сурокаў,
Ды хтось сурочыў ці начараваў.
Так і жыву, нібыта тая крыга:
Адліга – і мароз, мароз – адліга;
То я ў слязах, то ў трэшчынах увесь.
Я – проста лёд, замерзлая вадзіца.
Вясной зірне мінак – і ну дзівіцца:
Вось толькі быў і – глянь – падзеўся дзесь...

* * *

Было: абклала свет праказа.
Прарок, душу рвучы, прадказваў.
І дзе ён? Дым спіраль віе.
Адно траскучая сарока
Вяшчае штось накшталт прарока,
Натоўпы слухаюць яе.

Куды б ні йшоў, куды б ні збочыў,
Усюды толькі трэск сарочы
І дым, і смалі даўкі пах..
А вецер гойсае па свеце,
З усіх кутоў прыносіць смецце,
Гайдае петлі на слупах.

* * *

Вучыцца я хацеў у мудрацоў,
Што век над манускрыптамі гарбелі.
Ды надта ж моцна плесняй патыхалі,
І пыл ляжаў на лысінах у іх.
Тады схацеў вучыцца я ў дзяцей,
Як раіў калісь Анатоль Вярцінскі.
Ды штонікі засюкала малеча
І частавала стравамі з пяску.
І зразумеў я: невукам памру,
Як і прадсказваў тата ўслед за дзедам.

* * *

Старасвецкі гадзіннік з размашыстай вагаю,
Асматычна хрыпіць і спазняецца біць;
Як рухомы нязводнай, спрадвечнаю цягаю,
Не спыняецца днямі, начамі не спіць.

Помніць пышныя балі, гавоты з мазуркамі,
Фракі зграбных паноў, строі гжэчных кабет.
Люд цяперашні, пэўна, ён бачыць кузуркамі.
А ў кузурак які можа быць этыкет?

Мы ўвайшлі ў новы век, а сюды ж нас не клікалі.
Нейкай рады й без нас тут не даць цеснаце.
Можа, мы састарэлі? Мы толькі рэліквіі,
Наша месца ў музеі, у пыльным куце?

Мітусяцца наўкол недавукі ды цынікі,
Што не ўмеюць па-людску ні жыць, ні любіць.
Нехта скажа, што мы, як такія гадзіннікі,
Асматычна хрыпім і спазняемся біць.

Яны лічаць лухтою наш досвед з развагамі,
Успрымаюць жыццё, як вясёлае шоў.
Мы ідзем і ідзем, і разгойдваем вагамі.
Вымяраем мы час. Наш завод не сышоў.

* * *

Душу я выварочваў на той бок.
Вылазілі вузлы, абрывы нітак
І адвароты швоў, дзе ў аверлок
Рукой краўца нябачнага спавіты
Тканіны край, каб не махрыўся ўток.

Не надта і прывабна выглядаў
Той бок, не так, як вонкавы – прыгожы.
О, высілкаў нямала прыкладаў
Я, каб нідзе ні зморшчынкі, крый Божа!
І з прыкрасцю я тое прыгадаў.

* * *

Фарбы гучалі нотамі,
Гралі акорды фарбамі,
Змучаныя згрызотамі,
Аплачаныя інфарктамі.

Крывёй набрыняла гармонія,
Спальваў сябе імпэт...
Сноб працадзіў: "Какафонія."
"Мазня," – зазначыў эстэт.

* * *

Вось-вось нябёсаў лёгкі шоўк
Рагожай мокраю правісне
І хмара, шэрая, як воўк,
Маланкаю ікласта блісне.

Пакуль жа сонца ўсё пячэ,
Пячэ з рашучасцю адчаю,
І час марудна та́к цячэ,
Што ажно сэрца знемагае.

## ВІНЦЭСЮ МУДРОВУ

*З нагоды дыскусіі ў фэйсбуку*

Мудрацы вялі развагі,
Доўга-доўга вырашалі:
Каб узважваць, трэба вагі
Альбо ўсё-ткі лепей шалі?

Умяшаўся зух сярмяжны:
"Чым вас больш, тым толку меней!
Як узважыць нешта важна,
Гэта можна й на бязмене!"

* * *

О, на лепшае спадзяванні,
Ратавальны самападман!
Вы найгоршыя прадчуванні
Пахавалі не ў дол, а ў туман.

Я, як воз стары пад павеццю,
Мо спатрэблюся шчэ каму?
Мне не хочацца думаць пра вецер –
Вецер часу, што дзьме, як дзьмуў.

Ігар Сідарук



...ніколі не гавары

ніколі...

# У самае сэрца

***Аповеды***

## Магіла

Магіла раскрывалася штомесяц. У перадапошнюю ноч. І штомесяц у гэтую ноч местачкоўцы кідалі туды немаўлятка, не старэйшае за тры гады. Бо так было трэба. Такая была завядзёнка.

Тубыльцы казалі (а болей страшэнна шапталі, вырачыўшы вочы), што ў той магіле ляжыць забітая Баба Маты, якая на зыходзе кожнага месяца ажывае. А мо і не ажывае зусім, аднак патрабуе. Вось такую страшэнную ахвяру. Іначай, калі немаўлятка туды не кінуць, зямля пад мястэчкам дасць неабдымную, поўную агню ды смярдзючага дыму расколіну, і ўсе жыхары Крачынска (так называлася тое мястэчка) – на вякі вечныя praвaляцца туды. Вось так недарэчна паміраць – у пякельным агні ды ёдкіх атрутных клубах – не хацелася нікому. Няхай ужо дзіцяткі гэтыя. Ім што. Яшчэ не жылі – то і хай.

(Адкуль гэта пайшло, хто мог тое пацвердзіць ці абвергнуць – невядома. Ніхто й не спрабаваў. Усе верылі. Так было заведзена спакон, а значыць, і не нам перарабляць. Ці падвяргаць сумневу).

Такім нялюдскім чынам ішло дзесяцігоддзямі. А можа, і болей. Ніводзін чалавек адліку не вёў, засечкі не рабіў. Прынамсі, прылюдна.

І штодзень па мястэчку панура сноўдаліся людзі. Нешта рабілі сваё, гулялі самотныя вяселлі, нараджэнню новых дзяцей асабліва не радаваліся. Дый чаго радавацца? Прыйдзе час, і давядзецца бацькам, унурыўшы галовы ў плечы, сунуцца ў Латарэйную.

Так называўся пахілены, парослы мохам будан. У ім пасярод адзінага цеснага пакойчыка стаяла драўляная прылада. Яна была падобная на барабан з тэлеперадачаў пра markовое шчаслівае лато. І ў тым барабане ўжо загадзя былі насыпаныя паперкі з імёнамі-прозвішчамі немаўлятак для чарговага розыгрышу.

Права крутнуць барабан меў права толькі адзін жыхар мястэчка. І тым жыхаром быў Пракоп Акуменка – самы стары тубылец Крачынска. У такія дні Пракоп нязменна апранаўся ў доўгае, шэрае, спрэс зашмальцаванае радно ды чорныя галёшы. Гаварылі, што ён неяк сустрэў на тых самых злавесных могілках, дзе адбываліся прынашэнні, паўсталую Бабу Маты. Яна падышла да Пракопа ўсутыч, нічога не сказала, толькі ўсміхнулася, бы галодная вар'ятка. А потым патыхнула яму проста ў твар такім невыносным смуродам, што ён не мог ані піць, ані есці яшчэ добры тыдзень ці два.

Яшчэ гаварылі, што нават сам Пракоп не ведае, колькі яму гадоў. Мо дзевяноста восем, а мо і сто чатыры. Затое кожны ведаў, што толькі Акуменку дазваляецца кранаць гэны самы драўляны барабан, перамешваць у ім паперкі ды даставаць вонкі.

У такія напятыя хвіліны ўся публіка замірала і з жахлівым чаканнем сачыла за маруднымі рухамі пракаветнага Пракопа.

Вось ён яшчэ раз акуратна ды з веданнем справы змешвае аркушыкі, зачыняе барабан вечкам з празрыстага падрапанага пластыка, узносіць вочы да столі, мармычучы нейкія модлы, а потым... То адной, то другой рукой ён ляпае ды ляпае па барабане, раскручваючы яго, разганяючы яго, пры гэтым адначасна працягвае ўжо не чытаць, а хутчэй нават скавытаць свае блытаныя модлы, і гэпае, гэпае!.. адной нагой у чорнай галёшы аб падлогу, другой неяк дрыгае ўбок ды раз-пораз б'е, б'е сябе па азадку!.. Да таго самага мігу, калі раптам не закрычыць: "Стоп, п-падлюканскі калаўрот!" і гваздае кулачыдлам па барабане.

Прылада спынілася. Пракоп Акуменка цяжка выдыхнуў, яшчэ цяжэй перажагнаўся. Ды гэтак жа марудна, як і пачынаў, адкінуў нарэшце зашчапку з абадранага вечка. Аброслая рука занырнула ў самую гушчэчу паперак...

Усе, хто быў у буданчыку, напяліся, жанкі пачалі хапацца за мужоў, мужыкі – за жонак.

"– Кацярына Магдалінская! – нават не вымавіў, а выспяваў, бы царкоўны служка, Пракоп імя-прозвішча дзеўчынёхі, якой сёння такі пашчасціла атрымаць свой "выйгрыш".

Нінка Магдалінская, матуля трохгадовай Кацюшкі, як пачула, адразу асела долу. Рыгор Магдалінскі, трымаючы рукой аселую жонку і тым самым не даючы канчальна ёй упасці, ціха прашаптаў, а болей прахрыпеў, гледзячы з-пад ілба на Акуменку: "– Точна?.."

– Точна. Што ж... – з адчуваннем прыкрасці з-за таго, што падверглі сумневу выкананне ім ганарова-непахіснага абавязку, адказаў Пракоп. – Чорным па бе...

Аднак дагаварыць ён не паспеў. Белай, як смяротная папера, была Ніна Магдалінская. Яна ўжо ляжала на падлозе, абапіраючыся локцямі на масніцы. Хтосьці працягваў ёй бляшанку з вадой.

– Не трэба! – злосна бэцнула яна па бляшанцы. – І-ёоо-юууу-аёй! – заскавытала раптам. – Кацю-уушу нашу-уу!.. Дый за што?! Што зрабіла?! Маленькая, радасная, кветачкай у полі-і! – Апошні гук у роце Ніны расцягваецца ў працяглае "й-і-й-і-і-і-і-іі!" – Дык цяпер за...раць тое поле?! Бо стопчуць, зарэжуць, у магілу кавалачкамі пакладуць! Хто сказаў?! Чые парадкі?! Ды я!.. Ды ёй!.. – Страшэнныя вочы Нінкі вылузваліся з арбітаў. – Хто такая, як дзетак нашых, малых кволых-неразумных?.. Мяне, лепей мяне туды! Я буду!.. За ўсіх! І за нашу Кацюшку, і за вашых, крахатульных жэўжыкаў вашых, родненькія вы мае! Ну што ж стаіцё? Што гледзіцё? Скажэце! Дапамажэце!.. Рыгор! А ты? Ты ж бацька! Вось так, ні за што ні пра што – і малую на той свет справіць?!.

Родненькія, аднак, маўчалі. Падобны няўцешны енк чуўся ў Латарэйнай штомесяц. Штомесяц матулі, атрымаўшы свой страшны выйгрыш, і качаліся тут, і верашчалі, і лезлі ў здзічэнні на сценкі. Бо каго ўзрадуе такая латарэя?!. Людзі маўчалі ў спачуванні, а мо і нават у радасці, што абраслая рука Пракопа гэтым разам выграбла з агульнай кучы імя-прозвішча не іхняга малюгана.

І маўчаў, упарта маўчаў Рыгор. Толькі гэтак жа злосна пераводзіў позірк то на напусціўшага на сябе блазнаваты выгляд Акуменку, то на людства, то на жонку, што працягвала біцца ў істэрыцы.

* * *

І наблізілася перадапошняя ноч месяца. Да раскрыцця магілы Бабы Маты заставалася якіх тры ці чатыры чвэрці гадзіны. Над змрочнымі галовамі насельнікаў Крачынска, што стоўпіліся на могілках, перакочваліся хвалямі галасы:

– А Бог ты мой, жыццё тры рублі палова капейкі...

– І не кажы. Усе там будзем. Не малымі, дык старымі безгаловымі.

– Ты, сука, ботам нагу мне адчавіў!

– Я надысь бачыў: варушылася магіла, што твае кілы пасля самагонкі...

– Ото сказаў! Пасля самагонкі – кілам мілотна!..

– Яшчэ кажуць: калі тут да рання застацца – Баба Маты знакам спіну меціць.

– І што з таго знаку?

– Як у пекла трапляеш і чарты бачаць – назад разварочваюць!

– Табе тыя чарты і без розных знакаў мрояцца.

– Ціха!.. Што ж вы на могілках – і пра нячыстае?

– Чыстае-нячыстае – усё адно зжарэ на хрэн гліста!..

– Паслухайце, паслухайце! А точна сёння перадапошняя ноч?!

– Точна! Каляндар маеш, Хаўроша?!

– Гы! Хаўроша – баба хароша!

– Дзе ж тыя Магдалінскія? Ішлі б ужо ці што?..

– А ты б спяшаўся – у дзела такое?

– Ну, людства чакае...
– Ага. Смерці сваёй. Усе тут... Даўбешні!
– Казалі ж вам: не лайцеся!
– А што мы? Мы па-добраму. Не сабакі ж – каб на могілках брахаць.
Раптам натоўп закалыхаўся яшчэ болей. Шчыльны першы рад рассунуўся, і на край магілы выйшаў Рыгор Магдалінскі. На руках ён трымаў аціхлую Кацюшку. Малая, абшчапіўшы тонкімі ручкамі татаву шыю, драмала. За імі сунулася чорная Ніна. Ейныя вялізныя вочы, здавалася, зрабіліся халоднымі азёрамі, што беглі-сцякалі з твару.
– О, прыйшлі, – пачуўся злосны голас за іхнімі спінамі. – А то час!
– Ага! Ну што, малітву нашу?..
– Так, так, трэбачка! – выдыбала наперад бабулька ў белай, што твой калядны снег, хустачцы. Цярэбячы ражкі хусткі, хутка-хутка загаварыла: – Каб, значыць, парадкам, па завядзёнцы. Каб супакоіць... Каб ляжалася... пухам былося... І дабром, благасцю, як жа!..
Аднак перад тым, як пачуліся першыя словы благаснай той малітвы, якую бабулька ў белай хустачцы, відаць, і павінна была зачынаць, натоўп загуў. Адным працяглым, бясконцым, знішчальна-невыносным гукам. Дакладней, мыкам.
– М-м!.. – спачатку ціха, ледзь чутна, замычэлі людзі. – М-мм! М-мм! – потым крыху гучней. – М-ммм! Ммммммм! М-ммммммммммммммммм! – усё гучней і гучней крыў галовы татальны мык. – А-мммммммммммммм! – ужо нейкай звінячай санорнасцю мычэлі могілкі. – Мм-ммммммммммм-мммммммммммммммммммммммм-мммммммммммммм!
І тут у гэтае глыбінна-вымотнае “ммм!” урэзаўся кінжальны крык Рыгора Магдалінскага:
– Ціха-ааа! Закрылі раты свае паганскія! – загарлаў ён, страшэнна свярэдзячы натоўп. – Конча малітве! І ўсяму – конча!
Натоўп, не чакаючы такога нахабнага ўмяшальніцтва ў агульнае патаемства, паступова сцішыўся. Над галовамі чорным коршакам навісла паўза.
Толькі ж нядоўга той паўзе было звінець.
– Малую – не аддам! Ні Бабе Маты, ні чорту лысаму! – прабіваў чарноццем сваіх вачэй людскі гурт Рыгор. – Не бываць, б... – аднак мацерны лай плаўна перацёк у “браточкі”.
– Ты што, ты што! – зараўлі ў адказ. – Падыходзіць час! Кідай!
Да апоўначы і праўда заставаліся якіх парачка-тройка хвілінак.
– Бач, разумнік! Хітрэйшым хочаш быць? Усе кідалі, а ты – не?!.
– Твая малая – такая ж, як і наша! Што, у-ааа, мінулым разам!.. Шолахам шалясным!.. – захрыпела ў паветра тонкая, як і самое тое паветра, Вера Стоцкая.
– Ну! Курр-дупліска! – падтрымаў Веру мужчынскі зык. – Давай, не падводзь обшчаства!
– Вы – обшчаства?! – раптам ашчэрыўся Рыгорка. – Вы – уё...кі смертазабойчыя, а не грамада! Хоць бы раз падумалі галовамі, што дзяцей, дзяцей! – а не абы каго!..
– Дык... Лепей ужо дзяцей, чым усіх тут нас... Да роснай макаўкі!
– Точна! І без следу, без дыму...
– Кідай, давай! Хопіць лякторый талдычыць!
– Давай, Рыгор, не раздражняй людзей! Адна хваля якая ё!..
– А-ё-маё! – людзі, чарней ад ночы, стаялі ўжо да Рыгора ўсутыч.

Толькі бялелі мужчынскія кулачыдлы, толькі крывілі раты бабы. – А ну, канчай свае выпендры!

Рыгор мацней прыціснуў да сябе Кацьку. Нінка, падобная на сшэрхлы цень, зайшла наперад мужу, які трымаў дзяўчо, раскінула рукі, нібы птушка, што падае, падае ды ніяк не можа разбіцца аб зямлю.

Яна марудна раскрыла рот, хочучы нешта сказаць... Раптам парослая мохам магіла заварушылася, уздыбілася, пачала асыпацца пяском, вялізны правал разадраў пасярод яе дзёран, і... чорная як смоль яміна раскрылася.

– А-а-а-ооу! Усё! Зараз усім – будзе кандыбства! Смяртошнасць! Грабабой!..

Толькі ж пасля таго, як яміна раскрылася ды магільная дзірка значна пашырылася, нічога не адбылося. Ні кандыбства, ні грабабою. Мястэчка за спінамі людства як стаяла, так і працягвала стаяць. Не рэзала, не бегла праз усю мясцовасць неабдымная, поўная агню ды смярдзюшнага дыму расколіна. Не валіліся ў яе ўсе жыхары Крачынска, іхнія паселішчы разам з катамі ды сабакамі ды шпакоўнямі на чэзлых дрэвах. Над усім, куды кінуць вока, панавала ціша, спакой...

Людзі, якія спачатку з дрыжэжным жагноццем адступілі ад яміны, зноў марудна пасунуліся да яе.

– Ну, што там?.. – спытаў нехта з задніх радоў хрыпата.

– Ды здаецца, нічога. Ціха...

– Зусім нічога? І нічога не гарыць? Хоць дым які...

– Які табе дым! Сказана ж: нічога!..

І раптам на дне магілы нешта заварушылася. Заварушылася, кранулася, заварохалася.

Сцяпан Рагулька, відаць, найсмялейшы жыхар мястэчка, прысеў на кукішкі, стаў пільна ўзірацца ў глыбінны правал.

– О! О! Падымаецца! Баба Маты! Баба Маты! Яна!.. – усхапіўся на ногі Рагулька ды чамусьці хутка-хутка заляпаў сябе па азадку.

– Рыгор! Паганскі ты га...насмок! Давай! Кідай, каб позна не было і каб ты здох!

Толькі Рыгор малую так і не кінуў.

Ён страшэннымі вачыма, як і ўсе вакол, глядзеў у магілу. З-пад зямлі і праўда нешта выпаўзала, насоўвалася, запаўняла цесную магільную прастору.

– Ну ўсё! Гамон нам! – закаціў вочы той жа хрыпотны тубылец, хто выказваў цікаўнасць да змесціва захавання.

– Ціха! – асек яго Тодар Макаўка, местачковы грабар. Заняўшы месца адступіўшага Рагулькі, ён нахіліўся над магілай. – Дай разгледзець! Ніколі ж не даводзілася бачыць!..

Яно і праўда, раней, да гэтай пракаветнай ночы, магіла хоць і раскрывалася кожнага разу строга апоўначы, аднак яшчэ ніколі Баба Маты не паказвалася людзям на вочы. Прыгатаванае для яе дзіцё бацькі шпурлялі ў яміну, магіла яшчэ нейкі час стаяла раскрытай, а потым вокамігам зачынялася, не раўнуючы як расліна-мухалоўка. І зноў роўна калыхалася на ёй трава, гайдалася ад ветру агароджа...

Але гэтым часам закалыхалася зусім не трава і не агароджа. Чэрава, агромністае чэрава Бабы Маты, што ўзнімалася над месцам вечнага свайго спачыну, велізарнай квашанінай дрыжала, калыхалася пад магілай. І ніхто пакуль не паміраў нават і блізка. Не паміраў, не йшоў струпакамі, не чхаў і не кашляў.

Людзі, якія перад гэтым, паддаючыся інстынктыўнай пульсацыі, адступілі яшчэ на крок, зноў падаліся наперад. Бо кожнаму карцела разгледзець празрыстае чэрава Бабы Маты. Так, яно было празрыстым, і праз тонкую напятую скуру, гонкую, пабітую чорна-сінімі расколінамі, праступалі... дзеці. Маленькія. Карапузікі. Усе тыя дзеці, што былі кінутыя ў свой час у гэтую страшэнную і адначасна свяшчэнную магілу.

І дзеці ў чэраве Бабы Маты, здаецца, былі жывымі. Пераплеценыя, сціснутыя, яны там перакочваліся, перакручваліся, падымаліся да самусенькай паверхні, упіраліся тварыкамі ў скуру жывата. І велізарныя іхнія вочы – прасілі літасці, малілі вызвалення з палону, лучылі татальныя, усеабдымныя і жах, і боль, і крыўды, і прыкрасці, і безнадзейны, што б'е ў самусенькае сэрца, адчай ды роспач. Здавалася, яны нешта крычалі. Бо вялізныя іхнія раты былі раскрытымі, сківіцы на тварах варушыліся, аднак ніхто не мог расчуць ані гуку. Бо велізарнае пуза Бабы Маты трымала ў надзейным палоне гаротнікаў.

Над могілкамі панавала беспрытульная ціша.

І гэтак жа зацята маўчалі ўсе тубыльцы.

Аж пакуль да паверхні жывата Бабы Маты не прыціснуўся тварык дзеўчынёхі з чорнымі броўкамі, абкручаны маленькімі коскамі, і танклявая Вера Стоцкая адразу пазнала сваю дачушку.

– Авой, гэта ж Танюлька наша! – і хацела, і баялася нахіліцца над чэравам жанчына. – Дзевачка, кветачка, рамоначка ты мая, мушка-цыкатушка мілая! Мужчыны! Людзі! – азірнулася яна. – Ну што ж вы? Ды Зрабіце жа хоць што! Дапамажыце, дастаньце Танечку! Усіх дастаньце! Ну!.. Пакуль не позна, пакуль яна тут!.. Пакуль яны тут усе! – і Верачка страхавіта паказала на чэрава Бабы Маты.

– А, вось і Колька! Зайчатка ты нашае!..

– А во і Манюлька! І Юзічак маленькі!..

– І-ёоо! Мой Генік! Ён там! Ён нешта крычыць!.. – падхапілі раптам Верын страшэнны енк многія іншыя. – Ну, і праўда! Што стаімо?! Трэ дастаць іх адтуль!

Натоўп, аднак, не спяшаўся. Яно і лагічна. Няхай зямля не раскалолася, жыхары Крачынска ў велізарны правал, поўны агню ды смярдзючага дыму, не ўпендрыліліся, а тут – на свяшчэннае бруха спакушацца!.. Хто ведае, як абернецца.

І ўсё ж сярод сходбішча знайшоўся-такі смяляк. Ім аказаўся ўсё той жа грабар Тодар Макаўка. Мо што ў жыцці шмат з зямлёй справы меў. А мо надта жаласнымі яму і плач Верачкі, і зыкі іншых мацярок, і выгляд няшчаснай, запакаванай у жывот, дзятвы падаліся.

– Нож ці сякера... У каго? – прахрыпеў Тодар.

– Ёсць, зараз...

Недзе ад задніх радоў над галовамі людзей паплыла сякера. Вось ужо яе перахапілі, хто стаяў бліжэй, вось яна спраўна лягла ў руку Тодара.

І той, не марудзячы... Не, не сакануў. Бо яго руку перахапілі адразу некалькі мужыкоў.

– Чакай, Тодарка. Не гані коней!..

– Што? Чаго вы?.. – закрыўдзіў той. – Дастанем жа!..

– Дастаць мо і дастанем. А што потым?..

– Што потым? Дзеці... Будуць, значыць. Зноў. Жывыя ж там!..

– Яно-та жывыя, але!

– Не раздзерла тут да д'ябла пакуль, а як секанеш – можа, і здарыцца?!.

– Што – здрыцца? – без ранейшага імпэту сціскаў Тодар Макаўка сякерку.

– Тое й здарыцца!.. Сам ведаеш!

– Ды сячы, Тодарка, сячы! – уклінілася ў мужчынскую палеміку Вера Стоцкая. – Даставай, не стой!.. Пакуль яшчэ барухаюцца! Пакуль яшчэ можна!..

– Ціха, баба! – асадзілі яе. – Хто сказаў?..

– Што? – не зразумела Верачка.

– Што можна?

– Я сказала...

– Ты сказала? А як і праўда? Секанем – і ўсё! Кірдык і ўхеранне ўсім!

– Ну! Добра: паднялася яна, і ціша – ага! Спакой, значыць. А хто ведае цюль у цюль? Закранем, парэжам яе, і вось тады – грабабой! Шындрэц канчальны!

– Точна!

– Так і можа быць!

– Не можа, а будзе!

– Хавай сякеру, Тодар! Рызыкоўна ж, тт-ваю маць!

З усіх бакоў могілкі накрывалі змрочныя галасы. Тодар яшчэ пастаяў, паглядзеў на сякеру, задуменна яе пагладзіў. А потым пачаў марудна адводзіць за спіну.

– А-а! Дай я!.. Сама, калі не можаце! – кінулася раптам да Тодара Стоцкая. Бы абцугамі, абхапіла яна танклявымі рукамі сякеру, спрабуючы вырваць. – Вы не мужчыны, а... Баязлюндры нейкія! Га...нажэры нялюдскія!

Баязлюндры і га...нажэры, аднак, адрэагавалі вокамігам. Бліжэйшыя мужычкі наваліліся на Верку, выкручваючы ды аддзіраючы ейныя рукі ад сякеры.

– Верка! А ну, до! Спыніся!

– Яшчэ чаго! Не чэп! – лютавала Стоцкая. Хоць, можа, не так лютавала, як лучылася адчаем. – Я іх сама!.. Высеку!.. Дастану! Дзетухнак нашых!

– Хрэн ты дастанеш! Бо ж не дамо!

– Ну! Бач ты, геройствуе! У дупу тваё геройства!

– Вас, мудачыдлаў поткарваных, у дупу тую!.. Не ляснула, не гэпнула да гэтага нічога – то й пасля!.. – Верчыны пальцы па-ранейшаму цопка ўпіваліся ў сякеру.

– Што – пасля?! Што – апасля?!. Вырашылі: апасля і зараз, і калі там яшчэ – не кранаць!

– А ну, мужыкі, цягніце яе!

Ззаду на Верку наваліліся адразу пяць а мо шэсць мужчынаў. Двое зрабілі захват пад локці, яшчэ двое – схапіліся за шчыкалаткі. Чыесьці рукі пацягнулі за спіну. Таму Стоцкую ад Тодара адарвалі без асаблівых цяжкасцяў. Праўда, пры гэтым яна злаўчылася кагосьці ўкусіць за кулак, за што без затрымкі атрымала ў нос тым самым кулачыдлам, але гэта ўжо так, прыватнасці.

Жанчыну панеслі-пацягнулі некуды прэч, яна па-ранейшаму нешта крычала, гэтак жа зацята ды адчайна. Вось крыкі аціхлі недзе за агароджай, паступова сцішваліся людзі і на могілках. Шмат хто працягваў глядзець на Бабу Маты, на ейнае жахнотнае, усё яшчэ празрыстае чэрава, не могучы адвесці вачэй ад відовішча. Аднак былі і такія, хто ціхенька зыходзіў прэч.

За гэтымі ціхенькімі пайшоў нехта яшчэ, потым яшчэ і яшчэ...

Аж пакуль на могілках не засталося нікога.

Толькі качаліся вялізныя дубы, што раслі тут спакон веку ды зрэдку гублялі з маўклівых галінаў сшэрхлае лісце долу.

Толькі гайдалася ў паветры на нябачных канатах смуродна-харорнае, сінюшна-раздутае цела спаконвечнай Бабы Маты. І па-ранейшаму біліся ў ейны жывот калісьці аддадзеныя ёй навечна местачковыя дзеці.

* * *

На раніцу раскрытую магілу хтосьці акуратна прыкапаў.

Ды яшчэ для надзейнасці заліў шэрым, непрабіўным бетонам. Па ўсім перыметры пахавання.

*Сакавік, 2023 г., Кобрын*

## Двухдаляравік

Мой аповед будзе класічным. Спачатку пазнаёмлю з героем, а потым ужо пачну пра падзеі. Такім чынам, наш герой: Антось Канапушка, звычайны службовец у канторы па горадабудаўніцтве. 27 год, непітушчы, халасты. Раней жыў з мамай, аднак нядаўна памёр адзінокі сваяк, і ягоную кватэрку нейкім цудам перапісалі на Антося. То цяпер ён тут і туліцца. Бо як яшчэ назваць пражыванне на некалькіх квадратных метрах са злучаным санвузлом? Праўда, Антось нікому асабліва не скардзіцца – добра, што хоць такое жытло ёсць. Хай маленькае – ды сваё.

Праўда, асабістае жыццё ягонае нічым адметным не вызначаецца. Маю на ўвазе жаночы пол. Яшчэ са школы Антось наш дзевак асцерагаўся. Сяброўства з імі не вадзіў, на танцулі не хадзіў. Нават парнушку, будучы падлеткам, глядзеў не часта. У студэнцтве таксама – болей па бібліятэках ды кінатэатрах. Ага. Ішоў адзін. Купляў квіток, звычайна на апошні сеанс. Ды спакойна драмаў да канца кінца, таксама недзе ў апошніх радах.

А калі якая маладзіца звяртала сама на Антося Канапушку ўвагу – дык ён, сумеўшыся, рабіў усё магчымае, каб тая ўвага – рассыпалася-раздрабілася ў прасторы незваротна... Не, ніякай нетрадыцыйнай арыентацыі Канапушка не меў. І сексуальная моц ягоная была, што называецца, на ўзроўні. Проста Антося ўсе гэтыя жанocha-пачуццёвыя мітрэнгі не надта цікавілі.

Праўда, на пятым курсе асабістае жыццё Антося атрымала капітальнае ўзрушэнне. Будучы ў чытальнай зале, куды ён звычайна занурваўся па нядзелях, Антось сутыкнуўся ля раздачы з неверагоднай красуняй. “Неверагодная красуня” – для вас, можа, і зацяганыя па розных тэкстах словы. Але для Канапушкі дзяўчына падалася і праўда – да таго прывабнай, абаяльнай і шчымліва-загадкавай, што ён аніяк не мог адарваць ад яе пагляду. Дзяўчына гэта заўважыла, усміхнулася і... Чакала ад аслупянелага хлопца нейкага кроку на збліжэнне. Толькі Антось падобнага кроку так і не зрабіў. Яго білі знутры дробныя дрыжыкі, рукі ўспацелі, язык прысох да паднябення. Трэба ж было нешта сказаць, хоць бы мыкнуць ці што. Толькі ж не гаварылася і не мычэлася!

А дзяўчына... Дзяўчына ўсё стаяла і ўсё гэтак жа шчымліва-загадкава глядзела на яго! Нарэшце, так нічога і не дачакаўшыся, яшчэ крыху

пастаяла, падарыла Антосю красамоўны ўсмешлівы пагляд і, распяхова здаўшы кніжкі бібліятэкарцы, пайшла прэч.

Пасля таго Канапушка яшчэ некалькі разоў бачыў яе. Аднак так і не знайшоў харобрасці падысці, загаварыць, прапанаваць лёгкі шпацыр ці візітанцтва ў бліжэйшую кавярню. Па начах ён часта яе сніў. І былі тыя сны насычаная самай неверагоднай і рамантычнай фантастыкай!..

Хоць і рэальнасць – таксама была напоеная марамі ды ўспамінамі пра красуню-незнаёмку. Пра плечы ейныя ды павароты звонкага цела. Пра вялізныя ўсмешлівыя вочы і лёгкую, пругкую хаду. Пра ўзбуджальны, казытлівы пах веек... – Хоць гэта Антось ужо, хутчэй за ўсё, і праўда намроіў: бо наяве тыя вейкі былі вох як далёка ад Канапушкавых наздрын!..

А потым... Потым універ скончыўся, і Антось назаўжды страціў з поля зроку незямную тую дзяўчыну. Толькі, як высветліцца далей, сапраўды: “ніколі не гавары ніколі”.

Але вернемся да нашага героя ў цяперашняе прабыванне. Усё жыццё яго цікавілі, і апошнім часам асабліва, – выбітныя факты, калі чалавеку нечакана фарціла. Розныя шчаслівыя здарэнні. Імгненні шанцавання. Фантастычны скрут абставінаў, калі раптам – раз! – і здараецца такое, у што адразу і не паверыш. Скажам, ішоў чалавек па вуліцы, праваліўся ў каналізацыйны люк і знайшоў там, сярод бруду і смецця, – залаты пярсцёнак з дыяментам. Ці нехта ў бары піў піва, у куфаль трапіла муха – дык цяпер яму ў тым бары да самага скону будуць ліць пенны напой – бясплатна. Або мужчына на рагу двух завулкаў наступіў на скурку ад банана, з’ехаў на ёй з ходніка на праезную частку ледзь не пад машыну, затое не прайшло і пяці хвілінаў, як ён пазнаёміўся з такой красуняй, што хоць адразу на вокладку *Vogue*. Прычым на тым жа самым месцы праз месяц ён пазнаёміўся яшчэ з адной часопіснаю красуняй, праз два месяцы – яшчэ з адной, праз тры месяцы – яшчэ з адной! Праўда, як мы зазналі вышэй, з красунямі ў Канапушкі нешта не складвалася...

І вось неяк вечарам, перабіраючы ў галаве розныя такія факты, Антось наводзіў парадкі ў старэнькай шафе, што засталася яшчэ ад сваяка ў якасьці сціплае мэбліроўкі маленькай кватэркі. І, кідаючы ўсё лішняе проста на падлогу, Антось раптам пачуў, што сваяковыя зашмальцаваныя шэрыя нагавічкі занадта гучна пляснуліся аб пакарабачаны ламінат. Антось пакінуў у спакоі іншую старызну, падняў нагавіцы з падлогі. Насцярожана абмацаў кішэні. У адной нешта было. Рука слізганула ў кішэню, цопка ўхапіла змесціва. А потым выцягнула на паверхню звычайны кашалёк, карычневы ды абцерты ад часу. “Бач, на спадчыну патрапіў!” – забілася радасна сэрца Канапушкі.

Аднак у наступную хвілю ягонай радасці паменшала. Бо, раскрыўшы кашалёк, Антось нічога там не знайшоў. Акром таго, што ў магалейцы адзінока ляжаў амерыканскі казначэйскі білет наміналам у 2 даляры. Антось акуратна дастаў купюру, угледзеўся ў твар Томаса Джэферсана, які пасміхаўся, як падалося нашаму герою, ледзь заўважна ды іранічна-здзекліва.

“Кажуць, нібы грошы такая купюрка прыцягвае, – успомнілася Антосю чутае пра двухдаляравік. – Ага, яшчэ, здаецца, на шанцаванне?!”

А далей адбылося такое, што Канапушка і сам толкам не змог бы растлумачыць. Хапянуўшы кашалёк, ён крутануўся на кухню, дзе ў патаемнай скрыначцы была грашовая хованка, і выцягнуў адтуль даляравыя білеты

розных наміналаў. А потым дастаў з кашалька Томаса Джэферсана, а замест яго паклаў *one dollar*. Закрыў кашалёк, пачакаў якое імгненне... ды зноў раскрыў. І ледзь не ўкусіў сябе за кулак. Паколькі ў кашальку ўжо ляжаў не *one dollar*, а... Так, сябры мае: *two dollars*, чарговы Томас Джэферсан.

– Ё-маё! Касмалёт, шындзецкі планетарый! – вырваліся нечаканыя астранамічныя тэрміны знутры Канапушкі.

Антось глыбока ўцягнуў ды выдыхнуў паветра, а потым паклаў у кашалёк амерыканскую дзясятку. Закрыў-раскрыў і... Нічога. Поўнае расчараванне. У кашальку ляжалі ўсё тыя ж банальныя дзесяць даляраў. Тое ж самае было і з купюрамі наміналам 20 і 50. І нават амерыканская сотка, нават амерыканская сотка!.. – аніяк не падвоілася ў магалейцы. Затое за кожным разам, варта было Канапушку даверыць кашальку адзін даляр, як ён даставаў адтуль двухдаляравік. Зноў і зноў. Раз за разам.

Нарэшце ён адклаў кашалёк.

Трэба было абмазгаваць такі паварот. Так, велізарнага багацця гэтая штукенцыя не прынясе, гэта ясна. Затое двухдаляравікамі ён цяпер будзе забяспечаны. А значыць, а значыць... І шанцаваннем ва ўсіх справах ды пачынаннях. І ў іншых сітуацыях. Што ж, добра, калі так. Заставалася толькі праверыць на практыцы.

Наступным днём, прачнуўшыся, першае, што зрабіў Антось, дык схапіў са стала дзіўны кашалёчак і паклаў туды адзін даляр. "Чорт яго ведама, можа, учора мроіска якое напала..." ...Аднак меркаванае мроіска хуткаператварылася ў двухдаляравую купюру. "Ну, няхай бы і праўда – пашанцавала сёння! Франтальна ды праграмна!.."

Толькі праграмнае Канапушкава шанцаванне абярнулася тым, што па абадзе начальнік горадабудаўнічай канторы Рыгор Капыценя выклікаў яго на пару слоў, пасля якіх Антось пайшоў з абходным лістом па іншых кабінетах. Ён быў звольнены.

Перад тым, як пакінуць назаўжды будынак, ужо былы горадабудаўнічы зайшоў у мужчынскую прыбіральню, каб памыць палаючы злоснай барваю твар. Памыўшыся, тузануў валік з папяровымі ручнічкамі. І разам з бялютка-хрумсткай прасцінкай – яму проста ў рукі знутры валіка – выляцеў навюткі ды сапраўдны Томас Джэферсан. Так, чарговы двухдаляравік выдаў Канапушку на шчасце шчодры й усеабдымны Сусвет.

"Ну, і на што мне гэта? Можа, усё ж дзейнічае прыкмета?.."

Антось невядома для чаго разгледзеў купюру на святло, а потым паклаў ва ўсё тую ж сваякову магалейку. А калі выйшаў з будынка на вуліцу – на яго з усяго маху наляцеў нейкі дурнаваты раварыст, які чамусьці ехаў па той частцы ходніку, па якой звычайна шпацыруюць мінакі. Ды наляцеў так, што пярэдняе кола капітальна ўрэзала Канапушку ў жывот. Раварыст падхапіўся, нешта гэгэкнуў скурчанаму Антосю ды паляцеў прэч.

А Канапушка падаўся ў бліжэйшую аптэку, каб набыць які болесуцішальны прэпарат, бо ўдаранае месца добра смылела. Толькі ён пераступіў аптэчны парог, як пад нагамі ўбачыў крыху зашмальцаваную... Так, сябры мае, паперку з партрэтам Томаса Джэферсана. Канапушка азірнуўся, схамянуўся, а потым з ціхім крэктам падняў двухдаляравік.

"Што за фігыстыка?! Давай ужо, Сусвет, падкідвай радасці невымерныя ды шансоты канкрэтныя!.. Не можа быць, каб усе гэтыя Джэферсаны – і дарэмна!"

Толькі, відаць, у Сусвета ў тыя дні былі іншыя планы на Канапушку. Паколькі адбывалася наступнае:

– дзіўная спадчынная магалейка па-ранейшаму працавала. Колькі разоў Антось клаў туды аднадаляравую купюру – столькі ж і даставаў адтуль двухдаляравую;

– акром таго, такія ж самыя купюры ён знаходзіў дзе толькі магчыма. У крамах, у падземцы, у скверыку сярод апалай лістоты. На палічцы пад хатнім тэлефонам. Птушка, пралятаючы міма, губляла з дзюбы. У паштовай скрыні – хоць туды дакладна не мог кінуць амерыканскія грошы паштар, паколькі Антось даўно не выпісваў аніякіх газетаў. Нават у дзіцячым вядзерцы, якое стаяла на лесвічнай пляцоўцы ля кватэры суседзяў;

– а вось з самім Антосем дзеілася нейкая чартаўшчына. Мала таго, што ўжо былы інжынер горадабудаўніцтва пасля наезду на яго вар'яцкага раварыста пачаў прыкметна кульгаць на левую нагу. Дык адной раніцы ён апёкся сапраўдным кіпнем, што замест гарачай вады шчодра пачаў ліцца з водаправоднага крана. У крамах яго хацела аблічыць амаль кожная прадавачка. Дваровы найдабрэйшы сабачка Каменьчык днямі так цопнуў яго за нагу, што давялося тэрмінова ехаць у больнічку, дзе шчыкалатка Канапушкі зведала аперацыйнае ўмяшальніцтва з накладваннем трох суворых швоў. Дома ў прыбіральні нечакана трэснуў унітаз ды пачаў працякаць на кафель смуроднай вадкасцю. Падлеткі без дай прычыны з яго рагаталі, а лавачныя зласлівыя бабуленцыі кожнага разу тыцкалі ў ягоны бок пальцамі, калі ён праходзіў міма. А ўчора Антось згубіў пашпарт – прычым і сам абсалютна не ведаў дзе.

“Вось табе й білецікі на ўдачы і шанцоты, – круціла скруха ў такія хвіліны Антося. – Аднак, што я раблю не так? Можа, не так падымаю ці ў рукі бяру? Можа, прыслоўе якое патрэбна?.. Ці нумары асаблівыя на банкноце супадаць павінны?”

Канапушка злазіў у інтэрнет па адказы, толькі нічагуткі там не знайшоў.

І, папраўдзе сказаць, ягоная сутнасць пачала палавініцца. Ён ужо і баяўся знаходзіць дзе толькі магчыма тыя клятыя двухдаляравікі, і адначасна цешыўся думкай, што вось яшчэ адзін, яшчэ адна такая знаходачка – і яму так пафарціць, так папрэ ды пойдзе такое заманлівае жыццё, што толькі трымайся! Толькі штосьці пакуль не фарціла й не перла.

Аж пакуль не здарылася гэткае, што нават цуд, які выдавала сваяковая магалейка з купюрамі, згас у Канапушкавых светлых вачах. Аднаго разу, калі ён меланхалічна сёрбаў астылую каву ў вечаровай пустэльнай кавярні, дзверы расчыніліся і... у кавярню ўвайшла... Ох, сябры мае, так! У кавярню ўвайшла тая самая прывабная, абаяльная і шчымліва-загадкавая ўніверсітэцкая дзяўчына, што бясконцымі начамі прыходзіла ў Канапушкавы сны. Праўда, дзяўчыну цяпер правільней ужо называць жанчынай, але ўся яе прыгажосць, працягальнасць, шарм ды выкшталцонасць – набылі проста фантастычнае ўвасабленне.

Схамянелы, акамянелы Антось, ледзь не разліўшы на сябе рэшткі кавы, неадрыўна глядзеў на яе – на няспраўдажную, эфемерную мару свайго юнацтва.

– Прывітанне! – яна падышла да яго, без запрашэння села насупраць.

Яна лёгка кранулася рукі Антося, і ўвесь свет, рэчаіснасць, прабыванне на гэтай тленнай зямлі – перасталі для яго існаваць.

– Я шукала цябе і ўяўляла!.. – неадрыўна гледзячы на Антося, працягвала яна. – Я не губляла надзеі і верыла, што так будзе. Што адным днём, адным найцудоўнейшым днём зоркі падкажуць, дзе ёсць ты, харошы мой!.. І прывядуць, і зробяць мой шлях – не дарэмным! А нас – вось такіх, на адлегласці дотыку!..

– Я... – толькі й вымавіў перасохлы Канапушкаў рот. – Таксама... рады. І шукаў!

І хоць апошні выраз быў абсалютнай хлуснёй (ну, можа, не зусім хлуснёй, калі за пошукі палічыць тыя ж мройныя сны ды ўспаміны-ўяўленні), аднак яна абрынула на Антося яшчэ большы вадаспад сваіх вялізных азёрыстых вачэй:

– І гэта адзіна правільнае, што ты мог зрабіць! Сцяжыны-дарогі на тое й дадзеныя, каб злучаць нас!

– Ну...

– Антось! Мой мілы Антось! – нібы й не пачула красамоўнае “Ну...” дзяўчына. – Гэта самы залацісты, самы шчымлівы дзень! Ах, я ж не сказала: імя маё – Бернадзіна!

– Дзіўнае якое, – хітнуў галавой Антось. – А ты адкуль ведаеш...

– Я ведаю пра цябе ўсё! Усё жыццё тваё як на далоні, – струменіла ўсмешкі свае Бернадзіна, і ён ад іх млеў, раставаў, ляцеў у вышыні! – Прачута, прасочана, зведана да кропелькаў і штрыхоў! І нават тое, што не дае апошнімі днямі спакою, – ведама мне таксама.

– Што... табе ведама? – адразу вярнулася з вышыняў у напятую рэчаіснасць Антосева душа.

– Гісторыя твая, пра грошыкі, што знаходзяцца. І вярэдзяць цябе, і не даюць ні спаць, ні есці, ні шчасцейка, ні шансаваннейка!.. Адныя непаразуменні!

– Ну... – зноў замыкаў Антось. – Наконт непаразуменняў – гэта, мо, і занадта... Паглядзім яшчэ...

– Не трэба глядзець, не трэба чакаць, харошы мой! Я ўмею, я змагу так, што ўсе шанцы, усе вязенні, увесь зорны небасхіл і палі кветкавыя, неабсяжныя – будуць тваімі! Дазволь толькі адно мне: застацца з табой. І ўсё, што апошнім часам перашкаджае ды хады табе не дае, – вокамгненна прападзе!..

Ох ты ж, што прапанавала Канапушку прыгажуня! Пракаветная мара ягоная! – як думалася, назаўжды прапалая ды навечна страчаная. Самую сябе! Вось так, проста, прысеўшы насупраць. У гэтай звычайнай кавярні, у вечаровы час. Што хочаш мог уявіць ён, толькі не гэткі скрут.

А рот... ягоны рот прамовіў наступнае:

– А-а, кхм... Ведаеш, Бернадзіна... Бадай... так, як сказаць... Ну, карацей...

– Што, што? – яшчэ пяшчотней, яшчэ адданей кранулася ягонай рукі. – Так ты згодны? Ты дазваляеш мне...

– Не! – нарэшце вымавіў ён канкрэтна. – Усё-такі мне болей надзейна, калі ў кішэні... двухдаляравікі гэтыя. А з табой... Яшчэ як сказаць. Палова на палову. А з імі – можа, усё ж пашанцуе. Канкрэтна.

– Антось! Глядзі: гэта ж я! Тая, пра каго ты!.. Так адчайна, так тонка!.. Так настальгічна!.. Яшчэ з той самай бібліятэкі!.. Ты добра падумаў?

– Падумаў, так...

І ён утаропіўся... не, не ў вочы ейныя, а ў сваю філіжанку.

Каб не бачыць, як згас позірк субяседніцы, як марудна-марудна, нібы

рвалася стужка бясконцага, казачнага кіно, адрывала яна руку ад ягонай, як, раптам зрабіўшыся маленькай, самотнай ды непрыкметнай, падымалася ад стала. І каб не чуць, як за ёю з лёгкім ударам званочка над вушаком прычыніліся дзверы кавярні.

Антось уздыхнуў, пачухаў за вухам, адставіў філіжанку з белым сподачкам прэч. Ды ўтаропіўся ў тое месца, дзе толькі што стаяў былы сподак. На стале перад ім ляжалі, акуратна складзеныя ў чатыры разы, навюткія два даляры.

*Красавік, 2023, Кобрын*

## У самае сэрца

І прыйшоў нарэшце той дзень, калі спадчынны камбайнер і трактарыст Алесь Бельскі вырашыў пакінуць на полі вялікае сэрца. У сэнсе не сваё, жывое ды няспынна б’ючае ў грудзях гарачае сэрца, а акуратны, зроблены па ўсіх правілах сенажаці адмысловы выстрыг, які б з вышыні птушынага палёту і сапраўды глядзеўся б як шырокае, адкрытае вольным ветрам ды сонечным нябёсам сэрца.

І дзень прыйшоў, і Бельскі адчуў: сёння. Таму што, яснае дзела, пераеханы экватар лета, такія кароткія ночы і жніво. Але не пік гарачай той пары, калі ўжо ні ўздыхнуць, ні прысесці, а толькі-толькі пачатак. Пачатак – калі няма яшчэ ні першага пракосу, ні адмашкі.

А значыць, Алесева задума – самае тое ды ў час.

...Вечарам, перад тым, як заснуць, ён доўга сядзеў на ганку, узіраўся ў далёкія ды высокія зоры і думаў над прачытаным. А прачытаным была “Гішпанская балада” Ліёна Фейхтвангера. З якой шмат чаго запала Алесю ў памяць, але асабліва словы пра стырнавога гісторыі: «...той нябачны стырнавы гісторыі, які быў адкрыты ў васямнаццатым стагоддзі, у дзевятнаццатым дасканала вывучаны, апісаны і вельмі ўзнесены, з тым, каб у дваццатым быць цяжка абылганым і адрынутым: прагрэс».

Так, Алесь чытаў і чытаў шмат, прычым не толькі Фейхтвангера ды ўсялякіх іншых нямецкіх Кантаў ды Шапэнгаўэраў, але і амерыканскіх, французскіх, рускіх, ангельскіх, японскіх ды іншых Хантынгтанаў ды Фукуямаў... А яшчэ, акром філосафаў, – розных эзатэрыкаў, празорцаў, практыкаў, магікаў ды рэалістаў, нясучых новае святло ды вучэнні. Ад усіх тых кніжак ламаўся стол спадчыннага камбайнера і трактарыста Алеся Бельскага, імі былі застаўленыя ўсе шафы і палічкі, а іншым разам каля стала ўзвышаліся яшчэ добрых два-тры стосы падобнага глыбокага чытва.

І ён усё тое чытаў, выпісваў упадабанае ў таўсматы нататнік, спрабаваў, што называецца, падзяліцца пачарпнутым з тымі, хто быў побач. Праўда, у самой хаце яго ніхто не чуў, калі не лічыць ката Мануіла (думаю, не цяжка здагадацца, у гонар каго названага). Кот на ўсе тыя развагі толькі соладка вуркатаў, відаць, задаволены такім бязмежным розумам свайго гаспадара.

А вось хто быў не задаволены ніяк і нічым у спосабе жыцця Алеся, дык гэта ягоная жонка Нінка – дакладней, у афіцыйным статусе жонка ўжо былая. Спачатку яна слухала мужа ды ўсе ягоныя падводы ды спосабы ўладкавання светабудовы. І слухала надта ўважліва, нават тайна ганарылася ім, такім разумным і мудрым. Але з часам усё гэта звычайна і па-бабску

надакучыла. Прычым добра б толькі адна філасофія ды іншае мудрагельства. Дык ён пачаў вучыць яе, як правільна жыць, дыхаць і харчавацца. А Нінцы таго "правільна" не хацелася. Ёй хацелася добрай лусты мяккага хлеба, белага сала і гарачай катлецiны, а ў шчасную хвілю – і чарачку магла кульнуць толькі так. Алеська ж чарачак не куляў. Увогуле. Не піў і не браў хоць бы кроплі якой для смеху. Што дома, што ў гасцях, што на вялікім калгасным падворку, дзе, бывала, наступаў такі час, што без гарэліцы ці самагоніцы – не абыходзілася; нават дурным лічылася – не храпнуць.

Вось Алеську шмат хто за дурня й лічыў. А з дурным жыць – якая бабская сутнасць захоча. Карацей, пайшла Нінка ад яго. І не толькі з прычыны прынукі чытання Фейхтвангера з Шапэнгаўэрам. Не толькі за мудрыя развагі ды суворы пагляд вачэй у такі час. Як аказалася, і цвярозасць Алесева ёй не падабалася, і тое, што кампанейшчыны не вадзіў, і што з нейкімі невядомымі кабетамі па тырнэце перапісваўся. Што за кабеты, што за лярвы такія, га?!. Бывала, і прападаў некуды, яснае дзела, да каго матаўся. А пачынала з ім гаварыць ды раўноты паказваць – толькі рагатаў ды на ложак яе потым перакідваў. Або маўчаў глыбакадумна...

Дый з грашыма меў справу не па-людску: у банк пасялковы пасля палучкі толькі зрэдзьчас насіў, а болей праз той жа тырнэт на нейкі Форэкс залазіў ды шандыхляў там туд-сюд. Хто ведае, як там дзела ішло; раз было, пачаў штосьці Нінцы пра нейкі фонд акумуляцыйна-інвестыцыйны чаўпсці, але яна на яго так страшна ды злосна ў гэты час глядзела, што болей пра тое Алеська не заікаўся. А меў ён з таго Форэкса грошы ці не – невядома. Праўда, аднаго разу нечакана паехаў-сарваўся на раён і там дамку дзіцячаму пяць мільёнаў ахвяраваў. І адкуль узяў – не сказаў. Сказаў толькі, што такім гаротным дзеткам грошы больш патрэбныя. У Нінкі, каб у гэты момант была ў руках жалезная палка, – забіла б яго, ей Бо! Сваіх родных дзетачак у іх не было. Можа, яшчэ і за гэтага разыходзіцца было не так цяжка.

Значыць, пайшла Нінка ад патомнага камбайнера і трактарыста Алеся Бельскага. Спачатку збегла да маці, а потым пачала жыць з бухгалтарам з канторы Міхалам Трыбульскім, чалавекам простым, чэсным, зразумелым. Ну а на хату, збудаваную разам з Бельскім, яна не прэтэндавала. "Ды гары яно!.." – сказала толькі ў той восеньскі дзень, калі канчаткова вырашыла сысці ад былога мужа, ды плюнула яму пад ногі.

"Не плюйце ў калодзеж!.." – як мага спакайней адрэагаваў Алесь, застаючыся адзін: са сваімі замарочкамі, кніжкамі, адвечнымі ісцінамі ды катом Мануілам.

І вось учора ноччу ён глядзеў на зоркі ды разважаў, пранікаўся сакральнымі думкамі й патаемнымі, працінальнымі скразнячкамі самымі чыстых й светлых пачуццяў. А сёння адчуў, што не зможа пачаць жніво, пакуль не зробіць гэтае самае сэрца. Мерна завуркатаў камбайнаўскі рухавік, і Алесь націснуў на понажы. Машына выехала на самы ўскраек поля, а з неба лілася немагчыма празрыстая, чыстая сінеча. Зяленіва тонкіх бярозак біла ў вока з блізкага пералеску, і так пахла спелым жытам навокал, што здавалася, менавіта з гэтым пахам ты калісьці нарадзіўся на свет і менавіта з ім – з гэтага свету пойдзеш.

Толькі з якога пераляку збірацца ў апошнія анёлакрыльскія палёты, калі нагам так хочацца кранацца зямлі, і самы цымус – з раніцы басанож па

прахалоднаму роснаму сену; а ў тым пералеску, адкуль зелянеюць бярозкі, ты ведаеш кожную кропку прасторы, і сярод гэтай прасторы – ты сам, асвечаны сонцам, высокай травой і пералівамі маленечкай птушкі, што так упарта вісіць цэлы дзень у самым зеніце твайго сусвету.

Алесь ведаў, мог з заплюшчанымі вачыма кіраваць сваім "Палессем GS12" так, каб паласа, якую ён клаў, была роўнай, чыстай, акуратнай. І яна была менавіта такой: што твой след ад ляза суперовай брытвы падчас натхнёнага перадсвяточнага галення.

Бельскі рабіў сваё поле яшчэ прыгажэйшым, ён зліваўся з камбайнам, з зямлёю, з пракладзенай стужкай скрозь жыта. Яму хацелася... Урэшце, шмат, шмат чаго хацелася Бельскаму. Каб гэтая паласа, каб гэтая стужка... Птушкі яе пабачаць, родныя, мілыя птушкі; а людзі – няхай адчуюць. Успомніліся дзеткі з дзетдома – у іх такія вялікія, такія азёрныя вочы. Вочы, поўныя шкадобы, надзеі, немагчымага даравання, адзінокай веры і чакання. Успомніліся жанчыны, з якімі вёў ліставанне, – з іх нерастрачаным розумам, які паступова чэзне без патрэбы; з іх дзіўнаю, далікатнаю прыгажосцю, якая загадкавай пунсовай ружаю крывавіць на снезе. Успомнілася таксама і дзедава смерць, які памёр неўзабаве пасля таго, як яго парэзаў зяць-алкаголік. Секануў нажом па лбе, так, што агалілася нават костка чэрапа. У міліцыю не заяўлялі, пашкадавалі прыдурка. Але дзедава сэрца не вытрывала такой абразы, разарвалася праз два месяцы – шырокі інфаркт. Прайшло колькі год – і дачка, Алесева цётка, ужо ў разводзе, сама спілася дашчэнту, пакуль не загінула страшнай смерцю: згарэла ў зачыненай знутры хаце разам з такімі ж, як і сама, апушчэнкамі.

Толькі Алесь ведаў: пра благое думаць не варта. Таму дыхаў як мага глыбей, усміхаўся шырока: кожнаму коласу і грудку, кожнай сцябліне і кожнай дэталіне сваёй ураджайна-збіральнай машыны. Работы заставалася на паўхвіліны: ягоная задума праступала наяве. Яшчэ якіх паўметры, каб злучыць паўкружжы шырокай, роўнай, прыгожай задумы ў самым нізе – і ўсё! Можна будзе з пяючай душой распачынаць і вяршыць, доўжыць, класці далей жніво. Заставалася, што называецца, спыніцца ў самым вастрыі гэтага палявога, раздольнага сэрца і тым самым паставіць канчатковую кропку ранішняй, натхнёнай справы.

І камбайн сапраўды спыніўся.

І ў тое ж імгненне здрадліва хіснуўся, нахіліўся рэзка ўбок, а матавіла раптам дало нырца глыбака ўніз. Яшчэ міг – і Алесь ужо ведаў: яго элементарна засмоктвае. Так, засмоктвае, зацягвае, імкнецца забраць разам з машынаю – тая самая апошняя кропка на рукатворным сэрцы, месца злучэння, пункт адліку палявой прасторы і жніва.

"Што такое?! – маланкаю джыганула ў мазгах. – Тут жа роўная, чыстая глеба! Ніколі – аніякай багны ды іншай вільготнай трасцы! Сто разоў гэтае месца заворваў, сто разоў тут жыта-пшаніцу малаціў!"

Але так было: камбайн паглыбляўся ўсё болей. Ужо цалкам патанулі ў зямлі шырокія колы, увесь корпус дрыжэў, рухавік скавытаў, паколькі Алесь як мог цiснуў на газ, хацеў вырваць хоць як "Палессе" са смяротных чорных абдымкаў. Аднак учэпістая, няўмольная сіла зямлі нават не заўважала тых напружаных, нечалавечых высілкаў.

Зразумеўшы, што сілаю рухавіка з гэтага праклятага палону яму не вырвацца, Бельскі хутка спыніў матор, выскачыў з кабіны. Сарваў са скабаў жалязняк, кінуўся да камбайна, адчайна ўсадзіў у зямлю бліш-

частае лязо, пачаў адкідваць глейкую гразь. Але яна лезла, напірала з-пад зямлі, засмоктвала не толькі жалязняк, але і Алесевы ногі; ён ужо не мог паварушыцца, спрабаваў адкапаць не толькі камбайн, але і самога сябе – ратаваў адначасна і жыццё агульна-грамадскай маёмасці, і жыццё ўласнае. Нарэшце так-сяк выдраўся, адбег, пачаў шукаць поглядам хоць бы якога дрына, хоць бы якой сухастоіны. Толькі бярозавы пералесак быў адсюль надта далёка: пакуль дабяжыць, пакуль вернецца – нялюдская глеба засмокча камбайн, зацягне цяжэзнае жалезіва беспаваротна.

І зноў кінуўся Алесь з жалязняком да колаў (урэшце, да якіх колаў?! іх даўно ўжо не было бачна), у гразістым хліпаценні схавалася і матавіла, корпус камбайна знік пад зямлёй напалову; і Бельскі не прыдумаў нічога лепшага, як зноў застаўбурыцца ў кабіну, зноў завесці ды пякельна напружыць рухавік "Палесся".

Матор і праўда завёўся, узвыў, заскіргечыў, заклякатаў, горача закалдырмачыў; камбайнерыя торкнулася... Каб яшчэ болей убіцца ў глей, яшчэ болей зачавіцца і задыхнуцца граззю.

Усё далейшае развівалася імкліва і непапраўна. Чорная зямля, перамяшаная са зжатымі сцяблінамі, зернем, каласамі, паднялася бруднай масай да самай кабіны камбайна, пачала чавіць ды навальвацца на шкло; Бельскі яшчэ паспеў выбрацца з кабіны, узбіцца на яе дах. Але не скочыў долу, а, задыхаючыся ад напругі, плюючыся пяском ды потам, біў, ламаў пальцы і пазногці, учапіўшыся ў жалеззе ды спрабуючы выдраць!.. выдраць яго!!. ды не даць адабраць камбайн – нечаму пякельнаму, страшнаму, усёпаглынальнаму.

Раптам нехта нябачны рэзка тузануў, пацягнуў з д'яблавай сілай – недзе з глыбінь, з самага нізу. І знікла ўсё ў гэтай кропцы зыходу. У гэтым злучэнні сардэчных паўкружжаў, там, дзе спадчынны трактарыст ды камбайнер Алесь Бельскі нават і падумаць не паспеў: хто ж цяпер будзе карміць ягонага сіротнага ката Мануіла?..

І толькі ў высокім, адвечна сінечным небе маленькая птушка шчыра хіліла вачаняткі-пацеркі да зямлі ды пяяла і пяяла сваю бясконцую, чыстую, сваю няўмольную песню.

*27.03.2010 г.*

## Мураш

З сярэдзіны красавіка добра прыгрэла, і Геніка Макрэцкага пачалі няшчадна лупцаваць кветкі. Ну як лупцаваць. Выйдзе ён на вуліцу, толькі датэпае да якой клумбы – і адразу пляснецца тварам проста ў цюльпаннае полымя ці ў нарцысавую жаўцізну. Нібы спрацоўвае магутнае прыцягненне. Якому супрацьстаяць у Макрэцкага нямашака аніякіх сілаў.

Ды гэпнецца ў кветкі не проста абы ўпасці, а раскрываніць-раздзяўбе твар так, што на людзі – і не паказвайся. А тым – абы зняславіць, паяхіднічаць.

– О, Генік! Хто табе так твар налімоніў? Ну, цяпер чысты абраз – хоць маліся! Улез, дзе покерфэйсы на будзь здароў мяняюць?!

Гэтак маглі сказаць Геніку ў вочы. То яшчэ па-добраму. А за вочы – дык і жорстка.

"Бач, як вачыдлы залівае! Так нажыраецца, што зямля сама цягне! Во, зноў мардуленцыяй – у кветнік застаўбурыўся!" – праводзілі чарговы кантакт Генікавага твару з кветкамі аматары тачыць языкі.

Самому ж Геніку было і балюча, і крыўдна. Балюча – тут ясна: кожнае такое непераадольнае падзенне заканчвалася разбітым лобам, гузамі ды сінякамі. А крыўдна: ну ён жа абсалютны цвярознік – а тут пляткараць такое!..

Нарэшце, калі чарговым ранкам Генік з асцярогай выйшаў з дома і ўсё паўтарылася дакладна, як і раней: толькі ён наблізіўся да свежай купкі залацістых дзьмухаўцоў – як невядомая сіла сваёй цвёрдай рукой прыўзняла яго над зямлёю ды капітальна ўкантачыла ў гэтыя самыя дзьмухаўцы, ды так, што Геніку заняло дых, ужо не кажучы пра абадраную скуру на шчоках ды расквашаную губу, – вось тут наш герой прыняў канрэтнае рашэнне: ва ўсім разабрацца.

Аднак з чаго пачаць тое разбіральніцтва? З дактароў? Хм, і што яны скажуць? “Навуцы ды медыцыне такія дзіўныя факты невядомыя...” А калі невядомыя, то й Вікіпедыя тут не падмога. Хоць на ўсялякі выпадак Генік розныя гуглы ды рамблеры аблазіў. І – нічога не знайшоў. Ну нідзе не было аніаднюткае згадкі, каб нехта хрэпаў-бэцкаўся – і тварам у кветкі!

А што, калі ўсе панішчыць? Вырваць, стаптаць, заліць смалой гарачай. Каб ні знаку, ні следу. Каб ніводнай кветкі-былінкі на ўсіх акаляючых абшарах. Але ж і падобнае – зусім не выйсце. Бо нерэальна. Неажыццяўляльна. Не атрымаецца так, каб да апошняй кветачкі, сцяблінкі. Усё роўна палезуць, заразы. Павытыркаюцца з кожнай шчыліны. Нават адтуль, дзе й не было раней.

А значыць, трэ было шукаць спосаб іншы.

Але, які?! Хто дасць адказ?

– А я, шаноўны Генадзь Макрэцкі, – пачуў раптам Генік ціхі галасок, калі пакутліва вырашаў сваю задачу, седзячы ў скверыку на адзінокай лавачцы ды папіваючы свой улюбёны энергетык “Рэд Бул”. Ён што, услых апошняе сказаў? Пакруціў галавой, галасок чуўся недзе з-пад нагі.

– А?.. Што?.. Хто тут?

– Я, я!.. Сюды зірні, – па-ранейшаму чулася знізу.

Генік апусціў галаў. Напружыў вочы. І нарэшце ўбачыў, як па ягонай калашыне паўзе даволі вялікі мураш. Дакладней, нават не мураш, а мурашыха. Што гэта мурашыная матка – Генік вызначыў па тым, як выглядала кузурка: даўгаватае тулава, вялікія крылы – ён калісьці нешта такое чытаў пра гэтых насякомых. Але не вялікія крылы ўразілі Геніка.

– Ты?.. А, ну!.. Так... Бачу. Але як?..

– Звычайна. Пра тэорыю хваляў – чуў?

– Ну... Нешта.

– Ага. Таму і мяне чуеш. Мы можам пры неабходнасці ствараць рэзананс. З чалавечым слыхам. Прынамсі, бабуля мяне вучыла. Я запомніла.

– Ясна, – Генік аніяк не мог даць веры таму, што размаўляе з мурашкай. Хоць ясна яму было пакуль зусім мала, калі не сказаць – нічога. Аказваецца, і мурашы ўмеюць... Вось табе й Вікіпедыя!.. – Дык што ты хацела...

– Што хацела? Я, шаноўны Генадзь, яшчэ болей злая на цябе, чым гэтыя кветкі, што так спрытна ў лоб табе даюць!.. – мурашыны танклявы галасок раптам набыў суворыя адценні. І хоць кузурку было амаль не чутно – гэныя адценні Генік выдатна адчуў.

– І чаго гэта? За што на мяне злавацца? Што я табе зрабіў?

Мурашка прапаўзла яшчэ некалькі сантыметраў вышэй па калашыне штанулёў Геніка.

– Мне ты, бадай, нічога не зрабіў. А вось майму партнёру, так бы мовіць, па інтымных кантактах – яшчэ як зрабіў. Расціснуў ты яго. Бязжальна ды беззваротна.

– Я? Расціснуў? Калі? – Генік зноў шырака сербануў з бляшанкі “Рэд Булу”. – Не памятаю такога.

– Што ж памятаць. Ты нават не заўважыў, – яшчэ большай крыўдай набрыньваўся галасок мурашыхі. – Каля дома свайго. Неяк раніцай. Выйшаў вось з такой жа бляшаначкай, як цяпер тымаеш, ну й... Абцасам боцікаў сваіх. Ля цюльпанавае клумбы. Ён нават і не крэкнуў.

– Ніколі не чуў, каб мурышшы крэкалі, – зусім не да месца заўважыў Генік. Але ў наступную хвілю спытаў іншае: – Ну, дапусцім... Але пры чым тут кветкі і іхняе біццё па твары маім?!

– А пры тым, што так я ім загадала! Мы ж – лічы, адна сям’я. А ты не даў мне шанцу на размнажэнне і павелічэнне нашае мурашынае сям’і! Бо толькі гэтая асобіна-самец мела ўнікальны размнажальны код, які па ўсіх паказальніках супадаў з маімі генетычнымі набыткамі!.. І я – цяпер ад гэтага – бязмежна пакутую, паколькі не магу здзейсніць накавананую мне на Зямлі місію!

“О як! – падумаў Макрэцкі. – Бач, місію яна выканаць не можа. Мураха ты здурэлая. Можа, і цябе тут расціснуць, падлючка ты дробная?!”

Аднак, своечасова ўспомніўшы, што тым самым ён аніяк не спыніць кветкавы бязлітасны бой па ягоным твары, падобны намер ён адклаў на пазней.

– І што я магу цяпер зрабіць? Чым дапамагчы?

– Вось ты якраз можаш і зрабіць, і дапамагчы. А я – табе, – мурашка сядзела ўжо на ягоным калене. – Справа такая. Як высветлілі нашы рабочыя-даследчыкі, склад тваёй спермы на 95,6 адсоткаў супадае са складам семяннной вадкасці таго самага самца, якога ты так неабачліва расціснуў. Таму далей будзе так. Зараз я табе прадыктую рэцэпт нашага мурашынага амброзіва. Нічога складанага, нават малы згатуе. Але ты ў нас не малы, во які бэйбус! Таму пасля прыгатавання будзеш туды дадаваць ма-аленечкую кропельку сваёй спермы.

– Што-о? – зноў ледзь не задушыў мурашыху Генік, але з апошніх сілаў стрымаўся. – Ты здурэла?!

– Зусім не, – спакойна адрэагавала кузурка, разгарнуўшы ды зноў склаўшы празрыстыя крыльцы. – І табе прыемна, і мне карысць. Вялікая доза мне выйдзе бокам, а за некалькі тыдняў я набяру якраз неабходную канцэнтрацыю, каб апладатварыцца і даць паўнавартасных нашчадкаў, здаровых і новых мурашоў. Пакідаць абмрозіва будзеш тут, пад гэтай самай лавачкай. Штораніцы, не пазней а дзявятае гадзіны.

– Навошта такая дакладнасць? – невядома для чаго спытаў Генік.

– Не забывай, з кім маеш справу. Мы – мурашы, а значыць, любім і жывём па сваіх строгіх і дакладных графіках. Ага, як толькі неабходная канцэнтрацыя збярэцца – кветкі біць цябе перастануць. Маё табе каралеўскае слова!

Ад усяго пачутага галава Геніка ішла кругам. Фантазм і сюр нейкія! Фантасмагорыя. А можа, ён ад несканчальных кветкавых сутычак бобам паехаў?! Ён зірнуў на руку, пералічыў пальцы. Пяць. І на другой – пяць. І навокал – слыннае мястэчка Крачынск. І на дварэ – 27 красавіка 2023 года. І ўжо створаны штучны інтэлект. І ён, Генік, размаўляе з мурашкай.

Ага, можа, таму і размаўляе, што ўжо штучны інтэлект створаны? І, урэшце рэшт, трэба спыніць гэтае прыкрае мордабіццё – прычым скіраванае канкрэтна на яго, Геніка Макрэцкага?!

Сонца прыгравала, думкі блыталіся. Мурашка, седзячы на ягоным калене, варушыла вусамі-антэнамі ды чакала.

– Значыць, амброзію з маёй... Тут, штораніцы? Не пазней а дзявятай? – перасмягла перапытаў-удакладніў Генік.

– Так. Усё правільна, – зноў варухнула вусікам мураха.

– А калі я захварэю? Ці са мной што здарыцца?

– Не маеш права.

– Ну, усялякае бывае...

– Шаноўны! Ты мне зубы не замаўляй, хоць яны і маленькія. А лепей давай вырашаць нашы з табой праблемы. Культурна, дакладна і планава.

– Ну... – цягнуў час Генік.

– І ніякіх “ну”! Або пагаджайся, або... Твае сустрэчы з кветкамі могуць павярнуцца так, што ранейшыя – і праўда пакажуцца кветачкамі. А я магу! – нават не сумнявайся.

Генік злосна зіркануў на мурашыную каралеву.

– Добра! Чорт з табой. Будзе табе... амброзія.

– Вось і добра. Складнікі яе такія...

*

Усе наступныя дні Генік штораніцы тэпаў да гэтай самай лавачкі ды пакідаў пад ёю малюсенькую бляшаначку з густаватай вадкасцю амаль без паху. Яна, праўда, аддавала крыху хвояй, крыху ваніллю – але чаго ў ёй дакладна не адчувалася, дык гэта мужчынскіх інгрэдыентаў. Дый ясная рэч – з такой мізэрнай канцэнтрацыяй!

Не сказаць, каб працэдура стварэння дзіўнай мурашынай амброзіі надта абцяжарвала жыццё Геніку. І ўсё ж было ў ёй нешта прыніжаючае, нікчэмнае, крыху гідкае. Калі не ўдумвацца – дык штораніцы здаровы па ўсіх стаццях мужчына задавольваў сам сябе, а потым яшчэ корпаўся над гэтым усім з піпетачкай, а калі ўдумацца – дык адбывалася падобная дзея, каб задаволіць загады-прыхамаці нейкай пакрыўджанай жыццём мурашкі. Ну, можа, і не жыццём, а ім самім, Генікам, як тая ж мурашка сцвярджае, але хто цяпер праверыць, ці праўда гэта?

Між тым вясна набірала ход, усё буяла; і тут лагічнае яшчэ адно пытанне: а што Генікавы сустрэчы з кветкамі? Ну, па-першае, ён за гэты час налаўчыўся выбіраць такія маршруты, каб ягоныя сустрэчы з раслінным светам былі максімальна рэдкімі. А па-другое, калі такія спатканні ўсё ж здараліся, дык падзенні ў жорсткія кветкавыя абдымкі за кожным разам рабіліся не такімі пакутнымі ды жахлівымі. Абыходзілася нават без сініх да чарноцця гузакоў. Відаць, не схлусіла яму тады мурашыная матка.

І ўсё ж Генікава душа бунтавала, паўставала, ёй так і карцела выкінуць чорны пірацкі сцяг. Асабліва ў такія дні, калі працэс атрымання, так бы мовіць, асноўнага інгрэдыенту мурашынай амброзіі па спецрэцэпце даваў прыкры і такі ж ганебна прыніжаючы збой. А што вы хацелі: калі штораніцы займацца падобным – у любога збой можа здарыцца. А калі яшчэ над табой дамінуе жорсткае “вазьмі ды пакладзі!” – тут, сябры мае, зусім не пазайздросціш.

Карацей, калі Геніка напаткаў чарговы такі збой, ён прыняў рашэнне.

Не прымушаць свой арганізм да ненармальнае, у прынцыпе, ранішняй дзеі, а ўжыць банальныя жыццёвыя хітрыкі. І замест пэўнай мізэрнай долі сваёй арганікі – Генік дадаў у гатаваную амброзію арганікі... (А можна, я не буду выкрываць Генікаву таямніцу? Баюся, яна вам не спадабаецца. Тым больш, калі сярод чытачоў – будуць шаноўныя кабеты. Дастаткова, што скажу: на выхадзе ў Геніка атрымаўся падман, але падман лічы што нябачны ды нераскрывальны. Прынамсі, так думаў ён сам).

Наступным днём, як звычайна раніцай, Генік спачатку купіў у кіёску чырвона-чорную бляшанку “Рэд Булу”, а потым, на хаду адкаркоўваючы, патэпаў да вызначанай лавачкі. Тут паклаў на траўку прыгатаванае гадзінай раней. Аднак не паспеў зрабіць першы глыток энергетыка, як пачуў ужо знаёмы танклявы галасок з-пад лавачкі:

– Ты што, здурэў?! Таварыш ты наш дарагі Макрэцкі! – мурашыная матка, якая ўзялася невядома адкуль, учапілася ў ягоную калашыну. – Падманам вырашыў шлях сабе торыць? – мурашка рашуча перапаўзла вышэй. – Ты што дадаў у амброзію?! – каралева мурашоў ужо сядзела на рамяні ягоных штанулёў. – Што гэта за атрута конска-забойчая?! – паўзла па руцэ Геніка кузурка. – То так ты дамовы нашай трымаешся?! – вялізная мурашыха, хутка-хутка перабіраючы лапкамі, ускараскалася на бляшанку “Рэд Булу”. – Ну, Генік! Ну, алхімадрыт ты наш! – Здаецца, ён ужо бачыў вачаняткі каралевы насупраць сваіх. – Эх, такое патомства сапсаваў падлюганствам сваім! – мурашка ўскараскалася на самы верх бляшанкі. – Усё, не прыходзь сюды болей і бывай здароў, Генадзь Макрэцкі! – кузурка адарвала ад бляшанкі заднюю частку цельца, нібы хацела прыўзняцца на пярэднія лапкі, крыху вось так пагайдалася з паветры, а потым, раскрыўшы празрыстыя крылцы, прашамацела прэч.

Генік, які на працягу ўсяго гэтага раззлавана-крыўднага маналогу мурашынай маткі не паспеў нават уставіць і слоўка, аблізаў ад хвалявання перасмяглыя губы, а потым глыкнуў вялізны глыток энергетыка. І лепей бы ён гэтага не рабіў.

Наступным днём ён адчуў нейкія дзіўныя перамены ў целе. Яно страціла першапачатковую пругкасць, суглобы ды цягніцы не слухаліся, іх выкручвала ды сціскала. Яшчэ праз дзень Генік з жахам пабачыў у люстэрку не сваё звыклае аблічча, а нейкі сцягнуты, сухі твар. Валасы зрабіліся ломкімі, пачалі выпадаць. З рук і ног кудысьці пачало знікаць мяса, адныя танюткія жылы апляталі канечнасці.

Генік спужаўся так, як не пужаўся ніколі. Ледзь трапляючы ў рукавы куртачкі, якая раптоўна зрабілася непамерна яму вялізнай, апрануўся ды пашыбаваў у лякарню. Але там, зрабіўшы розныя рэнтгены ды замеры, медычныя спецыялісты толькі развялі рукамі ды параілі ехаць у вобласць.

Аднак у вобласць ён так і не паехаў. Паколькі яшчэ праз дзень са спальні выпаўз... Хм, хм!.. Са спальні выпаўз зусім не Генік Макрэцкі ў звыклым сваім чалавечым абліччы, а стопрацэнтовы, сапраўдны мураш. Вялізная кузурка той раніцой паўзла да ванны, каб з жахам глянуць у праклятае люстэрка, каб канчаткова пераканацца і ўпэўніцца, што з ім надарылася такая прыкрая, гідкая, гнюсная, агідная, вынішчальная перамена.

І, каб Генік яшчэ мог валодаць чалавечым голасам, смертазабойчы крык рассек бы ўвесь дом, усе трынаццаць ягоных паверхаў.

Увесь травень, а потым і лета Генік спрабаваў знайсці акаянную тую

мурашыную матку, каб дамовіцца, растлумачыць, павярнуць усё назад. Ён аблазіў усе бліжэйшыя пагоркі, сцежкі, траўныя поплавы ды гарадскія клумбы. Усё было дарэмна. На зыходзе дня, калі мурашыныя ланцужкі цягнуліся ў свае сховішчы, нейкі новы невядомы інстынкт цягнуў яго таксама ўліцца, далучыцца да гэтых ланцужкоў, але з апошніх сілаў ён супрацівіўся гэтаму парыву ды заставаўся начаваць у сваёй норцы, якую выкапаў якраз пад той самай лавачкай, дзе калісьці сустрэўся з мурашынай каралевай. З надзеяй, што рана ці позна яна таксама аб'явіцца тут. Толькі ўсё было дарэмна.

Часам яму было холадна, часам ён пацеў. Ён змакаў пад дажджом, а потым, выцягваючы лапкі ды круцячы галавой, забурваўся ў якую кветчыну (цяпер яны з ім суіснавалі міралюбіва) і сушыўся на сонцы. Добра, што лета выпала цёплым, і сонечных промняў было паўсюль шмат.

А з сярэдзіны верасня сонца паменшала, і мураша Геніка Макрэцкага зноў пачалі няшчадна лупцаваць кветкі.

*Красавік, 2023, Кобрын*

## “Со зым?”

Церусіў дробны дождж, уздоўж шашы клаліся працяглыя пасмы туману. І хоць на дарозе нікога не было, Пятрук міжволі напружваў вочы: ці мала што. Паабал шашы стаялі высачэзныя елкі. Да горада заставался кіламетраў сем. Ён вёз з Гродна старэйшай дачцэ Яне ноўтбук – сваяк расстараўся, прывёз зусім танны з Польшчы. Але й магутны, што звер! У апошні момант, ужо перад ад'ездам, заскочыў у краму “Цацкі”, купіў для малодшага Уладзіка яркі трохколавы роварчык. А то будзе крыўдзіцца: для Яны вунь якое багацце, а яму што?!.

Дарога пайшла пад ухіл, туман стаў гусцейшы. Пятрук, неадрыўна гледзячы на шашу, перабіраў станцыі: стэрэамагнітола ўпарта выдавала абы-што... Раптам на завароце ўбачыў, як штосьці мільганула за некалькі метраў ад машыны. Рэзка вывернуў руль і адразу адчуў глухі ўдар аб бампер. Але ўдар быў не гучны. “Дай Бог, каб мімаходзь!..” Пятрук вырубіў рухавік, выскачыў з машыны. На асфальце ля пярэдняга кола сядзела, падціснуўшы лапкі, зайчанё, дробна дрыжала і часта-часта дыхала. Падышоў да зверанятка, нахіліўся, крануў. Здаецца, было цэлае і не параненае. Абышлося!..

Пятрук раптам адчуў спінай нечы пільны пагляд. Азірнуўся, угледзеўся скрозь туман на дарогу і ў лес. І ўбачыў на збочыне лісу, якая, застыўшы, назірала за ім. “Ах ты, рыжая зладзюганка! Хацела зайчанятка ўпаляваць?!”

– А ну, пайшла прэч! – Пятрук узняўся, тупнуў нагой. Зрабіў выгляд, што нахіляецца па камянюку. Аднак з месца не кранаўся. Памятаў, што лепей з гэтымі ляснымі драпежнікамі не звязвацца – ці мала якую заразу пераносяць. – Каму сказаў?! Вон адсюль! – рэзка махнуў рукой з уяўным камнем.

Ліса, аднак, не спяшалася ўцякаць. Яшчэ паглядзела, як мужчына падымае зайчаня з дарогі, прыціскае да сябе. Цопка ўцягнула носам паветра. А потым, матлянуўшы галавой, незадаволена цяўкнула і, раз-пораз азіраючыся, падалася прэч.

Пятрук пастаяў. І толькі калі лісу схавалі бліжэйшыя густыя хмызы,

вярнуўся ў свой легкавік, гэтак жа ашчадна прыціскаючы да грудзей зверанятка.

– Ну што, уратавалі мы цябе? Ад зубоў зладзейкі рудой!.. А ты таксама харошы – адразу і пад колы! Хоць, відаць, і сам не бачыў ужо, куды бег.

Пятрук асцярожна пасадзіў зайчанё на пасажырскае сядзенне. Сцягнуў з шыі лёгкі шалік ды прыткнуў з розных бакоў вакол вушатага: у цяпле хутчэй ад стрэсу адыдзе. Зайчанё дрыжала ўжо не так моцна; схіліўшы галаў, адным вялізным вокам узіралася ва ўратавальніка. Ад гэтага погляду Пятра перасмыкнула: чыталася ў ім ці то шчырая ўдзячнасць, ці то прыхаваная нянавісць.

Да горада заставалася якіх тры-чатыры кіламетры, і ён націснуў на газ.

*

– Яна, Уладзя, глядзіце, каго я прывёз! – яшчэ з вітальні радасна загукаў Пятрук. – Мама, ты дзе? Хадзіце сюды!

Усе – жонка Светка ды дзеці выйшлі на ягоны голас. А калі пабачылі, каго насамрэч прывёз тата, дык адразу кінуліся яму пад ногі.

– Ой, зайчык! – кранулася вушак шарачка Яна.

– Оць, засык! – паўтарыў за ёю малы Уладзь і пацягнуў ручкі да зверанятка таксама.

– Дзе ты яго ўзяў? – жонка Света прысела побач з дзецьмі, правяла далонню па спінцы зайчыка.

– Дык ледзь машынай не збіў! – Пятрук радасна распакоўваў іншыя гасцінцы. Аднак уся ўвага дзяцей была пакуль скіраваная на зайчанё. – На дарозе ж туман!.. Яшчэ з ночы. А тут раптам – бах пад бампер! – што такое? Выходжу, а яно сядзіць. Цэлае! Крыху толькі бачком зачапіў... А на збочыне – ліса! Відаць, гналася за ім. Ну то яно, дурное, і пад колы!.. Во, ўратаваў ад драпежніцы, значыць. Ад хітрухі рудой!..

– Якое мяккае, цёпленькае! – ужо прыціскала да шчакі зверанятка Яна. Малы, абшчапіўшы ёй калені, цягнуў уверх ручкі. Відаць, таксама хацеў пацiскаць жывёлку. – А як мы цябе назавем? Пухлячок? Шэры хвосцік? Дон Заядон? Вой, тата, а яно... не заразнае?

– Думаю, не! Чаго б яму... і заразным? – супакоіў Пятрок. – Але ў ветлякарню звозім, пакажам... Трэба прыдумаць, у які куточак яго, ага! Маці, выдзяляй жылую плошчу для новага пастаяльца! Яна, вось жа ноўт твой! А табе, малышок, роварчык!

– Вой, татка, дзякую! – Яна апусціла зайчанё на падлогу, радасна ўзялася за чорную сумку.

– Лавэсык! – залыбіўся Уладзька, кранаючы колы падарунка.

Але не паспелі яны як след разгледзець гасцінцы, як пачулі ў дзверы ціхі, але настойлівы шкрэб. Усе аціхлі. Шкрэб паўтарыўся.

– Светка, глянь! Мо суседскі кот шкрабецца?.. Бач, здабычу пачуў!..

Жонка прыадчыніла дзверы і адразу войкнула. На лесвічнай пляцоўцы, крыху воддаль ад дзвярэй, сядзела ліса. Тая самая, што гналася за шарачком на лясной дарозе. Ліса не варушылася ды глядзела ўглыб кватэры. Толькі тапырылася рыжая поўсць, бы наэлектрызаваная.

– А ну пайшла! – выйшаў на лесвічную пляцоўку Пятрук, пасунуўся на лісу. – Ты глядзі, прысунулася, унюхала!

Ліса, аднак, і не думала ўцякаць. Наадварот, уся напялася ды па-ранейшаму ўзіралася за спіну Пятрука. Нібыта так і хацела кінуцца ў кватэру,

туды, адкуль маніла маленькае зайчанё. Зайчык, седзячы на руках у Яны, спалохана прыціскаўся да дзяўчынкі.

– Вон, каму сказаў! – наступаў на лісу Пятрук. – Прэч, пайшла! Мігам!

Ліса па-ранейшаму не рэагавала.

– Ды колькі можна?! Вон, паразітка! – ён ужо й сам крыху палохаўся гэткага звярынага нахабства.

Ліса клацнула вострымі зубкамі, аднак і не думала ўцякаць, выразна ігнаруючы грозныя замахі занепакоенага бацькі сямейства. Нарэшце, калі той хапянуў вялізную красоўку, адскочыла на прыступку ніжэй, нешта сыкнула па-лісінаму, а потым, развярнуўшыся, неахвоць пабегла ўніз.

– Усё, уцякла!.. Ну, як там наш кватарант? – павярнуўся і Пятрук да хатніх, якія шчыльным колам абступілі зайчаня.

...Зверанятка хутка набіралася моцы. Асвойтаўшыся ў кватэры, бегала дзе хацела, піло-ела, нібы кацяня, з асобных пасудзінаў. Дзеці бавіліся-дурэлі з зайчаняткам як маглі. І за стол яго цягнулі, і ў ложак. Нават калі Яна нешта рабіла-глядзела на новым сваім ноўце, дык брала зайчыка на рукі і націскала, смеючыся, ягонымі лапкамі на клавіятуру. Працавалі, так бы мовіць, разам. Не абыходзіла шарачка ўвагай і мама Светка. То морквіну сакавітую падсуне, то ў малако тваражку падкрышыць – каб костачкі, значыць, крапчэйшымі былі.

Але такую іхнюю ідылію і турботу пра бліжняга капітальна псавала адна акалічнасць. Кожнага разу, калі Пятрок выходзіў у двор – смецце вынесці, у краму схадзіць, паехаць куды – ён бачыў (зрэдзьчас здалёк, але часцей – даволі блізка) тую ж самую праклятую лісу. Яна пільна сачыла за ім, нібы чакала магчымасці зноў кінуцца ў дом ды ўварвацца ў кватэру, дзе знаходзілася такая жаданая здабыча. Пятрук не стамляўся праганяць яе, а потым, парабіўшы справы ды вярнуўшыся дахаты, распавядаў:

– Зноў рудую зладзейку бачыў! І што ёй спакою няма?!. Ну, не атрымае яна нашага Дона Заядона – няхай выкусіць!

– Тата, навошта так пры дзецях? – дакарала тады яго Светка. – Што прагнаў – малайчына, а што лаешся – зусім не маладзец!

– А што я такога?.. – прытворна абураўся Пятрук. – Няма чаго ёй каля нас сноўдацца! Было б ружжо – даўно рахункі звёў бы!.. Ну што, Уладзь, як твой роварчык? – пераключаўся ўжо на малога.

Зайчанё ў такія хвіліны замірала дзе-небудзь побач, торгаючы шэрым напятым вушкам. Нібы ўважліва лавіла кожнае слова, што прамаўляў Пятрук.

І ўсё ж аднаго разу іхняя нахабная госця ледзь зайчанё не ўпалявала. А было так. Пятрук, як і абяцаў у першы дзень, сабраўся-такі звазіць яго ў ветлякарню. Каб спецыялісты праверылі-паглядзелі, можа, прышчэпкі якія зрабілі. Ён вынес шарачка, закручанага ў шырокі шалік, у двор, адкрыў заднюю дзверцу "Фальксвагена". Калі ладаваў сваю ношку на сядзенне, раптам убачыў прыспушчанае задняе кола. Так і не зачыніўшы заднія дзверы машыны, скіраваўся да багажніка, каб дастаць патрэбны рыштунак. І хоць усе ягоныя рухі занялі якія імгненні, і блізка не ўпільнаваў, як рэзкі цень мільгануў ля машыны. А ў наступны міг у салон заскочыла ліса – туды, дзе ў скручаным шаліку хаваўся шарачок. Толькі яна не паспела нічога зрабіць – Пятрок, не раздумваючы, моцна перацягнуў яе цяжкім дамкратам.

Ліса завішчэла, выпусціла з зубоў край шаліка ды выскачыла з легкавіка. Пятрок нават не заўважыў, куды яна знікла, – гэтак жа нечакана, як і з’явілася.

– Ну, падла! Я ж цябе дастану! – выдыхнуў глуха ды ўрэшце заняўся спушчаным колам. Некалькі разоў для надзейнасці паторкаў ручкі дзвярэй – ці добра зачыненыя.

*

У ветлякарні сказалі, што жывёлінка здаровая-добрая, што з ёю ўсё ў парадку і што прышчэпкі так, трэба рабіць. Якую ўкалолі гэтым разам – Пятрук не запомніў. Ці то ад “чумкі”, ці то ад энцэфаліту. Галоўнае, праз месяц не забыць зноў прыехаць.

А вось дома з зайчаняткам пачало адбывацца нешта дзіўнае.

– Мааа-ма! Таа-та! – закрычала з дзіцячага пакоя Яна, дзе Пятрук “выгрузіў” зайчаня. – Хадзіце хутчэй сюды!

– Хусэй уды! – паўтараў за сястрой малы Уладзік.

Бацькі кінуліся ў дзіцячую. І першае, што ўбачылі, дык зайчанё... якое “зайчанё”! На падлозе сядзеў ужо не шэры хвосцік, а вялізны дарослы заяц.

– Ого! То што, прышчэпка так падзейнічала?..

Але не паспеў Пятрук да канца прамовіць сказ, як заяц літаральна на вачах зрабіўся яшчэ большым – нібы невядомая сіла надзімала яго, як безразмерны паветраны шар.

– Ох, Пятрук, што з ім? – гэтак жа шырака раскрываліся вочы Светкі.

– Со зым? – гэта ўжо Уладзька цягнуў ручкі да зайца.

– Мама, гэта нармальна? – у голасе болей дарослай Яны гучаў спалох.

– Вой, дачушка, не ведаю. Пятрук, можа, пазвані ў лякарню тую? Можа, трэба яго зноў ім паказаць?

– А, ну так. Зараз!.. – бацька сямейства адарваў напружаны пагляд ад зайца. – Дзе мая “мабілка”? Хто бачыў?

Толькі ён не паспеў. Ні знайсці тэлефон, ні пазваніць.

Ён увогуле ўжо нічога не паспеў.

Таму што заяц ужо быў не як шар, а як... добрая шафка, не, як агромністы, страшэнны звярыдла! Ягоная поўсць слалася па падлозе, вялізныя вушы тырчалі ў столь, а рот быў поўны крывых, адточаных іклаў.

Наступныя імгненні – былі поўныя дзікага рыку, крывавых шкамутанняў, смяротных енкаў, віскату, хрыпу.

Калі звер зрабіў, што хацеў, ён налітымі вачыма абвёў пакойчык, дзе па розных кутах былі параскіданыя часткі дарослых і дзіцячых целаў, а потым кінуўся ў калідор, выбіў дзверы ды пабухаў па сходах уніз...

У кватэру, цопка ўцягваючы паветра носам, шмыгнула ліса. Пратэпала ў дзіцячую, абнюхала кожнае нерухомае цела. “Такі дрэнны я санітар лесу!..” – падумала ліса ды пачала сцярожка злізваць кроў з твару маленькага Уладзіка.

Побач ляжаў ноўт з адкрытым сайтам “Жыццё зайцаў у прыродзе”.

*Травень, 2023, Кобрын*

Леанід Дранько-Майсюк



…На зямлі, каля вады
І пад небам гэтым
Будзь заўсёды малады
І не страчвай мэты…

# Спрадвеку ўзнікае карціна такая…

## *НА МАСКОЎСКІМ ВАКЗАЛЕ*

І не паверыў бы, калі б сказалі,
Што я нарадуюся не Масквой,
А простаю гаворкай на вакзале
З цікавай нашай цёткай гаваркой.

– Да сына еду з Беларусі я ў Разань...
Ён жэніцца... Шчаслівы і красівы...
І добрая дзяўчына, так пісаў,
Не ў Любані знайшлася, а ў Расіі...

– Вы з Любані? Што над Арэсай? Той?!
– Той самай Любані, што над Арэсай...
– У школе я даведаўся аб ёй...
– І я чытала ў школе з інцярэсам
Пра тое, што Купала напісаў...

Мы развіталіся.
Я сам сабе чытаў
Радкі на памяць, ясныя на слых,
І згадваў камунараў маладых.

*19 студзеня 1977 г., серада, станцыя Сянная,*
*Саратаўская вобласць; казарма в/ч 21349 –*
*6 траўня 2020 г., серада, 14 гадзін 54 хвіліны; Менск.*

## ХМУРЫНКА

Хмурынка з яркага святла
Уся была,
Нібыта лодачкай плыла
І не плыла.

Такая белая – бялей
Няма нідзе,
Ад тое лодачкі святлей,
Што на вадзе.

Не жарт нябёсаў, не капрыз,
Не балаўство...
І жонцы муж сказаў: “Дзівіс,
От хараство!

Як шчасце нашае, хоць плач,
Бо не ўхапіць...”
А жонка мужу: “А інач
Не можа й быць...”

*31 студзеня 2022 г., панядзелак, 13 гадзін 05 хвілін; Менск.*

## ДЗЯЎЧЫНКА З ДАВЫД-ГАРАДКА

Кветка, зорка, навальнічка...
Кожны колер спелы:
Ты ў чырвоных чаравічках
І панчошках белых.

Кветка, зорка, чараўнічка...
Позірк сіні, смелы:
Ты ў чырвоных чаравічках
І панчошках белых.

Кветка, зорка, таямнічка...
Думаю век цэлы:
Ты ў чырвоных чаравічках
І панчошках белых.

Век ідзе, а я ў тым часе
Ўсё жыву дзіцячым;
Я цябе ў чацвёртым класе
Першы раз убачыў!

*4 лютага 2022 г., пятніца, 12 гадзін 16 хвілін; Менск.*

## ШКАДАВАННЕ

Час даваў усё зараз,
Шчодры быў і чулы,
І вярнуцца (а хоць раз!)
У той час хачу я.

Каб вярнуўся, то б не жыў
Так, як жыў тады я,
І памылкі б не зрабіў
Тыя, што зрабіў я.

Не, не быў бы я такі
Шчыры, летуценны –
Гэтаму б не даў рукі,
Не сустрэўся б з гэным;

Струны траціў бы не ўсе
На гульбу чужую,
Піў бы сам і пакрысе...
Піў не сам, шкадую...

Шкадаванне, як руда
З гіблага балота –
Не яда і не вада,
Не дубок ля плота.

*16 лютага 2022 г., серада, 14 гадзін 46 хвілін; Менск.*

## ВІШНЁВЫ ЦВЕТ

Я помню бяседу, –
Пра вішню спявалі.
Вішнёвага цвету
Вясною чакалі.

І проста дзівіцца
На вішню хацелі,
І з вішняю быццам
Усе маладзелі.

І цвет позна-рана
У садзе-гародзе
Заўжды нечакана
З'яўляўся-прыходзіў...

Няхай радасць гэту
Благое не засціць.
Вішнёвага цвету
Хапае для шчасця.

*22 лютага 2022 г., аўторак, 14 гадзін 53 хвіліны; Менск.*

## ЗАВУЛАК СНЕЖНЫ, ВУЛІЦА ПРЫВАБНАЯ…

Завулак Снежны, вуліца Прывабная...
У самы цвет убралася вясна,
І яблыні, пабеленыя вапнаю,
Душу тваю прасвечваюць да дна.

І яблыневай радасцю атулены,
Жыві з такой лагодаю цяпер:
"Расчульвайся, але не будзь расчулены,
І вер сабе, нікому больш не вер!

Пакуль яшчэ твая дарога доўжыцца,
Але на ёй агонь пяе чужы,
Спыні сябе, – і на чужое вогнішча
Не траць ужо і кропельку душы.

Была душа і на жаданні сквапная,
Ды засталася ёй краса адна –
Завулак Снежны, вуліца Прывабная,
На яблыні багатая вясна..."

*8 траўня 2022 г., нядзеля, 21 гадзіна 18 хвілін; Менск.*

## МАЁ ШЧАСЦЕ

Ад звычак і шкоднае моды
Свабоднае шчасце маё,
І ў сэрцы маім назаўсёды
Яно, як нажа вастрыё.

Кароткія мае хвіліны
На радасны одум, – прытым
У шчасця ядваб салаўіны,
І цвёрдасць арліная ў ім.

А кожная чутка і вестка
З трывогай: “Што будзе далей?
І ці застанецца хоць трэска
Ад плота і родных дзвярэй?!”

Падмурак трывогі трывалы,
І шчасце – штодня з навіной,
І моваю Янкі Купалы
Гаворыць заўсёды са мной.

*20 траўня 2022 г., пятніца, 17 гадзін 59 хвілін; Менск.*

## ІВАН ШАМЯКІН

Трывожныя маючы знакі,
Як цяжка да шчасця дапасці!
Цудоўны пісьменнік Шамякін
Пісаў пра трывожнае шчасце.

“Трывожнае шчасце” чытаў я
І дома на ганку, і ў школе.
Часіна дзіцячая тая
Не вернецца болей ніколі.

А ночы даўжэюць, і зоры
Святло незвычайнае трацяць.
Любімыя школьныя творы
Не проста дзяцінства – багацце!

Насуперак злу, пустаслоўю,
Каб з лішняю праўдай не знацца,
Пісьменніка згадваць з любоўю –
Таксама цікавая праца.

Душу не спаганіў у славе,
Быў чулы да просьбаў усякіх,
І шчасце трывогай надбавіў
Цудоўны пісьменнік Шамякін.

*10 ліпеня 2022 г., нядзеля, 17 гадзін 01 хвіліна; Менск.*

## ДОЖДЖ – МОЙ РОДНЫ БРАТ!

Дождж гаючы, брат мой родны,
Ты лагоды поўны;
Часты, цёплы ці халодны?!
Ты любы́ – цудоўны!

Ты прыносіш мне адхланне
І супакаенне,
Радасць, роўнае дыханне,
Шчасце, захапленне.

Я да самага да краю
Сонцаненавіснік
І штодня цябе чакаю
З хмараю навіслай.

Бо з пагодай свет нямілы,
Грукат на ўсе трубы, –
І ад гэтай чорнай сілы
Ты ратуеш, любы!

Разганяеш гвалт і ліха
Далікатным звонам, –
Робіцца адразу ціха
Пад маім балконам.

Я заўсёды маладзею,
Чуючы твой пошум...
На спакой даеш надзею
І на сон харошы.

*14 ліпеня 2022 г., чацвер, 11 гадзін 37 хвілін; Менск.*

## МІХАСЬ ШАВЫРКІН

Каб гучала ўвысь і ўшыркі,
Скрозь гучала, век, –
З песняй жыў Міхась Шавыркін,
Светлы чалавек.

Сэрца не хаваў у злобе,
Не крывіў душой,
Песню родную аздобіў
Гутаркай жывой.

У свае змясціў скрыжалі
Запавет такі:
Каб па-нашаму спявалі
Нашы спевакі!

Быў шырокае натуры,
Як сама хвала,
І пры одуме панурым
Не губляў святла.

Жоўць, папрокі, зло, прыдзіркі, –
Што тут і казаць, –
У святло Міхась Шавыркін
Мог ператвараць.

*29 ліпеня 2022 г., пятніца, 10 гадзін 39 хвілін; Менск.*

## ВІДАЦЬ

У душы, якая неспакойная,
Неспакойнасць бачыцца найбольш,
І яна, як рана незагойная, –
З ёй прапасці можна ні за грош.
Пільнавацца трэба, шанавацца;
Мець у сэрцы, як і ў галаве,
Лепшую з усіх, што чуў, натацый:
"Хто пільнуецца, той і жыве!"

Шчасце толькі моцнага агортвае,
І цябе агорне, ягамосць...
Тое, што мінулася, не мёртвае, –
Усміхаецца таму, што ёсць.

Бараніся думкаю халоднаю,
Бубны хай пад вокнамі грымяць,
А душа твая спакою роднаю
Зробіцца пад раніцу, відаць.

*31 ліпеня 2022 г., нядзеля, 19 гадзін 28 хвілін; Менск.*

## ТОЕ СОНЕЙКА

Тое сонейка заўсёды
Залацістае было, –
Сном пяшчоты і лагоды
Па душы маёй прайшло.

Тое сонейка такое
Хітрае, не без таго,
Я дзіцячаю рукою
Спрабаваў лавіць яго.

Ладзіў радасныя ловы,
Мог усё, што хоч, рабіць
І заўсёды быў гатовы
Тое сонейка лавіць.

І цяперака, прызнацца,
Тое сонейка лаўлю:
Безнадзейнае мастацтва,
Як любіў, так і люблю.

*7 лістапада 2022 г., панядзелак, 17 гадзін 56 хвілін; Менск.*

## ***ГАНАК, ПЛОТ, АДРЫНА***

Летам, восенню, вясной,
Зімняю часінай
Словы гэтыя са мной –
Ганак, плот, адрына.

З ганка я любіў глядзець,
Як высока, бела
Хмарка, бачная ледзь-ледзь,
На мяне глядзела.

А ля плота з года ў год
(Не чужога плота!)
Быў шчаслівы: гэты плот –
І мая работа!

А ў адрыне, у кутку,
Роднай прахалодзе, –
Браў саломіну ў руку
І спакой знаходзіў.

І з пары далёкай той,
Як і быць павінна,
Словы гэтыя са мной –
Ганак, плот, адрына.

*7 лютага 2023 г., аўторак, 21 гадзіна 04 хвіліны; Менск.*

## ***ГАСЦІНЦЫ***

Зразумеў, як жыць у шчасці:
Гэта быць сабой найперш,
Сціпла жыць, ісці – не ўпасці
І дайсці, куды ідзеш.

І заўжды прыгадваць тое,
Як у маці кожным днём
Рукі пахлі сырадоем,
Агародам і агнём.

І прыгадваць рай дзіцячы,
Залаціны родных слоў:
Большай радасці не бачыў,
Як дадому бацька йшоў!

Атрымаў я шмат гасцінцаў,
Лепшыя з гасцінцаў тых:
Незабыўнае дзяцінства,
А цяпер – вось гэты міг.

*8 лютага 2023 г., серада, 15 гадзін 43 хвіліны; Менск.*

## ПЕРШАЕ МАЁ КУПАННЕ Ў ГАРЫНІ

Лета. Песня жаўрука.
Сонечнае ззянне.
Першая мая рака.
Першае купанне.
Бераг нізкі. На быстры́
(Захавала памяць!) –
Тыя хлопчыкі, сябры,
Што ўжо ўмеюць плаваць.

Там, дзе большая быстра,
Дзе пясочак шчыры –
Там Царкоўная гара,
Прыстань, пасажыры.

Прыстань. Музыка. Народ.
Светла. Рызыкоўна.
Белы пінскі параход
Ля гары Царкоўнай.

Плынь – быстра ці быстрыня,
Вір паблізу, бухта.
“Я нібы сабачаня!” –
Страх у сэрца бухне.

Закружыла галаву
Радасць не скупая...
Бераг знік, і я плыву, –
Я па дну ступаю!

*10 лютага 2023 г., пятніца, 15 гадзін 34 хвіліны; Менск.*

## *КАРА́ЛІ*

Не забыць: у Валі,
Далікатнай, мілай,
Бліскалі каралі, –
Аж мяне сляпіла.

Ёй сямнаццаць толькі,
Мне таксама столькі...
Ранак, дзень, змярканне, –
Новае спатканне.

Радасна, прыгожа
І святла багата...
Дзякуй, родны Божа,
За такое свята.

З той далёкай далі,
Нібы зоры, свецяць
Валіны каралі –
Лепшыя на свеце.

*26 лютага 2023 г., нядзеля, 13 гадзін 59 хвілін; Менск.*

## *ПАБЛІЗУ ВУЛІЦЫ КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ*

Дарунак менскае карціны:
Той звон пяе, а гэты б'е...
Выходзячы з царквы, жанчыны
Скідалі хустачкі свае.

Ішлі да Ратушы паважна
І гэтак на Нямігу йшлі...
То коратка, а то працяжна
Услед жанкам званы гулі.

Ад свята простага такога
Мне добра на душы было,
У думках (цёмнага нічога!)
Святло вясёлае жыло.

А так і быць яно павінна...
Як вобраз лепшай навіны,
Застанься менская карціна –
Царква, жанчыны і званы.

*25 траўня 2023 г., чацвер, 21 гадзіна 37 хвілін; Менск.*

## У КАРАЛЕЎСКІМ САДЗЕ

Юнак жыў у раі палескім,
У родным Давыд-Гарадку.
Садоўнікам каралеўскім
Хацелася быць юнаку.

І яблыні, вішні і грушы,
Вербена, меліса, павой,
І ўсе хрызантэмы, і ружы
Яго залацілі настрой.

Аднак у жыцця свой парадак
І казачных мала дароў,
І лёс юнака ціхім ладам
Па іншай дарозе павёў.

Ад лёсу залежым усе мы.
Юнак гэты, можна сказаць,
Не яблыні і хрызантэмы,
А словы пачаў даглядаць...

Цяпер ён спакойны мужчына,
Цвярозы ў галоўным, таму
Магільная родная гліна
Прымроіцца можа яму.

Не мае ільгот, прывілеяў,
На простае проста глядзіць,
Шчаслівы, што з небам умее
На мове сваёй гаварыць.

Даўно не палескі, а менскі...
А ў думках – ранейшы дзівак,
Па садзе ўсё тым, каралеўскім,
Блукае, нібыта юнак.

*31 траўня 2023 г., серада, 21 гадзіна 52 хвіліны; Менск.*

## СПРАДВЕКУ ЎЗНІКАЕ КАРЦІНА ТАКАЯ

Мужчыны маўчалі. Жанкі гаварылі.
Сады navakола цвілі.
У небе чарнелі птушыныя крылы.
Цвет белы ляжаў на зямлі.

Як страхі, бясконцыя птахі ляцелі.
На цвет наплывала імгла.

За ценямі беглі ўсё новыя цені.
Вясне не ставала святла...

Спрадвеку ўзнікае карціна такая
У сэрцы, забраным тугой,
Якое ад іншага сэрца чакае
Спакою... І дзе ён, спакой?!

Ну, вось дажылі да вясны, дзякуй богу;
Ну, вось прамінула зіма,
Але і сяўба не здушыла трывогу...
У свеце спакою няма.

*7 чэрвеня 2023 г., серада, 14 гадзін 40 хвілін;*
*Менск, рачулка Пярэспа.*

### І НЕДЗЕ ТАМ, ЗА ЛІСАБОНАМ

Атлантыку ў сэрцы накрэсліў
І трапіў у сонечны свет,
І чуў партугальскія песні
З гішпанскім пяяннем услед.

І недзе там, за Лісабонам,
У годзе 2000-м ты
Жыў песенным гэтым палонам, –
Нявольнік чужой пекнаты,

Якая зазыўна гучала,
Відаць, недарма, бо згадаў –
Успомніў, як маці спявала,
Злавіўшы змярканне ў рукаў.

І там, у раскошы нябеснай,
Усцешыўся радасцю той,
Што самая лепшая песня
Была над калыскай тваёй...

Маці спявала:
“Сынку Іванку,
Ты па моры плаваў
Залаценькім ранкам.

Рыбаньку ловаў
У тумане вудкай
Доўгай, лазовай,
Як ручанька, гнуткай.

А я чакала
На беражэньку,
У руцэ трымала
На рыбу варэ́ньку “.

*9 чэрвеня 2023 г., пятніца, 17 гадзін 30 хвілін; Менск, рачулка Пярэспа.*

## ПРОСТЫЯ РЫФМЫ

За пражытыя гады
Я адчуў душою:
Неба роднае заўжды
І зямля з вадою.

Шмат вады і шмат зямлі,
Роўна столькі неба
Шчодрыя гады далі –
Болей і не трэба.

Дзякуй шчодрасці такой,
Жыць далей гатовы,
Маю клопат і спакой,
Сонца роднай мовы.

І кажу сабе: “Трывай,
Хоць і лёс нялёсны,
Думкам простым давярай,
Як і рыфмам простым...

На зямлі, каля вады
І пад небам гэтым
Будзь заўсёды малады
І не страчвай мэты...”

*9 ліпеня 2023 г., нядзеля, 17 гадзін 16 хвілін; Менск.*

## ДАВЫД-ГАРАДОЦКАЯ ХОРТКА

Хортка ў памяці жыве –
З лёгкіх дошак брамка,
Дзве завесы, шулы дзве,
Зашчапка і клямка.

Хортцы падасі руку –
Тут жа рыпне вёртка.
У Давыд у Гарадку
Што ні пляц, то хортка.

Ход у двор, у агарод,
Да акна любога,
А яшчэ на ганак ход –
Простая дарога...

Хорткі розныя былі –
Звонкія, глухія,
То спявалі, то гулі –
Вечна гаваркія.

У суседа, нібы звон,
У суседкі – шклянка...
Наша хортка мяккі тон
Падавала ранкам.

Днём, як ластаўка, “свіргік”
Часта шчабятала.
Вечарам кароткі зык
Слала і сціхала...

Як жылося, не забыў,
Бо не ўпаў у страту –
Нашу хортку я любіў,
Як і двор, і хату.

*16 ліпеня 2023 г., нядзеля, 22 гадзіны 19 хвілін; Менск.*

## *“МУЖЧЫНЫ ЙДУЦЬ НА СЕНАЖАЦЬ…”*

*Ідуць касцы, звіняць іх косы...*

**Якуб Колас**

“Мужчыны йдуць на сенажаць...” –
Пад назваю такой
Адно пачаўшы твор складаць
Кажу сабе: пастой...
Не так яно цяпер у нас,
Усё не так яно,
На сенажаць у самы час
Не йдуць гурмой даўно.

Было: вясёлыя касцы
На новыя стагі
З усіх канцоў ва ўсе канцы
Ішлі касіць лугі.

Пясняр іх праслаўляў: ішлі
Суцэльнай грамадой!

Звінелі косы, аж гулі,
І падаў травастой.

І сапраўды ішло даўней
Касцоў – ну, проста раць!
Іван, Сцяпан, Пятро, Андрэй,
Мікіта, Хведар, Аляксей...
Усіх і не назваць.

А за касцамі ў час такі
(О, незабыўны свет!)
Ішлі дзяўчаты і жанкі,
І дзеці беглі ўслед.

І з хаты кожнай і двара
Вёў клопат вечны, лёс,
І свята Паўла і Пятра
Вяло на сенакос.

Той час не вернецца. Амін.
А сённяшняй парой
На трактары касец адзін
З машыннаю касой.

Цяпер мужчыны – што казаць,
Калі глыбей зірнуць, –
Не йдуць, як раць, на сенажаць,
А на вайну ідуць.

*17 ліпеня 2023 г., панядзелак, 16 гадзін 58 хвілін; Менск.*

## *“ШЧАСЦЕ Е...”*

Добра ўсё, як пільнуешся меры,
І няблага паводле яе
Гаварыць у палескай манеры
Па-дзіцячы зусім: “Шчасце е...”

Хоць удача да долу прыпала,
Зніклі жвавыя мары даўно...
Шчасце роднае – не, не прапала,
Не звялося, не знікла яно.

З адчуваннем такім (разуменнем!)
Жыць лягчэй, вось таму і жыву,
І самому сабе поўнай жменяй
Сыплю золата на галаву.

І сваё ўціхамірваю сэрца,
Што трывогу забыць не дае:
“Шчасце е... Е куды яшчэ дзецца...”
Сэрца мне ўсміхаецца: “Е...”

*21 жніўня 2023 г., панядзелак, 21 гадзіна 22 хвіліны; Менск.*

## ЛЮБІН ВУЧАНЬ Я І ВАСІЛЁВЫ

Любін вучань я і Васілёвы,
Грамадзянін Купалавай мовы, –
Дзякуй Богу, пра тое пішу,
Што ў душы з нараджэння нашу.

Першы цуд каляровы – цікеткі...
На цікеткі гляджу і пяю
Пра давыд-гарадоцкія кветкі –
Асалоду і радасць маю!

Цудаў іншых таксама даволі
Я займеў, ды праз колеры іх
Сёння точыцца пыл, і паволі
Зрок цямнее і меншае слых...

Памяркоўнасць няхай залацее,
І мацнее ўсё той жа спакой,
І ўсё тая ж мацнее надзея,
Што радзіма не стане чужой.

Кладка гнецца ў бяскрайнім балоце,
І па ёй трэба лёгка ісці,
Шчыра верачы ўласнай істоце:
Ёсць удача і ў нашым жыцці!

Хоць не тыя ўсё чуюцца бомы,
І навокал не тая гульба;
Шмат людзей навакол незнаёмых,
А знаёмая старасць хіба?!

Не паддайся, душа, сну і здзеку,
Роднай мовай жывіся...
Адна
Мова нас ратавала адвеку,
І цяпер уратуе яна.

*14 верасня 2023 г., чацвер, 13 гадзін 10 хвілін; Менск.*

проза

Міхась Булавацкі



…імя чалавека, якога яна ненавідзіць,
прычэплена да яе да канца дзён…

# “Отчаства”

***Апавяданне***

Віталь Лугоцкі агледзеў аўдыторыю. Сярод настаўнікаў, якія сабраліся на семінар, прысвечаны наватарскім тэхналогіям у выкладанні матэматыкі, былі знаёмыя твары. І тут ён убачыў яе, сваю былую студэнтку...

Яны прыйшлі ў інстытут у адзін год. Ён – выкладчыкам, яна – студэнткай. Яго дэкан прызначыў куратарам групы А першага курса, яе – старастай гэтай групы. Дзяўчына яму спадабалася – і сваім розумам, і сціпласцю, немітуслівасцю паводзінаў, і ўніклівасцю ў дэталі ў розных справах. Студэнты групы неяк адразу прызналі яе права на першую ролю, і, калі ён правёў апытанку “Падчас вандроўкі група спынілася на ноч у двухмесных намётах – з кім бы вы хацелі пасяліцца ў адным намёце?”, – большасць студэнтак напісалі яе прозвішча.

Ён, аднак, прыціскаў сваю прыязнасць да яе, не хацеў зрабіць яе падставай для посмехаў. Падобная сітуацыя была і ў гады яго студэнцтва, калі куратар іх групы Балуноў пачаў

заляцацца да ярка-рудой прыгажуні Люсі Яцукевіч, зноў жа старасты, і з-за гэтага з яе спачувальна пасмейваліся. Яна аджартоўвалася ў адказ і не звяртала ўвагі на заляцанні куратара, бо ўжо выбрала сабе аднакурсніка сваёй групы, з якім пасля выпускнога і пабраліся шлюбам.

Віталь тады спачуваў небараку Балунову: шансаў у яго відавочна не было ніякіх, хаця б з прычыны розніцы ў 20 год, дый выкладчыкам ён быў не яркім, тым болей выкладаў другасную дысцыпліну "тэхнічныя сродкі навучання", гэтыя кінапраектары, эпідыяскопы ды іншую тагачасную відэатэхніку і без ягонага навучання можна было лёгка засвоіць. Патрэбы ў яго занятках для будучай настаўніцкай працы амаль не было, і студэнты ставіліся да іх абыякава. І такое стаўленне, адпаведна, пераносілася і на выкладчыка.

Патрапіць у яго сітуацыю Віталю не хацелася. Хаця тут сітуацыя была ўжо іншая, бо выкладаў ён самыя патрэбныя дысцыпліны – элементарную (чытай: школьную) матэматыку і методыку яе выкладання. Карацей, вучыў галоўнаму: як тую матэматыку перакладваць у іншыя галовы. І ў лекцыях па методыцы даваў не вычытанае з кніг, а больш знойдзенае ў досведзе лепшых настаўнікаў усяго Саюза ССР, пра якіх вычытваў у газетах, а потым ехаў за свае сродкі ў вольныя дні вывучаць сакрэты іх працы непасрэдна. Потым ужо ездзіў з сваімі лекцыямі і семінарамі па новых тэхналогіях навучання ў розныя гарады па запрашэннях іх адукацыйнага кіраўніцтва. Нарэшце правесці такі семінар прапанавалі і ў родным горадзе.

На перапынку ён падышоў да Ларысы, павітаўся.

– Табе тут будзе сумна, бо амаль усё, што пачуеш, ты ўжо ведаеш з маіх заняткаў у інстытуце.

– Ну, нічога, паўтарэнне не пашкодзіць. Мне прапанавалі, і я пагадзілася, вырашыла адпачыць ад урокаў тры дні. Дый, можа, за тры гады ў вас што новае з'явілася?

– З'явілася, але няшмат. Пачакай мяне па заканчэнні. Раскажаш, як жывецца.

– Добра.

Перайшоўшы ў інстытут са школы, дзе ён быў з навучэнцамі на "ты", ён перанёс гэтае "ты" і ў адносінах са студэнтамі. Але не з усімі, да некаторых звяртаўся на "вы". Аднойчы ў яго запыталіся пра такую розніцу ў стасунках, і ён патлумачыў:

– На "ты" я звяртаюся да маці, да дзядзькі, звяртаўся да бабулі, карацей, звяртаюся да самых блізкіх людзей. Ты – гэта зварот прыязнасці, сяброўскі зварот. Але калі я не адчуваю прыязнасці да чалавека, не адчуваю, што ён мог бы стаць маім сябрам, тады звяртаюся больш аддалена, на "вы". Калі некаму маё "ты" непрыемнае, няхай скажуць пра тое, і я перайду на "вы".

Але ніхто з студэнтаў і студэнтак гэтай ды іншых груп такога пажадання не выказаў.

Па заканчэнні семінарскага дня яго атачылі настаўнікі з пытаннямі. Звычайна ён ахвотна прымаў перспектыву затрымацца яшчэ на паўгадзіны ці нават на гадзіну, каб адказаць на пытанні, але тут вырашыў прыпыніць дзею: у нас яшчэ два дні семінара, там і зададзіце свае пытанні.

Ларыса сядзела ў двары на лаўцы, чакала. Ён падышоў.

– Ну, хадзем.

– Куды?

– Хадзем... у бок твайго дома.

– Калі напрасткі, гэта тры кіламетры. Вытрымаеце? Усё ж восем гадзін на нагах прастаялі-прахадзілі.

– Пастараюся вытрымаць. Трэба ж калі-нікалі выпрабоўваць магчымасці свайго здароўя.

– Тады мы пойдзем лугавой сцяжынай. І лягчэй ісці, і крыху бліжэй.

Яна жыла з малодшай сястрой у мацерыным доме. Маці працавала на швейнай фабрыцы, бацькі ўжо не было (“Спіўся,” – неяк здзекліва ўсміхнулася яна). Сястра павінна хутка пакінуць свой дом, бо выходзіць замуж.

Ларыса не вельмі ахвотна расказвала пра сям’ю, і ён пераключыўся на працу, на вучняў. Тут гаворка пацякла жывей. У школе, якую яна скончыла і ў якую яе накіравалі па заканчэнні інстытута, яна не прыжылася. Настаўнікаў матэматыкі ў школе хапала, і лішнюю прэтэндэнтку на вучэбныя гадзіны сустрэлі не вельмі ветліва. Але на другі год ёй удалося перавесціся ў школу бліжэй да дома, і тут сітуацыя была ўжо іншай.

– Што з маіх лекцый скарыстоўваеш?

– Няшмат. Адно, што вашых вучэбных матэрыялаў няма, а самой усё гэта маляваць і пісаць не выпадае, няма часу. Другое, што наш дырэктар не прыхільнік незразумелых для яго навінак. Пакуль Міністэрства асветы не выкажацца ў падтрымку, ён будзе супраць.

– Чаму ж ён паслаў цябе на гэты семінар?

– А ён не ведаў, што за семінар. Яму сказалі паслаць аднаго настаўніка, і ён чамусьці выбраў мяне. Можа, іншыя настаўніцы не захацелі.

Так, размаўляючы то пра тэатр, які яна любіць, а ён не вельмі, то пра апошнія выставы яго сяброў, мастакоў, то яшчэ пра што, яны дайшлі да яе дома.

– Я зайду, пасяджу колькі хвілін. Бо ўсё ж ногі просяць адпачынку. Карміць мяне не трэба. І чаю не хачу. Так пасяджу.

Зайшлі. З другога пакоя выйшла маці, жанчына з суровым тварам. Зыркнула на яго неяк спадылба, павіталіся, і яна пайшла ў свой пакой.

– Нешта яна сёння без настрою, – заўважыў ён.

– Ды не. Яна такая заўсёды.

У голасе Ларысы ён адчуў нейкую глыбінную тугу.

Крыху пасядзеў і падняўся. Ларыса выйшла на двор правесці. Паказала, як выйсці ад іх прыватнага сектара да аўтобуса. Яшчэ крыху паразмаўлялі.

– Калі маці заўсёды ў такім настроі, то бацьку з ёю цяжка было, – заўважыў Віталь.

– Ды як сказаць... Яна не была такой.

– З-за бацькі стала?

– Ай, бацька... П’янчуга горкі!..

І зноў яе голас збянтэжыў яго. Там адчувалася нечаканая нянавісць, тым болей да чалавека, якога ўжо няма. Ён не стаў працягваць гэтую размову. Развіталіся.

Ішоў да аўтобуса і думаў пра апошнія словы. Ды нават не пра словы, а пра танальнасць, пра тыя пачуцці, з якімі яны прагучалі. Звычайна да блізкага чалавека, які стаў алкаголікам, ставяцца з раздражненнем, злосцю, крыўдай, але і з іроніяй, нават з нейкім спачуваннем, шкадаваннем. Спрабуюць яго неяк улагодзіць, угаварыць, дапамагчы. А пра памерлага дык увогуле ўспамінаюць са спагадай. А тут – непрыхаваная нянавісць! Што

мог зрабіць чалавек, каб яго так успаміналі? Нават калі ён буяніў дома, кідаўся біцца.

І раптам – здагадка аглушыла яго. Ён аж спыніўся ад такога жудаснага павароту думкі. Успомніў яе сур'ёзнасць у часы студэнцтва, нязвыклую для маладой дзяўчыны, яе нейкую адасобленасць ад усіх. І гэта ўсё пасавала да яго здагадкі.

Шкадоба і пяшчота агарнулі яго душу.

Вось жа, здараецца так, калі імя чалавека, які па Божай задуме павінен быць заступнікам, абаронцам, самым блізкім сярод усіх людзей, становіцца непрыемным, ненавісным. І цяпер яна вымушана насіць гэтае імя, бо ў школе называюць яе з імем па бацьку, яно пазначана і ў пашпарце. Імя чалавека, якога яна ненавідзіць, прычэплена да яе да канца дзён.

Ён даўно ўжо думаў пра ненармальнасць "отчаства". У беларускай мове і слова такога няма. Пазней ён шмат чытаў у інтэрнэце спрэчкі-развагі аб тым, было ці не было сярод традыцый ранейшага беларускага люду называнне чалавека па бацьку. Яно нібыта і было. Хаця болей актыўна пачало скарыстоўвацца з уплыву ўсходніх суседзяў. Але чаго вартае гэтае "было ці не было", калі відавочная ненармальнасць такой з'явы. Ужо калі згадваць імёны продкаў у імені чалавека, тады абоіх, і бацьку, і маці. Абое павінны быць унесеныя ў пашпарт. Але савецкія законы пра маці "забываюць".

Некалі ён здаваў у музей старыя паштоўкі з выявамі ранейшага горада і супрацоўніца, якая афармляла падарунак, спытала імя па бацьку. "А чаму ж імя па маці не пытаеце? – адрэагаваў ён. – У мяне ж і маці была". – "Але ж так прынята". – "Неразумна прынята. Вы згодны з гэтым?" – "Згодна. Тады давайце і імя па маці". І запісала ў паперцы: "Прынята ад Лугоцкага Віталя Міхайлавіча-Тацянавіча..."

"Імя па бацьку – гэта ж, мо, і правільна, – тлумачыў яму адзін "мудрэц", – хто маці – тут спрэчак няма. Хто нарадзіла, тая й маці. А з бацькам не так проста. Таму бацьку і варта пазначаць".

Але ж хапае выпадкаў, калі бацька ніякага ўдзелу ў жыцці дзіцяці не бярэ. Бывае, што той бацька ўвогуле не ведае, што ў яго з'явілася дзіця. Нярэдка ў такіх выпадках маці не запісвае ў пасведчанне імя сапраўднага бацькі (не будзем казаць пра выпадкі, калі і сама не ведае), а піша прыдуманае імя, якое потым і носіць чалавек усё жыццё, пакутуючы над загадкай, чаму ён Андрэевіч, калі ніякага Андрэя не ведае.

А выпадак з Ларысай, падобныя якому таксама сустракаюцца? Чаму ад гэтага пачварнага імя нельга адчапіцца? Жанчына й хацела б забыць аб тым, што перажыла падлеткам, забыць, каб пачаць нейкае новае жыццё, але забыць закон не дае. Пачварны закон!

Пару разоў пасля яны сустракаліся, прагульваліся па вуліцах, размаўлялі. Балючую тэму ён не кранаў. Ні пра бацьку, ні пра маці размовы не пачынаў. З маці, як ён здагадваўся, таксама не было паразумення. Магчыма, тая нават папракнула дачку, што сама справакавала.

Ён спрабаваў адчуць у Ларысе нейкае прыцягненне ў адказ, але яна была з ім ветлівая, не болей.

Аднойчы запрасіў зайсці да сябе. Яна пагадзілася.

– Можа, што з'ясі?

– Не, дзякую. Не хачу.

– Чаю?
– І чаю не хачу.
– А што-небудзь мацнейшае за чай?
– Не трэба.
Ён падышоў, абняў. Яна не адхілілася, але сустрэчнага руху ён не адчуў. Як бы дазволіла абняць.
– У цябе прыгожыя вочы.
– Звычайныя.
– А ты паглядзі на іх маімі вачыма.
– Як гэта?
– Ну, ты павер мне, што яны прыгожыя. Навошта ж мне табе хлусіць?
– Мужчыны, калі гавораць кампліменты, часта хлусяць.
– Чаму?
– Каб спакусіць жанчыну, каб расслабіць, каб і ёй захацелася...
– А табе не хочацца?
– Віталь Міхайлавіч, вы добры і цікавы чалавек. Я вас вельмі паважаю. Але класціся з вамі ў пасцель – гэта як са сваім бацькам.

Каб ты ведала, мілая дзяўчына, што ў цябе вырвалася! Не варта казаць, якое ўражанне зрабілі гэтыя словы на яго. Ён апусціў рукі і некаторы час стаяў моўчкі, спрабуючы прывесці сябе ў раўнавагу. Калі насланнё крыху суцішылася, паспрабаваў пажартаваць:
– Паміж намі розніца ў чатырнаццаць год. У такім узросце бацькамі не становяцца.
Але тое ўжо стала кропкай у іх стасунках.

У думках ён раз-пораз вяртаўся да яе. Хацелася, каб, калі не атрымалася з ім, то няхай бы знайшоўся добры чалавек, да якога яна пацягнулася не толькі душой і розумам, але і целам, каб змагла суцішыцца ў каханні і хаця б нарадзіць дзіця. Яна стала б добрай маці маленькаму чалавеку. Дваццаць шэсць год – узрост даволі спрыяльны для таго. І калі б тое здарылася, ён бы шчыра парадаваўся за яе.

Але чамусьці было трывожна. Была вялікая рызыка, што яна не толькі з ім, але і з іншым чалавекам не здолее забыць, адстараніцца ад даўняй жудаснай падзеі. Кожны мужчына, нават самы лагодны і высокадухоўны, будзе для яе вялікай псіхалагічнай задачай, да развязкі якой невядома як падступацца.

І калі такое не здарыцца на працягу бліжэйшых трох-пяці гадоў, то хоць бы асмеліцца знайсці каго на адзін раз. Ён ведаў некаторых жанчын, якія пайшлі на такое, нарадзілі дзіця і тым уладкаваліся ў жыццёвай каламуці, па-свойму заспакоеныя і нават шчаслівыя.

Падумаў нават, чаму б ёй не зрабіць гэта з ім. Для такога не патрабуецца кахання і не істотная любая ўзроставая розніца. Але ж, мабыць, яшчэ спадзяецца на нешта большае. Дай, Божа!

Бяда толькі, калі будзе чакаць вялікага кахання. Часта, начытаўшыся лірычных кніг пра каханне, дзяўчаты, апантаныя надзеяй знайсці нешта падобнае сваё, занураюцца ў чаканні. Але ж вялікае каханне, тым болей узаемнае, – гэта вельмі рэдкасны эксклюзіў. Часцей бывае так: адзін (адна) кахае, другая (другі) прымае, церпіць. Пакуль церпіць. Потым з гэтага цярпення можа вырасці звычка ці абавязак гадаваць дзяцей, а можа нічога не вырасці і цярпенне заканчваецца. І поруч становіцца няўтульна.

У пошуках ідэальнай пары ён успомніў Ганну Вальцаву і Пятра Валюса. Мастак Пётр Валюс маляваў карціны ў сваёй нязвыклай і незразумелай для іншых манеры. Прадаваліся яны слаба. І сям'я з трох чалавек жыла фактычна на заробак жонкі. Але ні слова папроку ён ад яе ніколі не чуў. Наадварот, яна была адзінай заступніцай і памочніцай. Пасля яго смерці яна пачала арганізоўваць выставы яго карцін, на адной з якіх пабываў Віталь, дзе і пазнаёміліся, і, сама неабдзеленая талентам, напісала кнігу пра мастака пад назвай "Шчаслівы чалавек". Сын таксама стаў мастаком, працягваючы мастацкія пошукі ў стылі бацькі.

Рэдкі (вельмі рэдкі!) выпадак сугучча, суладнасці ў сям'і. Віталь у думках любаваўся гэтай жанчынай. І неяк задумаўся: а якой жонкай магла б стаць Ларыса? Але думкі тыя ўжо ніякай перспектывы не мелі.

Мінула дзесяць год. За гэты час ён здолеў знайсці прывабную жанчыну, ажаніцца, пражыць з ёю некалькі год у надзеях на працяг (жонка вельмі хацела дачку, бо сын у яе ўжо быў, а яму было ўсё роўна – што сын, што дачка), але надзеі не спраўдзіліся. Цяжарнасць пайшла няправільна, і, каб урававаць жанчыну, лекары вымушаны былі пазбавіць яе не толькі гэтага дзіцяці, але і надзеі на іншых.

Потым неяк іх інтарэсы разышліся. Жонка мела свой дом і хацела, каб у доме быў руплівы гаспадар, а яму гэтыя штодзённыя бытавыя клопаты падаваліся дакучлівай драбязой, бо хацелася займацца разумовай працай, пісаць падручнікі, распрацоўваць новыя метадычныя матэрыялы, прыдумляць цікавыя задачы. І пакрысе ім стала нязручна быць побач. Разышліся ціха, мірна. Ён перабраўся ў пакойчык універсітэцкага інтэрната, дзе і заглыбіўся ў свае справы.

Чарговы раз яго з групкай з чатырох студэнтак накіравалі на практыку ў школу, дзе працавала Ларыса. Школа ўжо называлася гімназіяй і мела добры розгалас у горадзе, у тым ліку і яе высілкамі, бо вучні Ларысы ўжо некалькі разоў перамагалі на абласной матэматычнай алімпіядзе.

Там жа працавала і выдатная настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ганна Цеслярэнка, з якой Ларыса сябравала, асабліва паважаючы яе за тое, што родная мова ў яе была не толькі для ўрокаў, але штодзённай формай зносінаў з людзьмі. На жаль, рэдкая якасць сярод настаўніц і настаўнікаў роднай мовы. Часцей настаўніцы па-за ўрокамі мову забывалі і пераходзілі на іншы "язык", чым выразна дэманстравалі сваім выхаванцам непатрэбнасць мовы для жыцця. У Цеслярэнкі было не так. Яе навучэнцы мову ведалі, выдавалі на мове гімназічную газету "Звон", удзельнічалі ў розных конкурсах, перамагалі на алімпіядах, нават на рэспубліканскіх, потым некаторыя паступалі на беларускія аддзяленні філалагічных факультэтаў і станавіліся гэткімі ж сапраўднымі настаўніцамі мовы.

Былі ў гімназіі і іншыя майстры настаўніцкай справы. Так вось выпала, сабралася сузор'е. Дырэктар гімназіі лічыў, што гэтае сузор'е – яго заслуга. І ўрэшце атрымаў званне "заслужаны настаўнік". А калі яму нагадвалі, што ў гімназіі ёсць настаўнікі і настаўніцы з вялікімі заслугамі і варта выпатрабаваць для іх званне заслужаных, ён разводзіў рукамі: "Дык у гімназіі ўжо ёсць такое званне. Нам болей не дадуць".

Дадуць ці не дадуць – гэта ўжо справа іншых. Ты зрабі сваю справу – напішы хадайніцтва. Некалі Віталь нават прапанаваў яму падтрымаць

тое хадайніцтва для Ганны ці для Ларысы, калі напіша, падтрымаць праз публікацыі ў друку, праз свае звароты ў адпаведныя інстанцыі. Але хадайніцтва так і не з'явілася.

Нават калі пасля чарговай перамогі гімназісткі на рэспубліканскай алімпіядзе па мове ў гімназію прыехала карэспандэнтка "Звязды", каб узяць у настаўніцы інтэрв'ю, дырэктар завёў яе ў свой кабінет і там доўга распавядаў крыху пра настаўніцу, а болей пра гімназію, якая стала такой паспяховай дзякуючы яго мудраму кіраўніцтву. На размову з настаўніцай, якая па просьбе журналісткі сядзела ў настаўніцкай і чакала, у пасланніцы "Звязды" часу не засталося.

Заслугі Ларысы дырэктарам успрымаліся гэтак жа. Ён нават дыпломы і граматы, якія выпісваліся за тыя ці іншыя перамогі навучэнцаў, не перадаваў ні настаўніцам, ні іх выхаванцам, а складваў у сваім кабінеце, пахваляючыся імі перад гасцямі пры розных праверках.

Калі студэнтак размеркавалі па класах, Віталь зайшоў у кабінет Ларысы. Яна акурат скончыла ўрокі і збіралася дадому.

– Ну, як табе жывецца? – пацікавіўся.

– Ай, – яна махнула рукой. – Неяк жывецца.

Выявілася, што ў доме адна. Сястра жыве сваёй сям'ёй. Маці памерла. Клапоціцца на невялікім участку. Дом – школа, школа – дом.

– Прыязджай да мяне, – запрасіў.

Яна пагадзілася. Дамовіліся, што ў суботу ён сустрэне яе на аўтобусным прыпынку.

У суботу ў прызначаны час ён выйшаў да прыпынку і ўбачыў там бацьку былой жонкі. Побач стаяла і маці. Чакалі аўтобуса. Ён сцепануўся з такой неспадзяванкі. Падышоў, павітаўся і адышоў убок. Было непрыемна, што яны стануць сведкамі іх з Ларысай сустрэчы. Хаця, здавалася б, што ж тут такога, жыццё кожнага па-свойму працягваецца. Але пачуццё прыкрасці не пакідала, нават нарастала, тым болей, што яны з цікавасцю паглядалі ў яго бок і пра нешта ціха размаўлялі, мабыць, пра яго.

Чаканне зацягвалася. Ці яму так здавалася. Нарэшце падышоў аўтобус. Яны зайшлі. Але Ларыса не выйшла. Ён з палёгкай уздыхнуў і стаў чакаць далей. Аўтобусы прыходзілі адпаведна раскладу праз кожныя 10-12 хвілінаў, але Ларысы не было. Прачакаўшы з гадзіну, пайшоў да сябе.

Вечарам спусціўся на вахту інтэрната, каб патэлефанаваць ёй.

– Вы мне прабачце! – пачуў яе голас. – Я ехала. Але нешта так расхвалявалася, што не змагла выйсці.

Вось так. Магчыма, яго хваляванне на прыпынку неяк перадалося ёй. Паміж людзьмі, якія так ці інакш збліжаюцца, усталёўваецца нейкая касмічная повязь, і тое, што адчувае адзін, пэўным чынам перадаецца другому.

Ён не быў эзатэрыкам, але ў наяўнасць аўры, нейкага біяполя вакол чалавека верыў. І, магчыма, гэтыя аўры розных людзей з выяўленай моцнай узаемнай прыхільнасцю неяк кантактуюць, судакранаюцца нават на адлегласці, а ў выніку можа адбывацца тое, што адбылося тут.

Дамовіліся гэтак жа сустрэцца ў наступную суботу.

– Не праедзеш прыпынак? – пажартаваў ён.

– Не, не праеду.

– Я буду чакаць.

...Яна села на канапу. Ён сеў побач. Размаўляць ні пра што не хацелася. Ён разумеў, што ні пра якое каханне тут ні гаворкі, ні думак няма. Хутчэй за ўсё прыйшла да яго на адзін раз з той самай марай – пра дзіця, палічыўшы яго годным бацькам.

Такі варыянт яго таксама задавальняў, хаця меркаваў пра магчымасць большага. Пра дзіця ён марыў. Праўда, тыя мары з гадамі станавіліся ўсё болей аддаленымі. Успамінаў пра тыя пакуты, якія наваліліся на яго разам з жонкай, калі яе ратавалі дактары. Перажыць такое яшчэ раз яму вельмі не хацелася. Але пра дзіця думалася. Уяўляў, якім мог бы быць яго сын. Аднойчы нават задумаў напісаць "Ліст ненароджанаму сыну". Успомніў пра гэта і ўсміхнуўся.

Узяў яе руку, пагуляў з пальцамі, раптоўна павярнуўся, абняў, пацалаваў. Яна ўсё гэта прымала прыхільна, але без адпаведных пачуццяў у адказ. Расшпіліў кофтачку, раскрыў грудкі, на якіх не было станіка, пачаў лашчыць іх.

– Давай, я раскладу канапу?

Яна згодна кіўнула.

Ён марудна з ласкамі вызваляў яе ад адзежы і, перш чым агаліцца самому, сказаў:

– Кладзіся.

І тут як маланкай апякло: "Класціся з вамі ў пасцель – гэта як з бацькам". Думка-ўспамін балюча ўкалола яго. Усё ўнутры абвяла. Ён і зразумеў, і адчуў, што нічога ў іх не атрымаецца. Лёг абыякавы, засяроджаны ў адчаі знайсці раптоўна страчаную моц, але беспаспяхова. Гэтае "як з бацькам" гняло і заціскала. Яна здзіўлена паглядзела на яго і ўсё зразумела.

Паляжалі моўчкі.

– Прыйдзі іншым разам. Лепш на ноч.

Яна памаўчала. Потым загаварыла. Голас яе быў адстаронены, як бы думкамі яна блукала недзе далёка.

– Я хутка паеду на некалькі дзён. Гэта вельмі важная паездка. Калі ўсё атрымаецца, маё жыццё зменіцца. Вельмі істотна зменіцца.

– Што за паездка?

– Не буду казаць, каб не сурочыць. Але гэта вельмі важна. Гэта такое важна, якое мяняе лёс. Галоўнае, каб атрымалася.

У яе атрымалася. З той паездкі яна вярнулася з маленькім сынам. Адзінокім жанчынам усынавіць дзіця звычайна не дазваляецца, але тут, мабыць, улічылі дастатковую жылплошчу і яе педагагічную прафесію.

Сына назвала Змітром. Віталь, пачуўшы пра тое, першае што падумаў: "А якім будзе яго *отчаства*?.."

*Ліпень 2023*

Анатоль Івашчанка



...Рыбацкая надзея
у цёплым глеі млее...

# Апошняя Мяжа

### *ПЯШЧОТА*

Ахіне,
ад ліхое бяды
абароніць,
суцешыць,
загоіць.
Праз заслоны,
замкі,
праз глухія муры
даляціць яе шэпт,
яе голас.

Уратуе,
схавае,
закрые сабой,
захіне у абдоймы,
атуліць

сваіх дзетак-каточкаў
самотнай парой.
Залатая.
Святая.
Матуля.

***МЯЖА***
***(РАЗЛОМ)***

Мяжа незваротна пяройдзеная.
Ззаду дыміцца разлом
між тым, што (закрэслена) *Родина*
і тым, што (капслокам) – лайно.

Донца глядзіцца ў ваконца.
Вядзем з апраметнай стрым.
Тралейбус “Жданы – Маконда”
чакае ў дэпо старым.

Палае нябесная лесвіца.
Як даводзіў Хрыстос,
дзеля таго, каб узнесціся,
нярвата ўзрываць хмарачос.

Як даводзіў Сідхартха,
прыхільнасці – гэта зло.
Сядзець ў вірасане па хатах
ды сузіраць разлом.

Зноўку камусьці патрэбныя
гэтыя песні-рэпіты.
Хтосьці ліе кулі срэбныя,
нехта тчэ пояс шахіда.

* * *

У менскім гатэлі “Мінск” –
шырачэзныя лесвічныя пралёты.
Вось цікава,
ці прыходзіла ў галаву таму,
хто вынайшаў выраз “лесвічны пралёт”,
асацыяцыя з апошнім палётам паэта?
Таксама цікава,
ці прыходзіла ў галаву адказнага
за грамадскую бяспеку

менскага гатэля “Мінск”
аналогія з маскоўскім гатэлем “Масква”,
калі ён развешваў сеткі-гамакі
між лесвічнымі пралётамі?..
Менскі гатэль “Мінск” –
ідэальнае месца
для правядзення паэтычных фестываляў.

*(14.02.2020)*

* * *

*А.Р.*

згубленыя ключы
калі?
сэрца-ківач
сэрца-вязніца
*людзі чужыя*
*як ты чужы*
сніцца
паэт-чужаніца

страты
паразы
па-за і па-над
разам
святар і бажніца
вязень і блазан
бывай
вартавы
разам
званар і званіца

*(26.08. 2021)*

* * *

той хто гукаў Мір
хто набліжаў Святло
дзе твой мундзір
камандзір
маршальскае жазло

не называць імя
здраднікам *non premia*
ад віны да віна
ад ідна да радна

скрозь каламуту дзён
скрозь дажджы ды імжу
крочыць цэнтурыён
за світанку мяжу

там на апошняй мяжы
*віцязь у жыце ляжыць*
скрозь імжу ды дажджы
ад віны да вайны

скрозь імжу ды дажджы
зноў прарастуць спарышы
не называць імя
здрайцам жа *non premia*

той хто гукаў Святло
хто набліжаў Мір
скрозь каламуту дзён
крочыць твой батальён
крочыць твой
легіён

* * *

*Ірэне Г.*

Перахрысці канверт,
перахрысці скрыню.
Ён даляціць, павер,
не прападзе, не згіне.

Нават калі слата
зноў агарнула душы.
Нават калі гапата
цісне, трушчыць і душыць.

Ён даляціць, павер,
паўз замк*і* і праз кр*а*ты.
Паўз бетонны бар'ер.
Паўз драты й казематы.

Ў Полацак і Магілёў,
ў Жодзіна, Гомель, Ветку,
ў Воршу, Гародню, Шклоў –
з волі чаканая вестка.

У скляпенні тугі,
у адсекі надзеі...
Праз сівыя снягі.
Праз парсекі завеі...

Вейна, Бабруйск, Ваўкавыск,
Берасце ды Навасады.
Горкі, Мазыр, Дзяржынск,
Віцьба й Пішчалаўскі замак...

Сэрцам перахрысці
і пакладзі ў скрыню.
Покуль ляцяць лісты,
не прападзем,
не згінем.

** * **

горад замазаных сцен
горад забаненых слоў
горад замкнёных вачэй
горад зашытых ратоў
горад замазаных слоў
горад замкнёных ратоў
горад забаненых сцен
ты не чакай
перамен

## *ULTIMA THULE**

Калі ноч накрывае бязмоўны прыдушаны горад,
бы бусліха – ад ліха – крылом ахінае гняздо,
выпаўзаюць празрыстыя цені са сховаў і нораў
ды блукаюць па вулках пустэльных без гуку й слядоў.

Хто яны, тыя выпаўзкі ночы, – празрыстыя дэманы-спаркі?
Вальдэморта ці Саўрана шыза-калматая раць?
Дэпрэсіўная навалач, душы бадзяжных сабакаў?..
Хто іх кліча навонкі і што прымушае блукаць?

Можа, Ктулху Вялікі іх цягне з прадонняў каменных?
Мо крывавы карбункул падняўся з нямігскіх віроў?
Ці падземныя коннікі клічуць Рамана ў дваццатым калене?
Толькі кажуць, што бачылі іх ля Плябанскіх Млыноў...

* Апошняя мяжа *(лацінскае выслоўе)*.

Дзе курган векавечны глядзіць на гасцінец бяссонны,
дзе шукае прытулку самотны прывід млынара,
дзе разрэзвае ночы пранізлівы вокліч князёўны
і не можа знайсці супакою пракляты атрад.

Курапаты, Вялейка, Лагойск, Чэрвень, Рудзенск, Барысаў,
Лепель, Віцебск, Бягомль, Валожын і гэтак далей.
*Dol Guldur*, Ліхалессе... Адвечная *ultimae* рыса.
Колькі шчэ неаплаканых неадспяваных касцей?..

Калі горад бяссонны агорне смугою і ценем.
Калі выпаўзуць здані са шчылінаў ды тайнікоў,
у равах ды лагчынах *пасцеле ім ночка пасцелі**.
Дай ім, Божа, спачыну.
І дай ім вярнуцца дамоў.

---

* *Сягоньня ў рыштках, каля крам // пасьцеле ім ночка пасьцелі. (*Язэп Пушча).

## *SCRIPTA MANET*

ці тое ты склеіш ласты
ці тое падчысціш пасты
ці станеш ахвярай падкаста
ці донарам для капіпасты
з прэтэнзіяй на наратыў

накрэмзанае застанецца
у рэху прагорклых радкоў
раструшчылі сэрца
смярдзючыя берцы
паслухай лукрэцы
і гэта мінецца
сказаў быў адзін далакоп

свабода – не ваша заслуга
а толькі наш недагляд
чакае дупу папруга
чакае пужлівага пуга
і забіццё – немаўлят

паэту пакрыўдзіць лёгка
паэта – штучны тавар
спрадвечная лёгіка
*далёкія – лёгкія*
а блізкія...
поўны засквар

пакуль тут пісаліся вершы
нібыта было лягчэй
люты закошваў пад снежань
не зачыняліся межы
менш забівалі дзяцей...

колькі шчэ засталося
ст*а*фу ў гэтых мяхах
колькі трывання
колькі кахання
колькі...
ды ну яго на..

*PS*

накрэмзанае застанецца
на снезе крывавым мазком
агульнае месца
сэрцу даверыцца
і – рэху
вандроўных радкоў

## *MIDNIGHT COWBOY*

зноўку ў галовах бардак
зноў у галовах рэзрух
сотнікаў ты ці рыбак
невырашальны рэбус

карлас ты ці дон хуан
летаў ягорка ці грэбень
карлсан або свантэнсан
рэмба? рэмбо?
рэбус

мёртвым дагэтуль баліць
мёртвым дагэтуль помсцяць
тыя хто тут былі
з лёхаў нема галосяць

будзе астатні бой
будзе... на страшным с*у*дзе...
змрочны паўночны каўбой
тых хто не спіць
абудзіць

*вільня – менск*

<u>*ЖМЕНЬКА ВАНДРОЎНЫХ ВЕРШАЎ*</u>

## *РЫБАЦКАЯ НАДЗЕЯ*

Рыбацкая надзея
не чэзне, не марнее,
не гасне на дажджы,
ад ветру не дрыжыць.
Рыбацкая надзея
з гадамі маладзее,
не слепне ад сляпня,
шаршня ды авадня.
Рыбацкая надзея
у цёплым глеі млее.
Ці дрэмле пад карчом
двухкілевым ляшчом.
Рыбацкая надзея
пільнуе далячынь.
Шапоча чаратамі
ды срэбнымі хвастамі
паблісквае ўначы.
На кончыку плыўка,
ў трываласці садка,
у тэрмаску з пярлоўкай
да першае паклёўкі...
Яна жыве датуль,
жывы рыбар пакуль.

* * *

Паспець зваліць ад бытавухі,
пакуль не зжэрла нас ушчэнт.
Паслаць дэдлайны ды цэйтноты,
забіць на дэбет і працэнт.
Ў багажнік спальнікі й намёты
закінуць. У салон – сям’ю...
(Глядзі, Кутузаў, не паблытай!)
Па плешку газу, і туды,
дзе з неба знічкі й жалуды,
дзе вышывае неба руны
на чорнай роўнядзі вады...
Дзе каля вогнішча начоўкі,
дзе *ветах, зорнае вясло*,
дзе сняцца усю ноч паклёўкі
(хай клёву й блізка не было).

Дзе будзе *згадваціца як шчасце*
той на паўкілі шчупачок.
Дзе... Зрэшты, досыць. Выбачайце.
Пайду спакоўваць плецачок.

* * *

котка чакае лета
калі павязуць на лецішча
і будзе крычаць у дарозе
у прадчуванні шчасця

татка чакае лета
дзе будуць звычайныя цуды
заўсёдныя летнія цуды
татка наладжвае вуды
перабірае снасці
у прадчуванні...

Насця
таксама чакае лета
летам – у Польшчы сяброўка
летам намётавы летнік
а там начныя вандроўкі
і процьма прыгодаў у іх
і роварныя выправы
ды іншыя важныя справы
Насця чакае лета
вядома ж болей за ўсіх

Маці чакае лета
калі прывязуць котку
што будзе крычаць у дарозе
калі прывязуць дзетак
(Даніка, Яну, Тусю,
Саню, Дзімона, Насцю)
што будуць глушыць колу
што будуць дурыць голаў
што будуць дарыць...

Яўген Рагін



…для васямнаццацігадовага

смерці не існуе…

# Капялюш

***Апавяданне***

Ён і сам дакладна не ведаў, чаму паехаў на лесатэхнічную пераддыпломную практыку пад Котлас, да Паўночнай Дзвіны. Хацеў паглядзець, чым яна адрозніваецца ад нашай, Заходняй? Наўрад ці. Геаграфія ў 18 гадоў яго не вельмі цікавіла. Можна было застацца ў Гомелі і прайсці практыку на дрэваапрацоўчым камбінаце. У тэхнікуме не былі супраць. Не. Ён напхаў у пляцак плойму непатрэбных рэчаў і адправіўся на Поўнач, праз алімпійскую Маскву, якая хавала стомленага Высоцкага, праз безаблічныя чыгуначныя перагоны і шэрыя вакзальныя станцыі, пад п’яную бойку дэмбеляў, нечым пакрыўджаных у войску...

Пасёлак сустрэў цёплым дождыкам і пахам свежай драўніны. Тайга была вясёлай і зялёнай. Баракі абапал дарогі таксама былі для яго спрэс экзотыкай. Як і дарога, ушчэнт разбітая лесавозамі. Яго папярэдзілі: з драўляных

ходнікаў не сыходзіць, бо зацягне па пояс, а сабак трэба прапускаць, бо скінуць. Людзі ў рабочых робах прыціскаліся да парэнчаў, лайкі беглі па сваіх справах, вакол пасёлка, казалі, бадзяецца мядзведзь у пошуках маліны. Да ўсяго гэтага трэба было прызвычаіцца.

Ён ішоў да дырэкцыі леспрамгаса і ціха радаваўся. А яшчэ яму было страшна. Радасны страх. Ці страх радасці?.. Штосьці падобнае было, калі ён упершыню пераплываў Сож: ногі хапае сутарга, а бераг нібыта далёка... Да бацькоў – паўтары тысячы кіламетраў. Наўкола – адно толькі незнаёмыя людзі і чужая гаворка.

Ён хутка прызвычаіўся да новай працы. Вясковыя – яны жылістыя. На лесасеку акулярнікаў не пускалі. Стаў рабочым ніжняга складу, дзе распілоўваўся звалены на верхнім складзе лес. Яму яшчэ па дарозе падказалі, што не трэба напрошвацца ў брыгаду камуністычнай працы: замардуюць. Але і ў звычайнай выступала соль на кашулі. Кіраваў брыгадай татарын з тварам, падобным на недапечаны блін. Татарын мацюкаўся з ханскай вытанчанасцю: “Мужыкі, білад!” Мужыкі мітусіліся, як падсмажаныя. Былі сярод іх украінцы, рускія, камякі, мардва. Амаль усе – высланыя на сто першы кіламетр альбо былыя асуджаныя, якія пасля вызвалення прыжыліся ля родных ужо зон. Кажуць, менавіта такую няпростую біяграфію меў нават дырэктар леспрамгаса...

З беларусаў быў толькі ён. Беларусаў у пасёлку любілі. Прасілі распавесці пра Мулявіна, заспяваць штосьці з “Песняроў”, хвалілі фільм “Дзікае паляванне караля Стаха”, які паказалі нядаўна ўпершыню. Ён распавядаў, спяваў, ганарыўся, чытаў вершы Барадуліна.

У першыя выходныя ён пачаў прыбірацца ў сваім барачным (ён казаў, барочным) пакойчыку. Тут жыў калісьці ўчастковы міліцыянт. На запыленай шафе ён знайшоў стары фетравы капялюш няпэўнага колеру. Скажам, так сабе знахадка (у яго на радзіме так і казалі – *зн**а**хадка*).

Маладая суседка-шпалаўкладчыца пастрыгла яго нагала. За тыдзень напружанай працы ён пераўтварыўся з ружовашчокага падшыванца ў маладога мужчыну з першымі парасткамі першай барады. Ён нацягнуў капялюш – і рассмяяўся. Менавіта гэтага, няўлоўнага і лёсавызначальнага, ён і чакаў ад свайго пасялкова-таёжнага жыцця. Капялюш на галаве быў як подпіс масцітага мастака на толькі што завершаным палатне – усё, карціна гатова. Капялюш на галаве быў як кропка ў апошнім сказе апавядання. Маўляў, пісьменнік пакутліва прадзіраўся праз заблытаны сюжэт – і раптам вось ён, нечаканы, але такі жаданы фінал. Ён засмяяўся яшчэ раз і пасля гэтага здымаў капялюш толькі ў ложку.

У гэтым свеце нешта важнае заўжды адбываецца неяк непрыкметна. Хоць і прыйшла ў тайгу восень і эстакада за ноч пакрывалася інеем, але (дзіва!) сонечных дзён паболела. Ён цвёрда крочыў зранку на працу, здымаў капялюш перад знаёмымі дзяўчатамі, усміхаўся з нагоды і без, свет належаў толькі яму. Дзяўчаты махалі ў адказ рукамі, нават засяроджаныя лайкі пачалі саступаць дарогу на хісткім ходніку. Жыццё наладзілася. Прыкладна тады ён заўважыў, што ў яго пачалі з’яўляцца першыя сівыя валаскі. Што да чаго?

Калі бацька напісаў, што прыйшла позва ў войска, ён спахмурнеў. З’язджаць не хацелася. І зусім не таму, што служыць выпадала ў Афга-

ністане. Не. Для васямнаццацігадовага смерці не існуе. Проста тут, пад Котласам, як падавалася, заставалася сапраўдная мужчынская справа. Урэшце і з суседкай усё яшчэ толькі пачало наладжвацца. І не толькі гэта. Ён пакідаў штосьці яшчэ. Так і не зразумеў, што. Адклаў пошукі на потым.

Дома яго пазналі не адразу. Ён не здзівіўся. Павесіў капялюш на цвік і выправіўся на вайну.

Яго забіла пад Кандагарам, дзе наўкола толькі пясок, камяні, сонца і смерць. Хавалі дома. Бацька чамусьці паклаў на магільныя кветкі стары фетравы капялюш няпэўнага колеру.

Таццяна Барысюк



...Чытаю цябе як тэкст –
любімы, не спазнаны
да канца...

# Кармічнае каханне

Кармічнае каханне – урок партнёрства, які трэба засвоіць. З духоўнага пункту гледжання, яго сутнасць у тым, што яшчэ да вашага нараджэння вашыя роднасныя душы сустрэліся, каб быць разам, падтрымліваючы адно аднаго ў любых абставінах. Прыкметамі кармічнага кахання з'яўляюцца наступныя: вы розныя, фатальнасць сустрэчы, адчуванне, што вы ведалі адно аднаго раней, паўсюль бачыце знакі адно аб адным, бура эмоцый, моцнае фізічнае прыцягненне, хуткія страсць і расчараванне, драма і сузалежнасць, непрацягласць, прапрацоўка траўм, ценяў, страхаў і недахопаў характараў, каб вылечыць душу, паспрыяць духоўнаму росту і любові да сябе. Гэта можа быць каханне з першага позірку, неўзаемнае, з розніцай ва ўзросце, кратнай пяці. Як правіла, кармічная сувязь з'яўляецца прадвесцем сапраўдных доўгатэрміновых асабістых стасункаў. *(З інтэрнэт-крыніц)*.

**ХОКУ**

* * *

Тваё цела – тэкст.
Хачу быць тэкстолагам
гэтага твора. *(24.02.2022)*

* * *

Кажуць, ты хітры.
Мо ты мне небяспечны?
Словам не веру. *(9.06.2022)*

* * *

Нябеснасць вачэй.
Сабаліныя бровы.
Закаханая... *(9.06.2022)*

* * *

Кахаю яго.
Ён цягнецца да цёмнай.
Тая – да іншых... *(18.06.2022)*

* * *

Прымаць, адпускаць
навучыцца мужчыну –
шчасце набуду... *(27.06.2022)*

* * *

Разнастайнасць – код
тваіх мілосных уцех.
*Sapienti sat*. (20.07.2022)

***КУПАЛЛЕ***

Ноччу ў лясочку
знойдзем папараць-кветку.
Ты будзеш маім! *(29.07.2022)*

* * *

Адпушчу цябе –
тады прыйдзе мужчына
для шчасця й згоды. *(6.10.2022)*

* * *

Калідор пусты.
Калідор зацьменняў –
як памяць пра фліpт. *(2.11.2022)*

* * *

Клетка жаданняў.
Мой каханы далёка.
Думкі пра радасць... *(2.11.2022)*

* * *

Ты для мяне – каб
прайсці трансфармацыю,
вырасці духам... *(4.11.2022)*

* * *

Каханне дае
акрыленасць і радасць,
палёт над бытам. *(10.11.2022)*

***КІНЦУГІ***

Падкрэсліваю
золатам свае раны.
Мастацтва болю. *(25.12.2022)*

* * *

Зіма і вясна
без цябе – як вечнасці
сон у самоце... *(17.03.2023)*

* * *

Загадала стрэць.
Ты прыйшоў, на здзіўленне.
Прачытаў думкі? *(20.04.2023)*

* * *

Я бязмежная,
як сусвет, дзякуючы
маёй мілосці. *(23.04.2023)*

* * *

У тую ж раку
не ўвойдзем двойчы – шкада...
Халодны, чужы... *(23.04.2023)*

* * *

Абдымкі трэба –
як быццам ад гэтага
залежыць жыццё... *(23.04.2023)*

* * *

Кахаю таго,
хто не кахае мяне.
Зломлены крылы. *(25.04.2023)*

* * *

Хай сум сплыве прэч.
Ніць-сувязь адразаю,
гаю пачуцці. *(26.04.2023)*

* * *

“Забі надзею”[1]...
Што ж, бывай, мой каханы!
Усё часова... *(3.05.2023)*

* * *

Юнае цела
шукаеш? Састарэе
й яно. Сэнс – душа... *(8.05.2023)*

* * *

Вясна. Я адна.
Выйду з анабіёзу,
палюблю сябе. *(20.05.2023)*

* * *

Ліпень без цябе...
Сонца – як знак быць святлом
для сябе самой... *(20.07.2023)*

* * *

Удар маланкі –
пры позіркаў сустрэчы.
Нявечна страсць. Сум...
*(22.07.2023)*

* * *

Аб тым, што я лёс, –
на скрыначках запалак
Шалі ты ўбачыў... *(26.07.2023)*

* * *

Ты ішоў міма.
А я шукала бездань-
сэнс у мінаку... *(28.07.2023)*

* * *

Не трагедыя,
а вызваленне маё –
расстанне з табой. *(28.07.2023)*

* * *

З іншай планеты
жанчынай адчувала
сябе з табою... (29.07.2023)

* * *

Прыйшоў і пайшоў.
Скрыжаванне лёсамі.
Не мой. Не твая. *(29.07.2023)*

* * *

Ты мог Сусветам
стаць маім, а стаў болем,
паэзіяй слоў. *(30.07.2023)*

## *ТЫ - МОЙ НАСТАЎНІК*

Кожны чалавек –
настаўнік. Дзякуй за ўрок.
Шчасця жадаю. *(1.09.2023)*

* * *

Маё каханне
да цябе – як зацьменне.
Сонца заззяла... *(2.09.2023)*

* * *

Абдымкі – повязь
нас у адно цэлае.
...Мора і неба... *(10.10.2023)*

* * *

Год маўчання – знак
паразы майго святла.
Ты іншых кахай! *(18.10.2023)*

[1] З твора Льюіса Кэрала “Аліса ў краіне цудаў”.

### ***ПРЫВЯЗАНАСЦЬ***

*(залатое сячэнне[1] перавернутае)*

Я хачу пакахаць воч святло,
тваю ўсмешку, душы праменні,
тваё ўсё, што калісьці было,
што мільгнула ў ранейшых сненнях.
Тваю цемру пабачыць хачу,
змрок схаваных інстынктаў-скляпенняў.
Што кахаеш, хачу я пачуць,
як ты ў страсці сваёй бурапеніш.

Што не кінеш, не пойдзеш за іншай,
што захочаш – навекі і разам.
Не хачу быць – забытай і лішняй.
Быць хачу я – адзінай і важнай.
Быць тваёй, быць з табой, быць прывязанай.

*(19.05.2022)*

* * *

Ты нечакана прыабняў.
Сумелася. Пасля прыціхла.
Утульнасць – бы анёл лунаў,
каб зберагчы дваіх ад ліха.

Хацелася спыніць той міг,
каб сэрца лётала ад шчасця,
яднанне з Вечнасцю спасцігнуць,
аддаць сябе шалёнай страсці.
Ах мары! Розум шалам засцяць! *(13.06.2022)*

---

[1] Цвёрдая форма верша “залатое сячэнне” – гэта вынайдзеная намі 13-радковая страфа з пяці- і васьмірадкоўя са схемай рыфмоўкі радкоў *абааб вгвгдеде* ці васьмі- і пяцірадкоўя для “перавернутай” формы са схемай рыфмоўкі радкоў *абабвгвг дедее*. Гэта форма падобна да санета, але больш гарманічная паводле матэматычнай прапорцыі. Схема рыфмоўкі васьмірадкоўя “залатое сячэнне” нагадвае два “склееныя” графічна катрэны санета, самастойныя часціны мовы ў тэксце, як правіла, не паўтараюцца, а заканчваецца твор ключавым словам/словазлучэннем/радком, істотным для яго канцэпцыі. Гэта вершы-характарыстыкі заяўленых з’яў ці адрасатаў, вершы-формулы. Ідэйны змест павінен быць глыбокі і адлюстроўваць тэмы, экзістэнцыйна-светапоглядна значныя для паэта: ідэальнай форме павінен адпавядаць ідэальны змест. Паколькі ёсць пэўныя адрасаты (дыялог тут як сродак пазнання свету і чалавека), можна сказаць, што гэта яшчэ і вершы-прысвячэнні. Магчымасці жанрава-тэматычнага раскрыцця “залатое сячэнне” найшырокія – праз грамадзянскую, філасофскую, пейзажную і інтымную лірыку. Рыфмы ў творах “залатога сячэння” пераважаюць жаночыя. Такія творы могуць быць напісаны амаль любым метрам сілаба-танічнай сістэмы вершаскладання. Так што змястоўныя і выяўленчыя патэнцыйныя магчымасці гэтай цвёрдай формы верша вялікія. У беларускай, рускай і замежнай літаратурах такіх форм мы не сустракалі. Так што можна казаць аб нашым наватарстве ў тэорыі стварэння і практыцы напісання залатога сячэння як цвёрдай формы верша.

* * *

*Sapienti sat* –
вішнёвы сад.
Крок адзін
да вязкае спакусы.
Быццам рад –
а быццам і не рад.
Аладін
ля лямпы, пах мускусны.

Ці пачулі?
Ці пачулі ад дзяўчулі:
“Не такі Вы
клапатлівы”,
што “Вы безграшовы”?
Па любому
выбраў палюбоўніц:
разнастайнасць –
крэда – крайнасць.

Будзь шчаслівы.
Спёка. Жнівень. *(17.08.2022)*

## *РАЙ І ПЕКЛА (ВЕРШ ТРЭЦІ)*

У пекле помню пра рай.
У раі помню пра пекла.
Каханы, мяне выбірай.
Ці думаеш, іншыя лепей?

Усе мы праходзім жыццё.
Усе мы прадстанем прад Богам.
Забуду сваё пачуццё.
Набуду свабоду і годнасць.

Пакуль жа – адчай, безвыходнасць... *(5.10.2022)*

## *ЭРОТЫКА*

Абдымкі, пацалункі, еднасць –
энергій танец разам зведаць.
Моц прыцягнення незямная.
Які магніт у сэрцы маеш?
Забуду правілы й патрэбы.
Сваім цяплом цябе сагрэць бы! *(19.10.2022)*

* * *

Кава – інтэлектуальны напой.
Вып’ем калісьці з табой?
Прыйдзеш, як быццам ты мой,
восенню й сцюжнай зімой.
Схочаш пабачыць, абняць.
Ў сэрцы званы зазвіняць.
Час ратавання табой.
Вып’ем чароўны напой.
Іншым ні слова пра нас –
моўкнуць прастора і час.

*(20.10.2022)*

## *18 КАСТРЫЧНІКА (ВЕРШ ДРУГІ)*

Здавалася б: дождж – драбніца!
Але кайф – пад парасонам
з каханым вачамі злучыцца,
святло ліхтарнае – сонмам...

Прайсці па вулцы бязлюднай
на мокры пусты прыпынак.
Прыемна паўсюдна – з любым,
схавацца ў ягоных абдымках.

Імгненні бязгрэшнага шчасця
адлічваць узрушаным сэрцам.
Прасторава-часавы панцыр
прабіць, каб ізноўку сустрэцца.

Калісьці.
Чамусьці.
Нарэшце... *(5.11.2022)*

## *ШТО ТАКОЕ КАХАННЕ?*

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Каб *быць*, патрэбна і *кахаць*,
бо без мілосці свет панылы,
па любым зрэдчас уздыхаць,
у марах бачыць вобраз мілы.
Даваць і браць часцінкі шчасця,
акрыльваць і прымаць натхненне,
свет – праз яго! – душою мацаць,
ісці – услед за прыцягненнем.

Спрабую адчуваць давер.
Табою быццам апантана.
Хто ты – анёл ці люты звер?
Мы разам ці чакаць расстання?
О Божа, дай жа нам каханне! *(14.11.2022)*

* * *

Рэальна: усё не вечна.
Каханне – яно асабліва.
Маўчанне тваё нявечыць,
трывожыць, займае сілы.

Скажы, калі сэрцу няміла.
Скажы, калі граеш, як цацкай.
Імгненні жыцця найімклівы
і ўсё абарвецца знянацку.
Напоўніцца б любасцю й ласкай! *(22.11.2022)*

* * *

З кім буду я? З ім ці не з ім?
Бог дасць шанец стаць шчаслівейшай,
нарэшце ў чарговую з зім
апець стан крылаты – у вершы?

Не з ім... Ён маўчыць... Ён як лёд...
Мяне ён на паузу ставіць.
Хацела ж не лёд я, а мёд,
ды бачу зноў знак на расстанне.

Забыта... Дык час забываць.
Нялюбая – й я раскахаю.
І я забіраю твой шанц
на спеў, што ў душы калыхаю.

Нявечны схаваны парыў
зрабіць жыццясэнсам мужчыну...
Знайду ў сабе стрыжань і крыж
і стануся шчасця прычынай –
адна... *(9.12.2022)*

***РАСПРАВІЦЬ КРЫЛЫ***

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Зіма. І ў рыфму: “А няма
яго з табой. А ты хацела!”

Пакажа “the end” сінем*а*
і, стомленае, спацьме цела.
Пабачу сон, дзе нас няма,
Дзе зімавея сцеле снежна.
Дзе я адна, дзе я сама
ў адчаі, толькі іншым смешна.

Я адпушчу цябе. Ідзі.
І не вяртайся: шлях закрыты.
А сэрца ў рэбрах між ільдзін
на волю рвецца путы зрынуць,
расправіць крылы. *(14.12.2022)*

***ЗІМОВАЯ ІМПРЭСІЯ***

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Зіма. Завея. Бель. Мароз,
як сто гадоў таму ці вечнасць.
Бог з неба пуху панатрос,
бо ў Новы год сняжок дарэчны.
Мінаюць дні. За годам год,
як карусель – за колам кола.
Жыцця імклівы карагод,
сезонаў змены ў наваколлі.

АН і Батанічны сад
вітаюць ведай апантаных.
Не азіраймася назад:
там засталіся нашы раны...
Ёсць толькі рай – для закаханых... *(15.12.2022)*

* * *

Беласнежжам
не стае кунежных
рук-абдымкаў-плеч,
разам побач легчы.
Каб маўчалі вусны,
целамі спакушваць.
І пацалавацца –
душамі спаткацца
з пачуццём даверу.
Любы, ты мне верны?.. *(17.12.2022)*

* * *

Быць мару – з табой.
Назаўсёды. Гэта слова

табе – як забой-
ства мілосці ды волі.

Мы памром – ты ж у курсе –
душа развітаецца з целам –
ды я ў гэтым спраў пeратрусе
з табой быць навекі хацела.

Ты рэчы, пачуцці сабраў,
гатовы сысці, каб не разам.
Між сонмаў бязлітасных праўд –
ідзём мы наўпрост да маразму.

Мы ж мелі магчымасць
дачку нарадзіць, гадаваць і галубіць.
Мяркуеш, што лёс – рассячы нас
на атамы, кінуць да згубы?

Стаіш на парозе, шукаеш
вачамі ты іншую звабу.
Пры ўсіх жыцця прозе і кайфе,
МЫ шлях выбіраем – і шабляй

сячом непатрэбнае, лішак,
пакінем найлепшае сэрцу.
Ты мо да мяне прытуліся:
я добрая, мне можна верыць.

Жыцця праляціць ураган.
Прадстанем прад госпадам Богам.
Я зычу дабра, не граха.
Прыйду да святога парога
здарожанай.
*(22.12.2022)*

## ***ТВОЙ ПАНЦЫР***

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Жыццё як сон, любоў – міраж,
а людзі – прывіды ў прасторы,
душу шукаюць ці кураж,
эмоцый выбух, страсці мора.
Мы робім выбар кожны свой,
і кожны з нас нясе наступствы.
Карцін мінулага сувой.
Мілосць – каб з’ясніць сваю сутнасць.

Я адчуваю твой ігнор.
Мая душа табе – як цацка.
На нервах дзынкае мінор.
Ты спец да іншых заляцацца,
хоць маеш недаверу панцыр.
*(9.02.2023, 16.03.2023)*

* * *

Паміж намі квантавая сувязь:
расстаўшыся, мы будзем іншымі,
чым былі да стрэчы... *(20.03.2023)*

* * *

А ведаеш, калі ты захочаш прыйсці
па лесе, дрыгве, па трысці
на мяккіх каціных лапах,
высокі і знешне ладны,

я думаю, што не прыму:
мой боль – як глыток палыну,
настою трагічных ўспамінаў,
як ты прайшоў восеньскім ліўнем,
не стаў сэнсам суіснавання.
Бывай, мой калісьці каханы!.. *(23.03.2023)*

## СЁННЯ Ў ТРАЕЦКІМ ПРАДМЕСЦІ

Дзе мы з табой не былі? У Траецкім!
Думкамі пройдзем па гэтым прадмесці.

Ты ўжо забыў пра маё існаванне.
Сумна ля Свіслачы шпацыраванне.

Шчасце нібы засталося ў музеі.
Тлумна ў самоце праходзяць падзеі.

Скрушна настолькі, што слёзы не льюцца.
Сэрцы наводдаль нязвязана б’юцца. *(12.04.2023)*

## СЭНС – ДЗІЦЯ

А ведаеш, з пункту гледжання вечнасці
ўсё роўна, дзіця хто табе прысвеціць,

прадоўжыць твой ДНК-код,
не знікнуў каб твой даўні род.

Пакуль ты блукаеш між цел,
ты думаць аб тым не хацеў,

а продкі чакаюць яго –
не блуду між целаў твайго.

А я хацела між тым
быць целам любімым тваім. *(10.05.2023)*

* * *

Душа не хоча цябе адпускаць,
а ты маўчыш, тваё сэрца зусім зледзянела.
А я стамілася вершам гукаць
цябе – за самоту я паразумнела.

Маўчы – так Багі вырашаюць наш лёс,
каб мы не зламалі намераў Сусвету,
каб мы не натрапілі на пастку з лёз,
каб мы не парушылі Божага вета. *(11.05.2023)*

* * *

Ва ўсім вінаваты Эдыпаў комплекс.
Мы закаханыя. Воляй-няволяй.
Нават калі мяне забараняеш,
зрэдчас, калісьці мяне ўспамінаеш.
Зімна: адлегласць між намі як прорва.
Колер у нашай расстайнасці чорны. *(13.05.2023)*

* * *

Сыграю сольную партыю
заместа дуэту.
Патрабую ўпарта я
вернасці й імпэту.

Гора не зломіць
мой светапогляд.
Ты вераломны,
хоць неспатольны.

Выплачу рэкі
слёз ды адчаю.

Выганю рэдкага,
каб знайсці звычайнага. *(15.05.2023)*

* * *

Я на квантавым перакрыжаванні.
І трэба ісці наперад.
Без цябе. *(15.05.2023)*

* * *

Ты нараджаеш музыку ў душы,
з якой ліюцца вершы парадкова.
Ды толькі веру здрадай не душы,
каб з думак прэч зваліліся аковы *(25.05.2023)*

* * *

Не пускаеш мяне ў свой лёс,
не пускаю цябе ў свой лёс.
Асабістыя межы з лёз... *(1.07.2023)*

### ЧАТЫРЫ СТЫХІІ Ў ТАБЕ

*(з нагоды Сусветнага дня пацалунку)*

Вадою смагу наталіў.
Агнём на лірыку натхніў.
Я без цябе – як без паветра.
Зямлі – хацела цела зведаць.
Цябе наведаць. *(6.07.2023)*

* * *

Ты – як кароткачасовы дождж:
прайшоў і знік. *(8.07.2023)*

* * *

Алесь Пісьмянкоў чытаў зоры,
Аксана Спрынчан – камяні,
Генадзь Бураўкін – тайнапіс вачэй...
Чытаю цябе як тэкст –
любімы, не спазнаны
да канца. *(11.07.2023)*




Паводле добрай традыцыі на працягу многіх гадоў “Дзеяслоў” друкуе тэксты пераможцаў літаратурных конкурсаў для маладых творцаў. Сёлетні конкурс быў прысвечаны 100-годдзю літаратурнага аб’яднання “Маладняк”. У ім узялі ўдзел больш за 50 маладых літаратараў. Журы назвала пераможцаў у трох намінацыях: “Паэзія”, “Проза”, “Эсэ”. Сярод паэтаў пераможцамі названыя: **Яўген Кунцэвіч** (паэма “Самнасамасць”), **Лена Шаламіцкая** і **Дар’я Мацеша** (падборкі вершаў). Сярод празаікаў лепшымі сталі: **Кацярына Дабкене** (апавяданне “Аказія ЖЗМВ”), **Аляксандр Чарнуха** (апавяданне “Рука”), **Платон Станкевіч** (нізка навелаў). Сярод эсэістаў перамаглі – **Канстанцін Касяк** (эсэ “Working Class Hero”), **Дар’я Сінічкіна** (літаратурна-крытычны агляд кніг Зінаіды Бандарынай, Наталлі Вішнеўскай і Яўгеніі Пфляўмбаўм), **Вадзім Барысевіч** (эсэ “Мяжа”).

“Дзеяслоў” прапануе чытачам пазнаёміцца з творамі трох аўтараў, якія занялі першыя месцы ў конкурсе. Тэксты ўсіх пераможцаў конкурсу, як паведамляе журы, выйдуць у наступным годзе ў спецыяльным альманаху.

Шчыра віншуем усіх фіналістаў, пераможцаў і прызёраў!

Кацярына ДАБКЕНЕ



## Аказія ЖЗМВ

Я магла б пачаць гэтую гісторыю з таго, што Жанчына з Меднымі Валасамі глядзіць на сябе ў люстэрка. Яно нейкім чынам у разы павялічвае адбітак, каб яшчэ відавочней былі кратары на скуры, носавусныя складкі, вертыкальныя барозны паміж бровамі і капюшоны павек.

Я магла б пачаць гэтую гісторыю маналогам Жанчыны з Меднымі Валасамі ў псіхатэрапеўта:

– Скажыце, дык з усімі так? Я ведаю, што з усімі абавязкова. Мне вельмі страшна. І гэта недарэчна, нерацыянальна. Завяданне непазбежнае. Але нібыта з іншымі. Не са мной. Я ж непаражальная. Як эльф ці кіцунэ. Хто там яшчэ бывае?

Я магла б пачаць гэтую гісторыю з паўтаральнага сну. Ужо год ён ёй сніцца разы два на месяц. Удалечыні брэша сабака. Ліхтар учапіўся ў цемру. Жанчына з Меднымі Валасамі абдымае нагамі нябачныя сцёгны мужчыны, гладзіць свае плечы шурпатымі рукамі (увесь час забывае мазаць іх крэмам), заплюшчвае вочы, адкідае назад галаву і адчувае, як шыю шчыміць ад няголенай шчакі кагосьці вялікага, небяспечнага, неспасцігальнага. Брэх набліжаецца, цела пачынае гушкацца, як на хвалях, яна паціху расплюшчвае вочы і бачыць, што твар трэцца аб цвёрды ворс сабачай поўсці, а яе саму, сонную, нясе на спіне велізарны сабака, як у казцы пра крэсіва.

Зрэшты, я пачала ўжо гэтую гісторыю ўсімі трыма спосабамі. Зразумела, што яе галоўная гераіня – Жанчына з Меднымі Валасамі ці, коратка, ЖЗМВ.

ЖЗМВ – вельмі шчаслівая жанчына. Пра што яшчэ можна марыць? Цудоўныя дзеці. Хлопчык – 13 гадоў. Надта ўраўнаважаны для падлетка. Амаль не скандаліць. Не раскідвае рэчы, рыхтуецца да алімпіяды па геаграфіі. Натуральна, не паліць і сябруе з добрымі хлопчыкамі. Толькі ўвесь час цісне прышчы. Да крыві. А гэта ж інфекцыі, і Бог ведае што яшчэ... Дзяўчынка – 10 гадоў. Усмешлівая, адкрытая, займаецца бальнымі танцамі, пляце з бісеру, не робіць поспехаў у матэматыцы, затое выдатна піша сачыненні. Проста як ЖЗМВ у дзяцінстве. Ой, хлопчыкі хутка пачнуцца... Лепш не думаць пра гэта.

З працай таксама ўсё надзвычай добра. Сярэдняга звяна кіраўнік у лагістычнай фірме. Назва не мае значэння. Яны ўсе аднолькава называюцца: ТАА “Аўтатранснешта”. Калегі яе любяць. Дораць шыкоўныя букеты на 8 сакавіка і Дзень нараджэння. У верасні. Яна ўвесь час хоча ранункулюсы. Усё спадзяецца, што падораць менавіта іх. А атрымліваюцца заўсёды ружы, лілеі, хрызантэмы; адзін раз нават букет з экзатычнай садавіны падарылі. Можа, таму, што ў верасні ранункулюсаў не бывае.

Муж каханы таксама ёсць. У яго свой бізнес. Невялікі такі, але стабільны. Дазваляе трымаць загарадную хату і вучыць дзяцей у прыватнай школе. А на хаце, ведаеце, назва вуліцы і нумар – каваныя. І плот такі мудрагелісты, з завітушкамі. Таксама каваны. У іх сябар сям'і – каваль, член Саюза мастакоў. Яшчэ водпуск – два разы на год. Адзін раз на цёплым моры: Турцыя там, Егіпет. А другі раз – абавязкова горы. Лыжы ці сноўборд. Ну, каб крыху адрэналіну. Я ж кажу, ЖЗМВ – вельмі шчаслівая.

Але, як гэта часта бывае, бяда прыходзіць раптоўна. Цішком. З-пад вымытага карункавага цюлю, з-за любоўна перасаджаных у новыя вазоны архідэй, абмінаючы сакавіта-зялёны, толькі што падстрыжаны газончык, дзе дачка загарае ўлетку.

Гэта быў звычайны дзень. Абед прыгатаваны з учарашняга вечара, касцюм колеру капучына таксама падрыхтаваны з учора. Яна б такі не купіла. Прызвычаілася да больш класічных фасонаў, але кансультантка ў краме сказала, што аверсайз у трэндзе. А ЖЗМВ любіла быць у трэндзе. І спрабаваць новае. Нават у рэстаране нядаўна замовіла не філе цяляціны, як звычайна, а стэйк з сёмгі. Псіхатэрапеўт кажа, што трэба ўвесь час пашыраць межы ўспрымання, не каснець.

Муж павёз ужо дзяцей у школу (кажу ж, залаты чалавек), ЖЗМВ, не спяшаючыся, з'ела свой ранішні ёгурт з гранолай, каву на працы пап'е. Слізганула ў касцюм, час ужо падціскае, а яна так і не зрабіла гімнастыку для твару. Як ёсць ужо. Чарада звыклых гукаў: дзверы грукнулі, ключ пракруціўся, пікнула машына. Нешта бразнула і пакацілася. Гэты гук не па плане. ЖЗМВ паспрабавала намацаць позіркам, адкуль ён, агледзела сябе і зразумела, што гэта гузік адарваўся ад новага жакета. Часу шукаць не было. Яна з прыкрасцю тузанула дзверцы машыны, шпурнула ў салон торбу, якая аказалася не закрыта. На падлогу высыпалася змесціва: пара памад, расчоскі, мятныя ледзяшы, ручка, крэм для рук. Кашалёк і тэлефон. "Што ж гэта такое", – завішчала ЖЗМВ, упіраючыся рукамі ў руль. Але, убачыўшы свой адбітак у люстэрку, рэзка расслабіла мышцы твару і з інтанацыяй Мэры Попінс вымавіла: "Гэта дробязі. Пырскі паўсядзённасці. Я з усім спраўлюся. Я ў раўнавазе".

Яна паспяхова даехала да працы і паспяшалася да офіса, недарэчна затуляючы торбай месца, адкуль адляцеў гузік. Планёрка праз дзесяць хвілінаў. Яна ўляцела ў прасторны ліфт, у якім ужо было чалавек пяць, акінула позіркам сваё адлюстраванне. Машынальна паправіла пасму валасоў і на імгненне застыла. Вочы, шэрыя, нічым не прыкметныя, крыху прыжмураныя, бессаромна яе разглядалі. Яна рэзка адвяла позірк, адвярнулася, стала лічыць паверхі. На дзявятым ліфт спыніўся. Яна адчула дыханне на сваёй шыі і мужчынскі шэпт у вуха: "У вас гузік з жакета адляцеў". Ён ступіў з ліфта.

Пасля працы, увечары, ЖЗМВ аблазіла ўвесь газончык і дарожкі перад гаражом, але гузіка так і не знайшла. На ноч яна выпіла снатворнае.

Наступным днём пасля ўсіх ранішніх рытуалаў ЖЗМВ зноў забегла ў офісны ліфт. Апранутая ў цёмную вузкую трыкатажную сукенку, на далонь ніжэй калена, і ніякіх гузікаў. Шэрыя вочы як быццам яе чакалі. Ну, гэта ўжо не смешна. Яна з выклікам, з дакорам паглядзела ў адказ, не адводзячы вачэй да самага дзявятага паверха. Выходзячы, ён усміхнуўся і кінуў:

– Добрага дня.

У кабінеце ЖЗМВ спытала асістэнтку, ці не ведае яна выпадкова, што

ў іх размяшчаецца на дзявятым паверсе. Аказалася, што два рэкламныя агенцтвы, адно агенцтва нерухомасці і яшчэ пара непрыкметных кампаній.

На працы яна затрымалася пазней, чым звычайна, і вырашыла спусціцца па лесвіцы да дзявятага паверха. “Якая ж ты ідыётка! Ну, што ты хочаш тут убачыць? Яшчэ чаго не хапала – з’явіцца з-за рога. Вось сораму”, – казала сабе ЖЗМВ, ужо стоячы на пляцоўцы перад ліфтам, каб спусціцца, нарэшце, уніз.

“Гэтым разам не паеду ўпрытык. Прыйду крыху раней. Глупства нейкае. Заўтра выхадныя, усё, усё”, – круцілася ў галаве ЖЗМВ па дарозе на працу. Перад ліфтам сэрца паплаўком усплыло да горла і пачало плёскацца якраз пад лагчынкай паміж ключыцамі. Ліфт адчыніўся. Пусты. Яна зайшла ў ліфт, выдыхнула і націснула “13”. Дзверы папаўзлі насустрач адна адной, але так і не сустрэліся. Уклініўся карычневы чаравік. “Добрай раніцы. Паспеў”, – мужчына шырока ўсміхнуўся і зусім ужо беспардонна пачаў разглядаць ЖЗМВ. Яго твар наблізіўся, паплавок пад лагчынкай паміж ключыцамі затрымцеў і застыў. Ліфт тузануўся, дзінькнуў. Калі яна расплюшчыла вочы і дакранулася пальцамі да вуснаў, мужчына ці то ўжо выходзіў, ці то нешта казаў... Ліфт рушыў вышэй, і толькі на 13 паверсе яна зразумела, што яе пацалаваў зусім незнаёмы мужык. Вось проста так. Раптам. Бесцырымонна. І яна адказала. Ватнымі нагамі яна неяк дайшла да кабінета і, здаецца, так і прасядзела цэлы дзень у адной позе. Яна глядзела на свае рукі і бачыла нейкія чужыя пазногці з французскім манікюрам, чужыя пярсцёнкі. І фатаграфію дзяцей на працоўным стале, здаецца, упершыню ўбачыла. Які гэта год? Колькі ім тут споўнілася?

А як ісці назад? А як увогуле ісці?

Раніцай у суботу ў ЖЗМВ узнялася тэмпература, і дзеці з мужам з’ехалі ў госці да бацькоў без яе. Яна не ведала, што рабіць у такіх сітуацыях. Але Ірка, напэўна, ведала. Набрала патрэбны нумар:

– Ір, прыедзь, а?

– А ты дзе? Што здарылася? У цябе ж бацькоўскі дзень!

– Мяне мужык нейкі ў ліфце пацалаваў. Што рабіць?

– Аааа... Лячу.

Версіі пра маньяка і таемнага агента былі адрынуты адразу. Іра склала план, па якім ЖЗМВ павінна была правесці цэлую разведаперацыю. Яна ківала. Але разумела, што нічога з гэтага не зробіць. І нават псіхолагу не раскажа.

– А як ён пачаў, ну, сказаў нешта ці адразу так, з наскоку?

– Толькі глядзеў. Пару дзён. Сорам які! – ЖЗМВ ўвесь час церла твар далонямі.

– Во мужык, малайчына... Табе хоць спадабалася?

– Іра, ну ты як заўсёды! Ну, я табе пра адно, а ты? А калі гэта маньяк нейкі?

– Ну, дык а што ты яму па мордзе не дала?

ЖЗМВ нічога не адказала. І ўпершыню за 15 гадоў запаліла. Разам з Іркай.

Што было далей? Тут гісторыя мяняе правілы гульні. Дакладней, яна іх набывае. Бо зараз усё будзе залежаць ад лёсу. Як і ў жыцці. Каламбур нейкі атрымліваецца. Але гэта не важна. Важна, каб зараз у цябе пад рукой апынуліся ігральныя кубікі. Адзін ігральны кубік. Усё як звычайна: заціснуць у далоні, патрэсці, адпусціць на волю.

## Калі выпала адна кропка

У панядзелак ЖЗМВ набралася адвагі і вырашыла строгім голасам развеяць гэты бэзавы туман, здзьмухнуць цукровую пудру чараўніцтва. Так і будзе. Калі ён апынецца ў ліфце і пачне выкідаць гэтыя свае фокусы, яна так і скажа: “Паслухайце, я вас запрашаю на каву. Пасля працы. Там і пагаворым пра ўсё, што адбываецца”. Не, не так, па-іншаму: “Ведаеце, гэта ўсё, вядома, цудоўна, адляцелыя гузікі, пацалункі. Але, можа, абмяркуем, што адбываецца”. У яе галаве ўсплывалі дзёрзкія і бойкія варыянты тлумачэнняў, дасціпных і знішчальных. Яна нават вусны нафарбавала чырвонай памадай для ўпэўненасці.

Перад тым, як выйсці з машыны, яна прыдзірліва паглядзела на сябе ў люстэрка, зрабіла тры глыбокія ўдыхі і выдыхі, далічыла да дзесяці. Дарога да ліфта была дзіўна доўгай, а ногі – цяжкімі. Перад ліфтам ужо тоўпіліся людзі. Мужчыны не было. Дакладней, былі розныя, але не яе. Божа, з якога гэта часу ён яе? Ну, і чорт з ім. Рабочы дзень цягнуўся, як астылы кісель праз трубачку. Памада сцерлася. Увечары затрымалася. У ліфце ехала адна.

На наступны дзень мужчына ў ліфце не з’явіўся. І на наступны. І на наступны.

Праз месяц ЖЗМВ звольнілася з працы. Запісалася на фламенка. Адвучылася некалькі месяцаў на курсах фларыстыкі і ўладкавалася працаваць у кветкавую краму. Ніколі не думала, што кожны дзень можа быць такім духмяным і прыгожым. Нават нягледзячы на мазалі. Часам ёй здаецца, што ў кожнай кветкі ёсць характар. Ружы крыху істэрычкі, эўстомы любяць фатаграфавацца, а альстрамерыі вечна хіхікаюць. Але больш за ўсё ўзаемаразумення яна знаходзіць з ранункулюсамі. Яны на яе падобныя.

## Калі выпала дзве кропкі

Раніцай ЖЗМВ не пайшла на працу. Яна патэлефанавала начальніку і паведаміла, што захварэла. Да лекара яна, вядома, схадзіла і бальнічны ўзяла, але дыягназ быў не зусім праўдзівы. Гэта не нервовае расстройства, не абвастрэнне алергіі, не ВРВІ. Гэта прыступ страху, у якім нават сабе самой прызнацца сорамна. Пакласці ў патаемную кішэню і забыцца, засунуць пад пухнаты кілімок ля ложка, упусціць слізкай шпількай за канапу і ніколі не вымятаць.

Як гэта прызнаць, што ты жанчына? Такое аб’яўленне можа разбурыць жыццё. Гэтае маленькае дапушчэнне ператворыцца ў тарнада і спустошыць зямлю пад нагамі. Жанчына. Не маці, не супрацоўнік, не гаспадыня, не дачка, не сяброўка. Нейкі чужы мужчына мае ўладу над табой, стойкай, прыстойнай, якая склалася... Як гэта дапусціць? А яшчэ ж дзеці... Божа ты мой. Успомні фільм і кнігу “Масты акругі Медысан”. Не магло быць інакш. А тут нават і блізка гісторыі такой няма. Проста выпадковы дотык. Памылка. Непаразуменне. Марок. Яе жыццё застанецца яе жыццём. Яна яго адваюе. Нават у сябе самой.

Пасля бальнічнага ЖЗМВ узяла водпуск і з’ехала разам з мужам і дзецьмі на Мальдзівы. А то ўвесь час усё Турцыя ды Турцыя. Могуць сабе дазволіць, у рэшце рэшт. А яшчэ ўсе гавораць, што астравы павольна сыходзяць пад ваду і хутка ад іх нічога не застанецца. Трэба хоць паспець палюбавацца.

Праз паўтара месяцы ад саромнай гісторыі застаўся толькі пункцірны алоўкавы след. Запісалася на ёгу, каб упарадкаваць думкі, дыханне, ды і

цела падцягнуць не перашкодзіць. Першы ‘паход да ліфта’ быў хвалюючым, але ніштаватым. Самавалоданне вярнулася, а гузік выпадковым чынам знайшоўся. Дачка загарала на газоне і заўважыла. ЖЗМВ вырашыла, што гэта добры знак, так і павінна быць. Усё правільна.

## Калі выпала тры кропкі

Сустрэча з Іркай не дапамагла. Ну, яно і зразумела. ЖЗМВ падумвала прызнацца ў сваёй ганьбе псіхолагу, відавочна ж за гэтым усім нешта стаіць. Але не зараз, не зараз. Цяпер трэба супакоіцца і проста дайсці да працы.

ЖЗМВ ніяк не магла прыйсці ў сябе. Усё вакол здавалася нейкім скажоным, затуманеным, памылковым. Па дарозе на працу яна выпадкова праехала на чырвоны, павярнула не там – чорт ведае што. Добра, хоць не спазнілася. Прыйшла ўпрытык. Мужчыны ў ліфце не было. На планёрцы сказалі, што кампанія здымае яшчэ адзін офіс, і зараз увесь менеджмент пераязджае туды. Нарэшце ў ЖЗМВ будзе асобны прасторны кабінет, новае месца значна бліжэйшае да дома, можа, і павышэнне не за гарамі... Толькі... Ну, вы ж усё разумееце. Калі быць зусім сумленнай з сабой (а гэта самае складанае), пункты гэтыя не цешылі, і за ўсведамленне гэтага было сорамна. Хочацца губляць гузікі, цалавацца ў ліфце, не вярнуцца дадому начаваць. Толькі ведаць пра гэта ніхто не павінен. І ёй таксама лепей забыцца.

У новы офіс пераехалі цягам тыдня. Таго мужчыну яна сустрэла яшчэ аднойчы. Яны ехалі ў ліфце разам з чатырма іншымі людзьмі. Мужчына стаяў побач, цішком пагладжваючы згін яе далоні, яна намагалася не глядзець на яго.

## Калі выпала чатыры кропкі

У панядзелак тэмпературы ўжо не было, за “бальнічны” не схаваешся. Прыйдзецца ісці на працу. Муж павёз дзяцей у школу, а ЖЗМВ доўга стаяла ў гардэробнай, не ведаючы, што апрануць. У рэшце рэшт яна вырашыла, што трэба быць максімальна нейтральнай, ніштo ў яе выглядзе не павінна выдаваць унутраную буру. Таму ўсё, як звычайна. Цёмна-шэрая спадніца, блакітная кашуля.

Яна не ведала, што ўвечары кашуля скамячыцца, ліфт з’едзе на апошні паверх, што ўпершыню будзе глядзець на горад з даху офіснага будынка, што вячэрнія агні расплывуцца і пацякуць слязьмі проста ў чужыя далоні. І будзе так сорамна і так шчаслівa. Не ведала, што ён апынецца маладзейшым за яе на сем гадоў, што імя яго пачынаецца на яе любімую літару “Ф”, што будзе яшчэ шмат пацалункаў і адарваных гузікаў, і складаны шлюбаразводны працэс. Будуць марафоны знясільваючага маўчання, зачыненыя дзверы ў дзіцячы пакой, каробка з падарункамі за пяць гадоў – “забірай іх назад, усё роўна ты нас не любіш”, будуць абдымкі і лісты...

Ужо шмат пазней яна думала: “А ці варта было яно ўсё таго?” І заўжды адказвала: “Так!”

## Калі выпала пяць кропак

– Згодна, сітуацыя, мякка скажам, неардынарная, але трэба ж вынесці з яе нейкую карысць, – разважала Ірка. – Выпадковасцяў не бывае.

– Іра, ну што ты вярзеш, якая карысць? Я распусная жанчына, якая

адной нагой у старасці; я зараз увесь час думаю аб гэтым пацалунку, са мной такога ніколі не было. У мяне ўсё па плане, разумееш?

– Вось менавіта! Колькі можна ўжо? Вочы расплюшчы, ты прыгожая, цікавая, прывабная, на цябе вунь мужыкі ў ліфтах кідаюцца!

– Ой, Іра...

Пасля сыходу сяброўкі ЖЗМВ расплакалася, як у дзяцінстве, усёй сабой. Плакалі рукі, ногі, жывот і нават валасы. Ад бяссілля і неразумення, што рабіць. А можа, гэта пеністае так падзейнічала. Спаць яна лягла, не дачакаўшыся мужа і дзяцей. Няма чаго ім бачыць яе апухлую фізіяномію.

У панядзелак ЖЗМВ узяла сябе ў рукі і вырашыла, што калі ўсё, што адбылося, не сон, то прыкрае непаразуменне. Раніцай ліфт быў пусты. На яе працоўным стале стаяла ваза з раскошным букетам.

– Надзечка, у мяне ж заўтра дзень нараджэння!

– Мы памятаем, але гэта не ад нас, – асістэнтка жартаўліва зазірнула ў кабінет. – Кур’ер прынёс з самай раніцы.

З акварэльных бутонаў і сцяблінаў выглядала паштоўка: “Прашу прабачэння за абуральную бестактоўнасць. Не змог супраціўляцца такой прыгажосці”. ЖЗМВ зморшчылася: “Божа, якая пошласць”,– але адразу стала фатаграфаваць букет і паштоўку, каб паслаць Ірцы. Што ўвогуле адбываецца?

Дзень прайшоў хутка, мужчыну ў ліфце ЖЗМВ не сустрэла, хоць спускалася і паднімалася некалькі разоў: на абед, забраць пасылку, яшчэ нечага, не важна, проста выйсці падыхаць.

У вочы трапіла шыльда “Івент-агенцтва “Эмоцыі – найлепшы падарунак”. Зайшла.

У іх сямейная традыцыя. Калі нарадзіўся сын, ЖСМВ вырашыла, што ўсе дні нараджэння ў сям’і будуць святкавацца па-сапраўднаму. Яна заўсёды ўсё прадумвала да дробязяў і з радасцю арганізоўвала: па хаце лёталі рознакаляровыя шары, хаваліся запісачкі з пажаданнямі, мілыя маленькія падарункі, якія імяніннік знаходзіў цэлы дзень. Самой сабе цыдулкі пісаць дурное, а вось шарыкі для падтрымання традыцыі і святочнага настрою замовіць трэба.

Эльфападобныя дзяўчыны адразу прапанавалі гарбату-каву, запырхалі з безэ на падносе, высыпалі канфеці кампліментаў.

– Я толькі па шарыкі, насамрэч, дзякуй, – але ўзяла прапанаванае меню паслуг: вяселлі, карпаратывы, юбілеі, дзіцячыя святы, эксклюзіўныя мерапрыемствы. Спатыкнулася.

– Прабачце, а можна даведацца, што за “эксклюзіўныя мерапрыемствы”? Мне не трэба, проста цікаўлюся.

– Гэта наша новая прапанова. Напрыклад, ваш малады чалавек захацеў неяк па-асабліваму зрабіць вам прапанову. Мы прыдумаем сцэнар індывідуальна пад вашую гісторыю і арганізуем усё на вышэйшым узроўні, ніякіх пярсцёнкаў у дэсертах, гэта мінулае стагоддзе. Або, напрыклад, сустрэча сваяка з аэрапорта. Мы дорым эмоцыі: зачараванне, здзіўленне, захапленне... А нядаўна нам замовілі нават закаханасць. Адна дама вырашыла зрабіць такі падарунак сваёй сяброўцы. З нашым агенцтвам працуюць прафесійныя акцёры і рэжысёры, так што любую нагоду мы ператв...аа..фпдн ч цв ы ў ф ц....

Літары змяшаліся і рассыпаліся па падлозе, ЖЗМВ перастала чуць, нешта грувасткае, белае і ватовае праплыла міма вачэй. Захацелася на паветра, і яна выйшла ў жаўтлявы верасень.

## Калі выпала шэсць кропак

Мой дарагі суразмоўца і слухач. Самы час стаць яшчэ і суаўтарам. Асадка і папера ці клавіятура, не важна. Важна даць гэтай гісторыі свой голас і скончыць яе па-свойму.

..............................................................................................................................

..............................................................................................................................................

..............................................................................................................................

Яўген КУНЦЭВІЧ



### *САМНАСАМАСЦЬ*

*Паэма*

*А.*

***I. Раздзел выпаленых сцежак***

***1.***

Механізм пачуцця
зыржавеў.
Не зайскрыцца,
не апаліцца.
Бо –
усё, што ўнутры жыве,
адшукаецца на паліцах.

Гэта – знойдзена ў Дудара,
тое –
мысліў Мамардашвілі,
я сумленна ўсё
паўтараў,
жыць вучыўся
між кніжнай цвілі.
Барадулін смяшыў мяне,
потым поўхай вяртаў трапяткое,
каб душою не замарнеў.
А цяпер у пустым пакоі
Рыжы нешта шапоча ў цьме,
ды пра скон
не ў яго спытаў бы:
калі думка сягае ў смерць,
люта ў скронях пульсуе
Таўбін.

---

*Аўтар выказвае падзяку Крысціне Бандурынай за дапамогу ў працы над паэмай.*

Вучыць сэрца маё Барыс
Пастарнак несвятой любові.
Я магу
разбурыць Парыж,
а магу
проста слухаць Боўі,
напісаць сто лістоў да М. Б.
ці якіх-небудзь іншых літар,
каб не выдаць ні ёй, ні сабе,
што ў той келіх
Айцом
наліта.

Колькі вас набярэцца
– навечных –
яшчэ?
Патанаю ў цытатах і ролях.
Дзікі ток
у маіх
кволых нервах цячэ:
Кант, Купала, Ахматава, Роўлінг.
Колькі вас захавана ў нататках маіх,
перакручаных,
павыразаных:
Караткевіч, санеты, Рэмбо, рубаі
і –
Разанаў, Разанаў, Разанаў.

Толькі як пасярод
незлічоных цытат
мне пачуць
сваіх кніжак
шоргат?
Навучыцца
уласнае сэрца чытаць,
а не кроў выпіваць з чужога?
Я не знаю.
Калі ты наноў паўторыш:
колькі можна
збіраць старызну? –
адкажу:
колькі трэба.
Нясу гэты крыж
і праклён
культурацэнтрызму.

***2.***

Ты амаль сябе ненавідзіш?
Кінь
такому сябе вучыць,
хваравітыя вершы й сэрцы
зноў чытаць
у нічыйнай начы.

Калі ты заўважаеш горад
з горных сцежак
сваіх пакут,
колькі радасці й колькі гора
табе трэба,
каб выжыць тут?

Найпусцейшае слова –
ростань.
Расставацца не для такіх.
Расставацца не цяжка,
проста –
бессэнсоўна, як плынь ракі
спрабаваць падзяліць надвое.
Расцярушваючы пачуццё,
выклікаеш заўжды другое.
Слёзы –
толькі яго падцёк.

Для цябе – гэты верш,
і чужыя карціны,
і люстэрка мінскіх нябёс.
Я шчаслівы,
што не адзіны
частку тайны з табою нёс.
Але іншы –
яго правіна –
не даўмеўся, каго адкрыў.
Найбанальнейшая блытаніна –
за каханне
прыняць надрыў.
Гэта жарсна было, няшчыра,
неўзаемна было, але
найтаемнейшаму навучыла –
гэта праўда было
сталей.

...Ды цяпер над азёрнай пенай

я са схіленай галавой
адчуваю ўсё болей пэўна:
Менск – адзіны
мужчына твой.

Час выпальвае
прошлыя сцежкі,
пакідаючы нас ля мяжы.
Раскажы, што такое каханне.
Без Цвятаевай раскажы.

***3.***

Перад лесам палаюць сцежкі.
Нам – глядзець
і губляць сляды.
Ды чым болей глядзіш,
тым пацешней
цяміць:
гэтак было заўжды.
Мысліць – нам
і губляць цытаты,
фармулёўкі, пуанты, радкі.
І санет
усё той,
сто трыццаты,
ды не сплецены больш ні з кім.

Не вяртацца да спаленых сцежак,
прысак там
не астыне ўжо.
Падымаць вочы ў ночнае неба.
Быць для цэлага свету мяжой.

## ***II. Раздзел змрочных лясоў***

***1.***

Тут, дзе лясы ўмеюць толькі палохаць,
тут, дзе морак і багна спрэс,
выбрыдаюць з вусцішных лёхаў
белы воўк
і руды ваўкарэз.
Яны цвёрда ступаюць па твані,
раскапаўшы зымшэлы схоў,
куды й Дзікаму паляванню
не адшукаць шляхоў.
Я блукаю між млосных дрэваў

і баюся кранаць
сырыя камлі.
Не шукайце мяне,
не трэба.
...Знайшлі.

Не чуваць слаты
з-пад калматых лапаў.
Лес вакол непрытомны,
бы толькі ўваскрэс.
Асачылі,
брыдуць абапал
белы воўк
і руды ваўкарэз.

хто ты... хто ты...
гыркочуць пачвары
выюць
існасць сваю
назаві
мы цябе не кранем
але ўсе твае твары
бачым
кожны жыццёвы звіў

Хто я? Вобразы, мары, здані
узвіроўваюцца ўваччу.
Хто яшчэ з дрыготнай
дрыгвы паўстане?
Я не бачу.
Не чую.
Маўчу.

Не згадаю сябе,
не аддам,
ані змрочным лясам, ані вам.
Каб адбыцца,
любога жыцця замала.
Кожны свет, што мяне прымаў,
вам пацвердзіць:
мяне няма.
Не існуе.
Не існавала.

хто ты?..
Шэптам: мяне няма.
скуль ты?..

Шэптам: мяне няма.
дзе ты?..
Моўчкі: мяне няма.
Я – падман.
Як і вы падман.

Быў станчэлай мяжой
ваўкарэза й ваўка,
а цяпер, сябе адмяніўшы,
незаўважна знікаю
ў няісных вяках,
не яснейшы за іншых.

Руды ваўкарэз і белы ваўчыска
без мяжы,
зразумелі, што не вячыстыя.
Ім не жыць.

Не змаглі абодва даўмецца,
хто ідзе, знаёмы, знікомы,
і наскочылі выдраць са свету месца,
дзе мяне не было
ніколі.

Толькі шаснулі трыснягом,
і раздзерлі адзін аднаго.

Расхінула дрыгву.
Ваўкарэз на ваўчыску.
Немы віскат
і гнеў нямы.
Праз імгненне абодва нячыстыя
захлынуліся тванню
уласнай маны.

***2.***

Дзе дрыгва нараджае здані,
не знайсці ні нары, ні гнязда, ні
хоць кагосьці, здольнага на пагляд.
Ці памірышся ўрэшце з сабой, ці
ўжо загінеш у гэтай бойцы –
а жыццё працягне віхляць,
нібы вулачкі ў даўнім горадзе,
брукаванкаю джаліць ногі
і ўжабрачваць душы нямногіх,
хто навечна запомніў дзе зоры, а дзе
агародзяць гаротай зямной іх.

Я з іх?
Вобразы, мары, здані
узвіроўваюцца ўваччу.
Я знік.
Засталося пустое пытанне.
Яго бачу.
І чую.
Маўчу.

Абступаюць сырой сцяною
і стогнуць сцені,
памяць – гэта заўсёды сцены,
абарончы – ад свету – гмах.
Крохкі – прах, павуцінне – гмах.
Заваёўваць – бурыць – дарма:
Даглядаць – абжываць – дарма:

...Сцені тут.
Не згадай, а ўбач іх.
Цемнату
сябе
расхіні, гледачу.

Калі памяці гмах
разбівае немач,
незнаёмцы брыдуць побач,
а паміж – толькі погляд немы,
толькі падла
калісьці жывых словаў.

Набліжаецца першы сцень:
хто я...
Вобраз ягоны расце.
Разнасцежваю сціжму рэхаў:
Імярэк. Ты імярэк.
Наступае другая здань:
хто я...
ўсім ты імёны раздаў...
Разнасцежваю сціжму рэхаў:
Імярэк... Ты імярэк...
Трэцяя адмірае мара:
хто ты...
згублены ў помных мурах,
ты ў сабе назаўжды завяз...
Я не ведаў нікога з вас.
ты не ведаў нікога з нас...
ты не ведаў нікога з нас...
ты не ведаў нікога з нас...

Здані сэрца ў дрыгву ўзялі.
Цела доўга ляжыць на зямлі.

...Наступае
палёгка
здаля.
Безназоўных прымае зямля.
Я вярнуўся, вярнуўся быццам,
сэрца, сэрца прачнулася біцца:
бачыць, бачыць жывых іншых,
а не сцені лясоў нашых.

### *3.*

Як здараецца ў драпежным сне,
свет неспадзявана праяснеў.
Змрочны лес
застаўся за плячамі,
яго прывідаў
я больш не палюблю.
Толькі
дрэвы ўстаўлены
карчавымі ключамі,
каб аднойчы адамкнуць
і мне зямлю.

## *III. Раздзел адвечнага возера*

### *1.*

з незапомненых сноў
з ліпкіх трызненняў ночы
з кожных поўных пяшчотай вачэй
мне знаёма
адвечнае возера
куды ты прывяла мяне
яго роўнядзь нашэптвае
вершы паэтам
у глыбінях ягоных шалеюць шаманы
немаўлят
спевы рыбаў ягоных люляюць
я быў ведаў пра возера ад нараджэння
але ты прывяла, паказала: глядзі!

...я зноў тут
без цябе
і заплюшчыўшы вочы
услухоўваюся ў плёскат адвечных хваль

выслухоўваю ў ім свае вершы
выслухоўваю ў ім твае думкі
чую водгулле нашых сварак
чую рык неадбытай пяшчоты
бачу ўсмешку любові
скрозь цемру павекаў
і ўсміхаюся як малы

самасць б’ецца як возера ў бераг асобы
мы трыснёг пры яе берагах
мы калышамся ў рытміцы сплеценых лёсаў
яна звязвае нас адвеку
і яна адпускае нас
з усіх словаў што ў целе блукаюць
з усіх словаў прамоўленых марна
толькі гэтыя важна пакінуць
табе:

колькі б жорсткасці мы ні ўзгадоўвалі
колькі б холаду ні жыло ў нашых далонях
колькі б мы ні вастрылі маўчанне
...колькі б сталасці ў нас ні ўзрастала
непахіснасці
самастойнасці
несмяротнасці
усё роўна існуюць месцы
куды іншыя нас
прывядуць за руку

***2.***

абяцаеш прабачыць?
трымай радок паразважаць
.
я больш люблю аблокі
чым зоры
і гэта сапраўдная здрада
непахіснаму ў нас
і гэта сапраўдная вернасць
таму што рассеецца
разам з намі

***3. Эклога***

у азёрнай глыбі плывуць аблокі
шапаціць трыснёг на паўісным ветры
маладзік-філосаф спрабуе ўспомніць
неіснаванне

хвалі гушкаюць зоркі ціха-ціха
бо й зачасным трэба супакаенне
а аблокі ўдалеч плывуць памерці
верачы небу

гаспадыня-ноч абдымае сэрца
просіць ветрык выгнаць лясныя здані
і развеяць прысак згарэлых сцежак
з новых дарогаў

аціхаюць хвалі між берагамі
і згасаюць вочы апошніх сведкаў
пасля ўсіх хістанняў нам застанецца
толькі пяшчота

у вадзе заснуў маладзік-філосаф
распускае час ніткі нашых лёсаў
жыць мы будзем колькі зямлі свяціцьмуць
згаслыя зоркі

*2.VIII. – 4.IX.2022*

Канстанцін КАСЯК



## Working Class Hero

*Накіды з эмігранцкага жыцця*

### 1.

Трэба заўжды быць паслядоўным. Як носіш цішотку з маладнякоўскім плакатам і надпісам “Арганізуй сябе” ды любіш чытаць літаратараў “ад станка і плуга”, то і самому варта пайсці да таго станка пры патрэбе. Асабліва як не ўмееш нічога іншага.

Не варта баяцца такога, калі давядзецца, то можна і не ў такім месцы аказацца. Як па мне, то працаваць на заводзе ў разы лепей, чым быць грузчыкам, дворнікам, вартаўніком ці рабіць на якім смеццевозе. Асабліва калі яшчэ апынуўся ў чужой краіне...

Я, па шчырасці, не шмат чаго ўмею рабіць рукамі. Многія мае сябры нават лічаць мяне ўломкам, хаця я і надзвычай працаздольны сам па сабе чалавек. А таксама маю вялікую цікавасць да свету. Мяне вабіць усё, што можа прынесці хаця б нейкі новы досвед.

Пісьменнік, які працуе на заводзе... Гучыць троху дзіўна, але тут ёсць над чым паразважаць, поле для манеўраў. Бо завод – як той футбольны стадыён, збірае самых розных людзей.

**2.**

Сам я выглядаю не зусім як пісьменнік. Твар не надта каб быў абцяжараны інтэлектам, кашуля ў клетку, чорныя карга-штаны ці шорты, спартовыя красоўкі. У лепшым выпадку я нагадваю нейкага ахоўніка з крамы або кібіца, якіх у Польшчы – процьма.

Але ўнутры мяне жыве зусім іншы чалавек. Які хутчэй нагадвае неназванага героя з першага і ці не самага вядомага рамана Кнута Гамсуна "Голад", які быў цвёрда перакананы ва ўласнай геніяльнасці, але ў выніку ўсё роўна наймаецца юнгам на расейскі карабель.

Фінал у твора адкрыты, таму мы не ведаем, як склаўся ягоны далейшы лёс. Ці стаў гэты чалавек у выніку вядомым пісьменнікам або хаця б добрым журналістам. Альбо ўсё кінуў ды знайшоў шчасце на нейкай простай рабоце.

Мне для таго, каб хаця б трохі адчуць сябе шчаслівым і пераадолець уласныя страхі, трэба было проста з'ехаць. Не чакаць добрага надвор'я, спрыяльных умоваў або лепшага заўтра. А проста сабраць рэчы, усё, што нажыў за тыя гады працы, і кіравацьу невядомым кірунку.

**3.**

Здаецца, гэта геніяльны ход – прыперціся ў чужую краіну, пасяліцца ў чужым горадзе і шукаць там працы. А потым у выніку пайсці рабіць на завод. Да такога лёгка быць гатовым, калі маеш ужо падобны досвед за плячыма.

Як скончыў універсітэт і не мог нідзе нармальна ўладкавацца за прымальныя грошы, то пайшоў працаваць у шабаноўскую прамзону на даволі сучасны, па тых часах, заводзік, які рабіў розныя вырабы з алюмінію. Праца была не самай простай і даволі цяжкай, але я пачуваўся шчасліва. Бо няблага зарабляў, меў чатыры выхадныя і шмат вольнага часу. Гэта дазваляла мне многа чытаць, а таксама бавіць час з сябрамі так, як я тады гэтага хацеў.

На заводзе звычайна працуюць простыя людзі, якія вельмі лёгка сыходзяцца. У іх простыя радасці і гора, зразумелыя каштоўнасці, яны не перагружаныя лішнім. У Беластоку прыкладна тое самае, што было ў Менску. З табой хутка пачынаюць вітацца, здароўкацца і ўсё такое. Могуць выйсці на цыгарэту ў "*палярню*".

Выпадковы або часовы чалавек перастае такім быць, калі сам імкнецца да ўлівання ў калектыў. Сёння стукнуў месяц, як я працую на польскім заводзіку...

**4.**

Мала проста любіць або толькі пісаць "пралетарскую" літаратуру – яе трэба рабіць. Бо якім жа чынам ты нешта напішаш аб тым, чаго не зведаў сам? Гэта хіба што як нейкім марсіянам ствараць хваласпевы.

Але трэба і шмат чытаць ды ўвесь час вяртацца да прачытанага. Бо яшчэ з часоў Антычнасці ўсё ўжо было, прычым паўтаралася не адзін раз. І нешта новае сказаць цяпер вельмі цяжка. Бо калі мы складалі свае вершы ды пісалі сваю прозу, многія з нас яшчэ і не ведалі, што ў літаратуры ўсё самае важнае ўжо даўным-даўно сказана...

Беларуская літаратура выйгрышная найперш у тым плане, што многія тэмы ў ёй нават не закранутыя і банальна адсутнічаюць. Як бы і не было нічога такога ніколі. То бок пісьменнік, які возьмецца пісаць аб якіх-небудзь субкультурах, стане першапраходцам у беларускай літаратуры.

І так, да вялікага жалю, шмат у чым...

**5.**

Так званы Першамай я, як і павінен сапраўдны пралетар, сустракаю на працы. Сёння займаемся рознай драбязой: парадкуем усё, прыводзім да ладу, падфарбоўваем. Я, напрыклад, мыю прамысловыя вентылятары.

Вядома, што мне хацелася б займацца чымсьці іншым, скажам так, больш інтэлектуальным, тым больш у такія вялікія выхадныя. Можа быць, нават сесці нарэшце за сваю другую кнігу. Але за гэта мне наўрад ці нехта заплаціць. А за такую дробную працу аплата будзе, хай сабе і не вельмі вялікая...

Да заводзіка ішоў пешкі – на двары стаяла цудоўнае надвор’е, хаця і было троху халаднавата. Але тое было раніцай, бо ў траўні заўжды ёсць замаразкі. Нават у Беларусі, а тут клімат вельмі падобны да беларускага...

Мне надта падабаецца вялікая і працяглая вуліца Адама Міцкевіча, у канцы якой месціцца прамзона, дзе я працую. А калі так, дык чаму б па ёй і не прагуляцца? Ад дома да працы выходзіць роўна 45 хвілін. Значыцца, праязны можна і не набываць, а карыстацца аўтобусам толькі ў самых крайніх выпадках.

Калі ідзе дождж або падае снег...

**6.**

Вяртаючыся з працы, зайшоў у цэнтры горада ў шапік, дзе прыдбаў красавіцкі нумар беластоцкага выдання “Czasopis”. Робяць гэты штомесячнік мясцовыя беларусы, якія друкуюць яго даволі цікавай беларускай мовай, далёкай ад нашай літаратурнай нормы.

Пэўна, мова тая бліжэйшая ўсё ж да польскай, чым да той беларускай, якая распаўсюджана ў Беларусі. А можа быць, я ўжо проста стаў празмерна прэтэнцыёзным – начытаўся сам кніжак, дык цяпер хачу, каб усе пісалі правільна. Але ж так ніколі не будзе...

Адкрыў часопіс на рандомнай старонцы, а там артыкул пра Платона Галавача. Чытаючы яго, прыгадалася аўтабіяграфічнае апавяданне “Воўк прагне крыві” Вячаслава Адамчыка, калі ён маладым чалавекам надрукаваў апавяданне ў беластоцкай “Ніве” і займеў сабе потым праблемы.

Бо некаторыя пісьменнікі старэйшага веку, якія часам выбіраліся ў PRL, імкнуліся ўсялякімі праўдамі-няпраўдамі абмінаць ганак рэдакцыі той “Нівы”.

**7.**

Паміж апошнім працоўным днём удзень і першым уноч насамрэч багата часу. Лічы што болей за суткі, таму можна нават нармальна адпачыць.

Паспець схадзіць з таварышамі ў бар, раніцой прайсціся па крамах, пасля нешта пачытаць з літаратуры і нават напісаць колькі абзацаў прозы. Выходзіць, што можна неяк распланаваць дзень такім чынам, каб паспяваць усе: і грошай зарабіць, і нешта для душы зрабіць.

А яшчэ добра было б узяцца за вывучэнне польскай мовы. Праўда, з маім графікам наўрад ці тое атрымаецца праз курсы ці ментара. Хіба што калі знайсці выкладчыка, які будзе гатовы займацца ў зручны для мяне час, то бок падстройвацца. Бо без мовы тут нікуды. Як і ў іншых краінах. Палякі вельмі любяць, калі іншаземцы вучаць іх мову і далучаюцца да іхняй культуры. З улікам таго, што яна нам далёка не чужая, зрабіць гэта не так і складана.

Працоўная ноч пачалася з таго, што мяне паставілі на ўсяго 1 машыну. Але потым пачаліся перабоі з палетамі і кардонам, таму давялося яе спыніць. У выніку на перапынак я пайшоў пасля 12-й ночы. То бок усяго праз 2 гадзіны працы.

**8.**

Апошнім часам не пакідае адчуванне, што ў будучыні так ці іначай захаваецца толькі тое, што было выдадзена кнігамі, друкавалася ў часопісах і газетах. Астатняе ўсё сплыве, як бы і не было яго ніколі...

Бо рукапісы гараць, прычым яшчэ і як, а флэшкі губляюцца або забіраюцца, кампутары ламаюцца, сайты паміраюць, анлайн-сервісы перастаюць працаваць, сацыяльныя сеткі страчваюць папулярнасць.

Мішэль Уэльбэк у сваім знакамітым эсэ “Заставацца жывым” слушна заўважае на гэты конт: лепш пісаць і публікавацца, нават калі няма ніякага прызнання пры жыцці.

Бо літаратурныя археолагі потым усё адно адшукаюць хаця б нешта...

**9.**

У другую змену працаваць не так класна, бо на свае справы застаецца зусім няшмат часу. Нібыта і выспацца можна і разняволена пачуваешся раніцай, але ўсё адно не тое...

Прыгадалася, як на мінскай Ангарскай я вучыўся ў другую змену ў пачатковай школе. Здаецца, гэта былі 2 і 3 класы. Можа быць, яшчэ 4 – дакладна ўжо не памятаю. Потым быў яшчэ і 6 клас ужо ў школе базавай.

З аднаго боку было вельмі добра: і выспацца можна, і хатняе заданне зрабіць, і з сябрамі мяч паганяць. Але з іншага не так класна, бо дамоў вяртаешся са школы, калі ўжо цёмна. І маці не надта хоча пускаць гуляць на двор.

У “санаторцы” для дзяцей са слабым здароўем было ў разы лепей. Яна прывучыла мяне да спарадкаванасці, якую я пазней страціў праз уласную ляноту. Бо, каб трымаўся строгага рэжыму, то і раней мог бы зрабіць куды болей, чым было зроблена.

**10.**

У эміграцыі я неверагодна палюбіў сядзець дома. Рэдка цяпер выходжу са сваёй студыі, бо мне і тут добра. Нават вельмі цудоўна, я б сказаў, – такі прыемны краявід за вакном, добры і зусім ненавязлівы гаспадар.

Цэлымі днямі мне не хочацца выходзіць з гэтай утульнай келлі, хіба што пры вялікай патрэбе і нагодзе. Гэта надта класна – сядзець, глядзець у вакно, за якім ідзе моцная вясновая залева і б’юць перуны, ды пісаць.

Літаратура – адна з тых нямногіх сфераў чалавечага жыцця, якая ўсё яшчэ пакідае ілюзію свабоды. Ты аддадзены сам сабе і сваёй творчасці. Няхай усе смяюцца, не вераць, папракаюць. Галоўнае – каб ты сам верыў у сябе.

Нават калі давядзецца вяртацца, я не стану моцна адчайвацца. Сабяру грошай ды зноў паспрабую свае сілы. Хаця, раз я ўжо тут, магчыма не варта губляцца, а трэба дзейнічаць больш рашуча, каб урэшце хаця б неяк зачапіцца ды застацца.

**11.**

Учора працаваў з машынай, якая не дасць засумаваць. Прадукцыя ідзе ды ідзе, ніяк не канчаецца. Гэта такі сапраўдны канвеер, на якім збіраюцца скрыні для інструментаў аднаго вядомага на ўвесь свет брэнда.

Цікава, што робяцца яны літаральна за пару хвілін, бо я за 2 гадзіны працы сабраў сотню такіх. Потым іх адвозяць на склад, там пакуюць і адпраўляюць замоўцу. А ўжо ён напаўняе тую скрыню ўсім неабходным – інструментамі, інструкцыямі і так далей.

Добры выходзіць бізнес, лагічны і прадуманы. Бачна, што менавіта скандынавы ўладальнікі вытворчасці, бо ўсё ў іх разлічана літаральна да дробязяў. Табе застаецца проста збіраць гэтыя скрыні, лічыць іх раз на пару гадзін і сачыць за якасцю прадукцыі.

Беларусі патрэбныя тэхналогіі, каб можна было пасля адкрыць і ў сябе такія вось заводзікі. Не надта цяжкая і не асабліва складаная праца, якая прыносіць хоць бы нейкія грошы. Скажам, ідэальны варыянт для студэнтаў або тых, хто не мае нейкіх талентаў і здольнасцяў.

## 12.

У прынцыпе, я магу пісаць не толькі штодня, але і цягам цэлага дня. Мне гэта вельмі падабаецца. Я забываюся на ўсё, што адбываецца вакол. Як бы і няма ўсіх тых праблемаў, якімі перапоўнены гэты свет.

Трэба меней чытаць навінаў, жыць сваім унутраным жыццём і спадзявацца на лепшае. Запусціць урэшце рухавік унутры сябе. Бо калі навакольная рэальнасць робіцца надта задушлівай, воляй-няволяй пераносішся ў мроі ды фантазіі, пачынаеш жыць імі, у цалкам прадуманым табой свеце.

Няма вайны, няма эміграцыі, няма беспрацоўя. Ёсць толькі пісьмо і чытво. Якое я і ствараю найперш для самога сябе. А яшчэ ёсць разуменне, што мне наўрад ці ўдасца стварыць нешта вартае з першага разу. Бо з наскоку нічога добрага не атрымаецца напісаць.

Тое ўжо не раз праверана эмпірычным шляхам...

## 13.

У Беластоку сёння і заўтра марафон, для бегуноў перакрыты амаль увесь цэнтр горада. Але мне і ў галаву прыйсці не магло, што гэта неяк істотна можа адбіцца на руху грамадскага транспарту.

І менавіта ў гэты дзень я вырашыў паехаць да працы аўтобусам, а не ісці пешкі. Праўда, ён так і не прыйшоў своечасова, таму ўсё адно давялося шпацыраваць. І толькі ўжо пад самы канец, калі заставалася літаральна пару прыпынкаў, я пад’ехаў. Нават аплаціў праезд у якасці падзякі кіроўцу, бо ледзь не спазніўся.

Працоўная ноч была лёгкай, у мяне – нескладаная праца, якая ў разы лягчэйшая за тую, што давалі ў папярэднія дні. Але ўчора так спяшаўся, што забыўся на сваю ручку, і нехта потым забраў яе сабе. Гэта ўжо 3-я ці нават 4-я ручка, якую я тут *пасеяў*...

Думаецца, што даюць розную працу адмыслова, каб чалавек не стамляўся рабіць адно і тое ж кожны дзень. Даволі гуманны падыход, бо выходзіць някепска: пару дзён робіш цяжка, а некалькі потым – даволі лёгка. Мозг і цела маюць магчымасць адпачыць і пераключыцца.

Галоўны плюс маёй працы ў тым, што нічога дадаткова не трэба вучыць. Увесь свой вольны час я магу выдаткаваць на самога сябе і свае інтарэсы. То бок займацца прыгожым пісьменствам і вучыць польскую мову.

## 14.

Людзі шукаюць шляху, як увайсці ў IT ці яшчэ куды, што будзе прыносіць ім шалёныя грошы. А я думаю, як выйсці з літаратуры – бо надта часта маё жыццё нагадвае недапісаныя раманы. Нават і прыдумляць нічога непатрэбна...

Пасля працы зайшоў у кнігарню, якую ніколі яшчэ не адведваў. Выбар там куды большы, чым у той, што ля майго дома, але і кошты вышэйшыя ў разы. Адразу

ўбачыў там біяграфію Місімы ад Джона Натана, кнігі Сальвадора Далі, біяграфіі Дантэ і Макіявелі. І шмат чаго яшчэ.

Каб былі лішнія грошы, то набыў бы ўсё, што зацікавіла. Але мне няма дзе складаць гэтую літаратуру. Хіба што потым прадаваць нейкім чынам, троху знізіўшы кошт.

Польскую мову варта вывучыць толькі для гэтага – каб праз яе быць датычным да сусветнай культуры...

## 15.

На перапынку «абедаў» кавай з мясцовымі. Слухаў, як яны гавораць між сабою. У іхняй польскай мове на дзіва захавалася шмат беларусізмаў. Нават мой новы знаёмец Янак пазваў за стол свайго сябра лічы па-беларуску: «Андрэй, давай!»

Менавіта Андрэй, але не Анджэй, як было б правільна. І ўсе *odpady* ён упарта заве выключна смеццем ды і гаворыць настолькі зразумела, што я дзіву даюся. Бадай што адзіны чалавек на працы, якога я амаль цалкам разумею.

Вяртаючыся пешкі з працы, бачыў, як мясцовыя каталікі ідуць а палове на сёмую ранку да касцёла. Пэўна, гэта першая малітва ў Святочны дзень, як тут называюць нядзелю. Працуюць хіба што кавярні, а ўсё астатняе закрыта.

Хаця і напланаваў усяго, не хацелася нічога рабіць – вырашыў трымацца мясцовых парадкаў. Увесь дзень валяўся на канапе ды чытаў.

## 16.

Раней ніяк не разумеў, як да 5-й ранку можна пісаць. Цяпер жа сам сяджу да 4-й. За вакном ужо пачынае пакрысе прабівацца святло.

І гэта пры тым, што мне праз колькі гадзінаў падымацца і цягнуцца на свой заводзік. Бо калі працаваць дадаткова, то прыходзіш або да пачатку сваёй змены, або застаешся пасля яе.

Сёння былі мае першыя “*надгадзіны*” – на заводзіку я быў ужо а 10-й ранку, то бок за 4 гадзіны да пачатку маёй змены. Прыходзіць такім чынам на падпрацоўку было б ідэальна, бо дзень і так у любым выпадку выходзіць разбітым. А так можна хіба грошай троху падзарабіць, якія лішнімі ніколі не будуць...

Кіраўніцтва абяцала, што неўзабаве мяне будуць чамусьці вучыць. Пэўна, нейкаму функцыяналу, які звязаны з замаўленнем прадукцыі і матэрыялаў. А можа, проста кінуць на падмогу папярэдняй змене. Калі спадабаецца, то буду рэгулярна на другую змену выходзіць менавіта так, з гэтымі “*надгадзінамі*”...

## 17.

Беласток – ідэальнае месца для пісьменніка. Нават такога, як я – які працуе на звычайнай, не надта складанай працы, а за літаратуру бярэцца толькі ў вольны час і тое не заўжды. Хаця і пісаць я разам з тым намагаюся ледзь не кожны дзень. Каб трымаць найперш сябе самога ў тонусе.

Праўда, трэба прызнаць, што маё пісьменніцкае жыццё даволі беднае. У плане эмоцый і перажытых сітуацый. Хаджу на працу, потым сяджу дома або ў беларускім бары. Які і “беларускім” можна назваць даволі ўмоўна, бо нічога сапраўды беларускага там асабліва і няма. Ён проста належыць добрым людзям з Беларусі, якія дазваляюць ладзіць там розныя імпрэзы землякам.

Я не цягаюся па сметніках, як Эдуард Лімонаў у Парыжы або Нью-Ёрку, не хаджу да кантэйнера з непрададзенай ежай, як Славамір Адамовіч у Нарвегіі. Мне хапае грошай, каб здымаць кватэру і аплочваць усе першасныя выдаткі.

Магчыма, гучыць усё надта банальна, але...

## 18.

Учарашні дзень быў абсалютна марным. Да 14-й я працаваў, пасля доўга мыўся, пешкі па цёплым чэрвеньскім сонцы ішоў дамоў і разважаў аб сваім лёсе. Як дабраўся да кватэркі, то лёг спаць і падняўся ўжо калі за вакном было цёмна.

Як дапішу гэта, то гадзінаў праз 5 трэба будзе зноў збірацца ды выходзіць на працу. Ад такога графіка, калі працуеш па 7 дзён і маеш між імі толькі 2 выходныя, троху цяжкавата. Складаецца ўражанне, што я толькі і раблю, што працую з раніцы да вечара і нават уночы. А бывае, што яшчэ і на "надгадзіны" тыя трэба выходзіць...

І віна ў тым не злых польскіх капіталістаў, якія змушаюць беларускіх і ўкраінскіх мігрантаў да кругласутачнай працы, а персанальна мая. Меней трэба ленавацца, лайдачыць, але імкнуцца сцвердзіцца акурат у той сферы, якая мне цікавая – літаратуры.

Бо ўзорнага рабочага з мяне ўсё адно не выйдзе, ды і каму тое цікава. З іншага боку мне хочацца быць самастойным і незалежным. У выніку маю тое, што маю – вымушаны працаваць на заводзе, а на прыгожае пісьменства пакідаць хіба што той час, які застаецца.

## 19.

Гэтым разам выходныя прыпалі на сапраўдныя выходныя, таму мы з жонкай змаглі нарэшце правесці іх разам. Гулялі па горадзе, хадзілі па крамах, елі кебаб. Адным словам пачуваліся шчаслівымі ў сталіцы Падляшша. Надвор'е спрыяла – было цёпла і сонечна.

Пасля абеду пайшлі на Свята беларускай культуры, якое было арганізавана Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы і адбывалася ў парку Плянты. Гэта літаральна ў 5 хвілінах хады ад гарадской ратушы, якую я ўважаю за цэнтр.

Знарок і не прыдумаеш: рэкламную афішу ўбачыў выпадкова ўчора на тумбе. А зачапілася вока за яе, бо была яна аформлена ў такім самым стылі, як дома. Нібыта я і не ў польскім Беластоку зусім, а ў якім беларускім Койданаве, Уздзе ці Стоўбцах. Кінулася ў вочы і кірыліца, якая тут даволі рэдкая з'ява.

Сама імпрэза таксама не надта адрознівалася ад таго, што бывае ў Беларусі. Спевы, танцы, дарослыя і дзеці ў народных строях. Нічога асаблівага, хіба што маленькія ўдзельнікі між сабою за сцэнай гавораць ужо па-польску, а не па-расейску.

Гледачоў было многа, але ў асноўным людзі сталага веку. Яно і не дзіва, бо бабулі і дзядулі цягаюцца звычайна па такіх канцэртах і ў нас. А да ўсяго, думаю, тым людзям гэтая культура яшчэ блізкая. Што наўрад ці можна сказаць аб маладзейшых пакаленнях. Але і ў маладых не-не ды праскочыць недзе ў гаворцы беларусізм.

За 20 злотых набыў сабе кнігазбораўскае выданне "Беларускія пісьменнікі ў Польшчы" з творамі паваенных аўтараў. Адразу ж узяўся чытаць кароткую прозу Сакрата Яновіча. Ён зараз зноў на слыху, бо "Czasopis" публікуе з нумара ў нумар тэксты пра тое, як ён быў агентам дзяржбяспекі ў часы PRL.

## 20.

Здаецца, гэта Карл Маркс лічыў, што чалавеку патрэбна толькі 8 гадзінаў на працу, каб астатні час ён мог выдаткоўваць выключна на сябе. Маўляў, працуеш сваю норму, а потым можаш займацца чым заўгодна: сям'ёй, творчасцю, сабой.

З аднаго боку, яно, можа, так і ёсць, але з іншага атрымліваецца крыху іначай – бо праца забірае не толькі фізічныя, але і духоўныя сілы. Вось сёння прыехаў на заводзік загадзя, бо аўтобусы ходзяць так сабе ў суботу і нядзелю, даволі рэдка. І адбыўся нечаканы цуд – мне не трэба было працаваць.

Аказалася, што ў мяне сёння першая 2 змена, а не трэцяя 1. Нават ад такога графіка і тое адбыўся заварот мазгоў. А пра тое, што можа здарыцца, калі працаваць па 12 гадзінаў кожны дзень, я наогул маўчу...

З іншага боку, і сам вінаваты. Бо трэба высыпацца нармальна, а не жыць па незразумелым рэжыме, калі я ўдзень сплю, а потым уночы не кладуся. Таму нічога дзіўнага няма...

## 21.

Галоўны мінус эміграцыі – вельмі вузкае кола кантактаў. У мяне цяпер выходныя, а правесці час з карысцю няма як. Бо ўсе, каго ведаю – на працах. Атрымліваецца, што я сноўдаюся па Беластоку адзін, як вар'ят.

Давядзецца вучыць польскую мову, каб завесці сябе новых калі не сяброў, то хаця б нейкіх прыяцеляў. З кім можа было б схадзіць на футбол або ў трэнажорную залу. Бо беларусы, як я пакуль заўважыў, любяць хутчэй толькі бары. Але і ў "беларускім" бары было сёння пуста – няма гістарычнага клуба, няма і публікі, што на яго ходзіць...

Магчыма, у перспектыве я нават сам далучуся да беларускага жыцця больш актыўна. Бо калі не парупішся сам аб ім, то ніхто не парупіцца. Давядзецца працаваць, пісаць ды нешта яшчэ спрабаваць рабіць.

Праўда, я пакуль не зразумеў – а ці яно мне насамрэч трэба. Бо цалкам магчыма, што мне будзе дастаткова выключна літаратурнай справы. Аднак прыгожае пісьмо не заменіць жывой камунікацыі. Тут ужо як ні круці...

## 22.

Для таго, каб трымаць сябе ў тонусе, трэба шукаць магчымасцяў, каб пісаць штодня. Весці дзённікі, рабіць накіды, эскізы, занатоўкі. У прынцыпе што заўгодна, абы пісалася. Бо інакш будзе цяжка вярнуцца ў форму.

Прамінулы месяц я, лічы, зусім нічога і не пісаў. Хіба што пакідаў дзённікавыя запісы і рабіў нейкія зусім кароткія нататкі, якія нікуды не пайшлі ў выніку і ўжо наўрад ці пойдуць. Не было неяк настрою ды жадання, большую ўвагу звярнуў на працу, дзе варта было троху напружыцца.

Але ў абавязковым парадку трэба выдаткоўваць час і на стварэнне твораў, а таксама на чытанне калегаў і папярэднікаў. Інакш нічога не будзе, бо, каб добра пісаць трэба яшчэ і шмат чытаць. Як мінімум, каб вучыцца гэта рабіць якасна. Як максімум, каб шукаць чагосьці свайго, а не паўтараць за іншымі.

Многія мае сучаснікі гэтага банальна не разумеюць і не могуць зразумець. Бо ісці шляхам найменшага супраціву не толькі проста, але і выгодна. Пішаш тое, што ад цябе хочуць пачуць і чакаюць – робішся на нейкі час кумірам натоўпу. Ва ўмовах беларускай сітуацыі ён, вядома, не будзе надта ўжо аграмадным, але тым не менш прызнанне займець можна. А калі ты мысліш нестандартна і цікавішся рэчамі нетрывіяльнымі, то трэба рыхтавацца да самоты.

Мае сябры і знаёмыя не асабліва каб чыталі тое, што я пішу. Хаця многія з іх з'яўляюцца прататыпамі герояў у напісаных мной рэчах. Большасць ужо па замежжы, а некаторых няма сярод жывых...

## 23.

Злая іронія лёсу: я так чакаў адпачынку, што цяпер не ведаю, чым сябе заняць. Думаў, што ў вольныя дні буду пісаць кнігу, вучыць польскую мову, многа чытаць гістарычнай літаратуры. А па выніку проста абсалютна бессэнсоўна распарадзіўся сваім часам.

За тыя вольныя дні, што былі, нічога карыснага так і не зрабіў. Не прачытаў

чагосьці важнага, не напісаў чагосьці вартага. Проста піў, еў, спаў, перажываў. Лепей за ўсё, як мне бачыцца ў маім выпадку, проста адпусціць сітуацыю.

Пэўна, варта наважыцца ды ўрэшце пачаць новае жыццё, прыбраўшы ўсё непатрэбнае з яго. У любым разе нічога добрага не будзе, калі не памяняць падыход. Я проста канчаткова зламаю сябе фізічна і псіхалагічна.

## 24.

Першы працоўны дзень пасля невялікага прастою, які прыпадае заўжды на першую змену, даўся адносна лёгка. Праўда, я ўсё роўна вельмі стаміўся, бо на заводзік не прыехаў, але прыйшоў.

Уночы ішоў буйны дождж, сапраўдная залева, недзе ўдалечыні былі нават бачныя маланкі, даносіліся раскаты грому. Як стала светла, то горад зацягнуў туман. Асабліва тую яго частку, дзе знаходзіцца прамзона. Ведаю тое, бо ішоў да яе пешкі і ціха радаваўся спакою, што панаваў вакол.

Як прыйшоў з працы, то зваліўся спаць – не было ўжо сілаў нешта яшчэ рабіць. Кепска хіба толькі тое, што зноў збіўся мой жыццёвы графік. Не буду спаць уночы, потым праца, сон удзень. Адным словам, абы-што, як некалі казала бабуля.

На пісьмо зусім не застаецца часу, на вялікі жаль...

## 25.

Па ўсім відаць, адаптацыя да працы адбылася паспяхова. Бо сёння я не толькі прачнуўся даволі бадзёрым пасля працы, але і думаў потым, чым такім цікавым сябе заняць. Хаця насамрэч адказ відавочны – літаратурнай справай.

Я ўсё яшчэ не губляю надзеі стаць сапраўдным пісьменнікам. Што праўда, пішу я цяпер даволі мала, і тое, што пішу, не сказаць каб было сапраўднай літаратурай. Разам з тым, у мяне яшчэ не згубіўся канчаткова запал на тое, каб хаця б нешта ствараць.

Праца на заводзе дае мне магчымасць хоць неяк арганізаваць тут больш-менш прыстойны побыт. Запыты ў мяне не надта каб вялікія, таму я спакойна магу іх задаволіць. Здымная кватэра, ежа, адзенне – усё, што трэба для адносна камфортнага існавання.

А вось літаратурныя амбіцыі – тут ужо абсалютна іншая размова...

## 26.

Выхадныя пралятаюць у адно імгненне. Бо па факце ў мяне іх не 2 дні, але паўтара. Пакуль выспішся пасля апошняй начной змены, дык і дзень ужо, лічы, прайшоў.

Тое самае і з надвор’ем: не паспееш азірнуцца, як ад лета не застанецца нічога. Яно пралятае гэтаксама хутка, як раней прамчала вясна. Наперадзе, пэўна, чакае дажджлівая і халодная восень.

За тыя паўгода, што я тут жыву, ужо атрымалася троху асвоіцца. Хто б мог падумаць, што пераезд будзе такім даволі камфортным і дасца мне адносна лёгка? Беласток збольшага мне замяняе радзіму, хаця я і не ведаю польскай мовы...

Злавіў сябе на думцы, што, пэўна, мог бы жыць дзе заўгодна – у Рыме, Парыжы, Берліне, Празе. Бо не маю нейкага сентыментальнага патрыятызму, эмацыйнага. Мне не патрэбны чорны “Нарачанскі” хлеб, піва “Лідскае” ці штосьці яшчэ падобнага кшталту.

Я цалкам задаволены тым, што маю. І нават калі зусім нічога з маёй авантурай у выніку не атрымаецца і давядзецца вяртацца дамоў, я ўсё адно буду ганарыцца самім сабою. Сабраўся ды паехаў у чужы край, бо свая старонка перастала быць гасціннай.

*2023*

пераклады

Пётр Вайль



...жанр, у якім працуе Святлана Алексіевіч, – апошняя надзея...

# Праўда – жаночага роду

Святлану Алексіевіч зрабіла знакамітай напісаная ў 1984 годзе кніга "У вайны – не жаночы твар". Адразу ж з'явіліся пераклады на розныя мовы і хваля рэцэнзіяў, адрозных ад звычайных літаратурных разбораў. Агульнае адчуванне: сабраныя пісьменніцай маналогі жанчын, якія ўдзельнічалі ў Другой сусветнай вайне, – не кніга, а кавалак праўды. І з гэтым трэба нешта рабіць, у нешта ўпакаваць, знайсці палічку, на якую паставіць. Інакш зусім цяжка: у руках не ўтрымаць – горача.

Тое ж самае адбывалася і з іншымі кнігамі Алексіевіч: "Апошнія сведкі" – дзеці на вайне, "Цынкавыя хлопчыкі" – Афган, "Зачараваныя смерцю" – самазабойцы, "Чарнобыльская малітва".

*Пераклад з рускай Андрэя НАЛІВЫ.*

Алексіевіч піша дакументальную прозу ў жанры, нярэдкім на Захадзе, асабліва ў англамоўнай прасторы, дзе ён называецца «oral history» – вусная гісторыя. Пісьменнік пры гэтым самавыдаляецца, застаючыся толькі ў кароткіх тлумачальных каментарах. Дзевяць дзясятых тэксту – простая мова сведак часу. Па-руску – з неаслабнай пасля-

доўнасцю і сілай, — акрамя Святланы Алексіевіч, ніхто так не піша. За чвэрць стагоддзя да навізны, здаецца, прывыклі, і ёй ужо не даводзіцца тлумачыць, як на пачатку: "Жанр, у якім я працую, — толькі на першы погляд жывыя сведчанні і не больш за тое. Насамрэч ён мае не толькі стрыжнявую падзею, якая павінна прайсці праз велізарную колькасць людзей, зачапіць масавую свядомасць, ён яшчэ і трымаецца на філасофіі".

Ёсць падманлівая спакуса ў дакументальнай прозе: здавалася б, выкладзі важную цікавую падзею, дай сапраўдныя выказванні – і ўсё гатова. Але ж атрымаецца аморфная горка невыразных словаў – тая самая, якая запаўняе кніжныя прылаўкі Расіі. Пісанне па факце або па сапраўднай канве прывабіла ўяўнай лёгкасцю многіх. Нават няёмка казаць, што да ведаў і памяці нядрэнна б дадаць майстэрства кампазіцыі, здольнасць да адбору, густ і пачуццё меры.

Пісанне чужымі словамі цяжкая адказная праца: безумоўна, больш адказная, чым пісанне сваімі. Бо жанр, у якім працуе Святлана Алексіевіч, – апошняя надзея.

XX стагоддзе, акрамя іншых істотных зменаў у жыцці чалавецтва, змяніла суадносіны літаратуры выдумкі і літаратуры факту. Не, па-ранейшаму нішто не можа супернічаць па папулярнасці з сюжэтным раманам. Але так званыя немастацкія жанры, усялякага роду *non-fiction*, рэзка падцягнуліся да белетрыстыкі. Дастаткова зірнуць на паліцы вялікіх кнігарняў: як шмат месца там займаюць мемуары, біяграфіі, гісторыя, дакументальная проза.

XX стагоддзе было выпрабавальным палігонам ідэалогій, дзве з якіх – нацыянал-сацыялізм і камунізм – ускалыхнулі зямны шар. Ідэалогіі прайшлі праверку на вернасць, важкасць, вашывасць – і не вытрымалі яе. Разам з тым, падчас Першай сусветнай, потым пасля Хірасімы і Чарнобыля, разбурылася вера ў магчымасць рацыянальнага і разумнага, па навуцы, уладкавання свету. Калі мінулае стагоддзе і прынесла несумненную карысць, дык толькі ў тым, што ідэалагізаванаму слову перасталі давяраць. Рэшткавыя з'явы, кшталту таго, што бубняць якія-небудзь "нашы" або "лімонаўскія пацаны", – усяго толькі заклінанні, мантры, пазбаўленыя ўсялякага зместу.

Па цалкам вытлумачальнай логіцы недавер да ідэалагізаванага слова перарос у недавер да слова выдуманага. Вось дзе вытокі распаўсюджвання і папулярнасці літаратуры факту. І вось чаму яна – апошняя слоўная надзея. Калі ўжо і тут хлусня, дык і на самой справе непазбежны пераход на чыстыя мантры. Гэтую адказнасць цудоўна ўсведамляе Святлана Алексіевіч.

Зразумела, з часам у любым рамястве набіваеш руку. Але адна справа – сартаваць яблыкі альбо сталёвыя шайбы, іншая – споведзі, нямыя крыкі, стогны, перадсмяротны хрып. Страшненькая праца ў Алексіевіч, тут без абвостранага сумлення і велізарнай мужнасці – ніяк.

У яе кнігах шмат жудаснага, часам невыносна шмат. У "Цынкавых хлопчыках" – кашмары вайны, якая заўсёды і ўсюды спараджае садызм (успоратыя жываты, выкалатыя вочы, калекцыі засушаных вушэй), але яны не нясуць спецыфікі. На вайне жахлівы чалавек, па-за нацыянальнай або дзяржаўнай прыналежнасцю. Спецыфіка – ва ўнікальным вобразе заваёўніка.

Ражок патронаў за касметычны набор – туш, пудра, цені для каханай дзяўчыны... У сталовых знікалі нажы, міскі, лыжкі, відэльцы. У казармах недалічваліся кубкаў, зэдлікаў, малаткоў.

Знаёмыя сустракаюць: “Дублёнку прывёз? Магнітафон японскі прывёз? Нічога не прывёз... Хіба ты не быў у Афганістане?”

Зялёнкі звычайнай не было. Здабывалі трафейнае, імпартнае... Эластычнага бінту наогул не было. Таксама бралі трафейны... У забітых наймітаў забіралі курткі, кепкі з доўгімі брылямі, кітайскія штаны, у якіх пахвіна не націраецца. Усё бралі. Трусы бралі, бо і з трусамі быў дэфіцыт.

Мне даводзілася бачыць такіх імперцаў у Чачні, з іх трафеямі: дыван, транзістар, электрабрытва, флакон духоў.

Ці сустракаліся ў сусветнай гісторыі падобныя імперскія заваёўнікі? Афганскія і індыйскія брытанцы Кіплінга былі моцнымі, бязлітаснымі і суперменскімі выхвалякамі. Але пры гэтым яны былі поўныя гордага – альбо пыхлівага, залежыць ад пункту гледжання, – усведамлення цывілізатарскай місіі: яны неслі азіятам дарогі, масты, газавыя лямпы і «вогненныя кібіткі» – цягнікі. Немагчыма ўявіць, што, зняўшы з забітага ворага трусы, можна напісаць:

*Нясіце цяжар белых,*
*Здалейце ўсё стрываць...*

“Нашы хлопчыкі паміралі за тры рублі ў месяц” – гэта цяжар белага чалавека?

Такіх заваёўнікаў не было. Высокую крыта-мікенскую культуру знеслі з твару зямлі цёмныя даране, вытанчаных грэкаў прыбралі з гісторыі грубыя македонцы, дасканалы элінізм разваліўся пад націскам суровага Рыма, вялікі Рым знішчылі дзікія вестготы. Але тыя варварскія ўдары наносіліся па цэнтрах, апорах, бо не Альпы пераадолелі войскі ў снежні 1979-га, а Гіндукуш. Мэтай былі не квітнеючыя сённяшнія “Рымы”, а завуголле трэцяга свету. Тое ж – у снежні 1994-га: Грозны быў правінцыйным горадам, і толькі.

Купрын папракаў Кіплінга Англіяй, якая цісне свет “у імя сваёй славы, багацця і магутнасці”. Дзе хоць адзін з гэтых матываў? З усёй славы — праход генерала Громава па тэрмезскім мосце, у Чачні не было і таго. З магутнасці – палітычны правал. З багацця – трэцегатунковае барахло з Джалалабада.

У адным з тых нячастых выпадкаў, калі на першы план выходзіць аўтар, Святлана Алексіевіч кажа пра свой метад:

“Я раблю простыя здымкі. Імгненныя здымкі. І заўсёды памятаю, што ў адной фатаграфіі адлюстроўваецца ўсяго толькі адна сотая секунды. Спяшаюся. Але ўсё ж такі спадзяюся, што гэта не толькі фатаграфіі і дакументы, але і вобраз майго часу, якім я яго бачу”.

Алексіевіч “робіць здымкі”, вядзе адбор сведчанняў, перапоўненая спачуваннем і жалем. Гэта беспамылкова адчуваецца ў яе кнігах, хоць і напісаныя яны “чужымі” словамі. У яе выпадку такое суперажыванне і ёсць найвышэйшы прафесіяналізм. Увогуле, гэта адзін шэраг – святар на споведзі, лекар ля аперацыйнага стала, пісьменнік у жанры “вуснай гісторыі”.

*2008*

Валеры Дубоўскі



...створанае ім з апокрыфа
пайшло ў канон...

# Дарэшты і наноў

***Слова пра Алеся Разанава***

*Гэта было хістанне маладога дуба.*

*Ад зямлі, ад долу ішлі быццам дрыжыкі-казытанкі. Праз камель, далей – праз стаўбур, праз моцныя непадатлівыя галіны яны ўліваліся ў танклявае вецце і ўрэшце – у калянае лісце.*

*І пляскалі паасобку і разам у вядзьмарскім сугуччы.*

*Не вецер іх абуджаў. Яны абуджалі вецер.*

*Маладыя дрыжыкі сталага мужчыны, Дуба-волата.*

*Так чытаў свае тэксты Алесь Разанаў.*

*Зала ў філармоніі запоўненая. І нават маладыя жаўнерыкі – недзе каля двух узводаў – сцішана слухалі. Толькі піяніна, толькі класічная музыка і рытмічнае пагойдванне паэта...*

### Інакасць

Усур'ёз з Алесем мы знаёміліся і пачалі распазнаваць адзін аднаго падчас другой сустрэчы. Адбылася яна за сорак сем гадоў, калі брацць адлік з шэсцьдзясят шостага года на першым курсе філфака Белдзяржуніверсітэта. Мяне прымалі ў

Саюз беларускіх пісьменнікаў. Стаю перад Радай: масцітымі нашымі творцамі і маладзейшымі. Амаль усіх ведаю асабіста. Слухаю пытанні. Нешта адказваю. Пачуваюся крыху ніякавата.

Пасля добразычлівага допыту прысеў на вольнае крэсла ззаду ўсіх. Назіраю, як мая кніжка “На пачатку маўчання” плыве па руках – ад першага шэрагу ў маім кірунку. Затрымліваюць, гартаюць, чытаюць, перадаюць далей. Алесь спыніўся на некаторых месцах, адгарнуў назад, крыху падумаў і ў паўабароце – сядзеў акурат перада мной – коратка вызначыў: “Формула”.

Толькі за дзень – напачатку праз тэлефон, затым пры размове вочы ў вочы, падчас той самай “другой” сустрэчы – ён расшыфраваў, а я адчуў усё значэнне ягонага слова, сэнс думак яго пра мой пачатак у паэзіі і пра творчасць наогул. Пра выказаныя і схаваныя сэнсы гукаў, згукаў, знакаў, словаў, рытмаў, паўзаў і маўчанняў. Зномаў.

Патлумачыў ён і сутнасць тых двух радкоў, што на Радзе прыціснуў указальным пальцам са словам “формула”:

Інакасць м*у*зыкі –
з інакасці музы*к*і.

Але найболей Алесь здзівіў адным успамінам пра тое, што з памяці маёй цалкам выветрылася. Узгадаў, як аднойчы ў калідоры інтэрната на Паркавай магістралі ён пачуў голас баяна. Доўга стаяў ля дзвярэй пакоя, слухаў варыяцыі па беларускіх матывах (“Лявоніха”, “Ой, ляцелі гусі з броду”, “Перапёлачка”...). Зайсці не наважыўся: “Не хацеў, Валера, перабіваць тваю музыку”, – дадаў ён.

О, як ён адчуваў смак музыкі! Смак музыкі слова і нават ягонага зародку. Слова напісанага і толькі-толькі створанага. Формы слова, яго абалонкі, колеру. Шэпту ветру, лісця, травы. Маўчання гліны, выкапнёвай яе глыбіні. Думак аблокаў, ёсціны...

Часу. Прасторы. Вечнасці. Асалоды і трагізму быцця. Таямніцы нябыту. Хаосу.

Ён быў інакшы.

## Антыкрохкасць

Галоўныя нашыя стасункі з Алесем склаліся ўжо зусім у сталым узросце. Восем гадоў, на вялізны жаль, толькі восем... І амаль жыццё страчанага сяброўства. Абодва тое зразумелі і прызналі. І шкадавалі, што многае прайшло для нас не разам, а паралельна, паасобку. Сустракаліся не вельмі часта, але і нярэдка. Ён запрашаў на розныя прэзентацыі сваіх выданняў. Мы з жонкай набывалі квіткі на канцэрты з удзелам Алеся. Вельмі яго мы любілі. Не толькі за найвыдатнейшую творчасць. Талент яго паэтычны, літаратурны, філасофскі трымаўся на дзіўным, рэдкім сёння спалучэнні рамантычнасці, узнёсласці, пяшчотнасці, далікатнасці, стрыманасці ў іх праявах – з зайздроснай цвёрдасцю, непахіснасцю ў прынцыповым. У аддадзенасці слову, беларушчыне, у непрыманні няшчырасці, немужчынскасці ў паводзінах. Парушыць яго такога было немагчыма.

У нацыянальнай гісторыі назаўсёды застанецца ініцыятыўны ўдзел Алеся Разанава ў выкліку да ўсяго грамадства, да партыйнага кіраўніцтва з пісьмовым патрабаваннем да Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ўвесці выкладанне ва ўніверсітэце па-беларуску. Пасля высілкаў Максіма Танка было ўжо студэнцтва ў Берасці. Сталае творчае, грамадзянскае акрыленне адбылося, не зважаючы на жорсткія абставіны. Іх ставала ў Алеся на розных этапах жыцця. Дапамагала адольваць выпрабаванні долі тая якасць, якую мажліва назваць антыкрохкасцю. Здольнасць трымаць удары – з яго долі.

Адзіны, адзінкавы, ён не любіў карагод вадзіць. Увесь аддаваўся творчасці. Знайшоў сваю самасць і, як ніхто іншы з сучаснікаў, рэалізаваў яе напоўніцу. Пры гэтым адзінотным ніколі не быў, хоць і аберагаў, зберагаў свой час, сваю асабістую прастору. Калі абменьваліся нумарамі тэлефонаў, наўпрост мовіў: “Тэлефануй толькі на хатні. Мабільнікам не карыстаюся”.

Галіна, жонка Алеся, па яго смерці знайшла ў мабільніку толькі тры нумары: ейны, сына і дачкі.

З блізкімі душамі ён лёгка і плённа талакаваў.

На адным паседжанні ў Таварыстве беларускай мовы – там мы сустракаліся неаднойчы і заўсёды сядалі побач, каб не толькі паталакаваць, але і паталкаваць – нехта ўзняў пытанне. Пра адсутнасць у нашай мове многіх філасофскіх, навуковых, тэхнічных – кароткіх і ёмістых адпаведнікаў паняткаў, прынятых у свеце. Накшталт “вялікага выбуху”. Гаворка не пра сінгулярнасць працэсу. Пра лінгвістычнае вызначэнне.

Я адразу прапанаваў Алесю: “Гэта ж твой хлеб – вынаходзіць словы”. Падтрымалі ідэю і іншыя прысутныя. А ён – да мяне: “Падумаю. Адна ўмова. Будзем ствараць разам. Я – сваё, ты – сваё. Згода? Ты ж вось прыдумаў «тутсамасць»”. Ударылі па руках.

Ды справа выявілася нялёгкай. Насамрэч, не каня вадзіць на Каляды.

Ён не паспеў. Я ж пакуль нічога годнага не змысліў.

А якія ў Разанава шыкоўныя словы-наватворы! Адна “ёсціна” – такая важкая і важная. Шэдэўр. Ды дзясяткі, сотні іншых. Выляталі з рук ягоных гэткія прыўкрасныя птушачкі чародкамі.

Апавёў неяк Алесь, на маю просьбу, як яны прыдумлялі з Віктарам Маркаўцом “яйкаквадраты”. Цікаўнасць да гэтага брэндавага твора была прафесійнай, дызайнерскай. Самому давялося падобнай справай займацца працяглы час і шчыльна.

Як і пра музыку, суразмоўца не прамаўчаў. Чулася дэкларацыя палёту душы. Гучаў усхваляваны верлібр-імправізацыя. Шкада – не хапіла тады цямы ўключыць дыктафон. І тут раптоўная мая рэпліка пра Віктара рассмяшыла Алеся. Даўнім часам “яйкаквадратны” Маркавец заляцаўся ў маладосці да адной дзяўчыны, якая падабалася і мне. Я маршыраваў падчас тэрміновай службы на пляцы пад небам Ленінградскай вайсковай акругі, а той заляцаўся.

Рогат Алеся быў непараўнаны: “Мастакі! Гэныя могуць”.

Падтрымаў яго: “Паэты таксама”.

Сам Алесь пры ўсёй вядомасці, публічнасці асобы, славе, прывабнай чалавечай, мужчынскай тварнасці назаўжды быў аддадзены сваёй Галіне, сваёй сям'і. Красу жаночую прывячаў – і толькі. Надзейнасць яго асобы дадавалася да “антыкрохкасці” і трымалася ёю. І ўсё разам уваходзіла ў “функцыянальныя кантэксты”.

## Канон

Творы Алеся Разанава – гэта асобная акупунктура. Філасофская, паэтычная, духоўная. Для сучаснай, даволі часта звыкла дэпрэсіўнай асобы, – лякоба. Старажытнакітайская канцэпцыя прызнае ўзаемадзеянне двух процілеглых пачаткаў: інь і ян. Яны павінныя знаходзіцца ў дынамічнай раўнавазе. Аслаблены адзін з пачаткаў – узмацняецца процілеглы. Парушэнне іх суладдзя прыводзіць да паразы арганізма. Іголкаўколванне – метад лекавання праз уздзеянне на асобныя месцы на целе. Акупунктура. Дзеля вяртання жыццёвай энергіі.

“Дождж: возера ў акупунктуры”. Яскрава, паэтычна падгледжана. Душа ж чалавечая – нават не возера: мора.

Глыбіню пранікнення Разанава ў культуры старажытнага свету, асабліва Індыі, Кітая, вымераць цяжка. Філасофія Канфуцыя, рэлігійна-філасофскія асновы

будызму, лінгвістычныя асаблівасці моў інда-еўрапейскай групы, у тым ліку і беларускай, арыгінальны працяг, прадбачанне Мікалая Рэрыха праз веду краю, “дзе неба злучаецца з зямлёй...” Усё Алесю было не проста цікава. Гадзінамі разважаў ён пра тое, а я слухаў. Пра дзейнасць фонду Рэрыха, пра дасягненні народаў усходу ў спасціжэнні свету, духоўнай існасці чалавека. Гэтыя веды паўплывалі на яго станаўленне як асобы і творцы. Мысляра. Грамадзяніна.

Жывучы цягам многіх гадоў у розных пунктах прасторы, мы дзіўным чынам супадалі ў інтарэсах. Са школы мяне ўзрушыў Рэрых: напачатку – як выбітны, нечаканы мастак, надалей – як мудрэц, філосаф, падарожнік, географ, этнограф, археолаг, гісторык. “Камуніст-будыст”.

Перакладаючы “Кнігу Пераменаў”, асобныя творы старажытных кітайцаў, я спатыкнуўся неяк з шыкоўным вобразам: “воплескі даланёю адною”. Сэнс жа цалкам чытаўся так: яны немагчымыя – воплескі даланёю адною. І калі Алесь падпісваў мне кнігу пункціраў з такой самай назвай, я раптам уголас выказаў здзіўленне. Вялізнае было ўражанне: як такі моцны вобраз беларус здолеў самым непрадказальным чынам развіць і паглыбіць.

Рэпліка Алеся таксама была – здзіўленне: “Ты першы знайшоў адгадку”.

У амбасадзе Літвы падчас прэзентацыі кнігі “Падарунак хроснай маці” Алеся Разанава ў перакладзе на літоўскую Альмы Лапінскене здзіўленне, узрушэнне, асалода ад мудрасці, прыгажосці, неспасціжнасці, прыцягальнасці яго паэтычнага слова валодала ўсімі прысутнымі. Найперш – амбасадарам Эвалдасам Ігнатавічусам. Тую вечарыну ён вёў асабіста. І чытаў Алесевы творы, і хваляваўся, і выказваў захапленне, дзякаваў за веданне летувіскай мовы, за пераклады, за сяброўства.

У кулуарах, у неафіцыйнай абстаноўцы размаўлялі мы з Алесем пра нашых суседзяў, агульную гісторыю народаў і недалёкасць некаторых палітыканаў. Яму цікавыя былі мае ўзгадкі пра Вільню. У Ашмянах, дзе я працаваў намеснікам рэдактара раёнкі, мы жартаўліва называлі Вільню сваім “прадмесцем”. Ездзілі да калег-журналістаў, набывалі ў былой нашай, а затым іхняй сталіцы “гарадскія” прысмакі, якіх у сямідзесятыя гады там ставала. Да нас сябры (з-за мяжы, якой не было) добрым звычаем завітвалі па местачковую, па вясковую беларускую смакату. І як добра нам супольна пілося, елася, сябравалася...

“Сур’ёзны” – занадта. “Глыбокі” – занадта. “Незразумелы” – занадта. Нават даволі прасунутыя “інтэлігенты”, нават не ўсе літаратары ды знаўцы літаратуры здольныя прачытаць, спасцігнуць Разанава. Тут як з музыкай.

Ёсць папса. Тры акорды. Тры словы, не заўжды прыстойныя. Уразаецца – шрубам – і адразу. Забываецца таксама адразу. Пасля чарговага моднага шлягера.

А ёсць музыка. Яна, дарэчы, у Кітаі ў часы Канфуцыя была абавязковай ведай і практыкай жыцця. Калі ты шляхетны чалавек. Ёсць сімфоніі. Ёсць паліфанія Шнітке. Такая музыка прыцягальная і штораз новая. Паводле мелодыкі, гуку, рытму, настрою. Паводле рэфлексіі і адчування.

Узяць, да прыкладу, дзвюхмоўную кнігу “Гановерскія пункціры” ці швейцарскія пункціры. І ў немцаў было здзіўленне. Як?! Беларус. Славянін. Па-нямецку. Нечакана. Нова. І глыбей, чым традыцыйна па-нямецку, чым яны самі!

Мая веда пра Нямеччыну гэтаксама сталася для Алеся нечаканай. Лёс бацькі, якога фашысты адразу, на пачатку вайны пагналі на працу ў “райх”, там страціў здароўе і памёр на саракавым годзе жыцця. Лёс маці – партызанкі. Досвед мой як бізнесоўца, яшчэ як віцэ-прэзідэнта Таварыства беларуска-нямецкай дружбы. Прэзідэнтам, дарэчы, быў Васіль Быкаў.

Разам разгадвалі з Алесем (як і з Быкавым) такую зразумелую і незразумелую душу немцаў. Спрэчна. Супярэчліва. А сённяшнія падзеі наогул заблытваюць ёсціну. Калі яна ёсць...

Ратуе паэзія. Нямецкая. Беларуская.

Алесь Разанаў – выключны глабаліст. Еўрапейскі. Азіяцкі. Увабраў у сябе паэзію ад Гая Валерыя Катула, ад вядомых сусветных аўтараў-наступцаў з розных краін і народаў. Наталіўся Купалам, Коласам, Багдановічам, Жылкам, Дубоўкам, Караткевічам, Геніюш, Танкам...

І Алесь Разанаў – выключны, найвыбітнейшы паэтычны геній нацыянальны. Яго словы, вобразы, думкі мусяць беларусы чытаць. І вытлумачваць. Разумець. У побыце нацыі, у тутсамасці тое ўжо здарылася. Ён адбыўся. Створанае ім з апокрыфа пайшло ў канон. На вякі. Зрабілася знакам рэчаіснасці сённяшняй дзеля рэчаіснасці заўтрашняй.

## Маскі

*З нататніка*: 26.08. 2021. Чацвер

“Узяў у рукі новую кніжку, нататнік – каб распачаць.

Раптам загуў мабільнік – тэлефануе нявестка з працы: “Толькі што паведамілі ў сеціве, што памёр Алесь Разанаў...”

Праз тэлефон выказаў спачуванне жонцы Алеся Галіне. Кажа, што адпяванне будзе ў царкве на Нямізе”.

...Першы запіс у гэтай чорнай кнізе (не толькі паводле колеру вокладкі) стаўся чорны.

Назаўтра напісаліся радкі.

*А.Р.*

З апошнім выдыхам
памрэ апошні ўдых.

І ў незваротным,
у бясконцым сне

Ты, безумоўна,
забываешся на ўсіх.

Цябе, магчыма,
Забываюць, ды не ўсе.

28.08.2021. Субота

“Адпяванне ў храме Пятра і Паўла, што на Нямізе.

Алесь у труне. Белы заспакоены твар. Чэрап філосафа і паэта. Геній. Роўны Барадуліну, але зусім іншы. І ў гэтым ён найвышэйшы. Асобны”.

.........

“У храме налічыў каля двухсот асобаў. Яшчэ колькі прайшло раней. У іншы час прыйшлі б тысячы. Як было падчас пахавання Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна.

Пляміна на душы народа.

...А кветак на труне большала (...).

Сказаў Барыс Пятровіч.

Сказаў N. Сказаў Рыгор Сітніца.

Я ад слова адмовіўся. Патлумачыў Барысу: “Ты ўсё ўжо сказаў, і добра. Не вытрымаю, ужо голас дрыжыць...”

Разышліся. Махнуў рукой Уладзіміру Някляеву. Развітаўся з Аксанай Спрынчан, Рыгорам Сітніцам, Антанінай Хатэнка. Перакінуліся парай слоў з Міхасём Скоблам”.

Па адпяванні кінулася ў вочы – усе былі ў масках. Каранавірус.

У некаторых прысутных і твары былі маскамі. Як і пры ягоным жыцці. Алесь – сэнс, слова, сумленне. Дух. Адзінотнасць у літаратурным моры. Ён быў – як паэт і як чалавек, мысляр – не для ўсіх.

Не ўсе, хто мае крылы, лётаюць.

Ад радзіннага ганка кожны сам пракладае дарогу – ці ў працяг, ці ў тупік. Наш дарагі сябра ішоў першым шляхам.

Вызначыўшы крэда ў маладым зусім узросце ("Пачатак"), трымаўся яго непахісна, няскрушна, някрохка.

Памятаеце яго слова з кнігі "Маем найбольшае самі" – "іншазвер". Ён застаўся сярод беларусаў іншачалавекам.

<u>28.08.2021. 23:06</u>

***МАСКІ***

*А.Р.*

Свет пражывае цябе
па-твойму.
Тварнасць тваю
не сцерці.
Ды ў часу
няма ўтойму –
маска жыцця
перакінецца
маскай смерці.

*...Гэта было хістанне маладога дуба. Зала ў філармоніі сціšаная. Аняменне ў стадыі палёту.*

*Алесь вымавіў нават кропку пасля канцавога радка. Дрыготкая паўза – з хвіліну. І воплескі, воплескі... Воплескі ўзрушаных душ. Абступілі. Абшчапілі. Кніжкі, паперкі для аўтографаў...*

*Маем быць, не маючы нічога.*

*І маем быць, маючы Паэта.*

*Адна дзяўчына разгублена шукала што-небудзь для аўтографа. Нічога! Яна прарвалася праз натоўп – бы праз хвалі прыбоя і, усцешаная ад здагадкі, працягнула руку. Алесь распісаўся.*

*Воплескі даланёю адною.*

# in memoriam



Аксана Спрынчан



...бог сонца – Ра,
бог паэзіі – Алесь Разанаў...

# Разам з Разанавым

## Болей

Апошні раз, калі я бачыла Алеся Разанава, мы сустрэліся на дзявятым паверсе "Мастацкай літаратуры", з'ехалі ліфтам долу, прайшліся да Жоўтай царквы і развіталіся. Хто ж ведаў, што яшчэ адзін, апошні, раз я пабачу яго ў Жоўтай царкве... Хоць цяпер здаецца, што і ведала, але не хацела ведаць. Крапаў дождж, у нейкі момант Алесь Разанаў запытаўся, дзе лепей друкаваць творы, каб іх болей людзей прачытала. Усе месцы нагэтулькі і яму, і мне былі вядомыя, што карцела сказаць: "нідзе", але я стрымалася і спрабавала называць "месцы, дзе, магчыма, болей". Паэт неяк па-незямному ўсміхаўся, для "болей" заставалася адно друкаванне ў Вечнасці.

## "Пчала пачала паломнічаць"

Заманулася неяк паадгадваць загадкі пра пчол. Разгарнула том з серыі "Беларуская народная творчасць" на раздзеле "інсекты" і... не знайшла ніводнай. Мухі ды камары, прусакі ды жукі... Колькі разоў перагледзела – няма, ці не сон, думаю.

Высветлілася ж, што загадкі пра пчалу знаходзяцца ў раздзеле “Свойская жывёла”, які пачынаецца з каровы... Мы, беларусы, не кажам пра пчалу, як пра іншую свойскую жывёлу, што яна здохла. Пчала – памерла, бо ў яе, голуба і чалавека адна душа.

Стваральнік вершаказаў Алесь Разанаў гэтае ж народнае ўяўленне выводзіць ад самога слова “пчала”: “Пчалу нельга забіваць: яна – пЧАЛа, у ёй захоўваецца чалавечы пачатак, і людзі шануюць яе, як чалавека”.

Гэтаксама слова “пчала”, паводле паэта, выяўляе сябе як – плач. І зноў такі перагукаецца з міфалагічным сюжэтам, у якім пчолы ўтварыліся са слёз дзяўчыны, а пчаліная матка – са слёз Спаса.

Філасофія мовы і народная філасофія лёгка і геніяльна ўтвараюць сотавасэнсавы лабірынт паэзіі Алеся Разанава.

“Пчала пачала паломнічаць” – пачатак, які... не спыніць...

## Дарэшты

Як сумна, калі кніга выходзіць з памылкаю, і як файна сустрэць у гэтым суме Алеся Разанава, які таксама быў рэдактарам “Мастацкай літаратуры”, і ў яго праходзілі памылкі, за якія пазбаўлялі прэміі. Але ўсе яны недзе далёка-далёка, а тут магутны версэтаўскі поціск, і ты не мыеш рукі, пакуль пункціры дарэшты не ўвайшлі ў цябе.

Вось жа шчырую праўдачку некалі напісала, прамінула колькі гадоў і памылкі не памятаю, а Разанаў разам са мною.

## Сенакоснае

У 70-80-я гады, у часы майго маленства, “Мастацкая літаратура”, як і іншыя арганізацыі, выпраўляла супрацоўнікаў на сенакос у калгас. Ездзіў і мой тата, і Алесь Разанаў, але іх выпраўлялі не на той сенакос, куды бралі мяне, дзе расла найлепшая прыпяцкая трава, з якой атрымлівалася найлепшае сена найлепшым лунінецкім каровам. І хоць нібыта паэты былі заўжды задаволеныя, касілі, глядзелі на зоркі і чыталі вершы, я зразумела, што ў лепшыя месцы не выпраўляюць.

## Немагчымае

*Перакладаю шэпт дажджу,*
*пагляд вачэй,*
*трымценне гаю...*
*Кранаю,*
*слухаю,*
*гляджу,*
*я не пішу – перакладаю.*

Вядома ж, і я пра Алеся Разанава не пішу – перакладаю, хоць і перакласці немагчыма.

## Карпік з радзімы Алеся Разанава

Пашпацыраваўшы з дачкою Высокім Местам і ўздоўж Свіслачы, дапялі да Палаца спорту, каб ехаць дахаты. А там – рыбны кірмаш. І мы набылі карпіка з Берасцейшчыны, з Радзімы Алеся Разанава. Як жа мы беглі да Свіслачы з фірмовым пакетам “Сялец“! Таму і пстрыкнула здымальнікам гэтак, што яго не відаць. Затое на фота, дзе безліч шэрага, леваруч ад мяне з бліскавіцай, той, у каго добры зрок можа яго разгледзець. Ён паплыў!

## Парай набыць цудоўную кнігу – і цябе не забудуць на юбілей генія…

Атрымала смс-ку: “Вечар добры, Аксаначка! Павіншаваў зранку Алеся Разанава з 70-годдзем. Гэта ж з Вашай падачы (вобразна кажучы) я ў лютым набыў яго кнігу пераказаў Ф. Скарыны “Маем найбольшае самі”. А, літаральна чвэрць гадзіны таму на 1-м Нацыянальным канале Беларускага радыё прагучала дасланае мною віншаванне сп. Алесю: “Віншую з 70-годдзем свайго земляка, славутага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алеся Разанава! Яго настаўнікам у Сялецкай школе Бярозаўскага раёна быў малодшы брат майго дзеда Сцяпан Хведаравіч Грышкевіч“.

## Разанаў разумны

Дасылаю на юбілей Алесю Разанаву тэлеграму. Дыктую, і там, дзе “Ў“ – папярэджваю, што “у нескладовае“ – каб памылак не было. Урэшце мне кажуць:

– У нас няма “Ў“, у нас дзве клавіятуры – расейская і ангельская, “I“ беларускае мы з ангельскай бярэм. Якую літару стаўляць замест “Ў“?

Ад неспадзяванкі выдаю:

– Стаўляйце “У“. Разанаў разумны. Ён зразумее...

## “Паэма гарачага лісця”

Фелікс Баторын апавядаў мне, што не ўспрымаў паэзію Алеся Разанава, пакуль не прачытаў паэму пра бальніцу. Бальніца адразу прыцягнула хірурга, і праз яе ён прыйшоў да любові і да “небальнічных” вершаў.

Ніколі не ведаеш, скуль пачнецца любоў...

## ТАТАРАЗАНАЎ

Змясціла была фотаздымак у Фэйсбуку, дзе тата з Алесем Разанавым з келіхамі ў руках, і падпісала:

*Тата... Разанаў...*
*Файна... выпіць улетку*
*белага віна...*

Атрымала каментар Таццяны Гаранскай: “ВЫДАТНА – ТАТАРАЗАНАЎ!!!”

I не паспрачаешся.

## Яшчэ пра фота

Мае любімыя фотаздымкі любімых з Алесем Разанавым: тата і Разанаў п’юць, а муж і Разанаў смяюцца.

## Натхненне

Начытаўшыся “Невядомай велічыні” Алеся Разанава, стварыла яйкаквадраты, крапаныя баравікамі з Лысай Гары. Яйкі імгненна зніклі, а ўсведамленне, што твой паэт натхняе нават на імгненнае, засталося.

## Разынка

Малым дзецям нелянотныя бацькі развешваюць па хаце карткі са словамі. Вядома ж, гэта не пра мяне, таму я паўсюль раскладала “Дзеясловы”, так, каб у кожнае імгненне можна было ўзяць і пачытаць. Вынікі не змусілі сябе чакаць.

– Мама, – мовіла дачка, – а па кожнай вокладцы “Дзеяслова” можна ж спектакль паставіць, дзейныя асобы адразу напісаныя.

I дала варыянты на колькі нумароў. Паводле часопіса №1 спектакль называўся

"Як Гіль шукаў Разынку". Разынка – было найбліжэйшае, што дачка пабачыла ў прозвішчы Алеся Разанава. І вось жа напраўду – разынка беларускай літаратуры. Усміхнешся і ўспомніш усмешку Паэта.

### Размеркаванне

У траўні 2012-га лёс падараваў мне колькі дзён быць з Алесем Разанавым у супольным літаратурным падарожжы шведскіх і беларускіх літаратараў на Берасцейшчыне, якое ладзіла Марыя Сёдэрберг з дапамогай Шведскага інстытута і Пасольства Швецыі ў Беларусі. Мне прапанавалі кіраваць імпрэзаю, з беларускіх творцаў былі яшчэ Святлана Алексіевіч і Ірына Багдановіч. Вядома ж, найлепшыя экспромты – падрыхтаваныя, я гэтак і ўчыніла, размеркавала, што першым будзе выступаць геній – Алесь Разанаў. Але перад самым выступам мяне папярэдзілі: "Першая – Алексіевіч, далей неістотна". Шведы ўжо нешта ведалі. Я ведала беларускага Паэта. Для мяне Паэзія вышэй за ўсё. І ў прэміі я веру адно тады, калі іх даюць такім Паэтам.

### Нябёсы беларускай літаратуры

Прадстаўляючы Алеся Разанава, як вядоўца імпрэзы ў зале Палаца культуры ў Бярозе, чытала свой улюбёны ягоны верш і дадавала свой працяг:

*Як бы ні імкнулася дрэва*
*ў неба,*
*яно ўсё роўна*
*не дасягае неба...*
*Але, магчыма,*
*ніякага іншага неба няма,*
*апроч самога імкнення.*

Апроч самога імкнення чытаць і слухаць Алеся Разанава. Вітайце нябёсы беларускай літаратуры – Алесь Разанаў!

Гэты верш, выпісаны ў мой вершанататнік яшчэ ў юнацкія гады, ці не адзіны нерыфмаваны верш, які я памятаю нават у стрэсавых сітуацыях.

### Сялецкія хаты

Разам з Разанавым адведала Сялец – вёску, дзе ён нарадзіўся, была ля ягонай хаты, перажывала кранальную сустрэчу з роднымі мясцінамі і людзьмі. Мы адчувалі, што гэта злучыла нас, бо нават за пяць гадоў, падпісваючы "Перавыбранае", Паэт падпісаў:

*Адчыняем дзверы*
*Ў сялецкія хаты:*
*Аксане Спрынчан.*

РА

Алесь Разанаў, А. Р., Ар-ў, RA – гэтак падпісваў Алесь Разанаў кнігі мне. Выпадкова ці не... Да прыкладу, майму тату ўсе падпісаныя "Алесь Разанаў". У кожным разе бог сонца – Ра, бог паэзіі – Алесь Разанаў.

### Рэклама без падману

Калі выйшла кніга Алеся Разанава "Такая і гэтакі: талакуе з маланкай дождж" у стылёвым аздабленні Кацярыны Дасько, "Наша Ніва", складаючы топ-10 беларускіх кніг, якія варта набыць у 2018 годзе, напісала пачутую ад мяне на кніжнай выставе рэкламу: "Такую не сорамна з сабой і ў ложак узяць"... Гэта для чытачоў. А можна і перафразаваць: "Такую не сорамна і каханай жонцы паказаць"...

## Два геніі

З Ярашам Малішэўскім мелі гонар прэзентаваць разам з Алесем Разанавым унікальную кнігу ягоных перастварэнняў “Францыск Скарына. Маем найбольшае самі”. Два геніі – адзін з беларускай поўначы, а другі з беларускага поўдня сустрэліся праз 500 гадоў, каб нашчадкі і сучаснікі зразумелі тое, што для бальшыні фактычна таямніца. Гэта была адна з найбольш суладных прэзентацый, якой я кіравала, бо, апрача шчаслівага лёсу слухаць і чуць Алеся Разанава, была магчымасць слухаць і чуць тыя беларускія інструменты, якія 500 гадоў таму натхнялі Францыска Скарыну. Голас Разанава і голас беларускіх інструментаў плылі, злучаліся, ставаліся абярэгам для кніг і людзей.

## Люблю

Неяк я надумала параўнаць поры года з літаратурнымі жанрамі. Вось што ў мяне атрымалася: зіма – чарадзейная казка, вясна – лірычная паэма, лета – любоўны раман, восень – філасофскае эсэ. Я люблю пераход ад лета да восені, калі каханне становіцца філасофіяй.

Пагатоў я люблю паэзію, якая сталася філасофіяй, альбо філасофію, якая сталася паэзіяй.

## Спроба

Збянтэжаная, апавядаю мужу, што затэлефанавала каханая Алеся Разанава і папрасіла напісаць пра яго.

– Ты не чакала?

– Не. Я ніколі б сама не наважылася, ён як Бог...

– Але ж можна паспрабаваць...

– Усё змяшчаецца ў тры словы.

– ???

– Разам з Разанавым.

## Дождж

***

*Дождж:*
*возера*
*ў акупунктуры.*

***

*Такая і гэтакі:*
*талакуе*
*з маланкай дождж.*

Алесь Разанаў – адзіны паэт у свеце, у каго два вершы з дажджом сталіся назвамі кніг.

## Без лішніх колераў

Кветкі для развітання з Разанавым загарнулі ў белую паперу. Ніколі раней мне белая ў такіх выпадках не траплялася. Мо гэта выпадковасць, а мо гандлярка не хацела дадаваць лішніх колераў для белых і чырвоных кветак. Як ні хавалі іх з дачкой пад парасонам, на паперу траплялі кроплі дажджу, і атрымлівалася:

*Дождж:*
*Вечнасць*
*у акупунктуры.*

Адам Глобус



...не кожны творца здатны аднавіцца

пасля драматычнага здарэння...

# Цвірка

***Словы пра пейзажыста Віталя Цвірку***

## Гарбузы з патысонамі

На выставе мастака-сатырыка Лісоўскага можна пабачыць шмат карыкатур. Сярод іх і сяброўскі шарж на жывапісца Віталя Цвірку, які перапоўніўся ўласнай значнасцю, задраў нос і стаіць на спартовым п'едэстале на першым месцы, а замест другога і трэцяга пазначаны два нулі. Побач з шаржам на Цвірку я заўважыў шарж на Фрыну Львоўну Лейтман, якая выкладала ў мяне гісторыю мастацтва. У Фрыны Львоўны я атрымаў заданне схадзіць на персанальную выставу Цвіркі і занатаваць уражанні. У Палацы мастацтваў увесь другі паверх пазавешвалі більдамі (так тады жартам называлі вялікія карціны) значнага жывапісца. Большасць більд – краявіды, напісаныя шырокімі, пэўна ж, малярнымі флейцамі. Краявіды мяне тады не кранулі, а нацюрморты з гарбузамі ды рознай гароднінай спадабаліся, бо Цвірка змог захаваць у іх свежасць, якая застаецца ў беларускіх садах і гародах пасля жнівеньскіх дажджоў. Юры Алеша некалі напісаў пра "блакітныя вочы гародаў", нешта падобнае я пабачыў

у зухавата зробленых нацюрмотах Віталя Цвіркі і расказаў пра ўбачанае на лекцыі. “Няўжо Вам, Уладзімір, падабаецца творчасць Цвіркі?” – здзівілася Фрына Лейтман. Каб не раздражняць выкладчыцу, я запэўніў яе, што мне спадабаліся выключна палотны з гароднінай, што чыстая праўда.


*Віталь ЦВІРКА.*

## Першынство

У Беларусі ёсць, а мо толькі раней была (але дакладна), прыступка, на якой стаяў першы мастак. Некалі на гэтай прыступцы ўзвышаўся Волкаў, які напісаў панарамнае палатно “Мінск, 3 ліпеня 1944 года”. Яго замяніў Ахрэмчык, аўтар карціны “Абаронцы Брэсцкай крэпасці”, за якім на прыступку стаў Цвірка, які таксама стварыў палатно вялікага памеру “Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач”. Зорны час Віталя Цвіркі быў зусім кароткі, як і ўся тагачасная “адліга”. Яна скончылася, і ў двубоі за прыступку сышліся Май Данцыг і Міхаіл Савіцкі. Данцыг напісаў “Партызанскае вяселле”, а Савіцкі – “Віцебскую браму”. Савіцкі выйграў двубой, бо на ягоны бок сталі Кішчанка з Вашчанкам...

Лічу – мне пашанцавала. Я пачаў маляваць, калі сыходзіў у мінулае бясколерны і змрочны час Ахрэмчыка і Волкава і пачынаўся час Цвіркі, які сябраваў з маім першым настаўнікам Сяргеем Пятровічам Катковым. Мо таму я цалкам прымаю манументальныя краявіды, напісаныя шырокім пэндзлем Віталя Канстанцінавіча Цвіркі, і лічу, што з ягоных палотнаў “Прыпяць. Вясна”, “Ганча. Партызанская зямля” і “Каложа” пачаўся новы і важны этап у беларускім жывапісе.

## Крапіва

Ніколі не чуў, што мой далёкі сваяк, байкапісец і драматург Кандрат Крапіва захапляўся маляваннем. Пра тое, што ягоныя дзеці і ўнукі малявалі і займаліся мастацтвам прафесійна, я цудоўна ведаю, але каб сам Кандрат Кандратавіч нешта нейкае маляваў, я даведаўся з успамінаў Віталя Цвіркі, які згадваў: “Кандрат Кандратавіч значна паглыбіў мае веды ў малюнку. Мала хто ведае, што ён валодаў талентам мастака. Крапіву я лічу адным з першых настаўнікаў у мастацтве...” Калі пералічыць толькі самых знакамітых настаўнікаў Цвіркі, дык можна сказаць, што Кандрат Крапіва трапіў у шэраг знакамітых настаўнікаў жывапісу. Віталь Цвірка вучыўся ў Віцебску ў Ахрэмчыка і Лейтмана, а пазней у Маскве ў Герасімава і Ражскага, у Грабара і Дайнекі. Так што Цвірка ў свой час атрымаў выдатную прафесійную мастакоўскую адукацыю, і важна, што ў яе пачатку стаяў наш Кандрат Крапіва.

## Віднасць

Віталь Цвірка меў такі рост, што ўзвышаўся над калегамі. Начальства любіць такіх статных дзеячаў культуры. На такіх людзях добра глядзяцца медалі і ордэны. Сярод пісьменнікаў такімі “ўзвышэнцамі” былі Брыль, Навуменка, Мележ, Гілевіч... Сярод акцёраў – Белахвосцік, Янкоўскі, Яроменка... Сярод мастакоў – Анікейчык, Басалыга, Стальмашонак... Ім давалі пасады і званні, іх узнагароджвалі і ўшаноўвалі,

бо ў дзяржавабудаўніцтве ёсць элемент тэатральнай гульні, таму на сцэну запрашаюць не толькі здольных і таленавітых, а і відных. Цвірка быў эфектна-відны, і гэты факт адыграў у ягонай творчай біяграфіі станоўчую ролю. Можна сказаць, што знешнасць вылучала Віталя Цвірку ў лепшы бок і спрыяла ягоным поспехам. Можна дадаць: Цвірка цудоўна ведаў пра ўласную віднасць і ўмеў ёю карыстацца, як праўдзівы таленавіты артыст.

## Мальберт у багажніку

Пейзажыст Цвірка – асоба легендарная. Старыя мастакі распавядалі маладым пра яго розныя рознасці. Мне запомнілася апавяданне Кіма Шастоўскага, які расказаў пра персанальнага шафёра, якога меў Віталь Цвірка. Калі Кім расказваў, як яго малога на машыне катаў шафёр Янкі Купалы, гэта не так дзівіла, як тое, што мастак мае шыкоўную машыну з шафёрам, які возіць гаспадара на эцюды. Для мяне мастак тады быў, дый зараз застаецца, такім сабе Ван Гогам, які ідзе па дарозе з эцюднікам, спыняецца ў маляўнічым месцы і піша матыў. Цвірка выпраўляўся ў падарожжа на “Волзе”, у багажніку якой меўся зроблены на замову цэлы мальберт. Віталь Цвірка пісаў краявіды не на эцюдніку, а на мальберце. Таму і памер у іх быў вялікі, і пісаць ён мог не толькі ў цёплае надвор’е, а і ўзімку. Замёрз? Залез у цёплую машыну, пагрэўся і далей працуй. Слухаючы Кіма Шастоўскага, я думаў, што прыклад Цвіркі з мальбертам у машыне будзе мець працяг. Пагатоў у яго было шмат вучняў. Толькі вынаходніцтва Цвіркі чамусьці засталося непаўтораным, пэўна, цераз тое, што ў моду ўвашоў краявід, напісаны ў майстэрні з фотаздымка, а не з натуры.

## Карасёў

Сярод мастакоў ходзіць шмат легенд і паданняў на тэму – хто каго, як і дзе, калі і з кім душыў. Чуў я паданне, як Заір Азгур душыў братоў Роберманаў, бо яны выйгралі конкурс на стварэнне помніка Якубу Коласу. Хадзіла легенда, як Савіцкі таптаў Селешчука, бо той стаў модным і запатрабаваным у начальства. Пейзажыст Шура расказваў мне показку пра Віталя Цвірку, які дзе мог паскудзіў Івану Карасёву. Маўляў, Цвірка страшэнна зайздросціў Карасёву, бо ў таго краявіды атрымліваліся значна лепей, чым у Віталя Канстанцінавіча Цвіркі. Пачну з таго, што ў Івана Карасёва краявіды эцюдныя, камерныя і сціплаколерныя, нібыта прысыпаны дарожным пылам. У іх няма манументальнасці, шырыні, абагульнення і іншых вартасцяў, якія ёсць у эпічных пейзажах Цвіркі. Усё, што мог зрабіць Карасёў, мог лёгка зрабіць і Цвірка; але далёка не ўсё, што рабіў Цвірка, атрымлівалася ў Карасёва. Таму я не паверыў у показку, якую мне падарыў Шура. Ён мне расказаў шмат розных цікавостак пра таемнае жыццё мастакоў. Палова з расказанага было няпраўдай, але і няпраўду слухаць цікава, калі яна расказваецца пра знакамітага мастака, кшталту Віталя Цвіркі.

## Школа

Імя Віталя Цвіркі носіць адна з мінскіх мастацкіх школ. Калі школе далі такое імя, я падумаў, што гэта трошкі лепш, чым інтэрнат для адораных дзяцей імя Ахрэмчыка, і крышку лепей за вучылішча імя Глебава. Сам я хадзіў у вучылішча, і мы называлі яго Вучэльня або Вучылішча, называлі і Драчылішча імя Ганарэйкіна, а яшчэ – Мучылішча імя Канарэйкіна. Да творчасці скульптара Глебава мы ставіліся без павагі, ну, быў такі Глебаў, ну, ляпіў авербуяў, ну і няхай яго ўшаноўваюць глінамесы, а мы, мастакі, будзем з яго насміхацца. Потым усе звыкліся з назовам

вучэльні і далі ёй мянушку Глебаўка. Мянушка выдатная, яна і глебная, і хлебная, і цёплая, і любімая. Нешта падобнае адбылося і з інтэрнатам, яго пераназвалі ў Парнат. Спадзяюся, што і мастацкая школа імя Віталя Цвіркі паціху-патроху прывыкне да свайго імя і атрымае нейкую запамінальную мянушку. Мае спадзяванні маюць пэўны грунт, бо я парадаваўся, пабачыўшы, як навучэнцы школы робяць копіі з краявідаў Віталя Цвіркі. Навучэнцы бачаць у ім узорнага мастака і настаўніка, што, уласна, і абнадзейвае.

## Пажар

З мастаком Ісачанкам загаварылі пра пажары. Я ўспомніў Мінаса Аветысяна, у якога згарэла майстэрня з большасцю ягоных шэдэўральных работ. Аветысян так загараваў, яго агарнула такая маркота, што ён і памёр неўзабаве. Ісачанка расказаў, што і ў Віталя Цвіркі згарэла майстэрня. У полымі прапала безліч карцін і акварэляў, а яшчэ згарэла калекцыя абразоў. Ярка ўявіўся пажар у мастакоўскай майстэрні, там жа поўна сухога дрэва, поўна праалеенага палатна, папер, усяго, што добра і хутка гарыць. Ніякія пажарныя не ўратуюць. Кажу гэта з веданнем справы, бо рос у пажарнай, дзе мой дзед Бронік служыў шафёрам. Мне дазвалялі надзяваць залатую каску пажарнага, пасядзець за стырном чырвонай пажарнай машыны. З таго часу я паважаю пажарных. Тады я лічыў іх сапраўднымі волатамі, і маё меркаванне не змянілася. Вядома, я наслухаўся шмат трагічных і трагікамічных гісторый пра здарэнні на пажарах. Гісторыя з пажарам у майстэрні Цвіркі мяне кранула тым, што мастак пасля трагедыі знайшоў у сабе сілы распачаць творчае жыццё наноў. Стаў працаваць удвая больш, чым да пажару. Ён пісаў і маляваў хутка, апантана, несупынна. Яго рука набыла неверагодную лёгкасць. Ягоная палітра стала больш светлай, вытанчанай і празрыстай. У выніку пасля пажару Віталь Цвірка стаў яшчэ лепшым мастаком, чым быў да яго. Далёка не кожны творца здатны аднавіцца пасля драматычнага здарэння. Цвірка змог, і гэта – прыклад для наступнікаў.

## Сутарэнні

У сутарэннях Дома літаратараў захоўвалася досыць вялікая калекцыя жывапісу. Калі толькі пабудавалі новы дом для беларускіх пісьменнікаў на вуліцы Румянцава, што ў Мінску, Уладзімір Стальмашонак зрабіў для яго вітражы, а ў жывапісцаў закупілі шмат карцін, якія мусілі ўпрыгожваць сцены новага дома. Як мне помніцца, з тых карцін павесілі толькі адну – рамантычны партрэт Максіма Горкага на фоне марскога краявіду. Аўтарам таго партрэта быў Абрам Забораў. Калі сям'я мастакоў Забораавых з'ехала з Беларусі, партрэт знялі і перанеслі ў сутарэнні. У тых сутарэннях захоўвалася частка часопісаў і газет з бібліятэкі Дома літаратараў, у якой працавала мая маці. Надаралася, што я дапамагаў ёй пераносіць старыя часопісы з бібліятэкі ў сутарэнні. Там я пабачыў карціны. Мне спадабаўся нацюрморт Залознага з галавой Давіда. Дарэчы, партрэт Горкага таксама быў выкананы на добрым прафесійным узроўні. Лепшым, што я пабачыў у сутарэннях, быў, безумоўна, краявід Віталя Цвіркі, напісаны на тоўстай фанеры. Цвірка напісаў панарамны краявід лесіроўкамі. Фарбы былі бурштынавыя і зусім празрыстыя. Мастак іх пакрыў густым лакам, і ў выніку атрымалася такая сабе панэль, нібыта зробленая з каштоўнага дрэва. У першы момант ты бачыў гладкую бліскучую панэль, а праз імгненне на ёй з'яўляўся краявід з палямі і небам, а потым ён зноў знікаў, робячыся гладкай панэллю... Спадзяюся, што некалі знойдзецца імпэтны аматар творчасці Віталя Цвіркі, які вынясе ягоны краявід з цемры сутарэнняў на ласкавае дзённае святло.

## Грышкевічы

З маіх знаёмых у Аляксандра Грышкевіча ёсць арыгінальны краявід Віталя Цвіркі. Грышкевіч збіральнік сур'ёзны. Ён паставіў за мэту сабраць значную калекцыю беларускага жывапісу, каб перадаць яе свайму роднаму гораду Маладзечна, дзе мусібыць адчынена мастацкая галерэя. У Грышкевіча ёсць краявіды Савіцкага і Харашэвіча, нават у мяне за невялічкія грошы Аляксандр набыў маленечкі шэры краявід з дзедавай вёскай Babaкомшчынай. Краявід для мяне дарагі, бо маляваў яго з натуры, маляваў, седзячы ў машыне, бо ішоў летні густы дождж і выйсці з машыны, каб не змокнуць, не выпадала. Дапісаў я той краявід у майстэрні. Пазней тым краявідам аздобілі вокладку татавага рамана “Чужая бацькаўшчына”. Мне было шкада развітвацца з “дажджыстай Babaкомшчынай”, але дзеля перспектывы з галерэяй я з ёй развітаўся. Грышкевіч, каб я не моцна сумаваў па “страчанай бацькаўшчыне”, зрабіў мне камплімент. Ён сказаў, што ягоны сын зняў са сцяны над сваім працоўным сталом краявід Віталя Цвіркі і павесіў на яго месца маё шэрае, як беларускі дождж, палатно. Можа, гэта і просты хітрык ад практычнага калекцыянера, але мне ўсё адно прыемна, што і мой краявід знаходзіцца ў адной калекцыі з краявідамі Кастуся Харашэвіча і Віталя Цвіркі.

Сяргей Дубавец



...Занзібар, вядома, не Радзіма,
хоць і складаецца амаль
з тых самых літар...

# ЗАНЗІБАР

## Сьпяленьне маладой душы

*Нататкі пра вечнае вяртаньне*

Вы зьвярнулі ўвагу – тут зусім няма кірляў. У нас дзе які вадаём, там і кірлі, а тут цэлы акіян, поўны пракорму, і толькі вароны. Прычым жывяцца яны не з акіяну, а зь мясцовых рэстарацыяў. Падкрадаюць. Варта адвярнуцца, а ў талерцы пуста. Вароны. Яны ня нашы (вялікія, шэрыя, тлустыя), а малыя, чорныя, куртатыя, нейкія быццам абскубаныя. Вароны замест кірляў нібы хочуць намякнуць нам: ніякай рамантыкі ня будзе, ніякага табе бразыльскага карнавалу. І гэта, як бы нечакана ні прагучала, супакойвае. Ніякага буйства і ні ў чым ня будзе, будзе проста як ёсьць.

Крык кірлі – звонкі, поўны трывожнасьці жыцьця. Крык вароны – глухі і вантробны, як бранхітнае булькатаньне ў горле Джо Кокера.

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

А вунь, глядзіце, каровы. Таксама ўтрая меншыя за нашых. Каровы на пляжы – крыху нечакана, праўда? З тым самым эфэктам, што і ад варон – у гэтым месцы, якое так часта называ-

юць раем, насамрэч нічога незвычайнага чакаць ня варта. Проста жыві. Ідэальная праграма. Лаві рыбу, купайся ў акіяне, пішы кнігі, займайся сваёй гуманістыкай – ніхто цябе не патурбуе, ня дасьць падмануцца райскім абяцанкам, якіх вам надавалі ў турфірме.

Думаю, тут ня раз вас наведае сумнеў што да папулярнай сэнтэнцыі „Лепей там, дзе нас няма". І гэта будзе праўда. Лепей там, дзе мы ёсьць! Тут толькі так.

Абяцаньнямі тут кіруюць неба і акіян. Сонца яшчэ ня ўстала, але вы дакладна ведаеце, што ўстане. І гэта будзе такім чынам, што гэта сонца вашага жыцьця, якое проста ня можа ня ўстаць. Самыя важныя абяцаньні даюцца на досьвітку...

Вы пазналі Гары? Вельмі добра. Выглядае, мы з вамі з падобнага матэрыялу, так бы мовіць, – з прачытанага, з кніг. Мне таксама, калі я чую: „Словы", – адразу згадваецца Сартр. Хоць папраўдзе нічога з той кніжкі ня памятаю. Апроч аднаго эпізоду. Сартр піша пра сябе, што ніяк ня мог запомніць два словы: „ідыясінкразія" і „хеатонтымаруменас". Нічога, быццам бы, дзіўнага. Дзіўнае тое, што, прачытаўшы кнігу сто гадоў таму, я толькі гэтыя словы зь яе і запомніў адразу і назаўжды. Магчыма, недзе ў падсьвядомасьці запісалася і штосьці іншае.

Пра што я думаю? Пра парадаксальныя рэчы, пра тое, што маё пакаленьне – апошняе, якое магло прачытаць усё, што хоць калі-небудзь было напісанае па-беларуску. Уяўляеце? Кнігі, газэты, часопісы... Проста ўсё ўвогуле. Тое, што ацалела за стагодзьдзі, дома і ў эміграцыі, на захадзе і на ўсходзе... Мы апошняе пакаленьне, і гэтага ўжо ня зьменіш.

Тры гады таму я думаў пра нашае пакаленьне, што яно першае, якое ў Беларусі ня ведала вайны. А бачыце, як усё павярнулася. Гісторыя маю выснову абвергла. Болей мне так думаць няма як.

Я нарадзіўся ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя. Аж дух пераймае, праўда? Сёньня мне за шэсьцьдзесят, і ўжо ўсяго, што я сам напісаў за сваё жыцьцё, ня зможа прачытаць ніхто. Проста ня хопіць часу, хіба што вы паставіце сабе такую задачу. Але ёсьць і шмат іншых аўтараў, прычым больш вартых. Я сапраўды ганаруся імі. А дадайце сюды ўсё, што напісалі за вякі... Невыканальная задача. І калі яшчэ ўлічыць, што сама Беларусь нарадзілася для нас з кніг, дык можна сабе ўявіць, наколькі яна цяпер разраслася і ўразнастаілася, якой неабдымнаю стала. І гэта ўсё зрабілі мы ўсе разам.

Хоць, папраўдзе, што мы такога зрабілі? Проста вярнуліся да саміх сябе. Вярнулі парадак рэчаў і ходу падзеяў у тое рэчышча, якое было ад пачатку дзён. Пакуль нехта раптам ня вырашыў павярнуць нашу раку назад, то бок у нікуды. Павярнуў, і беларусы на нейкі час перасталі быць самі сабою. Усяго нейкіх пару пакаленьняў. Пражылі сваё жыцьцё не ў сваім рэчышчы і зьніклі бязь сьледу. Ніхто іх і не заўважыў. Сонца іхнае так і ня ўстала. І, скажыце, ці варта было тую раку паварочваць?..

А мы вярнуліся. Я вам распавяду пра гэта. У нас будзе шмат часу. Бо тут, вы пабачыце, як нідзе, агаляюцца сэнсы, першы зь якіх – сэнс цябе самога.

## Самая прыгожая ў сьвеце краіна

Самай прыгожай у сьвеце я Беларусь ня памятаю, колькі жыву. Ніякага табе бразыльскага карнавалу. І не таму, што здымкі зь дзяцінства ў асноўным чорна-белыя. На яшчэ больш даўніх фатаграфіях, карцінах ці гравюрах XIX стагодзьдзя яна таксама не выглядае самай прыгожай. У Пешкі, Орды, Драздовіча – утульная, мяккая, добрая – і ня больш за тое, краіна. Сьціплая. У паэзіі і прозе – ніцая, чэзлая, убогая, куток цемнаты... Шэрае крывіцкае неба. У кіно гэты яе вобраз яшчэ пасьпеў ухапіць Рыбараў у „Чужой бацькаўшчыне". Там гэтая непрыкметнасьць праменіць сваім унутраным сэнсам, што ідзе аднекуль з часоў Вялікага Княства і адбіваецца

пад павевамі ветру бялёсай гульнёю лісьця ў тапалёвых прысадах. І нехта едзе на кані – як на выцьвілым здымку. Тужлівы ўспамін пра нешта схаванае ў глыбіні... Памятаеце, у Купалы?

*Так няміла, як магілай,*
*Неяк выдае*
*Беларусь, мая старонка,*
*Дый люблю ж яе.*

Між іншым, тут я таксама адчуваю падобнае. Вось скажыце мне, у чым прыгажосьць Занзібару? Вада акіяну такая прыцягальна смарагдавая, а больш ні пра што, бадай, і ня скажаш. Звычайныя тропікі. І той самы тужлівы матыў, схаваны ў глыбіні. Як у „Чужой бацькаўшчыне“...

А стала Беларусь рабіцца самай прыгожай у 2000-я. Мы паезьдзілі па сьвеце, атрымалі досьвед параўнаньня і ў выніку ланцужка хімічных рэакцый палюбілі сваю Беларусь. Мы ўсе. А можа быць і так, што яна сама нейкім дзіўным чынам перамянілася пад нашае новае калектыўнае несьвядомае, каб раптам уразіць сваімі неймавернымі краявідамі з абсалютна дзівосным небам. Бо мы ўсе з зашораных савецкіх калхозьнікаў сталіся нармальнымі, сучаснымі, унутрана свабоднымі людзьмі. І тады гэтае перакананьне, што ў нас „самая прыгожая ў сьвеце краіна“, аб’яднала нас <...>.

Фрэндэса Юля піша ў фэйсбуку:

*Праз усё, што адбываецца апошнім годам, я стала па-дурацку сэнтымэнтальнай. Добра, ня стала, а была заўсёды, і нічога не па-дурацку. Мы проста езьдзім па Беларусі, разглядаем яе зблізку, і я разумею, якая яна розная, якая яна прыгожая, які кожны яе куток асаблівы, кожная складка непаўторная. Гэта ўсё так відавочна, але чаму я ня бачыла гэтага раней?*

*Раней усё было ў адным пункце на мапе. Першы раз я адчула сваю прыналежнасьць да гэтай зямлі ў мае 13-14, улетку, на Вяльлі, каля дубоў. Менавіта так і адчула, што належу да гэтых месцаў, быццам вырваць мяне адсюль можна толькі з коранем, зь мясам, быццам да ўсяго, што было тут, я маю дачыненьне. І тое, што тут было, мае дачыненьне да мяне. Мяне ў сям’і ніхто ніколі гэтаму не вучыў, але пачуцьцё гэтае ў адзін момант вырасла ўва мне і стала большым, чым я сама, разарвала мяне знутры на шматкі, не пакінуўшы мне шанцу. Нейкі такі адчайны фаталізм – я адсюль, я з гэтых месцаў, з гэтай зямлі выйшла, і я магу стаць кім заўгодна, але беларускай застануся заўсёды.*

*Я ня ўпэўненая, што гэта мае дачыненьне да банальнага нацыяналізму. Я нават не хачу даваць гэтаму імя ці азначэньне. Я ведаю, што я не самотная ў сваім пачуцьці. Я ведаю, што гэта штосьці вельмі важнае і сапраўднае, з чаго я не хачу вырастаць ніколі. Гэтае пачуцьцё – мой адказ на пытаньне, чаму я ўсё сьвядомае жыцьцё цікаўлюся палітыкай. Да ўсяго, што тут было, ёсьць і будзе, я маю дачыненьне. Усё, што тут было, ёсьць і будзе, мае дачыненьне да мяне.*

Ці я не занудзіў вас цытаваньнем? Вам таксама адгукаецца тое, што кажа Юля? Аб прыгожай краіне, сваім корані ў гэтай зямлі і аб цікавасьці да палітыкі, якая з гэтай прыгажосьці і гэтага кораня вырастае. Пра адчайна фатальную любоў. Вось жа тое, што некалі ў маладосьці нахлынула на мяне і ўзяло ў салодкі палон, я мог бы апісаць дакладна тымі самымі словамі. Толькі крыніца майго адкрыцьця была іншая.

Юля, дарэчы, скончыла Школу маладога пісьменьніка, дзе і мне даводзілася праводзіць заняткі. Праўда, дзеля паўнаты карціны мушу дадаць, што піша Юля па-расейску. А вось што адказваюць ёй яе сяброўкі, таксама па-расейску.

Піша Анастасія:

*Думаю пра тое самае апошнія года паўтара. Дзіўна, што раней асабіста для*

*мяне гэта наогул была ня тэма для асэнсаваньня, маўляў, якая розьніца. А гамон якая розьніца, аказваецца.*

Далей піша Настасься:

*Я адчуваю тое самае. І раней (дый цяпер) ніколі ня ведала, як растлумачыць таму, хто пытаецца «Чаму ты ня хочаш зьяжджаць?», ну чаму ж я так не хачу. Як быццам мне ўсе навязваюць, што гэта ўсё любіць ня трэба, і як быццам я вечна апраўдваюся. А мне ў адказ: ха-ха, ну тут жа ніякіх магчымасьцяў, ніякіх заробкаў, ніякога разьвіцьця, нічога не даюць зрабіць, усіх душаць, саджаюць, усё адбіраюць... І ўвесьчаснае адчуваньне, што мяне прымушаюць быць нейкай лашыцай праз тое, што я люблю Беларусь ТУТ, знутры.*

У размову ўступае Сьвятлана:

*Мяне такое накрыла ў Баранавічах. Я нешта раптам зразумела, што проста ЛЮБЛЮ гэта ўсё: і людзей гэтых, і прыроду, і гарады, і мястэчкі. Пры тым, што Баранавічы ўвогуле ня мой горад, я там гасьцявала. Потым, калі ўжо прыяжджала ў Беларусь і сядала ў Берасьці на цягнік праз усё Палесьсе, я ўвесь сьветлы час паездкі сядзела, уляпіўшыся ў вакно і разглядаючы ўсе дамкі, платы, заводы, аблокі, лясы-палі-лугі... У мяне вельмі вялікія прабелы ў пляне турызму па Беларусі – мару іх запоўніць, у кампаніі маіх малых.*

Разумееце, якая рэч? Раней такога нельга было і прадказаць. У 1970-я, калі я быў малады, нам з усіх трансьлятараў убівалі ў галовы, што наша радзіма СССР і што радзіму трэба любіць. А мы, школьнікі, гарэзілі, пыталіся адзін у аднаго: „Ну, раскажы, як ты любіш Караганду?“

А яшчэ – сёньняшні турызм па Беларусі... Не сьмяшыце, „што тут глядзець?“ І раптам – проста выбух аграсядзібаў, вандровак, экскурсіяў, краявідных фотаальбомаў і тэлеперадач, усяго гэтага матэрыялізаванага захапленьня, самы сапраўдны бразыльскі карнавал на Кастрычніцкай, арт-прасторы, канцэрты, замежныя турысты... І гэта толькі зьнешняе. <...>

Тыя вандроўкі па Беларусі, у якія мы выпраўляліся ў часы студэнцтва, турызмам ніколі не называліся і ніяк зь ім не асацыяваліся. Яны былі выключэньнем з агульнапрынятых трэндаў тагачаснага жыцьця, як, дарэчы, і сам турызм. Ды, мабыць, як і мы самі.

Проста не ўзьнікала жаданьня сфатаграфаваць той бляклы краявід. А сёньня такое жаданьне абуджаецца ўвесь час і ня толькі ў мяне. <...>

Тады, у 1970-я, сваю ня „самую прыгожую ў сьвеце краіну“ мы адкрылі для сябе і палюбілі з кніг, зь песьняў, з мовы. Проста мы адчулі, што яна наша і як шмат хавае ў сабе таямніц, і што гэтыя таямніцы – пра нас. Зьнешне мы бачылі чэзлыя руіны старой архітэктуры, аднастайныя шэрыя мікраараёны, ніцыя вёскі з кароўнікамі на месцы колішніх „панскіх“ сядзібаў, з натырканымі паўсюль лёзунгамі архітэктуры малых формаў: „Наша цель коммунизм!“ <...>

Беларусы паехалі па Беларусі – як заклікаў яшчэ Багушэвіч, „вывучаць свой край“. Сталі цікавіцца гісторыяй і культурай, шукаць інфармацыю ў сеціве і кнігах. Аб’ект любові заўсёды прыцягальны для вывучэньня.

А тады, у маёй маладосьці, Беларусь была ня толькі шэрая, яна была зусім-зусім іншая. Паўсюль, нават у вёсках можна было зайсьці ў кнігарню і адшукаць для сябе штосьці, выдадзенае ў тыя часы, калі ты яшчэ не вярнуўся да сябе самога. Алаізу Пашкевіч, Адама Мальдзіса ці раньняга Алеся Разанава... Яшчэ чуваць было натуральную тутэйшую мову і ў сталоўцы можна было замовіць узвар без тлумачэньня, што гэта такое. Амаль усе вяскоўцы трымалі кароў і сьвіней, якіх на вясковых пляцах пасьвілі дзеці, на рэках белымі плямамі перасоўваліся статкі гусей і качак, у лясах гнаўся самагон, а ў каморах віселі кумпякі. Людзі тады яшчэ сьпявалі разам.

Пераехаўшы ў горад, яны адкідалі сваю мову і песьні, якія выкрывалі ў іх учорашнюю „ганебную“ вясковасьць. І яны паступова зьліліся з фонам шэрых мікраараёнаў,

быццам увогуле зьніклі з твару зямлі. Іх, быццам рыбак, выкінула са спрадвечнага рэчышча на бераг. А насамрэч іх выкінула з саміх сябе.

Пасьля, у 1994-м, адбылася дзіўная рэінкарнацыя, і яны, выкінутыя, апынуліся пры ўладзе на цэлых ужо 30 гадоў. І вось праз пару пакаленьняў гарадзкіх беларусаў усё зноў перакулілася і ўстала на сваё месца. Як мае быць.

Ці я не стаміў вас гэтымі развагамі? Не? Тады вярнуся ў тыя даўнейшыя часы, калі яны толькі пераехалі зь вёскі ў горад. Бо і я быў адным зь іх.

## „Глядзі, Сярожа, дым!“

Можа быць, самае дзіўнае, што даводзіцца пачуць у жыцьці, прамаўляецца ўнутраным голасам. Яшчэ нядаўна я рабіў кола па маёй колішняй Круглай і любіў дзеля форсу прачыніць вакно машыны і закурыць. І хоць мне ўжо за шэсьцьдзесят, адкульсьці з маленства кожнага разу далятаглі духаўздымныя словы: „Як бальшы!“

А курыць я пачаў у другой клясе школы. На ганку Дому шлюбаў на Камуністычнай у Менску мы з раўналеткамі падбіралі недакуркі і пасьля, схаваўшыся недзе пад мостам, закурвалі „як бальшыя“. Гэты, здавалася, заўсёды заліты сонцам Дом шлюбаў выходзіў проста на разьліў Сьвіслачы. На ганку тоўпіліся сьвяточныя людзі з букетамі, наэлектрызаваныя гэтым сваім жыцьцязьменным крокам, а таму бясконца курылі. Самы каштоўны для нас „бычок“ называўся БТ – ад баўгарскіх, найдаражэйшых тады цыгарэт. Назва расшыфроўвалася „Булгартабак“ – у народзе „бычок туалетны“. Курылі мы не ў зацяжку, і кінуў я гэтае дзела ў той самай другой клясе, каб пасьля грунтоўна пачаць у дзявятай.

Вы маеце рацыю. Вядома ж, пачалася ўся гэтая гісторыя не з другой клясы і не з падбіраньня недакуркаў. Яна пачалася ў 1959-м, у Мазыры, дзе я нарадзіўся і пражыў першы год ці паўгода. Пасьля мяне прывезьлі ў Менск, дзе бацька атрымаў кватэру ў новазбудаваным доме на Круглай. То бок, я прыехаў у Менск разам з гэтай плошчай, якая цяпер называецца Перамогі. Цікава, што жыхары Круглай, хоць і атабарыліся, здавалася б, у самым цэнтры гораду, ніколі не лічыліся цэнтравымі. Сапраўднымі цэнтравымі называліся тыя, хто жыў вакол ГУМу, у тых мясцовасьцях. Да сёньня не разумею, чаму так было. Нібыта блізкія да нас Камароўскія балоты традыцыйна прызнавалі за ўскраіну Менску, але ж не. Былі ўжо забудаваныя і далейшыя прасторы, ажно за Батанічным садам.

Словам, мяне прынесьлі ў гэтую кватэру на руках, спавітае немаўля, спакутаванае ад гарачыні. Першы ўспамін – мой уласны крык, голая сьляпучая лямпачка ў калідоры і вясёлы твар дзядзькі Грышы, бацькавага брата. Вось жа я цалкам магу лічыць сябе менчуком у першым пакаленьні. Магу нават прэзэнтавацца мігрантам зь вёскі, хоць насамрэч нарадзіўся ў гарадзкой сям'і маміных бацькоў у Мазыры. Радзільня была на высокай гары, і я дагэтуль распавядаю ўсім, што ў той былой радзільні цяпер месьціцца гарадзкі краязнаўчы музэй. Дзіўна ўсьведамляць сябе народжаным у музэі. Нібы экспанат. Эй, ты там, чуеш? А я ж і распавядаю пра цябе, як пра экспанат. Галоўнае тут, каб не занудоціць слухачоў.

Ува ўзгорыстым Мазыры наш дом стаяў пад высачэзнай крутой гарой, а з ганку адзінага пад'езду відаць быў комін мазырскага піўзаводу, зь якога ў марознае паветра валіў густы белы дым. Неяк баба Даня вынесла мяне малога на ганак і сказала: „Глядзі, Сярожа, дым!“ І сьледам за ёй я сказаў сваё першае слова – „дым!“

Тым часам у Менску бацька стаў рэдактарам міліцэйскай газэты. Толькі што збудаваны дом на Круглай быў прызначаны для міліцыі, і засялялі яго адмыслова, не пакватэрна, а па пакоях. То бок у нашай трохпакаёўцы жылі тры поўныя сям'і. У адным пакоі – галоўны сьледчы БССР Вежнавец зь сям'ёй, у другім – таксама нехта „самы глаўны“ Варыводзкі, у трэцім – мы. А паколькі ўладальнікамі пакояў былі пасьпяховыя выхадцы зь вёскі, яны цягнулі за сабой у Менск радню – сваіх

братоў і сясьцёр, часта таксама зь сем'ямі. І можна сабе ўявіць колькі народу набівалася ў тую трохпакаёўку – жыць. Ёсьць здымак, дзе ў нашым пакоі – пасьля ён стане дзіцячым, для мяне і сястры – адбываецца вясельнае застольле маёй цёткі Жэні і дзядзькі Сярожы. Амаль увесь пакой займае бяседны стол, і мора народу вакол яго. Многія стаяць, але ўсе як адзін сьвецяцца пазытывам.

Мая памяць не пакінула сабе тых шчасьлівых дзён, калі кватэра была перапоўненая людзьмі, бо з часам сем'і разьехаліся і наша ўрэшце засталася ў трохпакаёвай кватэры адна.

Раскоша мазырскага дзяцінства... Напэўна, у часы дзяцінства я б сказаў менавіта так, бо так адчуваў. Але сёньня, пасьля таго, як наш альбом расфарбаваўся і пасьля таго, што стала з самім Мазыром, тая „раскоша" ўжо не адгукаецца. Яе перабівае тая самая шэрасьць, і нешта цёплае ў сьвядомасьці можна адшукаць толькі... Не, бадай, рэшткі растаюць ад дотыку. Перабівае татальнае ўбоства тагачаснага жыцьця. Сышла кудысьці рамантыка маленства, якая доўгі час хвалявала сэрца.

Няхай вас не зьдзіўляе гэта, але тое колішняе хваляваньне часам наведвае мяне тут, на беразе бяскрайняга акіяну і сярод мясцовых людзей. Напэўна, гэта падабенства непасрэднасьці быцьця там і тады і тут і цяпер.

Што там было? Пахі крамак – хлебнай і малочнай, збой народу каля царквы, бажавольны стары сьпявае нешта пра „солнышко". Ён бязногі і перасоўваецца на колках. Шмат пазьней я даведаюся, што такіх называлі „самаварамі", і я яшчэ засьпеў іх. Божа, як даўно я жыву...

Вялізная Прыпяць з тлустымі кірлямі і пляж з паркам. Гара і агромністая пячора ў ёй – такая, што туды мог бы заехаць грузавік! Але для таго, каб прайсьці пячору да канца, я тады яшчэ не дарос – баяўся.

Згадваю ўсё гэта, а нічога гэтага даўно няма. Зьнесьлі цэлыя вуліцы старадаўніх дамкоў, зьнесьлі і гару, у якой была тая таямнічая пячора. Гэта яшчэ савецкія зносы, якія я бачыў, а пасьля меў час пераканацца, што на месца старых будынкаў нязьменна прыходзіла пустата. Памятаю і той чынавенскі цынізм, той самы ўва ўсе часы. Старшыня мазырскай аховы помнікаў пракамэнтаваў герастрацтва патрэбай „ачысьціць горад ад жыдоўскіх клапоўнікаў", а ў габінэце ў яго вісеў партрэт Сталіна. Гэта былі 1980-я, калі я ўжо друкаваўся ў газэтах.

„Клапоўнікі" былі каменныя ў першым паверсе і драўляныя ў другім. У адным зь іх на другім паверсе я разам з бацькамі глядзеў кіно, і быў настолькі малы, што нічога не зразумеў, толькі настрашыўся да сьлёз. Гэта быў кінатэатар, цалкам запоўнены гледачамі. Мама сказала: „Цяжкі фільм". Яна часта так казала. Хадзіць у кіно тады было абавязковай праграмай для ўсіх.

Мазыр майго дзяцінства быў проста перапоўнены людзьмі, бо на адным пляцы, дзе стаяў наш дом, сышліся гарадзкі рынак, аўтавакзал і царква. Усё вІравала, і мне з асаблівым смуткам згадваецца гэта, калі сёньня заяжджаю туды – у нязьменную пустату. Адна-дзьве постаці па краях вялізнай прасторы. Няма людзей. Новы будынак рынку так толкам і не запрацаваў, аўтавакзал перанесьлі, дый царква ня моцна абсаджаная наведнікамі. <...>

Немагчымасьць... Прызнаюся вам, што часам перажываю вялізную крыўду не ад таго, што ня еду, а менавіта ад немагчымасьці паехаць. І ад таго, што не магу пераляцець у часе ў Мазыр майго дзяцінства, каб нарабіць сотню чорна-белых фотак гораду, асяродку, людзей і пасьля, няхай сабе, больш не вяртацца ніколі. Але гэта немагчыма нават больш, чым проста вярнуцца сёньня ў Беларусь. Немагчымасьць вяртаньня ў часе выклікае нашмат глыбейшую ўнутраную абражанасьць, чым немагчымасьць вяртаньня ў прасторы. Бо ў прасторы я яшчэ магу неяк зрэагаваць, выкінуць фортэль ім у адказ, вярнуцца на Занзібар. А ў часе такога шляху не існуе. Пасьля таго, што яны нарабілі з маім Мазыром.

Тая чалавечая пустата, між іншым, адчувалася пасьля ня толькі ў Мазыры, але і

па ўсёй Беларусі. Кудысьці падзеліся натоўпы людзей. І пасьля лета 2020-га я пачаў успрымаць гэта як мэтафару супрацьлегласьцяў, людзкасьці і бесчалавечнасьці. Бо на праспэктах і плошчах Менску я ўбачыў такі самы чалавечы вір, які памятаў хіба што ў Мазыры свайго дзяцінства, куды ўжо прыяжджаў зь Менску да бабы зь дзедам на вакацыі. Прычым у Мазыры заставалася сястра, а мяне звычайна везьлі далей, у Мялешкавічы, дзе жыла бацькава маці баба Хвядора. Так мы і гадаваліся, сястра ў горадзе, а я ў вёсцы.

Ідучы за сваёй мэтафарай, я задаюся пытаньнем: няўжо тады, у дзяцінстве, у нас было больш людзкасьці і гуманізму? А бадай так і было.

Вядома ж, я быў дзіцём, і да мяне, зразумела, ставіліся лагадней. А яшчэ зусім нядаўна людзей выпусьцілі з ГУЛАГу і Хрушчоў прачытаў свае даклады, якія, як ні круці, мелі гуманістычны пасыл. Людзі ўспрынялі гэты пасыл і не саромеліся прамяніць дабрыню, наадварот, дабрыня стала трэндам і для ўладаў, і для людзей. Мне пашчасьціла ў дзяцінстве чуць на кожным кроку, што спачатку будзь чалавекам, а пасьля ўжо нейкай там функцыяй. Быць чалавекам – паўтаралася і ў прыватных размовах, і ў афіцыйнай прапагандзе, у кніжках і фільмах. Быць чалавекам... Мне дагэтуль незразумела, як такое можа ня быць нормай для чалавека. Хіба што нехта адменіць самыя нормы жыцьця.

Пра шасьцідзясятніцтва ў культуры я, натуральна, нічога ня ведаў і не разумеў. Мяне стрыглі пад нуль, я казаў: „Я Хлусцоў“ і гэтым выклікаў нязьменны рогат прысутных.

Навокал у ратах было шмат залатых зубоў. І гэтае золата адцяняла і падкрэсьлівала татальную шэрасьць і нішчымніцу. Мілітарнасьць прысутнічала паўсюль – і ў заношаных кіцялях і палітонах, у кірзачах і фуражках, у рухах і словах. Але мілітарнасьць была стомленая, змучаная, пазбаўленая энэргіі і ня несла ў сабе пагрозы.

<...>

## Паджубейсьлік-паджугарчык

Мінула 40 гадоў, як ня стала бабулі Хвядоры, а яна згадваецца мне ўсё часьцей і ясьней. І гэтыя згадкі даюць мне адказы на шмат якія пытаньні майго ўласнага жыцьця, быццам я адкрываю штосьці ў самім сабе. Ведаеце, нават калі даю інтэрвію, бывае, што перш думаю, як бы на пытаньне адказала яна.

Вось цяпер спрачаюцца наконт таго, што мы, як беларусы, церпім ад накінутага нам расейскімі царамі ці бальшавікамі імя. А баба Хвядора называла сябе беларускай. І ніяк інакш. Яна была непісьменнай, праз усё жыцьцё ня ўмела чытаць і пісаць, то бок не паглыблялася ў тэму выбару для сябе нацыянальнага імя, бо жыла ў сваёй зусім архаічнай супольнасьці такіх самых раўналеткаў, бацькоў і дзядоў... Яны ўсе, колькі сябе памяталі, былі беларусамі.

Магчыма, іх сапраўды *запісалі* беларусамі, але такое магло адбыцца толькі ў тыя часы, пра якія яны памятаць ужо не маглі. Напрыклад, калі тутэйшае ўніяцкае насельніцтва (а яны ў Мялешкавічах усе былі ўніятамі са сваёй царквой) перапісвалі ў праваслаўныя, значыць, у першай палове XIX ст., бо пра зьмену веравызнаньня ні баба, ні хто зь яе супольнасьці не гаварылі, так, як і пра зьмену нацыянальнага імя. І калі так, дык як бы яна і яны называліся да таго?

Адказу *ніяк* проста ня можа быць. Ці ня большасьць насельніцтва вёскі былі габрэі – жыды, моцна адметныя, з выразным імем-саманазвай, а гэта значыць, што негабрэйскае насельніцтва таксама мусіла вызначаць сябе выразна, дзеля парытэту.

На жаль, усе вытлумачэньні гэтай справы адбываюцца на подступах да самога пытаньня, яны няпэўныя і няўпэўненыя там, дзе жывы кантакт з бабуляй даў бы мне праўду. Факт той, што бабуля была прыроднай беларускай – у мове, казках, песьнях якой я не знаходзіў ні каліва савецкага ці бальшавіцкага дамешку. Гэта было

існаваньне не ў дзяржаўным вымярэньні, а сярод поля, лесу, хаты і спракаветнай вясковай грамады.

І тут зноў маё пытаньне да самога сябе. Глядзіце. Калі мае продкі вызначыліся з нацыянальнасьцю 200 гадоў таму, гэта значыць, у пару ўзьнікненьня сучасных нацыяў, дык сёньня мне пераназвацца, скажам, у літвіна – гэта як адсячы корань уласнага роду. Пазбавіцца ад самога сябе з усёй гісторыяй і культурай, куды я вярнуўся менавіта да сябе, бо за словам „літвін“ нічога, апроч прывідных вобразаў, няма.

І што б на тое сказала баба Хвядора? Што б адчула на мой адрас? І што б у адказ адчуў да сябе самога я? Калі мне сёньня крытычна важнае менавіта бабіна меркаваньне. Дый ня муляе мне ніякім бокам тое, што я беларус. Наадварот. Зьмест вярнуўся ў сваю форму. Напэўна ж гэтым варонам ніяк не замінае, што яны такія малыя і куртатыя. Яны пра гэта й ня думаюць. Каб стаць сытымі белымі кірлямі, якіх тут няма.

Дзеда Каленіка я ведаць ня мог – ён загінуў на фронце. А бабуля ўспамінала ягоныя словы: „Пагаруй, пагаруй, мая мілая, будзеш ты ў мяне, мацька, княгіня“. Гаравалі – гэта значыць, цяжка працавалі. У толькі што створаных калгасах ім уяўлялася, што напрацуюць на княгіню... А яшчэ яна расказвала мне казкі пра тое, як да маладзіцы прыяжджае на аўтамабілі... князь. Беларуская мова ў яе была найчысьцейшая, крыху з палескім акцэнтам „буў“ (быў), „муло“ (мыла), „пойдам-паедам“... І з прасодыяй – гаварыла крыху нараспеў.

Дарэчы, як вам такое спалучэньне – жанчына-беларуска жыве ўва ўбогім калгасе і дапускае, што можа быць княгіняй? Не царыцай, крый божа. І, між іншым, усёй сваёй сутнасьцю, характарам, паставай яна княгіняй і была. Лічылася, што ў бабы надзвычай строгі характар. Магчыма, але не ў адносінах да мяне. Мяне яна называла „а мой ты паджубейсьлік-паджугарчык“ (тлумачэньня я не знайшоў), паходзіла з роду Белых і загінула ў 1981-м, учадзеўшы ўва ўласнай хаце, чаго пры ўсіх дапушчэньнях папросту не магло быць. Не магла яна, гіпэрадказная ўва ўсіх сэнсах і цалкам спраўная ў свае 75 гадоў, у сваім да каліва знаным ёю жытле і з усім сваім досьведам вясковага жыцьця, вось так узяць ды ўчадзець. Людзі пра тое казалі рознае, але таямніца засталася. Як і мноства іншых таямніц маёй мялешкаўскай радні.

У часы майго маленства ў вёсцы народ толькі што выпусьцілі ня толькі з ГУЛАГу, лягчэй стала і выбрацца з калгасу. Зьявіліся ў людзей пашпарты і грошы, заводзіліся свае гаспадаркі, адбываўся працэс міграцыі ў горад. Шмат пазьней я даведаюся, што тое самае было, напрыклад, у Літве. І мяне будзе мучыць пытаньне: чаму літоўскія вяскоўцы прывезьлі ў горад сваю вясковую культуру і мову, а беларусы сваю не прывезьлі. Адказ урэшце знойдзецца ў слове „палітыка“. На літоўцаў у Маскве глядзелі скрозь пальцы як на далёкіх ад сябе і таму „безнадзейных“, а беларусаў, як блізкіх, ламалі праз калена, робячы зь іх расейцаў.

Вёска майго дзяцінства! Цяпер я ўжо ведаю, што найбольш падабенства з тымі людзьмі і іх ладам жыцьця я пабачу не ў Эўропе, а дзе-небудзь на Кубе, у Віетнаме ці тут, на высьпе. Ты проста вяртаесься ўва ўтульныя месцы сваёй памяці. Галасістыя жанчыны ў доўгіх чорных апранахах і белых фартухах, акружаныя мноствам дзяцей, што круцяцца, лётаюць, гарэзяць. Мужчыны заўсёды „пры справе“ і недзе асобна. Такія былі Мялешкавічы – вялікая, на некалькі вуліц, вёска майго дзяцінства. Мы пасьвілі на пляцы сьвіней, увесьчасна пры тым гуляючы ў карты, а ў хатах моцна пахла незьлічонымі гарбузамі.

Гэта былі часы шматдзетнасьці, таму ад бабы Хвядоры ў мяне было 7 дзядзькоў і цётак і я меў шмат стрыечных сясьцёр і братоў свайго веку, зь якіх сёньня мала ўжо хто застаўся. Пры гэтым ніхто з братоў не памёр у свой час, уласнай сьмерцю, „у сваім ложку“. Нічога не засталося ад вёскі, ад пустых, крыху „дачных“ сёньня Мялешкавічаў. Нічога не засталося ад сялянства як клясы, што цалкам зьнікла за апошнія 30 гадоў.

Як жа іх калашмаціла ў XX стагодзьдзі! Бацька згадваў прышчэпаўскую ху-

тарызацыю як найлепшую пару свайго жыцьця. Яны ў сваім доме жылі ў лесе на цалкам натуральнай гаспадарцы, і жылі зусім ня голадна і бедна. Што толькі ні выраблялі з канопляў! Гэта была культавая культура. Пра канапелькі сьпявалі песьні. Каву папівалі, жалудовую. Борці там і цяпер захаваліся на хвоях. Пасьля іх сабралі ў калгас, уся вёска – у адзін шнур. У вайну Мялешкавічы спалілі немцы, і нашы зноў жылі ў лесе. А ў 1970-я, калі мы рабілі падмурак пад бабінай хатай, я знайшоў у зямлі слупок зьліплых солідаў з часоў Вялікага Княства. Такая шматслойная гісторыя. А яшчэ зь Мялешкавіч паходзіць Міхась Фінберг. Прынамсі зачаты ён быў там. І калі сям'я разам з домам пераяжджала ў Мазыр, ён ехаў у маміным жываце, а нарадзіўся ўжо ў Мазыры.

## Брофман, Рыгер, Шэфлянд...

Толькі пераступіўшы школьны парог, я сутыкнуўся з гэтай зьявай, якая няёмчыла мяне шмат гадоў, хоць апошнім часам, здаецца, цалкам зьнікла з жыцьця. Па-за сям'ёй я чуў і бачыў шмат праяваў антысэмітызму, якія нічым ня мог для сябе патлумачыць. Казалі, што габрэі паступаюць у нашу школу з матэматычным ухілам, маючы нейкі падступны разьлік. Але ў нашай клясе ўсе габрэі жылі ў суседніх дварах. Казалі, што школьны хуліган Тапарашаў зьбівае даўгалыгага Фэйгельмана за тое, што той габрэй, але ніколі ў размовах гэткага матыву я ня чуў. Мажны Шэфлянд мог каму заўгодна „даць у морду“ за звышабразьлівае слова „жыд“. Казалі нават, што габрэі сьмярдзяць, і я наўмысна нюхаў іх і пераконваўся, што не.

У тагачасным Менску габрэяў было відаць. Але абсалютна нічога не было чуваць пра галакост, і ніхто не тлумачыў, за што габрэяў трэба не любіць, а самі габрэі ніякім чынам не выяўлялі сваёй габрэйскай салідарнасьці. Напрыклад, Шэфлянд ніколі не заступаўся за Фэйгельмана, калі яго зьбіваў Тапарашаў. Наадварот, казалі, што Шэфлянд з Тапарашавым першыя разам спакусілі раньнясьпелую Сьветку на дарослае дзела, але гэта здарыцца ўжо ў 1970-я.

Я нават не заўважаў у гэтай габрэйскай палове клясы нейкай асаблівай чалавечай інакшасьці. Усе вучыліся аднолькава, хто лепш, хто горш, і жылі больш-менш аднолькава, усе з усімі сябравалі або варагавалі, зусім без этнічнай на тое прычыны, і для мяне гэта была проста дадзенасьць, таму пастаянныя кепікі, намёкі і нават нянавісьць да жыдоўства так і засталіся нічым не падмацаванай праявай, што ніякім чынам не закранае сэрца і не правакуе розум на глыбейшыя развагі. Але нязьменна ўганяе ў сорам.

Дома ў Рыгера, а жыў ён у суседнім доме, які яшчэ ніхто не называў „домам Освальда“, мы слухалі Высоцкага на магнітафоне, дома ў Шэфлянда, там, дзе грамадзкія прыбіральні на Круглай, мяне ўразіла зацемненасьць у пакоях, бо ўсе вокны былі завешаныя шторамі, дома ў Сагаловіча... Гэта ўвогуле быў зусім іншы быт у яшчэ не пераробленым Траецкім прадмесьці, і было адчуваньне, што нічога там не мянялася сто ці трыста гадоў. Як цяпер бачу выдаўбаныя драўляныя ночвы на кухні – як у музэі – у іх палошча анучу Сагаловічава маці.

Так ці інакш, габрэі зьехалі, ад антысэмітызму нічога не засталося, зьявілася шкадаваньне, а ў культуры – вострая цікавасьць да іх колішняй прысутнасьці, да Шагала, Суціна, Кульбака... Засталося і ганебнае хіба толькі ў нас слова „жыд“. Бо дзе яшчэ вы бачылі, каб саму назву народу, які ў нашы краі запрасіў яшчэ Вітаўт, народу, які стагодзьдзямі жыў поплеч зь беларусамі, само беларускае слова „жыд“ зрабілі абразьлівай лаянкай?

Урокі цікавілі мала, хоць працэс пазнаньня адбываўся, але па-за школай. Каб зразумець, чаму так, я паглядзеў прэзэнтацыю гэтай школы на сёньняшнім яе сайце. Поўнае адчуваньне таго, што матэрыял патрапіў у інтэрнэт з тых 1960-х гадоў. Выпусташанае жыцьцё і такое самае навучаньне, зусім нічога яркага, прывабнага, нават

проста пазнавальнага. Дакладная прэзэнтацыя таго, а атрымліваецца і цяперашняга часу, як гэта ўсё адбывалася тады і адбываецца сёньня. Школа амаль не запомнілася. Хіба што некаторыя вучні і іх учынкі, якія, вядома ж, ішлі ўразрэз са школай.

Выпусташанае было і ўсё нацыянальнае. Калі ў дзіцячым садку мы яшчэ чулі беларускую мову, надзявалі вышыванкі і танчылі „Бульбу“, дык у школе гэта ўсё зьнікла, а ўрокі беларускай мовы выклікалі падкрэсьленую няпрыязь. У тым ліку і ў настаўніцы.

Усё яркае, прывабнае і пазнавальнае можна было знайсьці толькі па-за школай. За некалькі гадоў мы зь сябрамі аблазілі ўсе дахі і гарышчы дамоў на Круглай, усе бомбасховішчы і падземныя хады, якіх у тым раёне шмат. Усе нішы пад мастамі і ў выгбах былі вывучаныя і засвоеныя.

Адзінае, бадай, яркае, што запомнілася пра школу – мы сьпявалі.

## „Кадарусэль багата жыў“

Урокі сьпеваў у школах адмянілі ўжо пры цяперашнім часе. А ў 1960-я яны лічыліся ніяк ня менш важнымі за геаграфію ці матэматыку.

У пачатковай школе я выглядаў дробным дзіцём на тле сваіх аднаклясьнікаў. „Стрэліў“ толькі пасьля восьмае клясы, калі мае вусатыя Рыгеры і Шэфлянды былі ўжо з выгляду як сапраўдныя трактарысты. Пакуль жа мяне цяжка было разглядзець у натоўпе. Але друзлая азызлая настаўніца сьпеваў, якую звалі Нэлі Ісакаўна Фіялка, зайшоўшы ў школу, чамусьці нязьменна шукала вачыма мяне. Рэч у тым, што яна пёрла на сабе свойаграмадны цяжэразны акардэон, і трэба было гэтую бандурыну ўскараскаць на другі ці трэці паверх, дзе меўся адбыцца ўрок. Разгледзеўшы ўрэшце мяне, яна, уся растрапаная і потная, пачынала прызыўна крычаць „мальчык!“ і махала рукой. Ну што ж, даводзілася пнуцца з тым грузам наверх.

*Каде Руссель богато жил,*
*Каде Руссель богато жил,*
*Домик без крыши он купил,*
*Домик без крыши он купил.*
*Каде Руссель большой чудак.*

Ужо праз шмат часу я даведаўся, што наш Кадарусэль гэта не адно слова, а два – *Cadet Roussel*, і што песьня паходзіць, нібыта, з францускага фальклёру і ўвогуле яна пра рэальнага гістарычнага пэрсанажа, можа быць, нават беларуса (узяў жа сабе Судзілоўскі псэўданім Русэль). Але два гэтыя адкрыцьці ніяк не мяняюць сутнасьці майго сюжэту.

Натхнёна сьпявала ўся кляса песьні зь дзіўнымі героямі і ня менш дзіўнымі гісторыямі. У тых сьпевах не было асаблівага мастацтва, затое быў ці не наймацнейшы чыньнік выхаваньня, як бы цяпер сказалі, грамадзянскай супольнасьці – таго, што нараджаецца ў працэсе рабленьня адной справы разам, асабліва калі гэтая справа мае ў сабе ноту інтымнасьці, як і кожныя сьпевы.

І я зноў раблю нечаканае для сябе адкрыцьцё. У тыя 1960-я гады дапускалася выхаваньне ў дзецях патэнцыялу самастойнага дзеяньня. Няўжо ў 1960-я беларускае грамадзтва было больш прагрэсіўным і сьпелым?

Напэўна, не. Якраз таму, мабыць, што тое пасьляваеннае грамадзтва было зусім нясьпелым, яно ня несла ў сабе „пагрозы“ рэформаў, і ўрокі сьпеваў цалкам упісваліся ў тую суворую „стабільнасьць“.

У 1960-я сьпявалі ня толькі на ўроку і ў хоры, абавязковымі былі сьпевы ў застольлях, якія часта зьбіраліся дома ці ў сваякоў з розных нагодаў. Дзеці тады любілі бавіцца пад сталом паміж ног дарослых, а бацькаў аднавясковец, а цяпер нейкі начальнік у лёгкай прамысловасьці гарбун дзядзька Коля Галёнка прыносіў

гармонік. Таму сьпявалі пад акампанэмэнт, і запявала заўсёды сваім звонкім галасам цётка Жэня.

Дома для такіх нагодаў мелася некалькі маленькіх кніжачак-сьпеўнікаў. А ў іх – песьні ваенныя, камсамольскія, лірычныя савецкія... Песень сваіх, вясковых, не сьпявалі, хоць ведалі такіх шмат. Іх сьпявалі, будучы ў вёсцы. Пераяжджаючы ў горад зь вёскі, песьні, як і мову, з сабой не забралі.

Сьпявалі пра чортведама што, як на той, так і на цяперашні мой розум. „По долинам и по взгорьям шла дивизия вперед, чтобы с боем взять Приморье, белой армии оплот“. Цяпер цяжка сабе такое ўявіць, каб сямейнікі за сьвяточным сталом пяялі пра Прымор'е і нейкія нікому невядомыя пэрыпэтыі расейскай рэвалюцыі. Але пачувацца расейцамі прагна хацелі ўсе гэтыя ўчорашнія вяскоўцы. Хоць і называлі сябе беларусамі.

Дарэчы, чаму? Адзінае тлумачэньне, якое прыходзіць мне на розум – гэта выхаваньне іхнай вясковай маці, маёй бабы Хвядоры (бабушка Феня, яны яе называлі, і я за імі таксама). То бок назвацца рускімі-расейцамі (што было выгадна і прагрэсіўна пры пераезьдзе ў горад) неяк ускосна, а то й наўпрост, забараніла ім яна? Проста ўпячатала якімсьці чынам у іхную матрыцу. Магчыма, сытуацыя была тыповая для ўсіх беларускіх вясковых гараджан, як тыповы быў сам вобраз беларускай вясковай маці.

Дома, дзе гаварылі па-расейску, тэма нацыянальнасьці ўсплыла толькі аднойчы. Тады дзяцей вайскоўцаў вызвалялі ад вывучэньня беларускай мовы. І я, дурны бэйбус, як сын маёра ці ўжо падпалкоўніка міліцыі, заікнуўся пра гэта маці. На што мая мудрая мама, расейка паводле нацыянальнасьці (якая ў 1990-я пачне гаварыць са мной па-беларуску), сказала: ты беларус і павінен ведаць беларускую мову.

Яшчэ раней, калі ў нейкай пачатковай клясе мы дурэлі на перапынку ў школьным калідоры, адбыўся эпізод, за які мне было пасьля сорамна перад самім сабой праз усё жыцьцё. Мяне спыніла за руку настаўніца і сказала: „Мальчик, как твоя фамилия?“ Я інстынктыўна разумеў, што мушу схлусіць, каб не пакаралі, мушу схавацца за нешта абсалютна надзейнае, а гэта значыць, нешта вельмі расейскае. І я сказаў: „Орехов“.

Ёсьць тут дзіўная асаблівасьць беларускага лёсу, якую я зьведаў напоўніцу. Улетку мяне адпраўлялі ў Мялешкавічы, і я вяртаўся адтуль цалкам беларускамоўным. Пачынаўся працэс перавучваньня на „городской язык“. Наступным летам усё паўтаралася зноў. Але ўсё гэта адбывалася неўсьвядомлена. Што, аднак, не адбірае ў мяне права беларускую мову называць роднай.

Яшчэ ў застольлях сьпявалі песьні з модных кінафільмаў. „А если случится, что он влюблен, а я на его пути; Уйду с дороги, таков закон – третий должен уйти“. Я запомніў гэтую песьню пра сябра, бо сьпявалі ў нас заўсёды чамусьці не „уйду“, а „уйди“.

Думаю, ім падабаліся імпэратывы, маральныя законы. Хоць гэтыя законы, як і самі песьні, прыходзілі з Расеі і былі чыста расейскімі, бо прыдумляліся зь некаторай пажадаю іх жа і парушыць. І неўзабаве пасьля гэтага фільму зьявіўся іншы зь іншай песьняй на тую ж тэму: „Друг ответил преданный, друг ответил искренний: Была тебе любимая, а стала мне жена!“. Значыць, усё ж такі „уйди“, а не „уйду“.

Я кажу, што гэта расейскія зьявы, бо не магу прыгадаць настолькі выразнай тэмы сяброўства ў беларускай паэзіі і песьнях. Ну, сябры-школьнікі ці падлеткі, там ясна, школа ж адна, савецкая, з аднымі стандартамі. Але ў дарослыя гады тэма зусім не гучыць. Не гучыць тэма дарослага сяброўства. Можа і няма такой тэмы ў нашым жыцьці. Ці наша культура пазьбягае таго, каб ствараць штучныя імпэратывы.

Шмат гадоў пазьней, набраўшыся досьведу, я сфармаваў сабе ўласнае разуменьне сяброўства. Сябра – той, хто ніколі не адкажа адмовай. Ні ў добрай, ні ў дрэннай справе. Ну як ёсьць, інакш які ж сябра. Я так думаў пра Ігара Герменчука.

І таксама думаю пра Алеся Бяляцкага. Прыўкрасна, што абодва яны з Шацілак – са Сьветлагорску. І іхнымі імёнамі, а ня „сьветлымі гарамі“, якіх там няма, гэты горад благаслаўлёны. А можа гэта яны самі і ёсьць сьветлыя вяршыні-горы? Аднак гэта чыста маё, прыватнае. Імпэратыву сяброўства, так каб ажно „такой закон“ у беларускай культуры няма.

## „Позор китайским провокаторам“

Мушу вам прызнацца, што сваю першую кніжку я напісаў у трэцяй клясе. Гэта былі два школьныя сшыткі, шчыльна сьпісаныя дзіцячым почыркам. Сшыткі былі набытыя ў Менску, а вырабленыя ў Коўне, і мелі на задніку табліцу множаньня палітоўску. Тэма твору – савецка-кітайскі ўзброены канфлікт на востраве Даманскі на рацэ Усуры, на расейска-кітайскай мяжы – тое, пра што тады гаварылі ўсе. Дакладней, гаварыла савецкая прапаганда, бо пра альтэрнатыўныя крыніцы інфармацыі, кшталту „варожых“ галасоў, я тады ведаць ня мог. Адпаведна, і назва твору, і сам ён былі наборам штампаў той самай прапаганды.

Цікавы ўрок самому сабе, калі я цяпер зьдзіўляюся, што чалавек глядзіць БТ, і ў галаве ў чалавека – толькі тое, што ў БТ. Ну як жа так? Вось жа відавочная, прычым наўмысная хлусьня! А вось адкрытае праслаўленьне гвалту!.. А вось так! Вось табе прывет з далёкага дзяцінства, дзе ў тваёй галаве роўненька тое, што ў БТ. Зраблю, аднак, маленькую папраўку. Вядома ж, мне хацелася ўсё напісаць „правільна“ і атрымаць ухвальныя ацэнкі тых, хто гэта будзе чытаць.

„Часть первая. Огненное кольцо. Огненное кольцо – это действующее правительство в Китае. Оно действует под руководством Мао-цзе-дуна. Мао направил своих людей на нашу границу. Китайцы хотели завоевать часть нашей территории. Но наши пограничники мужественно отбросили китайцев от нашей границы“.

Хе-хе... Далей ідзе тлумачэньне прычын канфлікту, але я сумняюся, што яно ўзятае з тэлевізара, выглядае, што гэта ўжо ў маёй галаве ўсё склалася такім чынам:

„Западно-берлинское правительство рассчитывает на то, что китайцы пойдут на Урал, а Западно-германская армия займется Белоруссией“. Але гэта, натуральна ня ўдасца, бо „в Советском Союзе больше оружия, чем людей“.

Міжволі раскрыў дзяржаўны сакрэт... Праўда, былі там і свае разьдзелы, свае эмоцыі да чужых фармулёвак. Сваякі чыталі і ўхвальна цокалі языком: Сярожа маладзец.

„Мао уже очень старый человек. (Скуль я гэта ўзяў? 76 гадоў не такая ўжо старасьць, пагатоў для Мао.) Но китайцы думают, что ихний правитель будет жить тысячи лет“.

А далей увогуле сакрэтныя падрабязнасьці.

„Если бы не жена Мао, то наш народ жил бы в крепкой дружбе с китайскім народом. Жена Мао предсказывает, как нужно развязать войну в СССР“.

І, натуральна, пра ролю піянэраў ува ўсім гэтым закалоце, што ў тыя часы практыкавалася шырока.

„Но пионеры тоже помогают солдатам, служащим сейчас на границе. Они переписываются с детьми Китая, они тоже хотят восстановить мир между СССР и Китаем“.

Тое, што дзеці перапісваліся з раўналеткамі з розных краінаў – чыстая праўда і страчаная рэальнасьць.

СССР чамусьці трымаўся за гэты няшчасны востраў пасярод бяскрайніх і бязьлюдных земляў, нават цаной жыцьця дзясяткаў сваіх забітых вайскоўцаў. А РФ трымацца ня стала, і ў 1991-м Даманскі адышоў Кітаю.

Тагачасная прапаганда, на першы погляд, была падобная да сёньняшняй, але толькі на першы. Напрыклад, у ёй абавязкова прысутнічаў гуманістычны складнік,

прапаганда глябальна абяцала „сьветлую будучыню“, і людзі верылі, бо дабрабыт, як ні круці, патроху паляпшаўся. Словам, гэта была не адно толькі лаянка на паўсюдных „ворагаў“. Па-другое, у тагачасных безальтэрнатыўных крыніцах можна было сустрэць эзопаву мову, і нават у галоўнай партыйнай газэце „Правда“ людзі ўмудраліся расчытваць штосьці паміж радкоў.

Вас дзівіць, што я быццам нахвальваю тое камуністычнае жыцьцё? Паверце, і сам дзіўлюся. Але што зробіш. Магчыма, прычына ў тым, што, як з тымі ўрокамі сьпеваў, дапытлівы розум у тыя часы нічым не рэглямэнтаваўся, і ў шырокім поглядзе на сьвет ніхто ня ўгледжваў пагрозы для стабільнасьці кіраўнікоў.

## „Кнігі Якубавы“

У 1970-я Беларусь была кніжнай краінай. Гэта пасьля, на зломе кніжнага буму, зьявіцца іранічнае выслоўе „Кватэра бяз кніг – гатэль“, бо напраўду сёньня бяскніжная кватэра – правіла, а не выключэньне. Тады ж было наадварот. Што ў гарадзкой, што ў вясковай хаце правілам была калі не бібліятэка, дык хоць некалькі кніг на паліцы.

У пэўным сэнсе гэта мог быць стандарт інтэр’еру, якога прытрымліваліся ўсе. У кватэры ў „залі“ мусіла стаяць „сьценка“ або „сэкцыя“ зь некалькіх сэрвантаў, дзе былі выстаўленыя сэрвізы, дзе былі закрытыя камоды, бар і сэкрэтэр і – у камплекце – адна ці некалькі паліц для кніг. Учорашнія вясковыя жыхары масава абжываліся ў горадзе з аглядкай адзін на аднаго, таму гэтыя самыя „сьценкі“ і кнігі былі яшчэ і мэйнстрымам, як у вёсцы, дзе нехта адзін першы пайшоў касіць, і ўсе астатнія – О, Іван пайшоў касіць! – выходзяць касіць сьледам.

Аднойчы я патрапіў у кватэру да прыяцеля, бацька якога быў архітэктарам. Сёньня не зьвярнуў бы на тое ўвагі, а тады быў агаломшаны на ўсё жыцьцё. Ні табе „сэкцыі“, ні „залі“, ні абавязковай канапы з двума фатэлямі і часопісным столікам, ні сьвяточнага абеднага стала з крэсламі – як гэта было паўсюль, у звычайных інтэр’ерах, дзе я датуль бываў. Але самае дзіўнае, што проста перавярнула мае ўяўленьні – паўсюль, дзе ты стаіш, было на што прысесьці. У стандартным доме сам гэты момант – прысесьці – вымагаў пошуку месца і пэўнага рытуальнага абгрунтаваньня. А тут – нейкая суцэльная разьняволенасьць. Пры гэтым кніжныя паліцы адным шэрагам стаялі на падлозе, уздоўж сьцен. Аказваецца, і так можна, а зусім неабавязкова так, як патрабуе стандарт.

Ты мог дрэнна вучыцца ў школе, але да пятай клясы ты ўжо прачытваў дзясяткі кніг. Дзеці здавалі ў школьную макулатуру стосы кніг, часопісаў і газэт і тут жа пачыналі корпацца ў гэтых развалах, шукаючы кожны свой скарб.

Панавала атмасфэра кніжнага трымценьня. Гэта было пачуцьцё, якое па сіле можна параўнаць хіба што з эратычнай пажадай, калі ў цябе проста мутнеюць вочы, так табе патрэбная гэтая кніга, яе пах, яе шурпатая ці гладкая вокладка, яе сто тысяч літар і ўрэшце – чытаньне, як працэс дашчэнтнага авалоданьня кнігай. Шчыра кажучы, я ўжо забыўся пра гэтае моцнае пачуцьцё дзяцінства і юнацтва, але нядаўна пра яго нагадала мне Вольга Такарчук у „Кнігах Якубавых“, якія ўласна і пачынаюцца з апісаньня гэтага кніжнага інстынкту – як наймацнейшага ў чалавеку.

Чыталася ўсё, што хадзіла ў сяброўскім коле ці можна было ўзяць у бібліятэцы ці набыць у кнігарні. Пра амэрыканскіх бізонаў, індзейцаў і дзядзьку Тома... Нават помню такую складанку пра гісторыі амэрыканцаў, што ўчынялі сэрыйныя забойствы ў публічных месцах. Называлася яна „Рожден, чтобы задать перцу“ – такая была наколка ў аднаго пэрсанажа. Чытаўся Марк Твэн, чытаўся О’Генры. Эдгар По! Недзе ў вёсцы на вакацыях праглыналіся тоўстыя тамы Драйзэра, чытаўся Джэк Лёндан...

Вы заўважылі? Я пералічыў першае, што згадваецца, і бачу, што спрэс амэры-

канцы. Так-так. Амэрыка ўваходзіла ў сьвядомасьць майго пакаленьня як краіна мары ня толькі жуйкай і джынсамі, а бадай усім ладам жыцьця і мысьленьня, якія хацелася пераймаць.

І мы пераймалі. Як пілюлі ўнутранай свабоды. Расейскае было ў тэлевізары, яно было абавязковае, калі не прымусовае, яно ня вабіла. Амэрыканскае было як бы афіцыйна непажаданае, паўзабароненае, калі не забароненае ўвогуле. Расейскае выкрывала амэрыканскае, змагалася зь ім. Амэрыканскае было самадастатковае. І, яшчэ нічога не разумеючы ў гісторыі і палітыцы, мы зь сябрамі сэрцам былі за амэрыканскае – свабоднае, шматколернае, прыгодніцкае. Яно ня хлусіла, і мы давяралі яму найбольш.

Зрэшты, чаго толькі ні чыталася ў сярэдняй школе ў пачатку 1970-х. І гэта пры тым, што я аддаваў перавагу прыгодам у двары, а не чытаньню кніг. А многія навокал сядзелі ў кнігах па вушы. Гэта тое, што сёньня, бадай, цалкам пакінула Беларусь. Тым часам у зьнешнім сьвеце папяровая кніга перажывае калі ня бум, дык росквіт. Хай сабе ён зьменшыўся ў аб'ёмах, саступіўшы месца электроніцы, але сутнасна ён менавіта росквіт.

<...>

## Шасьцітомнік Джэка Лёндана

У маім дзяцінстве адзінаборцы ўспрымаліся з павагай. І калі казалі, што чалавек – каратыст, гэта значыла, што ён дакладна не задзіра, не бандыт і ня дурань, а той, хто знаецца ў пэўнай філязофіі і нават паэзіі. Напрыклад, мусіш быць ня проста дужым, але і гнуткім, як галінка пад сьнегам, бо нягнуткі зломіцца.

Калі ты адзінаборац, ты мусіш умець пастаяць за іншых і за сябе. Ты абаронца слабейшых, ты ахоўнік парадку і гармоніі. А галоўнае, цалкам адэкватны і адказны чалавек.

У пятай клясе я прыйшоў у сэкцыю бокса на стадыёне „Дынама“. Дагэтуль што толькі не было пераспрабаванае: ад балетных танцаў да суднамадэлізму. І вось лысаваты і каржакаваты трэнэр паставіў нас, навапрыбылых, у лінейку і сказаў: пачнем з таго, што вы прачытаеце шасьцітомнік Джэка Лёндана. Я вучыўся дрэнна, але чытаў шмат. І Лёндана праглынуў хутка. Марыў дзе-небудзь сярод „белого безмолвия“ прыгатаваць сабе на газьнічцы смажаныя бабы з бэконам і кавай... Але гэта было зьнешняе, больш важнае засвойвалася на той час падсьвядома.

Як на сёньняшні розум, аднаго гэтага чытва хапіла б, каб раз назаўсёды стаць чалавекам, зьведаць усё самае галоўнае, атрымаць усё самае базавае, што табе спатрэбіцца ў жыцьці. І ня толькі ў тым маім жыцьці, але і сёньня. Вядома, тое жыцьцё зусім не было справядлівым, але цьвёрдасьць характару, гуманізм і разуменьне таго, што такое подласьць плюс самыя розныя тэхнікі бою з подласьцю, давалі магчымасьць захоўваць унутраную свабоду. Словам, найперш мусіш быць чалавекам, а пасьля ўжо ня так істотна, кім ты станеш. Важна, ня кім, а якім.

І яшчэ. Ты стопрацэнтова ведаў, што чалавек чалавеку сябра, таварыш і брат. Ніяк інакш быць ня можа. Тэза homo homini lupus est успрымалася як нешта цалкам адмоўнае і чужароднае табе, як штосьці зь нейкага іншага сьвету ці іншай гісторыі – невераемна злой і таму для цябе ня надта верагоднай. Дэкляраваць, што „чалавек чалавеку воўк“ было б проста непрыстойна ані сярод аднагодкаў, ані сярод старэйшых.

Трэба ўяўляць, што часы былі ня так ужо і далёкія ад вайны і сталіншчыны. І адгалоскі абсалютнага зла можна было сустрэць паўсюль. Толькі пазьней я даведаўся, што „прыдурак лягерны“, напрыклад, якім мы абзываліся ў школе, – гэта гулагаўскі тэрмін. Мы ведалі слова „Варкута“ – „Цягнік на Варкуцю ўжо цюцю“. А лішне суворы дырэктар школы прыгразіў мне аднойчы „чорным воранам“.

На вуліцах вакол Круглай плошчы ў плашчах з настаўленымі каўнярамі мы ўяўлялі сябе амэрыканскімі шпіёнамі, а ў Жэні дома, дзе я часта бываў, адзяваліся ў індзейскія строі і бралі ў рукі кольты (усё гэта прывез з Канады Жэнеў дзед), пілі распушчальную каву, якую перад тым, як заліць кіпнем, узьбівалі з цукрам, каб была вялікая пена, і слухалі на магнітафоне амэрыканскую аркестровую музыку, якая пачыналася з гукаў аўтамабільнага старцёра. У нас дома ніякай такой экзотыкі не было, таму да нас Жэня прыходзіў радзей, як правіла, на мае народзіны.

І вось улетку пасьля восьмай клясы ў мяне адбылася зьмена шаблёну „самага лепшага сябра“. У сяброўства зьявіўся праўдзівы сэнс і зьмест.

Зь Вінцуком Вячоркам нас пазнаёмілі ягоныя бацькі. Яны, як і мае бацькі, адпачывалі ў санаторыі „Беларусь“ у Друскеніках, а мы, дзеці, жылі ў здымных пакоях, „на кватэры“. Аднойчы ў чарзе ў кавярню па сьняданак ягоныя падышлі да маіх. Людзі з „цэкоўскай сфэры“ хутка знайшлі агульную мову. Праблема была ў тым, што Вінцуку не было кампаніі і яго такім чынам аб'ядноўвалі з раўналеткам. Вінцук, праўда, быў на два гады малодшы, але інтэлектуальна больш разьвіты. Я, у сваю чаргу, выглядаў тады зусім дзіцём. Так яно неяк і склеілася.

Мы пачалі вывучаць асяродзьдзе і абмяркоўваць літоўцаў – чаму яны так адрозьніваюцца ад нас. Гавораць міжсобку па-літоўску, імёны-прозьвішчы ў іх зусім не падобныя да нашых, ну і ўсё-ўсё да дробязяў робіць іх іншымі. Напрыклад, па-літоўску было Ленінас, Брэжневас, TSKP (КПСС), што ў нашых шыротах магло ўвогуле ўспрымацца як злачыннае блюзьнерства, як прымаляваныя камусьці важнаму на партрэце ў падручніку вусікі.

Думка пра тое, што па-ўкраінску, напрыклад, Вярхоўная Рада, а па-беларуску Вярхоўны Савет, хоць слова „савет“ у беларускай мове няма, схіляла ня толькі да вывучэньня гэтага сюжэту, але і была першым крокам калі не да антысаветызму, дык да сумневу ў правільнасьці ўсяго, што лічылася правільным. Бо якраз правіла тут і парушалася.

Гэтак слова за слова прыйшлі мы да абмеркаваньня свайго, беларускага. Аказваецца, і ў нас ёсьць свая мова, тая, якой гавораць нашы бабулі! І імёны нашы стандартызаваныя пад расейска-савецкі канон (Вінцука тады клікалі Валянцін або Валік). І мне тут было што прыгадаць, сваіх дзядоў-бабуль Каленіка і Адама, Хвядору і Хрысьціну. Словам, сьвет чалавечае разнастайнасьці і беларускае тоеснасьці пашыраўся, адкрываючы нам усё далейшыя далягляды, якія дагэтуль губляліся для мяне ў густым тумане ці наогул не існавалі.

Разам зь Вінцуком я пачаў слухаць радыё. Ужо ня толькі польскую „Jedynku“, а „галасы“, якія называліся тады „варожымі“ – найперш „Радыё Свабода“ ў яго беларускай рэдакцыі. Адбывалася гэтае супольнае слуханьне ці па дамах, ці па лецішчах, дзе не было бацькоў і можна было цэлую ноч слухаць радыё, ці слухаць музыку, ці самім учыняць джэм-сэйшыны, імправізуючы на ўсім, што патрапіць пад руку.

Але гэта быў толькі самы пачатак. Мог здарыцца і такі казус, як з папулярнай тады перадачай музычных замоваў „Палявая пошта“ на маскоўскім радыё „Юность“. Яўна не без іроніі Вінцук напісаў туды замову паставіць „Лесьвіцу ў неба“ *Led Zeppelin*. Пачуць такое на афіцыйным радыё было проста нерэальна. І вось уключаем мы тую „Палявую пошту“, а там „По просьбе девятиклассника из Минска прозвучит песня «Лестница в небо»“. Чаму такое раптам адбылося, для мяне дагэтуль загадка.

Вы кажаце, што мы былі прадстаўнікамі „залатой моладзі“? Той вобраз, які малююць гэтыя словы, я ніяк не магу прымацаваць ні да Вінцука, ні да сябе. Ніколі не пачуваліся мы такімі, адасобленымі ад іншых. „Залатая моладзь“ у тагачаснай Беларусі – гэта хто? Каму жывецца падкрэсьлена лягчэй, вальней і багацей, чым раўналеткам? Хто можа сабе дазволіць болей? Калі й былі такія, мы зь імі, як тады казалі, „не вадзіліся“. Мне, падлетку, падабалася разам з бабуляй, а пазьней і самому пасьвіць чаргу (у Мялешкавічах казалі *чэрэду*), гнаць зь дзядзькамі ў лесе самагон,

улетку на падпрацоўцы я бегаў кур'ерам у „Вячэрнім Мінску"... У побыце, рэчах, ежы мы нічым не адрозьніваліся ад сваіх аднаклясьнікаў і ніякім чынам не адгароджвалі сябе ад іх. Таму ў гэтым сэнсе я адчуваю сябе дакладна не за таго прынятым.

Увогуле намэнклятура ў Беларусі выразна адрозьнівалася сваёй сьціпласьцю. А „блаты" і „знаёмствы" былі характэрныя больш для правінцыйнага чынавенства.

Калі мая жонка Таня Сапач нейкі час працавала ў Гомелі, куды мяне разьмеркавалі, у заводзкай газэце на панчошнай фабрыцы „8 сакавіка" (гэта ўжо ў 1980-я), і вечна спазьнялася на працу, яе выклікалі на парткам, каб „прапясочыць" і, глядзячы ў нявінныя вочы, спыталі: „У вас што, у Менску хтосьці ёсьць?", яна гэткім самым нявінным голасам адказала: „Ёсьць" (маючы на ўвазе радню і сяброў). З гэтага моманту яна магла спазьняцца колькі ёй было заўгодна. Ня трэба было нават удакладненьня, хто там у яе ў Менску ёсьць.

Чароўны гіпнатызм распаўсюджвала непрамоўленае слова „начальства". А я ніколі ня мог ставіцца да гэтага гіпнатызму сур'ёзна, пагатоў карыстацца ім, як і тымі „блатамі". Тое ж было ўласьціва і маім бацькам, хоць яны якраз „начальствам" і былі. Бацька быў палкоўнікам, першым рэдактарам і фактычным стваральнікам міліцэйскай газэты „На страже Октября", а пасьля начальнікам аддзела палітыка-выхаваўчай работы МУС. А мама была загадчыцай „цэкоўскага" дзіцячага садка, які месьціўся на рагу Карламарла і Янкі Купалы – у будынках з двух бакоў вуліцы Маркса.

Маці жартам сварылася на бацьку, што ён чысьціць сьнег на гаўбцы ў тым паліто, у якім яна ходзіць на прыёмы ў ЦК. Не сказаць, каб наш узровень жыцьця хоць нечым адрозьніваўся ад узроўню аднаклясьнікаў – дзяцей рабочых з „Гарызонту". Усе жылі аднолькава сьціпла і, у адрозьненьне ад цяперашняга начальства, адкрыта. Хаваць не было чаго. Адзінае – цэкоўскі прадуктовы пакет з „сухой" каўбасой, які належаў маці, але ён зьявіўся пазьней у выніку дэфіцыту, які прыйшоў разам з застоем. Тады і начальства пачало жыць больш закрыта ад астатніх.

Што да маіх 1960-х, дык нейкага недахопу ў ежы або рэчах ні я, ні мае раўналеткі не адчувалі, гаворак пра гэта не было.

Затое, ходзячы ў ЦК, маці магла проста ўзяць мяне, дашкольніка, з сабой і, пакуль вырашала свае справы, я мог у цэкоўскім падвале ўволю наскакацца на велічэзных скураных канапах і фатэлях, якія там былі расстаўленыя ў вялікай колькасьці.

Ідучы з мамай за ручку, я моцна нудзіўся, калі на вуліцы сустракалася знаёмая кабета, а такіх у мамы было мноства, і яны падоўгу абмяркоўвалі... Што яны маглі абмяркоўваць? Наймаднейшая тэма – дзіцячыя хваробы, усялякія халецысцыты, якія трэба лячыць у лечкамісіі, і гэта было надзвычай важна, менавіта важна, каб дзіця мела нейкую хваробу і патрапіла ў лечкамісію. Напэўна, гэтым і вычэрпваўся больш высокі сацыяльны стандарт што да выхаваньня ўласных дзяцей. Тым часам я цягнуў маму за руку, каб мы маглі аднавіць наш рух і вырвацца з гэтых непатрэбных размоваў.

Калі ўжо ў сярэдзіне 1970-х я перавёўся з 50-й школы ў 4-ю, дык неўзабаве даведаўся, што Машэраў жыве ў кватэры ў суседнім трохпавярховым доме, і я нават пабываў у ягоным пад'езьдзе, калі хадзіў да кагосьці з аднаклясьнікаў. Хованкі ўлады ад людзей пачнуцца пазьней, на пачатку 1980-х. Калі паўсюль зьявяцца транспаранты „Народ и партия едины", на што народ будзе недвухсэнсоўна заўважаць: „Но ходят в разные магазины".

Трэба заўважыць, што гэта чыста беларуская сытуацыя, бо ў Расеі, напрыклад, намэнклятура заўсёды жыла па-барску.

У маміным садку быў свой шафёр грузавіка дзядзька Федзя, і я мог часам праехаць у кодабе ягонай машыны і паглядзець на Менск па-за арэалам майго існаваньня, а там былі доўгія-доўгія вуліцы аднапавярховых хат, якія патаналі ў квецені садоў. Дзядзька Федзя гаварыў толькі матам, а ягоная жонка цётка Таня

толькі па-беларуску, яна працавала ў цэкоўскім садку тэхнічкай і распавядала, што ў ейным доме ў вайну друкавалі падпольную „Звязду“.

Словам, падзелу людзей на „начальства“ і „простых сьмяротных“ я ня ведаў і не разумеў тых, хто надаваў такому падзелу значэньне. І калі на вакацыях у Мазыры я жыў у бабулі Дані і дзеда Андрэя, а сусед Шпіц, стары габрэй, называў мяне барчуком, я кожны раз задумляўся, чаму я барчук, у чым барства, калі ўсе суседзі жывуць з нашмат большым размахам у ежы і рэчах, чым мы (а гэтак выглядаў своеасаблівы кіеўскі стыль жыцьця, бо мазырчукі тады збольшага арыентаваліся на Кіеў, а не на Менск), а ў нас проста культ нейкі сьціпласьці і простасьці.

Чаму, дарэчы, дагэтуль не магу абудзіць у сабе прыняцьця „статусных рэчаў“, калі добры адвакат мусіць езьдзіць на дарагой машыне, жыць у доме за мільён і насіць каштоўны гадзіньнік. Разумею, што гэта „імідж“, але да ўласнае сутнасьці прышчапіць не магу.

<...>

### „Зачем они так кричат?“

Назавеце пяць папулярных польскіх сьпевакоў?.. А літоўскіх? А чэскіх? І я, бадай, не назаву. І кажу гэта да таго, што ў 1970-я, прынамсі для майго атачэньня, гэта не было праблемай. Поўна было навокал камуністычнай прапаганды, але ў цэлым гэта быў зусім іншы інфармацыйны фон.

Я жыў у Менску і меў юначую настальгію па Менску. Проста нахлыньвала, падступала да горла нешта аб'ёмнае і містычнае, накрывала хваля ці то любові, ці то валоданьня гэтым усім бяздонным і схаваным-таямнічым. Асабліва калі ўключалася музыка. Гэта быў, напрыклад, *Pink Floyd* ці польскі SBB. Расейскай музыкі я ня слухаў і не разумеў яе. І на тое была прычына.

Я рабіў урокі, а на доўгіх хвалях у мяне была пастаянна ўключаная польская „Jedynka“, праграмы: „Lato z radjem“, „Muzyka i aktualności“... Бо гэта быў, бадай, адзіны варыянт слухаць тую музыку, што слухала тады ўся Эўропа і ўвесь сьвет, і што амаль не прабівалася на радыё ў СССР. А тое, што прабівалася, было не асабліва прывабным.

У тыя часы імёны выканаўцаў і песьні з гэтых краін ведаў ня толькі я, а ўсе. Мяжа была на замку, але па радыё і тэлевізіі круцілі вызначаных і афіцыйна дазволеных артыстаў кшталту Карэла Гота ці якой-небудзь Радмілы Караклаіч. Янаш Кош парасейску сьпяваў песьню „Черный поезд“, якая сапраўды гучала з кожнага праса, і мяне забаўляла, што ў прыпеве літаральна ў кожным слове націск стаяў не на сваім месцы: “Ой, ой, ты чернЫй поЕзд, зАбрал мОю милуЮ”. У маім родным Мазыры, дзе я праводзіў леты, у парку і на параходах круцілі песьню японскага жаночага трыа, і народ падпяваў японкам „сваімі словамі“ (паводле сугучнасьці): „А на Пхове маёра забілі“. Пхоў – гэта зарэчны раён Мазыра. На кружэлках, якія прадаваліся ў музычнай краме ў закутку на Валадарскага ў Менску, можна было купіць усё, але толькі савецкай вытворчасьці, а пад крамай у фарцоўшчыкаў – увогуле ўсё. І тут заўсёды віравалі натоўпы, а таксама кошты, бо за лонгплэй топавага гурта трэба было аддаць студэнцкую стыпэндыю.

Дзіўна, што мы тагачасныя былі даволі добра забясьпечаныя тым, што стваралася ў культуры на Захадзе. Сёньня ж, калі на Захад можна неяк паехаць, у нас у Беларусі адчуваецца поўная адчужанасьць ад усяго, што робіцца за той мяжой, найперш у суседзяў. І нават немагчыма ўявіць, каб БТ трансьлявала сьпеўныя конкурсы ў польскім Сопаце або італьянскім Сан-Рэма, а мы ўсёй краінай гэтаму ўсяму суперажывалі, як свайму.

Чаму так здарылася, што мы ўсе з нашымі сёньняшнімі магчымасьцямі ў пляне далучанасьці да сьвету выглядаем большай Паўночнай Карэяй, чым тады, у 1970-я?

Ёсьць тут і афіцыйная палітыка. Але найпершая прычына ў саміх магчымасьцях, бо як ні круці, магчымасьці – гэта свабода. А калі інфармацыйны фон агульны для ўсіх, тады і гэтая свабода агортвае ўвесь народ. Ня тое, што калі ёсьць сеціва і ўсё даступнае табе асобна, а таму не такое прывабнае.

У тыя часы пытаньне стаяла па-іншаму. Калі існуе вялікі попыт, дзяржава мусіць яго нейкім чынам задавальняць. У краме на Валадарскага аднойчы я набыў маленькую кружэлку дзяржаўнай савецкай фабрыкі „Мелодия“ неназванага „вокально-инструментального ансамбля (Англия)“ з „английской народной песней“, якая называлася „Девушка“. Лішне казаць, што гэта былі Beatles. Трохі пісалі пра рокераў у часопісе „Ровесник“. Але гэта ўсё была агульнасаюзная практыка, нейкія аддушыны ў афіцыйнай антызаходняй прапагандзе, у школьных кампаніях супраць „валасацікаў“ і шэльмаваньні ўсякіх Элісаў Купэраў у партыйных газэтах. Усё гэта было і ў Беларусі, узорнай савецкай рэспубліцы, дзе моладзь, тым ня менш, музычнага голаду не адчувала.

Што да афіцыйнай палітыкі, дык у дачыненьні да Захаду, асабліва да суседзяў, яна не была абмежаванай і бязь меры агрэсіўнай. Усё ж такі карціна сьвету ў галовах тагачасных кіраўнікоў была больш стракатай і міралюбнай.

Да прыкладу, у шапіках Белсаюздруку прадавалася шмат польскіх часопісаў. „Widnokręgi“ і „Panorama“ друкавалі ў кожным нумары эратычнае фота „dziewczyny tygodnia“, „Kobieta i życie“ давала выкрайкі адзеньня, „Mały modelarz“ – выкрайкі караблёў і самалётаў, і гэта далёка ня ўсё. Прадаваліся балгарскія, югаслаўскія выданьні і нават глянцавы францускі часопіс „L'humanité dimanche“ – хоць і камуністычны, але ён друкаваў коміксы пра Піфа. Пры ўдачы можна было набыць глянцавыя часопісы „Америка“ і „Англия“ – з шыкоўнай фотасэсіяй *Led Zeppelin*. Гэтыя выданьні былі па-расейску і ў вялікім дэфіцыце. Урэшце мы набывалі паўночнакарэйскі „Корея сегодня“ з ідэямі чучхе і чыталі яго, як раман Оруэла, як пародыю на нашу ўласную рэчаіснасьць, што сёньня як пародыя ўжо не ўспрымаецца зусім.

Сёньня ўся гэтая стракатая і прывабная разнастайнасьць (а я згадаў хіба дваццатую частку прыкладаў) цалкам зьнікла. Затое ў шапіках Белдруку можна купіць вялікае мноства расейшчыны, красвордаў і кучу ўсякіх „Друзей пенсионера“. Калі на шапік Белдруку глядзець як на адлюстраваньне карціны сьвету, афіцыйна прынятай у краіне, багацьце і разнастайнасьць той карціны 1970-х не ідзе ні ў якое параўнаньне зь сёньняшняй.

Часопісы купляліся, фоткі зь іх вырэзваліся і клеіліся ў чыстыя альбомы. Гэта было яшчэ адно захапленьне, якое зьнікла з жыцьця і маргіналізавалася літаральна да кропак – калекцыянэрства. Тады ўсе штосьці калекцыянавалі. Я зьбіраў значкі і маркі, а калі мы пачалі купляць часопісы, дык пачалі клеіць альбомы: я пра аўтамабілі, Вінцук – пра рок-бэнды. Адпаведна, мы мяняліся „матэрыялам“, я яму – рокераў, ён мне „машынкі“. Калі б тады мне сказалі, што некалі буду штодня па некалькі гадзін „круціць баранку“, я б, мабыць, не паверыў, бо тэхнікай ніколі не цікавіўся і часам нават сам сабе зьдзіўляўся, што клею гэтыя „машынкі“. Разглядаць іх было прыкольна, забаўлялі сваімі формамі розныя ролсройсы і кадылакі, а таксама іхныя назвы кшталту „Peugeot Bébé“. У краіне быў гіпэрбалізаваны культ Леніна, што не магло не спараджаць пародыяў. Важныя крамлёўскія канцэрты адкрываў пупс-тэнар зь песьняй „Ленин в моей судьбе, Ленин в твоей судьбе“, а мы хорам давяршалі: „Ленин в Пежо-бебе“.

У цэлым жа, як і з кнігамі, маё непаразуменьне з „машынкамі“ цалкам пакрывалася самім духам калекцыянэрства, які быў проста разьліты ў паветры.

Іншая рэч рокеры. Калі на ўроку беларускай мовы – самага нецікавага і нікому непатрэбнага прадмета (такі быў стэрэатып, які прамаўляўся ганарыста і без адценьня сарамлівасьці) беларусіца дазваляла нам прыносіць магнітафон і слухаць „валасацікаў“, аднойчы для мяне здарыўся сапраўдны выбух.

Гэта быў альбом „Deep Purple in rock“. Здэтанавала нават ня музыка, а тое, што я дагэтуль ніколі ня чуў такіх гукаў. Ніколі і нідзе, ні ў музыцы, ні ў горадзе, ні ў прыродзе. Натуральна, *Deep Purple* настала пасяліўся ў маім пакоі, як толькі быў набыты магнітафон. А каб набываць новыя і новыя альбомы, мы зь Вінцуком закінулі свае клееныя альбомы і сталі езьдзіць да „пісацеляў“. Так называлі перапісчыкаў музыкі.

Казалі, што „пісацелі“ купляюць кружэлкі ў маракоў, якія плаваюць за мяжу. Тое самае, дарэчы, казалі пра порначасопісы, якія на месцы пераздымалі, і чорна-белыя фоткі нейкім чынам разыходзіліся для зацікаўленых па ўсім Менску.

У „пісацеляў“ з кружэлак мы пераганялі на свае бабіны новенькія лонгплэі жывых клясыкаў року і процьму ўсяго, нават якую-небудзь Шаролту Залатнаі. То бок у самыя брэжнеўскія часы беларускі падлетак мог гадавацца ў цалкам сабе несавецкім паралельным сьвеце. Ня маючы інтэрнэту, ня могучы выехаць за мяжу, пазбаўленыя нармальных „сваіх“ радыё і тэлевізіі, мы добра арыентаваліся ў музыцы суседзяў і ўсяго сьвету. А тая музыка, у сваю чаргу, фармавала ў нас нармальную эўрапейскую арыентацыю і нармальныя чалавечыя каштоўнасьці. Сярод якіх было іранічнае стаўленьне да навакольных капээсэсных акамянеласьцяў і прапагандысцкіх песень, якія мы крывымі галасамі перасьпёўвалі: „Но нельзя тебя, я знаю, ни трара, ни трарара...“ Словам, на пачатку 1970-х у беларускіх падлеткаў былі каналы ўмацаваньня імунітэту супраць умоўнага „русского мира“ (якога тады не было), цалкам легальныя і даступныя. Сёньня такіх каналаў няма, і кожнаму ў індывідуальным парадку даводзіцца выбірацца з выграбной ямы. А гэта, безумоўна, цяжэй.

Што да музыкі, дык сустрэць у тралейбусе ці трамваі падлетка з аграмаднай „Каметай“ можна было часта. І было ясна, што чалавек едзе да „пісацеля“, каб за невялікую плату перапісаць зь вініла на свае бабіны сьвежы *Nazareth* і процьму ўсяго іншага. Пасьля яшчэ ня раз ужо з бабінаў альбом будзе перапісвацца на бабіны сябра, і дом будзе напаўняцца гукамі клясычнага року і выклікаць недаўменныя пытаньні бацькоў: „Зачем они так кричат?“

<...>

## „Подросток, брось сигарету!“

Зь дзявятае клясы да сёньня ў мяне захаваўся рытм курэньня – 45 хвілін, бо пасьля кожнага ўроку беглася за школу (а гэта была чацьвертая школа, дзе вучыліся Вінцук, Арына, Пецямарцаў ды шмат іншых герояў) – курыць.

Між іншым, у гэтай школе калісьці вучыўся выбітны расейскі актор беларускага паходжаньня Алег Янкоўскі – той самы барон Мюнхгаўзэн ці герой „Настальгіі“ Таркоўскага – многія максімы з вуснаў якога станавіліся імпэратывамі пакаленьня. „Разумны твар – гэта яшчэ не прыкмета розуму, панове. Усе глупствы на зямлі робяцца менавіта з гэтым выразам твару. Усьміхайцеся, панове! Усьміхайцеся!“

Вядома, што ў „Настальгіі“ меўся граць улюбёны артыст Таркоўскага Саланіцын. І Янкоўскі прыйшоў на гэтую ролю, бо Саланіцын памёр. Яму стала дрэнна ў Менску, проста на вуліцы, дзе стаіць наша чацьвертая школа, пасьля чаго ён і памёр. Але гэта ўжо будзе ў пачатку 1980-х. А патрапіў Саланіцын у Менск, бо здымаўся тут у фільме Барыса Луцэнкі „Раскіданае гняздо“ паводле Янкі Купалы. Я тады напішу на фільм кусьлівую рэцэнзію, якая будзе называцца „Раскіненае гняздо“. А выкладчыца на журфаку Ефрасіньня Бондарава прымусіць мяне перад аўдыторыяй чытаць уголас гэтую рэцэнзію, маўляў, паслухайце, якую ерась ён напісаў, і ніколі так не рабеце. Я тады пісаў даволі дзёрзкія тэксты, якія чамусьці бралі друкаваць газэты, а пасьля бывала абструкцыя з боку пэрсанажаў тых тэкстаў або нават вось такая пастаноўка да ганебнага слупа. Мяркую, аднак, што ганьбы не атрымалася, і я мог пачуваць сябе героем дня.

Натуральна, за курэньне „ганялі“, дырэктрыса была надта суворая. Патрабавала „единообразия“, напрыклад, каб усе прыносілі тапкі і хадзілі ў тапках. Казалі, што перад нашай школай дырэктрыса ўзначальвала сувораўскую вучэльню.

У той дзень, калі я пакурыў дома ў фортку свайго пакою і быў выкрыты бацькамі, мама нагадала мне, як я, малы, яшчэ на Круглай, „ганяў“ бацьку за курэньне ў прыбіральні і вывешваў там асуджальныя плякаты, пакуль бацька ня кінуў курэньне. Цяпер бацька ўтрапёна і неяк зларадасна пачаў абзвоньваць сваякоў і знаёмых зь весткай пра тое, што ягоны сын курыць. Для яго тут сутыкнуліся два моцныя матывы: тое самае асуджэньне шкоднае звычкі і канстатацыя таго, што сын стаў дарослым.

Тут, на мусульманскай высьпе, мясцовыя зусім не ўжываюць алькаголю, толькі турысты. Затое мясцовыя кураць, прычым не тытунь, а „траву“ ўсіх магчымых відаў і ўдарнае сілы. Аднойчы падчас абеду я назіраў за мясцовым чалавекам, які, „пакурыўшы“, засяроджана размаўляў з уласнай запальнічкай, і гэта быў дыялёг... Глядзіце, акурат вяртаюцца з акіяну вялікія рыбацкія чаўны. Рыбакі зрабілі сваю працу, і цяпер, калі падысьці да іх бліжэй, можна выразна адчуць, якое салодкае вакол іх паветра...

На выпускных іспытах ніяк не давалася хімія. Ну, ніяк. Настаўнікі пагражалі, што атрымаю не атэстат, а даведку, што праслухаў курс сярэдняй школы. Але, відавочна, ім самім гэта было ня трэба, і паставілі тройку. Атэстат 3,5 пасьля будзе добра круціць маім лёсам, але я прымаю яго і рэдагаваць не хацеў бы. З вышыні гадоў я бачу, што хімія ніколі і ні разу ў жыцьці мне не спатрэбілася. Хіба што для разгадваньня красвордаў, якіх я не разгадваю і не люблю.

Назаўтра пасьля выпускной вечарыны мы, аднаклясьнікі, узялі заплечнік гарэлкі, даехалі электрычкай зь Менску да Аляхновічаў і пайшлі кудысьці палявой дарогай, на якой сярод агульнай бязьлюднасьці палёў стаяў вялізны білборд „Подросток, брось сигарету!“, што напоўніла нас няўстрымнай весялосьцю, і мы зь яшчэ большым імпэтам пацягнуліся да цыгарэтаў. Недзе ў лесе наперадзе мусіла быць возера, і мая першая самастойная вандроўка на ваду. Гэй, крычу я сабе тагачаснаму, ты яшчэ нічога ня ведаеш пра тое, што здарыцца ў тваім жыцьці і што ты з рознымі кампаніямі пройдзеш на байдарцы ўсе прыдатныя і непрыдатныя для гэтага рэкі Беларусі, і гэта будзе абавязковая праграма кожнага лета. Але я тагачасны ня чую гэтага крыку і ня маю ніякага ўяўленьня пра тое, што будзе заўтра.

А будзе моцны перабор з гарэлкай, адарваліся, называецца, і ўвесь лес будзе заляпаны ванітамі ўчорашняй вячэры. Між іншым, гэта сьведчыць ня толькі пра аб'ёмы ўжытага, але і пра тое, што ў такіх аб'ёмах гэта было ўпершыню, а таксама пра якасьць тагачаснай прадукцыі.

## „Ілжэш, байструк!“

Белая мініятурная кніжачка незразумелым чынам апынулася на паліцы ў кватэры бацькі маёй аднаклясьніцы, генэрала КГБ. Бываюць дзіўныя збліжэньні. І вось на нейкай, здаецца, вечарынцы кніжка чамусьці патрапіла мне ў рукі, гэта быў чыста індывідуальны эпізод, ніхто больш у ім ня ўдзельнічаў. Каму там магла быць справа да Шэксьпіра і „Караля Ліра“, пагатоў па-беларуску. Як, зрэшты, і мне справы не было.

Верагодна, я проста хацеў нечым заняць сябе ў паўзе сустрэчы. Але гэта адбылося. Выпадкова адгорнутыя словы „Ілжэш, байструк!“ перавярнулі ўва мне ўсё. Гэта – Шэксьпір? Беларускі Шэксьпір быў зусім не падобны да майго расейскага ўяўленьня пра яго. Беларуская мова праз Шэксьпіра таксама зьмяняла свой ранейшы вобраз. І за ўсім гэтым вычувалася нейкая таямнічая плянэта, пра якую я абсалютна нічога ня ведаю, хоць і жыву зь ёй зусім побач, калі не ў сярэдзіне яе.

Шмат пазьней другая мая жонка, псыхалягіня, на пытаньне „Чаму ты не гаворыш

па-беларуску?“ растлумачыць, што ў яе ў галаве на ўсё беларускае стаіць фільтар, як і ў большасьці беларусаў. Што гэта такое? Мы пілі каву на вакзале ў Празе, і яна сказала: запомні ўсе прадметы сіняга колеру вакол цябе. Я запомніў машыну, чыйсьці плашч, парасон, нейкую шыльду, сінія валасы... А цяпер, кажа яна, пералічы ўсе чырвоныя прадметы, якія ты бачыў. Але ж я запамінаў сінія?!

Дык вось на мае словы „Чаму ты не гаворыш па-беларуску?“ яна адкажа: „Ведаеш, ты першы, хто задаў мне гэтае пытаньне“. – „І што цяпер з тваім фільтрам?“ – „Сваім пытаньнем ты яго зьняў“.

То бок, калі вы будзеце проста пытацца ў людзей, чаму яны не гавораць па-беларуску, гэта ня значыць, што яны зараз загавораць, але гэта значыць, што вы зьнялі ў іх у галаве фільтар, пастаўлены палітыкай, адукацыяй, грамадзкай думкай. Так Шэксьпір разам зь перакладчыкам Юркам Гаўруком зьняў у маёй галаве фільтры і на беларускую мову, якая здольная на ўсё, што патрабуецца ад мовы, і на самога Шэксьпіра.

Натуральна, Шэксьпір быў выпрашаны, аддадзены без шкадаваньня і праглынуты ў той самы вечар. А далей пайшло-паехала, адкрыцьцё за адкрыцьцём, плянэта аказалася бясконцай. Я быццам зарадзіўся вострай неабыякавасьцю да яе, яшчэ не ўсьведамляючы, што знайшоў сваю праграму жыцьця.

Вядома ж, цяпер я набраў гэтую фразу „Ілжэш, байструк!“ у гугле і атрымаў роўна адну спасылку – на „Караля Ліра“ ў перакладзе Юркі Гаўрука. Пераклад мусіў у свой час прайсьці жорсткую цэнзуру, каб перавярнуць уяўленьні мне, а напэўна і не аднаму мне, то бок выканаць місію, а ўрэшце застацца ў інтэрнэце ўнікальным на ўвесь сьвет і цалкам сабе „рабочым“ творам. Зайздросны лёс.

## Пуансоны і матрыцы

Працаваць ня проста хацелася, а праглася. Ну, і пайшоў я пасьля школы на „Гарызонт“ вучнем сьлесара-інструмэнтальшчыка Гільмана. Вучняў было шмат, цэлая група езьдзіла ажно з вуліцы Данілы Сердзіча. Я іх пра сябе так і называў Данілямі Сердзічамі. Сабраўшыся ў курылцы, даніласердзіцкія, між іншым, добра сьпявалі хорам танкісцкую песьню: „Нас извлекут из под обломков, подымут на руки каркас“. Сьпявалі яе так часта і ўтрапёна, а я, натуральна, далучаўся, што і сёньня магу прасьпяваць танкісцкую ад „а“ да „я“. Асабліва ўсім падабаўся апошні куплет:

*В углу заплачет мать-старушка,*
*Смахнет слезу старик-отец,*
*И молодая не узнает,*
*Какой в танкиста был конец.*

Падабаліся менавіта апошнія два радкі, па-за кантэкстам усёй гэтай гісторыі і самой песьні.

У часы Вікіпэдыі недаравальна было не адшукаць гэтага Данілу Сердзіча, які заслужыў сабе цэлую вуліцу ў Менску. Для менчукоў, і тагачасных, і сёньняшніх, звыклая зьява – нічога ня ведаць пра тых асобаў, на вуліцах якіх яны жывуць. Быццам жывуць у не сваім горадзе. Аказваецца, наш Даніла сэрб, народжаны ў Харватыі, партовы грузчык у Адэсе, дабраахвотнік у Гарадзенскім лейб-гвардыі кавалерыйскім палку, унтэр-афіцэр, кавалер Георгіеўскага крыжа за баі з туркамі і баўгарамі на Балканах. (Ох, колькі ў гісторыі застаецца ўсяго, пра што мы ня ведаем і не даведаемся ніколі. А колькі таго, пра што мы ведаем хлусьню і ніколі не даведаемся праўды!) Пасьля наш Даніла ўдзельнічаў у штурме Зімовага палацу і ўступіў у ВКП(б). Але заставаўся верны сваёй сэрбскасьці і ваяваў разам з суайчыньнікамі недзе ва Ўкраіне. Словам, даслужыўся адэскі грузчык да пасады ва ўрадзе Беларускай ССР, зь якой яго ў 1938 годзе НКВД арыштаваў і расстраляў.

Тыповы, між іншым, лёс. Як у яшчэ аднаго героя, чыя менская вуліца ўвайшла ў мой лёс, – Гамарніка. Ці крычаў Даніла Сердзіч, як Гамарнік, падчас расстрэлу „Няхай жыве Сталін!“, невядома. Ці думае ён на небе пра марнасьць сваіх ідэалаў і свайго лёсу, – таксама.

Гільману было гадоў 50, найвышэйшы шосты разрад, ён адзіны чытаў газэты і тлумачыў усім, што адбываецца. Якраз гэты акуратны ўва ўсім і прыгожы чалавек Гільман трымаўся ў жыцьці трывалых прынцыпаў і пэўна ведаў, што жыве правільна і нямарна. Для мяне ён стаў настаўнікам ня столькі сьлясарнага рамяства, колькі вось гэтай разважлівасьці ў жыцьці. Здаецца, ён крыху раўнаваў да мітусьлівага Баркуна, таксама шостага разраду, але героя сацпрацы, дэпутата Вярхоўнага Савету і ўсё такое. Гэты на працы паказваўся рэдка.

Мы рабілі штампы, вельмі эратычныя штукі. У жалезнай пліце выпілоўвалася дзірка-матрыца, а пасьля пілаваўся мэталічны струк-пуансон, які мусіў у гэтую дзірку заходзіць. Лік ішоў на мікроны. „Глаз“ мусіў быць „алмаз“. А на ўсё толькі твае вочы і рукі з напільнікам. Старэйшыя для дасягненьня дакладнасьці прысядалі пад варштатам і вылівалі ў сябе бутэльку „вермутовіча“ ці яшчэ якога „фруктовіча“, чамусьці так называлі.

Завод – гэта самастойная краіна, дзе пануе сваё асобнае калектыўнае несьвядомае. Людзі зьбліжаюцца і хутка робяцца адной сям’ёй, і гэтыя адносіны захоўваюцца пасьля выхаду з заводу. За прахадной разам п’ецца чарніла, выяжджаецца за горад, разам сядзіцца ў цёмным ванным пакоі, дзе мы з Барысом Пікусам (ён жа Фікус, ён жа Кактус) у ягонай кватэры на Розачцы друкуем фоткі і шмат курым. Пры гэтым Пікус, апрануты ў бэзавы джынсавы строй, страсае попел сабе ў кішэню джынсавай курткі, туды ж кладуцца недапалкі.

Чырвонае сьвятло ў ванным пакоі, павелічальнік, разьведзеныя ў формачках праяўляльнік і фіксаж... Страчаныя навыкі і рэальнасьць, знаёмая ў 1970-я ці ня кожнай менскай (і няменскай) кватэры.

Бывае, увесь завод выходзіць на вуліцу. І на „майскія“ мы ў калёне „Гарызонту“ ў адных кашульках стаім каля другой клінікі (і яе ўжо няма), радасна п’ем чарніла, і адзін з нас – Белы – звальваецца з высокага парапэту галавой у асфальт. Мы нясем яго на руках у тую клініку, па доўгіх калідорах на рэнтген мазгоў, дзе я рукамі фіксую ягоную лысаватую галаву, і ўсе вакол вясёлыя, бестурботныя, нават непрытомны Белы ўсьміхаецца. Мы вяртаемся назад, у сваю калёну, бязь Белага. І бачым, што надышло сапраўднае лета.

На „Гарызонт“ я пайшоў, бо перад тым пасьля школы ні з пушчы, ні з поля паступіў на бухгальтара ў наргас – на вечаровае аддзяленьне. Мы сядзелі ў сквэрыку Панамарэнкі, і Сторкін сказаў: хадзем у наргас, я іду. Ну, хадзем. Усё, што я запомніў з таго наргасу, гэта была поўная незасваяльнасьць мной матэрыялу і мажны аднакурсьнік, які меў прозьвішча Грэнадзёр і часьцяком паўтараў на перапынках на калідоры, разглядаючы дзяўчат: „Серёжа, у меня полный х... воды“. Што гэта значыла, я так і не дазнаўся, дый не асабліва хацеў, вучыць бухгальтэрыю не хацеў зусім. Сышоў з наргасу, але бацькам не сказаў, хадзіў пасьля заводу не ў наргас, а ў сквэрык Панамарэнкі.

Праўда, наступным летам я напружыўся, нанялі рэпэтытараў, і я паступіў на журфак. Але зноў на вечаровы. Здаў усё на пяць, але прахадны бал быў 24, а ў мяне атэстат 3,5. Затое ў якую кампанію трапіў – Віталь Тарас, у якога мы часта зьбіраліся пасьля заняткаў, Ігар Гермянчук ды шмат іншых, важных у маім жыцьці людзей...

## „Takie jest życie“

Польшча, якая праз радыё і часопісы стала для мяне вакном у шырокі сьвет, паступова і сама напаўняла маю істоту. Блізкасьць мовы і, зноў жа, прадчуваньне нейкага

аб’ёмнага і невераемнага адкрыцьця, магчыма нават шчасьця, кружыла галаву. Тое, што на паверхні магло ўспрымацца як чужое, у глыбіні душы ўспрымалася як сваё, альтэрнатыўнае савецкаму і пры тым нашмат больш інфарматыўнае, нефармальнае і свабоднае. Калісьці падобнае перажываньне прыйдзе з адкрыцьцём несавецкай Беларусі і беларушчыны, але гэта ўжо будзе ні з кім не падзеленае толькі сваё.

У 1976 годзе мы зь Вінцуком пайшлі ў Палац спорту на канцэрт Чэслава Немэна, музыку якога ўжо ведалі раней. Канцэрт праходзіў у зялёным асьвятленьні. Мы слухалі Рэквіем памяці Пётра, немэнаўскага барабаншчыка, які нядаўна загінуў у аўтакатастрофе. Дзіўна, што адзін сказ з таго рэчытатыву я адразу запомніў на ўсё жыцьцё: „Jak jeszcze długo skrzypiący frazes «Takie jest życie» jedynym będzie usprawiedliwieniem niedorzecznej śmierci człowieka“ (Як яшчэ доўга скрыпучая фраза „такое жыцьцё“ адзіным будзе апраўданьнем недарэчнай сьмерці чалавека). Дзіўна, праўда? Яшчэ толкам ня ведаючы польскай мовы, запамінаеш цэлую фразу назаўсёды. І пасьля шмат разоў яе прагаворваеш сам сабе з розных нагодаў.

Быў на тым зялёным канцэрце і норвідаўскі Бэм, які на наступныя гады зрабіў нас норвідаманамі. А тады пасьля канцэрту я пайшоў у заводзкую бібліятэку – шукаць чагосьці польскага, а там знайшоўся толькі томік Юліяна Тувіма, па-расейску, які, тым ня менш, стаў для мяне ініцыяцыяй у паэзіі.

Ува ўсім, што мяне кімсьці рабіла, я не знаходжу рацыянальнага вытлумачэньня, заўсёды быў нейкі штуршок знутры. Інакш мае прыхільнасьці можна было б бачыць на ўсім пакаленьні, а гэтага не адбывалася ні сярод тых, з кім мы пілі чарніла на лаўцы ў сквэрыку Панамарэнкі, ні сярод раўналеткаў, зь якімі працаваў на заводзе, ні сярод тых, з кім у гурце *Flauring Star* граў на ёніцы танцы ў інтэрнаце таго самага Футаралавага заводу, на якім ня так даўно адбыўся выбух.

На ёніцы я граў і сьпяваў тыя песьні *Deep Purple*, якія калісьці сталі для мяне разрывам шаблёну, а на заводзкі конкурс песень наш кіраўнік гурту (я запомніў толькі твар і прозьвішча – Артамонаў) напісаў песьню на верш Янкі Купалы „Таполі“ і сам сьпяваў рыфму, ставячы націск на няправільны склад. Трэба было „у по́лі – тапо́лі“, а ён сьпяваў „у палі́ – тапалі́“. Конкурс мы ня выйгралі. Нейкі начальнік абурыўся „грукатам“ нашых інструмэнтаў і загадаў адключыць электрычнасьць. Усё ж такі суворыя былі месцамі часы.

Што праўда, усе мае ўнутраныя штуршкі я прынамсі адчуваў і бачыў, што адбываецца, але вось куды гэта вядзе і ўва што ўрэшце выльецца, прадказаць было немагчыма.

Самы, бадай, экзатычны ўчынак, які, праўда, скончыўся нічым, – гэта самастойнае асвойваньне саксафону ў падвале гарызонтаўскага клюбу, дзе мае гусіныя крыкі магло чуць само неба. Мы пачыналі слухаць джаз.

## Сквэрык Панамарэнкі

Шышак, Азон, Сторкін, Галка, Людка, Сусік... Чалавечыя імёны толькі ў дзяўчат. Мы сядзелі на лаўках, на сьпінках, пілі чарніла, курылі і размаўлялі... Абсалютна немагчыма сказаць, пра што. Выходзіць, гаварэньне было зусім неабавязковым у тых штодзённых вячорках. А што было важным?

Гэта сквэрык на Першамайскай насупраць кварталу дамоў у „флямандзкім“ стылі, дзе жылі дзеці пралетарыяту з заводу Кірава, якія хадзілі ў 4-ю школу разам зь дзецьмі начальства. Цікавы быў сымбіёз. Зьнешне цяжка было адрозьніць, хто чый і адкуль. Хіба што ў большасьці кіраўскіх быў моцна заніжаны гарызонт жыцьця.

Разам жа зьбіраліся ў сквэрыку Панамарэнкі і пасьля таго, як закончылі школу. Сёньня са скрухай я абмінаю гэты сквэрык, даўно кімсьці прыўлашчаны і закрыты для наведваньня, заўсёды пусты. Увогуле з тых маіх 1970-х шмат зьявілася ў Менску мясьцін і будынкаў, куды ня толькі ня зойдзеш проста так, але й не даведаесься,

хто там схаваўся. Былі і ў тыя часы „закрытыя аб’екты“, але іх закрытасьць заўсёды неяк тлумачылася.

Сумнае відовішча. Быццам зьнік той сквэрык з твару места, і невядома, ці быў ён калі. Як і яго назвы я больш нідзе не сустракаў, хоць мы ўпэўнена называлі яго сквэрыкам Панамарэнкі. Праўда, ня ведалі, хто гэта такі і чаго ён нарабіў у нашай Беларусі.

Пазьней, пасьля службы ў войску, гэты сюжэт згадваўся мне з настальгіяй, і я хуценька занатаваў тое, што засталося ў памяці:

„Збудзецца ўсё. Усё, што захочаш. Трэба толькі як сьлед усё ўспомніць. Які сквэрык? Жоўтыя клёны. Шэрагі лавак. Не. Асобныя лаўкі. Нейкія людзі. Гэтага доўгага клічуць Азон, кучаравага ня памятаю. Трэба абавязкова ўзгадаць. Як жа клікалі кучаравага?.. Яна – здаецца, Галка. Ці то прыгожая, ці то смазьлівая. Сусік – худы. Усе стаяць. Як жа клікалі кучаравага?.. Усе сядаюць на сьпінку лаўкі. Халаднавата. Я бяру Галку «пад крыло», пад крысо курткі. І кажу... Зараз успомню, зараз. Я кажу:

– А где Шишак?

Шышаку 20 гадоў. Ён алкей. У яго перагнілі ўсе зубы. Ён прыходзіць піць з намі чарніла. Я кажу:

– А где Шишак?

Стоп. Нешта выпушчана. Людка. У яе мясісты твар. Яна ходзіць бяз станіка. Грудзі матляюцца, яна зусім непрыгожая. І халодна, і жоўтыя клёны.

– Но где же Шишак?

– На, – перадае мне Сусік настылую пляшку з чарнілам. – Зачем тебе Шишак?

Я выпіваю да канца брыдкую вадкасьць і стрымліваю ў сабе млосьць. Мы ніколі не зьбіраліся без Шышака.

– Шишак, б..., всегда пьёт на халяву, – кажа Галка.

Так заўсёды.

– Смотри, накаркаешь. Придет Шишак, – кажа Азон.

– Да не нужен он мне. Просто надо что-то говорить.

І тут пачынаецца восень. Тут мы ўсе раптам разумеем, што яна пачалася. І ўсім стала хораша. Мы верым, што збудзецца ўсё, што захочаш.

Мы бездухоўныя, так? П’ем чарніла, нам няма пра што гаварыць, мацюкаемся, у нас няма ідэалаў? Мы благія, так? Няхай сабе. Але нам зараз хораша разам – і ў гэтым сквэрыку, і што восень. І вам з усімі вашымі духоўнасьцямі ніколі не зразумець нас, калі нам проста добра, і ўсё. Так, мы думаем па-свойму, гаворым па-вашаму, але, каб зразумець нас, вам спатрэбіцца трэцяя мова – на якой мы адчуваем.

Але як жа клікалі кучаравага? Сьмяшлівы такі. Студэнт-інтэлігент. А чарніла з намі піў. Ня памятаю“.

Атрымалася такое сабе „насьледаваньне Цою“. Праўда, калі я занатоўваў гэтыя радкі, пра Цоя яшчэ ніхто нічога ня чуў.

Пазьней казалі, што Азон патануў тут сама побач у Сьвіслачы. Магчыма, Сторкін яшчэ жывы – мой аднаклясьнік, што падбіў паступаць у наргас. Ну, і жанчыны звычайна жывуць даўжэй. А як звалі кучаравага, я так і ня ўспомніў.

<...>

## Таемнае здарэньне ў „доме Освальда“

Першы інтым здарыўся таксама на Круглай, хоць наша сям’я ўжо колькі гадоў там не жыла. Але ў сяброўкі аказаўся ў кішэні мамін ключ ад рэдакцыі спартовых праграм тэлевізіі. Дзень быў выходны, нас было трое, і трэцяга мы адправілі ў гастраном „Пад шпілем“ па сыр і віно. Ён, здаецца, усё зразумеў. Ну і вось.

Стаялі моцныя маразы, я быў у кальсонах і больш за ўсё саромеўся гэтага. Кальсонаў тады прынята было саромецца.

Дзьверы рэдакцыі – гэта вуглавы ўваход – глядзелі на домік першага зьезду РСДРП. Такім чынам два „першыя зьезды“ адбыліся ў розны час адзін насупраць аднаго. У мясьцінах, літаральна навобмацак знаных мною з маленства. Дзе я ведаў усё – і як пахнуць шчыліны ў асфальце пасьля летняга дажджу, і як смакуе шыпшына, якую мы аб'ядалі проста з кустоўя вакол партыйнага музэя, і як плёскае плотка ў Сьвіслачы позьнім вечарам, і як пяршыць у горле ад недакурка, падабранага на ганку суседняга Дому шлюбаў.

Пазьней дадасца шмат дзіўных сюжэтаў пра гэты будынак з рэдакцыяй спартовых праграм, якой там, вядома ж, даўно няма.

Яшчэ падчас будоўлі дому ў сьцяну ўмуравалі цагліну з „дому Паўлава“ ў Сталінградзе, у якім падчас Сталінградзкае бітвы сяржант Паўлаў з таварышамі 58 дзён трымаў абарону ад гітлераўцаў. Думалі, што і ў Менску будзе свой „дом Паўлава“. Але пазьней тут жыў Лі Гарві Освальд, меркаваны забойца прэзыдэнта Кенэдзі, і цяпер паступова прыжываецца назва „дом Освальда“. Освальд перамагае Паўлава, хоць у абодвух гісторыях шмат невядомага і заблытанага. Але, прынамсі, з жыльлём Освальда ў Менску ўсё ясна і дакладна.

Я нават упэўнены, што мы бачыліся з гэтым пэрсанажам. Бо ў пачатку 1960-х малым я штодня гуляў пад наглядам бабулі ў сквэры на Круглай, а ён увесь час гойсаў праз гэты сквэр у бок ін'язаўскіх жаночых інтэрнатаў.

Зьбіраліся мы і дома ў маёй аднакурсьніцы на вуліцы Гамарніка. Гэта адносна цэнтру гораду, вядома, чортавы зубы. Але мы ўжо бывалі ў тых мясьцінах зь Вінцуком у „пісаценя“ <...>. Мы, аднакурсьнікі, часта ішлі да кагосьці з нас на кватэру пасьля заняткаў на вечаровым журфаку і бавілі час за размовамі, вінfamіном, здаецца, нават танчылі пад магнітафон. Нам сапраўды было добра разам. А разыходзіліся часта пад раніцу, калі яшчэ не хадзіў транспарт.

Уявіце сабе шлях ад Гамарніка да Пуліхава, калі можна было ісьці проста пасярод вуліцы, бо машын не было, гадзіну ці болей, сустракаючы сям і там такіх самых вясёлых вяртанцаў, часам нават знаёмых ці паўзнаёмых, каб пасьля пракрасьціся ў кватэру, ня робячы ніякіх гукаў, і прыдрамнуць зусім крыху, бо а 7:30 трэба было стаяць за варштатам на „Гарызонце“. Так паўтаралася амаль штодня. Праца за варштатам, пасьля рэпэтыцыі гурта ў заводзкім клюбе, пасьля заняткі на журфаку, вечарынка з аднакурсьнікамі, кароткі сон... Вось кажуць жа, што чым ты маладзейшы, тым болей маеш у сутках гадзін.

## Па-беларуску паўсюль і заўсёды

Чым жа вабіла нас ня „самая прыгожая ў сьвеце краіна“? Вы не паверыце – яна прыцягвала нас сваімі руінамі. Нейкі час існаваў нават культ гэтых руінаў і пратэст супраць ператварэньня, напрыклад, менскага Траецкага прадмесьця ў „кардонны цацачны навадзел“.

Толькі набыўшы люстэркавы фотаапарат „Зэніт“, я выправіўся здымаць стары Менск. Горад быў пуставаты, бруднаваты, але месцамі здавалася, што ты трапіў у такую самую тады старую Вільню. У Верхнім горадзе мяне зь першай сустрэчы ўразіла апсыда цяперашняга Катэдральнага сабору. З боку плошчы Свабоды распазнаць у ім касьцёл было немагчыма, так моцна яго перабудавалі ў „сталінскім стылі“. А вось з двара, дзе нічога не мянялася... Уражвалі эпічныя формы.

Горад быў ня надта чысты, не параўнаць зь цяперашнім вылізаным мэгаполісам. Хоць, падазраю, што чыстыя менскія вуліцы – зусім ня вынік сёньняшняй гарадзкой ідэнтычнасьці і культуры месьцічаў. Варта зазірнуць туды, куды не даходзяць рукі арміі ў аранжавых камізэльках. Напрыклад, на канцавыя прыпынкі гарадзкога транспарту на ўскраінах...

Выглядала, што шпацыраваў я са сваёй першай фотасэсіяй якраз у той паваротны

момант гісторыі, калі Менск канчаткова разрываў сваю крэўную сувязь зь Вільняй, старой сталіцай. Цэнтральнай падзеяй гэтага разрыву сталася зьнішчэньне Нямігі – калярытнага раёну крывых вузкіх вулачак. Нямігі больш не было. Праўда, і новыя будынкі на яе месцы пакуль не зьявіліся. Мэнтальна людзі яшчэ ня звыкліся з новым шырокім і роўным праспэктам на месцы старой Нямігі і пераходзілі яго праезную частку не на сьветлафор, а дзе хто хоча.

Яшчэ больш уразілі формы Мірскага замку. Мы паехалі туды зь Ігарам Герменчуком. Руіны выглядалі спракаветна, чаго цяпер, пасьля рэстаўрацыі, не адчуеш. Гэта быццам іншы замак, які зусім ня „дыхае даўнінай“.

Я вось падумаў, магчыма, тагачаснае наша архітэктурнае нэкрафільства тлумачылася тым, што сьмерць ці толькі тэма сьмерці прыцягальныя ў маладосьці, з гадамі абвостраная цікаўнасьць прытупляецца.

Мы зь Ігарам шмат гаварылі пра гэта, пра руіны, ветракі, пра старых людзей, якіх мы ўжо пачыналі багоміць, ён – свайго дзеда Пятра, а я сваю бабу Хвядору. Даходзіла да таго, што пры сустрэчы з Караткевічам мяне захапіла тое, што культавы пісьменьнік сам выглядаў як руіна – вялізнае друзлае цела, якое зь цяжкасьцю дыхае, рухаецца і гаворыць, але пры тым цалкам арганічнае. Цяпер я разумею, што гэта была цяга да ўсяго беларускага старога, дасавецкага ці несавецкага. Ня важна, ці былі гэта помнікі архітэктуры, кнігі ці людзі, тлумачылася яна менавіта гэтым – неспаганенасьцю камунізмам. Не магу нас тагачасных назваць антыкамуністамі, але гэта было тое, што актыўна фармавала нас і ўжо амаль гатовае было завяршыць працэс фармаваньня.

Яшчэ Мірскі замак прыцягваў тым, што пра яго ў Беларусі ня ведаў ніхто. Ну, ці амаль ніхто. Таму ён адразу стаў нашым. Па вяртаньні мы шчыльна засядзем у бібліятэцы, перабіраючы старыя кнігі і выпісваючы ўсё, што было зьвязана зь Мірам, і адразу ж пастановім напісаць пра яго кнігу. Мы пазнаёмімся з Валянцінам Калніным, які ў рэстаўрацыйных майстэрнях працаваў над праектам аднаўленьня замку, і, натуральна, зноў паедзем у Мір.

Мы гойсалі па замкавых руінах, балянсавалі на бэльках, што засталіся ад перакрыцьцяў, рабілі фоткі і назіралі пахавальныя працэсіі, якія зрэдку цягнуліся за грузавіком з труною на тутэйшыя могілкі (яны былі побач з замкам), зарослыя, нібы амазонскія джунглі.

Спыняліся мы ў маленькім гатэлі на іншым канцы мястэчка – звычайнай хаце, дзе жылі камандзіраваныя рабочыя. І аднойчы, ідучы з гэтага гатэлю да замку, далі адзін аднаму зарок заўсёды і паўсюль размаўляць па-беларуску.

Пераглядаючы сёньня мірскую тэчку, я бачу, што матэрыял мы сабралі пра ўсе важныя ў мірскай гісторыі этапы. Тут і татарскія набегі, і цыганская сталіца і пераходы ад уласьніка да ўласьніка, і габрэйскія школы, кірмашы і атакі атамана Платава, і нават апошняя вайна, калі немцы зрабілі ў замку гета, а камэндант гэтай установы меў прозьвішча Фэст.

Імпэт наш не згасаў і ў войску, калі мы абмяркоўвалі ў лістах дэталі кнігі. Імпэт згас пасьля войска, калі навалілася зусім іншае жыцьцё.

Але інтрыгі той авантуры да сёньня калі-нікалі нагадваюць пра сябе. Вось у рамане Людмілы Ўліцкай „Даніэль Штайн, перакладчык“ галоўны герой цудам уратоўваецца ад таго Фэста з замку. На гарышчы ў мястэчку яго хаваюць каталіцкія манашкі.

## Нехрысьць ці „хрысьць“

Бацькі мае былі камуністамі і падкрэсьлена нецаркоўнымі людзьмі, таму само сабою лічылася, што мы зь сястрой нехрысьці. У сям’і ніколі і ніяк пра царкву не гаварылі. Але я ведаў, што мялешкаўскія бабы ў царкву ў Мазыры езьдзілі. І было

гэта заўсёды як бы неафіцыйна, ніяк не афішавалася. І недзе ў падсьвядомасьці ў мяне склалася ўяўленьне, што баба Хвядора мяне ў немаўленстве – хрысьціла. Таемна ад бацькоў. Такое сабе ўнутранае перакананьне, што інакш папросту не магло быць. Баба таксама ніколі пра гэта не казала, хоць абразок у яе ў хаце вісеў і ў царкву яна разам зь іншымі езьдзіла.

У кожным разе, каб атрымаць пацьверджаньне свайго хросту (а гэта было для мяне знакам уласнае паўнавартасьці), я папрасіў пра хрост айца Аляксандра Надсана. І адбылося тое ў Лёндане, у 2005 годзе. Я стаў уніятам, з усьведамленьнем таго, што вярнуўся ў веру маіх продкаў.

У камунізм я ня верыў ніколі. І таму, што вобраз ягоны бачыўся мне як мінімум несур'ёзным, ніяк не зьвязаным з рэальным жыцьцём, і таму, што ў мазырскіх застольлях, калі дзед Андрэй (ён быў ідэйным камуністам) казаў, што трэба ісьці на заводы, падымаць рабочых, ягоны сын і мой дзядзька Гена закіпаў, маўляў, усё гэта хлусьня і што камуністы га...но. Такое адмаўленьне рабіла на мяне паваротнае ўражаньне. Аказваецца, можна думаць ня так, як усе і як ад цябе патрабуецца, а так, як табе, уласна, і думаецца. Пазьней неаднойчы я атрымліваў прапанову пісаць „заяву ў партыю“, на што нязьменна адказваў: „Не гатоў“.

Адкуль узялася беззапаветная вера ў сілу слова – загадка. Слова можа ўсё! Яно надае ўсяму існаму сэнс, яно аздабляе сьвет і яно ж можа гэты сьвет зьмяніць як у горшы, так і ў лепшы бок. Яно як сонца, што сагравае і што спапяляе.

Падчас вечаровага журфаку я працаваў ужо не на заводзе, а ў міліцэйскай газэце. Праўда, я там не пісаў, а быў выпускаючым рэдактарам. Гэта такая журналісцкая пасада, але не ў рэдакцыі, а ў друкарні, дзе шыхтуецца нумар і ўсё даводзіцца да дасканалага выгляду.

Самі тэксты радкамі ў мэтале адліваліся на лінатыпе, а загалоўкі палітарна набіраліся са шрыфтавых касаў. Гэта быў высокі друк. Прытым стаялі ў друкарні і касы тэкставых (маленькіх) шрыфтоў, якімі ўжо не карысталіся. То бок, калі б не было лінатыпаў (а гэта такія вялізныя і траскучыя машыны-гаргары, што адлівалі тыя самыя радкі), можна было цалкам увесь тэкст набраць з асобных мэталічных літарак. І вось я патроху тыя літаркі адтуль выносіў.

Увогуле тэхналёгія нічым не адрозьнівалася ад скарынаўскай. Зьбіраеш зь літарак старонку і – пад прэс. Уяўляеце? Нічога новага за 500 гадоў. Пазьней наш лінатып я пабачыў на ўваходзе ў рэдакцыю *Washington Post* у Вашынгтоне – як помнік дыназаўру з дагістарычнай эпохі. І было гэта ў 1997 годзе, калі ў Беларусі яшчэ паўсюль тыя лінатыпы адлівалі радкі для кніг і газэт.

Ігар Гермянчук тым часам уладкаваўся на менскі паліграфкамбінат і таксама выносіў адтуль літаркі. Вінцук прыдумаў назву для нашай газэты – „Вястун“ (і на паліграфе было адлітае клішэ), а Арына пашыла фартух з мноствам кішэнек – праобраз тых шрыфтавых касаў. Меркавалася, што набіраць і друкаваць газэту мы будзем у лесе.

Такім чынам, амаль усё было гатовае для працы лясной друкарні, але спачатку мяне, а пасьля і Ігара забралі ў войска, і скручаны ў „каўбасу“ фартух са шрыфтамі быў закапаны, казалі, у кагосьці ў вёсцы, а рэальны старт нашага падпольнага выдавецтва быў выкананы пазьней на друкавальнай машынцы.

Гэта я кажу для будучых археолягаў, якія калісьці адкапаюць нашу друкарню, каб ведалі, што гэта і навошта. Прывітаньне ад нашчадкаў Скарыны.

Вы пытаецеся, што намі рухала? Ідэйна мы яшчэ фармаваліся і амбітных задач, кшталту – зьмяніць сьвет – ня ставілі. Цяпер я думаю так: рухала вера ў сілу слова, з дапамогай якога мы зможам вярнуцца да сябе, у сваё рэчышча. Вось толькі адкуль тая вера ўзялася, трэба добра падумаць. Як надумаюся, абавязкова распавяду вам.

## „Выпраўляла маці сына дый на 25 гадоў“

Беларушчына адкрывалася на кожным кроку, у розных жанрах і штурхала да дзеяньня. Акуратны томік Янкі Саламевіча пра Міхала Федароўскага захапіў зьбіраньнем фальклёру, што ўяўлялася невераемным заняткам, бо вёска яшчэ сьпявала, а песьні ішлі з глыбіні часоў і ўтойвалі ў сабе ня толькі прыгажосьць, але і мноства загадак. Трэба было сьпяшацца, бо надышла восень, а ў лістападзе мяне, як студэнта вечаровага навучаньня, меліся забраць у войска. Пазычыўшы ў сябра партатыўны касэтнік „Весна“ (мы яго называлі на імпартовы манер „Беча“), я паехаў у Мялешкавічы.

Запіс атрымаўся так сабе, цяпер ён увогуле ніякі, але я вывучыў усе песьні на памяць. І тут не абышлося без супадзеньняў. Я ўжо за паўкроку ад войска, а яны сьпяваюць адну за адной рэкруцкія песьні. Сказаць, што яны такім чынам праводзілі мяне на службу, было б занадта прыгожай нацяжкай.

*Выпраўляла маці сына дый на 25 гадоў,*
*Дый на 25 гадоў.*
*Цераз 25 гадоў вараціс сынок дамоў,*
*Вараціс сынок дамоў.*

Іх было трое: мая бабуля Хвядора і дзьве яе раўналеткі, суседкі – Ксеня Ціханава і Настасься Дубавец.

Сьпявалі яны да самай ночы. А назаўтра я зьехаў у Менск. Дзіўная атрымалася экспрэс-фальклёрная экспэдыцыя за трыста кілямэтраў, на той час сур’ёзнае падарожжа. І зноў штуршок сыходзіў знутры, бо яшчэ два гады перад тым я зусім ня бачыў ніякае каштоўнасьці ў фальклёрных запісах, пагатоў ажно каб пёрціся ў такую далеч. Дакладней, проста ня думаў пра гэта. Саламевіч зь Федароўскім зьнялі мне „фільтар“.

Песьні пра рэкруччыну ня мелі ацэначнай афарбоўкі, проста расповед, найчасьцей з драматычнымі падзеямі, але былі і з пазытыўным канцом, што разбурала стэрэатыпныя ўяўленьні:

*У нядзелю рано,*
*шчэ й сонца ня ўсходзе,*
*Малады Іваня па казарме ходзе.*
*Па казарме ходзе,*
*У руках шаблю носе,*
*У руках шаблю носе,*
*Камандзіра просіць.*
*Камандзер ты маёр,*
*Адпусьці мяне дамоў,*
*Бо пакінуў дзяцей,*
*Яшчэ й трое дзетак.*
*Не пушчу я цябе,*
*Не пушчу самога,*
*Ды бяры з сабою*
*Каня варанога.*

Тое, што Федароўскі і баба Хвядора – яшчэ адзін абэртон, я зразумеў пазьней. Гэта як нейкія нябачныя ніткі, што сплятаюцца ў дзіўныя жывыя скульптуры, якімі ёсьць мы самі, але збольшага пра гэта нічога ня ведаем, хоць і бачым штодня ў люстэрку. А яны ж урэшце тлумачаць нашы думкі і ўчынкі, наш выбар. І аказваецца, што ўсё, што нас дзівіць у нас саміх, абумоўленае гэтымі абэртонамі.

Пяюць два галасы, а чуваць тры. Трэці – гэта і ёсьць ты сам. Я гляджу на акіян і згадваю, што з самых малых гадоў быў марскім фэтышыстам. Усё ў мяне было марское: і вопратка, і абутак, і відэлец з лыжкай, і нават санкі, на якіх узімку катаў-

ся з гары. Да чаго б гэта? Быццам ніякіх відавочных прычын. А вось вам і адказ. Такі лёс, які круціць намі, як захоча, і насамрэч задуманы яшчэ да нас, да нашага нараджэньня. Праграма твайго вечнага вяртаньня.

Вы трапна заўважылі – акіян – гэта таксама вобраз вяртаньня: прылівы, адлівы і хвалі, якія сыходзяць і вяртаюцца, нешта сьціраюць, а нешта застаецца... А яшчэ, глядзіце, паказаўся месяц. Ён тут такі, рожкамі ўніз. І гэта як намёк, каб ты не расслабляўся – чэрці зазіраюць у нашы душы, яны нікуды не падзеліся, яны заўсёды побач...

Сьпявалі на тых вячорках, вядома ж, ня толькі пра рэкрутаў, а пра шмат якія сэнсы, нават тыя, што нібыта сталі актуальнымі толькі сёньня.

*Ой там на пакосі*
*Васіль сено косіць,*
*А за ім Маруся*
*дзецінанько носіць.*
*Васіль, Васілю,*
*на тваю дзяціну,*
*А калі ня возьмеш,*
*пад косаньку кіну.*

Гэта не пра хатні гвалт, а, хутчэй, наадварот. Я б назваў гэта жаночай песьняй скутай сваволі, пра нерэалізаваны фэмінізм, пра жаночы пратэст супраць дысгармоніі ў адносінах з партнэрам, або і ўсім гэтым несправядлівым сьветам. Вы ня верыце ў такія „тонкасьці“ ў забітай вёсцы ў пазамінулым стагодзьдзі (большасьць песень адтуль)? Дарма.

Між іншым, апроч здольнасьці прачытаць усё напісанае па-беларуску, маё пакаленьне апошняе, якое сьпявала і ведала мноства народных песень. Гэта было акурат у студэнцкія часы. Ехалі, напрыклад, электрычкай на Купальле ў Вязынку і ўчынялі сьпеўныя марафоны – хто болей песень ведае. Аднойчы я выйграў такі марафон, прасьпяваўшы за раз больш за сто песень. І былі таксама полечныя марафоны. Полька, каб вы ведалі, самы энэргазатратны танец. Вось жа, выходзіла дзясятак пар, і танчылі датуль, пакуль не заставалася толькі адна пара, апошняя. У тыя часы мы былі пад уражаньнем фільма пра „загнаных коней“, якіх „прыстрэльваюць“.

## Грузінская песьня

У вайсковым каранціне пад Вільняй былі дашчаныя казармы і мароз пад сорак градусаў, былі сяржанты – круглатвары Абуладзэ і востратвары Геаргадзэ, былі 50 беларусаў, якіх традыцыйна набіралі менавіта столькі ў Менскі полк, што месьціўся ў Вільні, былі рэкруты зь Сярэдняй Азіі, якія нічога не разумелі па-расейску (казалі, што іх „зьнялі з гор“), былі расейцы і былі грузіны. Апошнія моцна ўразілі на пляцы падчас страявой падрыхтоўкі. Мы, беларусы, неяк адразу сталі каробачкай, прайшлі без праблем нага ў нагу і адышлі на перакур. На наша месца выйшлі грузіны.

Ну, ніяк не атрымлівалася ў іх трымаць каробачку, а пагатоў ісьці нага ў нагу. Ногі ня слухаліся і розумы працівіліся гэтай зусім непатрэбнай у жыцьці навуцы. Зразумела, што яны стараліся з усіх сілаў, але што тут паробіш.

Калі грузінаў адправілі ў курылку, яны былі ў моцным стрэсе і плакалі. Уяўляеце? Трыццаць маладых мужчын кураць і плачуць. І тут адбылося тое, што запомнілася да сёньня. Праз гэты адчайны плач прабіўся сьпеў. Спачатку адзін голас, два, тры, і вось ужо ўвесь узвод хорам сьпявае сваю грузінскую песьню.

Пад Новы год нас перавялі ў гэты самы Менскі полк, які месьціўся ў комплексе старажытнага кляштара адразу за касьцёлам Пятра і Паўла на Антокалі. Тут нічога не мянялі з даўніх часоў, і нашы двух’ярусныя ложкі стаялі ў манаскіх кельлях. Я як

журналіст трапіў у аддзяленьне дывізійнай газэты, дзе ўсе былі літоўцы, апроч аднаго расейца. Побач жылі літоўцы – музыкі вайсковага аркестра. Астатнія рэкруты патрапілі пераважна ў канвойную і ахоўную службу (гэта былі ўнутраныя войскі) або ў мотастралковы батальён – поўзалі на жываце па засьнежаных палях, так пра іх казалі.

Вокны казармы выходзілі проста на касьцёл, дзе я тады ні разу не пабываў. Магчыма, нам і не забаранялі, але была нейкая ўнутраная засьцярога, бо натоўп людзей на Вялікдзень успрымаўся ледзьве не як антысавецкі мітынг.

У рэдакцыі газэты „Во имя Родины“ афіцэры адразу спыталіся пра маянэз. Справа дагэтуль выглядае дзіўнай. Колькі і хто б ні прыяжджаў адведаць мяне зь Менску, заўсёды везьлі для літоўцаў слоічкі з маянэзам. Як у сельскагаспадарчай Літве магло ня быць маянэзу, загадка, пагатоў мая жонка сама зробіць маянэз за пяць хвілін. Я наўмысна не занураўся ў гэтую тэму, каб дзіўны ўспамін заставаўся дзіўным.

Я быў адзіны „зялёнка“ ў аддзяленьні, таму астатнія, дзяды, клапатліва бралі мяне з сабой. Пад вечар мы сядалі ў вайсковага „казла“ і праз увесь стары горад на вялікай хуткасьці дакручваліся да вуліцы Партызану, якая цяпер называецца Наўгардуко – да інтэрнату паштовых работніц. Гэтыя работніцы ўсе былі зь Беларусі, з Ашмяншчыны, і аказвалі пэўныя паслугі вайскоўцам. Так казалі. У нас быў расеец з Ноўгараду Заўялаў, які сур'ёзна закахаўся ў паштовую работніцу і маляваў яе партрэты. Я быў, здаецца, занадта малады для такога разгулу, а для такіх было прадугледжана шмат гарэлкі. Я курыў на гаўбцы сярод таго зімовага дажджу пасярод ночы і думаў пра сваё.

Праца ўсіх дывізійных газэт рабілася аднолькава. Пра што сьведчылі гадавікі такіх самых газэт з Сыктыўкара і іншых дальнядальніх краёў. То бок дывізійныя газэты пэўных войскаў выпісвалі „профільныя“ выданьні з розных мясьцінаў Савецкага Саюзу. Не для таго, каб чытаць навіны ці нейкую аналітыку, бо гэтага ў газэтах папросту не было. А для таго, каб я браў там, напрыклад, расповед пра якога-небудзь туркмена, выдатніка баявой і палітычнай падрыхтоўкі, які стаяў на турэмнай вышцы, пасьля ішоў у роту і знаходзіў там „свайго“ туркмена, запісваў ягонае прозьвішча і рабіў фотку. Пасьля перадрукоўваў артыкул пра сыктыўкарскага туркмена на машынцы, устаўляючы замест ягоных зьвесткі „свайго“ туркмена, гэта ўсё прачытваў рэдактар, палкоўнік Даўгела, рабіў або не рабіў там праўкі і аддаваў на лінатып, дзе туркмена набіралі ўжо ў мэталe, і мэтранпаж на сваім варштаце складаў мэталічныя радкі ў газэтныя палосы, з гэтага рабілася адмысловая форма, якую накладалі на барабан друкарскага станка. Высокі друк, такія справы.

Сказаў пра выдатніка *палітычнай* падрыхтоўкі і падумаў, што ў 1970-я не было такой засьцярогі – „не палітызаваць“. Упершыню я пачуў яе ад Яфрэма Сакалова, першага сакратара ЦК КПБ, які паспрабаваў выступіць перад рабочымі на плошчы Незалежнасьці ў Менску і якога рабочыя сагналі з трыбуны за тое, што, сабраўшыся выступаць, ня зьняў з галавы аблавуху. „Не нада паліцізіраваць“, здаецца, усё, што ён пасьпеў сказаць.

Але ў 1970-я „палітызаваць“ не забаранялася. Нібыта ўвесь народ удзельнічаў у палітыцы, хоць гэта было ня так. Было якраз наадварот – ніхто і ня думаў пра палітыку. Гэта цалкам зьява нашага часу, калі віцэ-прэм'ер зь Беларусі, выступаючы ў Вільні на пахаваньні Каліноўскага ў 2019-м, завяршае гэтымі словамі сваю прамову пра першага беларускага палітыка – „Ня трэба палітызаваць“.

## Пакуль не прыйшоў Вітас

Сем постацяў у шынялях штодня а дзявятай выходзяць з КПП Менскага палка, абыходзяць касьцёл Пятра і Паўла, прамінаюць справа аднапавярховую камяніцу, дзе калісьці будзе брытанскае пасольства і я буду атрымліваць брытанскую візу на запрашэньне айца Надсана, крыху далей у бок Антокалю яны бачаць невялікі

прыгожы палацык акадэмічнага інстытуту літаратуры (там да Альмы Лапінскене прыехаў Адам Мальдзіс), яшчэ далей у сваім доме зь ільвамі малюе карціну Пётра Сергіевіч. Зьлева застаецца вуліца Летняя, дзе жыве Зоя Каўшанка-Кратовіч, у якой я калісьці буду гасьцяваць і запісваць успаміны, а нават капаць яму пад каналізацыю, калі да пані Зоі пераедзе жыць Сяргей Шупа зь сям'ёй. Далей мы прамінаем квартал жылых двухпавярховікаў у „гуманістычным стылі" беларускага архітэктара Лявона Дубейкаўскага, якога Сяргей Харэўскі назаве Купалам у архітэктуры. Усяго гэтага я ня ведаю, а таму не магу думаць пра гэта, адно хутаюся ў свой шынэлак, бо паветра золкае ў тую бясьсьнежную зіму. На прыпынку „Мяно мокікла" мы сядаем ў звычайны тралейбус і едзем пару прыпынкаў па вуліцы Касьцюшкі, прамінаючы Школу мастацтваў імя Чурлёніса, дзе некалі я буду ўдзельнікам шматлюднага ўстаноўчага зьезду Таварыства беларускай культуры ў Літве, далей – будынак будучага пасольства Ватыкану і натарыяльная кантора, дзе некалі давядзецца афармляць дзясятак розных справаў, і бібліятэка Акадэміі навук, дзе я буду праседжваць дні ў аддзеле рэдкай кнігі, кіраваць якім будзе пані Ніна Ляшковіч, дарэчы, спыняцца я буду ў яе дома, у аднапакаёўцы. Вечарамі спадарыня Ніна, шчырая беларуска, будзе шмат наракаць на літоўцаў, асабліва на свайго непасрэднага начальніка, дырэктара акадэмічнай бібліятэкі Ёзаса Марцінкявічуса. Але я яшчэ ня ведаю пра яго нічога, затое ведаю, што высокі хударлявы хлопец, мой армейскі „дзед", які ідзе наперадзе, адразу за Вітасам, ягоны сын, таксама Ёзас Марцінкявічус. Тады літоўцы мусілі ўжываць на расейскі манер імёны па бацьку, і мой „дзед" называецца крыху сьмешна – Ёзас Ёзо. У друкарні ён звычайна падмятае падлогу доўгай мяцёлкай, а ў мінулую суботу мы былі ў яго дома на праспэкце Чырвонай арміі, які ў народзе называюць „Краснухай", а сёньня ён называецца Саванору (Добраахвотнікаў) і таксама „Краснухай", дзе я ўнурыўся ў хатнюю бібліятэку Ёзаса старэйшага, а Ёзас малодшы, карыстаючыся адсутнасьцю бацькі, падарыў мне дзьве кніжкі з бацькавай бібліятэкі: „Беларуская сялянска-рабочая грамада"і „Литовцы под гнётом фашистской Польши".

Акадэмічная бібліятэка застаецца справа, а зьлева мы прамінаем Нацыянальны музэй, дзе захоўваецца калекцыя Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча, а некалі будзе працаваць масонская лёжа „Гарлівы літвін", у якую я ўступлю (што ты будзеш рабіць з гэтымі паваротамі лёсу), уступяць іншыя і паўстане беларуская лёжа „Скарына". Пакуль жа я толькі шчыльней насоўваю шапку на вушы, якія пачынаюць падмярзаць, і мы выходзім на Катэдральны пляц, перасякаем яго па дыяганалі, каб увайсьці ў самую турыстычную сёньня вуліцу Вільні, якая складаецца з Замкавай, Вялікай і Вастрабрамскай, а тады мела адно найменьне – вуліца Горкага.

Усё тут дыхае старажытнасьцю, невядомасьцю і заняпадам. Будынкі зусім ня лялечныя, як сёньня, а абдзёртыя, шэрыя, без выгодаў. Я яшчэ ня ведаю, што тут хаваўся і быў схоплены Каліноўскі і яшчэ процьму гістарычных фактаў пра пэрсанажаў беларускай гісторыі, якія тут жылі, дзейнічалі і паміралі. Сёньня цяжка ўзнавіць тыя пачуцьці, якія абуджала ўва мне старая Вільня. Здаецца, гэта нават не пачуцьці былі, а прадчуваньні таго жыцьця, якое я пражыву менавіта тут. Старая Вільня гаварыла на беларуска-польска-расейскай мяшанцы і ўспрымалася неяк асобна ад літоўскасьці, чым таксама нараджала мноства пытаньняў.

Вось і наш штаб дывізіі, які сёньня – пяцізоркавы гатэль „Пацы" (колішняя сядзіба знанага роду). Ён выходзіць вокнамі на Мікалаеўскую царкву, і ў ім месьціцца наша рэдакцыя зь яе інтарэсам да маянэзу. Тутсама друкарня, якую падмятае Ёзас Ёзо, і аграмадныя сутарэньні, у якіх калісьці абсталявалі афіцэрскую сталоўку, але пры мне яна не працавала. Пачынаецца працоўны дзень, і я атрымліваю заданьне ехаць на зону, шукаць свайго туркмэна.

Вяртаемся ў казармы мы ўжо самі, бязь Вітаса. Такі нясьпешны, расслаблены, нічым і нікім не нармаваны пешы шлях праз Зарэчча, адзін з найбольш занядбаных,

а цяпер – найбольш элітарных раёнаў Вільні. Тут сушыцца бялізна на вяроўках у дварах са студнямі, а на пляцы, дзе рыначак, ёсьць шапік зь півам, прычым можна выбіраць сьветлае і цёмнае, разьліўное. Калі мы маем грошы, дык купляем гарэлку і закуску, разьмяшчаемся над глыбокім ярам Крывога гораду, у Нагорным парку на зялёнай траве пад вечаровым летнім сонцам. Літаральна за 200 мэтраў адсюль калісьці я пражыву ў дамку на вуліцы Філарэтаў тры гады. Натуральна, цяпер я гэтага ня ведаю і не магу дапусьціць у самых буйных фантазіях. Застаецца спусьціцца з гары, і мы неўзабаве апынаемся перад КПП Менскага палка.

Усё гэта будзе ў дзевяць, калі прыйдзе Вітас. Круглатвары ўсьмешлівы прапаршчык-Швэйк. А яшчэ няма і васьмі.

Банкас, скрыпач з вайсковага аркестру, у трусах і майцы, зь вялікай жалезнай конаўкай гарбаты паліць з намі пасярод умывальні і распавядае пра тое, як у цывільным жыцьці гастраляваў у Нью-Ёрку. Сваёй каржакаватай квадратнай постацьцю ён нагадае мне Марка Мермана ў наступным жыцьці. Я палю Беламор, бо чамусьці спадзяюся перабіць ім кашаль, выкліканы ці то прастудай, ці то частымі цыгарэтамі.

Між іншым, зь Мерманам я таксама пазнаёміўся ў вайсковай форме – на вайсковай катэдры БДУ журналістаў вучылі разам зь філёлягамі, і на зборах пад Слонімам у кодабе вялікай вайсковай машыны мы будзем ехаць праз ранішні лес.

Машына едзе пад галінамі дрэваў, што схіляюцца над гравейкай – як праз аранжарэю. Марк Мерман раптам запявае прыгожым голасам: „Утро туманное, утро седое...“ Я далучаюся: „Нивы печальные, снегом покрытые...“ Пеця Марцаў падхоплівае: „Нехотя вспомнишь и время былое...“ І цяпер ужо ўвесь кодаб разам: „Вспомнишь и лица, давно позабытые...“

40 гадоў таму. І на ўсё жыцьцё. Шуміць машына, і ўвесь грузавік ператвараецца ў зладжаны хор...

Мы прыяжджаем у частку, і я атрымліваю тэлеграму ад Анатоля Сідарэвіча: *Памёр Караткевіч...*

Але гэта будзе ў 1984-м. А пакуль...

Вітас прыйдзе ў дзевяць, і можна яшчэ пачытаць „Беларускія балады“ ці „Wędrówki po moich niegdyś okolicach“ Сыракомлі, рэпрынт якіх даслаў мне зь Менску Гермянчук, а я ўжо тут у друкарні пераплёў у кніжку і зьбіраюся перакладаць... Можна і проста пакуль прылегчы на маім верхнім ярусе. І падрамаць. Пакуль не прыйшоў Вітас.

## „Крывавы пуф“

Дзе ў Маскве жыве Віця Радзівонаў, я ня ведаў, пасьля войска мы страцілі сувязь. Але вось я апынуўся на нарадзе маладых пісьменьнікаў СССР і выйшаў паглядзець горад. Літаральна праз 15 хвілін з мэтро насустрач мне падымаецца Віця. У 15-мільённым горадзе...

У менскім Белпалку, куды мяне перавялі зь Вільні, мы зь Віцем гулялі ў прэфэранс, пілі шмат кавы і шмат пісалі. Напрыклад, цэлы раман пра Ўсевалада Ўладзімеравіча Крастоўскага, пры тым, што яго імя – гэта было амаль усё, што мы пра яго ведалі. Яшчэ хіба ведалі, што гэта 19 стагодзьдзе і што раманная трылёгія Крастоўскага мела назву „Крывавы пуф“, гэта значыць, „Крывавы пшык“ – так ён пайменаваў паўстаньне Каліноўскага, зь якім разам вучыўся ў Пецярбурскім унівэрсытэце. Але пра гэта мы яшчэ ня ведалі. Усё астатняе, што мы пра яго напісалі, было „выдумкай нашай галавы“ і, як пасьля высьветлілася, не адпавядала сапраўднасьці. Затое цалкам адпавядала жанру.

Працэс пісаньня мы называлі *jam session*. Для мяне гэты жанр нарадзіўся на вечаровым журфаку, калі падчас лекцыяў двое (пасьля спрабавалі пісаць і ўтрох, і ўчатырох) складалі па чарзе і па радку сваю дзіўную прозу. Самы першы такі твор

мы напісалі зь Ігарам Герменчуком – гэта быў дзікі трылер пра савецкага шпіёна Жыдава. Крыху пазьней, захапіўшыся жанрам радыёп'есы, мы зь Ігарам начыталі гэтага Жыдава на магнітафон, натуральна, з музыкай, мноствам спэцэфэктаў і страшных крыкаў.

Чаму Крастоўскі? Хутчэй за ўсё таму, што ў савецкіх даведніках яго называлі пісьменьнікам-рэакцыянэрам. А гэта гучала як задача для цэлага расьследаваньня. Што за чалавек такі і пісьменьнік – рэакцыянэр. Пры тым, што талентам сучасьнікі параўноўвалі яго з Дастаеўскім, але праверыць гэта было немагчыма, бо Крастоўскі ў тыя часы быў забаронены. Як з такім наборам характарыстык не натхніць на раман пра сябе?!

Пісалі па чарзе, адзіным тэкстам, імкнуліся кожны ўразіць, насьмяшыць, азадачыць адзін аднаго і разам угаралі ад сьмеху. Пісалі ў перапынках паміж перапісваньнем сыктыўкарскіх газэт і хаджэньнем у роту на пошукі туркмена.

Зьмест складаўся з буйных загулаў маладога бамбізы па „нізах жыцьця“, наш герой то шукаў бога, а знаходзіў чорта, то трапляў на паседжаньне засяроджаных а-ля тургенеўскіх нігілістаў, якія праз саломінку надзімалі жабу...

Адкрытая пазьней сувязь з Каліноўскім сьведчыла, што наш выбар героя проста ня мог быць выпадковым, а быў менавіта рэакцыяй на рэакцыянэра.

У рэдакцыі і друкарні газэты „Боевой призыв“, якія былі ў адным будынку, разам з КПП Белпалка, тыражавалася ня толькі гэтая газэта, але і дарэвалюцыйны падручнік „Хірамантыі“, і нейкія інструкцыі лекавага галадаваньня, словам, тое, што сёньня можна знайсьці разам зь цяперашнімі „Боевыми призывами“ ў шапіках Белдруку. Чаго там ня знойдзеш, дык гэта лінарытавых партрэтаў каралевы Боны і Вітаўта Вялікага, зробленых на маю просьбу мастаком Пашам Кулікам зь Днепрадзяржынску. Партрэты былі адкатаныя ў кардоне на станку немалым накладам і пасьля яшчэ доўга разыходзіліся паміж удзельнікамі „Майстроўні“ і „Талакі“. Друкаваўся там ужо і падпольны часопіс „Люстра дзён“, праўда, не на станку, а на машынцы на папяроснай паперы пад капірку, адна закладка – 32 асобнікі.

Праз вакно рэдакцыі, якое выходзіла на цывільную Грушаўскую вуліцу, мы зь Вінцуком праводзілі свае рэдакцыйныя нарады, рыхтавалі нумар да 1000-годзьдзя Беларусі. Галоўныя тэксты пісаў Вінцук. А аднойчы ён прывёў з сабой даўгавалосага бляндына ў чорным дэрмацінавым паліто. Гэта быў Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён атрымаў заданьне, адышоўся па Грушаўцы ў глухое месца, дзе праходзілі чыгуначныя рэйкі, і вярнуўся адтуль зь вершам, якім мы і адкрылі нумар. Аўтар выступаў пад псэўданімам Казімір Усюдыгнаны:

<...>
*Гісторыю нашу ўшчэнт*
*Разьнесьлі. У сілы права.*
*І нейкі сьляпы дацэнт*
*Адмовіў маю дзяржаву...*

У армейскай газэце я зьбіраў інфармацыю пра сваіх туркменаў, часам езьдзіў для гэтага на „зоны“, дзе служылі вартавыя, пісаў і друкаваў тэксты на машынцы, набіраў на лінатыпе, мэтранпажыў, мог зрабіць форму і адкатаць яе на друкарскім станку... Словам, набыў такіх умельстваў, што мог сам адзін зрабіць „Боевой призыв“, і ў якіх сёньня не засталося патрэбы, хіба што пісаньне і рэдактура тэкстаў – тое, што прайшло са мной праз усё жыцьцё. Апошні раз да варштату мэтранпажа мяне паклікалі ў канцы 1980-х, калі сябры нанялі на ноч друкарню ў Ігналіне і мы парай машын ехалі празь цямнюшчы лес зь нерэальна тоўстых векавечных ялінаў. Там, у ігналінскай друкарні, я шыхтаваў у мэтале Праграму БНФ.

Турэмнае жыцьцё, у якое цяпер так ці інакш уцягнутае ўсё грамадзтва, тады было

закрытае, і даведацца пра яго нешта можна было хіба што на службе. Але яно мала каго цікавіла, бо сядзелі тады не за погляды, а за крымінал. Белполк часам учыняў жорсткія разгоны „бунтаў на зонах“, што было ў парадку рэчаў. Пра гэта маглі захоплена распавядаць узводныя, а афіцэры і прапаршчыкі з настальгіяй згадвалі, як увесь гэты полк у 1968-м сярод ночы за 45 хвілін перасеў з казармаў у самалёты і паляцеў у Чэхаславаччыну – „усмирять“. Прадметам гонару і павучаньня тут былі гэтыя самыя 45 хвілін. Пра палітычных на зоне я ня чуў.

## „Камэдыя“ Марашэўскага

Мой рахманы сябра Антанас зь Вільні служыў у „Боевом призыве“ фатографам і цэлыя дні праседжваў у сваёй лябараторыі. А паколькі фотак сваіх туркменаў у нумар газэты патрабавалася няшмат, дык асноўная ягоная праца палягала ў пераздымцы замежных порначасопісаў, якія прыносілі афіцэры, у здымках для дэмбельскіх альбомаў, словам, у выкананьні розных „левых“ фотазамоваў.

Масквіч Віця Радзівонаў ставіўся да Антанаса іранічна, але настойліва па-ксэнафобску і называў яго „литов“. Мне гэта было цалкам незразумела, бо дабрадушны і надзейны ў кожнай справе Антанас проста ня мог выклікаць будзь якіх адмоўных эмоцыяў. Пазьней я зразумеў, што гэта чыста маскоўскае стаўленьне. І калі ў Беларусі проста ня знойдзеш ксэнафобіі да літоўцаў, дык у Маскве гэта норма, і ня толькі ў адносінах да літоўцаў. А іранічнасьць характэрная для інтэлектуальна разьвітых маскавітаў, якія проста ня могуць так прымітыўна выяўляць сваю бытавую нянавісьць.

Антанас тым часам зацікавіўся беларушчынай і маімі адкрыцьцямі ў ёй. Акурат нядаўна выйшла кніга Адама Мальдзіса „На скрыжаваньні славянскіх традыцый“. Датуль лічылася, што ў 18-м стагодзьдзі беларуская літаратура зрабіла перапынак, проста нічога не пісалася і не выдавалася. Датуль і пасьля ўсяго хапала, а ў 18-м стагодзьдзі – цішыня. Дык Мальдзісава кніга падняла цэлы вялізны забыты пласт аўтараў і твораў менавіта за гэты пэрыяд.

„Камэдыя“ Каятана Марашэўскага была акурат з 18 стагодзьдзя. Чамусьці Антанас захапіўся ёю і вырашыў ня толькі перакласьці на літоўскую, але і паставіць на сцэне, прычым ня толькі як п’есу, а як мюзыкаль. Ну, і мы заселі за працу. Яшчэ адна дзіўная гісторыя, якую не прыдумаеш.

Неўзабаве Антанас закончыў службу, вярнуўся ў Вільню і наша праца працягвалася ў перапісцы. У Вільні ў нейкім тэхнікуме Антанас сабраў трупу для свайго мюзыклю. А былі ў той трупе адныя дзяўчаты.

Некаторых зь іх я бачыў, калі пасьля войска прыяжджаў да Антанаса на госьці. Ён наймаў малюсенькую бакоўку на вуліцы Субач у вялікім мадэрным доме. Нават пакоем тое памяшканьне не назавеш, бо там не было вакна, а ўсю прастору ў трохкутнай бакоўцы займалі ложак і тумбачка, на ёй – цагліна, аплеценая дротам, для абагрэву. І калі прыходзілі дзяўчаты з „Камэдыі“ Марашэўскага, усе прысутныя з нагамі залазілі на ложак, бо паставіць ногі не было дзе.

Антанас працаваў асыстэнтам у знакамітага літоўскага фатографа Суткуса, таксама Антанаса. Літоўская фатаграфія грымела ў Савецкім Саюзе і за мяжой. Суткус мог за сэсію зьняць дзясяткі стужак (гэта была аналягавая фатаграфія), пасьля асыстэнты ўсё гэта праяўлялі і кантрольки паказвалі мэтру. Бывала, што ён не выбіраў ніводнай. А калі выбіраў, шэдэўр друкаваўся ў вялікім фармаце і ў бездакорнай якасьці.

Аднойчы я дамовіўся зь Нінай Ляшковіч і Янкам Багдановічам, былым рэдактарам часопіса „Шлях моладзі“, на вандроўку па беларускіх мясьцінах Вільні. І мы выправіліся на цэлы дзень. Антанас здымаў, а я запісваў інфармацыю.

Пераглядаючы тыя здымкі, я чамусьці ўспрымаю іх як адкрыцьці для сучасьніка

беларускіх мясьцін „на сёньняшнім матэрыяле“. Вось у гэтым доме была друкарня „Пагоня“, а ў суседнім беларускія студэнты спалі проста на сене, а яшчэ ў суседнім жыў Ян Пазьняк... Хоць, падумаўшы, гэтым здымкам амаль паўстагодзьдзя і сама тая фотасэсія ўжо даўно гісторыя. Вось... Зь іншага боку, нішто не састарэла, усе аб’екты той беларускай Вільні на месцы і сёньня.

## Прачос картатэкі ў „ленінцы“

З войска я, вядома ж, вярнуўся, але вярнуцца на вечаровы журфак ня мог, бо яго ўжо не было.

Я ўжо казаў вам, што ў войска я прыйшоў адзіным „салагам“ у аддзяленьні, а сыходзіў з войска адзіным „дзедам“. Ня ведаю, наколькі гэтая градацыя важная сёньня, але ў канцы 1970-х яна была надзвычай істотнай і адлюстроўвалася ў разнастайных рытуалах і ў армейскім фальклёры. Да прыкладу, „малады“ перад адбоем мусіў стаць на зэдлік і пракрычаць: „Дембель стал на день короче, старикам спокойной ночи“. Абыходжаньне гэтых „старыкоў“ з „маладымі“ дасягала сапраўдных зьдзекаў і прыніжэньня, што мяне цалкам абмінула, бо і „маладым“, і „дзедам“ у сваім асяродку я быў сам адзін, і адносіны і ў першым, і ў другім выпадку выліваліся ў клопат пра мяне, на што я, натуральна, адказваў узаемнасьцю, таму асабіста для мяне два гады ў войску пакінулі спакойную памяць.

І вось, паколькі вечаровага журфаку больш не было, давучваўся я на дзённым, дзе на два гады маладзейшыя студэнты ўспрымаліся зусім дзецьмі, і ставіўся я да іх, як да сваіх салагаў у гарнізоннай газэце. Праз паўгода далучыўся да нас і Ігар Гермянчук.

Гэта быў выбітны курс. Сяргея Навумчыка мы называлі „папераедам“, бо, чытаючы канспэкт, ён абрываў палі аркуша і адпраўляў паперу сабе ў рот. Мазгавы працэс адбываўся як унутры, так і звонку ягонай кучаравай галавы. На курсе было ажно два Барысы Сачанкі. Уяўляеце? Пасьля пасьпяховага старту ў Менску іхнага дзядзькі Барыса Сачанкі ўсіх Сачанкаў у Вялікім Бары пад Хойнікамі называлі Барысамі, што стварала нязручнасьць выкладчыкам, якія мусілі называць іх імем па бацьку. Адзін быў Барыс Мікалаевіч, а другі Барыс Пятровіч – ён так і ўвойдзе ў літаратуру, стане сапраўдным празаікам, рэдактарам часопісу „Дзеяслоў“ і выбітным кіраўніком пісьменьніцкага саюзу.

Шура Германовіч пісаў вершы пра свой студэнцкі інтэрнат: „Ввалились шумные вьетнамцы, вставай, земляк, пора на танцы!“, дзяўчынкі-зубрылкі начытвалі дзясяткі зададзеных таўшчэзных раманаў і ў ноч перад іспытамі пераказвалі іх нам зь Ігарам, бо наша занятасьць праграмай па літаратуры была для нас не ў прыярытэце, Валодзя Дашук рыхтаваўся стаць рэжысэрам-дакумэнталістам, а Валодзя Сяменчык пісаў вершы і блізка ня мог сабе ўявіць, што стане кіраўніком пісьменьніцкай арганізацыі Сахаліну...

Самым жывым і важным для мяне чалавекам на курсе была Таня Сапач, яна проста запальвалася кожнай справай. Калісьці яна стане маёй жонкай, а пакуль мы, апроч навукі, хаджэньня ў „Майстроўню“, а таксама пісаньня тэкстаў у самых розных жанрах, вандравалі па Беларусі і, як я ўжо казаў вам, зусім не разглядалі гэты занятак як турызм.

Але найбольш часу забірала сядзеньне ў „ленінцы“.

Пляніда беларушчыны аказалася настолькі бяскрайняй, разнастайнай і невядомай, што ў „ленінцы“ замаўлялася і канспэктавалася процьма ўсяго ўсякага. Дзясяткі кніг пра ўніяцкую царкву, напроч забытую, а пры тым самую беларускую, томікі Турука, Пічэты, Анучына, Фартунатава, Чапуркоўскага... Сацрэалістычны зборнік „Песьні грузчыкаў“ Будавея і Субача. Сацрэалізм у тыя часы лічыўся мэйнстрымам у літаратуры, але яго чыстыя ўзоры ўжо ў мае маладыя гады забаўлялі сваім абсурдам, таму і яны ўспрымаліся як знаходка.

Цэлая кніга „Баявыя будні“ пра візыт Варашылава ў Менск зь вершам Петруся Броўкі, які называўся „Климент Ефремович“. Броўка пісаў па-расейску? Я фіксаваў кожную дробязь, што выбівалася са стэрэатыпных уяўленьняў, і таму, што элемэнтарна ўсяго гэтага ня ведаў, і таму, што тая „дробязь“ магла, я так адчуваў, сама раскрыцца ў цэлую кнігу ці, прынамсі, артыкул і стаць адкрыцьцём для ўсіх.

Часам чапляла вока сама назва кнігі – „Предварительный отчет по качественному изучению литовско-белорусского скота в Минской губернии“ (1913) або „А.А. Жданов в борьбе за коммунистическую идейность советской литературы и искусства. Автореферат на соискание ученой степени кандидата филос. наук“ (1953). Апошняе ўразіла прозьвішчам „соискателя“ – нашай выкладчыцы на журфаку Ефрасіньні Бондаравай.

Паралельна лічылася статыстыка, што таксама часта ўражвала і фіксавалася ў нататніках. Напрыклад, што Віталія Біянкі да вайны ў перакладзе на беларускую мову выйшла 17 кніг, а пасьля вайны – у Менску – 5 кніг па-расейску па некалькі соцень старонак кожная і 4 ценькія па-беларуску.

Вышукваліся асьцярожныя згадкі пісьменьнікаў пра сталінскія рэпрэсіі. Тэма была настолькі табу для ўсіх, што як бы і не існавала наогул. Яшчэ пару гадоў да таго, гартаючы даведнік „Пісьменьнікі савецкай Беларусі“, я раптам заўважыў, што амаль усе даваенныя творцы „памерлі“ ў адзін год – 1937-ы. Прычым лік ішоў не пра адзінкі, а пра многія дзясяткі пераважна маладых людзей. Напачатку я нават не ўспрыняў гэта як трагедыю, а толькі як сваё асабістае адкрыцьцё, сваю асабістую эўрыку, пра што трэба абавязкова напісаць, калі ўдасца неяк абхітрыць цэнзуру – у афіцыйным друку, а калі не – у падпольным. Калі яны ўсе вось так узялі ды памерлі ў трыццаць сёмым, дык... можа быць, іх расстралялі?

Урэшце я прыйшоў да высновы, што цікавага ў гэтых картачных каталёгах занадта шмат, каб усё можна было вылавіць мэтадам тыку, а прапусьціць нешта для мяне, зараджанага духам шукальніка скарбаў, было недаравальна. Я накрэсьліў схему картатэкі, што складалася з больш чым сотні шуфлядаў, у кожнай тысячы картак, і пачаў татальны прачос.

За суседнім сталом вадзіў носам па кніжных старонках Мікола Ермаловіч, дзесьці ў калідоры чуваць быў голас Віталя Скалабана, філёлягі, гісторыкі, літаратуразнаўцы працавалі паводле сваіх тэмаў, наводак, вызначаных плянаў, абмежаваныя часам. Я разумеў, што ніхто такім заўзятым чынам прачэсваць бібліятэку ня будзе. Мне ж гэты занятак уяўляўся найбольш вартым, каб займаць ім час ці ў часе лекцыяў на дзённым журфаку (куды я вярнуўся з войска, бо вечаровага ўжо не было), ці пасьля іх, і я пільна адсочваў кожную кнігу, якая магла нечым зьдзівіць. Цяпер не згадаю дакладна, але траціну картак я прагледзеў дакладна. Схема прачосу засталася ў Менску.

<...>

## „Мяшаецца праўда і зло“

Па-сур'ёзнаму друкавацца мы зь Герменчуком пачалі ў „Голасе Радзімы“. Газэта лічылася гэбісцкай, але апекаваліся намі там Валянціна Трыгубовіч і Тацяна Антонава, якія мелі цалкам прабеларускія погляды. Газэта выходзіла нібыта для замежных беларусаў і магла сабе дазволіць казаць больш за іншыя, напрыклад, вялікі пазытыўны рэпартаж з Зэльвы пра паэтку Ларысу Геніюш, што была пад строгім наглядам КГБ пасьля ГУЛАГу ды так і не прыняла савецкага грамадзянства, называўся „Гасьцінны дом на вуліцы Савецкай“. Пры тым прадавалася і выпісвалася газэта ў Беларусі нароўні зь іншымі. Плюс – не пісала пра прывагі і надоі, не друкавала камуністычных заклікаў, да ўсяго шчыра прыняла нас як маладых журналістаў і давала заданьні, зьвязаныя з культурай. Ігар там і пачаў сваю

прафэсійную кар’еру. А я аддрэйфаваў у “ЛіМ”, падобную тэматыкай газэту, дзе большая свабода тлумачылася ня толькі профілем выданьня, але і пісьменьніцкім умельствам, а таксама воляю рэдактара Алеся Жука.

Аднойчы ён надрукаваў маю рэцэнзію на кнігу Рыгора Семашкевіча, у якой я ўмудрыўся даць цытату гэтага аўтара зь ягонага артыкулу ў часопісе „Литва литературная“, дзе ў пазытыўным ключы згадваліся браты Іван і Антон Луцкевічы, што было абсалютна забаронена. Згадваць іх можна было толькі ў памфлетах, забясьпечыўшы порцыяй цяжкай лаянкі. Літоўцы надрукавалі, бо ім было мала справы да беларускіх адраджэнцаў, а Жук надрукаваў, бо літоўскі часопіс лічыўся такім самым савецкім, як і “ЛіМ”, і калі ў Вільні тэкст прайшоў савецкую цэнзуру, значыць, такую самую цэнзуру ён мусіў прайсьці і ў Менску. Жука, вядома ж, выклікалі ў ЦК, якімі аргумэнтамі ён адбіваўся, мне не расказваў, але і пазыцыі не зьмяніў.

У тыя часы я часта езьдзіў у Вільню, сядзеў там у беларускіх кнігазборах і адкрываў для сябе дасавецкую і несавецкую беларушчыну, спыняўся ў сына Антона Луцкевіча дзядзькі Лявона, які таксама прайшоў ГУЛАГ, адкуль ягоны бацька не вярнуўся. Пры тым Антон і Іван Луцкевічы, айцы-заснавальнікі БНР, захапілі на нейкі час усю маю ўвагу. Доўгімі вечарамі, а то й начамі, мы зь дзядзькам Лявонам гаварылі пра іх і іх паплечнікаў, разглядалі і пераздымалі фоты колішніх дзеячоў і падзеяў. І калі выйшла кніга Алега Лойкі пра Янку Купалу „Як агонь, як вада“, дзе нашаніўцы Луцкевічы, Ластоўскі і Ўласаў былі паказаныя ў карыкатурызаваным выглядзе, я разрадзіўся цэлым дасьледаваньнем, дзе ўсяляк змагаўся з гэтымі карыкатурамі і скажонымі фактамі. Атрымалася рукапісная праца нашмат большага аб’ёму, чым можна было зьмясьціць у газэце. Больш за 70 цытатаў і спасылак, чым я моцна ганарыўся. А ўрэшце ішоў нейкі чарговы пленум Саюзу пісьменьнікаў, і я занёс свой рукапіс і перадаў проста ў прэзыдыюм.

Што было далей? Рукапіс прачыталі, гэта я ведаў дакладна. Рукапіс ухвалілі, у тым ліку ў часопісе “Полымя”. Але друкаваць ня сталі. З той самай прычыны, зь якой Алеся Жука выклікалі ў ЦК. Давалася пазытыўная ацэнка забароненым асобам.

Скажу вам, што гэта мяне не асабліва засмуціла, бо нязьменная вера ў сілу слова і ў тое, што рукапісы не гараць, надавала мне рашучасьці і натхняла рабіць сваю справу далей, дадаўшы хіба што ў маё амплюа літаратурнага крытыка вось гэтага выкрывальніцкага флёру. Толькі выкрываў я ў наступных рэцэнзіях графаманію ў прозе і паэзіі, якой у тыя застойныя часы была процьма.

Цікава, што пасьля той гісторыі з рукапісам, калі я зайшоў у рэдакцыю “Полымя”, каб папрасіць заданьне для студэнта-журналіста, Алесь Масарэнка, які быў у кабінэце, прыняў мяне з распасьцёртымі абдымкамі і адправіў узяць інтэрвію ў Васіля Быкава.

Трэба сказаць, што заданьне было „па максымуму“, наколькі ўвогуле можна было сабе ўявіць. Народны пісьменьнік Беларусі, уладальнік мноства прэмій і ўзнагарод уяўляўся недасяжным небажыхаром, да якога проста так падступіцца было немагчыма. І вось Масарэнка, першы раз мяне бачыўшы, кінуў неабстралянага маладзёна „на танкі“.

Гутарка друкавалася пасьля шмат разоў у розных часопісах па ўсім СССР. Яна атрымалася доўгая, зьмястоўная і цікавая дагэтуль. Дзякуючы Быкаву, вядома ж. А сустрэча наша доўжылася літаральна хвіліну. Я аддаў свае пытаньні і спытаўся, калі зайсьці па адказы. Быкаў прызначыў: „На мінулым тыдні“. Я перапытаў: „На мінулым?“ „На мінулым“, – пацьвердзіў ён. Канец размовы.

Размова адбылася ў кабінэце старшыні Саюзу пісьменьнікаў Зуёнка, дзе на стале я пабачыў шкляную попелку бела-чырвона-белага колеру, якая ўразіла мяне ня менш за быкаўскі адказ.

Рэч у тым, што несавецкая беларушчына, якую даводзілася здабываць часта невераемнымі высілкамі, у адным кантэксьце магла быць цалкам забароненым

плодам, а ў іншым ніхто на яе не зьвяртаў увагі. Калі ў 1981 годзе мы зь сябрамі ўпершыню адзначылі Дзень незалежнасьці 25 сакавіка, мы рабілі гэта ўва ўмовах поўнай канспірацыі, недзе ў засьнежаным лесе каля лецішча Арыніных бацькоў. <...>. І было поўнае адчуваньне небясьпекі. А тут – на відным месцы попелка з тым самым нацыянальным сымбалем.

Ведаеце, тады карныя органы і самі не заўсёды маглі разабрацца, што ў несавецкай беларушчыне „злачыннае“, а што прымальнае, бо па-сутнасьці ў катэгорыях дабра-зла яно ўсё было прымальнае. Кіраўніцтва БССР дакладвала ў Маскву, што нацыяналізму ў рэспубліцы няма, і само закалыхвала сябе гэтым гіпнозам, дапускаючы праявы таго самага нацыяналізму, затуляючы на іх вочы. А ён, тым ня менш, быў. І часам даводзілася яго, наадварот, гіпэртрафаваць, каб нейкім чынам караць і не псаваць усю гэтую спрэс русыфікаваную ціш ды гладзь.

## „І ўзыходзіць сонца“

Маё сонца пачало ўзыходзіць увесну 1984 году. І гэта быў самы важны і шчасьлівы год у жыцьці, хоць Оруэл і задумляў яго па-іншаму. На журфаку пісаўся дыплём, нечакана для мяне самога запрасілі на працу ў выдавецтва БелСЭ Алесь Петрашкевіч і Язэп Хаўратовіч, дома чыталася кніга „Фэст“ Хэмінгуэя. І гэта было чарговае прывітаньне ад Юркі Гаўрука, бо па-расейску „Фиеста“ прачыталася раней.

Што за дзівосны дзядзька, гэты Гаўрук! Як можна гэтак узяць і паднесьці табе культавага амэрыканскага пісьменьніка настолькі блізка, што ягоная рэальнасьць становіцца тваёй. Фэст – яно ж і па-беларуску фэст, найбольшае з усіх сьвятаў. А якое сьвята можа быць большае за ўзыход сонца? І гэта ж тваё сонца. Тым часам „фиеста“ – быццам падкрэсьлена чужая экзотыка, далёкая, як тая Гішпанія. Заменай пары літар Гаўрук усю тваю Беларусь проста бярэ і далучае да Эўропы, дзе яна і мусіць быць, да Амэрыкі, якой ты захапляесься, да цэлага сьвету. Пры тым як бы намякаецца, што Беларусь можа далучыцца, толькі будучы незалежнай, без Расеі, якая зусім ня сьвята, безь „фиесты“.

Петрашкевіч з Хаўратовічам былі намесьнікамі галоўнага рэдактара БелСЭ Іван Шамякіна, але фактычна кіравалі выдавецтвам. Шамякін зрэдку заяжджаў туды, каб „прылегчы паляжаць“, так казалі. У невялічкім кабінэце мяне пасадзілі насупраць векавечнага дзеда – Янкі Казекі, даваеннага яшчэ літаратуразнаўцы. Напэўна, успрымаў я яго так з гледзішча сваіх маладых гадоў. Пазьней поўным адкрыцьцём для мяне стала навіна пра ягонага сына – галоўнага трэнэра Беларусі ў фрыстайле, які зрабіў гэты спорт у нашай краіне самым залатаносным. Пакуль жа я сядзеў насупраць маўклівага пажылага чалавека, які, здаецца, сам запячатаў сябе ў сабе разам з мноствам таямніцаў пра сталінскія часы.

І пры гэтым усё навокал было залітае сонцам. Усе тыя некалькі месяцаў у гэтым наймагутнейшым інтэлектуальным цэнтры тагачаснае Беларусі былі абсалютна, сьляпуча сонечнымі. І я мімалётна закахаўся ў сьветлавалосую сонечную жанчыну з машынапіснага аддзелу, стараўся лішні раз перастрэцца зь ёю на калідоры, падпільноўваў каля дзьвярэй, каб павітацца і проста пабачыць. Яна мела дзіўнае прозьвішча Асмус, была маладая, хоць і відавочна старэйшая за мяне. Ня дзіва, што я прысьвяціў ёй верш, які Алесь Камоцкіператворыць у песьню і будзе сьпяваць:

*Там, за дзьвярыма,*
*Вялізны пакой.*
*Аглушальнай ракой*
*Там зьліваюцца ў вой*
*Крыкі соцень жанчын,*
*Грукат соцень машын,*
*Зьлівы жартаў і кпін...*

*Там, за дзьвярыма,*
*Я чую дыханьне адной,*
*Яшчэ трошкі чужой –*
*Той, якую да рэзаных вен*
*І да сьцёртых кален*
*Крыкам соцень сірэн*
*Хачу клікаць сваёй.*

*Там, за дзьвярыма,*
*Мар маіх сіні абсурд,*
*Безнадзейная вера,*
*А тут –*
*толькі дзьверы...*

– Вон отсюда, националист! Вон! – закрычыць на мяне дэкан журфаку Булацкі і літаральна кіне мне ў твар маю дыплёмную працу, якой ён кіраваў і якую надоечы я прынёс яму, завершаную. Балюча... Булацкі славіўся тым, што ў часе вайны сабраў чамадан грошай, за якія купіў для савецкай арміі самалёт (абсалютна нерэальная гісторыя), на якім пасьля і ваяваў.

Нацыяналіст у ягоных вуснах прагучаў як стрэл з таго самалёта проста ў сэрца ворага. Сябе Булацкі без усякага сумневу лічыў патрыётам.

А мне, скажу вам па шчырасьці, заўсёды даўкавата вымаўляліся гэтыя словы: нацыяналіст і патрыёт. У дачыненьні да сябе самога. І калі я казаў ці ўяўляў сабе, што я патрыёт, дык быццам заганяў сябе ў нейкі жорсткі скафандар, які адразу ж пераставаў быць мной самім. Да ўсяго гэта быў вайсковы скафандар, а мілітарызм для мяне ўспрымаўся суцэльнай змушанасьцю і ні разу ня чымсьці жаданым ці ўласьцівым душы.

Мой вобраз патрыятызму – гэта помнік невядомаму салдату. Штосьці бянтэжыць мяне ў такім помніку, нейкі глыбокі ўнутраны сорам. Відаць, гэта тое, што і адрозьнівае патрыятызм ад нацыяналізму. Бо апошні заўсёды пра цябе ці пра іншага, але пра канкрэтнага чалавека. А патрыятызм – пра абстракцыі і пустату. З гледзішча нацыяналіста патрыёты адкрываюць помнік „гарматнаму мясу“. Так нельга. Чалавек ня можа быць „невядомым“ праз тое, што вы не далі сабе дбайнасьці даведацца ягонае імя ды яшчэ й адкрылі помнік уласнай бесталковасьці.

Нацыяналізм рупіцца пра незалежнасьць краіны, родную мову, гістарычную памяць. А патрыятызм служыць Радзіме-дзяржаве-ўладзе, і найвышэйшая вяршыня гэтае службы – загінуць за гэтую ўладу і легчы ў магілу невядомага салдата.

Так я думаў, але тут яшчэ не было адказу на пытаньне: а хто ж я такі? Бо і нацыяналістам я не называўся і не ўяўляўся. Нацыяналістаў часта блыталі з нацыстамі, а з гэтым я ўжо дакладна нічога агульнага ня меў. Цяжкая была тэма для мяне: хто я?

У часы СССР нацыяналістамі называлі тыя народы і тых людзей, якія размаўлялі на сваіх мовах, а не па-расейску. Самыя блізкія ад нас былі літоўцы. Я шмат сумаўляўся зь імі і жыў сярод іх. І вось што цікава. Яны самі нацыяналістамі, як іх называлі ў нас, ніколі не называліся, хоць па сутнасьці і былі. Якая ім справа да таго, хто і як іх называе. А яны... проста літоўцы. Для мяне гэта было цэлае адкрыцьцё, разьвязаньне доўгіх унутраных спрэчак, адказ на тое пакутлівае пытаньне. Я проста беларус. Скажаце, знайшоў сабе праблемку. Гледзячы сёньня, сапраўды, мог бы спытацца ў бабы Хвядоры: патрыётка яна ці нацыяналістка? І яна б сказала, што беларуска. Выходзіць, гэта я наблукаўся, зрабіў кола празь літоўцаў, а вярнуўся ўрэшце да сябе самога, да таго, як мае быць.

Дэкан Булацкі ставіўся да студэнтаў па-бацькоўску і вокамгненна мяняў гнеў на літасьць.

Мой дыплём быў прысьвечаны газэце „Наша Доля“. Першыя дзесяць старонак я з дапамогай Леніна аспрэчваў афіцыйны нэгатыўны погляд на нацыяналізм увогуле

і беларускі нацыяналізм у прыватнасьці. Нацыяналізм быў патрэбны, карысны і пазытыўны. Але пісаць такое ў 1984 годзе не ўяўлялася магчымым. Давялося выняць гэтыя 10 старонак, і палагаднелы Булацкі паставіў мне выдатную ацэнку. Працы там было ўкладзена мора, і гэта было захапляльнае дасьледаваньне пра авантуру афіцыйнага рэдактара і выдаўца газэты Івана Тукеркеса і пра дачыненьні ў віленскім беларускім асяродку ў 1906 годзе. Дакладна ведаю, што ў наступныя гады з маім дыплёмным тэкстам скончылі журфак яшчэ некалькі чалавек.

Тым часам у сонечным выдавецтве я перазнаёміўся з усімі прадстаўнікамі эліты беларускай гуманістыкі, якія прыходзілі да нас з артыкуламі для энцыкляпэдыі. Гэта была Энцыкляпэдыя літаратуры і мастацтва, рыхтаваўся чацьверты том, і здавалася, што я шчасьліва знайшоў сябе ў жыцьці, усё тут мяне ўздымала над сабой. Але гэта быў фальстарт.

## „Разьвітаньне славянкі“

У беларускую дэлегацыю на Ўсесаюзную нараду маладых пісьменьнікаў у Маскву не ўключылі Ўладзю Арлова, ці ня самага вартага такога ўключэньня аўтара. Арлоў выступіў у Зэльве на пахаваньні Ларысы Геніюш. А мяне ўключылі, хоць меў на журфаку суворую вымову па камсамольскай лініі „з занясеньнем“. Я быў рэдактарам журфакаўскай насьценгазэты і з нагоды юбілею стварэньня СССР (1982) перадавіцай паставіў артыкул Леніна „Аб нацыянальнасьцях і аўтанамізацыі“, у якім аўтар называў гэтае самае стварэньне СССР памылкай. Камітэт камсамолу нагадваў разьюшаную псярню. Яны інтуітыўна вычувалі ў маім учынку страшную крамолу, а паколькі Ленін быў па-за крытыкай, мусілі браць горлам. І нават калі ўдавалася пачуць нейкае пытаньне да мяне, я проста ня змог бы перакрычаць іх у адказ.

Тым ня менш, на нараду ў Маскву я паехаў. У цягніку надта даставаў сваёй наўмыснай трасянкай пісьменьнік Саламаха, і я запрасіў яго ў тамбур на мардабой, дзе нас пасьля разьнімаў двухмэтровы пісьменьнік Міхась Барэйша. На самой нарадзе на сэкцыі крытыкі я счапіўся загрудкі з расейскім шавіністам Дугіным („слава“ якога сёньня грыміць на ўвесь сьвет), за што мяне запаважаў літоўскі пісьменьнік Вайдотас Даўніс, зь якім мы пасьля пісалі разам тэксты і сябравалі да самай ягонай гібелі, калі ён у 1995-м упаў з паветранага шара. Андрэй Мальгін звазіў мяне на сваіх „жыгулях“ у Перадзелкіна, сёньня ён часта выступае на Радыё Свабода, ратуючы, як можа, годнасьць прыстойных расіян. Праўда, жыве Андрэй ужо шмат гадоў у Італіі. <...>

Заўважу, што ў часы майго дзяцінства і маладосьці норавы былі суравейшыя, а людзі больш жорсткія, чым гэта стала ў 2000-я, калі людзі памякчэлі і пацяплелі адны да адных. Вядома ж, я ня маю на ўвазе ўладу, дзе ўсё адбылося наадварот. Магчыма, гэта ўзаемазьвязаныя працэсы. Не было ў даўнейшыя часы ўва ўладзе таго маральнага рэлятывізму, што ўрэшце ператварае кожную ўладу ў абсалютнае зло, тады як народ прасякаецца дабром, бо ў дабры папросту зручней суіснаваць. І хоць у даўнейшыя часы дабро было прагалошаным трэндам грамадзтва, мардабоі здараліся паўсюль і пры розных абставінах.

Вядома ж, многае забылася з таго 1984 году. Напрыклад, сьведкі згадвалі мне пра эпізод з вайсковых збораў у Слоніме, якія мы, журфакаўцы, адбывалі разам зь філфакаўцамі. Расейскія філфакаўцы дакладна пачувалі сябе „белай косткай“, што, відаць, моцна раздражняла нас, беларускамоўных журфакаўцаў, і я, так казалі, ініцыяваў бойку зь імі. На моўнай глебе.

Мне ж тыя зборы запомніліся супольнымі сьпевамі ў кодабе цяжкай вайсковай машыны, тэлеграмай пра сьмерць Караткевіча і альманахам, які мы напісалі разам зь цёзкам Астраўцовым. Называўся ён „Набойні“, распавядаў пра вайскова-іранічныя і літаратурна-эратычныя сюжэты, празаічныя тэксты належалі Астраўцову, паэтыч-

ныя мне. Дагэтуль у памяці засталася інструкцыя разбору аўтамату Калашнікава, якую я паклаў на музыку „Разьвітаньня славянкі“:

*З заміраньнем у сэрцы я згадваю,*
*Як у цішы вайсковых пэнат*
*Вольны час не губляў і па стадыях*
*Я зьбіраў-разьбіраў аўтамат.*
*(Прыпеў)*
*Здымі магазін,*
*Перазарадзі,*
*Цаляй проста ў столь,*
*Тады кантрольны спуск зрабі.*

## Начное купаньне ў Мухаўцы

Таня Сапач перавялася на завочны журфак – яе запрасілі на працу на Берасьцейскую тэлевізію. У нас завязалася ліставаньне. Цяпер гэта выглядала б старамодна, а тады такая была будзённасьць. Вось чаму ад тых часоў засталіся сотні папяровых лістоў, у якіх сьпяліліся нашы пачуцьці. Аднойчы я напісаў і даслаў Тані цэлую нізку вершаў, прысьвечаных ёй. Але важней было, вядома ж, бачыцца. Алег Мінкін зь сям'ёй кудысьці зьехаў, Таня пасялілася ў ягонай кватэры каля Мухаўца, туды прыехаў я, уначы мы плавалі ў рацэ, і там стала зразумела, што нам трэба быць разам.

У вёсцы Маркава пад Маладэчнам Таніна мама працавала ў сельсавеце, таму росьпіс прызначылі хутка, тады гэта была дэфіцытная працэдура, і нас, выходзіць, расьпісалі „па блату“. Праз пару гадоў мы паспрабуем пракруціць гэты фінт з Алесем Бяляцкім і ягонай Натальляй, але, на жаль, нічога не атрымаецца. І расьпішуцца яны тады, калі Алесь вернецца з войска, а не да прызыву, як хацелі.

Я не асабліва верыў у забабоны, і калі мы з маім сьведкам-цёзкам Астраўцовым прыехалі ў Маркава і пайшлі ў бок Танінай хаты, а нам насустрач ішла пахавальная працэсія, я проста адагнаў лішнія думкі, і далей усё адбылося чароўным чынам.

Мы сабралі за бяседным сталом жанчын-суседак і да ночы сьпявалі народныя песьні. Вакол было шмат кветак, і я больш ніколі не бываў на гэткім найлепшым зь вясельляў на сьвеце. Было нуль фармалізму і мора песеннай стыхіі, у якой мы плылі разам, як тады ў Мухаўцы, быццам з адной райскай ракі пераплывалі ў іншую. І гэта было абсалютнае шчасьце.

Цяпер мы былі разам, як атрымалася, на 25 гадоў, пакуль разам не патрапім у аўтаварыю і Тані ня стане. Але гэта ўжо гісторыя зь іншага жыцьця. А ў тым жыцьці шлюб дазволіць нам разам паехаць у Гомель, куды мяне разьмеркаваў Савелій Паўлаў з ЦК КПБ, які трансфармуецца ў іранічнага пэрсанажа Таніных вершаў, што і сёньня чытаюцца, выклікаючы заўсёдныя пытаньні: а хто ж такі гэты Савелій?

*Пойдзем, Савелій! – і будзе нам лёгка і проста*
*Вольнымі жыць на зямлі, дзе ні сьцежак, ні сьцен,*
*Дзе толькі вецер сьпявае пра вечную восень,*
*Дзе заблукаўся адзін фіялетавы цень.*

Гэта дзіўная асаблівасьць Танінай паэзіі, калі мяняюцца ракурсы і ты раптам бачыш у тым Савеліі ўжо не Савелія, пагатоў Паўлава, а самога сябе – як у люстэрку, ці кагосьці, кім хацеў бы сябе бачыць, а вось ужо пазнаеш у ягоным вобразе і саму Таню.

## „Так сложились обстоятельства“

Мне не даводзілася працаваць у цяперашніх афіцыйных газэтах, але я бачу, што ад савецкіх яны адрозьніваюцца поўнай адсутнасьцю эзопавай мовы і пэўнага

стылёвага кшталту. Гэта значыць, што тыя, хто там піша, яны рэальна так думаюць, і тое, што яны пішуць, гэта іх рэальны журналісцкі ўзровень.

У „Гомельскай праўдзе“, куды мяне разьмеркавалі ў 1984-м, такія калі й былі, дык толькі сярод пэнсіянэраў, якія ўжо нічога не вырашалі. Астатнія жылі ў атмасфэры „пяцігодкі палітычных хаўтураў“, ставячыся да сваёй працы хто з іроніяй, а хто і з цынізмам. Пры тагачаснай жалезнай заслоне, калі мы й думаць не маглі, каб выехаць за мяжу, да нас па абмене прыяжджалі журналісты з Польшчы і Чэхаславаччыны. Нашы, адпаведна, езьдзілі туды, натуральна, ня ўсе.

Мне, як менчуку, даручылі суправаджаць з Гомелю да Менску дзьвюх чэскіх журналістак, і мы ноч напралёт у цягніковым тамбуры гаварылі і курылі. Яны расказвалі пра сваё чэскае жыцьцё, пра масавую эміграцыю, парваныя сямейныя і сяброўскія сувязі, пра інтэрнаваных таварышаў... Гучала ўсё гэта драматычна, але хіба не настолькі драматычна, як адбываецца ў нас сёньня. Ці, можа быць, гэта таму, што яны распавядалі пра тое, што кранала іх асабіста, а сёньня асабіста кранае мяне.

Першы намесьнік адказнага сакратара (я быў другім) Коля Новік, хударлявы дзядзька, які пах сунічным мылам, кожнага разу пытаўся ў мяне, як я правёў выходныя, і на маё невыразнае мармытаньне (чытаў, пісаў...) адказваў зь пераможным выглядам: „А я лёг на диван, телевизор включил... Ну согласись?“ З Прагі ён прывёз „сьмярдзючы“ сыр, зь якім ягоная жонка выгнала яго з дому, і той сыр яшчэ нейкі час „сьмярдзеў“ паміж шыбамі ў нашым пакоі ў рэдакцыі...

Буйнатвары весялун Сьцяпан Балоткін, аглядальнік прывагаў і надояў, з дурасьлівым гонарам казаў, што напісаў у газэце ўжо 17 тамоў ленінскага поўнага збору твораў (у Леніна было 55). Сам рэдактар Уладзімер Лазько прыгаворваў: „Если бы газета выходила по-русски, я собрал бы здесь лучшие перья России“.

Але газэта выходзіла па-беларуску, а мой цёзка Дубавец Мікола Зосімавіч – штатны інфарматар КГБ і вялікі аматар чаркі – з задавальненьнем распавядаў антысавецкія анэкдоты. КГБ, дарэчы, лічыўся тады канторай інтэлектуалаў, такіх сабе разумных Штірліцаў.

Раман Аляксандравіч Рутман, адказны сакратар пэнсійнага веку, калі-нікалі абсякаў мяне за стылістычныя вольнасьці і нагадваў: „Вы работаете в органе обкома партии!“ (ён чамусьці окаў і укаў – у слове „кумуністы“). На сьвяточных плякатах мастака Баброўскага (на ўсю першую паласу газэты) ён падлічваў каласкі, каб, ня дай бог, не было сем, бо гэта сямісьвечнік і схаваная сіяністкая прапаганда. Тады пра пракуды „ізраільскіх агрэсараў і іх заакіянскіх пакравіцеляў“ можна было прачытаць у кожным нумары кожнай газэты. Калі Рутману ўручылі нейкі мэдаль, у аб'яве пра гэта на рэдакцыйным стэндзе мы прачыталі, што насамрэч ён Рувім Шнэеравіч. Неўзабаве ён эміграваў у Ізраіль.

Артадаксальны камунізм калі ў чым і праяўляўся, дык быў цалкам няшчыры і напускны. У вялікай ступені ўсё нагадвала тэатар, дзе ўсе проста граюць свае ролі. Вернападданства не лічылася станоўчай рысай і высьмейвалася на сцэне гомельскага тэатру ў спэктаклях паводле Салтыкова-Шчадрына, на якія я пісаў тыя самыя эзопавы рэцэнзіі, якія падваламі друкаваліся ў газэце са згоды рэдактара. Уладзімер Лазько дазволіў сабе аслухацца вядомага тады ваяра з усякімі свабодамі Савелія Паўлава, загадчыка аддзела прапаганды ЦК, і які, нягледзячы на тое, што я ўжо працаваў у энцыкляпэдычным выдавецтве, сказаў: „Мы будем следить за его судьбой“ ды „разьмеркаваў“ мяне ў Гомель, маючы на ўвазе, што рэдактар Лазько „забракуе“ нявартага журналіста і адправіць далей у Лельчыцы, а Лазько не адправіў і пакінуў у аддзеле культуры, а пасьля ў сакратарыяце абласной газэты. Словам, усе гралі свае ролі, выразна ўсьведамляючы, што граюць і часам нават перагульваюць у патасе, бяручы завысокія ноты. Напрыклад, калі ў рэдакцыйным буфэце (а гэта быў падвал, дзе работнікам выдавалі „абкамаўскія“ прадуктовыя пакеты) нехта абурыўся, што ў пакеце толькі мяккая, а няма цьвёрдай (мелася на ўвазе каўбаса),

адказны за пакеты пупс Федзя Собаль з надзвычай сур’ёзным выразам твару казаў: „Ребята, так сложились обстоятельства“.

А абставіны складаліся такім чынам, што дурасьць і абсурд сыстэмы, нягледзячы на ўвесь гэты тэатар, нікуды ня дзеліся, і калі выбухнуў Чарнобыль і першыя чуткі пра катастрофу данесьліся „варожымі галасамі“, намесьніца рэдактара Харытонава, якая кожны дзень распавядала, якую яна ўчора кніжку „ухряпала“, з поўнай упэўненасьцю тлумачыла, што на Чарнобыльскай АЭС выбухнуў усяго-нічога паравы кацёл, а ўсіх мужчын рэдакцыі назаўтра накіравалі касіць траву ў нейкі падшэфны калгас, акурат пад няшчасную АЭС, і трэба было яшчэ некалькі дзён датрываць да 1 траўня, каб „асьвяціць“ у газэце першамайскую дэманстрацыю шчасьлівых гомельцаў, і толькі назаўтра зрабіць усеагульны заклік не сушыць на двары бялізну, зачыняць форткі і не выпускаць на вуліцу дзяцей.

Але ў цэлым такога прапагандысцкага бэтону, што не пакідае жывое травінкі, не было. Мой цёзка Дубавец паміж чаркамі пісаў на замову КГБ выкрывальніцкія артыкулы пра ўцекачоў за мяжу, распавядаючы на перакурах, які „ласкавы супчык“ ён зьеў на абед і зь якім задавальненьнем учора намазваў на цьвёрдую – мяккую каўбасу з прадуктовага пакету. Па калідорах хадзіў вэтэран журналістыкі Лапуста, які настаўляў моладзь, што мужчынскі арганізм разьлічаны на сем тысяч аргазмаў.

У памяшканьні рэдакцыі зьбіраліся першыя сходы нефармальнай гомельскай „Талакі“. Мы з Барысом Пятровічам, якога таксама разьмеркавалі ў Гомель, гадзінамі навылёт спрачаліся пра літаратуру, а Таня пісала вершы-тэксты (тады казалі тэкста́) для гомельскіх рок-гуртоў.

Неўзабаве нас у „Талацэ“ стане столькі, што мы будзем занадта заўважныя не на сваім месцы, тады для „нефармалаў“, як нас называлі, знойдзецца сваё памяшканьне ў нейкім падвале, мы будзем сьпяваць, ладзіць народныя сьвяты, капаць разам з археолягам Макушнікавым стары Гомель, езьдзіць у Ветку на будоўлю музэя, а ягоны дырэктар Фёдар Шкляраў будзе распавядаць нам, што калі гасьцюе ў кагосьці ў Гомелі, ніколі ня ходзіць у прыбіральню, бо яна звычайна побач з кухняй, дзе адбываецца бяседа. Ён проста ня можа сабе ўявіць, як бы ён туды пайшоў. У Ветцы ён жыў ува ўласнай хаце, дзе было мноства карцін, якія Шкляраў маляваў, выяжджаючы на эцюды, але карціны віселі не на сьценах, як звычайна, а былі шчыльна адна да адной прымацаваныя да столі. То бок уся столь складалася з краявідаў. На драўлянай лаўцы ў музэі Шкляраў выразаў словы: „Остановись, присядь, задумайся“ і тлумачыў нам, што некаторыя думаюць тым месцам, якім сядзяць.

Словам, ніякай аднамернасьці ў тым жыцьці не было. Дзіўна, што ў такую плоскасьць перавядуць „Гомельскую праўду“ людзі майго пакаленьня, якія ператвораць газэту ў цалкам рускамоўную, праўда, „лучших перьев России“ ў яе так і не зьбяруць.

Трэба згадаць, што ў рэдакцыі я друкаваў газэту, а дома, на машынцы – часопіс. Называўся ён „Бурачок“, быў наскрозь прабеларускі і антысавецкі, а таму падпольны. І супрацоўнічалі ў ім мае сябры, выбітныя людзі краіны, між іншых, Алесь Бяляцкі, якога сьвет узнагародзіць Нобэлеўскай прэміяй міру.

Я пакідаў „Гомельскую праўду“ і сам Гомель у 1987-м, разам з тым выходзячы ўжо ў цалкам самастойнае жыцьцё, у якім буду залежаць толькі сам ад сябе. Скончылася мая маладосьць і сталеньне маладой душы, пачыналася новае жыцьцё. Тым часам у краіне дажывала апошнія дні „стабільнасьць“ і народ пачынаў бурліць напярэдадні перамен.

## Самае важнае слова

Некалькі гадоў таму стваральнік альманаху „Монолог“ Лёша Андрэеў паклікаў мяне да сябе ў майстэрню, даў у руку кавалак вугалю і папрасіў напісаць на белай сьцяне самае важнае для мяне слова, і я без ваганьняў напісаў: „Радзіма“. Лёша

зрабіў партрэтнае фота, якое пасьля паказалі на вялікай выставе ў Менску разам з партрэтамі і важнымі словамі многіх маіх калег.

„Радзіма“ – чароўнае слова, якое было паролем майго вяртаньня. „Радзіма“ – улюбёная зь дзяцінства песьня, якая цалкам адпавядала настрою: „Мне лепей ад роднага краю нічога на сьвеце няма“. Я нават прапанаваў, калі б усё ж вырашылі адмовіцца ад назвы краіны „Беларусь“, назваць яе: Рэспубліка Радзіма. Мы, жыхары, тады былі б радзімкамі і радзімцамі.

<...>

Занзібар, вядома, не Радзіма, хоць і складаецца амаль з тых самых літар...

<...>

Цябе ніхто адмыслова не гадаваў беларусам. Ні сям'я, ні школа, ні дзяржава. Яны, наадварот, старанна захуквалі люстэрка, каб ты ня ўбачыў у ім Беларусь – тое, чым ты ёсьць паводле крыві і продкаў, а ўбачыў „патрыятызм“ і аддаў сваю годнасьць.

Але я ўжо вярнуўся да сябе, да свайго сапраўднага адбітку ў люстэрку. І калі сёньня Лёша Андрэеў зноў дасьць мне ў руку кавалак вугалю і папросіць напісаць на белай сьцяне маё самае важнае слова... Вы разумееце, што я там напішу.

## Занзібар

Вы таксама замовілі халоднае піва? Яно тут смачнае наўзьдзіў. Але гэта мусульманская рэстарацыя, ядлаўцовай гарэлкі тут не наліюць, і піва трэба адразу пераліць у шклянку, бутэльку яны прыбіраюць, каб не бянтэжыць сваё начальства. Ну вось, за знаёмства. Праўда ж хораша? Тут хораша. Тут, можна сказаць, як дома. Як у сябе. А дзе мы цяпер яшчэ можам быць у сябе?

Вы думаеце, што яны такім чынам падманваюць свайго імама і парушаюць правілы? Правілы... Па-мойму, яны існуюць, каб не парушалася згода бакоў. Калі ёсьць згода бакоў, ніякіх правілаў і не патрэбна. Усё, што робіцца між намі, – гэта наша справа. Калі правілы ствараюцца асобна ад згоды бакоў, тады яны ператвараюцца ў дыктат.

Так, я тут не ўпершыню. Мы з жонкай арандуем невялікі гатэль, так бы мовіць, крыху зарабляем на жыцьцё. А ў Менску я быў журналістам. У Менску, пасьля ў Вільні, калі ў Менску <...> мы апынуліся аточаныя небясьпекай з усіх бакоў і вярнуліся на Занзібар. А вы, напэўна, айцішнік і матывы ў вас падобныя? Амаль? Дзіўнае слова „амаль“. Калі ня маеце гатэлю, прапаную наш. Гэта ў Нунгві. Вельмі ціхі і зручны гатэль. Хоць і не багаты, але ўсё для жыцьця ёсьць. Вы ня супраць? Цудоўна. Трэба толькі разьлічыцца з бармэнам. Ён, ведаеце, насамрэч і не бармэн, а сядзіць на рэцэпцыі ў суседнім памяшканьні, гэты будынак ня столькі рэстаран, колькі гатэль. Зараз я занясу яму грошы і мы пойдзем. Спадзяюся, усё не выглядае так, што я навязваюся вам са сваім гатэлем? Зараз, там ёсьць асобны суседні ўваход...

Ну вось, разьлічыцца, на жаль, не атрымалася. Ён сьпіць. На лаўцы побач з рэцэпцыяй. Я пакіну яму грошы тут.

Вы тут упершыню? Калі мы толькі прыляцелі і нанялі пакой у Стоўн-Таўне, ясная рэч, выправіліся глядзець стары горад. Гэта цяпер я ведаю, як тут усё ўладкавана. А першым разам мы проста не маглі ў той пакой вярнуцца. Хадзілі кругамі і ўвесь час траплялі да дому Фрэдзі Мэркуры. Так, ён тут нарадзіўся. Тут ёсьць такое зачараванае кола, куды б ні пайшоў, вечна вяртаесься да дому Фрэдзі. Здаецца, так можна хадзіць бясконца. Гэта горад, дзе няма ўрбаністычных правілаў. Ага, правілы. Таму трэба шукаць з горадам згоды бакоў.

Вы таксама зьехалі зь Менску ў Вільню? Нам будзе пра што пагаварыць. На сьвітанку на беразе акіяну. Вы нават сядзелі на Акрэсьціна? Шчыра спачуваю. Хоць у большай ступені лічу, што ўсе, каго туды заграблі – сапраўдныя беларускія героі.

Калісьці Занзібар быў біржай рабоў. Гэтая гісторыя моцна нагадвае цяперашнюю Беларусь. Хоць раба наўрад ці назавеш героем. Небаракі патрапілі ў пэўную фазу каляніялізму. Толькі яны ўжо ня там, а мы, наадварот, там. І вось мы з вамі ўжо тут, каб ня быць там. Але мы яшчэ пагаворым пра гэта. І яшчэ ня раз прыедзем сюды, у сталіцу. А цяпер я вазьму таксі і мы паедзем на поўнач, у Нунгві, там наш гатэлік. Калі, вядома, вы не перадумалі пасяліцца ў ім, рады буду прапанаваць нашу гасьціннасьць.

Шчыра кажучы, я сам зь сябе зьдзівіўся, калі вярнуўся сюды другім разам. З чаго б гэта? Чаму ня Куба ці Віетнам, дзе мы таксама бывалі. Але маё зьдзіўленьне перабіла швэдзкая кабета, зь якой мы жылі ў суседніх нумарах якраз у Нунгві. Яна спыталася, адкуль мы, я сказаў, што зь Беларусі, яна ўзрадавалася: „О, Беларусь! Тэн пойнтс гоўз ту Беларусь!“ То бок, нашу краіну яна ведала толькі з Эўравізіі. А калі я спытаўся, скуль яна, і яна сказала „Сўідн“, я распавёў, што год таму ўзімку правёў месяц у іх на Готляндзе. Гэта такая швэдзкая выспа, у два разы большая за Занзібар. Калі браць толькі гэтую выспу, бо Занзібар – гэта архіпэляг. І вось тады прыйшоў час для майго зьдзіўленьня. Я не занудзіў вас гэтымі байкамі? Дык вось. Швэдка сказала, што на Занзібары яна восьмы раз, а на Готляндзе не бывала ніколі. Як вам такая незвычайная прыцягальнасьць месца на іншым канцы сьвету?

Папраўдзе тая швэдка прылятае сюды па спэцыфічныя паслугі, якія дамам з усяго сьвету тут аказваюць масаі, маладыя мужчыны гэтага племені ў адмысловых аднолькавых чырвона-чорных апранахах. Яны носяць у руках палку, або лук і стрэлы. Няйначай купідоны.

Глядзіце, вунь перад намі ідзе акурат такі масай. У Нунгві вы пабачыце іх шмат. Забаўнае племя. Дзеля свайго бізнэсу яны перабраліся сюды з падножжа Кіліманджара і лічаць сябе ня тое што пастухамі, але ўладарамі ўсіх кароў на сьвеце. Уяўляеце? Усе каровы іхныя, дзе б яны ні жылі, хоць у Беларусі, хоць у Швэцыі. Прабачце за грубы гумар, неяк жа яно само так складаецца.

А дзе вы жылі ў Менску? У прадмесьці? Гм. І мы тамсама. Мы там збудавалі дом нядаўна, гадоў сем таму. І я кожны дзень вазіў дзяцей у школу ў цэнтар – насупраць „Лянка“. А разваротнае кола рабіў на Круглай, дзе пражыў усё дзяцінства і юнацтва.

Неяк ехаў з таксістам з аэрапорту і сказаў яму адрас – на Круглай. Ён перапытаў – дзе гэта? Я кажу: вы не мянчук? Кажа, мянчук, і відавочна напружыўся. Я кажу: ну там, дзе хлебны. А-а-а, дзе хлебны, то зразумеў. І прывёз, як я сказаў. Значыць, мянчук. А вы б здагадаліся? Слушна, напэўна, таму, што нам прыблізна аднолькава гадоў, бо і Круглая даўно ня круглая, і хлебны па-іншаму называецца.

Занзібар раскошным курортам не назавеш. Калі не лічыць раскошай далёкі пералёт. Але і адпачынак тут, кажуць, ня самы танны, ёсьць таньнейшыя. Я, праўда, на такіх не бываў і, мабыць, ужо не пабываю. Адчуў тутэйшую прыцягальнасьць. Паселішчы выглядаюць беднавата, але гэта нам так здаецца. Насамрэч прычына – клімат. Тут ні цёплая вопратка не патрэбная, ні цёплы дом. Жыць можна проста пад пальмай і харчавацца з пальмы. Адсутнасьць таго, што мы называем камфортам, мясцовых ніяк не бянтэжыць.

Ведаеце, калі я быў малы, нас зь сястрой зь Менску на лета вазілі ў Мазыр, да бабулі. Мы на кукурузьніку ляцелі да Мазыра. Там яшчэ лавы былі ўздоўж салёна, а ня ўпоперак, як цяпер. І выдавалі пакеты для ванітаў, якія мы хутка напаўнялі. Але гэта дробязі. Калі самалёт сядаў у Бокаве, гэта такі маленькі аэрапорт пад Мазыром, сэрца ёкала. Мы былі дома, вярнуліся ўва ўлюбёнае расплодзішча. І ведаеце, гэтаксама ёкнула ў мяне, калі першы раз прызямліліся на Занзібары. Мне тады ціхенька самахоць сказалася ўнутраным голасам: „Я дома“. Адчуў сябе тым маленькім сабою. Такі самы аэрапорцік, і адчуваньне, што ты вярнуўся да сябе.

Потым гэтае адчуваньне мяне ўжо не пакідала. Вам дзіўна? І мне дзіўна. Але

хораша вяртацца да сябе, хоць і страшнавата часам. Настолькі зьмянілася рэальнасьць. У самых дзіўных фантазіях не прыдумаеш. <...>

У далёкім дзяцінстве пра Занзібар я ўпершыню прачытаў ня ў „Тысячы і адной ночы“, а ў „Доктары Айбаліце“ Карнея Чукоўскага. Між іншым, правобразам таго Айбаліта быў віленскі дзіцячы лекар Шабад. Яму цяпер у Вільні паставілі помнік. Чукоўскі зь ім сябраваў і прыяжджаў да яго на госьці. А яшчэ той Шабад быў масонам і разам са стваральнікамі „Нашай Нівы“ братамі Луцкевічамі заснаваў віленскую ложу „Еднасьць“ у 1910 годзе. Уяўляеце? Доктар Айбаліт – масон... Зусім нядаўна „Доктара Айбаліта“ на беларускую мову пераклаў Андрэй Скурко, рэдактар „Нашай Нівы“, якую мы зь сябрамі аднавілі ў 1991-м... Цесны сьвет! Праўда, рабіў свой пераклад Андрэй не ў рэдакцыі і ня дома...

*Мы жывём на Занзібары,*
*Ў Калахары і Сахары,*
*Ля гары Фэрнанда-По,*
*Дзе нырае гіпапо*
*У шырокай Лімпапо!*

Вы чытаеце беларускія кнігі? Сочыце за сучаснай літаратурай... Бачу, нам будзе што абмеркаваць. І музыка? Сучасныя гурты, купальскія песьні, Моцарт... Тут, скажу я вам, усё гэта пераплятаецца, быццам адкрыўся партал у вечнасьць, у прадоньне чалавечай душы. Ці вы любіце сьпяваць? Шкада. А я сам часьцяком пяю. Выходжу на бераг акіяну і запяваю. Ведаю процьму народных песень. А аднойчы я запяяў „Купалінку“. І адбылося нешта неверагоднае, чаго ні зразумець, ні патлумачыць я не магу. Як дадумаюся, абавязкова раскажу вам. Дык вось, я засьпяваў „Купалінку“. Пяю натхнёна, гучна, патасна і раптам лаўлю сябе на думцы, што замест звычайнага мытыву пяю на матыў „Лякрымозы“. Мяне аж скаланула ўсяго. Можа, гэта таму, што абедзьве песьні – плачы? „Сьлёзкі пралівае“. Ці што Моцарт, складаючы Рэквіем, ці то памёр, ці то загінуў, а абодвух аўтараў „Купалінкі“ расстралялі? Што тут скажаш...

У кожным разе, я тады, пасьля сьпеваў на беразе, вярнуўся ў гатэль, а жонка, пабачыўшы мяне, сказала, што я ўвесь сьсівеў.

*2023*

Вольга Бабкова



...так цікава – паўзірацца на горад
з вышыні свайго
Нацыянальнага тэатра!..

# Нататкі з шостага паверха

*Як жа я любіла апладзіраваць у Купалаўскім тэатры! Рукі разляталіся, бы крылы, а на твары блукала ці то ўсмешка радасці, ці разняволенасць з выдыхам, ці то затоенасць з вільготнымі вачыма. Памятаю, як сядзеў застылым манументам міністр культуры Барыс Святлоў пасля сцэны з харугвамі ў спектаклі "Пан Тадэвуш", а побач у няёмкай позе – дырэктар мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў. Памятаю, як выцірала слёзы Лідзія Ярмошына на "Каралі Ліры". Памятаю ўважлівага да дэталяў любога сцэнічнага дзейства Аляксандра Фядуту разам з Марынай... Столькі гарадскога жыцця раілася ўнутры! Жывога, спрэчнага, удзячнага. І яшчэ я любіла сядзець на страпантэнах. Так называюцца ў тэатры адкідныя сядзенні.*

*Вось згадала зусім крыху з мора ўсяго, што назірала і адчувала, і нібы зноў пабачыла ўсё знутры і крыху зверху, з вышыні шостага паверха, дзе месцілася пасля апошняй рэканструкцыі будынка тэатра літаратурна-драматургічная частка.*

## Пах фарбы і навізна

Аднойчы мне пазваніў Міхал Анемпадыстаў. Пасля лёгкага прыязнага смяшка напачатку, сур'ёзным тонам паведаміў, што, магчыма, я і буду на яго наракаць, але позна, ён ужо "здаў" мяне Мікалаю Пінігіну. Маўляў, той пытаўся парады, каго паклікаць у адрэстаўраваны тэатр на пасаду кіраўніка літчасткі, і ён назваў мяне. Што?? Не, ну ты падумай, – казаў Міхал, – пра ўсё дакладна распытайся, бо ў тэатры заўсёды няпэўныя абяцанкі, але ж гэта можа стацца зусім новым паваротам у жыцці. Уф... Адно, што гэтая неспадзяванка так супала з маёй прагай змены ў жыцці, што я папросту страціла мову ад здзіўлення.

Карацей, гэты крок у прорву я зрабіла. Пінігін неўзабаве затэлефанаваў, і мы сустрэліся ў тэатры. Ён чакаў каля службовага ўвахода. Здаецца, быў сакавік. Раннія пахі вясны ў Аляксандраўскім скверы. Павіталіся за руку. Зайшлі ў цёмны яшчэ тэатр. Ліфт не працаваў. Падняліся на шосты. Паўсюль панавала апраметная цемра, бо ў будынку яшчэ не падключылі электрычнасць. Патыкаліся ў цемры ключом у дзверы і зайшлі ў паўзмрок кабінета, крыху асветленага з вакна на столі. Як цяпер разумею, гэта і быў будучы пакойчык літчасткі. Сядзелі, размаўлялі. Даў час падумаць.

Пехатой спускаліся па лесвіцы. І гэты востры хвалюючы пах свежай фарбы, водар навізны, які пераследаваў і хваляваў мяне ўсе сем гадоў працы ў тэатры, такі даўся ў знакі! На гэты водар накруцілася столькі ўспамінаў, рэакцый, эмоцый. Ён заўсёды суправаджаў мяне. Думаю, што цяпер пах знік. Ён проста не мог не забіцца ў шчыліны, не распусціцца дашчэнту. Яго знеслі, увабраўшы ў сябе, жыхары шостага паверха.

## Тэатральныя калідоры

Іх заўсёды было шмат, але пасля апошняй рэканструкцыі колькасць калідораў, закуткоў ды закануркаў у тэатры вырасла незлічона. Першы месяц працы я блукала па тэатры, не раўнуючы Афелія з выцягнутымі ў прыцемках рукамі. Здавалася, ніколі не выберуся з чарады лабірынтаў. Ніяк не магла стасаваць загадкавыя пераходы з аднаго паверха на іншы, тыкалася ў замкнутыя дзверы, а некаторыя нечакана расчыняліся самі, і я знянацку апынался якраз там, дзе трэба. Мае маладзейшыя каляжанкі засвойвалі шляхі-пераходы на раз-два. Урэшце ўсе мы неўзабаве лёталі па лесвічных пралётах лёгкакрылымі птушкамі. І адусюль былі чутны словы вітання. У тэатры існавала негалоснае правіла вітацца з усімі, каго толькі ні сустрэнеш па дарозе. Гэты звычай відавочна напружваў службістаў, якімі напампоўваўся тэатр у дні, калі ў будынак па-суседстве заязджалі машыны з бранітраваным шклом. Тады чалавечкаў выстаўлялі на ўсіх паверхах і нават на лесвіцы перад забітым наглуха выхадам на дах. Адзін такі небарака прастаяў там гадзін шэсць запар, не пакідаючы цеснага месца. Калі прапанавала яму крэсла, спалохаўся, вылупіўшы вочы, бы на дзіва марское.

Кожны з доўгіх калідораў быў адметным. На трэцім паверсе на сценах віселі партрэты нашых заснавальнікаў. І хаця калідор быў вузкім і каля супрацьлеглай сцяны стаялі пераносныя вешалкі з гардэробам ідучага спектакля і часам куфры з рэквізітам, але паміж дзвярэй грымёрак утульна, амаль па-сямейнаму месціліся ў драўляных рамах партрэты Стэфаніі Станюты, Еўсцігнея Міровіча, Фларыяна Ждановіча, Глеба Глебава, Барыса Платонава, Валерыя Раеўскага, Віктара Тарасава. Сюды мы вадзілі экскурсіі і падрабязна распавядалі пра пакручастыя лёсы гэтых легендарных людзей тэатра. У кожнага была свая гісторыя. У кагосьці – кароткая, гвалтоўна абарваная, у кагосьці больш трывалая. Апошні прытулак Еўсцігнея Міровіча знаходзіцца на Вайсковых могілках у Мінску (нядаўна тэатр адраманта-

ваў ягоны помнік, што быў пашкоджаны вандаламі). А вось магіла рэпрэсаванага Ждановіча згінула на чужыне. Працуючы ў літчастцы, пазнаёмілася і перапісвалася з гісторыкам тэатра Барысам Ільіным з Волагды, які напісаў кнігу пра нашага Фларыяна Ждановіча, абапіраючыся на архіўныя дакументы пра яго жыццё на высылцы, працу ў Сакольскім тэатры, допыты і расстрэл у 1937-м... Колькі ўсяго хацелася распавесці перад партрэтам Стэфаніі Станюты! Жанчына-эпоха, якая пабачыла і перажыла, здаецца, усё на свеце і нават "галавакружную мінскую конку".

На сценах чацвёртага паверха віселі выявы беларускіх краявідаў. На пятым – тэатральныя плакаты да купалаўскіх спектакляў. Кожны плакат, не раўнуючы, твор мастацтва! Для ўсіх, вядома, не хапіла месца, але быў там і плакат Міхала Анемпадыстава да першых "Тутэйшых". Пінігін сам знаходзіў мастакоў да сваіх спектакляў. Дамаўляўся, абмяркоўваў задуму, доўга выбіраў з дасланых узораў, раіўся, але апошняе слова было за ім. Часам з гонарам паказваў апошні, зацверджаны варыянт, і было бачна, што шчыра радуецца.

На шостым, нашым паверсе, віселі партрэты пісьменнікаў. Ідэя належала Пінігіну – Міцкевіч, Дунін-Марцінкевіч, Быкаў, Караткевіч, Колас, Купала... Вялікі партрэт маладзенькага Купалы, які мы ўсе вельмі любілі, вісеў яшчэ асобна перад лесвічкай-пераходам на пяты паверх. Аднойчы на Каляды, пасля атрымання падарункаў ад таемнага Санты, мы ўсе згуртаваліся на той лесвіцы і зрабілі здымак разам з Пінігіным. Ён тады атрымаў у падарунак новы перакладны раман Кульбака "Панядзелак", я – цудоўны нататнік і мяккія простыя алоўкі, Ваня Пінігін – расфарбаваны замочак з каронай Караля Ліра ў сваю незлічоную калекцыю замкоў і шкарпэткі з Чарлі Чаплінам, Ірачка – шалік, хтосьці – шар на ялінку... Шмат радасці і здагадак – што ад каго?

Аднойчы наш доўгі калідор шостага паверха ператварыўся ў трэк. У той дзень апроч нас на паверсе нікога не было, і таму мы разышліся не па-дзіцячы. Не памятаю, каму прыйшло ў галаву тое буйства, але ўсе крэслы на колах ператварыліся з офісных у гоначныя, і мы пачалі навыперадкі насіцца па калідоры з дапамогай ног і рук сяброў. Крэслы збочвалі, сутыкаліся, змянялі траекторыю, целіся аб сцены (Мікалай Мікалаевіч быў бы раз'юшаны!). Дзіяна, Веранічка, Саша, Маша, Андрэй... Толькі калідорны вецер свістаў увушшу!

"*А што гавораць сценкі адна адной*"? Ну, вядома – "*Сустрэнемся на рагу*". Дык вось, у кутах нашых шматлікіх калідораў хапала прытульных месцаў, каб сустрэцца, пасядзець на канапах, пашаптацца, паразмаўляць. Тут мне чытаў свае вершы Аляксандр Падабед. Вось бы выдаць ягоны зборнічак! Тут артысты паўтаралі ролі, гутарылі з журналістамі, стваралі сцэнары вечарын, ды ці мала пра што тут было гаворана. Па вечарах, калі на сцэне ішоў спектакль, тэатр унутры збольшага заміраў, бо галоўнае адбывалася там, у глядзельнай зале, а вось на пустых калідорах можна было сутыкнуцца з артыстамі, яшчэ ўнуранымі ў свае ролі.

Мяне заўсёды ўражвала і радавала веда пра тое, што з любой высокай кропкі ў Беларусі можна пабачыць палоску лесу на даляглядзе. Дык вось, з вакна калідора паміж пятым і шостым паверхамі, калі глядзець у бок плошчы Свабоды і яшчэ далей, у ясны дзень праз дахі і вежы камяніц сапраўды была бачная палоска лесу. З шостага паверха бачнасць магла б быць яшчэ лепшай, але там вакно было толькі мансардавае. Дарэчы, на дах тэатра мне так і не давялося злазіць, аднак колішняя кіраўніца міжнароднага аддзела Дзіяна пабывала там. Гэта ж так цікава – паўзірацца на горад з вышыні свайго Нацыянальнага тэатра!

## Вера Пола

Аднаго разу ў літчастку затэлефанавала сакратарка дырэктара: "Вольга, толькі што да нас звярнулася нейкая прайдзісветка. Сказала, што яе імя Вера Пола, але ж

Вера Пола даўно памерла?!" Сказаць сказала, але, дзякуй Богу, тэлефон літчасткі перадала. Праз кароткі час мне затэлефанавала цудоўная Вера Пола – унучка славутай артысткі мінулага часу, таленавітай вучаніцы Еўсцігнея Міровіча. Неўзабаве спадарыня Вера прыйшла ў тэатр на сустрэчу з Мікалаем Пінігіным і прынесла старыя сшыткі з рукапіснымі п'есамі, якія здаўна захоўваліся ў іх доме; з рэжысёрскімі праўкамі чарнільнай ручкай ці, можа, хімічным алоўкам? Вера Пола ўразіла мяне. Лёгкая на пад'ём, арыстакратычная і артыстычная адначасова, адукаваная, неверагодна цікавая апавядальніца. Столькі ўсяго распавядала! Мы слухалі яе, адкрыўшы раты. Адна з яе гісторый запала ў душу.

Недзе ў 1970-х спадарыня Вера ездзіла перакладніцай з японскімі турыстамі ў іх вандроўках па Беларусі. Вялікім аўтобусам рушылі ў Хатынь. Вера старанна перакладала расповед экскурсавода, японцы былі ўражаныя. Калі ехалі назад у Мінск, выказалі пажаданне заехаць у любую беларускую вёску, каб пабачыць яе жывое сучаснае жыццё. Вера дамовілася з кіроўцам, і яны звярнулі на першым-лепшым павароце. Назву вёскі яна не памятае. У доме напачатку вуліцы пабачылі жанчынку, якая завіхалася на падворку. Тая запрасіла ў дом, прапанавала свежага малака, пазнаёміла з мужам, які ў доме шылам рамантаваў абутак. Увесь час хістала ў здзіўленні галавой, паглядаючы на нечаканых гасцей, маўляў, "якія жоўценькія!" Яе муж, калі даведаўся пра цікаўнасць гасцей, прапанаваў зайсці ў суседні дом праз вулачку. Яны пагрукаліся ды ўвайшлі. У вялікім пакоі за сталом каля вакна сядзеў чалавек з кнігай. Усе сцены вясковага дома ад падлогі да столі былі застаўлены кніжнымі паліцамі. Японцы былі агаломшаныя. Вера, трэба сказаць, таксама.

Спадзяюся, недзе ў Японіі захаваўся дасюль хаця б драбок гэтага ўспаміну пра Беларусь.

## Госці літчасткі

Для чаго я пішу гэтыя згадкі сёння? Каб яшчэ раз наведацца ў наш пакой з акенцам пад дахам, пасядзець на шэрай канапе, ці пасадзіць туды гасцей, а самой перасунуцца на фатэлі ад свайго стала да шклянога століка, бліжэй да размовы. Цяпер у літчастцы на шостым паверсе адно голыя сцены і пустыя шафы. Кажуць, што ўсю нашую бібліятэку згрузілі ў іншым пакоі, а значыць парушылі кніжны парадак і лад. А першымі гасцямі ў нас былі паэты! І трэба сказаць – прыжыліся.

**Таня Скарынкіна** ў кожны свой прыезд са Смургоняў наведвала Купалаўскі, робячы з гэтых візітаў перформенс, пачынаючы ад самой вахты на службовым уваходзе. Там яе ўжо пазнавалі, а вось за каго прымалі – не ведаю. Напэўна, за заблукалую актрысу. Таня знаходзіла агульную мову з усімі – з Пінігіным, з Аўсяннікавым, з Горватам... не кажучы ўжо пра дзяўчат з літчасткі. Кожны Танін візіт – флэшмоб і танцы. І яшчэ мы чыталі вершы – самой Тані, Хлебнікава, Мандэльштама, Фроста, Сапач, юнацкія Пінігіна. Уголас, вядома. Чыталі і прозу. Таня бажылася Пінігіну, што напіша п'есу для тэатра. Яна заўсёды мела пры сабе якую-небудзь каштоўную драбязу – старое фота з невядомага сямейнага альбома, паштоўку на кардонцы з выявай Дзевы Марыі, карункавы шматок, качку з пластыку, саматужную закладку для кнігі з прышытым гузікам на канцы, і радасна дарыла на доўгую памяць. Хітра паблісквалі разам з акулярамі Таніны вочы, шырокая ўсмешка амаль не знікала з твару, роўная цёмная грыўка падрыгвала перад чарговай Танінай прыдумкай. Калі пасля верасня 2020-га прытульныя агні Купалаўскага згаслі, Таня стала рэдка з'яўляцца ў Мінску.

З **Настай Кудасавай** мы сядзелі пераважна ўдзвюх, ледзь не трымаючы адна адну за рукі, і размаўлялі. Мяккая пастава, доўгія валасы і такі адметны нізкаваты голас. Бурштынавы, перарывісты, рачны. У якой бы прасторы ні знаходзілася Наста, мне яна бачыцца атуленай мохам-ягелем з марошкаю, дрэвамі і азёрамі Карэліі. І таму

такая цудоўная сумесь свежасці, ласкавай пэўнасці, нежартоўнай адвагі. І завушніцы яе перагукваліся міжсобку ў густых валасах, як званочкі ў лесе, калі яна нахілялася бліжэй ці даставала з заплечніка кніжку. Мы пілі каву, шмат размаўлялі і маўчалі. Пасля цягнік забіраў яе ў горад на беразе Дняпра, дзе колісь расла неўміручая груша. Не дзіва, што аднойчы на восеньскія Дзяды, выпадкова сустрэўшыся на Круглай плошчы, трошкі далей ад тэатра, трошкі бліжэй да ракі, па чарзе ўголас чыталі верш Міхала Анемпадыстава "Восень" – Таня Скарынкіна, Наста і я.

У нашым пакоі радасна спяваў арыі з оперы "Агатка" **Віктар Скарабагатаў**, і цені маўклівых герояў з кніжных паліц ператвараліся ў слухачоў і з цікавасцю перабіраліся пад самую столь. А мы слухалі і глядзелі на Маэстра "знізу", седзячы за сваімі сталамі. Голас спадара Віктара і ягоныя расповеды перадусім!

А аднойчы ў пакой зайшоў ціхі чалавек, унук таго самага Канстанціна Касілы, які пачаў працаваць у тэатры, калі той яшчэ зваўся Мінскім гарадскім, і праслужыў у ім амаль пяцьдзесят гадоў білецёрам. Можна толькі ўяўляць тых мінчукоў, якія праходзілі праз ягоныя рукі ў будынак тэатра за ўвесь гэты час! Тэатр змяняў назвы, рэжысёраў, спектаклі, краіна таксама змяняла назвы, а білецёр Касіла нязменна стаяў на сваім пасту. Ягоны ўнук **спадар Віталь**, які на той момант выкладаў філасофію ва ўніверсітэце, распавядаў пра тое, як артысты любілі дзеда Канстанціна, як у антрактах ён выпіваў у сваім маленькім службовым пакойчыку разам з Купалам, як ноч каля ягонай труны правяла Лідзія Ржэцкая. Дзякуючы візіту спадара Віталя, імя старажыла горада і тэатра Канстанціна Касілы застанецца ў памяці.

Аднаго разу ў літчастку завітаў **сваяк Леаніда Рахленкі**, які перадаў некалькі скрыняў кніг з асабістай бібліятэкі славутага рэжысёра. Файныя выданні. Сярод мастацкіх альбомаў, кніг на нямецкай мове, драматургічных твораў знайшоўся і невялікі зборнік вершаў Восіпа Мандэльштама.

Калі рыхтаваліся да 100-годдзя Галіны Макаравай, у літчастку завітала яе дачка **Таццяна**. Першае ўражанне агаломшыла – якое падабенства з маці! У гэтай генетычна закладзенай паслядоўнасці ў жыцці людзей заўсёды прысутная тайніца. Гэта як праява магіі на тэатральнай сцэне – не памацаць, але захлынуцца дзівам.

Дзякуючы тэатру, мы пазнаёміліся бліжэй з цікавым, мужным і надзейным чалавекам, унукам былога дырэктара тэатра Вячаслава Селяха – **Сяргеем Селяхам**. Прызнаюся, што да яго прыходу ў літчастку са сваёй кнігай "Беларускі прэм'ер" я нічога не ведала пра колішняга дырэктара, а да таго ж опернага спевака Вячаслава Селяха. Дзякуючы Сяргею, веды пра мінулае Купалаўскага пашыраюцца кожнага дня. Ён шчодра дзеліцца ўнікальнымі здымкамі і матэрыяламі, разгортваючы абсалютна невядомыя раней тэатральныя старонкі. А варта было калісьці проста сціпла пагрукацца ў нашыя дзверы на шостым паверсе.

Некалькі гадзін з намі правяла мастачка **Марына Капілава**. Гнуткая, цікаўная, каштанавая, з пальцамі, якія слухаюцца яе ўяўлення і вымалёўваюць, лепяць небывалае, а бываламу надаюць форму высокага пражывання. Геній. Цікава, што на сцяне літчасткі ад першага дня маёй працы нязменна вісеў прыгажэнны плакат са спектакля Мікалая Пінігіна "Translation" з выявай дачкі Марыны Капілавай Соні, зроблены мастаком Уладзімірам Цэслерам. Дарэчы, правісеў ён у дні прэм'еры спектакля ў 2009 годзе на гарадскіх тумбах толькі некалькі дзён і быў забаронены чыноўнікамі МК. На плакаце, згодна зместу п'есы ірландца Браяна Фрыла і задуме мастака, рот дзяўчыны быў перавязаны, нема прамаўлялі адно вочы. У тыя часы ў акцыі супраць забароны свабоды слова публічна выступалі журналісты, і плакат паліцэйская свядомасць чыноўнікаў палічыла выклікам уладзе.

На шэрай канапе мы сядзелі разам з шчырым тэатралам **Аляксандрам Фядутам**, які намаўляў узяцца за пошукі архіўных матэрыялаў, звязаных з людзьмі тэатра і падрыхтаваць кнігу. Але на той момант я ўжо займалася кнігай пра гісторыю тэатра, і таму задума адклалася. Пакуль тая кніга пра тэатр пісалася, сюды пры-

ходзілі яе аўтары **Кацярына Яроміна** і **Дзмітрый Ермаловіч-Дашчынскі**. Сядзелі разам, вырашалі, дамаўляліся, дапаўнялі адно аднаго. Заходзіла на гарбату **Зінаіда Зубкова**, якая распавядала пра прамінулыя часы. Яна памятала дэталі, і гэта было важна і яскрава. Прыкладам, згадвала пра арыстакратызм і лёгкую картавасць "з гарошынкай у роце" Юркі Гаўрука, распавядала пра сцэнаграфію Барыса Заборава. Светлай памяці **Фама Варанецкі** дадаваў свае ўспаміны пра Валерыя Раеўскага, пра свайго найлепшага сябрука Гаўрука, які і на высылцы ў Сібіры заўсёды казаў па-беларуску. У чарговы раз я пераконвалася, наколькі істотныя гэтыя нязмушаныя размовы, гэтыя асабістыя згадкі.

Аднойчы на шосты паверх да нас забегла **Ганна Севярынец,** і, дзякуючы яе візіту, у кнізе па гісторыі Купалаўскага тэатра змешчаны аўтэнтычны дакумент 1936 года – "Умова", складзеная колішнім дырэктарам БДТ-1 Аркадзем Гайдарыным з Алесем Дударом пра згоду аўтара на пераклад п'есы Шэкспіра "Атэла" для сцэнічнай пастаноўкі на беларускую мову. Спектакль не адбыўся. Той год наўрад ці спрыяў спакойнай працы над трагедыйным творам. Трагедыі адбываліся ў рэальным беларускім жыцці штодня.

Сюды, на тэатральны паддашак, заходзіў па прыездзе з Францыі наш былы супрацоўнік **Жора** з цудоўным сямействам. Калісьці ён прыйшоў у літчастку, папрацаваўшы рабочым сцэны, такім чынам атрымаўшы веды пра тэатр ад падлогі да столі. Бадай, упершыню я сустрэлася з такім гарманічна арганізаваным чалавекам. Употай любавалася. Са сваёй жонкай Джульет яны стварылі файную беларуска-французскую сям'ю. З Беларусі ў Францыю Жорам былі перанесены навыкі плесці з саломкі, рабіць выцінанкі, ляпіць з гліны, спяваць і таньчыць. Старажытнае мястэчка Аньян (*Aniane*) навучыла нашага Георгія працаваць у сыраварні, выпякаць хлеб, вырошчваць вінаграднікі. Давялося яму пажыць у абшчыне, якую заснаваў адзін з вучняў Гандзі, пабачыць у Парыжы карціны Хаіма Суціна, перачытаць далёка ад радзімы "Дзве душы" Максіма Гарэцкага. А таксама зрабіцца своеасаблівым настаўнікам гісторыі і геаграфіі для тутэйшых месцічаў, якім трэба было тлумачыць, дзе знаходзіцца Беларусь і што да Расіі яна мае такое ж дачыненне як Швецыя да Фінляндыі. Такім ёсць наш слаўны былы супрацоўнік Жора.

Насамрэч, былых літчасткаўцаў не бывае. **Саша Супрон**, нарадзіўшы дачушку, прыходзіла да тэатра спачатку з вазочкам, бо гуляць па сцежках Аляксандраўскага сквера заўсёды ў радасць, а калі малеча падрасла, прыходзілі разам на Ночы Паэзіі. І дачушку сваю назвала ў гонар вялікай купалаўкі – Стэфанія. Увогуле, дзеткі супрацоўнікаў літчасткі – заўсёдныя наведнікі тэатра. Паштоўка сына Ірыны Сцякловай са словамі "Усё будзе добра" на стала пасялілася на кніжнай паліцы над працоўным сталом.

Калі б надарылася такая магчымасць, то ў 610 пакойчык абавязкова зазірнула б былая памочніца Мікалая Пінігіна **Юля Камінская**, бо тут былі пражытыя шалёныя тэатральныя гады. А мне ўсё згадваецца яе застаўка на экране кампутара са смяшлівымі тварыкамі Зуя, Падалякі і Малчанава з рамонкамі ў роце – гэтак яны павіншавалі Юлю з яе летнімі народзінамі. А пад лямпай на яе стале стаяў саматробны, сплецены з каляровага дроту маленькі ровар ад артыста-раварыста Алеся Малчанава. Цудоўная штука, зробленая з любоўю.

Кніжныя паліцы ў літчастцы разглядаў светлай памяці **Уладзімір Шчасны**. Чакаў вечаровага спектакля і размаўляў пра тэатр **Андрэй Масквін.** Заглядалі на агеньчык фантастычныя знаўцы тэатра **Слава Ракіцкі і Алена Мальчэўская.** Забягалі па справах **Сяргей Харэўскі** і **Язэп Янушкевіч**. Сюды прыходзіў і дзяліўся рэдкімі фотаздымкамі **Анатоль Тарас**, распавядала пра задуму кнігі пра Марыю Захарэвіч былая дырэктарка "Акадэмкнігі" **Соф'я Жыбулеўская**, піў з намі гарбату мінскі чалавек **Адам Глобус.** Не пералічыць усіх і не пераказаць тыя гутаркі і гісторыі.

Я не пабачылася ў тэатры, але пазней пазнаёмілася ў Сувалках з магутнай асобай нашага, як аказалася, памежнага часу, – мастаком і паэтам, светлай памяці **Анджэем Струмілам**. Мяне цешыць, што гэты чалавек бываў у тэатры. Я б нават сказала, што ягоны Дух быў прысутным тут. Для мяне гэта важна.

Калі хтосьці з літчасткі першым прыходзіў на працу і адчыняў ключом дзверы пакойчыка, то ў прыцішанай, учора яшчэ гаманкой прасторы мог пабачыць, як з мансардавага вакна ўлетку марудна, як ў запаволеным кадры, падаў са столі таполевы пух, увосень на падлозе можна было знайсці жоўты ліст, а ўзімку залятаў снег, перад тым, як заваліць гурбай светлы квадрат вакна і апусціць пакойчык у поўную цемру.

## Ліфт

Ліфт, зроблены ў беларускім горадзе Магілёве, – нашая серабрыстая рыбіна-човен на шляху да шостага паверха. Месца сустрэч, кароткіх гісторый, прыколаў, смеху, маўчання, водару добрай парфумы Аляксандра Віктаравіча. Ліфт быў сапраўды прасторным, з люстрам і бліскучай луской, але самае галоўнае – беларускамоўным! Прыемны жаночы голас абвяшчаў кожны паверх, а на маленькім экране змянялася карцінка – замкі, ратушы, вежы. Усё ў ім было добра, але ж які маруда! Спыняўся на кожным паверсе, нават калі там ніхто не чакаў. Доўга думаў перад тым, як зачыняць дзверы, расчыняў іх ад слабкога дотытку рукі ці заплечніка. Запомніла адну жанчыну, не з тэатра, якая так спяшалася кудысьці наверх, ажно ўспацела, чакаючы, пакуль ліфт наважыцца зачыняць дзверы на кожным паверсе, чырвонымі плямамі пакрылася і ў выніку прашыпела: “У мяне ад злосці мяса ад касцей адліпае!”

Часам даводзілася туліцца да сценкі, каб праціснуўся грузкі рэквізіт ці столікі на колках з закускамі, якія ліфтам перавозілі з “Аўстэрыі Уршулі” ў глядацкі буфет. Бывала, стаялі, уткнуўшыся носам у ворах свежых, накрухмаленых, адпрасаваных пышных ніжніх спадніц, што везлі з цокальнага паверха ў касцюмерны цэх. У ліфце я даведалася, што мы з Андрэем Кавальчуком родам з аднаго раёнчыка. Там я паспела сказаць засяроджанай Зоі Белахвосцік, што яе выкананне песні пра Міхоэлса ў спектаклі “Вельтмайстар-акардэон” працінае наскрозь. Яна прызналася, што падрыхтоўка і кожны выхад з гэтай песняй на сцэну даецца ў знакі, забірае шмат унутраных сілаў. Заўсёды весела было ехаць з Кучыцам і Манаевым – паспявалі разыграць мінісцэнкі. А хтосьці адварочваўся да дзвярэй і стаяў спінай увесь нядоўгі пад’ём. Кожнага разу, выходзячы, усе жадалі астатнім добрага дня, нават маўчуны і адлюднікі. Тут пахла кавай. Тут дзяўчаты рабілі смешныя сэлфі, якія адбіваліся сотняй адлюстраванняў у рыбінай лусцэ нашага серабрыстага магілёўца.

У выходныя дні, ці калі ў тэатры пад вечар заставалася мала людзей, ліфт улучаў сонны рэжым, пры якім патухалі асветленыя панэлі і кнопкі, але лёгка абуджаўся ад дотыку і рушыў з гатовасцю ўверх ці ўніз. Аднаго разу я затрымалася з сябрамі ў літчастцы дапазна, калі вахта ўжо рыхтавалася да начной варты і паўсюль было вылучана святло. Ліфт соладка пазяхнуў на шостым, ажыў і павёз нас на першы. Там, мякка гамонячы, мы рушылі да службовага выхаду, каля якога са спалоханымі тварамі стаялі тэатральныя вахцёршы. Пабачыўшы нас, яны радасна выдыхнулі і з прыцішаным смехам прызналіся: “Мы думалі, гэта Купала з шостага спускаецца”.

## “Вельтмайстар-акардэон”

Пінігін свяціўся, калі яго апаноўвала ідэя, і ён адчуваў подых удачы. Мяне заўсёды дзівіла ягоная вера ў накірунак выбранага шляху. Ён сапраўды шмат перадумваў, збіраў, рыхтаваў, супастаўляў, унутраная праца была агромністая і не заўсёды бачная іншым. А пачыналася ўсё з улоўлівання драбка энергіі, з жывой эмоцыі. Аднойчы ён зайшоў у пакой літчасткі, дзе раілася шмат людзей, і пасля вырашэння бягучага

пытання раптам, абапершыся спінай на светлую шафу, сказаў: “Услухайцеся ў гэтыя радкі. Гэта геніяльна: *Калеки скачут в банном зале, как насекомые легки...*” У ягоных вачах былі слёзы. Не скажу, што гоман у пакойчыку знік. Хтосьці заходзіў-выходзіў, хтосьці размаўляў па тэлефоне... Я дык першы раз пачула імя аўтара гэтых радкоў.

Пачалася падрыхтоўка да спектакля-канцэрта на словы песняў Марка Мермана. Яго трэба было прымеркаваць да 70-годдзя Вялікай Айчыннай. Усе тэатры падпалі пад загад на карысць ідэалагічнага шалу. Пінігін зрабіў па-свойму. Першапачаткова спектакль называўся “Другая сусветная”. Ён ахопліваў падзеі вайны, пачынаючы з верасня 1939 года. Далей – болей. Спектакль атрымаўся пра эпоху рэпрэсій, небяспекі фашызму для таталітарных рэжымаў, пра тое, што на татальных войнах – шкада ўсіх. Пра жыццё людзей той эпохі. Дакументальная хроніка да спектакля была падабраная геніяльна. Дасюль у вачах стаяць тыя кадры.

Песняў было ўсяго васямнаццаць. Ніводнай выпадковай. Кожная і кожны з выканаўцаў – на месцы. Калі з’ехала ў Ізраіль Ганна Хітрык, я думала, што дзве яе песні прападуць і стройны лад спектакля парушыцца, але выратавалі Марта Голубева і Святлана Анікей. Калі з’ехала ў Амерыку Алена Сідарава, я не магла ўявіць спектакль без другой песні пра Польшчу, без выхаду гэтай шляхетнай пані ў капялюшыку, з сакваяжам... Проста вусціш ахоплівала. Немагчыма было развітацца ні з воднай песняй. Выратавала маладзенькая Тоня Дубатоўка. Так, гэта было па-іншаму, без Аленінага глыбіннага досведу, але Тоня закрыла сабой пустку.

На прэм’еру павінен быў прыехаць з Амерыкі аўтар – Марк. У той вечар перад спектаклем я пачула ягоны голас на калідоры шостага паверха. Выходзячы з кабінета Пінігіна, ён патрапіў у шчыльныя абдоймы Ірыны Тамашовай, даўняй ягонай слухачкі. Смех, размовы, музыка. Марк Мерман аказаўся вельмі мінскім чалавекам з безліччу агульных знаёмых. Абцягнуты ў чорныя скураныя нагавіцы і, здаецца, такую ж куртку, увесь ажно парыпваў і шчасліва ўсміхаўся. Зала патанала ў авацыях абсалютна вартых аўтара, рэжысёра і выканаўцаў. Марк нават выйшаў у адным з нумароў і праспяваў куплет сваёй песні. Божа, як было класна! У зале сядзелі таксама сябры, сваякі Мермана. Прыгожая жонка, родам з Полацка, артыстычны сын. Думаю, гэта быў абсалютна зорны час Марка. Вярнуцца ў родны горад і атрымаць такі падарунак! Урэшце, ён сам атрымаўся падарункам для нас. Гэты спектакль-канцэрт адгукаўся мне напоўніцу. Мелодыя, словы, інтанацыі. Пачынаючы з уступу купалаўскага аркестра пад кіраўніцтвам урачыстага Уладзіміра Кур’яна, з выгляду засяроджаных музыкантаў і рытмічнага пастуквання палачкай перад кожным нумарам, зараджалася энергія, якая перадавалася ад першай песні па эстафеце – далей. Кожная – розная. Кожная – на сваім мейсцы.

Канчаткова перахоплівала дых ад выканання Зояй Белахвосцік песні пра Саламона Міхоэлса. Для мяне гэта найулюбёны сцэнічны вобраз Зоі. Трагічная прыгажосць магутнага голасу, крохкасць і сіла. Я рыхтавала падводкі пад кожную песню таго спектакля, і Зоя дадала свой, вельмі кранальны эпізод пра гасціны Міхоэлса ў сям’і яе дзядулі і бабулі, з пірагом, за некалькі дзён да гвалтоўнай смерці. Гэта было важна. Гэта збліжала эпохі і ачалавечвала гістарычныя абстракцыі. А пасля са сцэны Нацыянальнага тэатра было прамоўлена важнае, а менавіта тое, што забойства Міхоэлса адбылося тут, у нашым горадзе, непадалёк ад тэатра па загадзе Сталіна. У той час, як адбудоўвалі лінію Сталіна, ператвараючы яе ў пафасны мілітарысцкі пантэон, на галоўнай Нацыянальнай сцэне краіны гучала абсалютна іншае.

Пасля 2015 года дакладна высветлілася, што выкарыстоўванне савецкай ваеннай тэматыкі ў татальнай прапагандзе цалкам зняверыла людзей. Гукі фанфараў замест жалобы і памяці выклікалі абурэнне, нязгоду і нуду. Назва спектакля “Другая сусветная” відавочна адштурхоўвала гледача. Квіткі прадаваліся кепска. Трэба было зрабіць нечаканы ход, каб выдатны сцэнічны твор не загінуў раней часу. Адміністра-

тарка тэатра Наталля Жарнак у размове пра лёс спектакля прапанавала назву, якая і выратавала сітуацыю – "Вельтмайстар-акардэон", паводле назвы апошняй песні. Была зробленая іншая афіша, і спектакль атрымаў новае дыханне. Памятаю твары людзей, якія выходзілі з залы пасля спектакля. Адна з глядачак з распухлым ад слёз гарачым тварам зайшла ў пустую глядацкую залу, дзе адміністратары ўжо пачалі пакрываць на ноч фатэлі, каб адшукаць свой пінжак, які незаўважна з'ехаў на падлогу падчас спектакля.

Пакуль ішлі рэпетыцыі, праз гучную сувязь, якая была ўсталяваная ў нашых пакоях, можна было чуць песні, музыку, ізноў песні і музыку. Памятаю, я засынала і прачыналася з ёй, і твары тагачасных людзей з дакументальнай хронікі стаялі ўваччу. І зараз чую і бачу ўнутраным зрокам усё дзейства, варта толькі захацець і заплюшчыць вочы.

## Уладзімір Кур'ян

Часам " звычайная" размова па тэлефоне нараджае відзежу агромністага свету, які перакрочвае межы тэлефонных дратоў і дорыць радасную навіну. Мы з Уладзімірам Кур'янам амаль землякі. Раён *Розачкі-Грушаўкі* быў вельмі добра знаёмым яму ў дзяцінстве. Ён хадзіў у тую самую школу, што і я. Плаваў у Мухлі, што на вуліцы Харкаўскай каля былога кінатэатра "Сучаснік". Меў у ім знаёмца, які круціў фільмы, таму "Сучаснік" быў яму амаль родным домам. Хаця сам нарадзіўся ў небяспечным мінскім раёне *Шалманы*, але пасля пераезду з сям'ёй на "Роза Лібкнехта", ці, як ён казаў са смехам, – "Карла Люксембург". Памятаў пра тры азярыны *Багданаўкі*, што былі калісь у раёне сучаснай вуліцы Карпава і пра якія згадвала яшчэ мая бабуля. На адной з іх Уладзімір ледзьве не патануў, ганяючы па лёдзе, бо той аказаўся падманліва тонкім. Вучыўся ў музычнай школе, а пасля восьмага класа перайшоў у музычнае вучылішча. З акардэонам аб'ездзіў тысячы мясцінаў, іграў на вяселлях, на святах. Стварыў дома адмысловую карту Беларусі, дзе сцяжкамі пазначаў кропкі, у якіх пабываў з канцэртамі. Карта атрымалася дужа пярэстая! Дасюль смяецца, згадваючы прымаўку маці: "Ну, што ты стаіш, як дурань з дзвярыма". Нягледзячы на бурлівую маладосць, не любіць вялікія кампаніі. Адно – на тры-чатыры чалавекі. А найбольшая любоў – лес ды грыбы. Любіць рыбалку, але не паляванне. Быў знаёмым з тагачаснай мінскай легендай – Кімам Хадзеевым, нават за некалькі дзён да ягонага скону прысніў, што той неўзабаве памрэ.

А яшчэ Уладзімір Кур'ян нарадзіўся 25 сакавіка! Гістарычны дзень на незалежным беларускім календары. А на літаратурным – дзень скону лютага ворага вольных народаў Міжзем'я Саўрона, паводле славутага рамана Джона Толкіна. А калі пачуў быў ад мяне абсалютна свежую навіну пра першага літаратурнага нобеля з нашай краіны Святлану Алексіевіч, ажно закрычаў ад радасці і закружыў мяне на калідоры шостага паверха перад партрэтамі Адама Міцкевіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава...

Згадваю сёння нашага музычнага кіраўніка тэатра на сцэне з ягоным акардэонам, які, бы жывая істота, прытуліўся да майстра ды зрадніўся з ім, выдаючы ці то маркотныя, ці то бурлівыя акорды на ўсю моц. А таксама згадваю паставу ўрачыстага, у бездакорным фраку Кур'яна, з дырыжорскай палачкай напагатове перад сваім купалаўскім аркестрам.

## "Аўстэрыя"

Яшчэ не пачаўшы працаваць у тэатры, я атрымала па тэлефоне просьбу-"заданне" ад Мікалая Пінігіна. Ён вельмі прасіў прыдумаць да заўтра назву для новай тэатральнай кавярні, якая б люстравала мінскія тэатральныя рэаліі. Адразу, як толькі

пачула просьбу, назвала першую, што прыгадала – “Аўстэрыя”. Гэтую назву мы з калегамі ў архіве калісьці ўжо прапаноўвалі нейкаму чалавеку, які адкрываў рэстарацыю ў раённым горадзе. Яму не падышло. А слова мне падабалася і не сыходзіла з памяці. Часцяком сустракала яго ў гістарычных дакументах. Карацей, прапанавала свой першы варыянт і пачала думаць далей. За гэты час прыдумаліся наступныя назвы: *Жырандоля, На філіжанку, У прысадах, На Падгорнай, Альтанка, Падмосткі, Новае Места, На Новамесцкай, Сфінкс, У Топія, Пад лятарняй, Покліч, Ультыма Туле, ТУТ, Genius Loci, Пане Каханку, Ягамосць, Воплескі, Атмасфера*.... Пінігін усё старанна запісваў, на кожную назву рэагаваў па-свойму. Некаторыя адразу адмятаў, над некаторымі задумваўся. Патэлефанаваў праз некалькі гадзінаў радасны: “Вольга твая назва перамагала! Кавярня будзе называцца «Аўстэрыя Уршуля»”. (Уршуля – першая жанчына-драматург Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай – тая самая Уршуля Радзівіл, спектакль паводле твораў якой ішоў на нашай сцэне). Неўзабаве з’явілася бронзавая шыльда. Так, слова нязвыклае, але ж абсалютна свежае і нечаканае. Пасля на экскурсіях па тэатры пра аўстэрыю можна было рабіць гістарычныя экскурсы.

Кавярня абжывалася доўга. Усе, вядома, памяталі ранейшую, намоленую купалаўскім духам, якую любілі ўсёй душой. Але час працаваў на “Аўстэрыю”. Асабліва пасля таго, як яна пачала набрыньваць новымі гісторыямі. У ёй падпісваў кнігі ў перадкалядныя дні Горват, седзячы, не разгінаючы спіны, за столікам каля вакна. На ўсіх сталах кавярні стаялі белыя ялінкі з чырвонымі шарамі, а побач з Горватам астывала чарговая філіжанка кавы і расла гара падарункаў – яблыкі, шакаладкі, памаранчы, паштоўкі, нататнікі, свечкі, асадкі... Чарга па кнігу ахінала тэатр і цягнулася да крамкі-касы, былой гарадской прыбіральні. Якія ў чарзе стаялі радасныя людзі! Усплёск светлай энергіі обак Аляксандраўскага сквера.

Пасля ў “Аўстэрыі” артысты рабілі чытку “Чарнобыльскай малітвы” паводле Святланы Алексіевіч. Такое ў кавярні адбывалася ўпершыню, і таму не было вядома, колькі людзей прыйдзе, як усё адбудзецца, але прыйшло роўна столькі, колькі было крэслаў. Недзе пад паўсотню.

Тут адбываліся ўсе постпрэм’ерныя ўрачыстасці і ўвогуле святы. Псавала атмасферу хіба спроба зарабляць на кавярні грошы праз банкеты і вяселлі. Урэшце, там збіраліся файныя людзі таксама. Ну, і вядома – тры летнія Ночы Паэзіі на тэрасе “Аўстэрыі Уршулі”. Гэта было шчасце. Але пра тое – асобная гісторыя.

Вялікі плюс нашай новай кавярні – тэраса. Пачынаючы з траўня, сюды выносілі столікі, і ў найлепшыя часы тут раілася безліч людзей. Асабліва цёплымі вечарамі перад пачаткам спектакляў, калі сонца коса прашывала тэрасу навылёт і таполевы пух лётаў у залатых німбах над галовамі наведнікаў. Каго тут толькі не было! Марк Мерман, Кася Камоцкая, Серж Скурат да паўночы гралі на гітары і спявалі, дый не толькі яны...

Аднаго разу сярод дня мы дачакаліся прыезду артыстаў легендарнага “Глобуса” з Лондана, якія ў сваёй двухгадовай вандроўцы па свеце ў гонар юбілейных дат нараджэння і смерці Шэкспіра ўпершыню наведалі Беларусь. Яны калабродзілі па свеце з адзіным спектаклем “Гамлет”, выступаючы дзе толькі магчыма – ад сцэнаў нацыянальных тэатраў да пляжаў і пляцовак пад адкрытым небам. Ім сцягнулі сталы на тэрасе “Аўстэрыі”, каб пакарміць абедам, і яны расселіся пад нашымі цікаўнымі позіркамі. Англамоўныя купалаўцы сталі праваднікамі па нашым тэатральным жыцці. Гледзячы на іх людскі пярэсты кветнік, бо былі там цемнаскурыя, мулаты, альбіносы і рыжыя, маўклівыя і смяшлівыя, я раптам рэальна ўбачыла наш свет як глобус, жыхары якога сабраліся за доўгім сталом у цэнтры Еўропы, цэнтры горада, каля тэатра, і добра такі пачуваюцца.

А ўвечары быў спектакль, і цемнаскуры Гамлет з абсалютна тонкімі запясцямі і шчыкалаткамі, не раўнуючы арабскі скакун, разам з іншымі асвойтваў Купалаўскую сцэну. І мяккі трыкатаж колеру адтопленага малака так пасаваў ягонай стромкай

гнуткай паставе. Пасля спектакля сутыкнуліся з ім на службовай лесвіцы, па якой ён, пераскокваючы прыступкі, ляцеў у грымёрную, і ўжо тады, спыніўшыся з прывітальнымі ўсмешкамі, паказалі адно аднаму славутыя сардэчкі будучага 2020-га.

## “Пан Тадэвуш”. Шляхетная быліца

> *– ...Міцкевіч не быў бы сабою без велізарнага абшару менавіта беларускага досведу. Яго адчуванне славянскасці чэрпала натхненне найперш менавіта з вашай культуры...*
>
> **Павел Гюле… “Мэрсэдэс-Бэнц” з лістоў да Грабала**

Проста перад вачыма – прагон спектакля “Пан Тадэвуш”. У зале – сябры тэатра, якія прыйшлі па запрашэннях, не па квітках. Каго тут толькі няма! Пранырлівыя журналісты, якія ўжо пасля першай дзеі апошняй рэпетыцыі паспелі вынесці спектаклю суворы вердыкт. Чыноўнікі. Банкіры і дыпламаты, то бок тыя, хто мог дапамагчы тэатру фінансава і іміджава. Лідары меркаванняў. Студэнтаў – вобмаль.

Спектакль паводле Адама Міцкевіча – не самая простая задача для тэатра. Мікалай Пінігін выступіў перад пачаткам з авансцэны і каротка сказаў, звяртаючыся да гледачоў, што гэтай мастацкай спробай хоча вярнуць вялікага еўрапейскага паэта трох народаў, нашага земляка, у беларускі культурны кантэкст. І калі хтосьці пасля спектакля разгорне томік Міцкевіча і паглыбіцца ў хараство паэмы, асабіста ён, Пінігін, будзе шчаслівы.

Сапраўды, гэта была першая спроба ўвасобіць Міцкевіча на Нацыянальнай сцэне. Эпічнасць спектакля паходзіла ад судакранання з касмічным, энцыклапедычным светам старой Літвы, так геніяльна апісаным у паэме. Пінігін месяцамі перад прэм’ерай хадзіў і цытаваў урыўкі ці то кававай цырымоніі, ці то апісання палацаў. Шукаў са сваім невыводным перфекцыянізмам адпаведныя гравюры Напалеона Орды. Прыцягнуў да супрацоўніцтва шаноўнага Уладзіміра Шчаснага, які дазволіў пакарыстацца выкшталцоным альбомам гравюр са сваёй багатай хатняй бібліятэкі. Зрабіў перад пачаткам рэпетыцый сустрэчу з паэтам і філосафам Ігарам Бабковым, які, па маіх адчуваннях, разумеў таямніцу Міцкевіча. Цікава, што да гэтай сустрэчы сцэнарый ужо быў напісаны Сяргеем Кавалёвым, і аповед Ігара, які, у пэўным сэнсе, папярэджваў пра небяспеку паўтарыць досвед Анджэя Вайды з кінафільмам, не нашмат паўплываў на ходу спектакля, але ўсё ж штосьці змяніў у стаўленні, дазволіў артыстам глыбей зразумець задуму Пінігіна. У якой цішыні адбывалася тая лекцыя! Пінігіну расповед Ігара спадабаўся, але ягоная лінія спектакля была ўжо прадуманая і абгрунтаваная. І не пагадзіцца з яго бачаннем не выпадала. Ён разумеў сваю задачу, якую сам і паставіў. Мы прачыталі столькі тэкстаў, кніг, біяграфій! Вельмі творчы стваральны перыяд! Памятаю, як на першую чытку на новенькай Камернай сцэне прыйшоў пасля цяжкой аперацыі Генадзь Гарбук. І слабы яшчэ, бадай, упершыню апынуўшыся на гэтай тэрыторыі, не заўважыў парожка на чорнай падлозе, спатыкнуўся і паваліўся... Усе разам ускочылі з-за стала і кінуліся падымаць яго. Дзякаваць Богу, усё абышлося.

Трэба сказаць, што першы ранішні прагон, які ладзіўся для супрацоўнікаў тэатра, для сваякоў і іншых артыстаў, прайшоў амаль у маўчанні. Адрэагавалі сціпла. Адчувалася няёмкасць. Пінігін хадзіў маўклівы, зацяты. Так, гэта было яшчэ сырое відовішча, але ж, як я разумела, далёка не ўсе пранікліся ідэяй рэжысёра. Цікава, што яго зразумеў найлепшы, на маю думку, крытычны і абсалютна не сервільны крытык Аляксей Стрэльнікаў. Ён патрапіў у залу на прэм’еру амаль апошнім і прысеў на адкіднае крэсла першага шэрагу. Зверху я бачыла, што трымаў на калене нататнік і штосьці пазначаў па ходу спектакля. Ягоная рэцэнзія выйшла не адразу. І мне спадабалася. Яна зусім не была хвалебнай, але якраз ён быў тым, хто найбольш выразна зразумеў і агучыў ідэю Мікалая Пінігіна.

Цікавы факт з таго першага вечаровага прагону. Апошняя сцэна спектакля, калі пераможаныя жаўнеры робяць кола па сцэне, трымаючы ў руках харугвы з выявамі гербаў Жамойці, Горадні, Вялікага Княства Літоўскага (а гэта ж, вядома, "Пагоня"), пра што ў паэме Міцкевіча згадана неаднойчы, і фінальны акорд – палаючая брама (з морам асацыяцый) – усё разам узняло гледачоў з крэслаў, і гром апладысментаў разарваў прастору тэатральнай залы. Са свайго месца зверху я бачыла ўсё як на далоні. Усе стаяць, апладзіруюць, але нерухомым у крэсле застаецца міністр культуры Святлоў з каменным тварам, а побач, у няёмкай позе – дырэктар мастацкага музея Пракапцоў. Хаця ён і не падняўся разам з усімі, але нерухомым яго было складана назваць. Мне здаецца, я адчувала ягоны вымушаны ўнутраны прымус.

Не ўсе засталіся задаволеныя вынікам. Калі я згадваю пра ўвасабленне Міцкевіча на польскай сцэне, то гэта, бадай, некалькі дзясяткаў самых розных варыяцый. Бачыла адну з іх. Спектакль пачынаўся з выхаду на сцэну групы сучасных людзей, якія ўсе разам глядзелі на зорнае неба і казалі пра яго радкамі Міцкевіча. Так, палякі маглі сабе дазволіць эксперыментаваць з міцкевічавым тэкстам, з ягонай традыцыяй. Яны ўжо даўно ўзбагацілі сваё жыццё новымі сэнсамі і атрымалі пэўны дар свабоды. У нас была іншая сітуацыя. Дзіўна гэта не ўлічваць і пагарджаць. Пінігін часам падаваўся мне ледаколам, за якім адкрываецца кіпучая творчая прастора для іншых.

Наступствы неўставання Святлова на спектаклі распачаліся назаўтра. У Міністэрства культуры былі выкліканыя ўсе датычныя – дырэктар, мастацкі кіраўнік... Адно з пытанняў да купалаўцаў было – як мог апынуцца ў зале Някляеў? На што Пінігін адказаў, што Някляеў – ягоны сябра і быў запрошаны ім асабіста... Пасля мы сядзелі за столікам ў "Аўстэрыі", і тагачасны дырэктар Павел Палякоў сказаў, смеючыся і выціраючы насоўкай лоб: "Нічога, я на мэблевую фабрыку дырэктарам пайду. Не прападу". Сцэнограф Зіновій Марголін, які прыехаў на прэм'еру з Масквы, ціха хапаўся за галаву: "Ну і заапарк! Усяго бачыў, але такога!" Пытанне стаяла пра звальненне дырэктара. Пінігін заняў пазіцыю – калі звольняць Палякова, пайду і я. Завісла тэатральная паўза.

Праз дзень-другі адбылася рэпетыцыя перад наступным прэм'ерным паказам для гледачоў з кветкамі. На рэпетыцыю з зацятым тварам і цэлым спісам паправак да спектакля прыйшла супрацоўніца МК. Седзячы за спінай Пінігіна, які кіраваў рэпетыцыяй за столікам з пультам і мікрафонам пасярод залы, пачала шамацець стосам папераў і рэальна шыпець на вуха рэжысёру: "Чаму ў Хаіма так ярка выражаныя нацыянальныя рысы? Чаму Анікей на сцэне курыць сапраўдную файку? Чаму рускага афіцэра так камічна паказваюць п'яным? Ён жа ганьбіць рускі мундзір! Трэба згладзіць гэтую сцэну (выдатная сцэна танца Мішы Зуя, якая якраз і сталася кульмінацыяй спектакля, пасля якой абвастрылася дзеянне)... І тут на маіх вачах адбылося незабыўнае. Пінігін трываў гэтае шыпенне з шамаценнем за сваёй спінай і ўрэшце ўзарваўся! Калі б мне хто-небудзь сказаў, што мат можа гучаць опернай арыяй, я б не паверыла. Гэта было прыўкрасна! Ішоў 2014 год.

Цікавы факт. Пасля спектакля мне пазваніў Мікола Матрунчык і папрасіў перадаць рэжысёру, што варта на агаленыя грудзі рэкрутаў (студэнтаў мастацкай акадэміі), якія метафарычна гінулі, знікаючы ў адкрытым на сцэне люку, павесіць нацельныя крыжыкі на простым шнурку, бо напачатку XIX стагоддзя не маглі хлопцы сыходзіць у тагасвет без крыжа. Я перадала Пінігіну, і на наступным спектаклі простыя крыжыкі ўжо былі на грудзях рэкрутаў у нашым спектаклі.

А пасля пачаліся гастролі ў Парыж. І гэта ўжо цудоўны працяг для іншай гісторыі.

## Мікалай Кірычэнка

Самы апошні ўспамін пра Мікалая Кірычэнку – ягоны візіт да нас у літчастку на шосты паверх. Вось сядзіць ён на крэсле каля канапы перад шкляным авальным

столікам. Ад гарбаты адмовіўся, размаўляем. Яму відавочна добра і цікава. Зверху на галаву ліецца святло з невялікага акенца на століі. Кірычэнка ўсміхаецца, і вочы ягоныя бліщчаць. Там я і пачула славутае: “Артыст не можа граць з халодным носам”. Я казала пра ягоную ролю ў спектаклі “Вечар” Аляксея Дударава. Вельмі любіла яе. Яна надавала спектаклю нейкую асаблівасць праз выключнае абаянне Кірычэнкі. Ён радасна ківаў, маўляў, пагадзіся, гэта зусім іншы спектакль атрымліваўся, калі ён быў Васілём... Хваліла ягонага Крэонта ў “Антыгоне” паводле Жана Ануя. Ён згодна ківаў – так, роля важная, спектакль важны, але навошта, так мала пажыў сцэнічным жыццём? Спектакль я любіла таксама. Памятаю, як на адным з паказаў на Камернай сцэне Кірычэнка закашляўся. Здараецца, бывае такая напасць з чалавекам – не дасі рады. Божа, як ён змагаўся з ёй! Пасля была мізансцэна – паўза. Ён сядзеў на зэдліку спінай да сцэны і рабіў усё, каб справіцца з кашлем і не паказаць астатнім, што з ім адбываецца. Ён справіўся!

Згадваю першую чытку п’есы ў выдатным перакладзе з французскай мовы Уладзя Лянкевіча. На думку Мікалая Міхайлавіча, у тэксце было зашмат літаратурнасці, лішніх слоў. Ён ішоў на гэтую чытку, загадзя настроены насцярожана і крыху ваяўніча, маўляў, будуць праблемы, спрэчкі. Яны сапраўды былі, але ж лагодныя і вельмі плённыя. У чымсьці мы з рэжысёрам Мікалаем Капульцэвічам саступалі мэтру, але ў прынцыповых (як здавалася) месцах – настойвалі на сваім. Кірычэнка расслабіўся, пабачыў, што ніхто тут не варожы, усе спрыяльныя і паважлівыя. Ён пачаў радасна распавядаць пра сябе, пра сваю вучобу, пра раптоўнае дырэктарства, да якога зусім не імкнуўся.

Усе ў тэатры ведалі, што ўжо будучы цяжка хворым, пасля ўколу, ён вяртаўся ў грымёрку, клаўся і ляжаў да вечаровага спектакля, а пасля выходзіў на сцэну. Як часта падзеі на сцэне не проста перагукаюцца, а змешваюцца з рэальным жыццём, тады суаўтарам драматурга і рэжысёра робіцца невымоўная сіла. Так мы і ўспрымалі ролю Мікалая Кірычэнкі ў адной з апошніх купалаўскіх прэм’ер, спектаклі “Зямля Эльзы”. Ягоны герой Васіль Ігнатавіч на сцэне за паўгода да ўласнага сыходу зрабіў свой паўкрок у іншасвет...

## Горват

Першая зіма ў тэатры. Яшчэ хаджу ўзбочнымі сцежкамі. Менавіта тады запрыкмеціла хлопца-дворніка, які прыбіраў снег шырокай фанернай лапатай. Чымсьці прыцягнуў увагу. Колерам вопраткі, хіба? Мяккасцю абрысаў? Нагадваў наглядчыка за беларускімі балотамі з леснічоўкі. Здаецца, поруч яго мусіў чакаць прыручаны сябар-воўк. Заўсёды быў з апушчаным долу тварам, не падымаў вачэй. Яго было складана разглядзець. Але ж так хацелася, бо вабіла нейкая засяроджанасць нетутэйшая ці, наадварот, так знаёмая мне і прымальная ў людзях.

Аднойчы, праходзячы бліжэй, павіталася. Адказаў па-беларуску, не падымаючы вачэй. Пасля яшчэ колькі разоў. А ў мяне да яго такая прыязнасць невымоўная! Што за хлопец такі дзіўны? Паралельна тады чытала “Нашу Ніву” і паступова ўцягнулася ў запіскі-нататкі нейкага аўтара, новага для мяне. Харошыя такія, таленавітыя, жывыя. Карацей, у нейкі момант вычытваю, што аўтар той робіць у Купалаўскім тэатры дворнікам! Першае, што адчула, – радасць. Я не памылілася! Было ў тым хлопцы штосьці, што прыцягвала ў ягоную арбіту. Гэтак мы сабе, самі таго не разумеючы, выбіраем людзей па жыцці. Карацей, гэты маўклівы дворнік аказаўся тым самым Горватам.

Пасля ўсё панеслася, як у кіно. Прынамсі, так здаецца цяпер. Андрэй Дынько папрасіў напісаць маленькую нататку пра аўтара і тэатр. Напісала. Горват падзякаваў. Адчувалася, што яму гэта прыемна, але хочацца віхуры ды замеці навокал, “рок-н-ролу”, як аднойчы прызнаўся. Ён быў па-ранейшаму маўклівым, але ж з

ясным разуменнем сябе ўнутры. У тэатры ён больш не працаваў, але выдаў кнігу, раздачу якой мы зладзілі ў кавярні. Быў шалёны поспех, яе прачытала ўжо шмат артыстаў. Неяк у літчастку зайшоў Пінігін, трымаючы кнігу над галавой. “Гэта цуд! Гэта лепшае, што я чытаў за апошнія пяць гадоў! Гэта трэба ставіць! Прывядзі яго на размову”. Што заўважыла, Горват быў ашаломлены візітам да Пінігіна, але сабе не здрадзіў ані. У ім гэта спалучалася – уласнае пачуццё годнасці і адначасова ўважлівае стаўленне да аўтарытэту.

Каманда, якая пачала рабіць спектакль паводле кнігі Горвата, была маладой і сяброўскай. Яны аддаліся працы з вялікай ахвотай. Вось ужо дзе “спешка і ахвотка” прыходзілі на дапамогу артыстам. Шмат любові было ў гэтым спектаклі. Амаль тактыльны досвед атрымлівалі людзі ад той любові.

Горват – інтраверт, і ў яго ёсць свае прычыны жыць навідавоку і прычыны час ад часу залазіць ва ўнутраны куфар. Бо хованкі, урэшце, – нашая нацыянальная гульня.

## Вясна. Лета. Восень. Зіма

### Вясна

Купалаўскі тэатр стаіць пасярэдзіне горада, прынамсі так я яго бачу. Ад тэатра да майго дома хуткім начным крокам нацянькі праз праспект, вуліцы, двары і завулкі – 45 хвілін хады. Але зараз мне хочацца ўпісаць гэты падноўлены старасвецкі будынак у цэнтры Мінска не толькі ў кантэкст горада і наваколля, да гэтага яшчэ дойдзе час, а ў жыццяпіс прыродных з’яў, на якія ані артысты, ані сцэнарысты, ані рэжысёры і ніхто іншы не маюць аніякага ўплыву, а толькі прымаюць як дадзенасць, як наканаванне, як праяву. Рэжысёр тут відавочна іншы і ўсюдыісны. Таму і назіраць гэтую бясконцую змену велічных дэкарацый, што адбываюцца на небе і на зямлі – наш сціплы ўнёсак у мастацтва жыцця.

Неўзабаве па маім прыходзе ў тэатр адбылася прыкметная астранамічная падзея – зацьменне сонца. Пра гэта пісалі і казалі, радзілі розныя спосабы прыладаў, каб назіраць і не зашкодзіць вачам. Шкельцы капцілі, акуляры ад сонца прыносілі, стужкавыя негатывы назапашвалі. У вызначаны час, нават крыху загадзя, людзі тэатра высыпаліся гарохам у Аляксандраўскі сквер да славутага фантана і з лёгкім хваляваннем пачалі паглядаць на неба. Была ранняя вясна. Пакуль сцякалі імгненні да сонечнага знікнення, вока ўхоплівала ліпкія пупышкі каштанаў на вершалінах, якія сонца першымі адорвала цяплом. А каля фантана стаялі такія прыгожыя людзі! Я ведала яшчэ далёка не ўсіх. Міжнародны аддзел Купалаўскага амаль поўным складам, літчастка, супрацоўнікі “Аўстэрыі Уршулі”... Артысты, якія ішлі на рэпетыцыю, далучаліся да вясёлай сціжмы каля фантана Хлопчыка з лебедзем.

Пакуль чакалі недасяжнай і неахопнай нябеснай падзеі, падумалася пра тое, колькі адбывалася ў гэтым садзе-скверы ад часу пасадкі тут першых дрэваў у 1873 годзе! І гарадскіх гісторый, і тэатральных. Ужо гадоў пяць да закладкі Аляксандраўскага сквера тут стаяла капліца. Тут пратупала, прашаркала, прабегла наскрозь сотня тысяч ног, безліч усяго было гаворана і перагаворана... Сюды, да лавачкі, дзе сядзеў перад тэатрам Еўсцігней Мировіч, падыходзіў сціплы хлопец у вышыванцы са згорнутымі ў трубачку паперкамі з п’есай “На Купалле” – Міхась Чарот. Тут Галіна Макарава з Валерыем Анісенкам хадзілі няспешна ўзад і ўперад, паўтараючы вершаваны тэкст Карыма ў перакладзе Уладзіміра Караткевіча да спектакля “У ноч зацьмення месяца”...

Але зацьмення сонца мы ўсё ж дачакаліся. З зямлі ўсё выглядала менш грандыёзна за падзею ў нябёсах, якую ўявіць зблізу было папросту немагчыма. Гаманіць ды смяяцца мы тады не спыніліся, а вось птушкі, здаецца, на кароткі час змоўклі. Засталіся фота таго нашага соймiка ў скверы. Прыгажэнныя профілі дзяўчат з залацістымі

контурамі, рыжыя сонечныя галовы амаль ва ўсіх і жывая шкалярская радасць. Сонца было так далёка, а мы, такія розныя і прыгожыя – побач у шчыльным коле. А непадалёк чакаў тэатр, у якім, як у катрынцы, таіліся самыя нечаканыя гукі і выклікі.

З нагоды таго зацьмення сонца чамусьці згадалася музыка кампазітара Уладзіміра Мартынава, якую ён напісаў у 70-х гадах XX стагоддзя, каб адвесці ад зямлі небяспечную камету. Тая сапраўды змяніла траекторыю і паляцела ў вусцішнае бязмежжа, пра якое мы ў тую хвіліну зусім не згадвалі.

### Лета

Летнія залевы ў спякотныя дні наляталі нібы нябесны табун, топчучы і падмінаючы пад сябе горад. На безаконным шостым паверсе спачатку густа цямнела, на імгненне рабілася небывала ціха, і неўзабаве па даху распачынаў лупіць шпаркі дробны шрот. Глухія ўдары ў гіганцкі бубен набліжаліся ці то з боку Ляхаўкі, ці то Сляпянкі, але ўседзець на месцы было ўжо складана. Калі ж нябесная вада перакульвалася на будынак як з калодзежнага вядра і тэатр на час ператвараўся ў мур перад націскам магутнай праявы, паўставала неадольнае жаданне стаць часткай гэтага буйства ці хаця б сціплым назіральнікам, унутры якога тахкае ўсхваляванае храбрае сэрца. Сцэнай тады рабілася любая пляцоўка навонкі. Не змаўляючыся, купка цікаўных ужо тоўпілася пад казырком у дзвярах “Аўстэрыі” прад выхадам на тэрасу.

На вачах адбывалася гучная дзея з удзелам усіх прыродных стыхій. Вада шэрай заслонай закрывала панараму праспекта і плошчы. Вецер гнуў стогадовыя клёны і крыху маладзейшыя каштаны. Зямля не паспявала прымаць нябесныя патокі, а маланкі бліскалі навыперадкі з першабытным грукатаннем.

*Гром загрымеў – і адразу*
*аціхлі ўсе галасы:*
*нябёсы гавораць!*

**(Алесь Разанаў)**

У тэатры таксама часам імітавалі раскат грому. Адмысловыя машыны для гэтага былі прыдуманыя яшчэ ў антычным тэатры, а пазней удасканальваліся, рабіліся больш складанымі за металічную бляху, якая аджывала з часам, як і суфлёрская будка на авансцэне. Вады рабілася ўсё больш. Згадаўся колішні спектакль Валерыя Раеўскага “Эрык XIV” з цэлай акваторыяй пасярод сцэны на кожным спектаклі. Тут жа вада цякла не з кранаў ды помпаў.

Летнія залевы сканчаюцца амаль тэатральным катарсісам. Сонечны прамень вокамгненна працінае вільготную мярэжу навылёт і падпальвае залатым бляскам найменшую кроплю і найвялікшую лужыну. Суцэльнае зіхаценне і цёплы пар ад разняволенага цела зямлі. Тэраса ўмылася. Кудысьці хутка знікла вада, па якой толькі што можна было пускаць папяровыя караблікі. Паверхні чорных цяжкіх столікаў “Аўстэрыі” люстэркава блішчэлі і няроўнымі выспачкамі высыхалі на вачах. Рух праспекта аднавіўся. Блакіт заліваў увесь абшар, выпіхваючы студзянцы за бачныя межы, а над тэатрам і Палацам прафсаюзаў намаляваліся дзве вясёлкі. Якое імя мае рэжысёр гэтай дзеі?

### Восень

У Варшаве я бачыла кавярні, прыступкі якіх былі наўмысна засыпаныя восеньскай лістотай. Яны шамацелі пад нагамі і спрыялі большаму жаданню да кавы ці глінтвейну. Восень заўжды стварае ілюзію камернасці і герметычнасці. Вось зайшоў у расчыненыя дзверы з кляновым лістком на мыску абутку і ўжо нібы стаўся ўтанараваным і абароненым ад знешняга свету. На час.

Тэатр стаіць на ўскрайку старога гарадскога сквера, дрэвы якога магутнымі ствaламі нагадваюць жывую аркаду на подступах да камяніцы. Іх кроны сплятаюцца галінамі, пакідаючы сухімі дарожкі падчас невялікага дажджу. Восенню гэтыя дарожкі старанна вымятаюць ад каляровага лістападу, выкарыстоўваюць траскучыя газонакасілкі, якія перамалочваюць разам з травой і каштанамі густы пласт апалай лістоты. Але пакуль тое, надыходзіць пара бабінага лета, калі золатам зіхаціць уся гэтая невялікая выспа ў цэнтры горада. Бурштынавыя ясвінкі святла, хвалюючы водар сухіх папрэлых лістоў, бясконцае шамаценне ног, дзіцячыя воклічы, каштаны ў кішэнях. Адзін такі з лёгкай рукі Паўлінкі Хадорык выдужвае ўжо трэці год каля сядзібы ў вёсцы Вавукі, што на Смаргоншчыне. Чаму там? Бо, блукаючы па навакольных пустках і ўзгорках, набрыла на закінуты дом з забітай верандай, адметнай узорыстымі шкельцамі. Побач з ім і непадалёк абрушанага свірана рос агромністы каштан. Калі ўлічыць, што аніякіх іншых каштанаў побач папросту няма, падумалася, што хтосьці з даўна заснулых часоў пасадзіў яго ці то з любові, ці, можа, у гонар любові. Не ведаю, ці здзівіцца некалі нехта далёкі і невядомы майму гадаванцу з тэатральнага сквера. Абы выстаяў.

Аднаго разу да пакойчыка на шостым паверсе пачаў далятаць з боку сквера няпэўны дзіўны гук, які сваім няхітрым паўторам, захінаючы гарадскі шум, усё ж быў музыкай а не галюцынацыяй. Праз хвілін сорак цікавасць перамагла і спусціла з-пад даху ў восеньскі парк. Была другая палова дня, сонца нізка працінала прастору паміж дрэвамі. Я пайшла на гук і пабачыла музыку. На занядбанай урадавай трыбуне, замеценай у ліставейныя дні па самыя прыступкі, на тым самым гранітным пастаменце ўлады былога часу, дзе калісь туліліся адно да аднаго каракулевыя і андатравыя каўняры на святочным лістападаўскім скразняку, стаяў хударлявы чалавек, спінай да сквера, тварам да праспекта і змрочнага гмаху Палаца рэспублікі, і граў, трымаючы ўгору адной рукой музычны інструмент, падобны да вялікай дудкі. Другой рукой ён павольна размахваў у тахт музыцы. Быў момант, калі ён спыніўся, каб зняць заплечнік, і пасля працягнуў суцяшаць мелодыяй бясконцы рух праспекта. Яго, вядома, не заўважалі, а музыку адносіў шум дарогі. Ён іграў некалькі гадзінаў! Гэта быў час, калі любое творчае выказванне бралася на ўлік і каралася, бо быў кастрычнік 2019 года.

Цяпер, калі я згадваю таго хлопца, мне здаецца, што ён чыніў замову, імкнучыся, стоячы на чорным граніце былой улады, сваімі жывымі гукамі разбурыць насланнё. Згадваючы тую дзіўную, ні на што не падобную сустрэчу пасярод восені ў цэнтры горада, прыгадаю іншую мінскую гісторыю, пачутую ад музыкі Сяргея Ахрамовіча. Гісторыя тая, застаючыся выключна мінскай, сягае за межы горада і часу. Сям'я Сяргея жыла ў доме над “Ямай” на вуліцы Мельнікайтэ. Аднаго разу глыбока ўначы хлопец пачуў тужлівыя і адначасова ўрачыстыя гукі музыкі. Выйшаў на балкон і пасярод поўнай цемры і маўкліні зразумеў, што музыка даносілася з глыбіні Ямы. Там, унізе, стаяў чалавек са скрыпкай і граў. Адзін.

Восень 2020-га далася ў знакі. Прырода бушавала разам з людзьмі. Аднаго вечара на горад наляцеў шквал, падобны шторму. Бура шкамутала магутныя дрэвы Аляксандраўскага сквера. На нейкі момант падалося, што па праспекце з боку паштамта насоўваецца вадзяністая шэрая імгла, сціраючы з вачэй мінскі ампір. На цэнтр горада абрушыўся маланкавы шал. Агністы разрад патрапіў у дах Купалаўскага тэатра. На сцэне якраз ішоў адзін з апошніх (неўзабаве стогадовы тэатр спыніць сваё існаванне) спектакляў “Пінская шляхта”. Патухла святло. Дзея завяршалася пры аварыйным асвятленні. Цікава было б адшукаць гледачоў таго памятнага спектакля. Думаю, гэта было запамінальна – апынуцца ў паўзмроку тэатральнай залы, за сценамі якой шалела непагадзь і выспявала пагроза. Апроч даху тэатра, у які патрапіла маланка, пацярпела адно з магутных старых дрэваў тэатральнага сквера – клён. Яго раскалола напалам.

## Зіма

*Сьвежым сьнегам асыпаў сьнежань*
*вайстраверхія дахі вежаў,*
*камяніцы, каменьне брукаў,*
*бровы жвавых наўзьдзіў людзей.*
*Пад асьнежаны сэрца стукат*
*выплятаю я сетку сьцежак*
*на бязьмежным прасьцягу сьнежным,*
*дзе ружовы разьліўся дзень...*

**(Наталля Арсеннева.“Снежань”)**

Памяць звыкла захоўвае ці то дажджыстыя золкія зімы, ці сапраўдныя снежныя, якія рэдка здараліся за апошнія гады. Бывала так, што гледачы, выходзячы з вечаровага спектакля з Камернай сцэны ў зледзянелы Аляксандраўскі сквер, траплялі наўпрост на коўзанку, па якой рухаліся асцярожнымі крокамі хто сам, хто пад руку са спадарожнікам у кірунку праспекта, каб ужо там, у паркім метро ці аўтобусе прыгадваць дэталі пабачанага спектакля. Вокны тэатра паступова згасалі, і абязлюднены сквер заставаўся сам-насам з сіне-жоўтымі адлюстраваннямі ліхтароў на бліскучых паверхнях.

А бывала і інакш. Снег валіў дзень і ноч, і купалаўскія дворнікі са сваімі вечнымі скрабкамі-лапатамі ўжо не давалі рады, і тады з’яўлялася адмысловая снегамашына, падобная на газонакасілку, якая расцярушвала снег вакол тэатра, бы гусіны пух. Прыпаркаваныя каля тэатра легкавікі ператвараліся ў шматслойныя гурбы. Снег паглынаў гарадскія гукі. Вушы ў такія дні закладала ў пухнатым скверы ад цішыні. Будынак тэатра стаяў, нібы закансерваваны, наглуха замураваны снегам па самыя “вушы”. Менавіта тады вакно на даху рабілася сляпым, а пакой без запаленага святла нагадваў нутро герметычнай скрыні. Гэта пазней снег пачне спаўзаць, раставаць, пакідаючы вільготныя разводы на адрамантаваных тынкаваных сценах, і тады над нашымі галовамі на шостым паверсе загрукацяць боты, закаркаюць зляканыя вароны і пачнецца скробат вызвалення даху.

А ў тэатры ў такія зімовыя дні ішло сваё жыццё. Творчае і не зусім. Штодзённае. Але ж кава здавалася больш смачнай і духмянай. У “Аўстэрыі” вырастаў попыт на глінтвейн. Сёння, калі я згадваю тыя зімы, відавочна грашу, ствараючы амаль казачныя карцінкі прамінулага жыцця. Але не асабліва пераймаюся, бо, жывучы ў дні сённяшнім, амаль на краі сусветнай подлай вайны, гэтыя ўспаміны мне падаюцца проста неабходнымі.

*Праз тры месяцы пасля сыходу з тэатра, калі сцэна стаяла пустая, а па калідорах перасоўваліся адно цені былога, мы з калегай з літчасткі зайшлі, каб наведаць нашых дарагіх бутафораў. На вахце пачулі незабыўнае, ад чаго сэрцы нашыя заліло гарачынёй. Аказалася, што напярэдадні ў тэатр праз службовы ўваход пачалі праносіць на сцэну кошыкі з кветкамі... І нашыя жанчыны на вахце былі ўпэўненыя, што ў тэатр вяртаюцца артысты, і гэтыя букеты і кошыкі – для ўрачыстай сустрэчы іх. Падымаючыся да бутафораў, мы тройчы чулі гэтую “навіну”, і кожнага разу яна прамаўлялася з затоенай радасцю.*

Людміла Хейдарава



...калі цела дасягае вяршыні гары,

пачынаецца ўзыходжанне духу...

# Рызыкоўныя душы

***Літаратурныя згадкі***

## Пахаваны пад хусцінкай роднай зямлі

Бываюць людзі, з якімі не бывае расстання, бо яны ўвайшлі не ў час твой, а ў самое жыццё. Страшна падумаць – гэта трэба было надарыцца чарнобыльскай катастрофе, каб айцец Аляксандр змог прыехаць на Радзіму!

Пра тое, што айцец Аляксандр прыехаў у Беларусь, я даведалася на працы. Тады я працавала на тэлебачанні ў літаратурна-драматычнай рэдакцыі. Я ўжо не паспявала на вакзал, каб сустрэць яго, аб чым бясконца шкадую... Наш рэжысёр Уладзімір Траццякоў адправіўся здабываць тэлекамеру, а я паехала на Кальварыю. Была там упершыню і не ведала, куды ісці. Насустрач мне трапіўся тэлежурналіст Аляксандр Палітковскі з тагачаснага “Взгляда”. Я так абрадавалася, што не падумала пра тое, што ён не ведае мяне, як і мову беларускую. Зразумела я гэта, калі пасля майго пытання пра імшу ён неяк доўга і задуменна глядзеў на мяне...

Сустрэча з людзьмі, якія прыйшлі вітаць айца Аляксандра, паслухаць яго, і імша ў той дзень неяк зліліся ў маёй свядомасці ў адно цэлае, што можна вызначыць трыма словамі: проста не верылася: храм, радасць, літургія, узнёсласць, беларуская мова, легендарны чалавек з ласкавай усмешкай на вуснах і ў разумных вачах, ззянне, якое сыходзіла ад гэтага чалавека, і ўсе шчаслівыя. У мяне было такое адчуванне, што я трапіла ў бацькоўскі дом, дзе мне надзейна, светла, шчыра. Айцец Аляксандр так проста прамаўляў, што я выразна адчула, што простае, шчырае, геніяльнае, святое – сінонімы. І яшчэ я зразумела, што павінна расказаць тэлегледачам пра яго – ягонымі думкамі, ягонай дабрынёй, ягоным неўспрыманнем ілжы, ягонай верай у Беларусь. Калі чалавек адчувае ў сабе абсалютна тое, што кажа, яму верыць.

Пра айца Аляксандра тады не так і многа ў нас людзей ведалі. Айцец Аляксандр згадзіўся на інтэрв'ю. Не ведаю, ці захавалася праграма пра яго ў архівах тэлебачання, але яна, нягледзячы на тое, што мяне спрабавалі запалохаць, прайшла ў эфір. Ён быў гатовы да любых пытанняў пра Беларусь, служэнне. Зразумела, што мяне цікавілі і чалавечыя праявы такой незвычайнай, неардынарнай асобы. Я запыталася, ці ёсць у яго якія жаданні зараз. Пачула ў адказ, што, канечне, ён хацеў бы наведаць свой родны дом, але ў гэты прыезд не хопіць часу. У наступныя прыезды таксама не атрымалася. Пабачыў толькі на здымках. А цяпер і хаты няма той. Але тады гэтая задача здавалася нескладанай, і я сказала, што ён знаходзіцца на такой вышыні чалавечага духу, чалавечых магчымасцяў, якім нават і пазайздросціць немагчыма, ці ёсць у яго нейкае запаветнае жаданне. І тут... вочы айца Аляксандра зрабіліся мокрымі, на пачырванелым твары адбілася разгубленасць, ён незвычайна хутка і горача глухім голасам прамовіў мне прама ў душу: "Я хацеў бы быць пахаваны на роднай зямлі". Я не хачу асэнсоўваць гэта. Няхай кожны дадумае сам. Рэжысёр ТБ, Галіна Краўчанка, у мінулым карэнная масквічка, з якой мы манціравалі праграму, асэнсавала імгненна: "Усе хочуць быць пахаванымі тут, толькі жыць тут не жадаюць". Горка...

Мне вельмі шкада, што гэтае жаданне айца Аляксандра не здзейснілася, але чула, што родную зямлю прывезлі на ягоную магілу. Хацелася б, каб кожны, хто збіраецца наведаць Лондан, не забыў прывезці да яго ў хусцінцы родную зямлю. Не здзейснілася і маё жаданне пабываць у айца Аляксандра ў Лондане. Дасланае ім запрашэнне я паказала кіраўніцтву ТБ, каб мяне адпусцілі з працы. Запрашэнне ў мяне забралі на разгляд, і болей я яго не бачыла.

Праз некалькі гадоў па літаратурных справах мяне накіравалі ў Дагестан, адкуль я ледзьве змагла вырвацца, каб вярнуцца дадому. Калі самалёт прызямліўся ў Гомелі, я ўсвядоміла раптам, што стаю на каленях перад трапам і цалую аэрадромны бетон, а вакол мяне стаяць неўразумелыя людзі. Я зразумела невымерны боль айца Аляксандра ў жаданні вярнуцца на Радзіму, хаця б сабе прахам. Ужо дома я напісала верш "Да Беларусі" і ў самаробнай кніжачцы падаравала яго з прысвячэннем айцу Аляксандру. У нашых афіцыйных выданнях прысвячэнне не прайшло цэнзуру.

### *ДА БЕЛАРУСІ*

Якою зёлкай прыварожыла,
якой замовай, любоў мая?
Хай на прыветнай ці злой чужыне
адно табою жывая я.

На Беларусі туманы сцелюць
сівыя раніцы па лагах,
на Беларусі мае надзеі,
па Беларусі – мая туга.

Як вышыня – галаву ўскружыла
і захлынула, як глыбіня.
Якою зёлкай прываражыла,
якой замовай, любоў мая?

На Беларусі святыя кросны
ткуць жыццяў лёсы і лічаць дні,
на Беларусі мае ўсе вёсны,
аб Беларусі мае ўсе сны.

Як вышыня – галаву ўскружыла
і захлынула – як глыбіня.
Хай на прыветнай ці злой чужыне
адно табою жывая я.

На Беларусі свет-зараніцы
нясуць у неба званы журбы.
На Беларусі мае бажніцы,
Аб Беларусі мае мальбы.

*З кнігі "Купанне ў росах". – Мн.: Маст. літ., 1993*

А тады, у той першы ягоны прыезд, я хадзіла за айцом Аляксандрам, як цень. Мне было цікава ўсё, што адбываецца вакол яго і з ім. А яшчэ больш мне было проста вельмі светла побач з ім. Айцец Аляксандр адгукнуўся і на маё запрашэнне на дранікі. Яго прывезлі загадзя, і, пакуль не прыйшла Вольга Іпатава, а мая суседка Таццяна з сям'і Шушкевічаў, лепшая, калі не адзіная, сапраўдная ў жыцці сяброўка, смажыла свае знакамітыя дранікі, айцец Аляксандр вандраваў з паўгадзіны па маёй двухпакаёвай хрушчоўцы, падоўгу спыняючыся ў кожным куце. Калі ён вярнуўся да мяне, я сказала, што пераклала для сябе па-беларуску Малітву Госпада. Ці добра будзе мне так маліцца? Айцец Аляксандр і слухаць не стаў. Аказаў, што самае галоўнае ў малітве – шчырасць. Скажу так. Той перыяд у маім жыцці не быў добрым. Напэўна, айцец Аляксандр маліўся на ўсіх маіх кутах за мяне. Пасля тых "дранікаў" частка ягонага ззяння не толькі засталася ў кватэры, але і выправіла маё жыццё на добры лад. Я старалася заўсёды сустрэцца з ім, калі ён прыязджаў потым. Айцец Аляксандр сустракаў мяне жартам: "Зацягалі мяне тут па драніках!" Крэсла, якое займаў ён падчас вячэры, захавалася. Яго беспамылкова выбіраюць госці, усе мае каты, сабакі і я. Я заўсёды дзівуюся, калі чалавек, які прыйшоў у хату, іншым разам упершыню, куляй ляціць да таго крэсла, і раблю выснову, што светлых, добрых людзей значна болей, чым нам здаецца часам.

Шчасце мець у жыцці такі досвед, як знаёмства з айцом Аляксандрам. І не таму, што ён быў апостальскім візітатарам, хаця, несумненна, гэта вялікі гонар быць некаторы час побач з такой асобай, размаўляць, раіцца, але сапраўднае шчасце – гэта калі ў ім задзейнічаныя разумовы, душэўны і духоўны аспекты. З айцом Аляксандрам іначай быць не магло. Ён і па сёння застаецца для мяне ўзорам чалавечнасці.

## Шляхам Хрыста

Амаль кожны Вялікдзень думаю пра гэтага чалавека, згадваю яго, часам перачытваю адну з двух ягоных кніжак, што ёсць у маёй хатняй бібліятэцы. Магчыма, я нешта яшчэ хачу зразумець наўздагон яму, наўздагон мінуламу... А можа быць, проста душа не наталілася агульным часам на Зямлі...

...Другая палова 80-х... Вяселле Хрысціны Лялько. Сярод шматлікіх гасцей адразу вылучаю незвычайную пару – хударлявага мужчыну з ценем забытай ус-

мешкі на вуснах і мяккім прыцягальным святлом у вачах. Побач з ім бліскучая, маладая, ладна скроеная загарэлая жанчына, прыгажосць якой настолькі яркая, што здаецца нават гучнай.

Калі мы апынуліся побач, Хрысціна пазнаёміла нас:

– Лола. Уладзімір... Конан...

Лолу я болей не сустракала, здаецца, ды неяк і не цікавілася. А вось з Уладзімірам Конанам выпадала бачыцца кожны Вялікдзень, калі выбіралася на службу ў Свята-Духаў сабор. Па адным тым, як ён прыкладаўся да абразоў, хуткасці ўпэўненых, дакладных рухаў, было зразумела, што, у адрозненне ад мяне, не толькі часта бывае ў храме, але і цягнецца да яго душой.

Філосаф... крытык... гісторык... Нешта не складалася ў мяне. Мае роспыты ў пісьменніцкім асяродку далі няшмат, але ж я даведалася, што гэты чалавек у свой час даў зарок беднасці, не бярэ грошы ў рукі, не атрымлівае свой заробак на працы... Як так можна жыць? Што вымусіла?..

На запрашэнне ў тэлепраграму "Літаратурная Беларусь", якую я тады рабіла, спадар Уладзімір ахвотна адгукнуўся. Але... Не любіў ён апавядаць пра сябе... Пра зарок беднасці пацвердзіў, і толькі.

Раптам я зразумела, што гэта яго асабістыя адносіны з Богам, якая ж каму справа, чаму ён абраў на сваім шляху гэты крыж? Улюбёная ў народную творчасць, я хуценька перавяла гутарку на фалькларыстыку. І ўсё ж мне ўяўлялася тады, што павінна быць нейкая мяжа паміж сапраўдным вучоным і сапраўдным вернікам. Я падвяла спадара Уладзіміра да думкі, што вераванні старажытных, як шаманізм, анімізм, татэмізм, фетышызм, політэізм, магія, іншыя духоўныя практыкі прывялі чалавецтва да манатэізму. Ці можна з гэтага зрабіць выснову, што рэлігія падпарадкоўваецца эвалюцыі? А калі так – які выгляд можа мець рэлігія будучыні?

Кароткі пранiклівы позірк...

– Не думаў пра тое. А пытанне ёсць...

"Сказаў вучоны", – падумалася мне тады...

Цяпер я думаю, што гэта і адказ сумленнага верніка.

Ну што ж, ёсць шмат людзей, якія не вераць у Бога і нават лічаць сябе проста целам. Але гэта не так важна, галоўнае, каб Бог верыў у іх. Жыццё нагадвае гару. Калі цела дасягае вяршыні гары, пачынаецца ўзыходжанне духу.

## Тады была вайна

Памятаю непадробны смутак і расчараванне, калі наш дзікі галечны пляж у Кактэбелі засыпалі вострым каменным друзам. Друз пахаваў пад сабой разам з гладзенькай галькай і намытым пяском халцэдоны з маленькім сонейкам у сярэдзіне, тамтэйшыя сердалікі, узорыстую яшму, іншыя каменьчыкі, якія збіралі там усе, называючы гэта "каменнай хваробай". Але прайшло некалькі гадоў, і марскія хвалі каталі ўжо гладкія каменьчыкі, сярод якіх з часам пачалі трапляцца і нашыя ўлюбёныя халцэдоны...

Так і кожнае слоўка катае народ, пакуль яно не зробіцца ўрэшце гладзенькім, узорыстым, з сонейкам унутры. Гэтыя словы і складаюць сапраўдную мову народа, бо колькі нашых продкаў катала іх у роце, каб зрабіць каштоўнымі, запаветнымі. Гэта нашае багацце. Багацце павінна быць прымножана. Жывая мова павінна развівацца. Як шчыраваў дзеля гэтага Рыгор Барадулін! Не сакрэт, што зараз гэтае развіццё адбываецца дзякуючы літаратарам. І як? Кастусь Цвірка ставіў гэтае пытанне яшчэ ў сярэдзіне 90-х мінулага стагоддзя, а Паўлюк Прануза, якога я ў свой час запрасіла ў тэлепраграму "Літаратурная Беларусь", распавядаў мне, што падчас вайны, знаходзячыся ў акопе, атрымаў пакет ад Кузьмы Чорнага з

наказам “Дбайце аб чысціні беларускай мовы, жадаю вам быць хутчэй на роднай вызваленай зямлі...” Тады была вайна...

## Жыццё не ставіць кропку ні на чым

Была звычайная аперацыя апендыцыту, перад якой зранку добра намучылі рознымі даследваннямі дзеля ўдакладнення дыягназу. Пасля аперацыі прачнулася.

Пачувалася хораша. Нічога не баліць. Камфортная тэмпература наваколля. Спакойны стан. Успомніла, што была аперацыя, захацела намацаць швы. Нічога не атрымалася. Крыху здзівілася. Даўмелася, што павінна ляжаць на ложку. Але пада мной нічога не было. Здзівілася моцна. Сканцэнтравала ўвагу на адчуванні асяроддзя. З’явіўся зрок. Не зусім звычайны, як бы фрагментаваны, геаметрызаваны. Убачыла постаці жанчын, якія стаялі каля вакна. Бачыла іх зверху. Яны плакалі і пазіралі ў адзін бок. Зірнула ў той бок.

Чалавек з шаснаццаць у белых халатах абкружылі ложак, на якім ляжала я. Гэта мяне чамусьці не здзівіла, проста зацікавіла. Яны спрабавалі зрабіць нейкія ўколы, увесці лекі. Уключыўся слых. Я ў тым ложку, аказваецца, зыходзіла крыкам. Але гэты смяротны крык перакрыў выкрык медсястры: «Не ідзе!» (Пасля ў мяне былі нарывы на тых месцах, дзе спрабавалі ўвесці лекі, бо на той час ужо спыніўся кровазварот.) Маё спакутаванае цела мне было нават крыху непрыемным. З’явілася дзіўная для чалавека, які не цікавіўся ні рэлігіяй, ні эзатэрыкай, не хадзіў у храм, думка: «Туды? У крык? Там так жудасна, балюча! Ні за што!».

І тут мяне пачало раскручваць, я апынулася ў трубе, якая вяла ўгору. Хуткасць палёту перавышае ўсведамленне. Я была рашуча настроена збегчы ад пакуты. Але, як бывае, калі набіраеш хуткасць на матацыкле без шкла і паветра робіцца дужа пругкім, што ажно, здаецца, угінаюцца грудзі, такой неймаверна шчыльнай рабілася прастора трубы. Я чамусьці абсалютна дакладна ведала ў гэты момант, што наблізілася да парога, які пераступаюць у гэтым жыцці і ў гэтым накірунку толькі адзін раз. І тут нібыта ўдар току – імя. Імя дарагога мне чалавека. Магчыма, гэтае імя абазначала галоўнае, дзеля чаго я прыйшла ў гэты свет. Гэта было не шкадаванне. Гэта быў як бы мой абавязак. Пакідаць было б нечым накшталт здрады. І я абрынулася...

Боль быў невыносны, нібыта ломяць мне хрыбетнік. Але трэба было ўдыхнуць, я высілкам спыніла свой крык. Чырвоны твар медсястры, расшыраныя зрэнкі: «Пайшло!» Я страціла прытомнасць.

Наступны дзень, абапіраючыся на сцяну, я стаяла на нагах і прасілася на выпіску. У бальніцы травілі прусакоў, пах стаяў невыносны. Папрасілі толькі, каб я пачакала адзін дзень.

Ранкам муж загрузіў мяне ў машыну і прывёз дахаты. Я тут жа ўпершыню разгарнула Тлумачальную Біблію, да якой ніяк не даходзілі ні рукі, ні ногі, ні галава.

Праз некалькі дзён мне знялі швы, і ў доме з’явіўся Каран, Тлумачальнік Ведаў, Вучэнне Шры Чайтанья, Абд-ру-шына і г.д., і т.п., нават падручнік па псіхалогіі. Усе казкі, якіх у мяне багацейшая калекцыя, штудзіраваліся на адзіны прадмет – што такое было са мной. Матэматычная логіка і матэматычны аналіз, закладзеныя ў маю галаву навучаннем на факультэце прыкладной матэматыкі БДУ і 13-гадовай працай сістэмным прагамістам электронных вылічальных машын, вядучым канструктарам у галіне кіравання будаўніцтвам, вядучым інжынерам у НДІ прыборабудаўніцтва ў галіне абароннай прамысловасці дастаткова дысцыплінавалі розум, каб я магла адрозніць фантазіі ад рэальнасці. Юначая практыка аўтатрэнінгу навучыла адсочваць думкі, настрой, словы, якія збіраюся мовіць. Мне цяжка глядзець кіно, тэлевізар, бо не ўмею аўтаматычна заглытваць «стравы», што там гатуюць. Карацей, я давярала сабе. Калі трапілася «Жыццё

пасля жыцця» Моўдзі, зрабілася лягчэй. Я зразумела, што не адна. Але мне не хапала духоўнага аўтарытэту.

Неўзабаве на выхадзе з Дома літаратара, які месціцца на вул. Фрунзе 5, мяне гукнуў адміністратар:

– Людміла, вы куды?! Праз гадзіну ў нас збіраюцца рэрыхаўцы...

Рэрых... Імя адгукнулася нечым забытым, светлым...

Першым, каго я сустрэла ў зале, быў Алесь Разанаў. Цяпер, праз час, ён ужо здаецца мне вартавым на маім шляху ў Жывую Этыку, якая патлумачыла мне проста і дакладна ўсё, што адбылося са мной за парогам майго цела, дала выразныя арыенціры духоўнага жыцця, эвалюцыі, сэнсу і невымернай важнасці зямнога жыцця.

Пасля было шмат цікавага, але гэта ўжо іншыя гісторыі.

А тады я ўсвядоміла самае важнае – бязмежнасць жыцця. Жыццё не забівае. Жыццё дапускае адзіна жыццё, у аснове якога ляжыць адвага, бо цяжка ўсвядоміць жыццё ў бязмежнасці. І мы ўсе, хто выбраў гэты шлях, – вельмі адважныя, рызыкоўныя душы.

### *НА СМЕРЦЬ АЛЕСЯ РАЗАНАВА*

Мой дождж!
Давай з табою памаўчым
Ты чуеш ноч?
А будучага скерца?
Давай пад спевы зорак паначы
глытком віна ўстрывожанае сэрца
суцішым.
Боль.
Жыццё ёсць боль.
Мой дождж!
Няўжо баяцца нам з табой?
Няўжо хаваць расчуленасць і вочы
у бессаромнасць непрытульнай ночы?
Мой дождж!
Ці астудзіў ты галаў чый?
Ці пад сабой схаваў камусьці слёзы?
Не дапаможа нам ні Бог, ні розум.
Мой дождж!
Давай з табою памаўчым!
Жыццё не ставіць кропку ні на чым.

*Магілёў-Менск 26-27 жніўня 2021 г.*

## Адзін

Калі ў Дагестане на адкрыцці свята “Белых жураўлёў” Расул Гамзатаў абвясціў: “Слова нашай белай сястры, нашай Беларусі – Людміле Хейдаравай...” – я разгубілася, бо ніхто не папярэдзіў, што вось так першай, адразу...

Гаспадары і госці, усе, хто стаяў на сцэне, расступіліся, і праз гэты чалавечы калідор я ішла, не дужа разумеючы, што маю сказаць людзям, якія сабраліся на плошчы, каб паслухаць нас, гасцей самога Расула Гамзатава. Спынілася перад мікрафонам...

Плошча Махачкалы чарнела ад тысячаў чорных галоваў і папах, людзі сядзелі, стаялі, дзеці месціліся на дрэвах і нават ліхтарных слупах, якія акалялі плошчу і падступаліся да сцэны. Мае вочы, а следам і рукі падняліся ў неба: “Як гэта неба над намі адно, так і Бог над намі адзін, якімі б імёнамі мы не называлі яго, як бы не разумелі яго, як бы не славілі...”

Пасля заканчэння маёй прамовы людзі на сцэне зноў утварылі мне калідор, па якім я выбралася ў парк за сцэнай. Мне хацелася ўзважыць моўленае мной.

У старым парку было прахалодна і пуста. Здавалася, увесь горад быў там, на плошчы. Але неўзабаве нехта схапіў мяне за рукаў. Праваруч стаяў сівы, як голуб, мужчына вельмі і вельмі шаноўнага ўзросту. Абапіраючыся на кіёчак, ён аддыхаўся і азірнуўся. Метраў за дзесяць да нас спяшаўся чалавек, які тросся на кожным кроку і выглядаў удвая старэйшым за свайго пасыльнага. Ён таксама добра аддыхаўся, змерыў мяне патрабавальным позіркам і нетаропка падняў угору правую руку з выпрамленым указальным пальцам. Я пачула характэрны гучны гартанны голас, які нечым нагадваў горнае рэха: “Харашо сказал! Мудра сказал!..”

Праз колькі гадоў падчас экспедыцыі ў Гімалаі мне з сябрамі пашчасціла пагасцяваць у духоўнага падзвіжніка, чалавека, які на дзяржаўным узроўні пры жыцці быў афіцыйна прызнаны Святым. Яго ў Непале называюць Мілк Баба. Імя гэтае мне пераклалі як Малочны Бацька.

На той час я была знаёмая з рознымі духоўнымі культурамі, з якіх вылучала Жывую Этыку. Сустрэча з жывым Святым вымагала самага галоўнага. “Бог адзін для ўсіх людзей?” – нечакана для сябе запыталася я, пакуль Мілк Баба гатаваў для нас чай з малаком.

Я ведала адказ на гэтае пытанне, не сумнявалася ў адказе, але мне чамусьці важна было пачуць гэта з вуснаў Святога, які нарадзіўся на зямлі, дзе пантэон багоў адзін з самых старажытных і самых вялікіх.

“Адзін...”

## Пра відушчых і сляпых

Сярэдзіна 80-х... Тэлефаную Міколу Ермаловічу:

– Спадар Мікола! Тэлебачанне, «Літаратурная Беларусь». Тэлефануе Людміла Паўлікава...

– Чакайце, чакайце... Край легендарны // нязломнага Вітаўта, // Вешчага Яна // і лепшай абранніцы, // гордае мовы – // вякамі выгнанніцы –// ледзь не забітае, // ды не забытае!

– Вось як! – не столькі здзіўляюся цытаванню па памяці майго верша, які толькі з’явіўся ў перыёдыцы, колькі таму, што чалавек са страшэннай стратай зроку, гістарычныя даследаванні якога хадзілі ў самвыдаце, знаходзіць час і траціць свой дарагі зрок, каб чытаць маладых паэтаў.

– Ну, так, ведаю, чытаю Паўлікаву...

...На гарадской лавачцы побач з намі адпачывае тэлевізійная камера. Ужо даўно развенчаны міф пра захоп беларускіх земляў літоўскімі феадаламі, ужо даўно скончыўся рабочы дзень, ужо даўно зразумела, што гэты сціплы чалавек у шэрым пінжаку падняў на сваіх плячах самую Беларусь, каб у сонечным святле ўбачыла сваю славу...

Тут, у цэнтры горада, на лавачцы, міма якой туды-сюды шмыгалі прахожыя, прыйшлі і прыпыніліся першыя радкі: «Як многа іх – відушчых, між сляпых! Як многа ёсць сляпых сярод відушчых!» Так нарадзілася мая «Балада пра відушчых і сляпых».

...Даўным-даўно жыў мудры Сівагор,
Ён быў мудрэй за вашага Цімоха.
Прыйшоў сляпы аднойчы да яго
І ў мудраца пытаецца нябога:
“Хоць вас, відушчых, болей, чым сляпых,
Вы – як багі, бо дадзена вам бачыць.
Мы знаем свет навобмацак, на слых,
Яшчэ на нюх, абвостраны, сабачы.

Ды ўсё-ткі я не скардзіцца прыйшоў –
Мне не даюць спакою вашы скарбы!
Ты здагадаўся, ведаеш ужо!
Хутчэй тлумач мне – што такое фарбы?” –

“Дык слухай, – адказаў яму мудрэц, –
Ёсць чорны колер – ночы і нягоды,
Пачатак свету і яго канец,
Адзіны ён, што бачыш ты заўсёды.
Чырвоны колер мае пах крыві,
Ён смех вар’ята, смага – ён і боль ён,
Ён барацьба... Ды як ні назаві –
Бунтоўны і гарачы гэты колер.
А белы – смерць і неруш снегавы,
Ён паліць рукі полымем халодным.
Ён – гора пасівелай галавы,
Знямога абнядоленых, галодных...” –

“Гэй, Сівагор! Сляпы я не душой! –
Разрагатаўся ў твар яму нябога. –
Ваш свет, мудрэц, не багацей за мой!
Я гэткіх фарбаў ведаю – замнога!” –
І рушыў прэч. Тут захапіла дых
У Сівагора думкаю балючай:
“Як многа іх – відушчых між сляпых!
Як многа ёсць сляпых сярод відушчых”...

## Партал у свет творцы

На сустрэчы з нагоды 60-годдзя Леаніда Дранько-Майсюка і прэзентацыі яго кнігі «...Натуральны, як лінія небасхілу», прысвечанай віленскаму перыяду жыцця Максіма Танка, Леанід прыгадаў і свой перыяд вучобы ў Літаратурным інстытуце Масквы, дзе яго пэўны час плюшчылі так, што ледзь не пазбавілі веры ў свой талент. Тое выпрабаванне наш паэт годна вытрымаў, што пацвердзіла ягоная літаратурная дзейнасць на працягу 45 гадоў.

Леанід быў рэдактарам маіх першых кніг і даў мне самы важны ўрок літаратурнай дзейнасці – веры ў сябе: катэгарычна параіў зняць з рукапісу майго другога зборніка паэзіі “Тваё святло” верш “Песні маленства” як няварты, на яго думку. Я здзівілася, але спрачацца і затрымліваць выданне не хацелася, таму я проста ўключыла гэты верш у мой трэці зборнік “Купанне ў росах”. Не перадаць майго здзіўлення, калі я прачытала заўвагу Леаніда на лісце з гэтым вершам. Чырвоным колерам з клічнікам было пазначана, што гэта лепшы верш кнігі!

З таго выпадку я канчаткова супакоілася наконт стаўлення да сваёй творчасці.

Яшчэ магу прывесці тут прыклад суадносінаў з аўтарам пра “хвалу и клевету”. Неяк пацягнула мяне перачытаць вершы Аляксандра Пушкіна. Вялізны фаліянт ПЗС разгарнуўся на старонцы, дзе кінуўся ў вочы верш у дзве страфы, які заўсёды здаваўся мне настолькі прэсным, што я ніколі не затрымлівалася на ім. Мінулася колькі часу, калі я, агаломшаная, перачытвала гэты верш зноў і зноў, пакуль скрозь слёзы ўжо не магла бачыць старонку. Праз гады вярнулася да таго верша, але ён зноў падаўся мне праставатым. Я зразумела, што твор – партал у свет творцы, які адчыняецца пры супадзенні энергій.

Кожны чалавек пракладае свой шлях у жыцці, прыцягваючыся да нечага думкай, позіркам – гэта яго выбар, яго права, яго адказнасць, яго творчасць. Судзіць свой твор не мае сэнсу, ды і моўлена «не судзіце», што тычыцца і саміх

сябе. Адзіна можна вырасці са свайго твору і азіраючыся на яго, падзячыць і блаславіць. Як нам часам не хапае шчырасці, якая зыходзіць з дабрыні, спагады, павагі найперш у адносінах да саміх сябе!

Жыццё асобнага чалавека таксама не маралізуе. Гэта велічны эксперымент, дзе нешта гіне, нешта ствараецца, падаюць чыстыя росы і вырастаюць смерчы... Але ж толькі так нашае жыццё робіцца самабытным унёскам у жыццё чалавецтва.

А мае "Песні маленства" – вось яны:

*Сястры Тамары*

Ці помніш наш стары, дзівосны лес,
дзе мы блукалі? Ноч. Мароз быў хвацкі.
І снег рыпеў, як новенькі пратэз,
які штогод атрымліваў наш дзядзька.

Паўстала ўсё, прыкмечанае ўлетку:
пустыя гільзы, косці з-пад імхоў –
так вабілі маленькіх грыбнікоў
баёў мінулых жудасныя сведкі!

Страшней за ўсё ад прывідных пагроз
ці вораг той, які не зразумелы.
І раптам стрэл! Хоць выстраліў мароз,
мы скалануліся ад жаху... і запелі!

І з песнямі па лесе, без дарог
ішлі мы, як у бой, або на свята...
Казала потым мама: "Бог збярог!"
"Па песнях іх знайшоў", – смяяўся тата.

## Фаеркі

На той час я працавала над новай кнігай і запрасіла адну добрую жанчыну гаспадарыць у маім доме, дзе часта бывалі госці, апроч людзей жылі сабакі, каты, безліч хатніх раслінаў.

Дзякуючы гэтай жанчыне, я канчаткова ўпэўнілася, што бываюць зямныя анёлы.

Калі ж мой зямны анёл сабраўся на два месяцы ў Індыю, я агледзелася на маю кухонную гаспадарку і, калі на вочы трапіліся зззяючыя металічныя накрыўкі фаеркаў газавай пліты, пацікавілася, чым іх трэба драіць, каб гэтак жа бліскуча было і ў мяне. І тут...

Жанчына доўгім трывожным позіркам пашукала нешта ў маіх вачах і раптам я пачула: "Я сама хацела запытацца ў вас, як вы гэта робіце..."

Зараз я смяюся, а тады ледзьве мазгі не загарэліся. Логіка пасавала. Было няёмка неяк, няўтульна. Мы разам адвялі позіркі ўбок. У адзін бок. І застылі. Насупраць пліты зазіхацеў крануты ранішнім промнем маленечкі абраз Маці Божай. Той стан душы, які быў у нас, калі мы наноў сустрэліся вачамі, нельга вызначыць, бо нас нібыта і не было на зямлі...

Праз гады, калі мой зямны анёл састарэў і папрасіўся ў адстаўку, новая памочніца, параеная маім добрым сябрам іераманахам айцом Віталіем, сказала, што яна часта просіць Маці Божую паспагадаць, каб ежа на пліце не прыгарэла, малако не збегла, бо Яна вышэйшая памочніца ў нашых зямных жаночых клопатах...

Зразумела, што абразок той, падараваны мне даўным-даўно тады яшчэ будучым нашым пісьменнікам, вісіць дома заўсёды насупраць пліты. Часам, калі ўспамінаю, што забылася на каву, якая гатуецца на пліце, стрымгалоў бягу і... няўцямна гляджу, як яна ціхусенька кіпіць, не пакідаючы туркі.

* * *

Поўнач. Іконы сярэбранай ззянне.
Месяц ліе святло.
Строма і тропатка ціша чакання
поўніць маё жытло.

Ясна – да болю. Да жалю – самотна.
Горка – да рэшты сіл.
Нібы ірвуся з абдымкаў смяротных
цемрадзі ўсіх часін.

Гнутка пад ношай агромністай ночы.
– Божа, іду! Ты дзе?!
...Мякка і строга Сярэбраны Хлопчык
з Матчыных Рук глядзеў...

## Дзень са Зьнічом

Колькі гадоў таму, ужо хварэў, але быў яшчэ жывы Алег Лойка, мы з мужам выправіліся ў Жыровічы. Вядома, нам захацелася праведаць Алега Бембеля, нашага слыннага паэта і філосафа Зьніча, да якога я ставілася з першага моманту знаёмства, як да равесніка, настолькі ён просты быў, адкрыты, усмешлівы, свойскі. Усё не выпадала пабачыцца з часу яго пасялення ў манастыры. На тую пару ён менаваўся ўжо там братам Мікалаем. Ён выйшаў да нас светлы, узрушаны, і, не зважаючы на наш пратэст, адразу павёў снедаць у трапезную.

Той сонечны дзень, які мы правялі разам, да гэтага часу не губляе сваіх промняў. Пасля брат Мікалай вадзіў нас па сваіх улюбёных мясцінах манастырскай зямлі, апавядаў пра сваё тамтэйшае жыццё, якое цешыла душу, адпавядала колішнім запатрабаванням. Я не столькі слухала яго, колькі любавалася ім, ягоным захапленнем тутэйшасцю, ягоным хваляваннем, калі ён прыгадваў нейкія шчаслівыя моманты, падзеі з манастырскага часу жыцця...

Хапіліся мы пад вечар. Пахаладала, і ўжо сустрэчныя манахі паўзверх дзённага адзення былі апранутыя ў цёплыя камізэлькі. Раптам брат Мікалай натхнёна мовіў:

– Заставайцеся тут! Навошта кудысьці ехаць, калі тут так хораша! Я прыехаў на тры дні, а застаўся назусім. І вы заставайцеся!

Прапанова была надзвычай нечаканай. Мы шчыра падзякавалі за такі давер. Зараз думаю, што, калі б мы тады засталіся, засталіся б там назусім.

На развітанне брат Мікалай папрасіў патэлефанаваць ягонай дачцэ Таццяне. Нагода тэлефанаваць была дужа простая, нават не памятаю зараз – нешта накшталт перадаць прывітанне. Мне пачулася за гэтым жаданне пазнаёміць нас. Я патэлефанавала, расказала пра паездку ў Жыровічы, але на тым знаёмства і скончылася. Некалькі разоў я ўспамінала гэты званок як нешта незавершанае і тут жа забывала... Але з часам нагода выхаду з друку маёй новай кнігі паэзіі “Прыступкі да Храма Святога Духа” і пастаноўка рэжысёрам Віргініяй Тарнаўскайтэ спектакля “Душа на далані” паводле маіх вершаў прывялі мяне да Таццяны Бембель. Скажу шчыра, я эмацыйна сухаваты чалавек для малазнаёмых людзей. Але калі Таццяна, ідучы насустрач, радасна працягнула да мяне рукі, імгненна трапіла пад яе чароўнасць... Ніколькі не шкадую. Не! Дужа шкадую, што не раней.

### *АЛЕГУ БЕМБЕЛЮ (БРАТУ МІКАЛАЮ) З НАГОДЫ 70-ГОДДЗЯ*

Зараз я думаю,
што ніколі не чула кропкі ў тым,
што Вы казалі,

як і не спатыкалася аб кропку
ў Вашым бяздонна ласкавым позірку.
Можа таму ад першай сустрэчы
ўспрымала Вас маладзейшым ад мяне.
Сёння я чытала пра Вас, дзіця,
якое глядзела ў вочы Вялікай Айчыннай,
разумеючы, што болей ніколі
не скажу Вам «ты».
І не таму, што Ваш зямны шлях ужо мае даўжыню
ў семдзесят зямных год.
Гэтае «Вы» – не адлегласць,
Гэта маё запозненае шматкроп'е да Вас...

## Ён так і запомніўся мне – усмешлівым

Не памятаю, калі ўпершыню пачула прозвішча Васіля Быкава. Ды наўрад ці хто згадае такое. Здаецца, ён быў заўсёды, нават калі яго яшчэ не было. Ён быў на пачатку Беларусі. Як Слова, якое было на пачатку.

1985. Дом літаратара. Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вырашаецца мой прыём у Саюз пісьменнікаў. Пасля таемнага галасавання абвяшчаюць, што голас за мяне даслаў Пімен Панчанка, зачытваюць ліст ад Васіля Быкава ў падтрымку маёй творчасці і кандыдатуры... Васіль Быкаў... Яшчэ працую вядучым канструктарам... Яшчэ не сустракала яго ў жыцці... Не верыцца ў гэтакую маю значнасць...

1990. Стары тэлекомплекс на Макаёнка. Насустрач па лесвіцы падымаюцца Вольга Іпатава і Васіль Быкаў. Пазнаю адразу, хоць ніколі не бачыла, ды і не ўмею пазнаваць па здымках.

– Ой, дзякаваць! Пабудзь, калі ласка, з Васілём Уладзіміравічам! Я хутка вярнуся, – скорагаворкай выпальвае Вольга Іпатава.

Не ведаю, з чаго пачаць размову. Чырвоны твар, збітае дыханне, зацятая паглыбленасць у сябе падказваюць, што чалавеку няможацца. Запрашаю прысесці на лаву, аблепленую нейкімі пакаёвымі раслінамі. Думаю, чым бы адцягнуць яго ўвагу ад хваробы.

– Учора трапіўся матэрыял, што хутка навучанне чалавека будзе адбывацца ў сне. Не спатрэбіцца траціць дзённы час на школу, мовы... – прыгадваю я.

Увага пераключаецца вокамгненна:

– Так! Яшчэ хутчэй навучаннем у сне будуць замбаваць людзей на патрэбы ўлады! Налева-направа, марш...

Твар пачырванеў яшчэ болей, таму прымаю рашэнне, што лепш мне маўчаць...

1994. 70 год Васілю Быкаву, 50 год ад заканчэння вайны на тэрыторыі Беларусі. Тэлефаную. Атрымліваю кароткае: “Добра”. Ну вось, а мне казалі, што заўсёды адмаўляецца.

Студыю далі імгненна...

Спакойны, кантактны, засяроджаны, яго заўсёдная насцярожанасць прысутнічае, але недзе на другім плане... Адказы на пытанні змястоўныя, па-ваеннаму дакладныя. 30 хвілін ужо заяўленыя ў эфір...

“...Васіль Уладзіміравіч, мой бацька закончыў вайну ў Вене. Гэта быў разумны, шчыры, годны чалавек. Адзін з прамоўцаў падчас яго пахавання сказаў, што калі б на зямлі нараджаліся толькі такія людзі, яна была б раем. Я ўдзячная лёсу быць вашым сучаснікам хаця б таму, што, калі не стала майго бацькі, я мела магчымасць звяраць маё сумленне па вас...”

Мы разам пакідалі будынак тэлекомплекса. Было неяк сонечна, вільготна, ласкава наўкола і ў душы. Васіль Уладзіміравіч раптам спыніўся і весела зірнуў на мяне.

– Ведаеце чаму я не сказаў усё, што думаю? Каб вас не звольнілі з працы.

...Маё інтэрв'ю з Васілём Быкавым захоўваецца ў архіве ТБ, раней часта паказвалі ўрыўкі з яго...

1996 год. Два гады пасля смерці Алеся Адамовіча. Дудуткі. Яўген Будзінас, Васіль Быкаў, Бэла Ахмадуліна, Валянцін Тарас, Карлас Шэрман, Аляксандр Ткачэнка... Пішу, і робіцца не па сабе... Гэтыя волаты творчасці, духу, сумлення, працаздольнасці, таварыскасці... Чаму іх няма цяпер, у гэтыя змрочныя часы Беларусі, Украіны, Расіі... А тады... працую ад тэлебачання над асвятленнем падзей з нагоды заснавання Літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

На падворку людна. Сярод мноства гасцей вылучаю каля дымарні сяброўскае кола, цэнтрам якога бачыцца Васіль Быкаў. Нешта вясёлае, юначае, надзвычай прыцягальнае адчуваецца ў іх асяродку. Выпальваю глупства: “Шкадую, што позна нарадзілася! Мне б так хацелася быць разам з вамі!” – “Яшчэ не позна”, – адказвае Валянцін Тарас і пад дружны смех налівае мне чарку тутэйшай гарэлкі. Веганка, цверазістка, на працы... Куляю чарку і закусваю курыцай.

Пасля ўрачыстай часткі, ужо ў холе, дзе засланыя сталы для вячэры, мяне першай віншуе Бэла Ахмадуліна – аказваецца, лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча абраная і я. Мімаходзь з хітрай усмешкай прыпыняецца з віншаваннем Васіль Быкаў...

Апошні раз я бачылася з Васілём Быкавым у Палацы мастацтваў. Пасля выступу яму ўручылі шыкоўны букет кветак. Я стаяла побач, і Васіль Уладзіміравіч раптоўна павярнуўся да мяне, усміхнуўся і падараваў свой букет. Калі жыццё букета скончылася, мяне здзівіла свежасць маленькіх белых кветачак у цэнтры букета... гэта былі штучныя кветкі. Я захавала іх і час ад часу дадаю да іх іншыя кветкі – такім чынам у мяне на стале заўсёды кветкі ад Васіля Быкава.

Ён так і запомніўся мне – усмешлівым.

### *ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА*

*Дабрата – таксама зброя.*
**Васіль Быкаў “Мёртвым не баліць”.**

У Радзімы ўсе сыны –
як найлюбшы, то ў ізгоях!
Воем стаўся ў час вайны –
праз жыццё застаўся воем.
Воем стаўся ў час вайны...
Лейтэнанты – Бог мой! – дзеці!
Не паменела маны
з тых часоў на белым свеце.
Ды і праўду адшукаць
на зямлі не палягчэла.
Ён адзін стаяў, як раць,
проці ўлады адзічэлых,
каб пакінуць на вякі
запаветнае ад воя,
ведай, людзі-дзівакі:
дабрата – таксама зброя!
Дзён імклівых чарада...
Хай на яве, а не ў мроях
на зямлі адзінай зброяй
застанецца дабрата!

## Купалле з Купалам

1988 год. На вакзале сустракаю Кастуся Тарасава. Вядома, мы ўсе тут трымаем шлях на Купалле ў Вязынку. Куды ён падзеўся пасля, не ведаю, я ўпершыню была ў Вязынцы, ды яшчэ на Купаллі!

Мне было ўсё цікава там – і знаёмыя, і незнаёмыя людзі, і вяліранае вогнішча, цераз якое пералятаді дзяўчаты, трымаючыся за рукі хлопцаў, і народныя забаўкі, гульні...

Іду палянай, нехта прапаноўвае латарэйны білецік з нумарам розыгрышу. Бяру.

Нехта мяне фатаграфаваў, як потым высветлілася ўжо на Купаллі ў Алеся Адамовіча, гэта быў Яўген Коктыш, які тады мяне яшчэ не ведаў.

Нехта насіў нада мной вялізны чорны парасон, як потым высветлілася, гэта быў Алег Атаманаў, якога я тады яшчэ не ведала.

Недзе пад ранак ужо, пасля дажджу, іду той жа палянай, чую, абвяшчаюць у рупар нумар нейкі. Згадваю пра білецік. Мой! Мне ўручаюць гіпсавы барэльеф з выявай твару Янкі Купалы. Не верылася проста. І тут жа сустракаю Кастуся Тарасава. У яго з сабой асадка. Прашу, каб пазначыў дату, распісаўся на адвароце, будзе памяць. Пасмяяўся, так і зрабіў.

## Сукенка для русалкі

Неяк Таццяна Барадуля даслала мне ліст з прапановай выступіць у Ракуцёўшчыне з вершамі пра русалак, вадзянікоў, лесуноў ды інш. Я перагледзела мае зборнікі вершаў і зрабіла выснову, што бок жыцця, акрэслены прапановай Таццяны, застаецца ў мяне неасветленым. Нават не чакала ад сябе. Карацей, тугавата ў мяне з паэтычным асвятленнем нечысці. Але...

Дужа ўдзячная Таццяне за прыпамін з жыцця. Некалькі гадоў таму русалка ў мяне сукенку з лодкі скрала на Нарачы, ды так уцякала з ёй пад вадой, што мы з мужам грэблі з усяе моцы, каб адабраць – лодка амаль ляцела, але не здагналі. Дзівіліся, як сукенка драпала з неймавернай хуткасцю ад нас, бо саму русалку мы не бачылі – толькі тонкую руку, калі ўхапіла з лаўкі сукенку, а пасля толькі сукенку, як падсвечаную ліхтаром пад вадой. У мяне застаўся шалік аранжавы ад тае сукенкі. Так што я на сувязі. А тады хавалася ў лодцы на беразе, чакала, пакуль муж у санаторый хадзіў мне па якую адзежыну. Па-шчырасці, – ганаруся, што русалка ўпадабала тую, саматробную маю сукенку. Няхай ёй на шчасце будзе.

А праз год ці два купальскім ранкам я ішла берагам Свіслачы і ўбачыла рамонкавы вянок – ён плыў роўна пасярэдзіне, неяк радасна, светла, урачыста, рассяроджана, вольна плыў, спеўна і раптам... зрабіў паварот на 90 градусаў і накіраваўся проста да мяне. Можаце сабе ўявіць стан чалавека з фізіка-матэматычнай адукацыяй, калі законы фізікі і матэматыкі парушаюцца...

Перамог паэт. Я не страціла прытомнасць нават тады, калі вянок нейкімі галсамі саматугам падплыў да маіх ног і спыніўся, не зважаючы на выразную плынь. Не вагаючыся, я выцягнула яго з вады і, цяжкі, набрынялы вадой, усклала сабе на галаву. Халодная вада з вянка збягала па маім твары за каршэнь, сцякала па жываце, але наўрад ці мне было калі так горача (хіба што, як закаханай моцна), а ўжо шчаслівейшай дык і быць не магло. Я была ўпэўненая, што гэты вянок мне ад Купалы. У гэтым я ўпэўненая і цяпер. І няхай той вянок штурхала мне пад вадой хутчэй ад усяго русалка, але ж хіба гэта нечысць, калі столькі святла абрынулася на мяне ў той ранак? А верш для Таццяны я ўсё-ткі знайшла ў маіх кнігах. Калі ў Жодзішках я блукала пад дажджом на тэрыторыі млына другой паловы 19-га стагоддзя, мне было крыху не па сабе, міжволі прыгадаўся гэты верш...

### *ЗАБЫТЫ МЛЫН*

З нейкай часіны
даўняе-даўняй
ходзяць па млыну
белыя здані.

З ночкаю чорнай
рушаць са скрыпам,
круцяцца жорны,
чуюцца крыкі.

Як нечакана
хто загадае,
усхвалявана
млын уздыхае.

Сцежкай лясною
выскачаць з пыхай
да вадапою
дзік і дзічыха.

Толькі разочак
лыч апускаюць,
раптам адскочаць,
прэч уцякаюць.

Нібы хто ўджаліў
дротам гарачым.
Хто іх пужае?
Што яны бачаць?

Дзевы рачныя?
Духі? Пачвары?
...Росы мучныя
лягуць на травы.

І на світанні
ў белым тумане
ціха растануць
белыя здані.

## Рыбалка з парасонам

Часопіс “Маладосць”, у які я пад націскам матулі ў 1980 годзе рашылася аднесці сваю першую нізку вершаў і праз год атрымала ад яго літаратурную прэмію ў галіне паэзіі, знаходзіўся непадалёк ад месца маёй працы. Я працавала тады вядучым канструктарам у навукова-даследчым інстытуце арганізацыі і кіравання будаўніцтвам – цяпер той будынак займае мастацкі музей – і часта пасля працы ішла праз парк Горкага (ну і назва для дзіцячага парку!), каб крыху адпачыць. Аднойчы на мастку праз ручаіну мяне заспеў дождж, і я ўбачыла дзяцей, якія, не зважаючы на надвор’е, весела і заўзята стараліся злавіць цэлафанавымі мяшэчкамі шустрых колюшак.

Зразумела, што я далучылася да заўзятараў. У ход пайшоў мой парасон, але ён імгненна выгнуўся і палоненыя ім колюшкі пераможна выслізнулі ў плынь. Не ведаючы, чым яшчэ магу быць карыснай дзецям, я азірнулася.

З вышыні мастка з-пад агромністага чорнага парасона зацікаўлена сачыў за нашым заняткам мой першы рэдактар і настаўнік паэзіі Пятрусь Макаль. Ён тут жа спусціўся па схіле да нас і адрэкамендаваў свой парасон як надзвычай прыстасаваны і надзейны для рыбнай лоўлі.

Насамрэч парасонам Макаля я налавіла дзецям колюшак і нават хацела забраць частку дадому, але на той час да нас ужо далучыўся нейкі спрактыкаваны дзяцюк, які адгаварыў мяне пускаць шкодных рыбак у мой васьмівядзёрны хатні акварыум. Мае колюшкі засталіся на свабодзе. А аўтарытэт шаноўнага паэта, здольнага падзяліць з дзецьмі падобны занятак, у мяне проста зашкаліў!

Выбітны паэт Беларусі, віртуоз выкарыстання гукапісу, рыфмы, унутранага сугучча слоў і паэтычнага сінтаксісу, мудрэц, якога крытыка параўноўвала з Гётэ, творца, які заўжды быў адкрыты новаму, чалавек невычэрпнага гумару, ён умеў так шчыра смяяцца, што ягоныя ногі ўзляталі вышэй ад крэсла падчас візіту ў выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Непасрэдны ў творчасці, ён быў непасрэдным і ў жыцці – ды і як інакш! – сапраўднай мудрасці не ўласцівыя ні штучнасць, ні снабізм, ні пазёрства...

## Ягоны голас быў звонам са званіцы храма чалавецтва

Бабруйшчына. Дзень перад Купаллем. Неўзабаве пасля чарнобыльскай аварыі. Разам з рэжысёрам Андрэем Астравухам, кінааператарам Юрыем Санжарэўскім, гукарэжысёрам і адміністратарам мы ў лясным паляўнічым гатэлі рыхтуемся да здымкаў Купалля. Нам паведамляюць, што непадалёк, у вёсцы Глуша, у сваім бацькоўскім доме знаходзіцца Алесь Адамовіч.

Стужкі ў абрэз. Прымаем рашэнне рабіць незапланаванае інтэрв’ю. Я падпісваю маю першую кніжку. Памятаю толькі адзін мой радок з таго подпісу: “Надзеліць праўдай, як бацька хлебам...”

І вось мы на падыходзе да сядзібы. Каля брамы мяне пераймае малады чалавек выключнага падабенства з Максімам Багдановічам. Кажа, што паліць на тэрыторыі сядзібы Адамовіча можна, але штраф... называе нейкія астранамічныя лічбы ў далярах. Са смехам кладу недапалак у спецыяльную попельнічку з дашкам, якая імгненна тушыць і хавае цыгарэтку. Гэтая штуковіна не аднойчы ратавала мяне на працы ад пажарнікаў...

Каля хаты, паблікваючы акулярамі ў наш бок, стаіць Алесь Адамовіч, побач з ім Яўген Коктыш. Калі мы ўжо на сярэдзіне шляху да іх, абодва рушаць нам насустрач.

Хутка на падворку з’яўляюцца адно насупраць другога два крэслы. Цёпла, сонечна...

Камера не працуе. Пакуль Юры паўтары гадзіны намагаецца ажывіць упартую тэхніку, гаспадар вяртаецца да нас з вялізнай міскай адурэнна духмяных малінаў. Першай да міскі паспявае гукарэжысёр (выбачайце, ніяк не магу ўспомніць прозвішча)... з дазіметрам. Шкалы дазіметра не хапае. Тут жа прыкладаем дазіметр да печані Алеся Адамовіча. Ні на імгненне не сумеўся, калі ўбачыў на шкале прыблізна тую ж карціну. Проста пайшоў і высыпаў маліны пад плот. У астатніх – норма.

Вечарэла. Камера па-ранейшаму не жадала працаваць. Мы вырашылі застацца і хаця б проста паглядзець на тое Купалле, дзеля якога выбраліся сюды.

На бязлюднай лясной дарозе наш тэлевізійны рафік ехаў следам за машынай, што абслугоўвала тутэйшую здымачную групу. Раптам фары высвецілі постаць чалавека, які рухаўся ўскрай дарогі. З рупара папярэдняй машыны раптоўна выбухнула некалькі разоў на ўвесь лес:

– Мужчина! Уйдите с дороги! Вы мешаете съёмке!

Чалавек азірнуўся, бліснулі акуляры. Ён хутка захінуўся дашкам далані ад святла фар. Мы тут жа развярнуліся, але Алесь Адамовіч знік...

Ну што ж, ён ведаў беларускі лес, адкуль амаль падлеткам выходзіў з партызанамі на баявыя аперацыі. Але ў мірны час яму давялося ўведаць і ваяваць у непралазных, невымерных пушчах бюракратычнага апарату, крывадушша, абыякавасці, манкурцтва, нянавісці. Ён ваяваў за нас, каб не паўтарыліся жудасці, схаваныя за словамі – Вайна... Курапаты... Чарнобыль...

Маю гонар быць лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча ад 1996 года.

Васіль Аўраменка



...заслужаны вольны хадок
Беларусі...

# Правінцыя і свабода

***Невідавочныя ўрокі Міколы Купрэева***

*Прыйшоў паэт – забілі ў ладкі,*
*У хорам славы прывялі,*
*А ён ад славы без агляդкі –*
*Упрочкі па зямлі...*

**В. Сахарчук "Вандроўнік"**

Так атрымалася, што Беларусь большую частку сваёй гісторыі была правінцыяй, абшарам цывілізацыйных разломаў і метрапольных уплываў. Таму й не дзіва, што традыцыі правінцыяналізму моцна заселі ў тутэйшых людзях. І хоць мода на сталічныя спакусы і выгоды мегаполісаў апанавалі беларусаў ад сярэдзіны мінулага стагоддзя, мара пра ідылію даўнейшага "простага жыцця" не знікла дазвання.

І паэты тут не выключэнне, больш за тое, якраз яны часцей і вярэдзілі старыя раны ды сілкавалі мроі аб "залатых часах" патрыярхальнай мінуўшчыны. Самі, між іншым, абсеўшы сталічныя кватэры і абжываючы гарадскія ландшафты. Бадай, меншая частка сур'ёзных творцаў асела ў правінцыі і зусім ужо адзінкі засталіся ў вясковых "пастаралях". Законы прагрэсу ды патрэба ў

індустрыяльна-нацыянальнай цэнтралізацыі вымушалі і паэтаў імкнуцца ў сталічныя тусоўкі, кучкавацца ў месцах, блізкіх да ўлады і цывілізацыйных дабротаў. Ды не толькі дзеля дабрабыту матэрыяльнага, але творчага ды інтэлектуальнага развою.

Дзе, як не ў сталіцы, адбываюцца самыя важныя падзеі, нараджаюцца самыя свежыя ідэі ці збіраюцца самыя разумныя галовы. Так нас вучыла савецкая школа, так небеспадстаўна сцвярджала і расейска-імперская гісторыя. Куды ж было дзецца маладой, спачатку зачараванай, а потым запалоханай бальшавізмам эліце нованароджанай нацыі, якая ўрэшце “зацяжарыла” і ўласнай дзяржаваю. Толькі так – хінуцца адзін да аднаго, гадаваць і кшталціць у хаўрусе і канкурэнцыі свае таленты, планы, надзеі.

Што да прыгожага пісьменства, то пры адсутнасці нацыянальнай адукацыі і філасофскай школы, адзінай рэлігійна-канфесійнай плыні і ўладнай эліты беларуская паэзія мусіла стаць той “чароўнай палачкай”, якая замяніла сабой і школьную адукацыю, і акадэмічную філасофію, і рэлігійную казань, і футурыстычныя пражэкты. Паэзія як універсальная вольная словатворчасць дазваляла ў канцэнтраваным выглядзе і даступнай форме (алегорыі, метафары, алюзіі) адлюстроўваць мінулае, выказваць актуальныя прэтэнзіі і патрэбы і нават прыадчыняць браму ў будучыню. Па сутнасці яна стала “кропкай крышталізацыі”, з якой выраслі і духоўныя сэнсы, і сацыяльныя рухі, і палітычныя структуры, а таму паэты тут былі больш чым словатворцы – яны айцы-зачынальнікі гісторыі, дэміургі нацыянальнага лёсу. Кепска гэта ці добра, казаць не бяруся, але ж гэта здарылася больш як сто гадоў таму і працягвалася бадай да канца 80-х, а таму “адкруціць назад” той шлях і прынцып беларускага нацыятварэння ўжо немагчыма. Аднак вернемся да нашай правінцыі і яе песняроў.

Так, наша сацыялістычная сталіца па савецкай завядзёнцы “падграбала” пад сябе ўсіх класікаў і значных творцаў (за выняткам, вядома, эмігрантаў), аднак нямала вершатворцаў жыло і ў глыбінцы. Цікава было б мець статыстыку паэтаў (і графаманаў!) на тысячу насельнікаў Беларусі ў савецкія часы і ў апошнія гады. Мяркую, што, як і апантаных кнігалюбаў, аматараў складання рыфмаваных радкоў стала менш, бо спатоліць уласнае графаманства цяпер куды прасцей – праз чаты, каментары, інтэрнэт-сеткі ды іншыя электронныя сродкі.

Разам з тым беларуская паэтычная правінцыя яшчэ існуе: хай адышоў у іншы свет паэт-пастух Люцыян Шчасны, але жывы паэт-пчаляр Мікалай Папека, застаецца цэлая плеяда старых журналістаў-паэтаў (Аляксей Белы, Алесь Чобат ды інш.), па традыцыі нямала аматараў рыфмаванага слова сярод настаўнікаў ды выкладчыкаў ВНУ, радзей – іншых прафесійных заняткаў. І усё ж патрыярхам правінцыйнай паэзіі, выбітным паэтам і радыкальным не-класікам (хто не патрапіць у падручнікі) можна лічыць Міколу Купрэева.

Кажучы пра “маргінальную” паэзію ці “перыферыйных” паэтаў, нельга абмінуць пытанне графаманства. Гэтак жа як не заўсёды лёгка правесці мяжу між нормай і паталогіяй, не заўжды атрымаецца аддзяліць пісьменства ад графаманіі. Бо тая ж паэзія – намеранае звязванне словаў па рытму ці рыфме і жаданне знаходзіць у гэтым сэнс ці мэту – ужо адхіленне ад нормы, ад простай мовы звычайнага чалавека, не зацыкленага на формах выказвання думкі. Таму ўсіх паэтаў можна залічыць у графаманы, гукалюбы ці сэнсаловы. Хіба што паэтамі з іх прызнаюць далёка не ўсіх (усе паэты графаманы, не ўсе графаманы – паэты), а ў хрэстаматыі патрапяць толькі тыя, хто стаў першапраходцам, стварыўшы нешта арыгінальнае ці закрануўшы вельмі балючую для многіх тэму, стаў сугучны свайму пакаленню або цэлай эпосе. Як ні дзіўна, графаманства не вызначаецца месцам пражывання, бо назіраецца не толькі ў правінцыйных рыфмароў-аматараў, але і сярод прафесійных творцаў сталіцы. Прыкметамі графаманіі я б назваў: эпігонства, самалюбства, прагматызм і... занудства. Дык вось, калі вяртацца да Купрэева, то ніводная з гэтых характарыстык да яго не прыкладзецца, больш за тое, і па жыцці, і па характары ён быў антыподам усяму вышэй пералічанаму.

Сама храналогія творчасці Купрэева гаворыць пра многае: даволі гучны дэбют – зборнік “Непазбежнасць” у 1967 годзе, потым 28 год маўчання – і другі, апошні паэтычны “стрэл”, кніга “Правінцыйныя фантазіі”, вылучаная на дзяржаўную прэмію. Зусім неграфаманская гісторыя, дый для паэта таксама падзея нетыповая. Вось у гэтай нетыповасці, адасобленасці нашага героя ад стаптаных літаратурных сцяжын уся ягоная сутнасць. Як для беларускага паэта савецкага часу ён быў занадта вольны і самастойны, дый не толькі ў творчым ці будзённа-побытавым плане, але і ў глыбейшым, у светапоглядным сэнсе.

*І вось я ў вёсачцы палескай Востраў...*
*О, як добра, людзі, тут у вас,*
*Мілыя мае вы астраўляне!..*
*Хай праплываюць гарады гарачыя ля вас,*
*як караблі ля вострава ў акіяне.*
*Хай.*
*І хай я той бадзяга, што з борта нырнуў*
*у гэты акіян зялёны,*
*каб у вашыя сэрцы ціхія зірнуць,*
*паслухаць шэпт бярозак вашых, клёнаў...*

Ён не быў ідэалістам-дысідэнтам ці палітычным змагаром, але жыў незалежна ад агульнапрынятых нормаў, прыватным жыццём дзівака і аскета. Меў, канечне, і сваю “хвігу ў кішэні” для ўлады і афіцыёзу, але ж хто з беларусаў не насіў у самай глыбокай кішэні такую ж “дулю”, каб зрэдчас, часцей нападпітку, паказаць яе сваім блізкім. Філолаг па адукацыі, акрамя настаўніцтва ён зведаў нямала іншых прафесій, часта мяняў месцы жыхарства і працы, апантана любіў вандраваць. Вандроўкі ж тыя былі пераважна пешыя і сягалі мясцін, дзе ён жыў і працаваў. А жыў ён у розных месцах Палесся, пераважна Заходняга, і абышоў ледзь не ўсе раёны Берасцейскай і Гомельскай вобласцяў. Што штурхала яго да вандраванняў, адкуль такая няўседлівасць? Чаму, нягледзячы на пільную ўвагу і пашану да жанчын, ён так і не стварыў сям’ю, не пусціў недзе “свае карані”.

Біёграфы спасылаюцца на цяжкую псіхатраўму ў дзяцінстве: шасцігадовы хлапчук пабачыў смерць маці ад рук акупантаў, у якой ускосна быў “вінаваты” бацька. Потым былі складаныя адносіны з бацькам, пераезд з роднай Рагачоўшчыны на Палессе, непаразуменні з новай сям’ёй. Пэўна, страта ў раннім дзяцінстве маці і роднага котлішча стала глыбокай ранай, што сфармавала меланхалічны душэўны склад, зрабіла звышчуйным да болю і пакут, наклала адбітак на адносіны з роднымі і блізкімі. Магчыма, тады ж вобраз малой радзімы “рассыпаўся”, “расцерушыўся” ў паэтавым ўяўленні ад дняпроўскіх кручаў да Белавежскай пушчы, а пастаянныя вандроўкі і частыя змены месца жыхарства сталі сімвалічным “пошукам” і “вяртаннем” да страчанага калісь роднага кута.

І, бадай, галоўнае: пешыя вандраванні! Яны былі ўсё ж не сімвалічным, а рэальным ўвасабленнем індывідуальнай свабоды. Хто можа быць больш вольны ад побытавых, сацыяльных і тэхнагенных путаў, чым валацуга, што ідзе “куды глядзяць вочы” альбо “вядуць ногі”. Хіба толькі вольны птах, што лунае ў аблоках і якому падуладны не толькі зямныя, але і нябесныя абсягі. Між іншым “зайздрасць” да птушынага лёсу, прага і адчуванне палёту – адна з цэнтральных тэм у творчасці Купрэева, а журавель, рэдкая, амаль казачная птушка нашых краёў – любімы вобраз і лейтматыў многіх вершаў і прозы.

Пошук паэтам адхлання ў прыродзе, назіранне за праявамі простага жыцця яшчэ ў дзяцінстве зрабілася любімым заняткам, што вяртаў гармонію душы і супакаенне. У лесе і лузе, у зносінах з мурашамі, чмялямі і вавёркамі, сярод бяроз, дубоў і соснаў ён адчуваў сябе вольна і шчасліва, чаго далёка не заўсёды мог дасягнуць сярод людскога тлуму. Але людское жыццё і тлум ёсць тым галоўным, дзеля чаго мы існуем, у што спрабуем укласці свой плён, лёк ці паэтычны парадак.

*Калі разумець не хочаце*
*свежасць, зялёную цішыню –*
*не чапайце мой лес.*
*Калі разумець не хочаце,*
*як ранне сіняе б'е ў акно –*
*не чапайце мой бэз.*
*І калі з далоні спакойна*
*зерне дзяўбуць галубы –*
*галубоў вы маіх не чапайце!*
*І калі я па дарозе іду*
*і шчасця ўсім вам хачу –*
*вы, калі ласка, мяне не чапайце!*

Цяжка назваць вершы М. Купрэева ўпарадкаванымі, класічнымі. Ужо ў першым зборніку, калі яшчэ не было той моды, ён больш схіляецца да вольнага радка, не пераймаючыся рыфмай, а то і рытмам. Гэта цяпер верлібр стаў звычайнай справай, а тады, у 60-я, сілаба-тоніка была паноўнай, бадай, безумоўнай нормай паэтызавання, а моўныя вольнасці дазваляліся хіба што класікам і мэтрам. Таму галоўныя нараканні крытыкі на першую кнігу былі за свабодны, неўнармаваны верш, якому малады паэт аддаваў перавагу. Шурпатасць, "непрычасанасць" радка, кажучы сённяшнімі словамі – "антыгламурнасць" аўтарскага стылю чапляла вуха і вока эстэтаў і знаўцаў класікі, выбівалася з шэрагу традыцыйных, "правільных" вершаў. Нестандартнасць, выпадковасць і маргінальнасць вобразаў, метафар і сюжэтаў пануе ў ягоных творах.

Ён піша нібыта на вядомыя тэмы, але не пра трывіяльныя рэчы. Галоўныя дзейныя "асобы" ў яго – то чэрап Каліноўскага, то партызанскія боты, то нага Ікара ці Богавы лапці. Здаецца, часам аўтар імкнецца непасрэдна і шчыра выплюхнуць уласны настрой, яркае адчуванне ці нечаканую згадку, якая не паспявае сфармавацца ў лагічную, закончаную думку і застывае ў выглядзе спантанных слоўных усплёскаў. Ніякага наследавання ўзорам ці паэтычным лекалам, рытм і даўжыня радка нечакана мяняюцца, рыфма зусім знікае, і нават думка можа "нырнуць" і схавацца ў хвалях тэксту, каб знікнуць альбо з'явіцца ў канцы нязручным пытаннем ці сваёй антытэзай. Гэта нагадвае хаос, які, праўда, прайшоў праз лабірынты паэтавай душы і мае ўжо прыхаваны сэнс і парадак, але яго трэба яшчэ ўбачыць і ўразумець.

*Як мне жывецца ў маім Хаосе? –*
*Мой утульна-няўтульны Хаос*
*лесам калючым і мяккім разросся*
*і горка-салодкую чару паднёс;*
*п'ю з тае чары – смяюся і плачу;*
*ля вокнаў балююць зайцы і ваўкі;*
*спыніўся Дняпро ля скалечанай Начы;*
*сноп развязаўся – рассыпаў вякі...*
*цягнуць мяне з маім чорным лёсам*
*д'ябал – у пекла, анёлак – у рай.*
*Між Ладам тваім і маім Хаосам*
*от і жыві тут – хоць памірай.*

Нягледзячы на шматлікія прафесійныя і побытавыя мітрэнгі, галоўным жыццёвым заняткам і сродкам матэрыяльнага існавання Купрэева было настаўніцтва. Настаўнічаў ён у розных школах Палесся, пераважна вясковых і з яго вучняў нават выйшла некалькі паэтаў. Але гаворка тут не пра педагагічны талент спадара Міколы, а пра ўрокі невідавочныя – бадай, экзістэнцыйныя.

З яго не атрымалася ўзорнага сямейніка ці паслухмянага сына, не быў ён прыхільнікам здаровага ладу жыцця, адэптам савецкай улады ці артадаксальным вернікам. Ён быў тым "крывым дрэвам" сярод роўных аднастайных лясных насельнікаў, ля якога заўсёды хочацца прыпыніцца, угледзецца ў яго вычварныя лініі, падзівіцца магутнай сіле, што скруціла ствол і галіны, зразумець, як атрымалася

яму выжыць праз усе звіхі ды зломы неміласэрнага лёсу. Ды яшчэ застацца паэтам, не графаманам ці кан'юнктурным "ветразем", а капітанам і стырнавым свайго хісткага жыццёвага чоўна.

У кожнага свой кон, аднак, здаецца, некаторыя паэты маглі б пазайздросціць Купрэеву, які не пайшоў па лініі сталічнай пісарска-рэдактарскай або журналісцкай кар'еры (хоць меў спробы працы ў "раёнках"), а застаўся на "вольных хлябах", наколькі вольным мог быць вясковы настаўнік, бібліятэкар ці качагар. Але ў творчасці ён сапраўды застаўся вольным і самабытным, залежным хіба толькі ад пары году, свайго настрою і... шкодных звычак. Адылі ж упартасць, з якой паэт прайшоў гэтым "крывым", ірацыянальным шляхам, выклікае павагу, асабліва ў тых, хто сам калісь быў на той сцяжыне ды збочыў з яе, уліўшыся ў рэчышча "легальных" і "афіцыйных" мастакоў слова.

Сваім прыкладам Купрэеў даводзіць, што сапраўднаму творцу неабавязкова мець студыю на Манхэтэне, кватэру на Манмартры ці хаця б мінскую прапіску. І ў палескай глыбінцы можна адчуваць натхненне і знаходзіць сілы для паэтычнага палёту, а каб далучыцца да кагорты пакліканых ці нават абраных, неабавязкова ехаць у Святую Зямлю, узбірацца на Фудзіяму або цягнуцца ў Тыбет. Сваю "шамбалу", "нябесны Ерушаляйм" альбо "рай" можна знайсці і тут, дзе з'явіўся на свет і дзе цягнуцца твае будні і святы. То бок, уваход і выхад у "іншасвет", брама ў "нябачнае і невядомае" вандруе разам з табой, яна заўсёды пры- ці ў- табе. Увайсці ў яе можна і ў зялёнай дуброве, і на празрыстым лёдзе зімовай рэчкі, і на цёплай печы вясковай хаты. Новы, нечаканы сэнс гэты ўрок краёвага, а хутчэй інтымнага патрыятызму набывае ў эпоху інтэрнэту, віртуальных вандровак і перамогі "сусветнай вёскі".

Другі ўрок Міколы Купрэева палягае ў тым, што чалавек мае права не толькі на жыццё, але і на індывідуальнасць, на свой асабісты жыццёвы шлях, якім бы "маргінальным" ён ні здаваўся. Абсалютна актуальна гэта для творцы, прынцып дзейнасці якога – пакідаць межы звыклага і вядомага, адкрываць новыя далягляды і абсягі быцця. А тое немагчыма без вольнага выбару, спробы самому зрабіць ці не зрабіць памылку.

Нават заганныя звычкі – асабісты выбар кожнага. Купрэеў любіў узяць чарку ў добрай кампаніі, дый на самоце таксама не цураўся віна. Быў зацятым курцом, нават хварэючы ў апошнія гады на сухоты, не кінуў паліць. Такі вось парадокс: вольны ў жыццёвым віры і творчасці, ён аказаўся татальным нявольнікам сваіх звычак (у тым ліку і звычкі пісаць). Вядома, алкаголь ды курава падкарацілі ягоныя гады, але хто ведае, ці было б лепш без іх, ці не здарылася б што горшае значна раней? Можа, зло дадзена чалавеку не толькі дзеля таго, каб падоўжыць дарогу да перамогі дабра ці падкрэсліць ейнае вяршынства, але каб увідавочыць натуральнасць і непазбежнасць тае перамогі, пераканаць усіх, што вольны выбар і свабода не самы просты і хуткі, але самы надзейны, незваротны шлях у прышласць. Сёння, калі вакол зноў пануе ксенафобія, гвалт, барацьба з "няправільнымі" думкамі, з "адшчапенцамі", "ухіленцамі" ды іншымі "здраднікамі радзімы", гэты ўрок Міколы Купрэева становіцца асабліва важны.

Калі чытаеш Купрэева, пераадольваючы напластаванні няроўных радкоў, спатыкаючыся на арытмічных сінкопах і нечаканых паўзах, дзіву даешся, як пры такой шурпатай, "каструбаватай" мове (ніякага табе "люляння лілеяў") яму ўдаецца захаваць рамантычны дух, узнёсласць і палётнасць думкі. "Элегіі" – любімая паэтычная форма і найлепшае азначэнне ягонай творчасці. Менавіта так, толькі з дадаткам "палескія", названы і цыкл ягоных аўтабіяграфічных аповесцяў, якія шмат чаго дадаюць да будзённага партрэту і лёсу аўтара.

А відаць, так і трэба, проза – больш пра будзённае і наша-сацыяльнае, а вершы – пра інтымнае і вечнае. Нездарма і вершы, і аповесці Купрэева прасякнуты тым элегічным настроем, духам вольнага палёту і лунання над прасторамі радзімы, жаданнем пакінуць усе зямныя недасканаласці там, унізе і... немагчымасцю абар-

ваць тую тонкую сувязь з пражытым і дарагім. Элегія Купрэева і ёсць спосабам прымірэння са светам, прызнаннем і прыманнем жыцця такім, якім яно склалася – з яго несціханым болем, маленькімі радасцямі і шчасцем палёту, хай нават толькі ў думках, вершах ці ў сне. Прымірэнне і прыманне іншасці, пры захаванні самасці і свабоды ўласнай душы – гэта тое, праз што прайшоў паэт і праз што яшчэ давядзецца прайсці нам, беларусам.

*Пакіну ўсё і пайду ў той край,*
*дзе няма ні сяброў, ні ворагаў,*
*дзе бацька не будзе вучыць мяне жыць*
*і дзе жонка не будзе чакаць і тужыць,*
*крыўдаваць і злаваць не будзе,*
*дзе нікому ніколі не змагу я зманіць –*
*гэта нікому не будзе трэба...*
*...Пакіну ўсё і пайду у той край,*
*цячэ дзе павольна шырокая Лета,*
*і, падтрыманы нябачнай рукой,*
*паплыву на спіне,*
*паплыву, паплыву*
*па блакітнаму ціхаму свету*
*І нічога, нічога не буду знаць,*
*што дзесьці ўгары нада мною Венера*
*і што пада мною Атлантыда – не буду знаць*
*і буду плысці і плысці я ў Спакойную Эру...*
*...Усё застанецца, і я не пайду ў той край.*
*У той край ніхто не хадзіў ніколі.*

Апошні, нібыта самы просты ўрок Міколы Купрэева, які ён праводзіў і са сваімі вучнямі – гэта любоў да хады. Сёння яна стала часткай здаровага ладу жыцця, спробай барацьбы з гіпадынаміяй. Але ва ўмовах мегаполіса часцей набывае выгляд механічнага перасоўвання ног па бегавой дарожцы ў хаце або ў лепшым выпадку прагулянкі ў гарадскім асяродку ля шумных загазаваных вуліц.

Купрэеў адолеў у жыцці тысячы кіламетраў і меў ад таго не толькі фізіялагічную, а і эстэтычную, бадай, духоўную карысць. Бо акрамя радасці свабоднага руху чалавек, які крочыць па лесе, у полі ці лузе, яшчэ і слухае, нюхае, бачыць, чуе, мацае, а сарваўшы ягаду ці травіну – смакуе на язык, што яму трапляецца. То бок, купрэеўская пешая вандроўка – гэта сеанс татальнага эмацыянальнага ўздзеяння, які гоіць, лекуе, надае сілы, абуджае жаданні ды мары.

Сучасны чалавек спрабуе кампенсаваць гэты дэфіцыт штучна або "тэхналагічна" – праз хімічныя рэчывы, рытмічныя гукі, музыку, электронныя прыстасаванні, эзатэрычныя медытацыйныя практыкі. А мо карысней, не заглыбляючыся ў багну нанатэхналогій, псіхатэрапеўтычных лабірынтаў і фармакалагічнага "раю", звярнуцца да простай народна-"хадавой" традыцыі лекавання душы і цела, якую так ўслаўляў паэт.

Я разумею, што гэта недасягальная раскоша для многіх жыхароў сённяшніх мегаполісаў – ехаць за дзясяткі ці сотні кіламетраў на спатканне з прыродай і сабою. У вечным цэйтноце, спешцы, у бегу па коле штодзённых турботаў або сядзенні перад кампутарам, мы ўсё роўна спазняемся, не паспяваем ні за жыццём, ні за прагрэсам, ні за здароўем. Такі, на жаль, лёс насельнікаў сённяшніх гарадоў, і не толькі сталічных. І усё ж адзінкі, самыя прасунутыя ці кемлівыя ўжо зрабілі свой выбар і... перабраліся ў глыбінку. Іх няшмат, гэта дзівакі і арыгіналы, што ідуць супраць агульнай плыні, аднак менавіта яны – "вольныя маргіналы" – надзея і рухавік вяртання да жыцця нашай правінцыі. Нараджэнне новай Беларусі немагчыма без адраджэння правінцыі, без аднаўлення тых прыродных ландшафтаў і духоўных асноў, з якіх пачыналася, якімі жыла і жывілася наша краіна.

І тут Мікола Купрэеў не толькі пясняр, але "заслужаны вольны хадок Беларусі", прадвеснік і правадыр мірнага рушэння ў нашу непазбежную прышласць.

## Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным “хросным бацькам”?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх “тэхнічных прыладаў” Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы “творчыя стымулятары”: кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б пераажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: “Ні дня без радка”? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі “не пішацца”, што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Алесь Пашкевіч



***1.*** Свае надрукаваныя словы ўпершыню ўбачыў школьнікам 8 класа. Былі гэта публікацыі ў раёнцы (пры якой закончыў "школу рабселькораў"), у абласной газеце – допісы, вершы, гумарэскі нават. Ну а сапраўдны дэбют – гэта з'яўленне вершаванай нізкі ў "Чырвонай змене" (1989 год), калі заўважыў, як тая газета з'явілася ў аўдыторыях філфака ў руках аднакурснікаў-аднакурсніц. А можа, паэтычная публікацыя ў "ЛіМе" (1992 год), якую прачытала была выкладчыца псіхалогіі і, не апытваючы на экзамене, паставіла адпаведную адзнаку.

У маёй творчай метрыцы "хроснымі" бацькамі значацца Алесь Масарэнка (які напрыканцы 1980 – пачатку 1990-х вёў у "Чырвонай змене" літаратурны раздзел і "курыраваў" аднайменнае літаб'яднанне "Крыніцы", а потым – разам з намі, моладдзю – заснаваў часопіс маладых літаратараў "Першацвет"), а таксама Леанід Дайнека (які прыняў да друку ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 20-гадовага студэнта – мяне – першы зборнік паэзіі "Нябесная сірвента") і Алег Лойка (які да таго зборніка напісаў прачулую прадмову і быў маім і натхняльнікам-выкладчыкам, і старэйшым сябрам). А "творчая хросная маці" ў мяне адна: мова.

Наконт згаданай у пытанні творчасці ("прызванне, абавязак, прафесія, хобі, звычка")... Пра творчасць, думаецца, лепш не разважаць-гаварыць – ёй трэба займацца...

Творчасць для мяне – гэта прыватная размова з мінулым і будучым, якую спрабуюць пачуць і запомніць мае цяперашнія-сённяшнія цела і душа.

А сярод тысячаў характарыстык, што такое паэзія, што такое проза, я б, не мудрагелячы, напісаў бы так: паэзія – гэта тое, што не проза, і наадварот...

***2.*** У чым адметнасць працы? Ды ва ўсім, як і ў кожнага чалавека, ці косіць ён траву, ці выразае штось з дрэва, ці мосціць брукаванку. А яшчэ "атмасферна-быційны слуп", які цісне з пэўнай вагой, і самаадчуванне, і настрой...

Час сутак для пісання – каб быў спрыяльны і каб штось "стрэльнула" ў галаве, а ўнутры "прыціснула", і няважна, светла ці цёмна за вакном, абы лямпа свяціла ці рукі каб не мерзлі – або каб скразнячок прахалодны ў спёку ў вокнах быў.

Пішу рукой, правай. Ручкай "не асаджанай", шарыкавай ці гелевай. Ручка павінна быць старая, каб звыкла ляжала на яшчэ ад школы скрыўлена-мазольным (ад тых ручак) пальцы і не адцягвала на сябе ўвагу. Каб прыспешыцца, калі неаходна, мяняю, здараецца, выявы літар (дж – на v, напрыклад). А яшчэ ў школе завочна быў скончыў маскоўскія (бо сваіх не было) курсы стэнаграфіі-скорапісу, – можа, і той уплыў застаўся...

Проза, здараецца, запісваецца хутка, непрыгожа, як не сваім почыркам. Чаго не скажу пра вершы.

Пісаць люблю лепш не на чыста-белай паперы, а на шараватай, газетнай, бо яна не такая патрабавальная, не такая адказная, як снежная "фінска-глянцавая". І – не на паперы ў клетку, якая заціскае, кратуе і літары, і думкі, і не ў лінейку, бо яна прызямляе, прывязвае, "угарызантоўвае". Хоць радкі без яе атрымліваюцца няроўнымі, усёчасна лезуць уверх. Але наіўна хочацца думаць, што – узвышаюцца...

"Творчыя стымулятары" стараюся ўжываць у сваю меру.

Ну, а натхненне... Гэта настолькі за-

ношанае і заграфаманенае слова, што я ўжо і не ведаю, што гэта. Пара, думаю, ужо замяняць яго больш цнатлівымі сінонімамі-паняткамі.

***3.*** Цяжкасці існуюць перад пачаткам пісання (пошукі, лянота, няпэўнасць, здрадлівае – а каму яно трэба?). Але калі ўпражэшся – гэта я пра прозу, – то ўжо з кожным абзацам ці старонкай становіцца лягчэй. Асабліва калі ўжо ведаеш назву будучага тэкста. Ёсць назва – значыць, ужо нешта існуе, яго толькі належыць дарасціць словамі.

З вершамі абсалютна не так. А як – на жаль, не магу апісаць.

Проза патрабуе жыццёвага вопыту, пэўнага псіхалагічнага зруху, унутранага паклікання, якія фармуюць ідэю, тэму будучага тэкста (апавядання, аповесці, рамана, п'есы). З паэзіяй "прасцей" – ёй дастаткова і аднаго маланкавага пачуцця, адметнага, непаўторнага ўражання, душэўнага ўзрушэння. Проза патрабуе большай рацыянальнай "адказнасці", карпатлівасці, урэшце, фізічных вымогаў, часу. Прычым з кожным новым дзесяцігоддзем – усё больш і больш. Корпус створаных тэкстаў пашыраецца, і аўтар хоцькі-няхоцькі мусіць у ім арыентавацца, каб, зрэшты, не паўтараць іншых, не заценьвацца напісаным папярэднікамі, агучваць свае інтанацыі, апрацоўваць яшчэ нераскрытае, сцвярджацца (па магчымасці) у новым, непаўторным, – як у фармальным, тэматычным, так і ў стылістычным, лексічным, вобразнавыяўленчым літабсягах.

Наконт выкарыстання даведачнай літаратуры: без слоўнікаў-даведнікаў не абыходзіўся. Асабліва без сінанімічных.

***4.*** Каб знаў, што/хто канкрэтна спрыяе ў рэалізацыі літзадумаў ці перашкаджае ў тым, даўно б – сазваўшы першых і расправіўшыся з іншымі – на галаве насіў бы лаўровы вянок... Пэўна, усё спрыяе, апроч сённяшняй дзяржаўнай бязмоўнасці і змушанай народнай нематы. Адпаветна, яны і перашкаджаюць.

Ацэнкі сяброў, рэдактараў, чытачоў, безумоўна, уплываюць на вельмі многае (хто адкажа інакш, той падманіць), але не на ўсё. А да напісаных твораў ніколі не вяртаюся, бо не адыходжу ад іх, не развітваюся. І перарабіць, здараецца, штосьці хочацца, і дадаць-дапісаць. Але...

***5.*** Той, хто напоўніцу задаволены сваімі творамі (ад пачатку і да канца, ад сказа першага да апошняга), думаю, ці страшныя людзі, ці геніі. Я не з такіх. А чым найбольш задаволены? Тым, што магу "заліваць" у тэкставыя соты сваю мову, на якой ускормлены "суть по Бозе", і гэта мне падабаецца, і, спадзяюся, атрымліваецца.

Што б хацеў перажыць наноў? Ды ўсё хацелася б, акрамя смерці родных, блізкіх. Нават цікава было б – як у пераматаным фільме – пераглядзець і эпізоды з расчараваннямі, падманамі, пакараннямі, нават даносамі на сябе. Але навошта? Ды і, самі ведаеце, немагчыма ж.

А мая біяграфія, якая пакуль што не адлюстроўвалася ў мастацкіх тэкстах, паўплывала і "адбілася" ў творчасці сваімі кожнай хвілінай, кожным днём. Бо як хто жыве – так ён і піша...

Пасля майго паэтычнага літдэбюта быў універсітэцкі філфак, аспірантура, філалагічная навука-выкладанне і "завочная" дактарантура, кандыдацкая і доктарская дысертацыі. Яны, думаецца, своеасабліва астудзілі маё "творства". Хоць яно і супраціўлялася, шукала выхаду з "дыскурсійнай парадыгмы абстрактна-алегарычных формаў і кампаратывісцкай рэкампенсіўнасці"... Прыклад чаго – кнігі "Пляц Волі", "Круг".

Літаратуразнавец, гісторык-тэарэтык літаратуры не можа быць "чыстым", "незавірусаваным", адстароненым літаратарам (выключэнні ў нас, хіба што, Максім Гарэцкі і Адам Бабарэка). Гэта як хірург, які дзень пры дні прэпаруе чалавечыя целы і бачыць іх знутры і звонку, ужо не здольны ўспрымаць іх адстаронена, вобразна (у яго, скажам, сэрца – літаральна "на далоні", і ў ягонай свядомасці яно ўжо не палымнее, не знібее, не трымціць, не радуецца... У яго яно – чалавечае сэрца –

як і ёсць: проста орган, які складаецца з некалькіх камер, згустак мышцаў, помпа, злучаная з крываноснымі артэрыямі, якая нават мае правы і левы страўнічак...

Так і з творцам-навукоўцам, які прэпаруе літаратурныя стылі, паэтычную вобразнасць ды іншае: ён ужо не можа абстрагавацца-забыцца на іх, раскладзеных на элементы-клеткі, а потым наноў сабраных-сінтэзаваных у "дыскурсы"... Ён, творца, стаўшы літаратурным "хірургам", успрымае і бачыць іх – як і ўсю творчасць – па-іншаму. Не па-арфейску.

***6.*** Дзённікаў не пісаў. Амаль... А пісаць штодзённа, пастаянна ("ні дня без...") шкодна. Як і ўсёчасна піць, есці, нават – думаць. Але кепска, калі літаратар не піша зацяжна, доўга. У яго тады атрафіруюцца духоўныя мышцы, ён становіцца творчым калекам, і калі спрабуе наноў аднавіцца, "пайсці" – хада яго робіцца несамавітай, непрыгожай: кандыбае няправільнымі, няроўнымі, няўпэўненымі радкамі, абзацамі, дрыготка кульгае і ў стылі, і па старонках.

Хоць час "творчай ляноты", калі не пішаш, – найлепшы і салодкі час...

Як і ва ўсім, у пісьменстве павінна быць мера. Можаш не пісаць – малайчына! Не можаш не пісаць – спрабуй, хвала табе!

***7.*** Праз шматгадовую спецыфіку маёй практычнай дзейнасці чытаць даводзілася (ды і даводзіцца) усё. Нават і тое з беларускага, што ўрэшце не патрапіць у друк. Як той кашалот, "заглытваю", колькі змагу, у сябе ваду-тэксты і, працэджваючы, выяўляю (для сябе) крыль-планктон, рачкоў, малую і вялікую рыбу...

Найблізкія з беларускіх і сусветных (вельмі хочацца іх усіх мне тут – і сваіх, і замежных – аб'яднаць) аўтараў такія: Купала з Коласам, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, Лукаш Калюга, Максім Зарэцкі, Андрэй Мрый, паэты "Узвышша" (усе), Змітрок Бядуля, Янка Маўр, Ян Скрыган, Іван Мележ, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Наталля Арсеннева, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Міхась Стральцоў, Антон Адамовіч, Масей Сяднёў, Алена Васілевіч, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Віктар Казько, Валянціна Коўтун, Віктар Карамазаў, Анатоль Кудравец, Леанід Дайнека, Генрых Далідовіч, Алесь Жук, Вольга Іпатава, Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Разанаў, Анатоль Сыс, Уладзімір Арлоў, Ірына Жарнасек, Юрка Голуб, Леанід Галубовіч, Барыс Пятровіч, Алесь Асташонак, Уладзімір Сцяпан, Андрэй Федарэнка, Міхась Скобла, Франц Сіўко, Вольга Бабкова, Алесь Паплаўскі, Сяргей Рублеўскі, Анатоль Івашчанка, Настасся Кудасава, Усевалад Сцебурака, Вольга Гапеева, Андрэй Хадановіч, Валерыя Кустава, Віктар Слінка, Віталь Рыжкоў, Ціхан Чарнякевіч, Аксана Спрынчан... А таксама – дзясяткі іншых. (І хай даруюць мне тыя, каго я, без злое думкі і праз неідэальную памяць, не ўзгадаў...)

З замежных літаратараў – амаль усе найбольш вядомыя аўтары, якія "на слыху", кожны на свой час, настрой і па якасці перакладаў.

***8.*** На пытанне "Чаго не хапае нашай літаратуры?" слушна і напоўніцу адказалі ў анкетах у папярэдніх 126-ці (!) нумарах нястомна-ўзнёслага "Дзеяслова" мае калегі, з якімі я і салідарызуюся. Ды, абагульняючы іхняе і перафразуючы Льва Талстога, канстатую: "Усе шчаслівыя літаратуры падобныя адна да адной, кожная нешчаслівая літаратура няшчасная па-свойму"...

А маладым, "хто робіць першыя крокі", – не старэць, не кульгаць і не спатыкацца як на творчых, так і на быццёвых сцяжынах!

Барыс Пятровіч



...Чалавек прыходзіць на гэтую Зямлю
дзеля таго, каб пасадзіць дрэва,
узгадаваць сына і...
стварыць часопіс...

# “Ня плыць па цячэньні...”

*Дзёньнік 2003-га году*

*Гэты дзёньнік, зразумела, пісаўся не для друку. Прынамсі, пры жыцьці аўтара. Так і было б, калі б не зьмяніліся абставіны і ён раптам ня стаў актуальным менавіта цяпер. Бо аснова гэтага дзёньніка – першыя крокі часопіса, які вы трымаеце ў руках і які менавіта гэтым нумарам разьвітваецца з вамі. Запісы рабіліся штодзень цэлы год, і ў іх адбіліся праблемы і перашкоды, што былі пры стварэньні, рэгістрацыі, станаўленьні “Дзеяслова”, а таксама – тагачаснае жыцьцё, думкі і меркаваньні аўтара і галоўнага рэдактара. Год быў няпросты, насычаны падзеямі і ў грамадзкім, і ў асабістым жыцьці. Каб максімальна захаваць рытм таго жыцьця, аўтар пакідае тэкст такім, якім ён быў напісаны некалі, ні слова не зьмяняючы і не перапісваючы, ня правячы, а толькі прыбраўшы асобныя самыя вострыя моманты, а некаторыя прозьвішчы скараціўшы да адной літары, а таксама дадаўшы неабходныя каментары, бо дзёньнік усё ж пісаўся на хуткую руку, бывала, ноччу, а бывала, і пасьля бяссоннай ночы, а таму было не да падрабязнасьцяў, на сёньня важных, бо ў памяці яны захаваліся...*

*Магчыма, камусьці падасца, што тут зашмат жорсткіх ацэнак сучасьнікаў, калегаў і сяброў, тых, хто быў побач і дапамагаў, і тых, хто супрацьстаяў зьяўленьню часопіса, але фіксавалася ўсё так, як было, як бачылася на той момант – аўтар хацеў застацца максімальна шчырым, хоць часам і паддаваўся эмоцыям ды ня самаму лепшаму настрою, на якія ўплывалі ня самыя лепшыя падзеі... Варта зразумець і ўлічыць гэта. Загадзя прашу прабачэньня, калі хто будзе пакрыўджаны, можа, і не зусім прыемнай альбо не зусім справядлівай згадкай ці ацэнкай. Было шмат сумненьняў пры падрыхтоўцы тэксту да друку: што пакідаць, а што скараціць. Урэшце, перамагла думка, што дзёньнік – не мастацкі твор, а рэч суб'ектыўная. Такім чынам атрымалася тое, што аддаецца на ваш суд, шаноўныя чытачы. Перад вамі ўсяго адзін год нашага і майго асабістага жыцьця – год 2003-ці дзень за днём.*

*І яшчэ адзін важны момант: ад першага да сорак чацвёртага нумару "Дзеяслоў" выходзіў адметным правапісам, які з часам атрымаў назву "дзеясловіца". Гэты правапіс адрозьніваўся і ад "тарашкевіцы", і ад "наркамаўкі", быў нечым пасярэднім і "прымірэнчым": у "дзеясловіцы" выкарыстоўваліся некаторыя асаблівасьці "тарашкевіцы", страчаныя пасьля правапіснай рэформы 1933 году, – найперш захоўваўся мяккі знак дзеля зьмякчэньня зычных і, адпаведна, мовы ў цэлым. Гэтым правапісам я карыстаўся з канца васьмідзясятых гадоў у асабістых запісах і перанёс яго ў "Дзеяслоў" зь першага нумару. Таму тэкст дзёньніка захоўваю такім, як ён пісаўся, каб аддаць даніну дзеяслоўнай традыцыі першых больш чым сарака нумароў і яшчэ раз нагадаць пра "дзеясловіцу".*

**Аўтар**

1.01. Летась так шкадаваў, што ня вёў дзёньнік. Не пачаў, не прымусіў сябе пачаць, калі трэба было... А год атрымаўся такім насычаным!

Холдынг. Звальненьне. "Дзеяслоў". Зьезд СБП...

Колькі перажываньняў... Колькі чалавечае подласьці... І колькі радасьцяў...

З найлепшага згадваецца вандроўка з Дубаўцом на байдах па рэчцы Аўсянка на Віцебшчыне...

Але – трэ, відаць, патроху будзе аднаўляць тыя падзеі, асабліва зьвязаныя з холдынгам. Паступова. Запісваць згадкі.

Самае важнае. Каб не прапала.

Галоўнае: удалося выдзюжыць, выстаяць у той сітуацыі, ня схібіць. І цяпер ужо бачу, што не памыліўся, пакінуўшы "Полымя" і ўзяўшыся за "Дзеяслоў". *(Неабходны каментар: сапраўды, шкадую, што не рабіў штодзённыя запісы летась, бо падрабязнасьці тых падзеяў забыліся. Засталося толькі некалькі запісаў – яны падаюцца ў канцы гэтых занатовак. Але і ў гэтым, 2003-м, годзе, хоць і пісаў штодзень, вельмі шмат важнага пакідаў на потым, аднак да апісаньня таго так і не вярнуўся. Пра што цяпер, калі перачытваю дзёньнік, зноў жа моцна шкадую...)*

2.01. Дзіўна пачаўся гэты год. Ціха. Як ніякі ранейшы. Нібыта і сьвята, не было. Я не пра сябе асабіста. Гэта агульнае ўражаньне. Няма ў людзей радасьці на тварах, не было весялосьці і сьмеху ў навагоднюю ноч. Раней, каля гадзіны ночы ў наш двор вывальвалі ўсе – віншаваліся, выпівалі, запускалі агеньчыкі... Сёлета ж – ніхто ня выйшаў. Мёртвая цішыня. Я вызірнуў у вакно – дзьве-тры цені мільганулі ў двары: выпадковыя мінакі...

Ноч была марознаю, халоднаю – факт, але людзі ня выйшлі не таму. Усеагульны песімізм апанаваў беларусамі. Чаму радавацца? Што яшчэ год адмучаліся, адпакутавалі! Дык, а што ж наперадзе?

Ці ня тое ж самае... І ніякіх надзеяў на зьмены... Балота.

І вось гэтая ўсеагульная безнадзейнасьць і дае мне надзею, што менавіта ў гэтым годзе на Беларусі адбудуцца пэўныя зьмены.

Адбудуцца. Абавязкова.


2003

3.01. Адчуваю, прывык да гэтай кватэры. Нарэшце магу ў ёй пісаць... Прайшло ўсяго сем гадоў дзеля адаптацыі (пасьля пераезду)...

Жарт.

Але я і сапраўды вельмі цяжка прывыкаю да новых месцаў. А каб пісаць, мне трэ пачувацца камфортна. Калі мне добра – тады я магу стварыць нешта добрае: патрэбнае людзям, ня злое. Гэта важна.

Набыў сынам кампутарную гульню “Імперыя” пару тыдняў таму. Гуляюць. Удвох, часам падключаюся і я. Гляджу на экран кампутара і думаю (не пра гульню, а пра разьвіцьцё чалавечай цывілізацыі ўвогуле): навошта ўсё гэта, дзеля чаго, дзеля якой мэты ўвогуле? Адказу, вядома, не знаходжу. А таму падаецца існаваньне нашае бяссэнсоўным. Чалавецтва ўвогуле, а ўжо кожнага асобнага чалавека – тым больш. Нарадзіўся – жыў – памёр. А калі так, дык навошта ўся гэтая мітусьня нашая? Адчуваю, што падбіраюся вельмі блізка да разгадкі, і думаю што нават разгадаўшы, нічога не змагу зьмяніць у сваім асабістым жыцьці, а тым больш паўплываць на разьвіцьцё чалавецтва ў цэлым.

А таму прыкрываюся даўно агульным, біблейскім: “суета сует”. І маўчу... Бо іншае – яшчэ страшней, жахлівей, ганебней...

Адно суцяшае: няма нічога немагчымага. І ўсё, што прыдумвае чалавечы розум урэшце рэшт ажыцьцяўляецца.

А таму – хацеў бы дажыць да вечнасьці.

Альбо да ўсеагульнага канца.

Зрэшты, канца няма, як няма і пачатку, як няма і вечнасьці... Увогуле – нічога няма...

4.01. Учора былі ў горадзе. На машыне. Сьнежна. Зьехаць з дарогі куды ў двор – немагчыма. Гэта я так – дзеля “нататак фенолага”. Тэмпература, дарэчы, мінус 10-15.

І сёньня – таксама.

Але – сёньня быў важны дзень. Нарэшце здалі ў друк другі нумар “Дзеяслова”. Будзе ён лепшы, чым першы. А трэці набіраецца – яшчэ лепшы.

Няўжо пратрымаемся?

Цяжка. Каб толькі хто ведаў, як цяжка!

Холдынг, між тым, канае. Наклады зноў упалі, хоць, здавалася, куды ўжо далей... Падпіска ў кожным выданьні – каля ста ці трохі больш нумароў. Тое ж, пэўна, чакае і нас.

Зрэшты, гэта, відаць, нармальна.

Чытачоў у нашых выданьняў і не павінна быць шмат. Але яны ёсьць і будуць. А значыць, трэба быць і нам...

5.01. <...> Перад новым годам глядзеў знакаміты фільм па п’есе Шварца пра Дракона, які жыве ў нас саміх. Моцная рэч. Так метафарычна-вобразна пра дыктатуру і дыктатараў не сказаў ніхто. Тут адразу пра ўсіх: і пра мінулых, і пра будучых. Якія яны падобныя між сабою: Гітлер, Сталін... <...> “Убейте сына – он вырастет и будет мне мстить...”, – казаў Дракон, зьдзекуючыся з бацькі гэтага сына, а маці (жонцы) пачапіў ордэн – і яна расьцьвіла...

Я не віню (па фільму) гэтую жанчыну, не вінавачу бацьку (які цярпеў зьдзекі перад сынам і жонкаю), я абвінавачваю толькі Дракона, якому ніхто ня даў права распараджацца чужымі лёсамі і тым болей жыцьцямі. Ён права гэтае ўзяў сам. Сам і адкажа...

6.01. Ноч. На вуліцы – мінус 30°. Нараджэньне Хрыстова.

Дзень быў марозны – за мінус 20°, але ня кепскі. <...>

Сустракаўся зь Ягорам Новікавым. Ёсьць надзея, што ўсё будзе добра. Ягор штораз зьдзіўляе веданьнем бел(арускай) літ(аратуры). Ці ня піша ён сам? Усё ніяк не спытаю. *(Неабходны каментар: надзея ня спраўдзілася... А Ягор і сапраўды потым выдаў некалькі кніг.)*

Тры гадзіны ночы. Стома.

Нічога не пасьпяваю.

Усё жыцьцё так.

7.01. Дзень дома. Нікуды не выходзіў. Мароз. За 25°. Не люблю зіму. Пэўна, і сапраўды мае продкі аднекуль з поўдня, мо якраз з той Турэччыны, як некалі казаў Барыс Іванавіч <...>. Прынамсі, у мяне ёсьць падабенства нават не да запарожскага казака, а якраз да турка. <...>. Зьнешне. Люблю цяпло. Ужо чакаю лета. Сёньня ноччу сьнілася, як зьбіраў грыбы. І прыдумалася напісаць серыю казачак, дзе галоўнымі героямі будуць грыбы. Здаецца, такога яшчэ не было. Былі гномы, бульбінкі, а грыбы – тое, што на паверхні, – не. Згадваецца хіба нейкая літ(аратурная) ці нар(одная) казка пра тое, як грыбы ваявалі. Ды я некалі напісаў казачку (закінутая недзе, не друкаваная) пра тое, як грыбы капялюшыкі сабе выбіралі.

Вось можна будзе і скарыстаць...

8.01. Мітусьня.

9.01. Пусты дзень. Нічога не адбылося.

Ну не лічыць жа за нешта важнае тое, што Алесь П(ашкевіч) не пайшоў на сустрэчу з самім... Ці размову ў фае тэатра “Дзе-Я” з М(іхасём) Ск(облам).

Але – было ў мяне колькі прыемных згадак. *(Неабходны каментар: вось тут і пачынаецца шкадаваньне, што не запісаў падрабязьней размову і не пазначыў хоць бы намёкам, што за прыемныя згадкі, бо ўспомніць цяпер, праз дваццаць гадоў, падрабязнасьці немагчыма... І так далей па ўсім тэксьце.)*

10.01. Сьвяты працягваюцца. Часопіс – другі нумар – ляжыць у друкарні. Быў на “працы” з Алесем (Пашкевічам). Заходзілі ў “ЛіМ”. Віця (Шніп) *(Неабходны каментар: там, дзе паўтараюцца імёны, такія, як Алесь, Віця ды інш., у дужках часам дапісваю прозьвішча: бо, пішучы дзёньнік для сябе, не пазначаў хто ёсьць хто, а тут неабходна было б кожны раз рабіць зноску... Зь іншага боку, далей, з іншых прычынаў, некаторыя імёны і прозьвішчы скарачаю да ініцыялаў ці здымаю зусім. Думаю, ня трэба тлумачыць чаму...)* падараваў сваю чарговую кнігу. Я сумна пажартаваў, што сваю кнігу зрабіць зараз не магу: скажуць, скарыстаў становішча... альбо сьпецыяльна дзеля гэтага часопіс стварыў. Хоць якраз цяпер я і мог бы выдаць нешта вартае. Без праблемаў. Час прыйшоў. І вось на табе – маралiст... Счапіўся трохі з (Вольгай) Куртаніч. Запрашае друкавацца. У “Беларускім часе”. У разагнаным “БЧ”... Госпадзе, як нізка апускаюцца людзі дзеля грошай, апраўдваючыся пры гэтым прынцыпам: калі не я, дык хто...

Раней гэты прынцып спрацоўваў. А цяпер... Ясна хто б быў, калі б – была іншая сітуацыя. Пэўна ж – ня ты... Ня ты, Вольга <...>... Іншыя былі б... А якраз таму <...> вы там цяпер баль правіце...



11.01. Маразы працягваюцца. На вуліцы больш за гадзіну прабыць немагчыма. У нас, на ўскраіне, у Малінаўцы. У цэнтры так не адчуваецца холад.

12.01. Праца.

13.01. Быў файны вечар. З сябрамі – сем'ямі – у рэстарацыі. Упершыню за жыццё.

Ня ўсё ў нас яшчэ страчана. Агонь патух, але вуголле палае. Гэты народ яшчэ можна разварушыць.

14.01. Дзень дома. Нікуды не пайшоў. Узрост: пасьля адпачынку ўжо трэба адпачываць...

Гулялі ўвечары ля дома з Алесем (Пашкевічам). Упершыню – пасьля размовы – стала (зразумела)... Далёка, дужа далёка мы зайшлі. Яшчэ ня позна адступіць. Бо “там” і не такіх расшыфроўвалі і ламалі.

Сьвяты наіў. Так, сьвяты...

Дамовіліся. Заўтра едзем у Маскву. Ад СБП. Не хацеў. Але – трэба. Стаў прыкідваць – колькі гэта я ня быў у сталіцы былой “вялікай радзімы”... 13 гадоў. Жах. Часьцей цяперака бываў у Варшаве, чымсьці ў Маскве...

15.01. Вечар – ноч. Цягнік. За вакном, пэўна, Смаленск. Хлопцы сьпяць. Едзем утрох – Алесь П(ашкевіч), Алесь Камароўскі і я. Дзень у мітусьні. Перадад'езднай. Але ўсё пасьпелі.

Заўважыў: упершыню зь мінулага года еxаў у цягніку. Усё на машыне ды на машыне. Арыстакрат, пта маць.

16.01. Масква ўразіла гурбамі бруднага сьнегу і “пробкамі” з машынаў на вуліцах. Увечары ад ЦДЛ да гатэля “Дом пісьменьніка” ехалі 3 гадзіны...

Першая сустрэча ў МСПС з Сяргеем Міхалковым і камандай. Дзед спадабаўся. Светлы розум, па-старэчаму просты, як дзьве капейкі. Адразу, у першым сказе галоўнае сказаў: чаму нас запрасілі – сябруйце з намі, а не з астатнімі чатырма ці пяцьцю расейскімі пісьменьніцкімі саюзамі...

Я зьдзівіўся сам сабе: пачаў казаць і адчуваю – забыў рускую мову... Мо трохі і разгубіўся, але... акцэнт, акцэнт які... А я ж некалі на Сахаліне, у Карэліі ды і ў той жа Маскве размаўляў чысьцютка – так, што за рускага прымалі. І вось на табе: акцэнт <...>...

А ўвогуле ўражаньне, што мы патрапілі не ў сваю кампанію (не ў свае сані, як кажуць расейцы). Самымі сімпатычнымі мне на гэтых сустрэчах былі (апроч, вядома, Міхалкова) – (Уладзімір) Огнеў і Сьвятлана Васіленка. Святлану даўно вылучыў для сябе і люблю як класнага празаіка. Шкада, што не ўдалося падрабязьней паразмаўляць...

Але, пакуль усё прыстойна. У цэлым. Мажліва, прыехалі не дарма...

17.01. Ох-хо! Пабылі ў Саюзе пісьменьнікаў Расіі. Ганічаў, Кузьняцоў, Лыкошын, трое ці болей з прозьвішчамі, што пачынаюцца на “Пере...” – Переяславцев, Переверзин і г.д. Называюць сябе «дзяржаўнікамі», маюць сваю ўладу: Пуціна, міністраў і зайздросцяць нам – думаюць, у Беларусі калі не камунізм, дык сацыялізм <...> дакладна. А самі маюць дом, частку якога здаюць у арэнду

даляраў па 500 за м$^2$, пару рэстаранаў, гатэль, машыны, штат пад 100 чалавек... Калі мы сказалі, што нічога ня маем – не паверылі... Потым прыйшоў (Валянцін) Распуцін – адзіны, пэўна, там пісьменьнік, якога прымаюць і паважаюць усе і якога трымаюць, як сьцяг... Зайшоў з тварам нашага Разанава, якому абрыдла ўсё і які пачувае сябе чужым тут... Пры гэтым упэўненасьці – ні грама, вялікасьці – ніколькі... Што і спадабалася мне. І трошкі шкада яго стала...

А потым нас забралі да сябе МСПСаўцы. На абед развітальны. Галоўным, быў першы намесьнік С. Міхалкова, гал(оўны) рэд(актар) выд(авецт)ва «Сав(ецкі) піс(ьменьнік)» Ларыёнаў... Разышоўся. Ледзь я стрываў, як госьць... Мо і не стрываў бы, ды чакаў Воўку Сотнікава *(Неабходны каментар: сябар-аднакурсьнік, які, каб стаць пісьменьнікам, спачатку кінуў пасьля двух курсаў Магілёўскі педінстытут, а потым пасьля чатырох курсаў наш журфак і паступіў у Маскоўскі літінстытут, які скончыў і працаваў спачатку ў СП СССР дарадцам па беларускай літаратуры, а потым у розных выдавецтвах ды часопісах. Падчас гэтай сустрэчы ён ужо працаваў у некалі эміграцкім часопісе“Кантынент”, які выдаваўся тады ў Маскве)* і рады быў, калі ён прыйшоў, каб сысьці зь ім... Ларыёнаў плявузгаў на «жыдоў» (так і казаў гэтае слова), якія захапілі ўладу ў Маскве, на міністраў кшталту Швыдкога ды іншых, такое, што не апісаць... Зрэшты, што зьдзіўляла мяне ў Маскве, дык гэта тое, як абліваюць гразёю «пісьменьнікі» адзін аднаго. Ніколькі не саромеючыся «гасьцей»... У нас гэтага так відавочна няма.

Зрэшты, дапішу пазьней... *(Неабходны каментар: так і не дапісаў... А шкада. З таго, што помніцца, варта было б згадаць хіба адзін факт: МСПС прысудзіў прэмію імя М. Шолахава Аляксандру Лукашэнку за... ненапісаную, прынамсі, нявыдадзеную кнігу твораў. І Міхалкоў ды ягоныя намесьнікі ўмольна прасілі, каб мы з Алесем перадалі шаноўнаму Аляксандру Рыгоравічу іхнюю шчырую просьбу: даслаць рукапіс кнігі, а яны яе выдадуць, бо няёмка ім: прэмію ж далі... Кніга, дарэчы, так і ня выйшла. Прэмію аўтар атрымаў, але пра яе нідзе не згадваецца. І нешта я ўвогуле ня ведаю, ці выдаваліся зборнікі прамоваў Лукашэнкі, як некалі Сталіна, Хрушчова, Брэжнева... Але і сапраўды: навошта цяпер кнігі, навошта зборы твораў шматтомныя, калі ёсьць тэлевізар, а тым больш – інтэрнэт.)*

18.01. ...А дома лепей.

У Маскве пасьпеў на 10 хвілінак сустрэцца з аднакурсьнікам Воўкам Сотнікавым. Працуе ў «Кантыненце», даў пару часопісаў са сваімі творамі. Чытаю. Файна. А яшчэ праглядаю тое, што надавалі нам у рас(ейскіх) саюзах: часопісы, газеты, кнігі. Мяркуючы па іхніх выданьнях – літаратуры ў Р(асеі) няма. Нават хвалёны імі Я. Носаў – слабы. Абсалютна. Ужо ня кажучы пра ўсіх тых «Пере...»-сакратароў... Але, мяркуючы па тым, што даў Воўка – літаратура ў Расеі ёсьць, ды яшчэ якая...

19.01. А між тым – часопіс наш ляжыць у друкарні без руху... Зьвязаліся мы зноў з той самаю «выдавіцаю» *(Неабходны каментар: так у тэксьце: “выдавіцаю” – фемінітыў, блін, скажа нехта сёньня...),* і цяпер каемся... Але заўтра зранку трэ турбаваць і турбаваць яе.

20.01. Працы – колькі працы! Жах! А сваё пісаць няма калі. Саюз, часопіс... <...> Госпадзе, калі я перараблю ўсю гэтую працу. І калі я, урэшце, пачну працаваць на сябе! Воўка С(отнікаў) казаў – нашто ты ўвязаўся ў гэтае дурноцьце, пакуль ня позна кідай і пішы сваё... Кінуў бы, і пісаў бы... А сям’я... Дзеці, жонка... Жыць як... У саюзе – працуем бясплатна, у “Дзеяслове” – таксама. А гэта такі кавалак працы... У “Дз(еяслове)” па-ранейшаму праблемы з друкам. Грошай у нас у абрэз. Шукаем, дзе б выдаць таньней. Давядзецца зноў “у Вільні”. Сустракаліся з цяперашнім выдаўцом. Той, пэўна, нічога не разумее. Кажа: “Вы ведаеце, у

якой краіне жывеце?” А мы толькі і прасілі ўсяго, каб паставіў у часопісе свае выходныя дадзеныя...

21.01. Зьдзівіў Віця (Шніп), які адразу ўзяў інфармацыю пра паездку ў Маскву. Пэўна, адчувае кан’юнктуру і трымае нос па ветры... Раней “ЛіМ” не хацеў друкаваць “саюзаўскую” інфармацыю (а тым болей пра “Дз(еяслоў)” – гэтае слова нават адусюль выкрэслівалася. Мы жартавалі: са школьнай праграмы “Дзеяслоў” ня выкрэсьліш...) З новага году, дарэчы, Саюз б(еларускіх) п(ісьменьнікаў) выпаў з заснавальнікаў “ЛіМа” – нахабна выкрэсьлілі, незаконна, але... Ад нас толькі і чакаюць скандалу, а мы пакуль трымаемся і паступова – паступова – робім справу і перацягваем коўдру на сябе, вяртаем, так бы мовіць, аўтарытэт... За “Дз(еяслоў)” сёньня разьлічыліся. Чакаем нумар.

Дарэчы, пабыў у Алеся Гуркова. У нас праблемы зь юрыдычным адрасам, а ён некалі абяцаў дапамагчы. Прыняў дужа прыхільна. Я рады, што ёсьць людзі, якія нас разумеюць... *(Неабходны каментар: гэта была апошняя надзея ў мяне. Бо да таго адмовілі ўсе, да каго ні зьвяртаўся. А зьвяртаўся я да сваіх знаёмых, блізкіх па духу, тых, каго ведаў па вучобе, працы, літаратуры... І ўсе – усе! – адмовілі. А гэта каля дзесяці кіраўнікоў розных беларускіх прыватных фірмаў і выдавецтваў, якія мелі немалыя памяшканьні, і некаторым зь якіх я сам некалі дапамагаў стаць на ногі... Хоць прасіў я ня грошы, не асобны пакой, а толькі ўласна фармальны адрас дзеля рэгістрацыі. Дужа прыкра было бачыць, што жывуць яны някепска, і месца хапае, але – навошта ім лішнія клопаты? Тым болей, разумеючы сітуацыю, па вачах было відаць, мала хто верыў, што ўдасца нешта зрабіць. Думаю, потым, калі часопіс адбыўся, не адзін зь іх пашкадаваў, што не далучыўся і не дапамог...)*

Віця (Шніп) даў пачытаць паэму Някляева ў расейскім перакладзе, дасланую зь Фінляндыі. Мат-перамат – разьлік на расейцаў. Але пазіцыя беларуская. *(Неабходны каментар: здаецца, гэтая паэма пахадзіла па руках, але так нідзе ніколі і не друкавалася.)* Паэма мне не спадабалася – пасьля “Паланэзу” празрыстага, чыстага, як сьлязіна... Але – паэт тым ня менш Някляеў вялікі.

22.01. У трэці нумар “Дз(еяслова)” мы праанансавалі аповед Янкі Сіпакова. Сёньня І(ван) Д(анілавіч) перадаў яго. Прачытаў і крыху – калі не сказаць болей – расчараваўся. Наўрад ці хто дачытае яго да канца... Здаюць нашыя старэйшыя. На жаль. І гэта аб’ектыўны працэс... Шкадую, што не завялі ў сябе ў часопісе традыцыю каментаваць коратка творы, што друкуем. У выключных выпадках.

Такога каментара просіць і артыкул – файны, дужа сімпатычны – Каракорскага, які я не адважыўся паставіць у другі нумар. У ім усё трымаецца на слове “жыд”. І хай сабе аўтар – яўрэй, і піша ён пра Бабруйск 80-х і пра яўрэяў тагачасных, што яшчэ жылі там. І тлумачыць ён (і мы – ў эпіграфе), што слова “жыд” парускі – крыўдна, а па-беларуску і польску – не... Аднак... І правільна зрабілі, што прытрымалі. Бо нядаўна ў “НН” зьявіўся артыкул А. Сідарэвіча пра тое, што ў Менску няма помніка забітаму тут гэбістамі вялікаму жыду Міхоэлсу, і ў бліжэйшым нумары “Сов(етской) Бел(оруссии)” зьявіўся адказ яму, дзе ўсе прыдзіркі зводзяцца да слова “жыд”, ужытага А. С...

Дык вось, пра каментар да Сіпакова. Ён трэба, каб апярэдзіць N. (калі ўсё ж друкаваць аповед). Бо той не стрымаецца... Рэч у тым, што ёсьць у аповедзе цытата з дзёньніка С(альвадора) Далі пра “пукі”, як творы мастацтва. Прышытая цытата дарэчы, белымі ніткамі. І даволі нясмачнай, неэстэтнай падаецца яна нават мне (Чаму я ўвесь час пра N.? Ды таму, што стаў ён у позу, нібыта ў апазіцыю “Дз(еяслову)”. Крыўда яго заела, ці што – бо безь яго абышліся... І, я ўпэўнены, публікацыю Я(нкі) Сіп(акова) ён заўважыць... Пазьдзекуецца. А таму і трэ было б рэдакцыйнай пасьляслоўе. Пра тое, што N. – аказваецца, не манапаліст на тэму

“пукаў”, што ёсьць у яго пасьлядоўнікі, і на вялікі жаль для яго, не сярод маладых, а сярод старэйшых. Вось як глыбока, аказваецца, жыло гэта ў народзе... і г.д.

А ўвогуле – трэба думаць і думаць, ці друкаваць той аповед...

23.01. Быў непрыемны момант. (Анатоль Паўлавіч) Кудравец, п'яны (гэта істотна!), пакрыўдзіўся на мяне, што адмовіўся зь ім піць (я быў “за рулём” – як прычына, а ўвогуле піць не хацеў). Пакрыўдзіўся і панёс такое... што і пераказаць брыдка. Грошай “за працу”, панімаеш, хоча. “Вапшчэткі” (ягонае слова) – кажу, мы (рэд(акцыя) “Дз(еяслова)”) нічога не атрымліваем, таму, што працуем за ідэю. Ня верыць... Госпадзе, якая дурнота! *(Патрэбнае тлумачэньне: Анатоль Пайлавіч Кудравец быў заснавальнікам Літаратурнага фонда “Нёман” пры аднайменным часопісе. І калі мы задумалі выдаваць “Дзеяслоў”, ён прапанаваў выдаваць яго пры гэтым Фондзе, а не займацца рэгістрацыяй новага. Так зрабіў і С. І. Законьнікаў, які хацеў выдаваць часопіс “Ток” на месцы забранага часопіса “Полымя” пры Літаратурным фондзе “Тронка”, зарэгістраваным раней пры “Полымі”. Але ў рэдакцыю свайго будучага часопіса Сяргей Іванавіч не запрасіў ні Кудраўца, ні ягоную жонку, якая працавала ў “Полымі” карэктарам. Кудравец на гэта моцна пакрыўдзіўся, зразумела. Прапанову ягоную наконт Фонда мы з радасьцю прынялі і першыя два нумары “Дзеяслова”, як альманахі, выйшлі пад прыкрыцьцём “Нёмана”. Адсюль і прэтэнзіі Кудраўца, хоць ён цудоўна ведаў, што мы нічога апроч клопатаў пакуль ня маем. Тым болей, што сам абсалютна нічога не рабіў ні па часопісе, ні па Фондзе. Але ж – гарэлка... Дарэчы, потым дзеля рэгістрацыі “Дзеяслова” нам давялося перапісаць статут Фонда, зроблены пад часопіс “Нёман”, і займацца перарэгістрацыяй Фонда, што было роўназначна новай рэгістрацыі: рэгістрацыі з нуля...)*

Але было сёньня і добрае: падаў заяву на ўступленьне ў СП Ігар Бабкоў. Даўно сачу за гэтым хлопцам. Падабаецца тое, што ён піша, і рады, што ён нарэшце надумаў далучыцца да нас. Мажліва, гэта будзе своеасаблівы прарыў. Нам патрэбныя такія хлопцы... Зрэшты, колькі дзён таму падаў заяву на аднаўленьне ў СП (Вячаслаў) Дашкевіч. Дужа адыёзная фігура. Нядаўні рэдактар (часопіса) “Крыніца”, – які ператварыў у “Славянскі сьвет”. Ён першым пакрытыкаваў і “Дз(еяслоў)” за вяртаньне “ь” – мяккага знаку. Маўляў, “нашыя дзяды пралілі шмат крыві і поту, каб унармаваць мову, а тут знаходзяцца людзі, якія явачным парадкам яе псуюць...” Была ў мяне зь ім спрэчка-сутычка ў “Маладосьці”, і, здаецца, ён пагадзіўся, што “ь” трэба вяртаць, бо ідуць зараз у літаратуру, у мову, у жыцьцё людзі, якія мову вучаць па падручніках, а там мяккасьць нашай мовы не перадаецца. І кажуць так, як напісана “снег”, а не “сьнег” і г.д.

24.01. У СП адбылося паседжаньне Літфонду, пасьля якога, у каторы раз, стала зразумела, што барацьба толькі пачынаецца. І што, пэўна, дарэмна мы ў яе ўблыталіся... Рабілі б паціху сваю справу – часопіс – пісалі б сваё і жылі б у задавальненьне, а так... Самае кепскае, што кінулі нас “маладых” старэйшыя на калючы дрот з электрычным токам: абяцалі дапамагаць, а самі збокуназіраюць і толькі (падтрунperiodsваюць)... У Маскве – Міхалкоў, Чарнічэнка, Казакова, Огнеў – якім пад 80 і за 80, кіруюць, а пад імі і маладыя растуць, а ў нас... Кінулі, як сабачанятаў сьляпых у ваду, выплывеце – добра, а не... Плывем, плаваем, выплываем. Але ж колькі часу і здароўя гэта забірае. А тут яшчэ супрацьстаяньне дурное з боку ўладаў... <...> Увечары, позна, патэлефанаваў Юра Станкевіч з Барысава. І на поўным сур'ёзе запатрабаваў, каб я яму выплаціў ганарар за публікацыю ў першым нумары “Дз(еяслова)”. Іначай, кажа, з сёньняшняга дня стаўлю цябе на “счотчык”. Пытаю: ты жартуеш? Не – на поўным сур'ёзе... Ну, думаю, інтуіцыя мяне і гэтым разам не падвяла: не хацелі мы гэтую рэч друкаваць. І паставілі

ў апошні момант. Бо – слабая (колькі правак унесена: як вылізана мною), а да таго ж – антысеміцкае, антыцыганскае, чалавеканенавісьніцкае так і прэ зь яе, колькі б ні вычышчалі... Ганарар яму я не абяцаў, як і ўсім, за першы нумар. Казаў – разьлічымся толькі часопісамі, што і зрабіў. А ён, назло, тэлефануе і такое кажа... Ніхто б гэтую рэч не друкаваў і тым болей – ніхто б не правіў. Быў бы хоць удзячны за гэта. Дык не... Кажу: разумею, табе цяжка, але – не чапляй свае праблемы на мяне. Няма грошай – зарабляй... Мне таксама ня салодка: на грамадзкіх пачатках цягнуць такі кавалак працы. Мог бы цяпер спакойна сядзець у "Полымі" намесьнікам у Мятліцкага, як сядзяць Федарэнка, Казлоў, Бадак... Не разумее. <...> Херова...

25.01. Фактычна першы выходны ў мяне сёлета. Працы шмат. Але кінуў усё і адаспаўся.

З Алесем П(ашкевічам) удзень выйшлі да аптэкі. Прагуляліся. Пагаманілі. Ні пра што, бо пра нашыя справы. Алесь набыў "Н(ародную) В(олю)". Там заява пра сьвяткаваньне 25 сакавіка ад аргкамітэту. І ягоны подпіс. Кажа, ідзе на гэта сьвядома. Я разумею. Але... Наколькі ён ускладніў гэтым сабе і нам жыцьцё. Дарэчы, пад заявай, не па алфавіце, першыя подпісы С. Законьнікава і В. Іпатавай, далей па алфавіце, а зн(ачыць), у канцы – Пашкевіча. Міхась С(кобла) казаў учора перад праўленьнем Літфонду, што пасварыўся з Вольгай (Іпатавай) і яе мужам. Яны езьдзілі выступаць у Віцебск, і там мужа В(ольгі) І(патавай) па ягонай просьбе аб'явілі па афіцыйнай пасадзе, што на візітоўцы, і аказалася, што ён прадстаўнік нейкага фонду пры Савеце Саюзу Беларусі і Расіі. Калі Міхась перапытаў потым: ён пацьвердзіў – так, больш за тое, ён, як рускі, за саюз... І Вольга побач – вялікая змагарка за незалежнасьць... <...>

26.01. Вельмі кепскі дзень. Адчуваю сябе дужа старым і хворым... Кажуць, сонечная актыўнасьць і таму актывізуецца ўсё кепскае. Можа быць... Па тэле перадалі, што ў Маскве памёр Уладзімір Мулявін... І адразу стала зразумела – якога чалавека мы страцілі. А пры жыцьці, у апошнія гады – не цанілі. Нават блізкія сябры ад яго адвярнуліся. Ці таму, што запіў, ці запіў ад таго... А безь яго "Песьняроў" не было б, як бы яны ні храбрыліся.. Сьвеце Берасьцень даўно замовіў артыкул у "Дз(еяслоў)" пра "Песьняроў", пра канфлікт... Цяпер ня ведаю, ці напіша яна. Альбо добра, альбо – нічога. І тое, і тое для часопіса кепска...

І мне кепска. Галава раскалваецца... Але дачытаў Каэльо – "Алхімік". Ня дужа мяне ўразіла гэтая рэч. Просьценькая, для дэбілаў, што б там ні казалі пра філасофію, падтэкст ды шматзначнасьць. Я яе пралічваю навылёт, і мне не цікава. Я бачу хібы аўтара, бачу, дзе ён недапрацаваў...

Міхалкоў (Мікіта) уручаў сёньня прэмію. Свайго "Залатога арла"... І пасьля ў яго спыталі ў інтэрв'ю, ці зьбіраецца ён для Галівуда экранізаваць "Алхіміка". Кажа, рад быў бы... Можа, там і ёсьць што экранізаваць, але чытаць няма чаго. Апошняе, што мяне ўразіла з прачытанага – "Парфума" Зюскінда. І ніхто экранізаваць не зьбіраецца... *(Неабходны каментар: экранізавалі. І добры фільм па "Парфуме" зрабілі. Глядзеў з задавальненьнем... а па "Алхіміку", здаецца, так і не зьнялі пакуль.)*. За Каэльям я бачу "Эфект Курэйчыка". Ці наадварот: За Курэйчыкам – відаць "Эфект Каэлы". Усе кажуць: цікава, добра, і ніхто не адважыцца сказаць: а кароль жа голы...

27.01. Зьявілася надзея, што ўсё ў нас будзе добра з часопісам. Паступова, нясьпешна станем на ногі. Вытрываем... Дакажам усім, што можна на Беларусі без нічыёй дапамогі рабіць класны часопіс...

У Маскве прэмію "Трыумф" далі Л. Петрушэўскай... Справядліва. Ёсьць там, аказваецца, нейкая аб'ектыўнасьць. Хоць у Маскве зараз ёсьць дзясятак класных

празаікаў-жанчын, кожнай зь якіх можна даваць прэмію заслужана: Уліцкая, Васіленка, Токарава, Талстая, Сідур, Нарбікава...

А дзе нашыя жанчыны? Ды там, дзе і мужчыны...

28.01. Забралі (з друкарні) часопіс. Сьвята. Два нумары побач – гэта сіла. Удар пад дых скептыкам...

29.01. Зь якой радасьцю людзі сустракаюць зьяўленьне новага “Дзеяслова”. Божа мой, – гэта шчасьце бачыць сьлёзы на вачах у жанчын, якія прыціскаюць “Дз(еяслоў)” да грудзей, нібы дзіцё... Дзеля гэтага варта было пачынаць справу, дзеля гэтага варта жыць...

30.01. Такая стома навалілася, што няма сілаў нат па хаце хадзіць... А трэба ехаць на працу – сёньня мне дзяжурыць у СП. Стома, пэўна, падлавіла ад таго, што крыху расслабіўся – дужа напружанымі былі апошнія дні, дужа нярвовыя.

Вечар... У Саюз зайшоў (Пётр) Краўчанка. Той самы – былы міністр МЗС, былы амбасадар у Японіі. Былы сябар Барыса Іванавіча. Найбліжэйшы сябар. Памятаю, яшчэ з Гомелю, назіраючы за ім па тэлевізары, ганарыўся, што ў нас такі міністр – імпазантны, інтэлігентны, разумны, беларускамоўны... Цяпер лоск зь яго зьляцеў. Але трымаецца. Казаў правільныя рэчы – але ці прыслухаюцца да яго пасьля здрады... На яго разьлічвалі дэмсілы. Ён быў надзеяй на сувязі з Захадам. А К(раўчанка) пайшоў у паслы... Цяпер скардзіцца, як цяжка было яму ў Японіі, дзе вакол толькі чужыя твары. Веру: цяжка, але колькі людзей, пачуўшы тое, скрывіцца ва ўсьмешцы... <...>

31.01. Рада СП. Дужа цяжкае выпрабаваньне. Старыя, замест таго, каб дапамагчы, зноў накінуліся на нас.... Крытыка беспадстаўная, дурная, прыкрая... Адно ў выніку добра: здаецца, мае акцыі падрасьлі.

1.02.

Сьлязьлівым я стаў, плаксівым. Пачуў пра аварыю амерыканскага чаўнака – і сьлёзы на вачах.

2.02. Праблема не ў чужых, праблема ў тых, каго лічыш сваімі. Найчасьцей і зло, і бяда прыходзяць ад іх.

3.02. Дзень добрай весткі. Выжывем! Захад нам дапаможа – грузіце апельсіны бочкамі...

4.02. Пабыў у вёсцы. У бацькоў. За адзін дзень: адна нага тут – другая там. 350+350 км. Вялікая ў нас Беларусь. Ці не – маленькая ўсё ж... Дома, у вёсцы, не пасьпеў нават апамятацца – дарога, дарога, дарога...

5.02. Як добра, што ўчора за дзень зьездзіў туды і назад. Бацькі казалі застацца. Ды – справы. А сёньня з ночы – мяцеліца. За ноч усё замяло. Ня ведаю, як ехаў бы...

6.02. Стома не адпускае з пачатку года. Здаецца, трымаюся з апошніх сілаў. Праца... Праца... Праца... Абрыдла. Хочацца зашыцца куды і зрабіць што-небудзь сваё.

7.02. Ніколі, ніколі гэта ня скончыцца. Я няправільна жыву. Я ня ўмею жыць. Я сам абкладаю сябе абавязкамі, загружаю працай. Я ўсё бяру на сябе... Я ніколі не перараблю ўсю працу. А значыць, ніколі не зраблю тое, дзеля чаго сюды прыйшоў. Хто мяне штурхае не на маё? Няўжо я сам?...

Але – сёньня падпісаў дамову. Дамову. Не з д’яблам. Але з чарговым ярмом. Часопіс будзе выходзіць. А я...

8.02. Выходны дзень. Але і сёньня нейкае прыдуманае паседжаньне. Арганізуецца Сход інтэлігенцыі. Нібыта рэч вартая. Калі і сапраўды там зьбярэцца ўся інтэлігенцыі – і правая, і левая... Арганізатары баяцца правакацыяў. Як тая, што была ў Менску падчас вылучэньня кандыдатаў: (Анатоль) Белы зьбіў (Станіслава) Шушкевіча. *(Неабходны каментар: калі цікава, што то было за “зьбіцьцё” і за што, а таксама хто такія Белы і Шушкевіч – шукайце падрабязнасьці ў інтэрнеце самі: мне вяртацца да таго ня хочацца...)*

9.02. Нядзеля. А працу ўсю не перарабіў.

10.02. Як файна мець справу зь людзьмі слова. Сказаў (Алесь) Гуркоў – і зрабіў. Юрыдычны адрас для часопіса – першы крок да рэгістрацыі. Нам гэта трэба – кроў з носу. Іначай ня выжыць.

11.02. Ужо адбылося дзьве сустрэчы з “чытачамі” другога нумару “Дз(еяслова)”. Апошняя ў пятніцу, у педкаледжы, а папярэдняя была ў аграрна-тэхнічным каледжы ў Новым Полі пад Менскам. Ня дужа ўдалы пачатак з другім нумарам. Дзеці – бедныя. Выкладчыкі таксама. Грошай няма. І рады б набыць “Дз(еяслоў)” ды няма за што. У вёсцы дзяцей крыху разварушылі, нат пры разьвітаньні яны загаварылі па-беларуску. У Менску – “варушыць” ня трэба было: усё разумеюць, нават “вострыя” пытаньні задавалі, педкаледж усё ж... Але – наколькі безнадзейна ўсё... Наколькі лішнія мы ў роднай дзяржаве. Божа, такой беспрасьветнасьці не было ў нас ні пры Саветах, ні пры камуністах...

12.02. Учора быў у гарвыканкаме са сваімі паперамі. Чыноўнік зірнуў і сказаў: усё добра, але трэба ўказаць нумар пакою... Аб’езьдзіў паўгорада, але зрабіў, што трэба, і сёньня з раніцы зноў быў у яго. Кажуць, няма: у адміністрацыі... Прыняў ён мяне недзе а 12-й. Гляджу, настрой у яго ня той, не ўчарашні. Пачаў прыдзірацца – ды няма да чаго. Потым кажа: у вас будуць праблемы ў Міністэрстве інфармацыі. Яму патэлефанавала з раніцы нам(еснік) міністра <...> і... намякнула на гэта. Але дакументы прыняў, калі я сказаў упэўнена, ажно сам сабе падзівіўся: прыміце, а што будзе далей, у міністэрстве, пабачым... Хоць што будзе далей – ня ведаю...

13.02. З раніцы – Літфонд. <...> Справы ня зрушваюцца з нуля. Адчуў сябе лішнім у СП. Зразумеў, што гэта не маё, што чужы я там. І ўвогуле, усе публічныя акцыі, выступы – не маё. Мне б зашыцца куды і – пісаць, пісаць, пісаць...

...А сёньня – Дзень нараджэньня мамы. Добра, што ёсьць тэлефон...

Цётка Каця вярнулася зь Ліды (у панядзелак яшчэ), і сёньня мы зь ёю езьдзілі да цёткі Марусі (яе стрыечнай сястры, зь якою яна ня бачылася – страшна сказаць – 50 гадоў... Была там і ўнучка цёткі Марусі – якраз у такім узросьце, як некалі яны, калі разьвіталіся.

14.02. Атрымаў. Дабіўся свайго... Адзін. Так і хочацца сказаць: Геній... Прабіў сьцяну, якую да мяне не прабіваў ніхто. І ніхто ня верыў, што гэта ўдасца. *(Неабходны каментар: ня ведаю, не памятаю пра што гэта: што атрымаў? чаго дабіўся? і за што называю сябе геніем зь вялікай літары? Пэўна, нешта важнае было, зьвязанае з часопісам...)*

15.02. Увечары памёр дзядзька Аркадзь.... Адпакутаваў... Мамін брат, якога я вельмі любіў. Журналіст, па сьлядах якога я некалі паехаў на Сахалін. А яшчэ

раней – напісаў прысьвечаны яму адзін зь першых сваіх вершаў. Нешта кшталту: “На сьцяне вісіць партрэт...” Але далей ня так, як у Таркоўскага (і ў песьні Макарэвіча). Бо партрэт на сьцяне ў нас у вёсцы ў зале вісеў маладога дзядзькі Аркадзі. Я памятаю, як пасьля прыбудовы “трохсьценкі” да нашай хаты, ён дапамагаў тынкаваць тую сьцяну і столь. Тады ён прыязджаў да нас – дамоў да сябе – зь Менску: студэнт журфаку. Колькі ж мне тады было гадоў? Два, тры... Памятаю яго на стале з драўляным “масьцярком” у руках. І я пад нагамі кручуся – “дапамагаю”, а ён баіцца, каб гліна на мяне не зваліліся... Як даўно гэта было...

І як мала мною зроблена... У тым ліку і пра гэта думалася сёньня на нярвовай размове ў (Міхася) Скоблы (быў яшчэ Эдзік Акулін). Размаўлялі пра свае справы, пра СП, пра Пашкевіча, Чаргінца, і пра тое, як жыць далей... каб і справу жыцьця свайго рабіць, і ў бруд ня ўмазацца... Лягчэй лёгкага сысьці ў глухое падпольле. Альбо пераседжваць час, як робяць гэта Федарэнка, Казлоў, Бадак, Наварыч ды і Глобус з камандай... А нам што – больш за ўсіх трэба? Але – увязаліся ў бойку і цяпер няма як у кусты сысьці. Ды і галоўнае – сыйдзем мы, а хто на нашае месца прыйдзе: Ж., Х. ды інш... І панясецца хвала Чырвонаму Дому. І таму я яшчэ раз паўтарыў тыя словы пра змаганьне не супраць, а за... І пра тое, што мы павінны стаяць на сваёй пазіцыі і адстойваць яе, і няхай з намі змагаюцца, а ня мы зь некім....

Трэба рабіць пераварот у мазгах...

16.02. Не шкадуй ніколі нічога свайго. Дзяліся апошнім. Рэчы больш даўгавечныя за нас. Мы сыходзім, яны застаюцца. Хай служаць іншым.

І адная справа, калі ты падзяліўся. Зусім іншая, калі нехта падабраў...

17.02. Ліда. Ноч. Дзядзька толькі чынам сьмерці сабраў вакол сябе сваю радню.

18.02. Хачу: каб магілу мне выкапалі не трактарам, а рыдлёўкамі. Хачу: убачыць узыход сонца ўлетку ад пачатку да канца. Нічога не рабіць, а толькі назіраць, як узыходзіць сонца. Пэўна, няма на нашым сьвеце нічога прыгажэйшага, чымсьці ўзыход сонца.

...Бацюшка, пасьля адпяваньня дзядзькі, зьбіваючыся, “прачытаў” колькі натацыяў вернікам (любяць яны вучыць, парушаючы запаведзь: не павучай...). Запомнілася адная думка (ня ведаю, адкуль узятая, бо наўрад ці ягоная): “Адзінота – гэта пекла на зямлі”. Вельмі падыходзіць гэта да маёй недрукаванай рэчы – трэба ўжыць...

...А дзядзькі ўжо няма...

19.02. Дома быць немажліва. Пастаянна тэлефонныя званкі. Аказваецца, я вельмі патрэбны людзям. Прыемнага мала ў гэтым. Бо кожны стараецца начапіць на цябе (мяне ў сэнсе) свае праблемы.

А мне апошнія гадоў 15, калі я ўсьвядоміў – канчаткова – сябе пісьменьнікам, нясьцерпна хочацца пісаць. А часу вольнага няма. Хранічна няма. Застаецца адное – зьязджаць адсюль. Невядома куды. Кідаць усё тут... І каб ніхто ня ведаў – дзе ты. Толькі тады, можа, што і атрымаецца. Інакш так і памрэш, нічога не зрабіўшы, а толькі чакаючы, калі надасца вольная хвіліна.

20.02. Хацеў бы: пасяліцца на бязьлюдным востраве, дзе з усіх дабротаў цывілізацыі ёсьць толькі электрычнасьць ды гарачая вада...

Увечары сабраліся разам у Алеся (Пашкевіча) – рэдакцыя “Дз(еяслова)” і “сакратарыят” СП – Міхась (Скобла), Эдзік (Акулін), я і, зразумела, Алесь. Патрэбная гутарка. Але: некалі я захапляўся сьмеласьцю Міхася. А ўчора, ужо ня першы раз, падумаў, што сьмеласьць гэтая дужа аддае правакацыйнасьцю. Шмат

бачыў я падобных “сьмелых”, якія на справе былі правакатарамі. Да Міхася гэта не адносіцца. Але... Мне больш па душы людзі, якія ўсё тое, пра што ён кажа, робяць някідка, бяз выкліку, без самарэкламы... Спакойна, абачліва, памяркоўна – але робяць усё і да канца!

21.02. Я пачынаю ціха думаць, што я чараўнік. Прайсьці такое... Сёньня атрымаў дакументы ў гарвыканкаме – права на рэгістрацыю “Дз(еяслова)” ў Міністэрстве інфармацыі. С. І. З(аконьнікаў) біўся над гэтым, мяркуючы па ягоных словах, тры месяцы і ўрэшце рэшт яму вярнулі дакументы. Каб, маўляў, Міністэрства інфармацыі дало заключэньне “о целесообразности журнала”. А я прайшоў гарвыканкам за 10 дзён...

Няўжо ўдасца і М(іністэрства) і(нфармацыі) прайсьці?

Хачу: дзіва для “Дзеяслова”, а дзіва няма. Ня пішуць... *(Неабходны каментар: пад* дзівам *я тут разумею цікавыя, адметныя, неардынарныя творы, якіх у нас заўсёды не хапала...)*

22.02. Хто сказаў, што сёньня выходны? Не, няправільна я жыву. Ня ўмею жыць. Не для сябе жыву, а для іншых... Воўку Сотнікаву некалі выкладчык філасофіі сказаў: геній павінен не зважаць на іншых, пераступаць празь целы... толькі тады ён геній... Я зважаю... І таму мне ніколі не зрабіць таго, што я мог бы. Трэ было б плюнуць на сям’ю і жыць дзеля сябе і сваёй творчасьці. Не магу. Трэ было б плюнуць на Радзіму і свой абавязак перад ёй... Не магу... І таму кручуся, як вавёрка ў коле. Ці зразумее хто мяне, ці ацэніць?

23.02. Усё. Вока маё здалося. Пацякло. Ад кампутара – запаленьне. Кожны год у студзені-лютым гэта было. Думаў, сёлета праскочу. Не.

24.02. Ноччу прыходзілі... Ня ведаю, як іх назваць. Цягнулі да сябе, а я супраціўляўся. Даўно не было. Думаў, ужо ня вернуцца. Прыйшлі. Пасьля ачуўся, ляжаў і думаў: вось так, пэўна, пакідае душа цела. Цяпер я ведаю, як гэта страшна душы пакідаць сваё цела.... Страшна. Але потым, пэўна, так соладка, што вяртацца ня хочацца... Я пакуль не хачу пакідаць сваё цела. І трымаюць мяне тут толькі мае дзеці. Іншага нічога не шкада... Калі хавалі дзядзьку Аркадзя, сястра Валя сказала: я перастала баяцца сьмерці. Літаральна за хвілю да таго я таксама падумаў пра тое. Старэем.

Удзень сустрэча “Дз(еяслова)” ў лінгвістычным універсітэце. Страшна незадаволены сабою. Цяжка мне выступаць на тле Эдзіка, які “катае” сваю праграму: тая ж песьня, той жа верш... Я паўтарацца не хачу. Мне сорамна паўтарацца. Адно добра: перастаў хваляваццa на людзях.

25.02. У “ЛіМе” і “Маладосьці” цікавыя размовы са (Віцем) Шніпом і (Алесем) Бадаком. Холдынг канае. Яны ня ведаюць, што рабіць, як жыць. І мне скрушна. Дрыттваю за нагу... за паўгоду такія махіны спляжылі... Бондар з камандай... І падняць іх, нават калі прыйдуць талковыя людзі, цяжэй будзе, чымсьці “Дзеяслоў” утрымаць.

26.02. У Міністрэства інфармацыі здалі дакументы на рэгістрацыю. Няўжо пранясе? Нап’юся... Яшчэ гэта не здарылася, а пачынаюцца ўжо размовы пра тое, што Сяргея Ів(анавіча) З(аконьнікава) “не пускаюць”, твораць яму перашкоды, а мы праходзім... <...>. А “Дз(еяслоў)” будзе жыць. Толькі сёньня “прыплыло” некалькі файных матэрыялаў – запісы Лужаніна, артыкул Хурсіка, канчаткова дамовіўся пра публіцыстыку Алексіевіч (толькі забраць). Арлоў патэлефанаваў – дапісаў тэкст, заўтра перадасьць, Сідарэвіч заўтра артыкул пра Стральцова аддае,

Дашкевіч (Алег) – прозу, Аркуш – вершы, Дашчынскі – артыкул пра Герменчука... А пазаўчора – размова зь Някляевым: аповесьць можна друкаваць, якая даўно ў мяне ў кампутары. Выжывем. Выстаім. І зробім часопіс, якога яшчэ не было на Беларусі. Толькі каб ведаў хто, як цяжка гэта аднаму... Хлопцы – Алесь, Эдзік, Міхась – дапамагаюць нібыта, але сыходзіцца ўсё на мне адным....

У дзядзькі Алеся – дзень народзінаў. Юбілей – 50. Які ж ён яшчэ малады! І які я ўжо стары!!!

27.02. У М(іністэрстве) і(нфармацыі) ўнесьлі праўкі ў дакументы па рэгістрацыі. Давялося зьняць слова "публіцыстыка" і пакінуць толькі "літаратурна-мастацкі" часопіс. Няўжо мы пройдзем гэта? Няўжо мне ўдасца правесьці гэты карабель між Сцылай і Харыбдай і самому прайсьці па лязу?... У педуніверы было дзьве сустрэчы. Цікавыя дзеці ў нас падрастаюць. Адукаваныя. Сьветлыя. Ім бы падтрымку яшчэ – маральную – з боку дзяржавы, і ўсё ў нас, беларусаў, атрымалася б.

Баліць вока, сьлязіцца... Старасьць.... Дарэчы, ці не з-за яго ў адной з запісак з залы мяне назвалі падобным да Купалы? Прыемнае параўнаньне. Пэўна, са здымкам К(упалы) зь першага нумару "Дз(еяслова)" параўналі. Але падобныя мы зь ім, мусіць, хіба – хранічнай стомай, якая чытаецца на твары... Дарэчы, Сяргей Дубавец даў у трэці "Дз(еяслоў)" файны артыкул пра Купалу, пра апошнія гады жыцьця, дзе, між іншым, праводзіцца і такая думка, што сьмерць К(упалы) не забойства. Але, можа, і не самазабойства (хоць хутчэй гэта сцьвярджае), а проста К(упала) перастаў супраціўляцца, скарыўся, здаўся сьмерці... Каб хоць бы трошкі супраціўленьня зь ягонага боку – і тое, што здарылася ў гатэлі "Масква" – ня здарылася б, не адбылося...

Учора прачытаў запісы Лужаніна – для "Дз(еяслова)" перадаў Міхась. Ніколі не любіў гэтага дзеда, хоць і сябраваў зь ім Б(арыс) І(ванавіч), заўсёды здавалася, што ў яго – Лужаніна – рукі па локці калі не ў крыві, дык у дзярме... Але чытаў запісы як староньні чалавек, як рэдактар, які зацікаўлены ў файных публікацыях у часопісе. І вельмі задаволены, што зможам гэта надрукаваць. Ёсьць усё, што трэба. У тым ліку і вострыя мясьцінкі. Крытыка (неразуменьне) Разанава, крытыка (абвінавачаньне ў плагіяце) Гілевіча... Увогуле, я балдзею апошнія дні: такія файныя публікацыі ідуць у "Дз(еяслоў)"! Вось сёньня Сідарэвіч перадаў згадкі пра Стральцова – клас!!! І нідзе гэта не магло б быць надрукавана па цяперашнім часе. Толькі ў "Дз(еяслове)"...

28.02. Дарабляю "Дз(еяслоў)". Зь мінулага нумару застаўся файны артыкул Каракорскага. Вырашыў яго ня ставіць у другі нумар, бо на кожнай старонцы там 10 разоў слова "жыд" сустракаецца. І хоць артыкул дужа сімпатычны, пра Бабруйск і напісаны яўрэем, а... няма апраўданьня... Хоць, зноў жа, у эпіграф я вынес ягоныя (аўтара) словы: "па-расейску слова "жыд" гучыць крыўдна, а па-польску і беларуску – не"... І тым ня менш... Бо ў "СБ" (...) за гэтае слова "жыд" Сідарэвіча распранулі да трусоў, забыўшыся на ягоную прапанову... Таму вырашыў слова "жыдоўскі" паправіць на "габрэйскі". Думаю, што нават калі мяне Каракорскі не зразумее, дык яму аднаму будзе лягчэй патлумачыць, чым дзясяткам пакрыўджаных ім і "Дз(еясловам)" габрэяў.

1.03. Вясна. Як хутка ўсё ж ляціць час – банальна, ды факт. Толькі што быў Новы год... Толькі што... Азірнуцца не пасьпеў. Мне важна сёлета не прахаўкаць лета...

2.03. Міхась перадаў артыкул Сідарэвіча пра Стральцова. Добры артыкул, але... настолькі суб'ектыўны, наколькі суб'ектыўным заўсёды быў Сідарэвіч...

Асабліва прыкра чытаць радкі пра Барыса Іванавіча. Не любіў яго Стральцоў. Так. Але за што? Не за творы-апупеі. А за тое, што шкадаваў яго, грошай на

прапой не даваў... Можа, адзіны, хто яго не спойваў. Мне пра гэта і Гіль казаў. А тут – Сід(арэвіч) папракае, што Сачанка не ўбярог Стральцова ад п'янкі, ня мог стаць ягоным духоўнікам, бо... Стр(альцоў) яго прозу не любіў... І тут жа хваліць Барадуліна, які любіў "хлопцам" пляшку паставіць. Апраўдвае Брыля і іншых старэйшых, хаця якраз яны павінны былі б па логіцы стаць "духоўнікамі" і паспрабаваць уратаваць Стральцова. Дык не – вінаватыя Сачанка, Гіль, Чыгрынаў, Адамчык – амаль аднагодкі, а не старэйшыя... Трызьненьне проста... Гэта як нас усіх папракаць, што ня сталі ў свой час "духоўнікамі" Сыса... Госпадзе, Божа мой... Але друкаваць будзем. Бо артыкул файны. Ды і ня ў нашых правілах скарачаць нешта...

3.03. Ну вось: "ня ў нашых правілах скарачаць". Але: ёсьць вострыя рэчы. Настолькі, што як іх пакідаць? Алесь (Пашкевіч) аддаў дзёньнікавыя запісы (Алеся) Адамовіча. А там ёсьць пра Гілевіча. Пра тое, што Ад(амовіч), Барадулін і Быкаў хацелі, каб гімнам Беларусі стаў "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", а не "палітычная траскатня" Г(ілевіча) і дабіліся свайго... "І дзякуй Богу – выснова – бо Г(ілевіч) спаганіў бы ідэю так, як Хатынь"... Ну як гэта друкаваць?

Файныя дзёньнікі Лужаніна "Неспарадкаваная хата". А там таксама пра Г(ілевіча), пра тое, як ён у Лужаніна радок верша ўкраў... Зноў скарачаць? Не... До! Што тады ад часопіса застанецца. У першым нумары далі ўсё пра Мятліцкага. Далі, і тут дадзім.

Хоць – у Някляева ў аповедзе зьняў <...> – "вырадак" і пра тое, што "яго трэба рэзаць"... Як некалі ў Гіля, ў аповедзе пра Магната (які ў нас плануецца на 4-ы нумар) зьняў <...> – "байструк"... Нельга гэтак: "вырадак", "байструк"... Крытыкуйце, але ж не абражайце. <...> *(Неабходны каментар: так, цэнзуры ў "Дзеяслове" не было. Дакладней, самацэнзуры, бо тая, савецкая, сапраўдная цэнзура, калі ў сьпецыяльнае ведамства пад назовам "галоўліт" трэба было аддаваць на праверку кожнае выданьне і чакаць дазволу на друк, памерла разам з Савецкім Саюзам. А новая стала менавіта самацэнцузарай: уласна "сьмеласьць" выданьня залежала ад пазіцыі і "сьмеласьці" галоўнага рэдактара. У "Дзеяслове" ад пачатку я сказаў сабе і іншым – мы ня будзем друкаваць нічога чалавеканенавісьніцкага, расісцкага, антысеміцкага, шавіністычнага... Так і рабілі, праўда, часам прыбіраючы тое, што лічылі адкрытымі і несправядлівымі абразамі. І яшчэ, я як рэдактар прыбіраў у тэкстах згадкі пра сябе, хоць усе яны былі станоўчымі ды хвалебнымі. Лічыў немаральным друкаваць пахвальбу сабе ў сваім часопісе...)*

4.03. Ай, як добра ўсё ж, што ўзяўся за гэты часопіс!.. Які класны нумар будзе: Арлоў даў файную рэч. Недзе ў газеце згубілася б, а ў нас – зайграе...

<...>

5.03. Кепска, калі не разумеюць нават свае... Цяжкая была сёньня гутарка ўтрох – рэд(акцыя) "Дз(еяслова)" – пра нашую будучыню. Алесь мяне цалкам падтрымлівае. А вось Эдзік... Плаці яму грошы, і ўсё. Ён, бачыце, сем месяцаў, на грамадзкіх пачатках працуе... І калі менш чым 100 даляраў у месяц, то ён "звальняецца". Не хачу я яго губляць. Хоць за тыя словы, што сёньня гучалі, ў нармальным грамадстве потым доўга не вітаюцца... І вось думаю – дурань я такі, ці што? Столькі гадоў працую на Беларусь на грамадзкіх пачатках... І мне няма ад каго платы патрабаваць... І цяпер – першыя два нумары выцягнуў на сабе – і зьбіраў матэрыялы, і распрацоўваў канцэпцыю, рэдагаваў, набіраў, вярстаў, шукаў друкарню, вазіў часопісы, рэкламаваў, прадаваў, мусіў вучыцца выступаць перад людзьмі... А яшчэ – пісаньне папераў, розных заявак ды заяваў... на рэгістрацыю. Сустрэчы, сустрэчы. І вось цяпер, калі, здаецца, удалося чагосьці дабіцца: прайшлі гарвыканкам, вось-вось М(іністэрства) І(нфармацыі) здасца... Цяпер нож у сьпіну. Цяпер – калі засталося трошкі – трошкі пацяр-

пець... Плаці... Было б з чаго... А то грошай хапае толькі на друк... Зарабляць на жыццё трэба недзе ў іншым месцы. Пакуль. І выдаваць часопіс. Брыдка. Не чакаў ад Эдзіка такога, хоць прадчуваньне было, што гэтым скончыцца. Грошы псуюць людзей – даўно заўважыў. Сёньня ў яго мат(эрыяльнае) становішча ў параўнаньні з маім і Алесевым – найгрунтоўнейшае. Але мы маўчым і працуем... Яшчэ момант: я прапанаваў, калі размова ідзе пра грошы, усю працу падзяліць на трох. Пароўну. Эдзік адмовіўся: буду рабіць толькі паэзію. І распаўсюдам займацца. А гэта – 2 адсоткі ад усёй працы. А хто прозу і публіцыстыку – самае аб'ёмнае і запаўняльнае будзе рыхтаваць?..

Кепска.

А я і далей бы працаваў бясплатна. Дзеля ідэі. Няўжо адзін я такі дурань?

6.03. Хрэн вы мяне зломіце!

Пайду адзін! Буду рабіць нягледзячы ні на што.

Думаў гэта, і сьлёзы на вочы наварочваліся, калі глядзеў тэлеперадачу пра Мулявіна – сёньня 40 дзён, як ён памёр. Вялікі чалавек. Змог.

Геній павінен ісьці наперад без аглядкі, не азіраючыся назад, не заўважаючы стрэлаў, полымя.

Можна згарэць... Можна.

Але можна і прарвацца...

7.03. За нейкімі зьнешнімі падзеямі – не заўважаю, не фіксую падзеяў важных, вартых таго, каб не забыць. Скажам, былі файныя сустрэчы ў СП з укр(аінскімі) пісьм(еньнікамі) (Дзьмітром) Паўлычкам і (Раманам) Лубкіўскім, у якіх удзельнічалі Гілевіч, Брыль, Бураўкін, Законьнікаў, Кудравец. Дзяды разуспаміналіся... "А памятаеш, як у 1956-м..., а як у 1953-м...", і мне слухаць было гэта дзіўна, а ўяўляю, як Алесю, які нарадзіўся ў 1972-м...

Былі сустрэчы з Брылём – у яго дома – з тых, што будуць згадвацца і праз 100 гадоў. І(ван) А(нтонавіч), не зважаючы на кепскі зрок і амаль заплюшчанае левае вока (пару гадоў таму сёк дровы на лецішчы і трэска адскочыла проста ў вока), прачытаў другі нумар "Дз(еяслова)" і казаў пра тое, што спадабалася, што – не... Расказваў показкі з жыцьця... І сапраўды, цытуючы яго з 1-га нумару "Дз(еяслова)", гэта – "тое, што потым, здалёк, успамінаецца, як шчасьце". Пішу, а сам успамінаю – стаіць перад вачыма – нашая першая летняя, з Эдзікам, паездка да І(вана) А(нтонавіча) на лецішча, да Нёмана па матэрыял для "Дзеяслова"... Як файна... Якія цудоўныя там мясьціны... Эх-ха!.. *(Неабходнае ўдакладненьне: першы нумар "Дзеяслова" зьбіраўся з абсалютнага нуля. У нас не было ніводнага, практычна ніводнага матэрыяла – усё замаўлялася ці выпрошвалася ў аўтараў. У адрозьненьне ад С. І. Законьнікава, які для свайго "Тока" забраў архіў "Полымя". А таму давялося езьдзіць па аўтарах, з кожным дамаўляцца пра тэкст, а потым пад'язджаць, каб забіраць. Адна зь першых паездак была якраз на лецішча да Янкі Брыля – у вёсачку Беражное Карэліцкага раёну на прыгожым беразе Нёмана: за сто кіламетраў ад Менску. Іван Антонавіч падрыхтаваную ў чарговы нумар "Полымя" публікацыю – ён звычайна друкаваў новыя творы ў "сваім" 8-м, жнівеньскім, нумары часопіса, падзяліў напалам: адну палову аддаў нам, у "Дзеяслоў", а другую, сказаў, аддасьць Законьнікаву ў "Ток". Аддаў, а потым, калі "Ток" так і не выйшаў, забраў і перадаў у "Дзеяслоў". Тэксты гэтыя былі надрукаваныя ў першым і шостым нумарах "Дзеяслова". Дарэчы, і пазьней Іван Антонавіч усё сваё друкаваў выключна ў "Дзеяслове", прынцыпова адмаўляючыся друкаваць нешта ў "Полымі" ці "Маладосьці", нават калі яны пайшлі на хітрасьць і хацелі надрукаваць нешта зь ягонага старога, нібыта для "школьнай праграмы". Забараніў, адмовіўся наадрэз. Зайздросная прынцыповасьць...)*

8.03. Увечары сабраліся “рэдакцыяй” і прасядзелі да дзьвюх гадзінаў ночы. Быў і Міхась. Гаварылі пра ўсё. Эдзік маўчаў. Але калі я настаяў – словы свае пра “звальненьне”, паўтарыў. Міхась быў зьдзіўлены. Але... Увогуле Міхась мне спадабаўся і сёньня – сур'ёзны хлопец. Толькі вось з-за гэтай сур'ёзнасьці, напрыканцы закралася сумленьне: ці будзе ён працаваць напоўніцу (дзеля ідэі) – бо працы то шмат... Ён нават і не ўяўляе, наколькі шмат...

9.03. Першы дзень сур'ёзна адпачыў. Як яшчэ ніколі сёлета. Спаў. Чытаў. Глядзеў тэлевізар. Быў простым – звычайным чалавекам. Як усе.

Трошкі папрацаваў за кампутарам. Між іншым... <...> Але – між іншым

Адпачыў... Можна і сваё пачаць пісаць. Можна... Але заўтра пачатак новага тыдня. І новых – дурных – клопатаў...

Сон прысьніўся дзіўны ўдзень – калі адпачываў. Фіксую, што ён быў, каб потым праверыць: у сувязі з чым... Няўжо як папярэджаньне пра нешта кепскае? Бо чалавек прысьніўся добры – плакаў у мяне на плячы. Плакаў аб тым, чаго ў нас не атрымалася... А, можа, наадварот: гэта добры сон і ў мяне ўсё атрымаецца?.. Зь “Дз(еясловам)” найперш...

А ўвогуле пра сны... У пятніцу, у Алеся Бял(яцкага), Таня Рэвяка расказала таксама пра свой дзіўны сон. А Паліна Сьцепаненка так патлумачыла яго: гэта да разрыву Барыса і Эдзіка – да скандалу і зыходу Эдзіка зь “Дз(еяслова)”... Яна ніяк не магла ведаць пра нашую размову ў чацьвер увечары і спрэчку. І вось такі каментар... Як у ваду глядзела...

10.03. Нас мала... А хочацца большага... І самыя актыўныя з нас становяцца агрэсіўнымі ў прапагандзе свайго. А гэта няправільна. Любая агрэсія, любое навязваньне сваёй думкі як адзіна правільнай (хоць яна і ёсьць сапраўды такой – правільнай), не ўспрымаецца і не прымаецца. Нам трэба быць больш цярпімымі і цярплівымі. Ненавязьлівымі. Упэўненымі ў сваёй праваце. І працаваць на сваю ідэю. Толькі так можна дабіцца павагі да сябе, увагі і пераймаюньня... Гэта цяжка. Лягчэй выкрычацца і махнуць на ўсё рукой. Пакрыўдзіцца на ўсіх і стаць, як усе. Загаварыць па-руску.

Ліна Кастэнка ў артыкуле пра нацыянальную ауру піша пра ўкраінскі народ, што ён знаходзіцца ў *летаргічным* сьне, што ён *адаптаваўся* да сацыяльных умоваў і як да яго дакрычацца, калі ён сьпіць і яму камфортна – прынамсі, ён так лічыць і нічога рабіць дзеля зьменаў ня хоча. І камусьці – Расеі найперш – выгадная такая сітуацыя. Бо прыходзь і валодай... З кепскіх грамадзянаў сваёй краіны атрымліваюцца добрыя рабы чужой дзяржавы...

Нас мала... Але мы ёсьць і мы – костка ў горле ньюімперцаў. “Свае” сьпяць і не разумеюць гэтага, а “чужыя” тым часам дзейнічаюць. І тым ня менш, адзіная нашая зброя – цярплівае і ненавязьлівае тлумачэньне нашае праваты. І тады хлусьня рухне, хлусьлівы туман ападзе, і вочы расплюшчацца... І ў тысячаў, мільёнаў забаліць душа па родным.

11.03. І ў каторы раз, зноў і зноў, думаю: дзе я памыліўся, чаму жыў ня так, як павінен быў, каб нечага пэўнага дабіцца ў гэтым жыцьці? Я незадаволены сабою, незадаволены тым, што мала зроблена, што патэнцыя была большай, чымсьці вынік. Зрэшты, я ведаю, дзе памыляўся, дзе пражыў ня так. Але і разумею, што па-іншаму ня мог. Каб зрабіць болей, каб выканаць сваю місію на зямлі, мне ня трэба было жаніцца, трэба было жыць аднаму, дзеля сябе... (як Гогаль?). Тут я сабе пярэчу, што можна было і жаніўшыся (як Талстой ці Дастаеўскі, Булгакаў, нашыя – Чорны, Гарэцкі, хоць гэта і ня лепшы прыклад, бо яны згінулі адносна маладымі і не змаглі да канца рэалізавацца з-за таго, што іх загубіла сістэма...) працягваць жыць дзеля сябе, не зважаючы на жонку, дзяцей... Як жыць і выжываць,

маўляў, – гэта іхнія праблемы... Я ня змог так. І таму цяпер незадаволены сабой. Мая энергія пайшла ў тым ліку і на сям’ю, на выжываньне ў няпросты час пераменаў, а ня толькі на галоўную справу жыцьця...

Зразумеўшы гэта – час ужо супакоіцца і пачаць выпраўляць памылкі. Мажліва, яшчэ і ня позна. Ці змагу?

12.03. Кепскі дзень. Шмат сьмерцяў: па тэле кажуць... Я ўвогуле не люблю 12-е. І добра, што за ім ідзе 13-е...

Шмат чытаў. І для “Дз(еяслова)”, і проста. Неяк перастаў адчуваць час. Пэўна, усьвядоміў, нарэшце, што ўжо ня хлопчык, а мужчына. Сёньня. Можна нават фіксаваць дату. Назад дарогі няма. Учора яшчэ здавалася, што ёсьць, а сёньня ўжо няма. Цяпер толькі наперад. Спадзяюся, што час цяпер і сапраўды запаволіцца – як у дзяцінстве. І можна будзе пасьпяваць зрабіць шмат.

13.03. Паседжаньне аргкамітэту Сходу інтэлігенцыі. Ня дужа прыемнае ўражаньне. Усё тыя ж твары. Пастарэлыя, моладзі няма... Ці не запрашалі? А самім жа, калі пачалася “перабудова” 17 гадоў таму, было 40 і за 40, як нам... Не давяраюць, бачыш... Таму і застаюцца ні з чым.

Немец (Франц Салес Грыль, супрацоўнік інстытута Гётэ ў Менску) прынёс артыкул у “Дз(еяслоў)” пра Славука. Аказваецца, даўно любіць бел(арускіх) мастакоў – Сітніцу, Славука ды інш. Бачыў, як рукі ў яго дрыжэлі, калі паказваў рэпрадукцыі карцінаў (набытых у іх) са сваёй калекцыі... Добра мастакам: у іх “мова” інтэрнацыянальная, а што рабіць нам, грэшным – пісьменьнікам. У жывапісе ўсе роўныя, незалежна ад мовы, на якой размаўляюць, творачы... (Хоць у нас якраз найбольш беларускамоўных творцаў сярод мастакоў.) Празаікам жа кепска, а паэтам – яшчэ горш. Яны прывязаныя да мовы, як да галеры...

Учора, аказваецца, быў “Марш супраць галечы”. Цішком, без аб’яваў ды запрашэньняў... Чаму 12-га? Чаму ў сераду? Калі наперадзе – 15-е, субота, Дзень Канстытуцыі? Ці не таму, каб сарваць увогуле “гарачую вясну”? Кругом правакатары. І застаецца толькі адно – працаваць не зважаючы ні на што і не паддаючыся на правакацыі.

У. Арлоў прынёс “гранкі” – карэктуру свайго артыкула. Паправіў сур’ёзна. Я рады за яго: значыць, ёсьць яшчэ порах... Не люблю тых, хто абыякава ставіцца да свайго. Зрэшты, сам я напісанае амаль не праўлю. Але вычытваю сур’ёзна.

Ноччу – сёньня – напісаў пару абразкоў: фрэсак ці мрояў. Упершыню сёлета, калі не лічыць працу над аповесьцю. Сеў і напісаў – амаль не адрываючы рукі. Чаму – ды таму, што адпачыў трохі і быў вольны час... Не ўяўляю, як іншыя могуць гульма гуляць цэлымі тыднямі і пры гэтым нічога не пісаць...

С. Законьнікаў – ніколі ня бачыў яго такім. <...> Шукаў апраўданьні ў тым, што “яго не пускаюць”... Часопіса ў яго няма і невядома ці будзе. <...>

14.03. У Саюзе – “круглы стол” па праекце рэфармаваньня правапісу. Незадаволены сабою. Незразумела чаму расхваляваўся. Зрэшты, зразумела: трэ было “апраўдвацца” за “Дз(еяслоў)”. Чаму “дзеясловіца” – “кампраміс” ці “паўмеры”. Не люблю апраўдвацца. Стараюся не рабіць гэта. А тут сарваўся. Файна сказаў Тарас, згадаўшы сваю працу ў “Зьвязьдзе”: карэктар-яўрэйка казала яму тады, што бел(аруская) мова без мяккага знака як бульба сухая – без соку... Упершыню бачыў “у справе” (Андрэя) Дыньку. Казаў ён годна, трымаўся ўпэўнена, хоць і хваляваўся. А ўвогуле спыніліся на тым, што трэ дабівацца прыпыненьня, хоць бы на год, мажлівай рэформы. А ўвогуле – не разумею, навошта я гэтую “справаздачу” сёньня пішу. Ніколі не пісаў, а тут панесла... *(Удакладняю зноў і зноў: цяпер, праз 20 гадоў, шкадую, што не пісаў больш падрабязна... Але дапоўніць нічога не магу, бо тых самых падрабязнасьцяў, на жаль, ня памятаю.)*

15.03. Упершыню за апошнія 9 гадоў па тэле згадалі, што сёньня Дзень Канстытуцыі. Раней замоўчвалі, і пра "сьвята" нагадвала толькі апазіцыя. Сёньня якраз апазіцыя маўчала. Стала трошкі зразумела, чаму мітынг прайшоў 12-га. <...> Алесь (Пашкевіч) прыехаў з Масквы – зь віншаваньня Міхалкова. Кажа, там бардак несусьветны і яны зайздросьцяць нам, нашай "стабільнасьці". Стабільнасьці дзеля чаго – дзеля стабільнасьці? Ды і стабільнасьць гэтая ўяўная і бачная толькі з Масквы. Адсюль іншае бачыцца... Кажуць, нават студэнты, перабрана-адабраныя на сустрэчу, трошкі падпсавалі настрой <...>. Моладзь і спраўды расьце ў нас файная. Спадзяюся, усе ня зьедуць па замежжах. І прыстасаванцамі тут не пастануць. <...>.

16.03. Сход інтэлігенцыі. Чакаў большага. Алесь (Пашкевіч), праўда, выступіў файна. Годна. Як сапраўдны старшыня СП. Расьце на вачах. А я і не сумняваўся... Прарвацца б нам зь ім... Прарвацца. Адно кепска: зусім няма здароўя ў мяне. Пасьля пахаваньня дзядзькі – амаль месяц – не магу вылечыцца ад прастуды, што ці не на могілках лідзкіх падхапіў. Арганізм здае. Раней выкараскваўся хутчэй. Зьеў кіло антыбіётыкаў, атрымаў сотню ўколаў – і не праходзіць. Хіба, можа, каб лячыцца, ляжаць трэба. А я працую... Хоць пара ўжо і супакоіцца.

Зрэшты, сёньня ўпершыню за жыцьцё падумаў: здамся! Сам таго не жадаючы падумаў. Не таму, што ўсё зрабіў, а таму, што стаміўся. Адно трымае на гэтым сьвеце – сыны. Падняць іх трэба. А Людзе (жонцы) адной будзе цяжка... Ды і ў яе здароўе ня лепшае... Ох-хо! Значыць, трэба жыць. Змагацца. Далей.

17.03. Лячуся. Трэба прарвацца. У каторы раз. Пакуль мы хварэем – мы жывем. Мёртвым не баліць...

Цяпер ноч. А недзе ў Амерыцы – раніца новага дня. Магчыма, гэты дзень – 18 сакавіка – увойдзе ў новую гісторыю. Расіяне паказваюць, як ва ўсім сьвеце, нібыта, пратэстуюць супраць вайны ў Іраку (менавіта – у Іраку, а не з Іракам). Хоць я гэтага не разумею, не разумею тых людзей, што пратэстуюць. Так, магчыма, будуць нявінныя ахвяры, нават дакладна – будуць (але – што, хіба іх раней не было, пры Садаме Хусейне?), аднак гэта будзе вайна супраць Хусейна. Чамусьці гэта мала хто згадвае. Ён прычына вайны і ён вінаваты ў ёй. А не Амерыка, як спрабуюць павярнуць расейцы, якія пра Хусейна альбо зусім ня згадваюць, альбо толькі станоўча. І справа ня ў нейкай пагрозе сьвету – хімічнай, ядзернай – якая нібыта ідзе ад Іраку. Справа ў Хусейне... І я рады, што ў Амерыцы ня толькі ёсьць людзі, якія разумеюць гэта, але і гатовы змагацца за свабоду чужых ім, невядомых, далёкіх і, можа, неўсьведамляючых сябе рабамі дыктатара – людзей. Гэта сьведчыць пра тое, што адбываецца – цяжка, зь недаверам і неразуменьнем, з пратэстам – але адбываецца перамена ў сьвядомасьці чалавека (чалавецтва): мы ўсе жыхары адной планеты, і калі майму суседу па Зямлі кепска – трэба яму дапамагчы. Ці ня з гэткай мэтаю прыйшоў на Зямлю некалі Хрыстос... І яго таксама не разумелі. І не адразу зразумелі. І пакаралі не зразумеўшы...

Ня думаю, што будзе вялікае супраціўленьне ў Іраку амерыканцам, хоць расейцы толькі пра гэта і кажуць – палохаюць дзясяткамі тысячаў шахідаў-сьмертнікаў. Можна змагацца і аддаць жыцьцё за Радзіму, за незалежнасьць у імя Алаха (як гэта робяць чачэнцы), але змагацца за Хусейна... Іраку, як краіне, і іракцам, як грамадзянам гэтай краіны, нічога не пагражае, яны нічога свайго (апроч кайданоў) не страцяць. Хусейн жа страціць усё. Таму і не аддае ўладу. Іракцы ж са стратай яго набудуць волю. Адзінае, Курдыстан, які, нарэшце, у выніку гэтай вайны можа набыць незалежнасьць, ніколі ня быў іхнім. І, дарэчы, гэтая вайна можа быць справядлівай ужо таму (і апраўданай), што ў выніку яе шматмільённы народ (курдаў) набудзе (займее) сваю дзяржаву хоць на частцы сваіх земляў... *(Удакладняю: які наіўны я быў... Цяпер чытаць сьмешна, але пакідаю, як было...)*

18.03. Чалавецтва тады зробіць скачок у сваім разьвіцьці, калі прыдумае нейкую замену колу... Гэта павінна быць нешта наколькі нечаканае, настолькі ж простае, відавочнае, як... кола. Ёсьць жа ўжо і “паветраная падушка”, і ракеты лятаюць без колаў. Можа быць, можа быць.... Але... З кола ўсё пачалося. З замены кола на нешта іншае, пакуль невядомае, усё і пачнецца зноў: прарыў, як і тады. Інакш увогуле ўсё скончыцца.

19.03. Не магу нічога рабіць... Асадка выпадае з рук.

Ранкам пабылі ў міністра інфармацыі. Сказаў, паглядзіць дакументы на рэгістрацыю “Дз(еяслова)”. Паглядзеў. Увечары патэлефанавалі: ёсьць праблемы.... Я так і думаў. І праблемы там, дзе іх не павінна быць. Няўжо нас не прапусьцяць?..

Стаміўся я. Стаміўся змагацца зь ветракамі. Няма сілаў, няма здароўя.

Калі не зарэгіструюць – выпусьцім яшчэ два нумары і... Рызыкнём, падставімся па поўнай праграме, але...

Проста так не здадзімся. Заўтра зноў ідзем у МІ. Ад імя СП – праца ў якім цяпер – дапамога “Дз(еяслову)”. У СП няма ніводнага выданьня. Шум будзе на ўвесь сьвет...

20.03. Нас кінулі... “Ч.т.д.”, як казаў некалі расейскамоўны дырэктар маёй школы: “что и требовалось доказать”. Якога д’ябла я ўзяўся за гэтую справу?

Хто і калі палічыць, колькі нерваў, здароўя спаліў я за гэтыя паўгоду? А часу? І дзеля чаго? На тое, што павінна рабіць між іншым – рэгістрацыю выданьня, на чарнавую, нябачную нікому працу з паперамі ды паперкамі я страціў столькі часу... і яшчэ ня ўсё скончылася, а наадварот, толькі пачынаецца. Ледзь не спачатку. Зноў трэба ісьці ў Мінюст... Абрыдла!

А тут яшчэ звадкі між сабою, між сваімі... Як толькі сэрца вытрымлівае... Сёньня правёў секцыю прозы – першую за год. Людзі ідуць і цікавыя ў тым ліку – Бабкоў, Андрэеў... Паболей бы такіх. Можа б і да Саюзу іншае стаўленьне было б. А так – там беспрасьветна. Адно, каб не Саюз, з намі, пэўна, увогуле ніхто б не размаўляў пра “Дз(еяслоў)”...

Паскудна на душы.

Кепска.

Яшчэ на рывок мяне хопіць. А што далей?

А пракінулі нас класічна. Усе дакументы правільныя. Я ўжо падрыхтаваўся бараніцца – перачытаў Закон аб друку. А нам кажуць: вы парушаеце Грамадзянскі кодэкс.... Дакладней, не парушаем, а не захоўваем. Я той кодэкс і ў вочы ня бачыў. Але няведаньне закону не пазбаўляе ад... адмовы.

Аднак – прыдумаў абыходны манеўр. Паспрабую рэалізаваць. *(Неабходны каментар: праблема была ў Статуце Літаратурнага фонду “Нёман”, пры якім выходзіў “Дзеяслоў”. Ён (статут) быў зроблены пад часопіс “Нёман”. Каб атрымаць права выдаваць “Дзеяслоў”, трэба было фонд перарэгістраваць, што фактычна азначала стварыць з нуля.)*

Толькі – зноў жа – шкада часу. <...>.

Абрыдла. Але: “Узяўся за гуж – не кажы, што не Танк...”, – сказаў я неяк у момант роспачы Алесю (Пашкевічу), каб яго супакоіць.

А хто супакоіць мяне? Хто зразумее? Паспачувае. Залічыць...

Сам сабе адказваю: ніхто.

І ўжо ня сумна, а сьмешна.

Бо – не адступлюся... Пайду да канца.

Гэтую б упартасьць ды на напісаньне сваіх твораў....

21.03. Супакоіўся. Прымусіў сябе заняцца “справаю”. І за дзень зрабіў тое, што некаторыя – старэйшыя – рабілі два месяцы (некалі). Сабраў усе дакументы. І

здаў у Мінюст. Але супакою поўнага і задавальненьня – няма. Бо невядома, як яно там пройдзе...

Увечары быў запіс на радыё. Можа, і варта было адмовіцца, але... фактычна быў ня запіс, а "прамы эфір". Прытым – імправізацыя: я ня ведаў, якія будуць пытаньні. Можа, так яно і лепш... Атрымалася шчырая размова, мажліва, нават занадта шчырая.... Ну і хай сабе.

22.03. У Іраку другі дзень вайна. Расейцам няймецца. Хочацца быць звышдзяржавай, а зь імі ніхто ня лічыцца. І адразу – настальгія па СССР – во дзяржава была... А якая яна была тая дзяржава? Беспрынцыпная, амаральная, нахабная... І баяліся ўсе яе так, як цяпер баяцца Паўночнай Карэі, ды і таго ж Іраку. Ня сілы баяліся, а дурноты, таго, што ніхто не лічыўся ні зь якімі людскімі стратамі альбо элементарнай логікай: галоўнае было дасягнуць мэты любым чынам. Хоць на Кубе, хоць у Афрыцы, хоць на Бліжнім Усходзе... У ход ішло ўсё, у тым ліку і вялікія грошы....

І вось зноў – "настальгія". Галоўнае, усе гэтыя "акадэмікі" ад палітыкі ды генералы выдатна разумеюць, што маўчаць ім трэба, а не геройстваваць і палохаць Амерыку "ўдарам у адказ". Маўчаць, бо Чачня крычыць... І Афган яшчэ не забыты. Зрэшты, яны і іншае разумеюць: ім проста даюць выгаварыцца, пакрасавацца адзін перад адным, бо далей гэтых размоваў справа ня пойдзе, ды і размова гэтая "для ўнутранага карыстаньня".

Не маўчаць і нашыя. Абяцаюць "гуманітарную дапамогу". (Ці даўно зброю прадавалі?) Дапамогі той будзе на рубель, а крыку... Бо адкуль яе ўзяць тую дапамогу, калі самім есьці няма чаго.

Дарэчы, у мяне было ўражаньне пра Ірак, як пра даволі заможную краіну, дзе людзі не галадаюць і таму гэтак горача падтрымліваюць свайго тырана-дыктатара. Прынамсі, так падавалі на нашым і расейскім тэлебачаньні. А тут раптам далі праўдзівы рэпартаж: у Іраку галадае кожны трэці, настаўнікі і ўрачы гатовыя на любую працу. І сапраўды: ні пры адным дыктатары народу не жылося добра, бо ён пра народ ніколі ня думае, а толькі пра сябе і пра тое, як захаваць сваю ўладу.

23.03. "Пісаць трэба на той мове, на якой табе сняцца сны", – экспромтам сказаў я на радыё. Цяпер вось думаю – наколькі меў я рацыю? На ўсе сто. У ідэале. А ў нашых беларускіх умовах? Асабіста для мяне праблемы няма. А для іншых? Зрэшты, я там падкрэсліў, каб прачнуліся і прыгадалі: на якой мове мне сьніўся сон. Думаю, многія, прыгадаўшы, будуць уражаныя: на роднай! І яшчэ адзін момант. Чамусьці ад нас патрабуюць, каб размаўлялі мы на чыстай літаратурнай бел(арускай) мове. А "трасянка" ўжо і за мову ня лічыцца. Альбо залічваецца – да рускай. Гэта ня так. Бо дзе і якая мова існуе сваім літаратурным правапісе і маўленні? Баварац берлінца не зразумее – настолькі розныя ў іх дыялекты – "трасянкі" нямецкай літаратурнай. У Расіі сітуацыя нібыта прасьцей. Бо гэта імперыя, якая навязвала сваю кніжную мову іншародцам. Але – валагодзкае "оканьне" і маскоўскае працяглае "аканьне" ў расейскую літ(аратурную) мову ня ўпісваюцца гэтаксама, як нашая "трасянка" ў літ(аратурную) бел(арускую) мову. Але ў любым выпадку па вымаўленні і лексіцы "трасянка" бліжэй да бел(арускай) мовы, а не расейскай. Гэта не азначае, што пісаць трэба на "трасянцы". Але "трасянку" трэба лічыць "сапсаванай" беларускай мовай, а не "сапсаванай" расейскай...

І ўвогуле: пісьменьнік павінен пісаць на той мове, на якой яму сняцца сны... Гены не падманеш... Рускамоўных класікаў на Беларусі няма. З тых, што пачынаў пісаць па-расейску, дабіліся чагосьці толькі тыя, што ўрэшце перайшлі на бел(арускую) мову: Быкаў найпершы прыклад...

24.03. На рэферэндум у Чачні прыйшло больш людзей, чым было ў сьпісах, і пры гэтым 96% прагаласавала "за"... Як гэта знаёма... Як брыдка і непрыстойна.

<...> Прымусь расейца маліцца, дык ён лоб разаб'е... І сабе, і суседу... Паказваюць па тэле кадры: вывальваюць на стол бюлетэні са скрыні, падлікоўшчык падымае два да камеры (першыя, што трапіліся), і ў абоіх відаць падкрэсьлены адказ "супраць"... Дэмакратыя на штыках... Справядлівасьць пад рулямі аўтаматаў... Агідна...

А нашыя паказалі Глобу, які паведаміў, што ўжо месяц – з 24 лютага – мы жывем у новай эпосе: Вадалея... Сказаў, што гэта век тэхнікі і навукі і што будзе супрацьстаяньне двух лагераў, у адным зь якіх лідэрам стане Беларусь. Мне, як беларусу, прыемна было гэта чуць, але я не стрымаўся і засьмяяўся... Калі астролагі пачынаюць так адкрыта прыслугоўваць уладзе – прычым не зразумела, навошта – дык толькі сьмех і ратуе... Хто іх за язык цягне? Яны цалкам дыскрэдытуюць сябе (ня першы раз, дарэчы, <...>.). Яшчэ сказаў, што ў Іраку пачалася трэцяя сусьветная вайна, якая ня скончыцца гібеллю чалавецтва... Зрэшты, навошта я гэта пішу, такога наляпаць можа любы чалавек. Падлічылі ж, што блізкія да праўды (а не збываюцца) бываюць 3-6% "прадсказаньняў" астролагаў (такіх, як Глоба). Хаця я ў астралогію веру – але гэта дужа складаная навука і ёю трэба ўмець карыстацца.

25.03. Сьвята... (Дзень Волі). 85 гадоў... І цішыня... У Іспаніі: на антываенны мітынг выходзіць паўмільёна чалавек. У Паўднёвай Карэі – сотні зьбітых і арыштаваных за пратэст супраць чужой вайны... А мы і за сваё змагацца стаміліся. Змагацца "супраць" былі сілы. Напачатку. Змагацца "за" – няма. Рамантаваў сёньня машыну, і адзін з майстроў, у якога нібыта ёсьць сувязі ў сьпецназе, сказаў, што ў Іраку ваююць дзясяткі (ён сказаў, праўда – сотні) беларусаў на баку Іраку. І ўчора яны "завалілі" амерыканскі верталёт і англійскі самалёт... Няўжо ў гэтым ёсьць доля праўды? Паказвалі па тэле, што сотні людзей запісваюцца ў дабраахвотнікі – пайсьці змагацца супраць амерыканцаў – былыя "афганцы", "чачэнцы" і іншыя хворыя на вайну людзі... Калі праўда, што "нашыя" там ваююць, то яе не схаваеш... Страшна падумаць, што гэта азначае і што за гэтым можа быць. Павінна быць... Па-першае, сорам, сорам на ўвесь сьвет. І па-другое, сорам...

26.03. Я хранічна хворы на праўду, на шчырасьць. Хранічная праўдзівасьць – назва маёй хваробы. Колькі я нацярпеўся з-за гэтага. Дзякуй Богу, ад гэтага не пацярпелі іншыя. Мне, у пэўных выпадках, лягчэй прамаўчаць, чымсьці сказаць няпраўду... А колькі я нацярпеўся з-за таго, што ня ўмею хлусіць і выварочвацца і чырванею, калі нават проста хітрыць пачынаю... А як сорамна мне чагосьці ня ведаць, ня знаць адказ на нейкае пытаньне... Мне цяжкавата было вучыцца (у школе і ва ўніверсітэце). Бо я ніколі не выкручваўся, а адказваў толькі тое, што ведаў канкрэтна. Дзесяць словаў замест ста. Сутнасьць. Мала хто з выкладчыкаў разумеў гэта. Большасьць прывыкла драмаць пры адказах студэнтаў-балбатуноў, якія 99 адсоткаў вярзлі не па тэме.

Па тэле дзьве дзяўчыны-студэнткі, пераможцы нейкага конкурсу па зорках поп-музыкі не змаглі адказаць ні на адно пытаньне, як сказаў вядучы, "за шосты клас". Задалі па тры пытаньні, каб выявіць адну пераможцу. Лік – 0:0. А пытаньні "сталіца ВКЛ...", "які акіян самы вялікі..." На пытаньне "Хто быў князем ВКЛ пачатку XIV ст.?" – дзяўчына адказвае: Пётр Першы. І га-га-га сама з сябе. І ні грама сораму. Усё праз хі-хі... Красуецца. А трэба было б скрозь зямлю праваліцца...

Адное кепска: сыны мае пераймаюць, бачу, мае звычкі. І не пераймаюць нават, а яны ім генетычна перадаліся. Асабліва Алесю...

27.03. Вялікі Бор. Дома... Усё-ткі – тут мой дом. Тут, толькі тут я дома. Магчыма, аднекуль з Еўропы – уся Беларусь мой дом, а ў Беларусі – дом мой тут, у Вялікім Боры... Невыпадкова, пэўна, слова "дом" па першым сваім значэньні канкрэтнае: будынак, хата. Менская кватэра не дом, ня роднае гняздо... І калі

думаць пра будучыню, пра спадчыну скажам, дык трэба будаваць свой дом...

Увечары выйшаў у двор і зьдзівіўся: колькі зорак на небе! Якая прыгажосьць! І як абдзелены нашыя дзеці ў горадзе (гарадах), што не бачаць гэткае прыгажосьці штовечар, штоноч...

Зоркі ў нас такія яркія, такія чыстыя. Такія блізкія і далёкія разам. Так абуджаюць фантазію і маняць да сябе. Так натхняюць і наталяюць прагай жыць... Пэўна, нідзе няма такіх зорак, як тут у Вялікім Боры... Стаіш у двары – нібыта ў цэнтры Сусьвету – "Мироздания". Усё варочаецца вакол цябе. І пачынаеш разумець і сваю вялікасьць, і сваю нікчэмнасьць – дробнасьць, адзінкавасьць і... сьмяротнасьць... Няма нічога адносна вечнага апроч гэтых зорак над табой, гэтага зорнага неба... Ці як там у класіка: "зорнага неба нада мною і маральнага закону ўва мне..."

28.03. Пабылі ў Хойніках. З мамай. У бальніцы, на базары, у крамах. Радыяцыя? Пра яе няма і намёку... Звычайны райцэнтр, з райцэнтравым жа няспешна клапатлівым жыцьцём. Няма сталічнай мітусьні, але і вясковай пустэльнасьці. Згадаў я Брагін, у якім былі летась з С. Дубаўцом і яго жонкай Таняй. Там на "цэнтральнай" плошчы – вялізнае табло-дазіметр, які паказвае, можа, дзясятую долю праўды, але пра радыяцыю хочаш ня хочаш нагадвае. Побач – помнік вёскам, якія выселілі пасьля Чарнобылю, помнік земляку-герою, які загінуў на ЧАЭС... І зусім іншае ўражаньне, чым ад Хойнікаў, і зусім іншае адчуваньне, чым у Хойніках. І пачынаеш шкадаваць гэтых людзей, што кожны дзень нясуць у сваіх душах і роздумах цяжар ад веданьня, што кожную секунду цябе точыць чарвяк радыяцыі... І цябе, і тваіх дзетак, і ўвесь твой род... Калі нават адбываецца гэта толькі псіхалагічна – дык якая гэта траўма!.. А калі і фізічна...

29.03. Бацькам цяжка. Гады. Хваробы. Асабліва маме. Колькі гадоў я ім кажу: хопіць трымаць гаспадарку, глядзіце сябе, адпачніце... Ня слухаюць... Дакладней, ня слухалі. Бо сёлета ўжо задумаліся і вырашылі збыць пад восень карову і не заводзіць шмат сьвіней. Пэўна, і сапраўды адчулі слабасьць... Бацьку ўлетку будзе 70, маме нядаўна споўнілася 67... Сваіх бацькоў яны пераджылі... Патрымаліся б яшчэ на сьвеце... Улетку хачу прыехаць сюды на болей, каб пабыць зь імі...

30.03. Хлопцы не хацелі ехаць у Менск, так ім падабалася ў вёсцы... Прыехалі. А тут шквал тэлефонных званкоў. Патрэбныя мы людзям... І ў мяне зноў прачнулася алергія на тэлефон...

31.03. Кепска.

Няўжо тыя, хто падняўся вышэй за мяне, прайшлі праз яшчэ большыя пакуты? Няўжо толькі прайшоўшы праз боль... можна атрымаць шанец нарадзіцца ў новым жыцьці ў шчасьлівым часе, у шчасьлівай сям'і, у шчасьлівай дзяржаве?

1.04. Красавік, а на вуліцы халадэча, а на вуліцы сьнег.

У Іраку вайна. У сьвеце расьце пратэст супраць ЗША. Падымаецца, яднаецца ўвесь мусульманскі сьвет. Незалежна ад поглядаў і прыхільнасьцяў. Прапагандысцкую вайну амерыканцы прайгралі. Хапіла б цярпеньня і сілаў давесьці да лагічнага канца ўласна вайну... Заварушыліся расейцы. Няймецца. Ня дай Бог улезуць у вайну, пачнуць дапамагаць Іраку. Тады альбо амерыканцы завязнуць у Міжрэччы надоўга, альбо... сапраўды пачнецца Трэцяя сусьветная, у якой прайграюць усе, у тым ліку і расейцы – уся белая раса.

А нас зноў кінулі з рэгістрацыяй. Зноў дробязныя прыдзіркі. Няма ўжо сілаў змагацца з гэтымі ветракамі. Няма настрою. Думаю, навошта я за гэта ўзяўся? Столькі часу страціў, столькі здароўя... Хто і калі ўлічыць гэта? Ды ніхто і ня

ведае пра гэта. З боку, наадварот, можа здавацца, што мне лёгка ўсё даецца. Бо я ня плачуся і не пішу ў газету артыкулы пра тое, як мне перашкаджаюць. А сьцяўшы зубы працую. У дзясяты раз перарабляю дакументы, каб дабіцца свайго...

2.04. Зь "Дзеясловам" зьезьдзілі ў Берасьце. Алесь П(ашкевіч), Міхась С(кобла) і я. Тры сустрэчы. На філфаку ўніверу, у абласной бібліятэцы і ў... царкве ўніяцкай... Ня дужа хацелася ехаць у Берасьце. Былі ў нас вялікія сумневы... Ці не таму такое цудоўнае – ад неспадзяванкі – уражаньне атрымалася. Людзі цудоўныя. На філфаку, асабліва ў бібліятэцы. А які сьвятар класны ў царкве! Каб расказаў хто, што такое ёсьць у Берасьці, – не паверыў бы. Пабылі на службе – па-беларуску. Сьлёзы на вочы наварочваліся. Думалася, каб быў такі храм і такі айцец у Менску – хадзіў бы з радасьцю. Айцец Ігар – рускі, у Б(ерасьце) прыехаў 8 гадоў таму. Пачаў з нуля. І пабудаваў – сам архітэктар і будаўнік – такі храм! І вакол яго аднадумцы. І ён задаволены: ёсьць што паказаць, ёсьць чым пахваліцца. Аптыміст. А я бачу, як цяжка яму. Але выгляду не падаў – ні каліва. Пабольш бы такіх. У кожным горадзе. Такіх бы хоць дзясятак на Б(ерасьце) – яны б горад перавярнулі. Але прыклад ягоны – усім нам паціху-патроху рабіць сваю справу, не зважаючы ні на якія перашкоды... І тады нешта атрымаецца...

3.04. Летась шкадаваў, што ня "вёў" дзёньнік. Сёлета "вяду", а толку... Пішу ўсё роўна ня тое, што варта, што істотна і напоўніцу... Таму і не да канца шчыра бывае. А галоўнае – пуста. Як сёньняшні дзень. Хоць і дзяжурыў у СП.

4.04. То пуста, то густа. Сёньня былі дзьве цікавыя сустрэчы. Першая з былым прэм'ер-міністрам (Уладзімірам) Ярмошыным, другая – з Міколам Аўрамчыкам. Езьдзілі з Алесем. Ярм(ошын) узначальвае цяпер маскоўскую філію МТС у Беларусі. Глядзеў на яго і думаў: як вы маглі, хлопцы, прайграць мінулыя выбары. Чаму, пайшоўшы насуперак <...>, падтрымаўшы Марыніча разам зь Мясьніковічам, спыніліся на паўдарозе, не пайшлі да канца? Цяпер вось у апале і намёкамі зьдзекуецеся <...>... Няўжо не раскусілі яго падчас "сумеснай працы"?

Раскусілі, бачылі, але...

Аўрамчык, згадваючы 30-я, сказаў: вельмі нагадвае мне тое, што цяпер адбываецца, тыя гады – перадрэпрэсіўныя. Тады таксама ідыётаў ставілі рэдактарамі, а разумных паціху адсоўвалі ўбок, каб зьнішчыць потым... А(ўрамчык) стаіць на сваім: ён аўтар "Лысай гары", ён – Вядзьмак. Я гляджу яму ў вочы і ня веру... Спыталі пра доказы. Ёсьць, кажа: мой дзённік тагачасны. Ён вёў яго: запісваў, каму адаслаў паэму і рэакцыю тых, хто атрымаў – сьпецыяльна, кажа, заходзіў пагутарыць... Доказам гэта не лічу. Спытаў пра машынку, на якой друкаваліся першыя асобнікі (маючы на ўвазе легенду Глобуса пра тое, як яны з Караткевічам тапілі Аўр(амчыкаву) друкарскую машынку ў Сьвіслачы). Кажа, купіў у камісіёнцы і друкаваў, і ніякі Глобус (пры гэтым прозьвішчы яго перасмыкнула, хоць Гл(обус) і на ягоным баку) яе не тапіў... Ня верыцца. Бо калі так, то аўтара "Л(ысай) г(ары)" даўно вылічылі б у КДБ, дзе ў тыя гады ўсе машынкі стаялі на ўліку: кожнай метку рабілі, падпільваючы нейкую літару, а гаспадара пры пакупцы фіксавалі. А можа, там і ведаюць ды пасьміхаюцца...

І Я(рмошын) і А(ўрамчык) мне не спадабаліся. Я(рмошын) сваёй ганарлівасьцю, пыхлівасьцю нейкай. Прасьцей трэба быць, прасьцей, як бы ты высока ні лятаў і нізка ня падаў... А А(ўрамчык) – тым, што і па сёньня ў ім жыве страх. Хоць, здавалася б, чаго яму ў ягоныя гады ўжо баяцца? Але страх зь яго так і прэ. У кожным руху, у кожным слове: асьцярожнасьць... Генетычная? Не, набытая, выпрацаваная (жыцьцём у тым СССРы)... Нават у Я(рмошына) такога страху няма. Вось зь ім мне і хацелася б пагаварыць. Не ў кабінеце, а дзе-небудзь ля вогнішча, спакойна, шчыра: відаць, што ведае шмат... А вось А(ўрамчык) што і

ведаў – забыў з-за страху. *(Неабходны каментар: да Ярмошына езьдзілі з надзеяй на дапамогу на выданьне часопіса. Абсалютна дарэмна...)*

5.04. А на вуліцы – сьнег. Вось табе і глабальнае пацяпленьне... Лютая зіма. Здаецца, люцей, чым... зімой. Па тэле казалі пра піраміды, пра Арыён, пра тое, што старажытныя вылічылі: канец сьвету будзе 23 сьнежня 2012 году ад таго, што “вернецца зіма...” Можа, ядзерная? А можа, зьменяцца полюсы Зямлі, як прагназуюць вучоныя. І чалавецтва згіне – могуць застацца толькі адзінкі... Колькі разоў прадказвалі канец сьвету ўжо – і кожны раз сур’ёзна, і кожны раз – новую дату наперадзе. Накаркаюць... Нешта павінна здарыцца, каб тыя, хто застанецца, не жылі так, як мы...

6.04. Расейцы якочуць пра Ірак. Няймецца. 18 дзён ідзе вайна, а яны – амерыканцы – яшчэ не перамаглі, маўляў... Забылі пра Чачню, дзе 6 гадоў сядзелі. Забылі пра зруйнаваны дашчэнту, сьцерты з твару зямлі Грозны. Забылі пра тысячы забітых дзяцей. А цяпер шкадуюць іранцаў і “разбураны” Багдад... Між тым паведамляецца, што іхнія Чарнаморскі і Далёкаўсходні флот пайшлі ў Індыйскі акіян... А там і ракетаносцы, і атамная падлодка. Гуляюць мускулатурай. Было б чым...

<...> А ўвогуле абрыдлі гэтыя бясконцыя кадры пра “гераізм” іракцаў – адны і тыя ж людзі ўжо два тыдні трасуць “калашнікавымі” з экранаў. Дарэчы, учора паказалі, як гэта здымаецца іракскім тэлебачаньнем: на ролю “герояў” запрашаюцца прафесійныя іракскія акцёры. “Прапаганда” пта маць, гераізьм...

7.04. Цэлы дзень лепіць сьнег. Гурбы намяло – месцамі па калена. Мяккі. Мокры. Вадзяністы... Каторы год увесну пішу пра тое, што ў нас даўно ўжо ідзе ядзерная – чарнобыльская – зіма. Бо сьнег ляжыць 7-8 месяцаў... І сьмешна чуць пра глабальнае пацяпленьне, якім палохаюць тэле і газеты. *(Неаходны каментар: тут мне згадваецца 2007-ы год, калі А. Б. рэальна прэтэндаваў у першы раз на атрыманьне Нобелеўскай прэміі міру. Прынамсі, увайшоў у шорт-ліст, у пяцёрку кандыдатаў, з якой і выбіралі лаўрэата. Перамог тады амерыканскі віцэ-прэзідэнт Альбер Гор за барацьбу супраць глабальнага пацяпленьня. Ну і дзе цяпер тое пацяпленьне і той Гор? А Алесь, нарэшце, у 2022 годзе Нобеля атрымаў...)*

...Усё хачу перарабіць усю працу, каб нарэшце вызваліцца. А працы ня меншае...

8.04. ...Працы ня менш. Алесь (Пашкевіч) пайшоў ад мяне а палове на другую ночы. Займаемся такой хернёй – даруй Госпадзе! – бо жыць і выжываць трэба. Выжываць – замест таго, каб жыць... *(Неабходны каментар: чаму мы заседзеліся? Працавалі, і ўжо ня першы раз, проста я раней чамусьці пра гэта ня згадваю, над чужымі кнігамі: рэдагавалі, вярсталі, вычытвалі..., каб хоць нейкую капейчыну зарабіць на жыцьцё...)*

А сьнег ідзе... Файны, пушысты...

9.04. Амерыканцы дацiснулі Ірак. Увайшлі ў Багдад. Усеагульная радасьць у горадзе. Нібыта і не было яшчэ ўчора клятваў у вернасьці Садаму, запалохваньня шахідамі і вернымі дывізіямі “прэзідэнцкай гвардыі”. Якія падобныя ўсе дыктатуры! І якая магутная радасьць вызваленьня! Як зьмяніліся твары людзей, якія яшчэ ўчора вымушаныя былі ілгаць і ўтойваць свае пачуцьці, каб ня быць зьнішчанымі, а пазаўчора – мільёнамі выходзілі на мітынгі, на якіх услаўлялі свайго лідэра... Як усё проста і наглядна.

І якія малайцы амерыканцы. Горад цэлы. Гэта ня тое, што было ў расейцаў з Грозным. І цяпер ў мяне ў вачах руіны – кіламетры руінаў, у якія расейцы пераўтварылі паўмільённы горад, і надпіс на адной сьцяне: “Руінамі Грознага

задаволены!”. І гэта ў сваёй краіне, не аддзеленай марамі і акіянамі рэспубліцы... Расейцы па інерцыі яшчэ працягваюць палохаць мажлівым супраціўленьнем (яно будзе – дурні ёсьць усюды, але дзеля чаго супраціўляцца: можна змагацца за Радзіму, за незалежнасьць, але хто будзе змагацца за тырана, за дыктатара, тым болей, калі яго ўжо няма...), маўляў, мы Грозны двойчы бралі... Але гэта выглядае зайздрасьцю, не болей.

У “Ліме” доўга гутарылі з П(аўлам) Вераб’ёвым. Падабаецца ён мне яшчэ з тых часоў, калі працавалі разам. Спакойны, мудры. Усё разумее. Але... што хаваецца за гэтым: “усё разумее...”? Па калідорах, да болю знаёмых мне, якім аддадзена столькі гадоў жыцьця (А. Казлоў сказаў, што для яго адзін з двух іхніх цяперашніх “маладосьцеўскіх” кабінетаў – так і застаўся маім, па-іншаму ён яго не ўспрымае) ходзяць нейкія цені... Божа мой, якое ўбоства ўсе гэтыя С., П., Г.... Віця Шніп крыху разгублены, Андрэй Федарэнка, у вачах якога чытаецца: зьбегчы б адсюль, бо чужы ён ім тут... Віця трымаецца на самым заганным у гэтай сітуацыі апраўданьні: калі ня я дык хто? Андрэй цешыць сябе тым, што, нібыта, удаецца нешта прапіхнуць... Яшчэ ёсьць Алесь Бадак, які робіць класны часопіс – бо “Маладосьць” ягонае дзіцё, а не Баравіковай... Мне, збоку гледзячы, шкада іх – цудоўных хлопцаў, у якіх не хапае характару плюнуць на ўсё і сысьці, каб не падалі на іх цені Мятліцкага ды Бондар, Скобелева ды К....

А яшчэ сёньня парадаваў Міхась Скобла: якую кніжышчу падняў! “Краса і сіла” – уражвае. Ужо сваім выглядам, аб’ёмам, маштабам ахопу... І такога аптымізму ён сёньня мне падкінуў, такой упэўненасьці, што недарэмна мы трапечамся...

Прарвёмся. Пераможам.

10.04. Прайшлі Мінюст. У другі раз. Перарэгістравалі Фонд. Аддалі дакументы ў Міністэрства інфармацыі. Зноў будзем чакаць... Госпадзе, зь верасьня мінулага году б’юся над рэгістрацыяй. Колькі ўсяго пройдзена, колькі нерваў спалена... І вось зноў падышлі да апошняга этапу. Няўжо зноў вернуць у пачатак? Ня дай Бог...

Воўка Сяменчык з Сахаліну даслаў ліст. Напісаў пра сваё інтэрв’ю “Л(ітаратурнай) г(азеце)”. Набыў, пачытаў. Нават “Дзеяслоў” згадваецца добрым словам. Алесь, чытаючы, сказаў: трэба друкавацца ў Расіі. Трэба. Ды і ня толькі ў Расіі... Хлопцы патроху выдаюць кнігі. Сёньня бачылі ў выдавецтве нават кнігу прозы В. Куртаніч. А ў мяне фактычна з 1994 году нічога не выходзіла... Бо сам нічога не раблю дзеля гэтага. А за мяне і для мяне ніхто ня зробіць. Ну і хай сабе... Калі напісаў нешта вартае – дык застанецца і праз гады знойдзецца, а калі не – дык навошта тады валтузьня...

11.04. Гляджу тэлевізар. Два дзясяткі каналаў. З іх адзін умоўна беларускі. Пстрыкаю, ганяю каналы. І міжволі заўважаю, што на адным зь іх – беларускім, дзе ідзе нейкае “ток-шоў”, людзі нейкія іншыя, непадобныя да астатніх. Нібыта і такія ж. І разам – не. Нейкія засяроджаныя ў сабе. Неспакойныя, бы чагосьці баяцца. Позірк скіраваны ў сябе, унутр і нібыта назад. Быццам ззаду нехта з пугай над імі стаіць і вось-вось ударыць... Чаго баімся, беларусы? Ці не свабоды?

Увечары – прэзентацыя кнігі С(яргея) Астраўца. Была жонка Герменчука з сынам, Арлоў з жонкаю, Глобус... Сяргей згадваў студэнцкія гады, згадваў канец 80-х, пачатак 90-х. Не скажу, што мы старыя, але нам ужо ёсьць што ўспамінаць....

Дарэчы, Глобус. Быў сёньня ў ягоным офісе. Ён патэлефанаваў, каб перадаць дзёньнікі бацькі для “Дз(еяслова)”. Я рады, што ён першы зрабіў крок насустрач. (Некалі ён затаіў крыўду на мяне, што вокладку для часопіса замовіў не ў яго, а ў Генадзя Мацура). Міла пагутарылі. Ня ведаю, што падумаў ён, а я адчуў у ім родную і такую ж выпакутаваную душу. Можа, больш блізкую мне, чым у многіх іншых, душу... Як ні дзіўна. Такое адчуваньне было хіба побач з Сысом... (з якім таксама былі ня вельмі простыя адносіны...)

12.04. У такія дні – даты – стараюся сядзець дома, нікуды не хадзіць і тым болей – езьдзіць. Сьніўся сон пра родную вёску – маці, сёстры, бацька... Так ясна бачыў іх, так добра было. Прачнуўся і патэлефанаваў маме. Каб трохі супакоіцца...

Потым было колькі званкоў. Мне. Патрэбны, аказваецца, людзям. Але час забіраецца...

Трэба вяртацца ў літаратуру. Толькі яна – маё.

Калі я вярнуся ў літаратуру – многім давядзецца зь яе сыходзіць... (*Мой каментар*: *таму, мусіць, і не вярнуўся...*)

13.04. Усе дыктатуры падобныя... У каторы раз пераконваюся ў гэтым. Фільм пра Садама Хусейна. Нарэшце – спроба сказаць праўду. Пра голад, месячныя заробкі ў 2 даляры (а курка каштуе тры) і пра "вернасьць" абу – бацьку нацыі: яшчэ два месяцы таму на рэферэндуме 100% іракцаў прагаласавала за падоўжаньне тэрміну кіраўніцтва Садама. Прычым некаторыя на бюлетэнях расьпісваліся кроўю... І сёньняшнія кадры: нават гвардыя разьбеглася, і тыя, хто ўчора цалавалі партрэты, цяпер ірвуць іх... Які кароткі век у дыктатара: нават калі ён кіруе дзяржавай 20, 30, 50 гадоў...

14.04. Няўжо Еўропа <...> прызнала? Няўжо Германія зноў нас здала Расіі? Няўжо пасьля Садама і ягоных "рэферэндумаў" не зразумелі кошту "рэферэндумаў" і "выбараў"? Няўжо нас здаюць, з намі ня лічацца, як у каторы раз з курдамі?.. Няўжо на нас паставілі крыж?

15.04. Нас зноў "пракінулі" з рэгістрацыяй. Каму б пра гэта расказаць – чужому – валасы б дыбам сталі... Суцэльны зьдзек. Чакаць, а чаго чакаць? <...> Наколькі яшчэ ў мяне хопіць нерваў?

16.04. Вечарына па выхадзе кнігі Быкава. Умерана хвалілі. Барадулін, які абяцаў весьці, не прыйшоў увогуле. Пасьля дзяды панапіваліся. Асабліва Кудравец. Пачаў плявузгаць абы што на нас з Алесем (Пашкевічам). Маўляў, вы прастытуткі, ходзіце па міністэрствах, выбіваеце рэгістрацыю... Ведаю, адкуль ногі растуць гэтых словаў <...> . Брыдка... Прыкра... Ну хай чужыя гаўкаюць... А тут нібыта свае...

17.04. Антосю (сыну) – сем... А мне хочацца, каб ён яшчэ хутчэй рос. Каб пасьпець... Была файная сустрэча зь мінулым... Здаецца, людзі пачынаюць нешта разумець. Шкадаваньне маё прытупляецца. Асабліва, калі глядзіш на сябе ў люстэрка. Жыцьцё пражытае. Хоць тое, што цяпер – гэта не дажываньне, гэта, мажліва, якраз росквіт. Аднак – дарогі назад ужо няма. Толькі наперад...

Змаганьне за "Дз(еяслоў)" працягваецца. Адступаць і адступацца – не зьбіраюся. Хоць часам роспач проста душыць... Цяпер моцна падключыўся Алесь (Пашкевіч). Фактычна зь міністрам (інфармацыі) перамовы вядзе ён. Цягнуць... Хоць усе дакументы – вылізаныя, перарабленыя ўжо некалькі разоў. Баяцца клеркі. Ім лягчэй не дазволіць, чымсьці, нібыта, нечым рызыкаваць.

А мы пайшлі ва-банк...

Размова з Эдзікам: прасіў яго трымацца... Больш нічога ня мог сказаць, а тым болей паабяцаць... Ды і колькі можна жыць надзеяй, што можна будзе нешта атрымаць з часопіса.... А з другога боку – колькі яшчэ можна працаваць на грамадзкіх пачатках? Ну хай я дурань, але іншыя... за што церпяць? Зь верасьня робім "Дз(еяслоў)", колькі працы ўкладзена! А не зарабілі мы за гэты час ні капейкі... Хто паверыць? А калі паверыць дык ці ня скажа, што мы ідыёты... (Пры гэтым Эдзік, які мяне ўсё дастае размовамі пра грошы, хоць ведае ўсё, ведае, што ўтойваць няма чаго, бо "трымае на кантролі" кожны мой крок, хоць жыве лепш за нас з Алесем, бо мае пастаянны прыробак з працы жонкі на рынку і

сам езьдзіць то ў Польшчу, то ў Маскву па тавары для рынку. Але ж патрабуе... І таксама паліць мне нервы, хоць бачыць, як жыву я...)

Я шкадую – ужо – што чалавеку даецца адное жыцьцё: здаецца, толькі навучыўся жыць, а трэба паміраць...

“Хорошую религию придумали индусы...” Самае кепскае, што нават калі мы жывем неаднойчы, дык нам пра тое не дадзена ведаць...

18.04. Супакойваю сябе: па сёньняшнім часе выдаць нават два нумары незалежнага часопіса – подзьвіг...

19.04. Як ні дзіўна, самыя вялікія прыхільнікі незалежнасьці Беларусі – спартсмены. Ім усё роўна, калі справа ня тычыцца іх. Але як справа заходзіць пра “аб’яднаную каманду”, яны робяцца незалежнікамі.

20.04. Набраўся трохі новых кніг. Чытаю... А паза-пазаўчора быў – у пісьменньніцкай бібліятэцы СП на прэзентацыі кнігі Быкава, глядзеў на тысячы бел(арускіх) кніг і думаў: ня зьнішчыць нас, калі за намі такая сіла... Дык вось, накупіў сёньня новых кніг. Чытаю і бачу: мы ёсьць. І пайшлі ўсе... Пачытаў “Рэканструкцыю неба” (Вольгі) Гапеевай. Файна. Файна! (Зьміцера) Вішнёва не прымаю. А вось Гапеева... У яе ёсьць тое, чаго няма і ніколі ня будзе ў Вішнёва ды інш.: празрыстасьць. У В(ішнёва) ўсё мутнае, невыразнае... А я заўсёды казаў, што за самым вялікім абсурдам павінна стаяць логіка – звышлогіка. І тады “мутнасьць” зьнікае... Хармс для мяне празрысты, Хлебнікаў празрысты, Пялевін з Сарокіным ды Ерафеевым празрыстыя. Бабкоў празрысты. А Вішнёў з Куртаніч – не... Дарэчы, Ю(ры) Барысевіч напісаў цудоўную прадмову да кнігі Гапеевай. Я не падзяляю цалкам ягоныя думкі, але – я бачу, што ён ў яго ёсьць пазіцыя – празрыстасьць ёсьць у ягонай прадмове. І няма зла, злосьці...

21.04. Нервы... нервы... нервы... Вось-вось павінна вырашыцца, а можа і ня вырашыцца ніколі. Рэгістрацыя. Няўжо прарвёмся... Там выдатна разумеюць, што афіцыйны “Дз(еяслоў)” – бомба пад холдынг. І баяцца... <...> Усё вісіць на валаску. І ў нас няма аргументаў апроч паказной упэўненасьці ў сабе. А ўпэўненых у нас мала – больш плакальшчыкаў. А ўпэўненых у нас баяцца...

22.04. Здарылася! І я такі спакойны. Ці не таму, што яшчэ ня веру! Пазванілі з М(іністэрства) І(нфармацыі) і паведамілі, што подпіс ёсьць. Дакумент можна забіраць... Даведаліся мы пра гэта перад вечарынаю Міхася – вечарына “Красы і сілы”... Вечарына атрымалася класная. Зала поўная. Жывая зала. Ёсьць людзі. І ёсьць мы. І трэба жыць. *(Неабходны каментар: фактычна “Дзеяслоў” быў зарэгістраваны як своеасаблівы выклік намесьніцы. Тагачасны міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны ў апошні дзень сваёй працы міністрам забраў са стала ў сваёй намесьніцы даўно трыманыя дакументы і сам падпісаў дазвол на рэгістрацыю... На сустрэчы перад тым ён казаў нам з Алесем Пашкевічам, што яму дужа спадабаўся першы нумар “Дзеяслова” і ён трымае яго ў сябе “пад падушкай” і чытае, перачытвае перад сном...)*

23.04. Атрымалі пасьведчаньне. Казаў, што нап’юся. Сяджу цьвярозы. Ці ёсьць радасьць? Ёсьць стома. І пачуцьцё звышадказнасьці, што звалілася на плечы... Ну што я за чалавек? Замест таго, каб проста парадавацца, расслабіцца, пачынаю думаць: як быць далей... (За што выдаваць? Пакуль ішло змаганьне за рэгістрацыю, пра гэта неяк ня думалася...). Не, ня ўмею я жыць. Умею толькі працаваць...

24.04. Пачаў прыкідваць №4. (Трэці ўжо амаль зроблены, зьвярстаны, шукаем

друкара) Малы, маленечкі часопіс мы робім. Як умясьціць усё, што хочацца, што цікава?

І раптам нечаканы званок ад Ніла Сымонавіча. “Вы ў чацьвёртым нумары друкуеце прызнаньне Ведзьмака Лысагорскага? Дык не рабіце гэтага. Вы сур’ёзны часопіс. А не ЛеГал (псеўданім Леаніда Галубовіча)... Нам і сапраўды даў свае дзёньнікі “прэтэндэнт” на імя В(ядзьмака) Л(ысагорскага) – Мікола Аўрамчык. Запісы тычацца якраз тых часоў, калі зьявілася паэма, і гаворыцца ў іх, як яна распаўсюджвалася, успрымалася... Словам, сьведчаньні відавочцы, (без пазнакі аўтарства). Мы і сапраўды думалі друкаваць гэта ў №4. І вось званок ад Н(іла) С(ымонавіча) хто здаў яму інфармацыю? Навошта? Дзеля чаго? І ўвогуле – ці не пара сапраўднаму Вядзьмаку адкрыцца, прызнацца... А што – цікава было б! Дарэчы, М(ікола) А(ўрамчык) кажа, што пісалі ўдвох з Н(ілам) С(ымонавічам)... А Н(іл) С(ымонавіч) не адмаўляецца ад аўтарства, але і не засьведчвае яго...

Няўжо думае перажыць?

Хоць я асабіста дужа сумняваюся ў аўтарстве Аўрамчыка. І веру ў аўтарства Н(іла) С(ымонавіча). Але. Але. Але.... Н(іл) С(ымонавіч) вітае ўсе чужыя выказваньні, што аўтар ён. Падтрымлівае. А сам маўчыць... *(Неабходны каментар: ці ня ў гэты момант і нарадзілася думка паспрабаваць у “Дзеяслове” раскрыць імя аўтара паэмы “Сказ пра Лысую гару”, што спрабавалі ўжо ня раз зрабіць у іншых выданьнях (у той жа “Крыніцы”), і пагаварыць пра гэта зь Нілам Сымонавічам... Празь нейкі час размова адбылася, і Ніл Сымонавіч паабяцаў напісаць для “Дзеяслова” артыкул-прызнаньне...)*

25.04. Дамовіліся з друкаром. Павінна выйсьці файна. Шукалі найперш, дзе таньней. Аднак усё роўна сабекошт нумару дужа высокі. І пра самакупнасьць з заробкам няма чаго і думаць. Пяройдзем зь белае паперы на “газетку” – каб прадаваць чытачам нумары хоць трохі таньней. Самі на гэтым не эканомім – проста ў продажы часопіс будзе каштаваць менш, бо ў людзей і так грошай няма. А ўвогуле – кепска. Галоўнае – не зарабляем нічога на часопісе. Я цярпеў бы – а вось хлопцам сорамна ў вочы глядзець. Асабліва Эдзіку, які больш за ўсіх дастае... Былі ж, былі ў нас спадзяваньні.

26.04. Чарнобыльскі дзень. Чарнобыльскі шлях. Упершыню за апошнія гады не пайшоў на яго. Заматаўся і забыўся. Хочацца ў панядзелак здаць часопіс у друк. Быў у мастака. Вокладка, здаецца, нічога будзе. На першай старонцы – анёл. Хай. Сімвалічна.

...А той чарнобыльскі дзень 17 гадоў таму памятаю як сёньня! Люду на працу праводзіў. Вецер. Пясок сячэ – як сьнег. Пыл. Ненармальнае, ненатуральнае нешта адчувалася ў прыродзе. Шал. Д’ябальскія пляскі.... І нібыта стогн над усёю зямлёю. Праўда. Так было. Не таму, што цяпер ведаю, што тады адбывалася, а тады ня ведаў, але так адчуваў...

27.04. Адкрылі сезон. Першы раз выехалі на прыроду. Шніпы, Акуліны, Бяляцкія, яшчэ Леанарда з мужам, і мы... Алесь (Пашкевіч) зь сям’ёю не прыехаў. Былі ў Ісачы. Файна. Хоць мне і давялося аддувацца за ўсіх: з Ракава прыбег галоўны інжынер “прафілакторыя”. Хацеў паджывіцца з “трох іншамарак”, што заехалі на тэрыторыю. А тут – пісьменьніцкае начальства. Аблом. Ну дык і вывадзіў мяне 2 гадзіны, паказваючы “гаспадарку”. Стан – жахлівы... Дабілі да ручкі папярэднічкі...

А потым – футбол. Набегаліся ў ахвотку. Па дарозе назад заехалі на магілу Дуніна-Марцінкевіча. Трэба ў сьвятых мясьцінах бываць часьцей...

28.04. Трэці нумар здадзены ў друк. На Сахаліне памёр дзядзька Коля. Другі

мамін брат памёр сёлета. Прайшло 2,5 месяцы пасьля дзядзькі Аркадзя. Таксама дыябет падкасіў...

А ў вёсцы кепска маме. Ужо другі тыдзень. Ніяк не выкараскаецца. Летась увесну, такою парою, было кепска. Сёлета зноў. І як ёй сказаць пра сьмерць брата? Яна так перажывала пасьля сьмерці брата Аркадзя... Хоць ляжаў ён у бальніцы і ведалі ўжо, што доўга не працягне. А тут яшчэ адзін такі ўдар...

Цяжка.

29.04. Так і не навучыўся я быць пісьменьнікам штохвілінна. Так і ня змусіў сябе насіць нататнічак з сабою, каб запісваць – адразу ж – адметныя думкі, што завітваюць на імгненьне і незафіксаваныя зьнікаюць назаўсёды. Да мяне яны не вяртаюцца. Значыць, наведваюць кагосьці іншага, хто іх прыватызуе. Думкі такія ж матэрыяльныя – я перакананы – як і... радыёхвалі. Трэба толькі ўмець іх "прыняць" – пачуць і заарканіць... Заўважаў: мне, каб стаць "антэнаю", трэба толькі добра адпачыць і мець вольны час. Тады сядай і толькі запісвай... На жаль, усё радзей выдаецца мне адпачыць, і яшчэ менш вольнага часу.

30.04. Па тэле нейкі астролаг, які называе сябе ня проста прадказальнікам будучыні, але яшчэ і вучоным, абапіраючыся на расшыфраваныя пісьмёны майя назваў дату "канца сьвету": 2012 год. Праўда, навучаны, пэўна, ранейшымі "прадказаньнямі" канца, сказаў, што "канец сьвету" гэты можа быць умоўным, г. зн., што чалавецтва стане іншым, зьменіцца, пры гэтым, магчыма, само не заўважыць у сабе зьменаў... Але зьменіцца менавіта ў гэтым годзе.

Я некалі таксама вылічваў дату "канца сьвету". І ў мяне атрымаўся 2012 год. Прыблізна. Недзе сьнежань 2012 г. Праўда, некалі я паддаўся магіі 2000-га году і пазначыў яго ў адной сваёй рэчы – "Планідземанадзе".

Як атрымліваецца 2012 год у мяне. Ня варта тлумачыць, як выйшаў я на 1917 год і на 1989-91: рэвалюцыя і развал СССР. *(Неабходны каментар: пэўна, усё ж варта патлумачыць. Бо ўсё вельмі проста: падлік мой грунтаваўся на марксісцка-ленінскім (ха-ха!) падзеле "эпох"-фармацыяў у разьвіцьці чалавецтва – мы ведаем, колькі прыблізна працягваўся першабытна-абшчынны лад, рабаўладальніцкі, феадальны і капіталістычны, калі за канец яго прыняць 1917 год. Адсюль, склаўшы простую матэматычную прапорцыю, можна было вылічыць, колькі працягнецца новы – сацыялістычны лад. Рабіў я гэты падлік яшчэ школьнікам-старшакласьнікам – цяжка паверыць – напрыканцы 70-х гадоў, і ў мяне выходзіла, што "сацыялізм" працягнецца, зноў жа прыблізна, 72-74 гады, а гэта значыць, скончыцца ў 1989-91 гадах. Так і выйшла ўрэшце. Што будзе потым? "Камунізм? – думаў я тады, у школе, – ці нешта іншае?" Але ягоная працягласьць будзе кратна меншая – усяго прыблізна 18 гадоў. Далей яшчэ менш – недзе 4 гады, потым – адзін год... І калі ўсё скласьці разам, то гэтыя хваляваньні (калі намаляваць на прамой лініі) затухаюць прыблізна ў 2012 годзе... Зразумела, гэта прафанацыя, і тым ня менш...)* Наступныя зьмены важныя для Расіі і Беларусі (сьвету ўвогуле) адбудуцца па маіх падліках у 2006-08 гадах. *(Неабходны каментар: так я пісаў у 2003-м годзе – мяркуйце самі: ці адбылося што тады...)*. Потым у 2011-м нешта адбудзецца і "канец" усяго ў сьнежні 2012 году... Цыкл завяршаецца ў гэтым годзе. Калываньне маятніка (ківача) затухае. Незваротна. Канчаткова.

Хацелася б памыляцца... *(Неабходны каментар: памыляўся... Цяпер, калі я гэта чытаю і каментую – 2023 год. Канца сьвету няма. А што ёсьць? І ці было што ў 2012-м? Адкажа час. Бо мы пакуль ня бачым нічога: вялікае бачыцца на адлегласьці – меў рацыю паэт, але ў мяне ёсьць адчуваньне, што нейкія перамены з намі ў 2012-м усё ж адбыліся...)*

1.05. Зірнуў у "храналогію чалавецтва" – а што там адбылося ў "пераломным"

па маіх падліках, 477 годзе. Нічога. Але – 476 г. – фактычна канец Рымскай імперыі, канец антычнага сьвету... Папярэдняя "пераломная" дата 4121 год да н. э. Прыблізна з-за недакладнасьці даты можна сьмела накідваць гадоў дваццаць, а то і сотню, і ў адзін, і ў другі бок. Што там было – не ведаю. Думаю – пачатак пачаткаў. А мажліва, – канец Атлантыды, хоць яго і прывязваюць да 10-11 тысячагоддзя да н. э. А можа, і хутчэй за ўсё, пачатак Егіпецкай цывілізацыі, альбо яшчэ хутчэй – першае сацыяльнае аб'яднаньне людзей – не ў дзяржаву, але ў нешта падобнае...

Вечар – у Раўбічах. <...> "Весяліць" прыехаў Віктар Шалкевіч. Упершыню пазнаёміўся зь ім бліжэй. Дужа актыўны хлопец – жывы. І розум увесь час працуе. Дасьціпны таму. Цікава гутарыць зь ім. І ўвогуле кантактаваць. Хоць і не люблю я дужа актыўных, тых, што сабою зацьмяваюць усё. Але ён не мітуслівы, і таму ўсё даруецца. Проста тэмп жыцьця ў яго такі.

У Раўбічах файна. Зоркі на небе ёсьць. У лесе было вогнішча і "шашлыкі". Са Швецыі прыехаў Марцін – даўні знаёмец, з Нарвегіі – Томаш. Але паразмаўляць пакуль не ўдалося.

2.05. Працяг семінару. Хоць трохі адпачыў. Адзін са шведаў расказваў пра гандаль зброяй. Беларусь – на 10-м месцы ў сьвеце, апярэдзіла Швецыю, якая раней была 10-й. За апошнія гады Беларусь прадала зброі на 1,5 млрд. рублёў – гэта па афіцыйных дадзеных. Самалёты, верталёты, танкі, аўтаматы... У Перу, Ірак, Інданезію, афрыканскія краіны... І дзе тыя грошы? У чыёй кішэні? Адназначна... А хто і калі выкрые ўсю праўду?

3.05. Пэн-цэнтр арганізаваў семінар маладых. З Раўбічаў прыехаў адразу туды, каб коратка выступіць. Нейкая Х. К., з якой давялося сутыкнуцца, рыхтуючы ў «Дз(еяслоў)» – ейны аповед, села наперадзе і зьбівала – няўдзячная істота – сваімі дурнымі пытаньнямі. Хацеў асадзіць яе – груба – ды сьцярпеў. А ўвогуле ў дзяцей вочы зьвяціліся – і гэта радуе...

4.05. Дарабляю 4-ы нумар "Дз(еяслова)". Перачытваю прозу, артыкулы. І дзіўлюся: як файна. Які класны часопіс мы робім! І шкадую, што малы аб'ём: немагчыма ўціснуць усё, што хацелася б...

5.05. Гутарка з Алесем – прагулка. Мы ў "яме". Як годна зь яе выйсьці. Ці варта ісьці на кантакт з... Ці зразумее? І навошта? Ці не прасьцей адседзецца, вычакаць? <...>.

А вы кажаце – кантакт... Гатовым трэба быць да 2006 году. Не праспаць, як праспалі 1989... *(Неабходны камэнтар: апынуліся зноў, у чарговы раз, не гатовымі... <...> І мой дэвіз з адной з "Фрэсак": "Не чакаць, а быць гатовым...", зноў не спрацаваў: праспалі...)*

6.05. Радаўніца. Сяджу ў Менску, а хочацца быць у вёсцы, у бацькоў, куды зьехаліся і сёстры...

7.05. Вечарына "Маладосьці". 50 гадоў. Бібліятэка Пушкіна. Народу бедненька – менш, чым на "Дз(еяслове)" у Берасьці ў абласной бібліятэцы разоў у пяць. Сьціпла і нецікава (у параўнаньні). Ажывіў хіба Бураўкін, пасьля выступу якога ўстаў і выйшаў Карэнда, але, відаць, не таму, што не спадабалася з-за "вастрыні", а проста скарыстаў момант, каб сысьці быццам бы "прыгожа", быццам бы "па патрэбе". А ўвогуле сумнавата. І шкада Бадака...

8.05. Працы шмат. Усё ніяк не пераразблю яе... А сваё няма калі пісаць... Разу-

мею, што ўся мая праца па часопісе і інш. толькі тады будзе мець вагу, калі я нешта вартае "сваё" напішу. Але ўвесь час зьядае "чужое"...

9.05. Дзень Перамогі. І Масква, і... скарыстоўваюць яго ў сваіх мэтах на поўную катушку. Уражаньне, што вяртаешся гадоў на 20 назад. Тэлепраграма перапоўненая фільмамі пра "подзьвігі". Але – гэтая чорна-белая вайна, зусім не цікавая дзецям. Не глядзяць. І тое наколькі радуе, настолькі засмучае.

10.05. Быкаў быў на Курылах... на Сахаліне – гэта для мяне адкрыцьцё. Каб жа я ведаў, калі быў у пасёлку Галаўніно на Кунашыры, што тут служыў Быкаў... На Кунашыры мне паказвалі хібару, дзе ў тое лета здымалі эпізод для "Белых росаў", а пра Быкава, добра вядомага ім пісьменьніка, яны, пэўна ж, ня ведалі, бо стараліся паказаць мне, беларусу, усё, што зьвязана зь Беларусьсю.

А я Курылы і ўсё, што было на Курылах, чамусьці памятаю, як у тумане. Памятаю, што шкада мне было тых людзей, што прыехалі туды на час – каб грошай зарабіць – а засталіся назаўсёды. А востраў Кунашыр (ня кажучы ўжо пра Шыкатан) падаўся мне маленькім, як падворак. Ці як вёска з ваколіцамі. Там можна нарадзіцца, але ня жыць...

11.05. Томаш з Нарвегіі паабяцаў дапамагчы "Дз(еяслову)". Даслаў яму заяўку. *(Неабходнае тлумачэньне: дарэмная надзея – не дапамог ён часопісу. Была яшчэ даволі працяглая перапіска, якая трымала нейкі час надзею і скончылася нічым. Томаш – на жаль, не памятаю прозьвішча – паляк па нацыянальнасьці, трэба адзначыць, шмат дапамагаў розным беларускім незалежным арганізацыям, але вельмі хутка, праз некалькі гадоў, раптоўна памёр... Зрэшты, колькі было ў мяне падобных кантактаў з надзеяй на дапамогу і з дасланымі "праектамі", якія пачыналіся з той самай надзеі, а сканчваліся нічым, да таго і пазьней – не пералічыць... Але гэта адзін зь першых памятных, бо сама асоба Томаша – неардынарная.)* Згадалася ягонае выступленьне на семінары пра тое, як нарвежцы сталі нарвежцамі. Пра тое, што напачатку 20 ст. у іх сітуацыя з моваю была горшая, чымсьці ў нас сёньня, і што навукоўцы зьбіралі рэшткі мовы, асобныя слоўцы па астравах, я ведаў. І нават у размовах ставіў у прыклад: паглядзіце – у Н(арвегіі) напачатку ст(агоддзя) панавала ўсё дацкае ды шведскае, нарвежская мова захавалася фрагментарна толькі на астравах... А сёньня. Чым ня прыклад для нас. Я і ня ведаў, як яны "дайшлі" да сёньня. Тамаш распавёў пра тое: пра палітыку жорсткага нацыяналізму, пра стэрыалізацыю меншасьцяў (цыганоў), пра лагеры для іншамоўных, пра тое, як дзяцей забіралі ў бацькоў, каб вучыць па-нарвежску... І рабілася гэта ажно да 1972 года... І мне зрабілася вусьцішна: няўжо да мовы няма іншага шляху, як не праз прымус? Да добрага праз зло, праз гвалт... праз жорсткі нацыяналізм. Як рабілі напачатку 20-га стагоддзя чэхі, літоўцы, латышы і г.д. І гэта ў ранейшыя часы было магчыма, а цяпер, калі існуе іншамоўнае тэле, радыё, друк, інтэрнет... Няўжо ў нас няма будучыні?

12.05. Бачыў Станкевіча, які "паставіў" мяне на "счотчык"... Думаў – паразумнеў за гэты час. Не! П'яны працьверазее, прасьпіцца <...>... Як мы не хацелі ставіць ягоную аповесьць у першы нумар "Дз(еяслова)" (я не хацеў). Да апошняга. Урэшце – выправіў бязграматнасьць дрымучую – русізмы, лухту стылёвую, прычасаў трохі, а дзе і прыбраў ваяўнічы антысемітызм, адкрыты расізм, чалавеканенавісьніцтва і ў апошні момант паставіў... Цяпер шкадую... А трэба давяраць інтуіцыі... Усе ведалі ці здагадваліся – як цяжка даецца першы нумар, ніхто не спытаў пра ганарар – была ў тым, што "адмовіліся" ад яго сваеасаблівая сімволіка: ахвяравалі дзеля ідэі. І вось на табе: "ты мяне кінуў", "як лоха" і г.д. А я думаў, што раблю сьвятую справу, ахвяруючы сваім часам, нервамі, справай, жыцьцём... А я думаў,

што мяне разумеюць і за героя прымаюць, які адважыўся кінуць выклік махіне... А я за амаль год працы над “Дз(еясловам)” не атрымаў ні капейкі – наадварот свае грошы ўклаў, якія наўрад ці вернуцца... А я набіраю, рэдагую (кожненькі мяккі знак мною ўстаўлены, бо няма праграмы, што зрабіла б гэта аўтаматычна) вярстаю, бегаю па друкарнях, а потым яшчэ і распаўсюдам займаюся – езджу з выступамі, хоць гэта не маё... Карацей раблю “Дз(еяслоў)” ад пачатку і да канца каб атрымліваць пляўкі ў твар.

Госпадзе – як паскудна... Ведаў, што няма справядлівасьці на зямлі... Але ж не настолькі...

І вось сядзіць перада мною <...>, які нават словы складаць пісьменна ня ўмее, які дыхае злосьцю гэтаксама, як і кожны радок яго, які прывык браць... Госпадзе, даруй мне, я ж яго некалі ў “ЛіМе” падтрымаў і выцягнуў, адстойваў...

Аб’ектыўна: ёсьць у яго някепскія рэчы, але тыя, што адгабляваныя іншымі і тыя, дзе ён нутро сваё, злосьць сваю на ўсё і ўсіх выпускае на волю. І вось такая “шчырасьць” у яго і атрымліваецца, бо іншыя гэта хаваюць, саромеюцца, а ён зрабіў сваёй адметнасцю...

А я, нават пасьля ўсяго гэтага, прапанаваў уключыць яго ў анталогію сучаснага бел(арускага) апавяданьня...

*(Неабходны каментар: так я напісаў пад “гарачую руку”. Каюся. Разумею ўсё. І тое, што яго, Юры Станкевіча, ужо няма... Але – пакідаю так, як напісалася некалі, пры ягоным жыцьці. Пакідаю, каб ведалі. Каб засталося. Бо дужа дастаў ён мяне тады. І паводзіў сябе яшчэ горш, чым я тут напісаў, бо словамі не перадаць тую ягоную дробнасьць і нянавісьць... Але – было... Было... <...>.)*

13.05. Сьмерць страшная таму, што большасьць людзей (калі ня ўсе сёньня) паміраюць заўчасна. Ніхто не дажывае да сваёй біялагічнай старасьці, калі сьмерць – радасьць, законнае, заканамернае, адзінамажлівае і адзінажаданае завяршэньне жыцьця... Памерці – як заснуць. Каб прачнуцца? Ня ведаю. Ня ведаем. І ня будзем ведаць...

14.05. Адзінае шчасьце на гэтай зямлі – каханьне. Адзіная радасьць дадзеная ўсяму жывому на гэтай зямлі (і чалавеку) – каханьне. Усё астатняе – мана, хлусьня сабе самому, міф, абсурд, прыдумка дзеля заспакаеньня... Калі Бог хоча пакараць чалавека, ён пазбаўляе яго каханьня...

15.05. Так спадзяваўся сёньня патрымаць новы нумар часопіса! Так хацеў заўтра ўзяць яго ў Гомель... Дудкі... Сьвяты – амаль дзесяць дзён запар – выбілі з рытму і друкароў. Калі і будзе нумар – дык на наступным тыдні...

16.05. Паездка ў Гомель. Выступ ва ўніверсітэце. Усё было б вельмі добра, калі б мы маглі прадаць больш нумароў часопіса. Атрымалася накладка: часопісы ў залу не патрапілі, засталіся на кафедры. Начальства спалохалася, не дапусьціла... *(Неабходны каментар: нашая першая паездка зь першым нумарам “Дзеяслова” была якраз у Гомель, ва ўніверсітэт. Была поўная зала студэнтаў і выкладчыкаў. І было раскуплена больш за 130 нумароў часопіса. Блізка да нашага “рэкорду” за адну паездку. Але гэтым разам універсітэцкае начальства чагосьці спалохалася...)* Спадабалася зала. Жыва рэагавала. І сапраўды – усё можа зьмяніцца ў адзін момант: людзі да таго гатовыя...

Потым была паездка да Сыса ў Гарошкаў. Дагэтуль шкадую, што не ўзялі з сабою відэакамеру, бо такое – не паўторыцца, а пераказаць на паперы яго не мажліва... Сыс у шортах і майцы (а на двары – халадзіна!), ягоныя мясцовыя сябры – п’яніцы (адзін – “біркулёзны” са сваім, як ён сказаў, “эксклюзіўным” стаканчыкам), суседкі – п’янчужкі – бл...дзюшкі (ім бы толькі патрахацца, сказаў

Сыс), хата – бамжатнік, недагледжаная, сястра Сыса – Тамара (адзіная сьветлая жанчына, адчуваецца, як цяжка ёй, але яна нясе свой крыж), дзяўчынка Волечка ў брудных джынсіках, якую “палохаў” Андрэй Федарэнка, бацька Сяргея Сыса, хата Віктара Стрыжака, хата Віктара Яраца, Сяргей Сыс (як шкада мне яго – губіць сябе ў Гомелі), разьвітаньне з А. Сысом, якое цягнулася ці ня тры гадзіны і выматала ўсе нервы... Дарога дамоў і прыезд у 4 ночы...

17.05. Такое не паўтараецца. Які насычаны дзень быў учора! Падзеямі, жыцьцём... У Гомель ехалі дажджом, залевай. Ледзь пасьпелі да пачатку сустрэчы. У адным месцы машына перад намі рэзка затармазіла – наперадзе ішла міліцэйская зь мігалкамі – і я ледзь змог прыпыніцца, ледзь не сьцягнула нас у кювет... Нервы, нервы за рулём, потым выступ. Андрэй Ф(едарэнка) прамаўчаў. Хоць яго дужа чакалі ў Гомелі, хоць хацелі пачуць толькі голас ягоны – дзе нарадзіўся, што піша... А ён толькі два словы – задавайце пытаньні. У адказ цішыня. Я ведаў, што Андрэй невялікі выступоўца, але ж... Кепска, што застаўся ён незадаволенны сабою і гэтую незадаволенасьць усё хацеў вымясьціць на нас (і будзе вымяшчаць пасьля, ў Менску, думаю... такі ў яго характар. Сябе выгароджваць, а нас тапіць. Хоць мы яго чапаць не будзем... Зьезьдзіў – і годзе...) Казаў пасьля: вы мяне ўзялі, як баласт. А мы бралі яго і сапраўды шчыра таму, што любяць і чакалі яго ў Гомелі, прасілі прывезьці земляка... Пакінулі ў Гомелі 10 непрададзеных нумароў “Дз(еяслова)”, што засталіся пасьля стыхійнага продажу па заканчэньні вечарыны. Цяпер сумневаюся: ці варта было гэта рабіць, ці правільна нас зразумеюць? Падумаюць – скінулі нерэалізаванае. А ў нас саміх больш 2-га нумару амаль не засталося... Добра, што пабылі ў А. Сыса. Ох і паскудна яму – чужы ён сёньня і дома, і ў Менску. Нічога ня піша ні тут, ні там. П’е. Падумалася: хай ужо і ня піша. Тады застанецца легендай. Калі пачне зараз пісаць, і пісаць кепска – сапсуе “біяграфію”, як Канстанцыя Буйло, а так можа застацца як Арцюр Рэмбо, які кінуў пісаць, ці як М. Багдановіч, які памёр маладым... Але ж – якія каларытныя фігуры вясковыя вакол яго... І хлопцы, і жанчыны, як шкада, што не было ў нас відэакамеры... Усё стаіць у вачах. Сашка ўжо загарэлы, ва ўшчэнт парваных спартыўных штанах і жоўта бруднай кухвайцы, Міша – “біркулёзны”, жанчыны – амаль бамжыхі, шчырыя, простыя ў сваіх учынках і жаданьнях, сястра Сыса Тамара – на якой усё там трымаецца. Мудрая, бітая жыцьцём жанчына, чыстая, спагадлівая душа... Анатоля любяць там. Шкадуюць. А ён карыстаецца гэтым – як і ў Менску. І нас “скарыстаў” напоўніцу – наіўна хітра скарыстаў. І мы разумелі, што ён нас “скарыстоўвае” (ці скарыстоўвае наш прыезд – каб прыгажэй гучала), але нічога не маглі зрабіць, бо не сварыцца ж зь ім... Я адчуваў сябе напрыканцы набітым дурнем. Навошта мне гэты часопіс, навошта мне гэтыя паездкі-прэзентацыі... Ніхто ніколі не ацэніць працу, не зразумее і не спачувае... Спачуваць будуць Сысу... А я дурань, замест таго, каб працаваць на сябе, пісаць сваё, узваліў на плечы такі кавалак працы... Дурань... Дурань... Дурань... І нават замест таго, каб, пабыўшы гадзіну-другую, рэзка абарваць “візіт” і паехаць дамоў, я некалькі гадзінаў слухаў п’яную херню Сыса, з якой вынікала, што Андрэй (ён болей размаўляў зь ім) то дурань-ідыёт, то геній – так разоў дваццаць паўтаралася... Дамоў ехаў на “аўтапілоце”. Дарогу назад памятаю, як у тумане. А навошта... А дзеля чаго?.. <...>

18.05. Усе хлопцы – хворыя. І я – абсалютна абясьсілены, нічога не магу рабіць. Баліць галава, слабасьць... Сыходзімся на тым, што вампір Сыс здорава нас высмактаў... Гэта ня жарт. Гэта праўда. Не магу забыцца ягоныя вочы, якія, здавалася, блукаюць унутры цябе. <...>.

Але шанец застаецца ў яго ўсё-ткі адзін: не пісаць больш нічога. *(Неабходны каментар: ніхто тады ня ведаў і я падумаць ня мог, што жыць Анатолю засталося менш за год. Здаровы, малады, прыгожы... п’яны і бесклапотны – такім застаўся*

*ён у маёй памяці. Сапраўды, больш ён нічога не напісаў, але тое, што пакінуў нам – ужо класіка.)*

19.05. Спадзяваўся, што атрымаем сёньня №3. Дарэмна. Друкарня падводзіць нас.

20.05. Яшчэ дзень, як на цьвіках. Нумара няма. Усе астатнія падзеі зацьміла непадзея гэтая. Алесь, дарэчы, у трансе: у Саюзе справы зусім кепскія. Доўга гаварылі: як быць... Вельмі важна не прайграць сітуацыю. Зрухаў у адносінах з уладамі няма. Уражаньне – што ім і ня трэба, што ім прасьцей не заўважаць нас. Па вялікім рахунку нічога не зьмянілася з таго часу, як мы пайшлі ў Саюз. Гэта і кепска, і добра. Нават хутчэй добра. Тады была нашая задача не аддаць уладу М. з К.. Мы гэта зрабілі. Цяпер задача выстаяць і не паддацца на правакацыі, зрабіць так, што нас вымушаюць рабіць непапулярныя крокі самі ўлады. Зробім. Абыграць сябе не дадзім.

21.05. Нумар ёсьць. І ёсьць пэўнае расчараваньне: “газетка” ўсё ж псуе “выгляд”. Але – нічога. Трэба нейкім чынам зьбіць наскокі, што мы жывем на “зялёных”. Ніхто ня верыць, што можна рабіць такі класны часопіс на грамадзкіх пачатках, як робім мы.

Была файная гутарка зь Нілам Сымонавічам. Вядзьмак – ён. Адназначна і канчаткова. Паказваў рукапісы, чарнавікі... Цэлы чамаданчык са сшыткамі з паэмай, напісанай і праўленай ягонай рукой. Паабяцаў раскрыцца ў “Дз(еяслове)”.

Увечары пасядзелі з хлопцамі, абмеркавалі заўтрашнюю вечарыну часопіса. Глядзеў і радаваўся: якая файная ў нас кампанія! Горы зьвярнуць можна...

22.05. Прэзентацыя. Людзей малавата. Палова залы Д(ома) Л(ітаратара). Адчуваецца дыханьне лета і студэнцкай сесіі. Але амаль кожны другі набыў нумар “Дз(еяслова)”. Прайшло ўсё файна. Эдзік малайчына, хоць і цяжкавата было яму. А я ніяк не магу зьбіць хваляваньне перад выхадам на сцэну. Непублічны я чалавек... Ехаў на прэзентацыю і зноў думаў: навошта мне гэта? Калі б мажлівасьць пакрасавацца на людзях, нейкая ўяўная слава дадавала мне сілаў, энергіі (як Эдзіку) – дык і варта было б. А так... Толькі забірае сілы, вымотвае дашчэнту... І ўвогуле – зноў падкочвае тая стома, якая некалі была хранічнай у “ЛіМе”... і ў “Г(омельскай) П(раўдзе)”...

23.05. Пятніца ў тумане, хоць і ня піў ні грама. Хранічная стома. У бацькі – інсульт...

24.05. З Алесем П(ашкевічам) паехалі ў ягоную вёску. Каб трохі адпачыць. Паляжалі ў садзе на траве – у дзьмухаўцах. Пагутарылі. Люблю я вёску, – падумалася, – але лецішча мець не хачу. Бо не змагу яго ўтрымаць, бо толькі клопатаў на галаву нажыву... Заехалі ў Слуцак. Не скажу, каб адпачылі, але пабылі ў іншым вымярэньні...

25.05. У бацькі ўсё больш-менш добра, калі можа быць добра ў такім узросьце. Мама кажа – перахваляваўся, таму і інсульт. Хадзіў амаль два тыдні ў саўгасную кантору, каб далі каня пасадзіць бульбу. А яму там: “Чаго ты, дзед, ходзіш, хто ты такі?” Пакрыўдзіла яго гэта, узяў у галаву: быў паважаным, а цяпер “хто ты такі?” Да таго ж тыдзень ня піў... Каб піў, кажа мама, дык можа б не захварэў... Зьняў бы стрэс...

...Увечары выйшлі “Дзеясловам” пагуляць у футбол. Уяўляю, як сьмешна гляджуся я – сівы, лысы мужчына сярод дзетак... Ды і іншыя ня лепей... А з намі – Алесь, Міхась ды Эдзік – гулялі дзеці меншыя за майго Алеся... А Антось на варотах стаяў. Мне хутка 44, а я ўсё дзіцё, усё паддаюся на спакусы, хоць косьці ўжо грымяць і назаўтра – не ўстаць, не расхадзіцца...

26.05. У С(аюз) П(ісьменьнікаў) прыйшоў К.: нібыта ўзносы прынёс. Заадно і пагутарылі... Перад тым, праўда, каля офісу <...> сустрэлі Г. М. Бураўкіна. Расказаў пра паездку ў Львоў на Шаўчэнкаўскае сьвята і спытаў: а як справы ў вас, ці будзе сустрэча? Мы шчыра і сказалі, што ёсьць перашкоды, і самая галоўная – І. К.... І ён тут як тут... Часам быў шчыры. Ці, хутчэй, правакаваў нас на шчырасьць, ведаючы нашую пазіцыю. Аджартоўваліся... Ён з намі гутарыць, а сам – ня тут... Алесь Бураўкіну сказаў, што мы К. недаацанілі? Мая думка. Але... Вось гутарыш зь ім і бачыш ягоную столь, як тут яго ацэньваць? Іншая справа, што як ацаніць магутнасьць бюракратычнай машыны, у якой ён – ня вінцік... І ён – робіць сваю справу. Чорную... Казаў, што ніякага саюзу з Расіяй не будзе, што незалежнасьць захаваецца, што будзе паварот да беларускасьці – трэба толькі пацярпець. Старая песьня на новы лад. <...>.

27.05. Пабылі з Алесем у І. П. Шамякіна. Іван Пятровіч перадаў ліст (прэзідэнту). Быў зьдзіўлены, пачытаўшы яго. Вучыцца нам трэба ў І(вана) П(ятровіча): наколькі дзед змог прайсьці па павуцінцы, па лязе, нідзе ня схібіўшы. Напісаў ліст да (прэзідэнта), але нідзе не прагнуўся... Дзіўна, увогуле для І(вана) П(ятровіча). <...> Толькі сумняваюся, што народны пісьменнік атрымае адказ... І не такіх (ён) не заўважаў. Хоць такіх – нельга не заўважаць...

Кватэра Шамякіна: на ўвесь адзін з пакояў унукаў “гараж” – машынкі Ванечкі. На паліцах, кінулася ў вочы, у кабінеце – шмат кніг Барыса Іванавіча. Не думаю, што іх ён выстаўляў сьпецыяльна. Іншых бел(арускіх) аўт(араў) – амаль няма. І(ван) П(ятровіч) – стары і слабы. Ледзь соўгае ногі. Ірваныя спартыўныя – старэнькія, як сам – штаны... А на стале – кнігі пра Пушкіна, кнігі Салжаніцына – тыя, што нядаўна выйшлі... Чытае. У курсе... “Дз(еяслоў)” не чытаў. Калі А(лесь) сказаў, што прынясе новы часопіс, адказаў: “Полымя” ў мяне яшчэ няма (апошняга нумару)... Але ў цэлым ўражаньне дужа прыемнае і дзед хоча нам дапамагчы. Насуперак спробам Мятліцкага супрацьпаставіць холдынг – Саюзу... Не паддаецца дзед на правакацыі. Ёсьць, значыць, інтуіцыя.

28.05. Кажуць, у Менску Быкаў. Мы з Алесем хацелі пад’ехаць да яго. Пазваніў яму А(лесь). Б(ыкаў) абрадаваўся, але ад сустрэчы адмовіўся. Кажа, прыехаў на Беларусь са сваёй бядой, і трэба ісьці ў паліклініку, на працэдуры. Ні з кім, нават з даўнімі сябрамі, ня хоча сустракацца. Потым, кажа, пазьней... А ходзяць чуткі, што прыехаў ён на Беларусь паміраць, бо хвароба ў яго – самая кепская і невылечная... Нават чэшскія ўрачы, па просьбе Гавела, дапамагчы не змаглі...

29.05. Б(ыкаў) зноў адмовіўся ад сустрэчы. Дарабляем 4-ы нумар “Дз(еяслова)”. Глобус у Саюз прынёс гранкі. Вахцёр яго не пускае: “Хто вы такі!..” Глобус, урэшце, “прарваўся”. <...>

Дарэчы, сёньня амаль вырашана, што “Дз(еяслоў)” будзе друкаваць эратычныя дзёньнікі М. Багдановіча. “Дзёньнікі” – гэта задужа моцна гучыць. Там усяго чатыры старонкі рукапіснага тэксту пра ягоны першы вопыт суадносінаў з жанчынаю... Было шмат спрэчак: друкаваць іх ці не. Глобус некалі абяцаў, надрукаваць – у “Архэ”. Не ўдалося. І вось будуць у “Дз(еяслове)”. Хай бы... *(Неабходны каментар: надрукаваць не ўдалося. Хоць былі вельмі шчыльныя перамовы з кіраўніцтвам музея, дзе дзёньнік захоўваецца, і цьвёрдае абяцаньне перадаць у “Дзеяслоў” расчытананы наноў тэкст. Сяргей Кавалёў напісаў потым п’есу пра тое, як нейкая рэдакцыя хоча надрукаваць дзёньнік Багдановіча. П’еса друкавалася ў “Дзеяслове”, але рэдакцыя там выдуманая і не падобная ні на “архэўскую”, ні на “дзеяслоўскую”...)*

30.05. Субота. Дома працы – непачаты край. Трэба ўсё перарабіць да ад’езду ў Крым. Ці пасьпею?..

1.06. Каб жа толькі рабіць “Дз(еяслоў)”. Яшчэ трэба шмат іншага... Абрыдла... 5 гадоў раблю гэтую газетку. Пяць гадоў... Прыелася. А трэба. Бо трэба жыць. Бо астатняя праца – і СП, і “Дз(еяслоў)” – на грамадзкіх пачатках.

2.06. Мітусьня. Перад ад’ездам. Трэба здаць №4 “Дз(еяслова)”. А працы...

3.06. “Дз(еяслоў)” здалі ў друк. Каторую ноч ня сьплю – праца.

4.06. Раніцай, у 8.25, выехалі ў Крым – на Пушкінскае сьвята. З Алесем П(ашкевічам). Здаецца, усё пасьпелі. Можна адпачываць, адаспацца нарэшце. Але ў цягніку ня сьпіцца. З намі едзе прафесар (Вячаслаў Пятровіч) Рагойша. Расказвае шмат цікавага. Пра сябе.

5.06. Першы дзень у Крыме. Засяліліся ў шыкоўны нумар – генеральскі. Гэты санаторый раней належаў Мін(істэрству) Абароны СССР. Цяпер – Адміністрацыі прэзідэнта Украіны. Сыравата і халаднавата, праўда, у нумары. А на вуліцы – файна. Пабылі ля мора. Адпачывальнікаў амаль няма. Ніхто не купаецца. Мора пакуль халоднае. Прыехалі пакуль мы і расіяне. Ганічаў страшна абрадаваўся, убачыўшы нас. Пэўна, інакш не было б “прадстаўнічасьці”.

6.06. Першы дзень сьвята. Усё даволі сумбурна. Спачатку хадзілі ад помніка да помніка – ускладалі кветкі. Ад Украіны прыехалі Дзьмітро Паўлычка і Іван Драч. Мы абрадаваліся, убачыўшы іх, а расіяне, калі сказаць мякка – расстроіліся... Увечары быў выступ у мясцовым Палацы культуры. Паэтычны вечар. Дамовіліся, што выступіць Алесь. Сяджу, адпачываю, нават прыдрамаў трохі, слухаючы маскоўскага паэта Ул(адзіміра) Кастрова, і раптам чую: “Слова беларускаму паэту Барысу Сачанка” (па-руску, вядома, аб’ява). Я разгубіўся. Выступаць не рыхтаваўся. Устаць і сказаць, што адмаўляюся, як зрабіў гэта Ул(адзімір) Арлоў на вечарыне кнігі “Краса і сіла”? дык хто мяне зразумее... І пайшоў я на сцэну. Суцэльны экспромт... Але потым хвалілі за тое, што згадаў, што Пушкін яшчэ і класны празаік... Аднак стрэс перажыў страшнейшы. Потым сядзеў у крэсьле ў зале і яшчэ хвілінаў 10 ня мог супакоіцца...

Ноччу, а цямнее тут рана, пайшлі з Алесем у крамку на беразе, каб купіць каньяку, і сустрэлі там дырэктара гэтага санаторыя, які нас пазнаў. Пачаставаў нас, а потым запрасіў да сябе ў дом, дзе жыве. Аказваецца, ён нядаўні віцэ-адмірал. У кабінеце здымкі, на якіх ён побач з Пуціным, Кучмам, Гарбачовым... Ён якраз ахоўваў Гарбачова падчас путчу. Менавіта ахоўваў – гэтак, як і да путчу – а не ізаляваў, як казалі... Але доўга пісаць пра тое, што ён расказваў... Як-небудзь потым...

7.06. Расіянаў, як сяброў, мы, пэўна, страцілі канчаткова. Яшчэ ўчора Ганічаў жартаваў з намі, расказваў пра сябе. “Вялікі” некалі быў чалавек, хваліўся: ведаў Брэжнева, Машэрава, Гарбачова і да т. п. Быў камсамольскім работнікам, галоўным рэдактарам “К(амсамольскай) П(раўды)”, “Раман-газеты”... Але мы “сьпеліся” з украінцамі – Паўлычкам і Драчом. На глебе незалежнасьці, мовы. Дарэчы, мы з Алесем усюды размаўлялі толькі па-беларуску і выступалі са сцэны таксама... <...>.

Раскол (з расейцамі) адбыўся ля магілы Максіма Багдановіча. Жарсткавата пра сітуацыю ў Беларусі сказаў Паўлычка. А потым я – толькі пра незалежнасьць, пра якую марыў Максім, называючы Беларусь краінай, і якой прарочыў: “Беларусь, твой народ дачакаецца, залацістага яснага дня...” Але не дажыў да

гэтага дня менш за год. Я папрасіў дараваньня ў Максіма за недагледжаную магілу, за тое, што запавет ягоны пакуль ня выканалі, за тое, што робіцца цяпер у Беларусі з мовай... І – дзіва! – пасьля таго, як я скончыў, сказаўшы: "Даруй нам, Максіме!" – засьпяваў салавей. І Ганічава ўжо ніхто ня слухаў, а ўсе сачылі за салаўём, і Паўлычка сказаў, што гэта душа Максіма... А канчатковае разыходжаньне з расейцамі адбылося падчас вечарыны ў Ялце, дзе выступаў Алесь (па-беларуску) і казаў зноў пра незалежнасьць. Ганічаў зьнік з гэтае вечарыны нават не разьвітаўшыся – паехаў у Маскву (сапсавалі мы з украінцамі яму сьвята)... Дарэчы, на адной з сустрэчаў у Ялце ўстаў адзін мясцовы камуніст і са злом у голасе запатрабаваў ад украінцаў: "Говорите на языке Пушкина!". На што яму добра адказалі Драч і Паўлычка па-ўкраінску... Сітуацыя тут, у Крыме, з мовай такая, як у нас у Беларусі. Але ва ўкраінцаў ёсьць Львоў, ёсьць Кіеў, а ў нас нічога такога няма...

Ноч, да раніцы, праседзелі ля мора ў размовах з новымі ўкраінскімі сябрамі: паэтамі Ю. Капланам, С. Бандарэнкам, Т. Якавенка і Л. Залатаношай. Вярнуліся ў нумар, калі ўжо разьвіднела... А ехалі сюды адпачываць...

8.06. Устаць давялося раненька. Арганізатары трохі перамудрылі з "праграмай": невядома што, дзе і калі будзе. Увогуле, культура тут невысокая. Усё больш прэтэнзіі на яе...

Пабылі ў Доме-музеі Чэхава. Бухтачка там класная і жывая: дыхае морам, марскою травою, ёдам... Нідзе больш тут такога зацішнага месца няма, усё абседжана адпачываючымі.

Пасьля абеду быў умоўна вольны час. Умоўна, бо чакалася сустрэча з арганізатарам гэтых дзён Казарыным (намеснікам прэм'ер-міністра Крыма). Чакалася ў тры гадзіны дня, а адбылася ў 23 гадзіны вечару... Казарын спадабаўся. Талковы мужык. І званьне, пэўна, мае не малое. Расейскае... Да беларусаў ставіцца прыхільна. І дзякуй Богу... Добра пагутарылі. Узялі ягоны артыкул пра значэньне моваў для "Дз(еяслова)". А галоўнае, намецілі, што зрабіць, каб "прысутнасьць" Багдановіча ў Крыме была больш адчувальнай. *(Неабходны каментар: на наступны год мы з Алесем па запрашэньні арганізатараў зноў пабывалі на Пушкінскім сьвяце, і зноў наведалі магілу М. Багдановіча. Яна была ўжо дагледжаная, і над ёй стаяў новы помнік. У нас ёсьць здымкі з розьніцаю ў год, каля розных помнікаў. Наколькі гэта было заслугай уласна Казарына – ня ведаю, але тое, што ён быў сярод тых, хто ставіў новы помнік на магіле М. Багдановіча, не падлягае сумненьню".)*

Ноч зноў ля мора. Да раніцы. Гэтым разам з расейцамі, што засталіся, і якія ўсё прасілі нас размаўляць па-беларуску хоць і без таго мы гэта рабілі, і сьпяваць беларускія песьні.

Учора нашыя гулялі ў футбол з галандцамі, а я так і ня ведаю лік, хоць і ўпэўнены, што нашыя прайгралі... *(Неабходны каментар: цяпер цяжка паверыць, але то быў час, калі не было інтэрнэту, каб паглядзець апошнія зьвесткі. Не было ў нашых нумарах і тэлевізараў ці радыё. Таму ніякой інфармацыі не даходзіла... А матч дома нашыя прайгралі Галандыі – 0:2.*)

9.06. Цягнік. Дарога дамоў. Да вечару, да цемры, заехалі да Запарожжа. Украіна і з вакна выглядае беднай краінай. Кепскія дарогі, на іх у асноўным "Запарожцы". Паўсюль бруд і сьмецьце, абшарпанасьць... Уразіла Кахоўскае вадасховішча – мора без канца і краю.

Паўдня былі ў Сімферопалі. Украінская мова не чуваць, як і ў Ялце. Але надпісаў, шыльдаў па-ўкраінску больш. Увогуле праблема з мовай тут ня меншая, а нават большая, чым у нас... Па ўсім адчуваецца. Але ў іх, украінцаў, ёсьць будучыня, бо ёсьць свая дзяржава, а ў нас... У тралейбусе ў Сімферопалі бабулькі даведаліся, што мы зь Беларусі і пачалі хваліць (нашую ўладу) ды зайздросьціць, як нам добра

жывецца. *(Неабходны каментар: пачалося ўсё з таго, што В. П. Рагойша хацеў прабіць талончык у тралейбусе. Яму кажуць: вы пенсіянер, а пенсіянерам у нас бясплатна. Як так, зьдзівіўся ён, у нас у Беларусі даўно адмянілі бясплатны праезд для пенсіянераў. Ня вераць, ня можа такога быць. Перапытваюць: вы сапраўды зь Беларусі... І давай хваліць нашую ўладу, маўляў, нам бы такога кіраўніка... Што б мы ні казалі пра нашае жыцьцё, пра кошты, пра пенсіі – ня вераць. А казалі мы чыстую праўду. Нам на гэта са злом: вы нейкія няправільныя беларусы. На тым і скончылася размова.)* Ну а мы скарысталі мажлівасьць і "па-дзяшоўцы" купілі дамоў каньяку ды віна. Тут і сапраўды разы ў 2-3 усё таньней, чым у нас.

10.06. Дома. Добра. Патэлефанаваў у вёску – маме: усё нармальна, калі можна так сказаць.

Увесь вечар тэлефонныя званкі, ад якіх ужо адвык.

Першае ўражаньне ад Беларусі: твары ў людзей заклапочаныя, сумныя...

11.06. Зноў мітусня. У СП – хоць не ідзі... Алесь (Пашкевіч) проста ў адчаі ад таго, наколькі ён, аказваецца патрэбны людзям. Я таксама. Поўня...

12.06. Прыёмная камісія... Які бардак... І каго рэкамендавалі... А, між тым, І. Бабкова, А. Андрэева нават не паставілі на галасаваньне... Д. п'яны. Сорамна...

13.06. А за працу хочаш ня хочаш брацца трэба. Вісіць яна падвешаная, і ніхто апроч мяне ня зробіць... Зноў трэба матацца па ўстановах ды ўстаноўках. А яшчэ – друкарня... А яшчэ – і грошы зарабляць трэба.

14.06. Адпачынак у Крыме ўжо забыўся. Ды і ці адпачынак то быў і колькі яго было... А працы, працы! І ўсё ня тая, якую хацеў бы рабіць, а якую трэба, бо трэба жыць і сям'ю карміць... А так хочацца штосьці-небудзь сваё стварыць... І бачу, што працу гэтую я ніколі не перараблю...

15.06. Кінулі ўсё і выехалі ў лес. Да вады... Нядзеля. Файна. Але – які дурны характар: і там, у лесе, трэба гаварыць пра праблемы, што нібыта засталіся ў горадзе...

Думаў, знайду хоць які грыб. У нас, на Палесьсі, я бывала знаходзіў грыбы і ў траўні. Тут – пуста. Хоць мясьціны – цудоўныя.

Дзе вы, мае каласавічкі?..

16.06. Дзень прайшоў, а сказаць пра яго няма чаго. Адзінае падзея – размова ў музеі Багдановіча перад і пасьля вечарыны А. Бадака пра публікацыю ў "Дз(еяслове)" дзёньнікаў Багдановіча. Пакуль ня верыцца, што ўдасца зрабіць гэта (хоць папярэдняя дамова ўжо ёсьць). Зрэшты, што гэта я: няма чаго сказаць... Вечарына была някепская, Бадак быў шчырым. Згадваў сваё дзяцінства з такімі падрабязнасцямі, што я, пэўна, не асмеліўся б. Што мне не спадабалася глыбокі сум у ягоных глыбокіх вачах. І вечарына не радавала яго, і словы добрыя не запалілі... Божа, як цяжка нам усім цяпер, і як трэба трымацца разам...

17.06. Рада. Наезд Бураўкіна на Алеся (Пашкевіча). А(лесь) стрымаў націск. Годна. Я маўчаў. Бо дужа ў кепскую сітуёвіну паставілі мяне з аднаго боку Алесь, а з другога Міхась. Першы, не параіўшыся, вылучыў N. на прэмію Саюзнай дзяржавы, якой няма, другі, не параіўшыся, напісаў артыкул у "НН", што ніхто яго не вылучаў. Ня трэ было рабіць ні першага, ні другога, але... Маральна я на баку Міхася, аднак ня хочацца губляць Алеся. Цяжка яму цяпер, як нікому і ход ягоны быў тактычны, а N., замест таго, каб удзячна замоўкнуць, падняў хай – адна прэс-канферэнцыя, другая, адно інтэрв'ю, другое... Я маўчаў, але гатовы быў падтрымаць Алеся. Дзякуй Богу, не давялося.

18.06. Дубавец зноў зьбіраецца ў вандроўку. Як летась. Хачу і я. Ды не атрымліваецца і не атрымаецца... Шкадую.... Давялося сёньня пабыць у ДАІ. Дзень таму ў мяне забралі правы за тое, што пакінуў машыну ў забароненым мейсцы – ля паштамта. Тады, пакуль пісаўся пратакол, страціў шмат часу, і сёньня – пакуль забіраў дакументы. Сядзеў і думаў: разумею цяпер, за што ненавідзяць мянтоў. Штраф той я заплаціў бы на месцы, як раней. Дык не – страціў паўдня на гэта. Ды яшчэ адчуў сябе падманутым... А ў ДАІ выглядала ўсё так, што штраф мне далі за тое, што тлумачэньне напісаў па-беларуску...

19.06. Дзень народзінаў В. Быкава. Шкада, але не ўдалося патрапіць да яго. Абселі яго "старыя" – <...> і не падпускаюць. Нікога... Шкада

А яшчэ пабылі ў "Саюздруку". "Дзеяслоў" не бяруць на распаўсюд... Адгаворкі сьмешныя: няма мейсца ў шапіках, яны перагружаныя, лета – "мёртвы сезон", у "Полымя" вялікае сьпісаньне і г.д. Прычыны, зразумела, палітычныя, бо Шаблоўскую, якая кіруе там, ад слова "незалежны" ажно перасмыкнула...

20.06. Дзень прамінуў. Бо праспаў яго. Ноч працаваў – дарабляў кнігу (не сваю...). Ранкам з Алесем адвезьлі яе ў друкарню. Спадзяваліся займець "Дз(еяслоў)". Кажуць, толькі ў панядзелак. Вярнуліся, і спаў.

21.06. У вёсцы. Дома. І радасьць, і смутак. Тата не зусім той... Інсульт так проста не прайшоў. І мама зусім слабая... Цяпер не магу застацца зь імі. Але праз пару тыдняў абавязкова прыеду, каб пабыць даўжэй... Люда і Антось засталіся, а мне трэба быць у Менску.

Холадна ў вёсцы.

22.06. Прыехаў зь вёскі. І адразу навіна: памёр Васіль Быкаў. Не ўкладваецца ў галаве. Ня верыцца. Не пралічыў я гэта, і цяпер не гатовы. Паверыў, бо хацеў верыць, што ён выкараскацца... Што мы яшчэ ўбачымся... Цяжка, і злосьць на старэйшых, якія ў апошнія месяцы (гады) манапалізавалі Быкава. Спадзяюся, што ён хоць убачыў "Дзеяслоў", бо некалі я яму першаму патэлефанаваў і папрасіў благаслаўленьня... *(Неабходны каментар: я тэлефанаваў Быкаву ў Прагу, калі зьбіраў тэксты ў першы нумар. Ён сказаў, што ў яго нічога новага няма, але перапытаўшы, што гэта будзе за выданьне пажадаў посьпеху...)*. Сэнс таго, што здарылася сёньня – 22 чэрвеня – мы зразумеем толькі праз гады. Быкава няма... Вельмі блізка Шамякін, Брыль... Хто застаецца? <...>

Госпадзе, як цяжка...

23.06. Госпадзе, што гэта робіцца? Як апісаць сёньняшні дзень у некалькіх словах? Было паседжаньне стыхійнай камісіі СП па пахаваньні В(асіля) Б(ыкава). Пакуль улады не ачухаліся – было ўсё добра. Потым прыйшла вестка, што атрымана спачуваньне ад Пуціна... І пачалося... Такога ціску, пэўна, яшчэ не было. Вельмі ім хочацца, каб пахаваньне не ператварылася ў апазіцыйную "маніфестацыю", каб не было гіст(арычнага) сьцяга. А як безь яго Быкава хаваць?.. Не... Па сьвежых слядах вельмі цяжка пісаць. Як-небудзь потым...

24.06. Працяг учарашняга дня. Поўная невядомасьць і блытаніна. Дзяржава ня хоча хаваць Быкава пад нацыянальнай <...> сімволікай. І ўсё робіць дзеля гэтага: рукі выкручвае родным і сябрам-пісьменнікам... Але хіба можна нават уявіць сабе, што Быкаў будзе пахаваны пад чырвона-зялёным сьцягам?.. Не, ніколі... Больш за тое, "дзяржава" хоча, каб не было пахавальнага шэсьця, каб труну адразу з прыступак схавалі ў катафалк. Дзеля таго плануецца, што труну будуць несьці вайскоўцы... У нас ёсьць свой план – як пазьбегнуць усеагульнага

сораму і ганьбы, як супрацьстаяць “дзяржаўнай” машыне. Шмат залежыць ад Алеся (Пашкевіча) – калі ня ўсё...

25.06. Усё скончылася... Усё прайшло прасьцей, чым думалася... Але за гэтай простасьцю – столькі нерваў... Па плане – рана-раненька, а 6.00 паехалі забіраць цела В(асіля) У(ладзіміравіча) з моргу. Я і Алесь, у адной машыне, Эдзік і Міхась – у другой. На сьветлафоры я адстаў. Вырашылі з Алесем ехаць да ўдавы В(асіля) У(ладзіміравіча) Ірыны Міхайлаўны. Яна сказала, што па цела паедзе сын Сяргей. Паехалі да сына. Ён чакаў машыны N.. Мы апярэдзілі. Пакуль стаялі – пераканалі яго, што хаваць трэба В(асіля) У(ладзіміравіча) толькі пад нацыянальнымі сьцягамі і з шэсьцем ад пл. Перамогі да пл. Якуба Коласа: “сімвалічны шлях ад салдата да народнага пісьменьніка”, – сказаў я. Сыну спадабалася і запомнілася, унук падтрымаў наконт сімволікі: “Дзед не прымаў чырвона-зялёны сьцяг”. Калі пад’ехалі да моргу, там ужо былі вайскоўцы. Э(дзік) і М(іхась) прывезлі Бураўкіна. Але ўрач – малайчына! – цела ім без родных не аддаў. З эскортам міліцэйскім паехалі да Дому літаратара. Калі ўносілі труну ў ДЛ, дзясятак чалавек са сьцягамі далучыліся да нас, увайшлі ў залу, да сцэны. Але ў зале яны доўга не затрымаліся. N. загадаў ім выйсьці – не паслухаліся, папрасіў Бураўкін – выйшлі. Ля труны засталіся Міхась, я, сын Б(ыкава) Сяргей і N.. Міхась дастаў з кайстры падрыхтаваны сьцяг – была дамова накрыць В(асіля) У(ладзіміравіча) ім. N. кінуўся – нельга. “Такая воля родных і В(асіля) У(ладзіміравіча)”. Накрылі ніз труны сьцягам. N. да сына – здыміце! Сам баіцца. Сын адмовіўся, а потым падышоў і... паправіў. N. загадаў прынесьці чырвона-зялёны сьцяг, прыбраць крыж і паставіць у галаву сьцяг... Д(ом) Л(ітаратара) – поўны вайскоўцаў – рота ганаровага каравулу, кажуць, і людзей у “цывільным” <...>. На адпяваньне нікога не пускаюць. Барадуліна затрымліваюць у дзьвярах. Ён прарываецца са злом: “Я – Барадулін!..” Прыходзіць Ірына Міхайлаўна – удава – і загадвае прыбраць са сцэны ч(ырвона)-з(ялёны) сьцяг: “Васіль гэтага не любіў...”... Усё... Гуляка – міністр культуры – кажа: “Тогда государство отсюда уходит...” Рота ганаровага каравулу зьнікае, застаюцца асобы ў цывільным, зала патроху напаўняецца людзьмі. (Адпяваньне між тым ідзе – адпявае ўніяцкі сьвятар айцец Казімір.)

Усё далейшае – звалілася на нас.

Найперш на Алеся. Трэба было тэрмінова рыхтаваць прамову, як весьці паніхіду – гэтыя тры гадзіны прапускаю... Для нас быў важны момант вынасу цела. Мы ведалі, што каб не дапусціць “маніфестацыі”, улады думалі адразу з парогу Д(ома) Л(ітаратара) труну ўпіхнуць у катафалк. Таму і настойвалі, каб яе несьлі жаўнеры. Мы планавалі заняць “важнейшыя” мейсцы: крыж нясуць Бураўкін і Барадулін, партрэт – Алесь, вечка труны – Эдзік, Міхась, Кудравец і я, маўляў, труну давядзецца несьці за крыжом... План гэты адпаў са зьнікненьнем, “зыходам” дзяржавы з пахаваньня. Працэсія з ДЛ адразу накіравалася на пляц Перамогі. Даішнікі рух не спынілі, як было раней дамоўлена: няма загаду. І тады наперад выйшлі хлопцы з БНФ. І калона пайшла да пляца Якуба Коласа. Людзей было – тысячаў 20, ня менш. У асноўным моладзь, хоць былі і бабулькі, дзяды. Але моладзі старшакласнікаў і студэнтаў – адсоткаў 70... Шмат сьцягоў. Людзі разумелі, што адбываецца. Кіроўцы спыняліся, сігналілі. Даішнікі колькі разоў паспрабавалі спіхнуць калону на ходнікі (потым казалі, што FM-станцыі перадавалі: міліцыянты накіроўвалі транспарт зь іншых вуліцаў на прасьпект, каб гнеў тых, хто стаяў у “корку” быў большым). На пляцы Я(куба) К(оласа) замоўленых аўтобусаў для родных, сяброў (для вянкоў, урэшце, якіх больш за сотню) не аказалася. Быў толькі катафалк. Людзі былі гатовыя несьці труну да саміх могілак, але прайсьці за ёю не змагла б жонка В(асіля) У(ладзіміравіча). І таму труну пагрузілі ў катафалк... Да могілак ішлі гадзінаў тры. Пры ўваходзе жанчыны засьпявалі “Магутны Божа”. Паніхіда пачалася недзе ў 16.00. Прыблізна без 15 ці без 5 сем вечара Быкава пахавалі...

У Д(оме) Л(ітаратара) выступалі: Алесь П(ашкевіч), (Рыгор) Барадулін, укр(аінец) (Вячаслаў) Мядзьвідзь, (Генадзь) Бураўкін, (Валянцін) Тарас, (Валянцін) Аскоцкі (рус), немец (не запомніў імя), (Аляксандар) Лукашук – гучаў голас Быкава...

На могілках: Алесь П(ашкевіч), (Сяргей) Законьнікаў, (Анатоль) Кудравец, (Мікалай) Чаргінец, (Уладзімер) Арлоў, ксёндз, адпяваў уніяцкі сьвятар...

Потым – жалобная вячэра... Нягледзячы на сум і смутак, панавала стрыманая прыўзьнятасьць: нягледзячы ні на што В(асіля) У(ладзіміравіча) ўдалося пахаваць насуперак ціску дзяржавы, годна, па-беларуску...

26.06. Учора дамоў вярнуўся позна. Тэлевізар не пасьпеў паглядзець. Жонка Алеся запісала: БТ перадало, што апазіцыя, насуперак хрысьціянскім традыцыям, насіла труну зь целам Быкава па Менску і пахавала яго позьнім вечарам... Як цынічна! А што – ім трэба апраўдвацца. Армія чыноўнікаў ды вайскоўцаў прайграла жменьцы пісьменьнікаў і ўдаве Быкава... А галава дзяржавы, замест разьвітаньня з Вялікім сынам Беларусі, зьехаў у “планавую” паездку ў Сьветлагорск. Пракол. У народзе толькі і гавораць: як ён мог не разьвітацца... У СП зрабілі заяву супраць цынічнага і брудна-брыдкага асьвятленьня пахаваньня па БТ (настояў Міхась). І добра зрабілі, хоць выступілі зноў у піку дзяржаве, бо ўвечары па БТ чыноўнікі казалі адваротнае. Асабліва стараўся N. Не ведаю, як пасьля гэтага зь ім сустракацца...

27.06. Мы з Алесем думалі перарабіць усю працу да 20-га і пайсьці ў адпачынак, як жартавалі – “за свой кошт”. Жартавалі, бо дагэтуль у СП не атрымалі ні капейкі... Але – ўсе гэтыя дні нічога не рабілася. І працы навалілася... Жах. Пазваніла Люда (жонка) – заўтра прыедзе. Думаў, пакуль іх ня будзе, што-небудзь зраблю, напішу... А атрымалася, што і спаў за гэты час лічаныя гадзіны... Каму сказаць...

Нарэшце змаглі пад’ехаць у друкарню і забраць частку чацьвёртага нумару. Страшна задаволены. Нарэшце ўдалося зрабіць тое, чаго мы хацелі... Цяпер можна з поўным правам сказаць, што часопіс ёсьць...

Увечары трохі выпілі з Алесем... На разьвітаньні з Быкавым – не пілі, Алесь трымаўся, я быў за рулём... А тут – усё адразу. За В(асіля) У(ладзіміравіча) трэба было выпіць, каб зямля яму была пухам... Стому зьняць... А яшчэ – часопіс...

28.06. Ня піў і піць ня буду. Як цяжка! Ранкам ледзь падняўся. А трэба Люду з Антосем сустракаць. За рулём адчуваў, што на сітуацыю на дарозе – амаль не рэагую... Дзякуй Богу – ўсё абышлося.

29.06. Сем’ямі, з Алесем П(ашкевічам) паехалі на Вілейку, да вады. Файна. Смажылі сала. Намачылі ногі... На зваротнай дарозе сустрэлі дзядзьку Алеся...

30.06. Панядзелак. Шмат мітусні і дробных спраў. Стамляюся...

1.07. Стома такая, якой не было і ў “ЛіМе” некалі. <...> Ня ведаю, ці вярнуўся Дубавец з вандроўкі. Дарэчы, надвор’е было – як летась. Жартам думалася нават: чаму пахаладала і дажджыць? Ды таму, што Д(убавец) у вандроўку пайшоў... Летась падчас вандроўкі па Віцебшчыне ранкам уставалі з шэранью на вусах, так холадна было. І навакольле ўсё было белым ад шэрані, пакуль сонца высока не падымалася. І гэта ў чэрвені. (Дарэчы, а Шніп – адпачываць паехаў, як заўсёды – у дождж і холад...) Адзін цёплы і сонечны дзень – дзень пахаваньня В(асіля) У(ладзіміравіча).

2.07. Хранічная стома...

3.07. У дзяржаве – сьвята. Дзень Незалежнасьці. Госпадзі, хто надумаў

Дзень вызваленьня Менску назваць Днём Незалежнасці... <...> Адно добра: на "дзяржаўным" узроўні гавораць пра Незалежнасьць як пра сьвята...

Выехалі ў лес. Знайшоў першыя грыбы: лісічкі, абабкі... Як люблю я "ціхае паляваньне". Як камфортна мне ў лесе...

4.07. Паседжаньне Праўленьня Літфонду. Справы дрэнь. Але Слава Корбут узяўся за гуж. <...>

N. на паседжаньні раптам спытаў: "А ці праўда, што труну сьцягам накрыў сын Быкава, як пра тое пісалі газеты? Я ж бачыў, што..." Так... Усё ён бачыў... Не накрываў сын. Міхась дастаў сьцяг са сваёй кайстры і мы накрылі ім ногі Быкава, дасталі з-пад сьцяга партрэт і паставілі наверх. Міхася найперш заслуга. Бо з гэтага і пачаўся "зыход" дзяржавы. А сын – я сказаў N. – падышоў і паправіў сьцяг, калі N. кінуўся да сына з мольбамі зьняць сьцяг... Сын не зьняў сьцяг, як прасіў яго N., і на тым малайчына. Вельмі цяжка было яму: з усіх бакоў ціснулі. І найперш улады: казаў увесь вечар тэлефанавалі, ноччу будзілі, угаворвалі хаваць "на дзяржаўным узроўні": з ганаровым каравулам, аркестрам, салютам... Але сам Быкаў быў супраць усяго гэтага... І сын ведаў... Больш за тое, Быкаў не прымаў "дзяржаўны" сьцяг, а тут была ўмова – ніякіх <...>, толькі чырвона-зялёныя... Сын устаяў... А потым прыйшла Ірына Міхайлаўна і са сцэны зьнік чырвона-зялёны разам з N.... Сёньня N. спрабаваў даказаць, што "чырвона-зялёнага" не было на сцэне побач <...>. Быў. Я ж сам да яго падыходзіў і казаў тады ж, што яму тут ня месца, бо такая воля Б(ыкава) А Ч. мне: "Я лучше знаю волю Быкава...", – са злом, з дрыжачай галавой... – проста нярвовы цік...

Не апазіцыя тады перамагла. Быкаў перамог. І N. гэта разумее...

5.07. Паўдня пабыў адзін дома. Файна. Пасьпеў зрабіць больш, чым за тыдзень...

6.07. Вучоныя кажуць, што дэпрэсія – будзе самай вялікай хваробай у бліжэйшай будучыні. Не СНІД, не рак, і атыповая пнеўманія, а дэпрэсія... У нас гэтая хвароба прагрэсуе даўно. Варта выйсьці на вуліцу менскую, глянуць на твары людзей, каб жахнуцца: колькі суму і пакуты на іх. Уяўляю, як жахліва бачыць твары беларусаў замежнікам – французам, немцам...

А мы ад дэпрэсіі сёньня зьехалі ў лес. Лячуся лесам. Грыбоў ды ягадаў, праўда, знайшлі зусім трошкі. Але ж не па іх мы ехалі...

7.07. У СП – закрут. Хоць ты не заходзь. Дурдом. Называецца – праца на «грамадзкіх пачатках». Бясплатна. *(Неабходны каментар: магчыма, варта было зрабіць гэта раней, але тут тым болей – за ўвесь час працы мы не атрымалі ад дзяржавы ці яшчэ адкуль ні капейкі. Першыя нейкія грошы атрымалі толькі тады, калі ў "Дзеяслове" зьявілася нешта на рахунку. Больш за тое Алесю Пашкевічу, як старшыні, давялося прайсьці праз суды: былая старшынька Вольга Іпатава адразу ж пасьля зьезда, на якім Алеся абралі старшынём, падала на Алеся ў суд за тое, што апошнія паўгода яна ў Саюзе не атрымлівала заробак... Пра тое, што вінаватая ў гэтым сама і ейныя папярэднікі, нават не падумала...)* А колькі часу ды нерваў забірае. Людзі абсалютна нічога ня хочуць разумець. Нават пісьменьнікі. А што казаць пра "ваяўнічых графаманаў". Паўзуць і паўзуць. Прыйшоў нейкі мужчына. Відаць адразу – нешта з галавой. На стол паклаў зь дзясятак патрапаных кнігаў. "Прыміце, – кажа – у СП, вось мае кнігі". Перакладае іх: "Вось Анатоль Франс – гэта я напісаў, вось Гюго – таксама я, Булгакаў, Кербабаеў, Сідараў... – усё гэта я... Калі мала, я яшчэ прынясу...". Ледзь па-добраму зь ім разьвітаўся. А хлопцы кажуць, прыходзіла жанчына, якая прасіла аванс і трохі грошай, а яна напіша пад іх ўсё, што захочам: вершы, раманы... Ідуць пенсіянеры. Ідуць "дэмакраты" кшталту Якавенкі, <...>... І ўсе ў нутро лезуць...

8.07. Калі сам не зробіш – ніхто і не паварушыцца... Колькі казаў і прасіў забраць рэшту чацьвёртага нумару з друкарні, але пакуль сам ня зьедзіў... Абрыдла трохі – ды куды дзенешся... Праўда, Славу (Корбута), які абяцаў гэта зрабіць, загрузілі зараз па вушы. Шкада мне яго... Але, можа, што і зробіць. А тут яшчэ з Адміністрацыі ў Саюз папера прыйшла: праект распараджэньня прэзідэнта аб “безвозмездной” передачы Дома творчасці “Іслач” ва Упраўленьне справаў прэзідэнта... Поўнае бязмежжа. <...>. Дапрацаваліся ...

9.07. Дзень у задніцу... Мы з Алесем збіраліся з 20-га чэрвеня быць у “адпачынку”. Заўтра – 10-е. Ліпеня. А справаў – непачаты край. Трэба кідаць усё і зьязджаць... А таму сёньня дарабіць асноўнае. Па дробязях.

10.07. Зноў мітусьня. Раптам пазванілі з тэлебачаньня. Запрашаюць на запіс перадачы пра літаратуру сёньня. Вядучы Глобус. Доўга думаў, ці згаджацца. Баяўся правакацыяў... Ужо і згадзіўся: нам цяпер і антырэклама – рэклама. Трэба свяціцца... А потым патэлефанаваў дахаты. Бацьку зусім кепска. Чакаюць. Зачакаліся. І вырашыў я ехаць дамоў...

11. 07. З раніцы паматаўся па Менску з апошнімі справамі, і ў вёску выехалі толькі каля трох гадзінаў дня. Дарога цяжкая: разоў дзесяць выскоквалі “гоншчыкі” лоб у лоб... Спыніліся глянуць ці ёсьць грыбы. І трэба ж так: менавіта там, дзе стаяла машына і знайшоў я адзінага на ўвесь лес грыба...

12. 07. Як у вёсцы цягнецца час... Які доўгі дзень! Як усё блізка і хутка... Зьезьдзілі ў Хойнікі. Потым у лес па чорныя ягады на “вушкі” (так называюць у нас варэнікі, якія так смачна гатуе мама). Потым купацца. Між гэтым – чытаньне, ляжаньне, ежа... А дзень усё не канчаецца. А на гадзіньніку – усяго пяць гадзінаў. Паехалі на рыбалку. Пасядзелі з вудамі. Нічога не злавіў, апроч трох пячкурыкаў, якіх адразу ж адпусьціў... А цяпер – паплавок у вачах скача...

13.07. Адпачываю. Чытаю. Пра Расію, якой не было. Павучальная кніга.

14.07. Антось зламаў руку. Упаў з дрэва. У Хойніках наклалі гіпс. Зрабілі здымак: косьці трохі не сыходзяцца. Вырашылі: заўтра раненька ехаць у Менск... У хаце – стрэс, сьлёзы. І баба, і дзед расстроеныя...

15.07. Не адпусціла нас вёска ў Менск. Выехалі гадзінаў у пяць. Але ад’ехалі ад хаты сто метраў і машына заглохла. Я адразу здагадаўся, што нешта ня тое з палівам. Перад ад’ездам, яшчэ ў паўцемры, спрасонку, дакладней пасьля бяссоньня, бо Антось плакаў і ня даў заснуць і на хвілю, заліў 20 літраў саляркі. Калі заліваў – адчувалася, што нешта ня тое. Аказалася – фактычна вады... Увесь дзень рамантавалі машыну. З Гомеля прыехаў мой сябар дзяцінства, а цяпер швагер – сястры Люды, якая пабралася зь ягоным братам Іванам – Вася. Дапамог. Зрабілі, што маглі. Але ехаць у Менск нельга. Патрэбны яшчэ запчасткі.

16.07. Усё парушана. Пасьля пазаўчарашняга і ўчарашняга баліць галава, сэрца... Кепска. Такія падзеі... Зьезьдзілі ў Хойнікі па таблеткі ды па прадукты – заўтра ў мяне дзень нараджэньня.

17.07. Мне 44. Добра, што сустракаю свае дзьве чацьвёрткі дома, сумна, як заўсёды. Але яшчэ сумней было б у Менску. Адзінока. Бацькі ды сям’я – жонка і два сыны – вось усё, што я нажыў...

Некалі, тут, у, вёсцы, безнадзейна хворы, я марыў дажыць хоць бы да 2000-



га году, які бачыўся мне нейкаю вехаю. Дажыў. І бацькі, дзякуй Богу, дажылі. А жыццё як было цяжкім...

Дарэчы, усе гэтыя дні па тэлевізары дзед з бабай глядзелі “Славянскі базар” зь Віцебску. Я ляжаў у другім пакоі, чытаў і міжволі слухаў. Якая срамата, якая ганьба... Сёньня быў заключны канцэрт, дык толькі расейцы і прасьпявалі па-беларуску песьню. А беларусы – па-руску ўсё... Як прыкра. Украінцы свой дзень і сьвяточны канцэрт зрабілі па-ўкраінску выключна. А нашыя і вядуць па-руску і сьпяваюць па-руску... А ўласна беларускіх сьпевакоў наўмысна не запрасілі. Круглова (з “Крыві”) на тэле абуралася. <...>. А “Славянскі базар” атрымаўся найгоршым, найсьціплейшым: канвульсіі нейкія, агонія...

Дарэчы, быў і яшчэ ўдар па беларусчыне – так і хочацца сказаць: на гэтым тыдні. З 12 ліпеня на FM па ўсёй Беларусі гучыць расейскамоўнае радыё “Радыус”. І тут, у вёсцы, таксама. Як жа трэба ненавідзець усё беларускае, каб так яго вынішчаць...

18.07. Вёска дэградуе. Кожны раз, прыязджаючы, усё мацней заўважаю гэта. Вёска разбураецца. Вёска сьпіваецца. Вёска ўсё больш ператвараецца ў паселішча гультаёў ды... бамжоў. Пад “вёскай” я тут разумею ня ўласна сваю родную вёску, а ўвогуле – усю вясковую Беларусь... А значыць, разбураецца ды сьпіваецца ўся Беларусь.

19.07. Трэба вучыцца жыць. Трэба вучыцца бачыць толькі лепшае. Трэба часьцей усьміхаецца... Трэба. А ў мяне кожная маршчынка на твары – сум... Ад самоты, а не ад радасьці...

Бацька зусім ня той, які быў яшчэ пару месяцаў таму. Зусім слабы. А выпіваць хоча. Сёньня асмялеў наогул – выпіў грамаў дзьвесьці гарэлкі. Баюся за яго: ня ўмее ён стрымлівацца...

20.07. Машыну нарэшце падрамантавалі, ад’язджаем у Гомель, а потым – праз пару дзён – у Менск... Бярэм і Алеся (сына).

Па дарозе машына пару разоў глохла: далася ёй тая вада ў салярцы. Ах, хлопцы-хлопцы, лепш бы проста папрасілі ў бацькі гарэлкі, калі выпіць хацелі, а то падсунулі яму каністру вады, а не саляркі, а я ноччу не расчаломкаўся і выліў у бак... Цяпер машына мая – ужо ня тая, што была.

21.07. З Гомелю зьезьдзілі да цешчы ў Прысно. Усё ж радыяцыя там моцная. Накідваецца на сьвежага чалавека: сама нагадвае пра сябе... Ні з таго ні з сяго пачынае балець галава, навальваецца стома і санлівасьць... Думаў, толькі ў мяне, аказваецца, і ў Люды, і ў хлопцаў... Зьезьдзілі на Сож. Алесь пакупаўся, а мы з Антосем вуду закінулі, каб яму ня сумна было. Злавіў ён дзьве рыбкі – і задаволены быў, прынамсі, не шкадаваў, што не купаўся...

22.07. Вярнуліся ў Менск. Сустрэў нас дожджык. Першы ўбачаны намі за апошні час. На Гомельшчыне – засуха. Па дарозе пару разоў спыняліся ў лесе – суха, грыбоў няма, пасохла ўсё. Хоць людзі на дарозе і стаяць з поўнымі вёдрамі грыбоў – прадаюць. Бяруць недзе ў сваіх мясьцінах...

23.07. Здарылася найкепскае. Антосю ўсё ж трэба руку выпраўляць. Дзень – па паліклініках ды бальніцах. У дзіцячым хірургічным цэнтры Антосю пад наркозам паспрабавалі ўправіць руку – потым зрабілі здымак, аказалася, ня толькі не выправілі, але і другую косьць (зламана дзьве, але адну ў Хойніках склаў хірург дакладна, а другую – не зусім) зрушылі... Заўтра трэба рабіць паўторна... Сэрца баліць, як думаю пра Антосіка... Цяпер ноч. Люда засталася зь ім у бальніцы – дзякуй Богу, ня выгналі, бо, каб пакінуць яго аднаго там – якая траўма была б... Ён і ў вёсцы ўвесь час ноччу пра маму згадваў... Сям'я падзялілася напалам. Мы з Алесем дома, Люда з Антосем у бальніцы...

24.07. Глядзеў перадачу пра Платонава і думаў: лёсы паўтараюцца.

І чалавечыя, вядома, але думаў я пра лёсы творчыя.

Чаго не хапіла Платонаву, каб стаць пісьменьнікам №1 на савецкай тагачаснай прасторы. Няўжо "раскруткі"? Няўжо вінаваты ён сам, што ня дужа цікавіўся "рэкламай" самога сябе, як па магчымасьці рабілі іншыя тагачасныя творцы? Ці можа сам стыль ягоны для выбраных?

І апошняе – таксама. Але быў у яго час, калі бліснуў ён зоркаю, калі сорамна было яго ня ведаць. Бліснуў і... Усё ж занадта палітызаваны ён, каб быць вечным. Да таго ж, што тут, пэўна, самае важнае – Сталін яго неўзьлюбіў. *(Неабходны каментар: Так... Бо што такое ў тыя гады атрымаць ад Сталіна надпіс на тваім творы: "Сволочь!"...)*

Зрэшты, калі я яго чытаю, мяне ня дужа цікавіць зьмест твора, часам я нават і забываюся пра што чытаю, губляю сюжэт... Я купаюся ў стыхіі ягонай мовы, ягонай непаўторнай стылістыкі, будовы сказаў... У гэтым – у стылі ды мове – ягоная перавага над іншымі і... ягоная загана. Гэта яго пакідае ў вялікай рускай літаратуры і выштурхоўвае зь яе. Але, ўпэўнены, значнасьць яго ды іншых такіх пісьменьнікаў (пачынаючы мо зь не заслужана адсунутага Ляскова) будзе з гадамі расьці (асабліва калі кампутары ці штучны інтэлект навучацца пісаць самі, без чалавека...) *(Неабходны каментар: во, блін, прыемная згадка дваццаць гадоў таму на зары кампутарызацыі ды інтэрнету з мабільнікамі пра "штучны інтэлект", пра які сёньня не гавораць толькі птушкі, і якім так палохаюць, бо не толькі пісьменьнікі застануцца без працы...)*

А што да лёсу... Літаратура ў сьвеце рэдка была асноўнай працай і крыніцай дзеля існаваньня. Яшчэ радзей слава заспявала класікаў жывымі. Найчасьцей яна спазьнялася...



25.07. Зноў вяртаецца поўны змрок. Зноў абыватáль ненавідзіць беларускую мову. Быў момант – дзевяностыя – цярпеў, нават “стараўся” зразумець. Быў час – васьмідзесятыя (канец) – хваліў тых, хто “прыгожа” размаўляе па-беларуску і “паважаў”. Цяпер зноў – нянавісьць. У чарговы раз сутыкнуўся зь ёю ў краме... Прыкра... І ідзе ўсё <...> ад коскі ў сказе, не, нават ад друкарскай фарбнай памаркі ў тэксьце, якая хоча быць коскай... (Любіць нельга ненавідзець...)

***

Як часта сьняцца мне мае напісаныя ў сьне аповеды. Я ўжо іх ведаю, пазнаю, шкадую... А прачнуся – няма іх... І нявыдадзеныя кнігі, якія ў сьне – выдадзеныя, і кожны раз сьняцца як вядомыя з папярэдніх сноў і таму рэальныя, бо ўжо былі, бо яны – працяг, а не пачатак... І калі б у мяне з дэтэктарам маны падключаным спыталі пра гэтыя кніжкі, я сказаў бы, што яны ёсьць, і дэтэктар пацьвердзіў бы, што гэта – праўда... Бо гэта і сапраўды так: яны ёсьць. Хай сабе і ў сьне.

26.07. ...Ну і няхай потым кусаюць сябе за локці, што такога пісьменьніка прахаўкалі...

Бог, даўшы чалавеку няведаньне, калі прыйдзе ягоны (чалавека) апошні дзень і час, зрабіў мудра. Але. Адсюль вынікае адзін з асноўных хібаў чалавецтва ўвогуле: пакідаць на потым тое, што трэба і варта, неабходна зрабіць сёньня, цяпер, зараз. І як вынік – самае галоўнае людзі так і не пасьпяваюць зрабіць. Скажам, аддаць належнае сваім геніям...

27.07. Па-ранейшаму ніяк не выкараскаюся зь нейкае псіхалагічна-эмацыйнае яміны – з дэпрэсіі (якую ўрачы паціху пачынаюць называць “хваробай XXI стагодзьдзя”). Нічога не магу, рабіць. Да камп̓утара проста алергія.

Кепска мне, кепска.

Тое ж і Люда. Таксама ў дэпрэсіі. І з-за Антося таксама, як і я...

Сёньня з Пашкевічам і выехалі да Вілейскага вадасховішча. Файна. Лес, вада – але мала было, каб выпаўзьці зь яміны...

28.07. Ніколі не сумняваўся, што Бог ёсьць. Дакладней, ёсьць тое, што людзі, не разумеючы ягонай сутнасьці, называюць Богам. Але заўсёды лічыў, што дзеля кантактаваньня з Богам, непатрэбныя нейкія пасярэднікі ў выглядзе папоў ці сьвятароў, мо таму, што на сваю бяду сярод Божых служкаў не сустракаў людзей мне сімпатычных (апроч хіба ўніяцкага айца Ігара зь Берасьця). Адсюль і вынікае мая ўпэўненасьць, што вернікі ў будучым будуць абыходзіцца без гэтых пасярэднікаў. Вера ў Бога рэч інтымная, асабістая і не паказная.

А ўвогуле – усе рэлігіі сёньня фактычна выпрацавалі свой патэнцыял і патрэбна нешта новае, патрэбна новая «ўстраска» чалавецтва, можа, новы Месія... Тыя, хто зь неба назірае за намі, (ці Той!), павінны гэта разумець. Хрысьціянства (ды і мусульманства) выканала сваю місію. Мусульманства ўвогуле пачынае перараджацца ў тое, што супярэчыць ягоным асновам. Любоў да Бога (Алаха) не павінна ператварацца ў чалавеканенавісьніцтва, у нянавісьць да іншаверцаў.

Самі людзі нічога не прыдумаюць. Яны знаходзяцца на такой стадыі, што могуць толькі сапсаваць нешта дадумваючы, а не разьвіць. Разумнейшыя зь людзей маглі б падказаць штосьці тым, хто знаходзіцца на ніжэйшай ступені разьвіцьця. І тое – зыходзячы з уласнага вопыту... Вынайсьці ж новую рэлігію, якая, як некалі хрысьціянства, дала б універсальныя законы маралі на тысячагодзьдзі наперад, людзі не здольныя. Заблытаюцца ў падрабязнасьцях...

Увогуле, трэба абсалютна новы падыход. Такі новы, якім была Кніга (Біблія!) 2000 год таму... І Месія, які мог зьдзіўляць... Чым можна зьдзівіць сёньняшніх людзей?.. Пэўна, тым, што мы не адныя ў Сусьвеце. Але гэта, думаю, у планы Тых (Таго), хто над намі, ні ў якім разе не ўваходзіць. Пра гэта, пэўна, мы павінны даведацца самі... Зрэшты, тут я гляджу з пункту погляду еўрапейца, які "адкрывае", а не якога "адкрываюць". А калі паглядзець, калі не з боку афрыканца альбо індзейца, дык з боку кітайца альбо індыйца, то хто каго адкрыў? Нічога страшнага, пэўна, што цябе "адкрываюць" ня з мэтай каланізаваць (праўда, чалавецтва іншых мэтаў ня ведае – спадзяюся, пакуль ня ведае).

А ўвогуле думкі такія прыйшлі мне ў галаву ад адчуваньня таго, што дзясяткі апошніх гадоў мы топчамся на месцы і патрэбны нейкі прарыў, скачок наперад. Якасны. Як у тэхніцы... Хоць, можа і тут я памыляюся, бо не заўважаю чагосьці важнага, што адбываецца сёньня...

Чалавецтву трэба кансалідавацца перад скачком у космас. А для гэтага трэба ўсім адчуць сябе найперш зямлянамі, а потым ужо беларусамі, амерыканцамі, немцамі... Страшныя рэчы кажу я, як прадстаўнік малой нацыі. Бо ня выжыць ёй у часы "кансалідацыі", бо "кансалідацыя" (глабалізацыя) ёсьць вяртаньнем у дабіблейскі, дававілонскі час аднамоўя... А можа, ува мне проста гаворыць адчай? Адчай чалавека, якому абрыдла бачыць, як вынішчаецца родная мова, ён хапаецца за ідэю, што гэта толькі пачатак працэсу, што рана ці позна – усе там будуць і ўсіх чакае пакутнае паміраньне іх роднай мовы...

Заўтра для рускіх, немцаў, а, мажліва, і ангельцаў зь кітайцамі таксама стане гэта аб'ектыўным працэсам, ад якога нікуды не падзецца. Аднак сёньня для беларусаў, на жаль, гэта не аб'ектыўны працэс, бо за вынішчэньнем беларускай мовы сёньня стаіць не час, не рэальнасьць, а канкрэтныя людзі, якія кіруюцца, зноў жа, не аб'ектыўнай рэальнасьцю, а пэўнымі намерамі... На жаль...

Але – вярнуся ў пачатак. Ужо сёньня відавочна, што праблема не ў выжываньні ўсяго чалавецтва. Людзі ўсё больш і больш робяцца індывідуалістамі і думаюць толькі пра сябе, пра сваіх блізкіх і не далей за тое. Патрыятызм разьвіваецца не ўшыркі, а ўнутр. Не ад сябе, сям'і да роднага краю, краіны, Зямлі... а – да сям'і, сябе... А гэта вядзе да разбурэньня...

29.07. Я ніколі не прымушаў сябе пісаць. Сваё. Хапіла прымусу і падчас журналісцкае працы, дзе хочаш ня хочаш, а ранкам трэба было пакласьці на стол рэдактара тэкст...

Ніколі не прымушаў і не зьбіраюся рабіць гэта. Прымушаю хіба, сілаю саджу сябе, бывае, зрабіць запіс у "дзёньнік". Раблю гэта цяпер – каб ня страціць "форму".

Можа, і дарэмна гэта. Пэўна, трэба садзіць сябе за стол сілай, каб пісаць, пісаць, пісаць... А можа, і не... Хай будзе, што будзе. Хай будзе мала, але без прымусу...

30.07. Гара з плеч. Урач сказаў, што ў Антося ўсё добра будзе з рукою, больш яе ня трэба ламаць (выпраўляць)... І адразу нібыта стома адышла. Нават папрацаваў трохі. Баюся толькі, каб не расслабіцца зусім і не здацца... Бо пасьлязаўтра трэба ехаць у вёску.

31.07. Пазваніў (школьны) сябар – Сашка. Зь вёскі. Прыехаў з Масквы, дзе працуе міліцыянерам. Колькі ж гэта мы ня бачыліся? Гадоў 13... Палова дзяцінства

побач. Другая палова. Бо першая, да бальніцы, занятая іншымі сябрамі – тым жа Васькам – якія пайшлі наперад, а я адстаў на тры гады... Сашка зьязджае другога. Я заўтра еду ў вёску. У нас будзе вечар. Не – ноч. Не ўяўляю, які ён. Я дык зьмяніўся моцна. Хоць сябры мяне яшчэ пазнаюць – тыя, з кім дзясятак-другі гадоў ня бачыўся. А ўвогуле – галоўнае – душа не старэе і мы застаемся маладымі і ў сорак, і пяцьдзесят, і ў сто...

1.08. Дома. Прыехалі пад вечар. Адразу да Сашкі. Мент нават зьнешне – і паходка, і "стаць". Пасядзелі. Вярнуліся да маіх. Усе разышліся спаць. А мы праседзелі да пяці раніцы. Пачулі першых пеўняў, другіх. Убачылі, як хутка развіднела. Гаварылі, гаварылі, гаварылі... І пра нашае, і пра іхняе. Жыцьцё. І пра нашага, і пра іхняга. Погляды, вядома, розныя. Ён служыць, я – не. Мне прасьцей. Кажа, што зьмяніўся пасьля інсульту, які "зарабіў" у 35. Стаў спакойна глядзець на жыцьцё і перастаў быць "рэвалюцыянерам". І мне раіць супакоіцца, бо "ад нас нічога не залежыць". Такая вось "філасофія". А ў цэлым – добра – родная душа... І ў яго не было, падобна нічога лепшага за тыя школьныя гады. На жаль...

2.08. Увечары сабраліся адзначыць бацькаў дзень – 70: родныя, сваякі, суседзі, сябры... Сям'я сабралася разам – дзеці, унукі... Бацька быў шчасьлівы... А мы з сястрой Валяй пагаварылі потым: а што добрага мы бачылі ад яго за жыцьцё. Ці было ў нас дзяцінства з-за ягоных п'янак ды боек з мамай?.. Як ён жыў? І сам не жыў і іншым не даваў. І ўсё, чаго мы дабіліся – толькі дзякуючы маме, яе цярпеньню і мудрасьці... Валя нават сказала, што без яго, з мамай, мы жылі б толькі лепш. І выжылі б... А ён і сёньня, у свае 70, пасьля нядаўняга інсульту, ня стаў ні разумнейшым, ні лепшым...

Сашку я ранкам завёз у Хойнікі на аўтобус да Гомеля. А з Гомеля, на бацькаў юбілей, прыехаў іншы мой сябар дзяцінства – Васька, цяпер яшчэ і сват – Люда (сястра) выйшла за ягонага брата Ваню. За стол старэйшыя вырашылі сядаць пасьля таго, як вернуцца з пашы каровы і іх падояць – пасьля васьмі гадзінаў вечару, пад дзевяць. Васька прыехаў пасьля пяці. Кажа – сёньня адкрыцьцё паляўнічага сезону (а ён – знаны паляўнічы). Не стрымаўся, хоць на пару гадзінаў – на балота... Паехалі. Узялі Алеся. З Васем паехала і ягоная жонка. Цікавы ў іх метад паляваньня на качак. Жонка за рулём на іх "Аудзі", а Васька перад расчыненным вакном са стрэльбай. Едуць уздоўж канавы. Калі ўзлятаюць качкі – стрэл... Вось так палююць сучасныя палешукі... Праўда, гэтым разам нічога ўпаляваць не ўдалося, хоць Вася пару разоў і стрэліў. Потым ішлі ўздоўж канавы. Дарогу перабегла казуля, Вася не бачыў і яна схавалася ў траве. На матацыклах пад'ехалі чацьвёра паляўнічых з суседняй вёскі. Агледзелі разам "клетку" (так у нас называюць луг-зямлю паміж канавамі і сапраўды – клетку, квадрат) і ўбачылі на ёй двух казуль. Вырашылі акружыць... Зрэшты, навошта я гэта падрабязна пішу... Бо, урэшце, казулі ўцяклі. І ніхто нічога не ўпаляваў. А па дарозе назад пастралялі проста па імправізаванай мішэні... Потым імяніны. Як прыгожа сьпяваюць велікаборцы! І якія файныя песьні!

3.08. Дзень адпачынку. Гадзінаў з адзінаццаці зноў сабраліся "госьці" – так у нас прынята – пахмяліцца. Пасядзелі...

А размовы – хочаш ня хочаш – а ўсё роўна не-не ды і круцяцца вакол яго: як ставішся і г.д. Я вёску ведаю добра, таму стараюся пазбегчы гэтых размоваў. А ў іх: "Я вельмі люблю ПЖ", "А я яшчэ больш люблю ПЖ", – як у фільме "Кін-дза-дза"... Файны фільм. На ўсе часы... Хоць вёска ўжо ня тая. І за яго можа не прагаласаваць. Горад не прагаласуе, бо кепска жыць, а вёска – пенсіянеры найперш – бо адносна добра. А беларусы, як ні парадаксальна, асабліва вясковыя, якраз ад дабра – дабра яшчэ большага і шукалі заўсёды...

4.08. Дома. Цяпер ужо ў Менску. Згадваў размову з Сашкам. Глядзеў тэлевізар. Фільм быў пра тое, як “недабітыя” “белагвардзейцы” ды “захад” у 20-я гады мін(улага) ст(агоддзьдзя) адзін перад адным – хто менш – адлічвалі гады, што засталося правіць бальшавікам... Голад, разбурэньне – канец усяму, казалі: год-два працягнуць, ня болей... Партфелі дзялілі. А бальшавікі засталіся на 70 год. А і сапраўды ж безвыходная сітуацыя была... Думаю пра наш час. Амаль тое ж. І пачынаю сумнявацца <...>... І думаю: добра, што сумняваюся. Калі б сумняваўся ў адваротным, тое было б бесперсьпектыўным. А гэтае – дае надзею. Бо ў мяне заўсёды было наадварот. Толькі пачынаў думаць пра нешта як пра даўгавечнае, як гэта не спраўджвалася.

5.08. <...> Хачу напісаць колькі рэчаў. Кшталту ўставак у “Экспрэсе”. Толькі там пра адзіноту, а я хацеў бы пра шчасьце, сьмерць, радасьць, расчараваньне і г.д.

6.08. Трэба адпачыць. Стома сабралася невыносная, трэба экстрым. Як летась... Толькі так падумаў, як пазваніў Сяргей Дубавец і прапанаваў прайсьці на байдах – ад Давыд-Гарадка да Турава. Сама тое. Абрадаваўся. Але тэрміны... З 10 па 17. А мы ўжо дамовіліся 13 ехаць у Летуву. І адмовіцца мне ніяк нельга. Хрэнова. Адчуваю – гэта мой апошні шанец адцягнуцца, але... А лепшае, што было летась, – гэта нашая з Сяргеем вандроўка па Аўсянцы на Віцебшчыне...

7.08. Нярвовы дзянёк. Паседжаньне Літфонду. <...>. Якія яны ўсё ж наіўныя там, у адміністрацыі. Сталін быў хітрэйшы. Спачатку даваў, прыкормліваў, а потым патрабаваў. А гэтыя хочуць, каб самі перад імі на каленях поўзалі і сапернічалі, хто ніжэй. Нізашто. За ўяўны страх. А ўяўны страх – самы страшны і самы небясьпечны...

8.08. Усе планы – у задніцу. Лета прапала. Колькі разоў казаў сабе – калі хочаш, каб нешта збылося, ніколі не плануй яго...

Зноў у яміне.

Праседзеў каля тэлевізара. Каб прыйсьці да высновы: калі хочаш чагосьці ў жыцьці дабіцца, выкінь з хаты тэлевізар...

А там паказвалі ў тым ліку і чарговую планёрку – рознае. Жніво, панімаеш. І губернатары дрыжэлі, як хлопчыкі. І называў іх – Коля ды Саша... Брыдка. Ніхто ня ўстаў і не сказаў, што яму сорамна ў гэтым удзельнічаць... А я жартам падумаў, што там, сярод таго “начальства”, вельмі не хапае старшыні СБП. Хораша глядзеўся б... Справа не ў Алесі, а ў “ідэалогіі дзяржавы”.

9.08. І ўсё ж, хоць на дзень, выбраліся з Алесем сем’ямі адпачыць... Да Нёману, да сядзібы Наркевіча-Ёдкі. Файныя мясьціны. Ад сядзібы, праўда, засталіся толькі руіны. Але і яны ўражваюць... Нёман там толькі пачынаецца: зьліваюцца за сотню метраў адтуль Лоша ды Уса, і “бацька” неглыбокі зусім – па калена, можна штаны закасаўшы перайсьці на другі бок. Але вада – чыстая, чыстая...

Найлепш захаваліся сьцены цэнтральнага будынку сядзібы і брама. А на былым панскім доме, на вышыні прыблізна трэцяга паверху, кубло бусьлінае, і ў ім двое ўжо цыбатых бусьлянятаў – ураждвае.

...А кажуць – буслы прыносяць шчасьце гаспадарам...

Мо прынясуць яшчэ?

10.08. Геніяльнасьць Быкава ў тым, што ён быў заўсёды своечасовым. Дакладней, тое, што ён пісаў – пісалася якраз на патрэбу дня. Востра – так. Сьмела – так. Аднак гэта якасьці публіцыстыкі. А калі літаратуры – дык толькі савецкай, якая і памерла разам з Саветамі.

11.08. Пачаў рабіць – сур'ёзна – пяты нумар. І зноў дзіўлюся: файны будзе. І па імёнах, і па зьмесьце. Які ўсё ж у нас вялікі патэнцыял! У баларусаў і беларускай літаратуры.

12.08. Лепшыя людзі ў холдынгу паціху сьпіваюцца... Горка. Віця Ш(ніп) ды Бадак трымаюцца, пэўна, з апошніх сілаў... А мне падумалася, што "Дз(еяслоў)" зьявіўся вельмі своечасова: інакш і ім жыць было б не цікава. А так – нібыта нейкае суперніцтва... У піку "Дз(еяслову)" – маладых вакол сябе зьбіраюць ды друкуюць. А то – тапталіся б там толькі гора-"класікі" кшталту Карызны ды Скобелева зь Мятліцкім, якія маладых на стрэл не падпусьцілі б.

13.08. Усё-ткі едзем у Летуву. Наважыліся і адважыліся... А тут зноў патэлефанаваў Сяргей Д. і прапанаваў вандроўку. Аказваецца, на мінулым тыдні, з 10-га – яны не пайшлі. Калі ўсё добра будзе, па вяртаньні зь Летувы абавязкова пайду. Лепшага адпачынку, чымсьці на байдах па Беларусі, я ня ведаю...

14.08. Ноч у дарозе. Мяжа. Мытня. Вільня. І ранкам мы ў Палангзе, на беразе Балтыкі. Горад як вымер. Толькі па ранішнім холадзе і дажджы прабегла пару босых "спартсменаў" ды прайшло некалькі дужа нечым незадаволеных жанчынаў... Удзень горад ажыў... Спыніліся мы ў дужа прыемнага хлопца – літоўца, які быў жанаты на беларусцы (яна якраз тут адпачывала з сынам – Валера, зь якім мы з Алесем паехалі, ведае яе сястру)... Былі на моры – шторм, вывешаны чорны сьцяг, але людзі купаліся. Я не адважыўся. Праседзеў на беразе. Згарэў на сонцы – пякучае яно тут. Уражаньне: у параўнаньні нават з Крымам – тут сьціпленька... Грошай у дзяржавы няма, а бізнес, як нам сказалі, пускаць да мора ня хочуць. Баяцца, у тым ліку і расейцаў. У каторы раз згадаў ня добрым словам Панамарэнку, які адмовіўся ад далучэньня да Беларусі Калінінградскай вобласьці. Быў бы ў нас выхад да мора – быў бы іншы менталітэт. Зрэшты, літоўцы – зусім не марская нацыя – у адрозьненьне ад латышоў ды эстонцаў. Няма ў іх марскіх традыцыяў. Лес іхняя стыхія... Увечары горад расквітнеў. Напоўніўся народам – яблыку няма дзе ўпасьці на цэнтральнай вуліцы. Праз кожныя дваццаць метраў – кавярня. Народ гуляе... Праходжваецца, піва п'е – курорт, што і казаць...

15.08. Клайпеда – рынак не працуе. Праехалі зноў паў-Летувы. Раней я тут не бываў. Што зьдзівіла: старыны зусім няма. Я ўяўляў сабе Летуву карэнную, глыбінную, багацейшай за Віленшчыну. Аказваецца, не: там, на Віленшчыне, сканцэнтравана культурная спадчына <...>.

У Марыямпалі купілі тое, дзеля чаго ехалі. У іх тут таксама сьвята – дзяржаўнае. І заўтра будзе. Усё зачынена. Абменьнікі не працуюць. Міліцыянты (паліцыянты) запатрабавалі ад нас штраф за няправільную стаянку – выключна ў літах – аб'езьдзілі ўвесь горад, каб памяняць...

На ноч спыніліся пад Алітусам на беразе Нёмана. *(Неабходны каментар: вырашылі мы з Алесем зарабіць на перагоне машынаў – жыць то неяк трэба, а на рэдагаваньні ды выданьні кніг асабліва не заробіш. Таму і адважыліся на такі варыянт: сабралі, пазычылі, склаліся і задумалі купіць машыну на продаж. Самі б не здагадаліся, але быў прыклад сябра Алеся Валеры, які гэтым заняўся раней. Аднак у нас з гэтага нічога не атрымалася. Добра хоць, што ўкладзеныя грошы змаглі вярнуць. Праўда, праз больш чым паўгода...)*

16.08. Ноч была дзікая. А дзень яшчэ страшнейшы... Гэта ж трэба было дадумацца, дамовіўшыся купіць машыну, спыніцца начаваць з немалымі грашыма ў лесе... Рызыканты, птамаць. Доўга ня мог заснуць – хоць перад тым добра пасядзелі каля вогнішча на беразе Нёмана ў файнай мясціне... Потым сніліся кепскія

сны. Цесна, холадна ў машыне... Дзень езьдзілі па Алітусе, пакуль нарэшце не атрымалі дакументы на машыну. Потым яшчэ неабходны рамонт, бо машына пасьля аварыі. Дарога да мяжы. На мытні летувісы прычапіліся: машына, хоць і бітая, амаль новая – хабару захацелі... Выкруціліся, але нерваў згарэла...

І толькі ў Менску, ля дома, Алесь сказаў мне, што Люда (жонка) у бальніцы.

Сяджу дома адзін – тры гадзіны ночы. Хлопцы ў Акуліных. Люда ў бальніцы, і што зь ёй, ня ведаю...

17.08. Ранак патраціў на тое, каб даведацца, дзе ж Люда: яе забрала “хуткая”. Так і не дабіўся: на ўсіх тэлефонах альбо хранічна “занята”, альбо ніхто не падымае трубку... Паехалі наўздагад – і знайшлі: у рэанімацыі, у 8-ай клініцы. Зрабілі аперацыю ўчора... Казалі, каб яшчэ пару гадзінаў – было б позна. А Люда ж два апошнія тыдні хадзіла ў паліклініку, і ўрач ёй там траўкі піць выпісвала, а на УЗІ адправіць не здагадалася... Такія ў нас урачы – якраз пакаленьне постсавецкіх “блатных” падасьпела... Спадзяюся, самае страшнае ззаду. Але Людка зусім слабая... Трымаецца... Аднак... Госпадзі, за што такое гора?

18.08. Антосю гіпс не зьнялі. Зрабілі меншы. Сказалі яшчэ тыдзень насіць.

20.08. Прыехала сястра Валя. Былі ў Люды ў бальніцы.

21.08. Апошнія сілы пакідаюць. Прыязджала сястра Люда. Пабыла ўсяго 3-4 гадзіны.

Стома.

22.08. Люда дома. Кажа тут лягчэй. Сам ведаю па сабе. Але – зусім слабая. Яшчэ не прайшло і тыдня пасьля складанейшай аперацыі. Згадваю сябе ў такім становішчы. Памятаю, як цяжка вяртацца да жыцьця – адаптавацца. Цяжка пачынаць усё з пачатку ці спачатку. Падчас наркозу сьвет твой сыходзіцца ў адной кропцы – у мозгу: там увесь ты – адная плямка. Потым прыходзіш у сябе, расплюшчваеш вочы, і сьвет твой пашыраецца: да прасторы палаты, паверху, бальніцы, потым гораду... Потым. Бо з бальніцы страшнавата выходзіць у гэты сьвет. Бо адчуваеш, наколькі чужы навакольны сьвет твайму сьвету ўнутранаму...

23.08. Як добра, калі ёсьць сябры. Як цяжка жыць, калі іх няма. Як кепска, калі рэдка бачышся. Дзень сёньня прабылі са Шніпамі – Віцем і Людай. Засталося ўражаньне, што, пры ўсіх акалічнасцях, няма бліжэй за іх нам людзей у Менску. Галоўнае – яны засталіся людзьмі творчымі. І грошы зарабляюць толькі літаратурнай працай. Такіх сёньня няшмат.

24.08. Колькі дзён таму патэлефанаваў Разанаў і сказаў, што трэба сустрэцца. Сустрэліся. Ён даў праспект Фонда Бёля і параіў паспрабаваць патрапіць туды. Намякаў, што гэта рэальна, бо была размова... Кажа – там класна. Можна жыць бесклапотна чатыры месяцы. І пісаць. Плоцяць добрыя грошы. Усё так. А я вось каторы дзень не магу сесьці і напісаць ліст, які я харошы і дастойны. Хоць там, кажа Разанаў, як прадстаўнік Беларусі, жыве нейкі араб – іранец... Прыгадаў я яго: прыходзіў у Саюз, як праваабаронца, і выпатрабаваў у Алеся нейкую паперу ў абарону нейкага “палітвязьня” – пісьменьніка. Цяпер у Германіі трасе паперай і дзейнічае ад імя СБП... *(Неабходны каментар: так і не напісаў той ліст-заяўку. І, адпаведна, нікуды не паехаў. Як ехаць, калі ў сям'і столькі праблем, як пакідаць жонку адну, хворую, з двумя малымі дзецьмі на руках. А тут яшчэ “Дзеяслоў”. Як кінуць: угаварыў хлопцаў – і ў кусты, у Германію... Ня ведаю, цяпер шкадую ці не. Паехаў бы, магчыма, зусім па іншаму склаўся б мой лёс. Творчы. Бо той, хто паехаў за мяне, па сканчэньні адной “стыпендыі” адразу знайшоў другую, потым*

*трэцюю і “завіс” у Еўропе на гады... Як Алексіевіч ці той жа Разанаў і шмат хто яшчэ. У Еўропе такіх фондаў і стыпендыяў для пісьменькаў – тысячы. Варта толькі зачапіцца... А я і ад усіх іншых прапановаў, якія былі потым шмат разоў, адмаўляўся дзеля працягу працы над “Дзеясловам”. Дурань...)*

25.08. Трэба вяртацца да працы. А ня хочацца. Пабыў у СП. Яма. Ублёўталіся мы ў дзярмо. Прыкра. Брыдка. Улады ўсё чакаюць, што мы да іх на каленях прыпаўзем, што служыць будзем. “Как далеки они от народа...”. <...> Бачаць у нас тых, каго хацелі б бачыць: намалявалі сабе партрэт паслухмяных <...> і іншых – нармальных людзей – у нас ня бачаць. А мы прагінацца ніколі ня будзем. Нават за грошы. А тут – хочуць, каб бясплатна... Дурнота... <...>

26.08. Віктар Хурсік даслаў сваю кнігу. Кнігу-артыкул пра тое, як партызаны падчас вайны спалілі вёску зь людзьмі (дакладней, адну вуліцу вёскі – выселкі). Бывала такое, але... <...> гэтую прыкрую староначку – “забылі”, у атрадным дзёньніку вырвалі. А людзі тое памятаюць – тыя, што выжылі, дзеці памятаюць, як маці забівалі, як іх хату палілі “свае”... Вядомы дасьледчык прафесар Іофе пра знакаміты атрад імя Кутузава не адзін опус напісаў, а пра гэты эпізод – маўчок. <...>.

***

А яшчэ быў запіс на Радыё Свабода. “Дыскусія” пра рэформу правапісу, што адбылася роўна 70 гадоў таму. Саветы ў 33-м годзе апамяталіся, што занадта шмат волі далі “нацыяналістам” і пачалі згортваць “нацыяналізацыю ўскраінаў”. “Тарашкевіцу” наблізілі да расейскай мовы – утварылі “наркамаўку”. Я цікавіў як рэдактар “Дз(еяслова)”, што прапанаваў свой варыянт правапісу – “дзеясловіцу”. Удзельнічалі Бушлякоў, Саўка, Скалабан. Казалі пра гісторыю, што датычылася канкрэтных зьменаў. Мне, як слухачу, было цікава, але тут я быў лішнім. Думаў, казаць будуць пра вынікі “рэформы” і пра сёньня... Паспрабаваў павярнуць размову – ня дужа ўдала: да таго, што правапісныя зьмены пацягнулі за сабою зьмены ў лексіцы (русіфікацыя: замест “ліст” – “пісьмо”, замест “вогнішча” – “касьцёр”, спачатку піянерскі, а потым і ўвогуле і г.д.), і вымаўленьні (“снег” замест “сьнег”...). Сабою незадаволены.

У Антося зьнялі гіпс.

27.08. Віта Яфіменка. Аднакурсьніца. Прыехала з Канады, куды эміґравала пару гадоў таму. Сустрэліся. Зразумеў адно: мне зьязджаць нікуды ня варта. Трэ паміраць тут. (Праўда, зразумеў я гэта яшчэ тады, калі не паехаў працаваць на Сахалін...) У Канадзе добра канадцам, а нас там <...> і сапраўды ніхто не чакае. Віта гаворыць, што шмат хто, можа, і вярнуўся б, але куды вяртацца? Перад ад’ездам тут усё прададзена. Ды і сорамна... Так і жывуць... Уцякалі, зьязджалі ад псіхалагічнага ціску, ад непакою за будучыню. А там – не лягчэй. І нашыя праблемы адтуль падаюцца дробнымі.

У “ЛіМе” – “трагедыя”: Бондар зьняла з нумару юбілейны артыкул да 50-годдзя (Уладзімера) Арлова. Шок. Бо маразм. Ідыятызм, якога і за савецкім часам не было. Віця нібыта расстроены: цень падае і на яго. А я гляджу на сёньняшніх “лімаўцаў” і думаю: мужыкі вы ці бабы? Я ня змог бы стрываць такое бязьмежжа: паўстаў бы, ляпнуў бы дзьвярыма, паспрабаваў бы адстаяць... А тут цішыня. Віця кажа: а што мне рабіць, звольняць – куды ісьці? Маўчу: а куды я пайшоў? Кожны выбірае сам. <...>...

28.08. Ох-хо – дзянёчак... Праехалі па крамах, каб сабраць дзяцей у школу. З-за хваробаў адклалі ледзь не на апошні дзень – заўтра “лінейкі” і ў Алеся, і ў Антося. Алесь перайшоў у іншую школу. Вымушана. Цяжка яму з ягоным

характарам. Настаўнікі любяць бойкіх, нахабных, хітрых... Гэта іхні ідэал вучня. І называецца тое актыўнасьцю на ўроках. Алесь – маўчун. Ведае – а руку не падыме. Выклічуць неспадзявана – цярпеньне трэба настаўніку, каб выслухаць. Вучым яго вучым – ды не ягонае тое. Таленавіты хлопец – ён сябе яшчэ пакажа. Вось толькі лянота... Зрэшты, і сам я лянівы ня менш, толькі дазволь сабе... Можа, і ён з часам зразумее, што ёсьць слова “трэба”, і зьменіцца.

Заскочыў у СП, а там сустрэча з “прадстаўнікамі “Летувы”. Будзінас з Фядутам утвараюць у Вільні Беларускі Камітэт. СП ім трэба для “вагі”, для аўтарытэту. Мы ня супраць працаваць разам. І Б(удзінас) і Ф(ядута) мне падабаюцца. Чамусьці верыцца, што, думаючы пра сябе, яны не забываюць і пра Беларусь. Хочацца верыць, што і на подласьць адкрытую ня пойдуць, не здадуць. <...> Захад незадаволены палякамі і пераарыентоўваецца на Летуву: там народ больш сумленны. Дай Божа, каб так і было...

А закончыўся дзень найагіднейшаю сустрэчаю з Нілам Гілевічам. Згадваю – і брыдка... Старыя, як дзеці, ей-Богу... З Алесем павезьлі Нілу Сымонавічу гранкі ягонага артыкула з №5 *(Неабходны каментар: тэкст выйшаў толькі ў №7, бо Ніл Сымонавіч яго прытрымаў...)* Заадно хацелі пагаварыць пра публікацыю згадак Ф(ранцішка) Ведзьмака-Лысагорскага. Гаварылі асьцярожна – у дзеда гора: памерла жонка. А ён нас агаломшыў: я на вас пакрыўджаны, публікацыя ў “Дз(еяслове)” будзе апраўданьнем і таму я аддаў прызнаньне ў іншае выданьне... Што толькі я ні казаў, як ні пераконваў, каб ён не рабіў гэтага, згадваў нашую дамову, казаў, што тэкстоўку і ўсё-ўсё мы рабілі “пад яго”, што анансавалі, што зробім з гэтага падзею... Не паслухаў. Выйшлі, як абпляваныя... Агідна... Я добра ведаю Гілевічаў, ведаю, за што іх усе ня любяць. Але і думаў, што ён таксама ведае, што сяброў у яго няма, апроч нас, дзеяслоўцаў, і на такое ня пойдзе. Пайшоў. Не стрымаўся. Грошай, вялікага ганарару захацеў (намякаў на тое...) Ну і хай. Толькі як нам цяпер апраўдвацца перад чытачамі? *(Неабходны каментар: нумар чатыры “Дзеяслова” зь першым артыкулам – Аўрамчыка, дзе ніякім чынам не згадваецца магчымае аўтарства паэмы – мы гэта якраз пакінулі на наступны нумар – ужо здадзены ў друк, і мы нічога ў той “тэкстоўцы”, дзе абяцаем яшчэ адну публікацыю, зьмяніць ужо ня можам...)*

29.09. Ох, Ніл Гілевіч – няма спакою. Няма настрою працаваць. Гутарыў зь Міколам Сымонавічам – братам Ніла Сымонавіча, зь якім працаваў у “ЛіМе”. Ён на нашым баку. Абяцаў пагутарыць. Але – я бачыў вочы Ніла: ён ужо ўсё вырашыў і дарогі назад няма... Як паскудна...

У сыноў – лінейкі. Цяпер ходзяць у адну школу. Для Алеся гэта будзе ці не пятая... Пераезды... Пераезды... З Гомеля і па Менску. Цяжка яму было. Зь ягоным характарам. Ды што зробіш... Ды яшчэ – цалкам беларускамоўны ён ад пачатку, у садок пайшоў толькі ў 5 гадоў (раней ня бралі: прапіскі не было). Дзеці па-руску, спаяны калектыў ужо, а ён – па-беларуску. Абламалі.... Дагэтуль, бачу, прыйсьці ў сябе ня можа... Мы вінаватыя... Я. Хоць тады, здаецца, была беларусізацыя. Але недзе ў вярхах, а не ў садках...

30.08. Прызнаньне Ніла Гілевіча выйшла ў “Народнай волі”. Перакупіў Сярэдзіч. А дзеда апроч ганарару спакусіў яшчэ і наклад... Эх, як шкада... Хоць з “прызнаньня” вынікае, што – усё ж! – аўтараў у паэмы два, як ён ні пнецца ўсьцягнуць коўдру на аднаго сябе, ды адчапіць Аўрамчыка. Два – і адсюль таньчыць будзем, хоць мы, грэшныя, працавалі ад пачатку на аднаго Гілевіча. (Аддаючы належнае ў распаўсюдзе Аўрамчыку, адзіным аўтарам лічылі Гілевіча і тое хацелі давесьці да ўсіх. Тым болей, што і сам Аўрамчык назваў напісанымі ім усяго 8 радкоў паэмы...) Што ж – вінаватыя. І трэба вінавацiцца. Усё ж роля Аўрамчыка значна большая, чым думалася. Па-першае, радкі, напісаныя Аўрамчыкам засталіся, па-другое, шмат засталося ягоных радкоў, якія папраўлены Гілевічам (рэдактарская праўка ня ёсьць падставай дзеля прысваеньня аўтарства), па-трэцяе, “матэрыял”, фактуру пастаўляў

ён, па-чацьвёртае, ён рызыкаваў больш друкуючы тэкст з чарнавікоў Гілевіча і рассылаючы яго (Гілевіч тут, мякка кажучы, перастрахоўваўся, падстаўляючы між іншым былога палітвязьня-гулагаўца), па-пятае... Ды што там, як ні круці – аўтары два (гэта вынікае якраз з тэксту Гілевіча, як ён ні стараецца "адшыць" Аўрамчыка), і Гілевічу ня трэба сьпяшацца друкаваць тэкст у сваім Зборы твораў. Будзе скандал. *(Неабходны каментар: зноў жа – гэта напісана па сьвежых сьлядах, пад пэўны настрой, і таму, можа, занадта катэгарычна, а часам, і непатрэбна зларадна, бо крыўда на Н.С. Гілевіча была вялікая, бо ўсё пачыналася гэтак прыгожа і магло скончыцца прыгожа, калі б Ніл Сымонавіч пайшоў з намі да канца... На жаль, ня ведаю, сам ён, ці дабрадзеі, якіх хапала, нашапталі, але прыняў ён рашэньне зрабіць тое, што зрабіў. Хоць у мяне зь ім задоўга да "Дзеяслова", яшчэ ў "ЛіМе", куды ён прыносіў свае сатырычныя паэмы і перадаваў мне, а не свайму брату-рэдактару – была тут своеасаблівая "гульня", якую мы разумелі – адбылося некалькі размоваў пасьля прачытаньня мною тых паэмаў, што я ніколькі не сумняваюся, хто аўтар "Лысай гары", бо стыль, стыль – гэта чалавек, а тут усё на паверхні... Ніл Сымонавіч не адмаўляўся, а толькі загадкава ўсьміхаўся, і мая ўпэўненасьць, што Вядзьмак ён, толькі павялічвалася... А цяпер яшчэ лыжка дзёгцю: прызнаньне ці, дакладней, раскрыцьцё аўтарства знакамітай сатырычнай паэмы адбылося занадта позна для аўтара і тады, калі ўжо лепей было б, каб яна засталася ананімнай. Зрабіць гэта прыгожа можна было толькі так, як прапаноўвалі мы. Іначай зусім ня варта было. Калі б аўтар раскрыўся гадоў на дзесяць раней, магчыма, яго і чакала б слава. А цяпер, пасьля некалькіх публікацыяў у розных выданьнях ад "Вячэрняга Мінску" да "Крыніцы", дзе гэтай тэме быў прысьвечаны ледзь ня ўвесь нумар, стаўленьне да паэмы зьмянілася. Яе пачалі лічыць сатырай не на той час, а на пісьменьнікаў, якія і сапраўды паводзяць там сябе ня лепшым чынам – гэтакім творам-капусьнікам для ўнутранага карыстаньня. Да таго ж, большасьць герояў паэмы адышлі ў нябыт і імёны іхнія цяпер мала каму вядомыя, не засталіся нават у школьнай праграме, а кнігі паступова зьніклі ня толькі з кнігарняў, але і бібліятэк. А таму, мажліва, як ананімная, паэма магла б патрапіць у падручнікі, але як аўтарская – наўрад ці. На жаль, ці не – вырашаць ня нам... Ня ведаю, але, відаць, трэба назваць і яшчэ адзін момант, які быў не апошнім пры жаданьні аднаго з аўтараў раскрыцца: было адчуваньне, што адзін з тых, хто прэтэндаваў на аўтарства, меркаваў перажыць другога, каб потым адзіным аўтарам назваць сябе. Хто? Мяркуйце самі... Яшчэ раз прабачаюся, што дужа катэгарычны я ў гэтым запісе адносна Н.С. Гілевіча, але то была першая рэакцыя на падзею і таму пакідаю запіс такім, якім ён быў, спадзеючыся на разуменьне. Бо ўрэшце рэшт узаемаадносіны зь Нілам Сымонавічам у нас засталіся самыя цёплыя і сьветлыя – сяброўскія, можна сказаць, нягледзячы на розьніцу ва ўзросьце. Я часта бываў у яго дома і мы правялі нямала прыемных хвілінаў за размовамі. І калі яго ня стала, у мяне раз-пораз узнікала думка: што я сёньня не зрабіў? Ага, не пабываў у Ніла Сымонавіча... І толькі потым – горкая згадка: яго ўжо няма...)*

31.08. Калі няма пра што пісаць, пішацца пра тое, што было. Някляеў напісаў "раманчык" на 300 старонак пра свой жыцьцёвы "раманчык". Вельмі някепскі... Мы б яго надрукавалі ў "Дз(еяслове)", калі б можна было скараціць разоў у пяць... Бо пакуль ня можам сабе дазволіць тэксты з працягам на некалькі нумароў. Пачаў пісаць і я свой "раманчык" з таго, што было, а болей – з таго, чаго не было, падчас майго перабываньня на Сахаліне. Хачу пісаць "як пішацца" – плынь сьвядомасьці. І друкаваць, як напішацца – хай потым разьбіраюцца, што гэта такое...

1.09. Устаў раненька. Паехаў віншаваць дзяцей зь Днём Ведаў. Вельмі ж прасілі. Кінатэатр "Ракета" – поўная зала. Ніхто ня слухае: устойлівы гул, ад якога суха ў горле зрабілася. Неяк адмучыў 10 хвілінаў і сыйшоў... Паехаў на

лінейку ліцэістаў. Пры падыходзе да ліцэю тармазнулі 2 міліцыянты: "Забаронена". Перастрахоўка, а ліцэісты між тым сабраліся на вуліцы Кірава, у будынак іх не пускаюць... Думалася: што гэта робіцца? Адзіны белмоўны ліцэй, і той знішчаюць – зачыняюць, дзяцей выганяюць на вуліцу... Каму гэта трэба? <...> Маскве? Ёй. <...> Як можа ненавідзець свой народ, сваю гісторыю, сваю мову, каб рабіць такое... Ды ніякі прыхадзень такое не зрабіў бы і не рабіў бы...

Стаялі з Дубаўцом. Падумалася: усё вяртаецца да канца 80-х. Бо сярод прысутных большасьць – знаёмыя твары. Хіба дзеці – ліцэісты – падрасьлі. А так – нічога не зьмянілася, нібыта і не прайшло 15-20 гадоў...

Бабкоў запрасіў да сябе на вечар. Сабраліся Дубавец з Таняй, Акудовіч, хлопец-сацыёлаг сябар Бабкова (прозвішча не запомніў, як потым выявілася, аднакласнік майго стрыечнага брата Ігара – сына дзядзькі Алеся). Добра пасядзелі – як даўно не было, ці як бывала толькі ў Гомелі. (Зноў паўтор пройдзенага?) Не хапае мне такіх сяброўскіх "сумоўяў". Не хапае, але адвык і на гэтае ішоў без асаблівай ахвоты. Цяпер не шкадую... Шмат было сказана цікавага і варта-важнага... Запомнілася ж найбольш сьвежая думка Бабкова (у тосьце) пра тое, што мы, маўляў, хочам быць еўрапейцамі і рвемся ў Еўропу, але ўяўленьне ў нас пра Еўропу і еўрапейскасьць не адпавядае рэчаіснасьці. Лепшыя еўрапейскія розумы даўно адпрэчылі тое, да чаго мы нібыта імкнемся. І прыязджаючы да нас – нас не разумеюць. *(Неабходны каментар: ня ведаю чаму, але зь дзёньніка выпала важная і памятная падзея гэтых дзён – у школу, у першы клас пайшлі мой малодшы сын Антось, а таксама дочкі Міхася Скоблы і Алеся Пашкевіча – мы жылі тады ў адным доме ў менскай Малінаўцы. У беларускамоўны клас, які па нашай просьбе быў адкрыты ў гэтай школе. Біліся мы над гэтым з год, сабралі заявы яшчэ дзесяці бацькоў, і нарэшце дырэктар пагадзіўся. Але на лінейцы ён раптам абʼяўляе, што беларускамоўнага класу ня будзе... Што, як, чаму? І што рабіць? Дзеці плачуць... Доўгая гісторыя. А калі коратка – мы ўсё ж тады былі кіраўніцтвам адзінага Саюза пісьменьнікаў, які ўсё ж меў яшчэ нейкі аўтарытэт ды вагу, і дырэктар вымушаны быў адступіць пасьля званка яму... самога міністра адукацыі Беларусі. І нашыя дзеці шчасьліва адвучыліся ў гэтай школе па-беларуску.)*

2.09. Кінуў усё і паехаў зь Людаю ў грыбы. Бо лета прапала і восень праляціць можа гэтаксама незаўважна, і нічога не пасьпееш. Дзянёк выдаўся слаўны – пагожы. Бы апошні... Адвялі душу. І грыбоў назьбіралі, і адпачылі... Але – вярнуўся дамоў, а праца не зробленая, і ніхто апроч мяне яе ня зробіць. Трэ запрагацца...

3.09. Дзень ля кампутара. <...> Не дарабіў...

4.09. Дабіў. Падрамантаваў машыну. Ня сам, вядома. Я такі ж шафёр, як і кампутаршчык: сеў ды паехаў. І езджу, пакуль едзе... "Джып" летувіскі завіс, і грошыкі завісьлі. Кепска.

5.09. У бібліятэцы СП будуць "літ(аратурныя) курсы". Ліцэісты рыхтуюць два класы – цягаюць стэлажы, кнігі. Ніхто апроч СП ды Чырвонага касьцёлу да сябе іх не пусьціў. А дзецям вучыцца трэба. Будзе скандал, вядома, калі ў Адміністрацыі даведаюцца. Будзе. Але нам губляць няма чаго. Галоўнае, ліцэй захаваць, падтрымаць. Алесь (Пашкевіч) малайчына, адказнасьць узяў на сябе – прыняў рашэньне...

6.09. Неяк па-асабліваму стала адчувацца плынь часу – хуткацечнасьць яго: хочацца шмат пасьпець, выхапіць хоць бы кавалачак прыемнага... Таму зноў кінуў усё, угаварыў Алеся і паехалі ў лес. Далёка. На Астравеччыну... Заехалі да Мятліцкага, чым заўважна зьдзівілі яго, ня ведаю, праўда, ці ўсьцешылі. Не

шкадую. Прырода там – найпрыгажэйшая, стаміліся, праўда, ходзячы па лясах, але гэтая стома прыемная. Па дарозе назад – заехалі ў Крэва. У каторы раз зьдзівіўся махіне былога замку. Нават руіны ягоныя ўражваюць. Аднавіць бы. Летувісы ў Троках паднялі замак (пабудаваны, дарэчы, беларусамі) з падмурку. А тут яшчэ столькі сьценаў XIII-га стагодзьдзя засталося...

7. 09. Учора ўвечары, пасьля вяртаньня, даведаліся сумную навіну: у Івана Антонавіча Брыля памерла жонка. Тая ж хвароба, што і ў Гілевічавай, што і ў Быкава... Яшчэ год таму мы з Эдзікам былі ў іх у вёсцы на Нёмане – нішто пра бяду не казала... Іван Антонавіч годна ад нейкае дапамогі адмовіўся, адно толькі папрасіў дапамагчы дабіцца дазволу на пахаваньне на Кальварыйскіх могілках. Алесь узяўся. Каб лепей зрабіць, паехаў у Полацк на сьвяты бел(арускай) пісьмовасьці, дзе павінна было быць начальства – як-ніяк выходны якраз і ў Менску злавіць кагосьці было цяжка. У пяць гадзінаў вечару тэлефаную І(вану) А(нтонавічу) – ён расстроены: ніхто не дапамог (хоць Алесь у Полацку прасіў Дражына – цяпер віцэ-прэм'ера ўраду, і ён паабяцаў уладкаваць пытаньне, а ў Менску – N., які таксама абяцаў, але...): таму І(ван) А(нтонавіч) дамовіўся пахаваць жонку на могілках у Калодзішчах... Якая ганьба! Які сорам. Няўжо ніхто не разумее, што размова ідзе пра месца спачыну самога І(вана) А(нтонавіча)? І яго адсылаюць у Калодзішчы... І(ван) А(нтонавіч) кажа – хлопцы не турбуйцеся, я ведаю, якая ў нас дзяржава. І мы ведаем, але... Няўжо там нічога і нікога прыстойнага не засталося?

8.09. Ніну Міхайлаўну, жонку Івана Антонавіча, пахавалі на могілках у Калодзішчах. А значыць, там, побач зь ёю, занятае мейсца і для Народнага пісьменьніка, акадэміка, ветэрана вайны. Заўтра тыя, хто прыняў учора гэтае рашэньне – невядома чаму: з-за бюракратычнай абыякавасьці альбо перастрахоўкі ці па загадзе зьверху – апамятаюцца і будуць шукаць вінаватых... Мы ў СП – Алесь асабіста – зрабілі ўсё мажлівае і немажлівае, каб абудзіць тых, хто прымаў рашэньне, каб вярнуць ім цьвярозасьць. Казалі і пра палітычную памылку ў тым ліку. Не прыслухаліся. Ні N., ні Праляскоўскі (намесьнік кіраўніка Адміністрацыі прэз(ідэнта), ні Дражын (віцэ-прэм'ер), ні Нічыпаровіч (нам(есьнік) мін(істра) інф(армацыі)), ні міністр культуры, ні нам(есьнік) старшыні Менгарвыканкаму Пятрушын. (Адзін зь іх) перапытаў: "А в чём вопрос?.. А Бриль-то сам где похоронен..." Маўляў, жонку трэба пахаваць там, дзе муж... Алесь кажа: Брыль жывы, ён жонку хавае і хацеў бы мейсца на Кальварыі... Асекся чыноўнічак: перазваню. І звоніць дагэтуль... Прыкра. Брыдка. Паскудна-а! Такі плявок дзеду. За што? Чаго яны баяцца? Няўжо таго, што яго да Кальварыі, як Быкава, могуць панесьці на руках, а ў Калодзішчы – не панясуць... Пабойцеся Бога, N. et cetera... Не баяцца. <...>

На пахаваньні бачыў Гілевіча. Туляўся бокам. Я не зразумеў: ці то працяг "крыўды" такім чынам выказвае, ці то сорамна яму... Не стрываў, падышоў, паказаў гранкі артыкула са здадзенага ў друк нумара. Баюся, што перайграў... <...>

9.09. Сёньня і сапраўды толькі шчасьлівы чалавек можа дазволіць сабе ня мець дома ніякага тэлефону. Я ведаю толькі аднаго такога: А(натоль) Сідарэвіч... А сам я доўга супраціўляўся неабходнасьці мець яшчэ і "мабільнік". І вось здаўся. Сёньня.

10.09. Ох і цяжкі дзянёчак... А вечар... А ноч... Запісваю 11-га ранкам, на сьвежую галаву. Бо... Гэтым вечарам і ноччу абмяркоўвалі ў чатырох пяты нумар "Дз(еяслова)". І Міхась накінуўся на мяне за "няшчырасьць" адносна яго, што меркавалася ў №4. Ён скараціў Шніпавы вершы (колькасьць іх – да пяці), а я вярнуў зьнятыя ды яшчэ імя Віці на вокладку вынес... Скандал... Ох, ня хочацца пра гэта пісаць. Ня самы я горшы чалавек, а тым болей рэдактар, але... <...> мая бяда, што я ні з кім не хачу сварыцца, бо не хачу губляць сяброў: ні зь Віцем, ні зь Міхасём. <...>

А самае кепскае, што колькі і як я не тлумачыў хлопцам, каб яны актыўней падключыліся да працы над часопісам, усё роўна рабіць яго даводзіцца мне аднаму... Гэта ісьціна, супраць якой і Міхась не папёр... Мне трэба супрацоўнікі аддзелаў, а не карэктары, якім, часам, ёсьць Міхась, на жаль, і тым болей ня цэнзары-наглядчыкі, якім ён хоча быць... Але – навошта я гэта пішу?..

11.09. Дарэчы, важнаю тэмаю, якую абмяркоўвалі ўчора (сёньня) ноччу, была будучыня ліцэю – літ(аратурных) курсаў пры СБП. На нас пачаліся наезды. Улада зацікавілася: што там? Ціск ідзе найперш на Алеся. Мы збоку прыпёку. А яму трэба трымацца. І курсы трэба захаваць. Хоць у нас ніхто пытацца ня будзе: наляціць АМАП, і ўсё зачыніць... Вырашылі перастрахавацца: стварыць апякунскую Раду і наладзіць дзяжурствы пісьменьнікаў... Зранку Алесь гэтым займаўся. Даў згоду ў Раду ўвайсьці Есін – рэктар Маскоўскага літінстытуту. Пагадзіўся Брыль. Паехалі мы з Алесем да Шамякіна. Ведалі, што бесперсьпектыўна, але... Дзед колькі разоў паўтараў: пэўна, я па старасьці стаў баязьлівым, і адгаворваў ад стварэньня нейкіх курсаў, прасіў пайсьці да ўладаў – “шапка з вас не ўпадзе”. Увогуле было ўражаньне, што да нас у яго былі нейкія “хадакі” з канкрэтнымі прапановамі. Мы ж, атрымалася, прыйшлі скардзіцца на цяжкасьці. А я глядзеў на яго і думаў: <...> усё яшчэ хочаш перахітрыць самога сябе... А табе даўно пара ўжо думаць пра вечнае... Разьвіталіся. Кожны застаўся пры сваім...

Удзень у СП – Някляеў. Яшчэ ня зьехаў у Фінляндыю. Стомлены, змучаны, якім я ніколі яго ня бачыў. Стомлены маральна. Ад таго яшчэ – што дужа шмат ведае. Пра нашыя сёньняшнія “вярхі”. Ад бесперспектыўнасьці беларушчыны. Ад уласнага няўдзелу ў тым, што адбываецца: некалі і ён “вяршыў” лёсы, а сёньня апошнія сябры зь “нятворцаў”, што пры ўладзе, ад яго адварочваюцца... Усё заканамерна. Сказаў, дарэчы, што нядаўна быў зьбіты невядомымі С. Законьнікаў. І ў яго адабралі ўсе дакументы... па часопісу, які ён так і не стварыў... <...>

Дубавец адмовіўся пісаць пра В(едзьмака)-Л(ысагорскага). Кажа, не хачу быць “рэферы” між <...> Н. Гілевічам і Аўрамчыкам. А(ўрамчыка) хваліць за інтэрв’ю “Свабодзе”. Зірнуў. Экспрэсіўна. Моцна. Але адчуваецца, што дзед ня ведаў, што яго з тэлефону запісваюць не папярэдзіўшы. І таму казаў шчыра: “Гілевіч чакаў, пакуль я дам дуба, каб прысвоіць усё сабе”, “пры сустрэчы я дам яму ў морду” і г.д. Дарэчы, згадаў пра “Сказ” і Шамякін пры сустрэчы. Сказаў: дарэмна Гілевіч запісвае сябе ў дысідэнты. Паэма была нармальна ўспрынятая ў ЦК: передрукоўвалі і раздавалі ўсім (пра гэта і Дубавец казаў), Машэраў любіў чытаць гасьцям... А чаму б і не, бо, як казаў Дубавец, у паэме нічога, апроч зьдзеку над “пісакамі” і паказам іх у нялепшых абставінах, прыніжэньня іх – нічога няма... Шкада, але хай бы Дубавец і даў артыкул...

Дзень нараджэньня Алеся (Пашкевіча) – усімі забыты. А яму ўсяго 31...

12.09. Ходзяць сур’ёзныя чуткі, што “апазіцыя СП” з холдынгу мае намер стварыць свой Саюз. Абласны ці Менскі гарадзкі. На чале гэтага N. і, кажуць, Скобелеў. Але, нібыта, супраць Бондар і большасьць холдынгу, бо адчуваюць, што іх у чарговы раз хочуць скарыстаць. Чайка (цяпер г(алоўны) р(эдактар) “Нёмана”) прыбягала на Захарава, 19 і казала: “Пакуль няма Бондар, трэба стварыць Саюз”. Дзіўна, няўжо і праўда, што Бондар супраць? І яшчэ больш дзіўна, што апамяталіся яны толькі цяпер, праз год пасьля нарады на зьезьдзе, калі стала канчаткова зразумела, што ні дзяржаве, ні тым больш Скобелеву з N. ні СП, ні холдынг непатрэбныя. Яны – разьменная манета ў асабістай барацьбе за выжываньне і выслужваньне тых жа С(кобелева) і N. ... Асабліва пасьля пахаваньня Быкава... А N. яшчэ і адыгрываецца за тое, што яго не вылучылі на прэмію Саюзнай дзяржавы...

...Прыязджаў зь Берасьця Віця Карпік – сябар і аднакурсьнік, але пасядзець зь ім і пагаманіць не ўдалося. Шкадую...

13.09. Удалося пабыць – адцягнуцца! – у лесе. На Вілейшчыне. Кампенсую страчанае лета. Добра, што надвор'е спрыяе. Сёньня было так цёпла, як не бывала і летам. Аббегаў – не стрымаўся – свае грыбныя мясьціны. І ў адным адкайфаваў напоўніцу: прысядзеш зразаць адзін баравічок, а бачыш другога, трэцяга...

Менскія клопаты забыліся хоць на дзень. І гэта важна.

14.09. Усё ж моцна выбіў мяне з каляіны Гілевіч. Хоць цяпер думаю, што, можа, і добра, што так здарылася. Мяркуючы па рэакцыі на ягонае прызнаньне, мажліва, і добра, што надрукаваў яго не "Дз(еяслоў)". Мы засталіся цнатлівымі, захаваўшы ўсё ж таямніцу, не назваўшы аўтараў "Сказу...", а прызнаньне Гілевіча, апроч усяго выклікала і расчараваньне. І ня толькі ім, як чалавекам... Чамусьці цікавейшым у гэтай сітуацыі стаў Аўрамчык... <...>

...Каб пачаць пісаць сваё, мне трэба хоць бы пару дзён адпачыць, але пакуль не атрымліваецца...

15.09. Пачаўся наезд на "літ(аратурныя) курсы" – пры СП. Што і трэ было чакаць, што мы і чакалі, да чаго рыхтаваліся. Ціснуць на Алеся (Пашкевіча), як на кіраўніка і, як яны, пэўна, лічаць, на "самае слабое зьвяно". Але гэта зусім ня так. Алесь трымаецца годна. Нібыта захаваньне "курсаў", што на самой справе ёсьць ліцэйскія класы, справа ягонага жыцьця. Хоць і цяжка яму, і ёсьць за што зачапіць: прынамсі абарону доктарскай – не зацьвердзяць... Хто і калі ацэніць гэта? Навошта лішняя трата нерваў? Аднак няўжо і сапраўды сёньня ўсё сыходзіцца на нас і "лінія фронту" праходзіць праз нашыя сэрцы. Выстаім мы – выстаіць Беларусь...

<...> Ня клеіцца ў іх Саюз, а ў пятніцу расейскі прэм'ер падпісаў рашэньне аб продажы газу Беларусі па сусьветных рынкавых цэнах... У Сочы пачыналася ўсё як звычайна, а скончылася пшыкам. Такіх прэзідэнтаў – халодна-чырвоных, пастарэла-потных я яшчэ ня бачыў. <...>

16.09. Паехалі з Алесем (Пашкевічам) на Лысую Гару, каб "памацаць" (Алеся) Савіцкага і сёе-тое ў яго выведаць наконт стварэньня (расколу СП) новай пісьменніцкай арганізацыі, сітуацыі ўвогуле, страцілі паўдня.

Той бок, аказваецца, на чале са Скобелевым і N. робіць стаўку на Аўруціна. N. хоча адыграцца. Ні фіга не зрабіў у Літфондзе, ні фіга ня зробіць і тут.

17.09. У Дубаўца дзень народзінаў. Прыемна мне пра яго згадаць. Пэўна, лепшыя нашыя гады прайшлі ў Гомелі. Не-не, ды і засумую я па тым часе, па тым Дубаўцу, па тым сабе. Эх, сёньняшнія веды б ды туды б... А ўвогуле нам пашчасьціла жыць у гады, калі канала Расейская імперыя (савецкая), калі пачала будавацца Беларуская дзяржава. С(яргей) у размове згадаў мінулагоднюю паездку па Гомельшчыне: Чачэрск-Ветка-Гомель-Лоеў-Брагін-Хойнікі-Вялікі Бор-Глінішча-Юравічы-Мазыр-Каленкавічы... Згадаў нязлоўленага ў велікаборскай канаве ўюна, убачанага ў іншых рыбакоў. І я падумаў пра сябе: я апошні ўюн Хойніцкага раёну, а можа і Беларусі...

18.09. А машына зламалася сур'ёзна. Дзякуй богу, адрамантавалі своечасова. Бо без машыны я – як без рук... Але цэлы дзень убіў на рамонт.

19.09. Дзень у мітусьні. Такой, што і згадаць няма чаго. Сустрэчы і сустрэчкі. Адна радасьць – у П(эн)-ц(энтры) забраў пакінутую мне кнігу С(яргея) Рублеўскага. Пачытаў – класна, гад, піша. Адметна, пазнавальна. Разгорнеш, чытнеш радок – і не адпускае, зацягвае, блін. Змог хлопец узьняцца, вылезьці з жыцьцёвай яміны і пачаць пісаць. Рады, што ён цэніць і разумее, што ў нейкай

ступені дапамог яму вярнуцца ў літаратуру і я: у “Полымі” знайшоў ягоны аповед, што быў адкінуты, адпрэчаны, забыты, прачытаў і настояў, каб надрукавалі. І ўсе ўбачылі тады – што гэта і сапраўды някепска. Правіў я мала яго, можна сказаць зусім ня правіў, у адрозьненьне ад іншых, нават “класікаў”. Праўда, той аповед – “Бальнічка ў Хахлаўцах” – ня лепшы Сяргееў. Але – на той час – прахадны і заўважаны. Цяпер ён піша значна цікавей. Але ці прызнаецца, што спадзьвіг я яго на тое, у тым ліку і сваёй прозай.

Увогуле, дзіўная сітуацыя: чытаю маладых – Гапееву, Каляду – і бачу: зь мяне вырасьлі. Чыталі ж, вучыліся, а не прызнаюцца ніколі. Хутчэй “настаўнікам” сваім назавуць N. – хоць там ён і не начаваў – чым Пятровіча. “Хто такі Пятровіч? Падабаецца мне, – думае дзяўчо, – але чаму пра яго іншыя маўчаць? Можа, і я памыляюся?” – засумняваецца і прамаўчыць, а за кампанію N. назаве – іншыя ж называюць... Я ведаю, што мне трэба рабіць, каб прабіць сьцяну маўчаньня, але ня буду тое рабіць. Не хачу, не магу, няма сілаў... <...>

20.09. З А.Б. паехалі да яго на лецішча – у вёску Дараганава. Ці, дакладней, на чыгуначную станцыю Д(араганава), ці, можа, мястэчка. Адсюль родам паэтка Галіна Тварановіч, зь якою сёньня Пашкевіч паехаў у Польшчу.

Пасьпелі да цямна схадзіць (зьбегаць) у лес – суха, грыбы старыя, але трохі сабралі. Распалілі печ – у хаце грыбны дух. Файна. Знайшоў у Алеся на палічцы “Вобраз” за 1983 год. Чытаю. Балдзею. Толькі скончылася брэжнеўшчына. Ідзе андропаўшчына. І які файны альманах! Мы тады думалі, што ўсё зьнішчаецца, Беларусь гіне... А “Вобраз” выйшаў накладам у тры тысячы асобнікаў (і разышоўся), а ў ім – Адамовіч, Някляеў, Разанаў, Садоўскі, Рабкевіч... І рэчы такія, што я сёньня б у “Дз(еяслове)” надрукаваў, і за некаторыя маглі б яшчэ і ў нацыяналізьме абвінаваціць... Вось ужо сапраўды: вялікае бачыцца на адлегласьці. Але ж – якая імгла сёлета! Такога, пэўна, не было і да рэвалюцыі... Ліцэй зачынены, за бел(арускую) мову – міліцыянты арыштоўваюць, зьбіваюць <...>, на ТБ, на першым нацыянальным канале – усё па-расейску – ужо нават навіны...

21.09. Печ Алесева нам насушыла грыбоў. Не стрымаўся, адзін паклаў у кішэню. І па дарозе дамоў патрошку грыз – люблю...

22.09. Увечары сабраліся абмеркаваць новы нумар “Дз(еяслова)” – закрыць апошнія дзіркі. Былі Эдзік і Міхась. Алесь у Польшчы. Я доўга ня мог напісаць “слова ад “Дз(еяслова)” з тлумачэньнем сітуацыі вакол аўтарства “Сказу...”. Цягнуў да апошняга. Сёньня сеў і за дваццаць хвілінаў напісаў. Нейтральна. Без ацэнак (так хацеў, а як атрымалася – ня ведаю). Не чапаючы Гілевіча (хоць і варта было...) Шкада, што так выйшла: не сьцярпеў Гілевіч, захацеў быць аднаасобным гаспадаром “Сказу...” Прасіў я яго аддаць “прызнаньне” ў “Дз(еяслоў)” і не рабіць глупства. Мы б зрабілі з гэтага падзею, а ён атрымаў скандал. І ўмазаўся ў бруд. У той самы, у які некалькі ўмазаў амаль усіх пісьменьнікаў – герояў паэмы. Бумеранг... *(Неабходны каментар: слова ад “Дзеяслова” з прабачэньнямі на адрас чытачоў і аўтара(ў) паэмы было надрукавана ў №5 часопіса, дзе мы і планавалі надрукаваць паабяцаны нам артыкул з “прызнаньнем” М.С.Гілевіча...)*

Стала вядома, што стваральнікі новага СП – актывізаваліся. Лідэр – нібыта N.: навошта яму гэта... За год у Літфондзе ні фіга не зрабіў, хоць мы і спадзяваліся на яго. Не падтрымалі толькі ў адным выпадку – наконт вылучэньня яго на прэмію “саюзнай дзяржавы”, бо такой няма. І ён адразу “ў крыўду”. Што ж, нічога не зрабіў тут, нічога ня зробіць і там. Адзінае, што вельмі не хацелася б любога расколу. Можа паўтарыцца сітуацыя з холдынгам: ніхто ім нічога ня дасьць, праз год будуць кусаць локці, а справа – зробленая: СП, які і без таго на ладан дыхае, будзе развалены... Калі б ня холдынг, і сёньня “Полымя”, “Крыніца”, “Маладосьць”

мелі б і някепскія наклады і прыстойна напаўняліся б... Тое ж будзе і з новым Саюзам праз год, куды набяруць нікому не вядомых "творцаў"...

23.09. Юбілей. Год таму мы атрымалі сігнальныя асобнікі "Дз(еяслова)". Дакладней – увесь тыраж, каб назаўтра на зьезьдзе распаўсюджваць пачаць...

Сёньня здаў у друкарню 5 нумар. Чатыры за год – нямала, нармалёва, калі ўлічыць, што пачалі з нуля.

24.09. Увечары патэлефанаваў Бадак. Кіраўніцтва холдынгу нібыта хацела б аб'яднаць намаганьнні з кір(аўніцтвам) СП, каб нібыта нейтралізаваць Аўруціна з N. у іхнім стварэньні расейскамоўнага СП. Бо гэта раскол. Дзеля гэтага Бондар і К° хочуць стварыць гарадзкі СП (ці аддзяленьне СП), у які ўвайшлі б кіраўнікі СП і як прадстаўнік – я. Дурнота. Я супраць усялякіх новаўтварэньняў, бо яны звычайна злаякасныя... Доўга размаўлялі. Алесю (Бадаку) абрыд холдынг і ягоны "лідэр". Я яго разумею. Няймецца ім, славы хочацца, званьняў, грошай. А тут – дуля. Вакол дуля – задніца. І церпяць, пакутуюць з-за гэтага такія, як Алесь, Віця...

Алесь, дарэчы, напісаў класную паэму: даў у "Дз(еяслоў)". Надрукуем. Ёсьць радкі проста афарыстычныя...

Сёньня сваю "рэфлексію" пра Беларусь перадаў у "Дз(еяслоў)" (Анатоль) Бутэвіч. Я ўражаны: даволі дасканала, дужа прыстойна зроблена. Я параўнаў бы нават з малітваю, песьняю... Галоўнае, што зрабіў гэта – Бутэвіч, чалавек асьцярожны (нядаўні міністр і амбасадар). Няўжо сітуацыя зьмяняецца <...>? Як для Бут(эвіча) – рэч звышпатрыятычная. Я рады. І за яго.

25.09. Працяг учарашняга дня. Сустрэча з Бадаком: пра тое ж. Віця (Шніп) тэлефанаваў: Бондар прапануе мне ісьці да яе ў намесьнікі. Абсурд. Дужа многа на мне завязана, і я ня маю маральнага права нават размаўляць пра пераход у холдынг. Адмятаю адразу. Увечары размова зь Віцем. Бадак у "Маладосьці" будзе даваць ягоны дзёньнік часоў "Тутэйшых". Ці не зарана? Віця сказаў: я і цяпер усё фіксую. Будзе потым што пачытаць. Бадак казаў – Віцевы запісы нейтральныя – не Адамчыкавы. Віця і сапраўды не дае ацэнак – запісвае, што было: тым і цікавы.

У СП закрут зь ліцэем. Камендант прынёс паперу, што парушаецца супрацьпажарная бясьпека. Калі ня прымем меры – з панядзелка бібліятэку апячатаюць... Алесю П(ашкевічу), між тым, з-за ліцэя, учора на ВАК не зацьвердзілі абарону доктарскай. Рагойша, кажуць, на знак пратэсту падаў у адстаўку. ВАК павінен быў толькі выпісаць пасьведчаньне, а пераўтварыўся ў яшчэ адну рэпрэсіўную машыну...

Увесь дзень размовы пра сітуацыю з новаўтварэньнем СП. N. кажа, што ён ня мае ніякога дачыненьня да таго. Ня веру... Праўдзін настроены рашуча: горад можа даць грошы і ён пойдзе да канца ў стварэньні гарадскога аддзяленьня. Хрэн што дасьць горад, і ў іх у кішэнях "вшывая блыха" на аркане...

Вечарына Арлова. Які Уладзя ўсё ж майстар наладжваньня ўласнага іміджу. Усё прадумаў. Акцёр. Аж да віна ў кілішку... <...> усё класна, і ёсьць чаму павучыцца. Зала перапоўненая.

26.09. У бібліятэцы вечарына Кіпеля. Выступоўцы тыя ж, што і ва Уладзі. Новы толькі Гілевіч. Міхась Ск(обла), які вёў імпрэзу, зачапіў Н(іла) С(ымонавіча) ў прадмоўцы-прадстаўленьні. Згадаў выпадак 1966 г., калі Гілевіч падпісаў ліст супраць бел(арускіх) эмігрантаў "Не вам беларусамі звацца". <...> Напрыканцы Г(ілевіч) падышоў да мяне і аддаў карэктуру сваіх успамінаў, якую абяцаў прынесьці ў СП даўно. Скрывіўся, калі пачуў, што нумар ужо ў друкарні, але тэкст аддаў: у наступны. Наехаў на Аўрамчыка: стары маразматык – гэта самае цэнзурнае, што ён сказаў. А злосьць якая! Якая злосьць!.. Гэта яшчэ і пасьля публікацыі ў "Вячэрнім Мінску", пра якую мне сказаў Лёня Д(ранько)-М(айсюк). Дарэчы, з

кім ні гаварыў пра сітуацыю з "прызнаньнем" Ведзьмака, што пераўтварылася ў скандал, усе ў роспачы. У тым ліку і Лёня: зразумела, пісаў Гілевіч, але навошта Аўрамчыка так бессаромна адпіхваць?.. Удзельнічаў усё ж, распаўсюджваў... Лёня Галубовіч сказаў пра гэтую сітуацыю найлепей: некалі дзяды (Гілевіч з Аўрамчыкам) вымаралі ў г...не ўвесь Саюз, а цяпер – бумерангам – самі ў тое ж г...но патрапілі... Гілевіч мне ў крыўду: каб вы не справакавалі... Так, мы справакавалі, але спачатку да нас артыкул прынёс сам Аўрамчык... І ў чым мы схібілі? У тым, што да яго (Гілевіча) зьвярнуліся з прапановай напісаць у працяг адказ і, магчыма, раскрыцца? Ды ні ў чым не схібілі. У "Дз(еяслове)" не названы аўтар "Сказа..." – таямніца была захаваная. Ён сам у "Народнай волі" ніяк не згадаўшы "Дз(еяслоў)" – выскачыў са сваім прызнаньнем, як Пілip з канапель, дык прычым тут мы? Казаў яму: зробім адказ у "Дз(еяслове)" – будзе відаць, што так задумана, што гэта – акцыя. Зробім з гэтага падзею. А так...

27.09. Езьдзілі з Людай па крамах. Сьмешна, але я зусім дарваўся, абнасіўся. Надоечы апошнія штаны прасам прапёк. Выбар у крамах ёсьць, а набыць няма чаго. Дужа я прывірэдлівы. Настрой сапсаваў, нервы парваў. А тут яшчэ і грашовыя праблемы. Дакладней – безграшовыя...

Кепска. "Дз(еяслоў)" не дае ні капейкі. Наадварот – мае, з такой цяжкасьцю зробленыя, высмоктвае. Завёз <...> паўсотню. Ад сям'і адарваў. Люда ня ведае... А што зробіш. Мажлівых спонсараў <...> абтаптаў. Яму – далі, нам – не. У яго нічога не выйшла. Зноў нам горш: маўляў, усе беларусы такія – даваць ім грошы без толку... А тое, што мы робім на грамадзкіх пачатках – дурні. Усе, хто да нас – спачатку бралі грошы пад ідэю, выпускалі 1-2 нумары, а потым спасылаліся на цяжкасьці: цэнзурныя, палітычныя, эканамічныя і – з астатнімі грашыма яшчэ на дзясятак нумароў – у кусты. Цяпер такое стаўленьне ў грантадаўцаў і да нас. <...> Кепска. Брыдка. Навошта гэта мне.... Колькі часу трацíцца на "Дз(еяслоў)". Хто і калі гэта ўлічыць... Учора на вуліцы сустрэў <...>: п'яны, вольны... Жыве дзеля самога сябе...

28.09. А восень сёлета ўдалася – залатая. Зь дзяцінства такой не памятаю. І сёньня сонейка ўвесь дзень. Цяплынь...

А мне нешта неспакойна. Сны кепскія сьняцца. Як там мама?

Патэлефанаваў. Адлегла на душы: усё добра.

29.09. Ноччу вычытаў "Дз(еяслоў)". Спаць лёг пад раньне. Нікуды не пайшоў. Толькі ўвечары на сустрэчу з ам(ерыканскім) амбасадарам. Чужы я там. Хоць сам пасол спадабаўся. Нейкі ён дужа беларускі. І сум наш у ягоных вачах. Шкада яму нас – дурняў-беларусаў. Я ўяўляю, як бы я прыехаў у нейкую зімбабвійскую вёску – тое ж... А ён яшчэ, пэўна, бачыць і як здрабнелі мы ў параўнаньні з дзевяностымі...

Вярнуўся рана. Дома – званкі. Заўтра сход – аргкамітэт новага СП. Што рабіць? Як спыніць Бондар ад новых памылак? Ці магчыма, увогуле, яе спыніць? І без таго колькі дроваў наламала са сваім холдынгам. Сядзела б моўчкі. Дык не – далей лезе. І нібыта "благародна" цяпер – супраць расейскамоўных Аўруцiных...

30.09. Сход. Перад сходам гутарка з Бондар. Паспрабавалі з Алесем пераканаць не рабіць глупства. 30 хвілінаў нерваў. Бяз толку. Яе не пераканаць. У вачах ейных адчай. Год таптаньня на месцы і па ёй ударыў. Але ж не яна вінаватая, што нічога не атрымліваецца. Дзяржава ў нас такая. Ёй, дзяржаве, ніхто ня трэба. Ні яны, ні мы: ні холдынг, ні СП. І тым больш – новаўтварэньне, злаякаснае новаўтварэньне, бо пагражае расколам.

Сход. Абсурдныя пераконваньні. Зьдзівіла Баравікова. <...> Пачала несьці нейкую лухту. Маўляў, гарадскую пісьменьніцкую арганізацыю трэба стварыць,

бо... яна ня можа атрымаць кватэру ад СБП для сына, якому 30 гадоў і які ня жэніцца, таму што ў яго няма кватэры, а будзе гарадзкі СП, яна пойдзе да мэра Паўлава, і той дасьць кватэру... <...> І гэта яшчэ адно пацьверджаньне, што ніякіх падставаў для стварэньня новай арганізацыі няма... Шкада талковых хлопцаў і дзяўчат, што яшчэ засталіся ў холдынгу і якіх скарыстоўваюць Бондары ды П. у сваіх кішэнных мэтах – прэміяў, бачыце, захацелася... Бадак і Рублеўская, Федарэнка і Галубовіч трымаліся годна, пры галасаваньні – "устрымаліся", што ў іхняй сітуацыі – подзьвіг. Коўтун – прагаласавала "супраць" – мужнасьць. Я вось думаю: чаму так груба дзейнічае Б(ондар) і К°? Навошта ім уцягваць у бруд іншых. Стварылі б свой СП, а потым ужо прымушалі ў яго ўступаць... Зрэшты, няма пра што казаць: такога бязьмежжа і грубага ігнараваньня ўсялякіх законаў, у тым ліку і маральных, даўно ня бачыў.

У дзьве гадзіны з Эдзікам выступалі ў ліцэі БДУ. Здаецца, усё добра. Дзеці ў нас падрастаюць файныя. І Беларусь ім не чужая... <...> беларускасьць <...> ня зьнішчыць...

Увечары – сустрэча з Дубаўцом. Упершыню, можа, пагаманілі сур'ёзна. Раіў яму не сьпяшацца вяртацца ў Беларусь. Бо тут яшчэ ўсё можа быць. Аж да крыві... Дык хай хоць у Вільні семя застанецца...

А тое, што тут ні перад чым ня спыняцца – сьведчаць вочы С. на сёньняшнім сходзе: страшны чалавек... Дарэчы, ён некалі на тры гады тармазнуў мой дэбют у літаратуры – апавяданьні столькі часу праляжалі ў яго ў "Маладосьці" без руху, а потым ён іх увогуле "згубіў"... Сёлетні лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Госпадзе, Божа мой... А яшчэ лаўрэат наступны: П. – ні перад чым не спыніцца дзеля сваёй дробненькай мэты... А яшчэ – пакрыўджаны сабой Мікола (Мятліцкі), якога мне найбольш шкада, бо не ўяўляе, якога джына выпускае... І ўсе разам пакрыўджаныя Скоблам ці яшчэ кім, і ўсім мала славы і грошай. Сёньні іхні час. І яны актыўнічаюць. І ціснуць на такіх, як Віця...

"Глупства ня трэба рабіць нават з адчаю..." Для памяці, за дзень, запісваю пачутае і пабачанае сёньня:

– размова з Федарэнкам пра мой "Экспрэс..."

– Галубовіч: з рэцэнзіі пра Глобусавага "Брата" ў "ЛіМе" "выпала" назва часопіса, дзе твор быў надрукаваны – "Дз(еяслоў)". Такога яшчэ не бывала...

– чатыры жанчыны-пісьменьніцы, прадстаўніцы аднаго пакаленьня: Бондар, Баравікова, Коўтун, Іпатава... і якія розныя...

– па дарозе да Дубаўца бачыў Законьнікава на мосьце праз Сьвіслач (я ехаў на машыне) – такога С(яргея) І(ванавіча) я ня бачыў ніколі. <...>

– Акудовіч на прыступках Дома літаратара... помнік...

– вочы дзяўчынкі на першым радзе на выступе ў Ліцэі... і вочы нейкага "чорнага" хлопчыка ў зале: здаецца, ён запаважаў беларусаў пасьля нашага выступу...

– сын Алеся Марціновіча – ліцэіст...

– словы Бондар: "Барыс Пятровіч, ня цісьніце сваім аўтарытэтам..."

– руская мова – наўмысная – "вядучага" сходу С., нехта нават ня вытрымаў і папрасіў гаварыць па-беларуску беларускага пісьменьніка-лаўрэата...

– вінаватая фігура курда Чарказяна...

– усёразуменьне Люды Рублеўскай... і немажлівасьць нешта зрабіць...

1.10. Учора ўвесь час падпісваў чытачам часопісы 30.10., а дзясяты месяц надышоў толькі сёньня. Задурыўся зусім... Сёньня пусты дзень. Нічога з намечанага не ўдалося. Што згадваецца:

– лісты ў гарвыканкам адносна новаўтварэньня;

– пустыя вочы Мятліцкага;

– разгубленасьць Віці: "хлопцы, зрабіце што-небудзь"...

Хочацца думаць, што Беларусь і Расія <...> перасварыліся канчаткова. Прынамсі,

сёньня прагучала, што адзінага рубля можа і ня быць. Пра гэта асьцярожна сказаў расейскі прэм'ер. Хочацца думаць, але... Але за апошні час было столькі гульняў, што ім, як той казе-манюцы, ужо і баішся верыць, баішся нат спадзявацца. Хаця тое, што Масква на гэты момант паставіла крыж <...> – сёньня відавочна, як ніколі. І антыпатыя тут асабістая ў прэзідэнтаў, апроч усяго, што найважней і незваротней...

2.10. Нарэшце пайшлі паперы <...>. Летась нас пракінулі <...>. Можа, сёлета пашанцуе...

3.10. Прыкры момант: "холдынгаўцы" ўсё ж скарысталі мяне (Алесь на той сход не пайшоў...) – у нататцы пра "арг(анізацыйны) сход" напісалі, што я "прыняў удзел", і... зробленая наўмысна – так, наўмысна – памарка ў слове "першы"... <...>

– цікава назіраць за Віцем (Шніпом), калі ён адчувае, што вінаваты: тады ён яшчэ драбнее, зусім хлапчуком робіцца...

– Люда паводзіць сябе годна ў любой сітуацыі, а ён...

– у Сіўчыкава атрымаў анталогію (сучаснага беларускага апавяданьня, дзе ёсьць і мой аповед "Неба пад нагамі і вакол"). Файна зроблена. Паболей бы такіх кніг.

– па тэле ідзе праект "Моя страна". Паршывенькі, ніжэй усялякай крытыкі. Але хай убіваецца ў галовы словазлучэньне: Беларусь – гэта "страна". Мы гэта рабілі ў "ЛіМе" з пачатку дзевяностых. Я прынцыпова правіў у тэкстах, а ўсе яны праходзілі праз мяне, слова "рэспубліка" на слова "краіна". Сёньня нам важна ня страціць Краіну, а мову мы адродзім. Непазьбежна.

4.10. Шосты нумар амаль зроблены. Няма толькі некалькіх важных матэрыялаў. Адзін зь іх – недрукаваная раней аповесьць Быкава. "Выйшлі" на яе, калі дароблялі пяты нумар. Нешта цюкнула мне, што быкаўскі памфлет, перакладзены мною з маскоўскай газеты, мог ужо друкавацца ў Беларусі. Так было зь ягонай прытчай, якую мы рыхтавалі ў першы нумар і пра якую я яму тэлефанаваў у Прагу пасля таго, як ён сказаў, што ў яго для новага часопіса нічога няма. У Беларусі яна не друкавалася, толькі за мяжой, выйшла ў кнізе, але... пад іншаю назвай. Такое магло быць і тут, бо нейкі быкаўскі памфлет друкаваўся пад назовам "Апалагетыка нашых", а ў нас быў – "Апалагетыка інтэграцыі". Міхась выйшаў на М. Тычыну, які сёньня зьяўляецца фактычна захавальнікам спадчыны Быкава (разам з жонкаю В(асіля) У(ладзіміравіча)). М(іхась) А(ляксандравіч) абнадзеіў, што наш тэкст не друкаваўся, і паабяцаў даць недрукаваную аповесьць у "Дз(еяслоў)" (а ёсьць яшчэ і апавяданьне). Было гэта ў 20-х чыслах верасьня. Пасьля таго я тэлефанаваў Ір(ыне) Міх(айлаўне) – не адмовіла, дала дазвол на публікацыю. Сустракаўся і стэлефаноўваўся зь М(іхасём) А(ляксандравічам). Перадасьць. Засталося яшчэ трохі пачакаць...

5.10. Вяроўкі б віць з гэтых (Віць) людзей. Надзейней не было б у сьвеце вяровак. Эх-хэ, беларусы... Дачакаецеся...

...За вакном – туман. Густы. Як наша будучыня непраглядны. Цэлы дзень адпачываю. Баліць бок. Нырка. Сур'ёзна.

***

...За намі назіраюць. Але не ўламваюцца ў нашыя праблемы і справы. Мы здагадваемся, што яны ёсьць. Але ўпэўненасьці няма, доказаў няма. І ня дзіўна: зь іхнімі тэхналогіямі ўсё магчыма. А ўвогуле – у сьвеце няма нічога немажлівага. Мы не адны. Але ад таго не лягчэй нам. Ці будзе калі яднаньне? Ці сасьпеем мы да яго? А мо зь іх маўклівасьці зьнішчым самі сябе – у каторы ўжо раз... Нам ня дадзена бачыць іх, яны бачаць кожны наш крок. Але яны ня маюць права ні спыніць нас, ні папярэдзіць. І гэта зь іхняга пункту гледжаньня – справядліва.

***

Я вельмі люблю веды. Іх мне заўсёды мала. Чым больш ведаеш – тым болей хочацца жыць. Я хачу доўга жыць. Але нічога не раблю дзеля гэтага... Бо вельмі слабы і адчуваю сваю бездапаможнасьць. Бо ведаю: годам больш ці менш – якая розьніца! (Нават дзесяцігоддзе нічога не вырашае.) Тут ужо альбо жыць вечна, альбо якая розьніца колькі жыць... Можа нават – чым раней, тым лепш...

6.10. Алесь П(ашкевіч) прывёз зь Вільні песімізм. Летувісы (пісьменьнікі) жывуць як у Бога за пазухай – маюць свой дом, выдавецтвы, кнігарні, кавярні... Ды яшчэ і дзяржава прыплочвае. Каб працавалі на імідж дзяржавы. Дзяржавы, а не прэзідэнта... Нам бы іхнія ўмовы... Эх, Беларусь, Беларусь...

7.10. Заехаў да І.А.Брыля, каб забраць тэкст для “Дз(еяслова”). І праседзеў больш за дзьве гадзіны. І(ван) А(нтонавіч) шмат расказваў і распытваў. Шчыра прызнацца, упершыню я падумаў, што памыляўся ў ім, бо глядзеў на яго праз прызму іншых Іванаў – Шамякіных, Навуменкаў... А дзед – крэмень. Праўда, ён агаварыўся, што яму няма чаго губляць – і тым ня менш... Пры гутарцы раптам падумалася: страшна ўявіць сабе, што “Дз(еяслова”) магло б ня быць... Якая ўсё ж гэта падтрымка такім, як І(ван) А(нтонавіч). А ён падтрымлівае нас, хоць памятаю, не адразу паверыў, што ў мяне нешта атрымаецца. І трошкі непрыемна было слоўка ў ягонай згадцы пра выступ на першай вечарыне “Дз(еяслова”) – “прыйшлося” выступіць... Не сьцярпеў, згадаў яму гэта. Можа, і дарэмна...

І(ван) А(нтонавіч) казаў – пра Машэрава, пра Адамовіча, пра Кавалёва, пра Бондар, пра Вераб’ёва (у сувязі з новай арг(анізацыяй)) <...>.

Напрыканцы І(ван) А(нтонавіч) папрасіў пазваніць яму па прачытаньні ягоных запісаў: “Я вельмі хвалююся, мне важна вашая думка...” (Ён са мной на “вы”, хоць мне дужа няёмка.) А ў самога на стале перад вачыма №4 “Дз(еяслова”), дзе мая аповесьць надрукавана, і я падумаў: “Мне таксама важная вашая думка, але вы маўчыце...” Але не сказаў. Хоць нумар ён прачытаў уважліва і перад тым гаварыў пра N. ды іншыя публікацыі. Не сказаў, бо і без таго зразумела ўсё...

Дарэчы, нашыя старыя дужа скупыя на пахвалу ды добрае слова. Толькі Бураўкін сказаў мне (на прыёме ў амерыканскага амбасадара, які мне падаўся падобным да беларуса і размаўляў, дарэчы, па-беларуску), што рэч атрымалася еўрапейскага ўзроўню і яе трэба тэрмінова перакладаць на іншыя мовы, каб паказаць, што і ў нас ёсьць добрая проза...

І(ван) А(нтонавіч) яшчэ сказаў, што дагэтуль захаваў найвялікшы скарб пісьменьніка: няўпэўненасьць у вартасьці таго, што напісаў... І я захаваў. Гэта і мой скарб. І мая бяда: вечны сумнеў у вартасьці таго, што напісаў... Пра гэта Люда Р(ублеўская) добра сказала – падмеціла – у артыкуле, што напісала пра мяне ў “Маладосьці”... Зрэшты, не сумняваюцца ў напісаным толькі графаманы...

Пра прыклады: у нас ёсьць дзясятак някепскіх пісьменьнікаў, якіх варта было б рухаць спачатку на расейскі рынак. Не па адным, а разам, як сербаў, чэхаў рухалі – серыяй кніг. Глядзіш, і прабіліся б. <...>

***

Мажліва, гэта яшчэ з майго бальнічнага дзяцінства: не хачу, каб мне спачувалі... Хай лепш мне зайздросьцяць. Для ўсіх, як бы мне не было кепска, – у мяне адзін адказ: усё добра. “Як справы?” – “Усё цудоўна, усё нармальна, усё добра...”. Не хачу нікога пускаць у сваю душу, у свае праблемы, у свой боль зь іхняю няшчырасьцю: спачувае нібыта, а сам радуецца...

8.10. Ня ведаю – ці атрымаецца... Усё больш стаў сумнявацца ў самім сабе, у тым, што здольны давесьці пачатае – сваё – да канца... Але сёньня цюкнула: новы

жанр – расказ, можа атрымацца з таго, што раблю, што пішу цяпер. Менавіта “расказ”, а не “апавяданьне”; і “расказ” не ад расейскага “рассказ”, але і не “расповед” ці “аповед”. Хачу, каб атрымалася... Вось толькі пад вечар пачаў сумнявацца: ад “я” даваць, ці ад “ён”... Калі ад “ён”, то ня будзе “расказу”...

***

Увечары – прыкрасьць. Міхась сабраў нас “на разборкі”. Зноў захацелася яму хоць у самім сабе быць лепшым за нас усіх, самым правільным. Гэтыя ягоныя прыступы хваробы “быць сьвяцей за Папу Рымскага” абрыдлі. Шкадую толькі, што не стрымаўся я сам, сарваўся на крык, хоць і разумею – тая ягоная хвароба спакойнымі словамі ня лечыцца. І тым ня менш – брыдка за самога сябе. Спакайней трэба быць. Цярпімей адзін да аднаго...

9.10. Што за лёс такі – усё жыцьцё, усю гісторыю быць незадаволенымі ўладамі... Гэта дасталася нам у спадчыну ад Расеі. Між тым – сама Расея падымаецца з каленяў. І сваю ўладу сёньня любіць...

10.10. Не хачу ні з кім змагацца, не хачу жыць у экстрэмальных умовах, хачу спакою, пэўнасьці ў будучыні... А жыцьцё штурхае мяне ў экстрым...

11.10. Даўно ня быў на “кніжных развалах”. Сёньня з Бадаком зьездзілі: усё тое ж, усё тыя ж імёны. Дзіўна, але не набыў, можна сказаць, ніводнай кнігі. Тую, што купіў, купіў не таму, што хацеў, а з-за надпісу на ёй: “Выдадзеная ў межах праграмы “Максім Багдановіч” французскага пасольства з мэтай дапамогі беларускім пісьменьнікам...” Узяў адну зь некалькіх дзясяткаў. Выдадзена па-руску, як і ўсе астатнія, і рэдкалегію ўзначальвае... Анатоль Аўруцін... Нічога сабе “Максім Багдановіч” і дапамога бел(арускім) пісьменьнікам... Мы, беларускія пісьменьнікі, нічога пра гэта ня ведаем, а Аўруцін прысмактаўся... <...> Я балдзею ад гэтых французаў. І ад рускамоўных, якія намі прыкрываюцца, нас абвінавачваюць у атрыманьні “зялёных”, якіх няма, а самі касою косяць гэтыя самыя “зялёныя”... Зрэшты, што тут скажаш: Аўруцін такі ж рускі, як і...

12.10. Кожны нумар “Дз(еяслова”) мы робім – як апошні. Так і з шостым нумарам ужо... Усё лепшае. І кожны нумар лепшы за папярэдні...

13.10. Друкарня нас падводзіць. Тры тыдні нумар 5 “друкуецца”. І канца гэтаму “друку” няма, і краю. Трэба нешта зьмяняць. Трэба рабіць нумары загадзя – нам аператыўныя матэрыялы ня трэба друкаваць.

14.10. Часопіса зноў няма. Зьбіраюся ехаць у Люблін: запрасіў Сяргей Кавалёў, які там выкладае ва ўніверсітэце, на навуковую канферэнцыю. Напісаў “даклад”. Ня мне там трэба быць, а нейкаму навукоўцу, можа, Алесю. Яны, навукоўцы, пэўна, гатовыя за ўдзел у такіх канферэнцыях і грошы плаціць: ім трэба міжнароднасьць і публікацыі. А мне – навошта гэта? Хіба што крыху адарвацца ад менскіх праблемаў...

15.10. Перад самым вечарам, у прыцемках ужо, атрымалі часопіс. Але лепш бы я яго да ад’езду ня бачыў. Прайшла прыкрая друкарска-вярстальная памылка, якая павінна элементарна лавіцца. На жаль, я даверыўся хлопцам, не перачытаў перад здачай да канца і вось атрымаў... Адзінае – гэта здараецца з усімі выданьнямі, але – не магу сабе дараваць і не магу супакоіцца: сэрца баліць, кепска... Галоўнае, што памылку ўжо ня выправіць. Хоць у цэлым нумар добры, прысьвечаны В. У. Быкаву. *(Неабходны каментар: не магу згадаць цяпер, што за памылка была і ці ўвогуле заўважылі яе чытачы, але памятаю, што перажываў*

*я дужа моцна... Здаецца, нешта ў зьмесьце наблытана. Здарылася яна таму, што ў апошні момант перараблялі з-за матэрыялаў, прысьвечаных памяці Быкава. Хоць памылкі – звычайная зьява для любога выданьня. Самая вядомая і ня раз згаданая ў літаратуры – гэта “энцыклапудыя” ў назве на вокладцы, не кажучы ўжо пра іншыя і прыкрыя, і сьмешныя, і... трагічныя для карэктараў, асабліва ў сталінскія часы, калі, бывала, і страляліся з-за іх, і стралялі... Былі ў нас памылкі ў нумарах і пазьней. Была адна абсалютна нязначная – кропачка над “і” – у самым першым нумары, але нам самім вельмі бачная, і мы з Эдзікам паўночы выпраўлялі яе асадкамі з чорнымі стрыжнямі ва ўсёй тысячы нумароў, каб чытачы нічога не прыкмецілі... І ніхто ня ўбачыў яе.).*

16.10. Цяжка дабіраўся да Любліну. Ноч, перасадкі. Зь Менску выехаў у 1:12. Доўга ня мог заснуць, здаецца, прыдрамаў – у 4:00 праваднік пабудзіў увесь вагон, за 1,5 гадзіны да прыбыцьця – маразм! Пераезд праз мяжу: цягнік кранецца, бабулькі, што вязуць у Польшчу “тавар”: гарэлку і цыгарэты – хрысьцяцца. І пачынаецца размова: хто з польскіх мытнікаў сёньня дзяжурыць: “Кепка”, “Рукі ўверх”, ці... Ідуць мянушкі. Праязджаем, шолах па вагоне: “Кепка!”. Некалькі бабулек кідаюцца ў іншы вагон. Але – до... Як-небудзь потым гэтую прыгоду апішу. У Люблін прыехаў а 12-й па польскім часе. Файны гарадок. Першы дзень канферэнцыі. Усё па-польску. Збольшага разумею. Дзіўлюся: наколькі ўсё ж непадобныя нашыя мовы, бо калі я загаворваю па-беларуску, бачу: палякі мяне не разумеюць. Размова пра п(ольска)-б(еларускія) сувязі. І пачынаецца падлік, колькі палякаў жыве ў Беларусі. Хапаюцца за лічбу, названую недзе <...> – 12-15%. Бо ім тое выгадна. Увогуле – брыдка і папахвае тым самым шавінізмам... Увечары файная вячэра ў рэстарацыі – умеюць палякі.

17.10. Выступ. Дарога дамоў. Сабою незадаволены. Мог бы і лепш. Але – бачыў: мяне не разумеюць – што гарохам аб сьцяну. Раздражняла гэта... Люблін дужа спадабаўся: старая частка – проста выключная. Трэба будзе яшчэ прыехаць.

Як падымаецца Польшча, асабліва бачна за горадам. Акуратныя дамкі: у нас такога няма. Спадабалася польская моладзь: як я зайздрошчу ім, што адарваныя яны ад расейскай “культуры”, тэлебачаньня, ад расейскага мату. Сёньня пятніца, і ў аўтобусе ехала шмат моладзі дамоў на выходныя. Якія прыемныя размовы міжволі слухаў. Пра літаратуру, музыку. І словы якія “аўтэнтычна” толькі і гучыць... Каля нашай мяжы, уздоўж якой ехалі, ужо чуваць было “добра”, а ня “добжэ”, “пака”, а не “добраноц” на разьвітаньне. У вакзале ў Цярэспалі назіраў цікавую сцэнку: два хлопцы і дзьве дзяўчыны прывезьлі (перавезьлі) літраў сорак сьпірту ці гарэлкі ў цэлафанавых мяшэчках, падвязаных у дзяўчат вакол поясу... Са сьмехам у куточку, але бачна здалёк, здымалі гэта ўсё зь сябе і перадавалі паляку – прадавалі. Зайшоў у вагон – разбомблены ўвесь – палякі шукалі ў ім сьпірт. Аказваецца, дзяўчаты тыя – праваднiцы, бо прыйшлі рамантаваць абшыўку вагона... У вагоне ехала дзясятак расейскіх хлопцаў, падобна, спартсменаў, бо ў аднолькавай форме – гадоў па шаснаццаць ім. Зноў моладзь, але... Мат-перамат. На ўвесь вагон. Ніводнага ня матнага слова. А варта прайсьці дзяўчыне ці жанчыне – адразу, я б яе так, я б яе сяк... А дарогі той ад Цярэспаля да Берасьця крыху больш за паўгадзіны. У Берасьці на пероне да тых дзяўчат-праваднiц, што здымалі зь сябе сьпірт, падыходзілі памежнікі і пыталіся: “Ну, як бізьнес?” і адказ: “Першы блін не камяком...” Далей з пачутага зразумеў, што, аказваецца, такім чынам хлопец зь дзяўчынай сабе на вясельле зараблялі...

Яшчэ прыгода: расейскую жанчыну, у якой была пратэрмінаваная віза, зьнялі з вагону ў Цярэспалі і адправілі назад у Берасьце. Яна вярнулася без капейкі – палякі ўсе грошы забралі. Падышла да мяне, даў ёй грошай на дарогу, даў патэлефанаваць па мабільніку родным...

18.10. Дома. У Люды дзень народзінаў. Віншавалі з сынамі... Адпачываю. Дужа стомлены. Вочы ад трох бяссонных начэй запаліліся, як ад кампутара. А працы ў мяне... непачаты край...

19.10. Усё дарабіў. <...> Герой...

20.10. А пралемаў – вышэй за галаву. Каму б расказаць... А працы... І ні капейкі дома. Дажыліся... Каму б расказаць...

21.10. Рада. Кворуму няма. Дзяды не актыўнічалі. Бураўкін нават супакойваў маладзейшых: Міхась прапанаваў выключыць з СП "раскольніка" П(аўла) Вераб'ёва – Б(ураўкін) "астудзіў", маўляў, "яны толькі гэтага і чакаюць...". А ўвогуле – сумна ўсё гэта: і такія "Рады", і такая "актыўнасьць": усім усё да задніцы... І "Дзеяслоў" радаўцам ня трэба: кожны пазірае, каб "падарылі"...

22.10. Сьнег. На вуліцы – брыдка. Езьдзіць немажліва. Аварыі. А ў мяне столькі мітусьні было... <...>. Круціўся ўвесь дзень. Пабыў у І. А. Брыля. Упершыню мо пабачыў шчырую радасьць у ягоных вачох...

23.10. У СП – мітусьня. Наплыў народу, як ніколі. Упершыню за столькі гадоў Д(ом) Л(ітаратара) запоўнілі літаратары і чуваць была беларуская гамана. Многія затрымліваліся надоўга – як Р. І. Барадулін. Цікава яго слухаць. Столькі памятае! Паўтараецца, але ўсё роўна цікава. "Такіх, як ён, больш няма. Сапраўдны паэт – да такіх гадоў захаваў маладосьць і жывасьць...", – сказаў пра яго сёньня Л. Баршчэўскі. І сапраўды. А ў нас радасьць: М. Тычына перадаў рукапіс В. У. Быкава – аповесьць пад назовам "Афганец".

24.10. Ноч сядзеў над паперамі. Дзякуй Богу, усё добра.

25.10. Усё-ткі мяне адкінула – мая хвароба. Крыху расслабіўся, а яна тут, як тут. А яшчэ – кампутар ці прастуда – але шыю не павярнуць. Адразу згадаў тую жанчыну-масажыстку, якой дапамог у Берасьці: яе погляд і словы – ты мяне знойдзеш... Не хачу яе шукаць, не хачу яе масажу: за дабро злом ня плоцяць...

26.10. Кепска. Не магу нічога рабіць. І не адпачынак гэта для мяне. І праца ня йдзе... Паскудна.

27.10. З дому не выходзіў. Эдзік прынёс укол. Люда зрабіла: мо дапаможа... А такія планы былі на гэты дзень, столькі патрэбных сустрэч. І ўсё кату пад хвост.

28.10. Яшчэ дзень хваробы. У "ЛіМе" прачытаў нарэшце аповеды Станкевіча – не выпраўленыя ні мною, ні Міколам Сымонавічам... Хай бачаць, які ён ёсьць, а то зрабілі класіка. Бездаможна... Сьмешна... Няўжо іншыя не заўважаюць гэтага? Добра, што ў "ЛіМе" яшчэ адное падзеньне. Шкада дзядзьку, бо "Пацукі" – класная рэч, якую я шырока прарэкламаваў сярод знаёмых (ніхто зь іх назву паўтарыць і запомніць ня можа – "Любіць ноч права пацукоў" – а ўсе кажуць "Пацукі"...)

29.10. Выйсьці з дому не адважыўся, але пачаў патроху сядаць за кампутар.

30.10. Заканчваю рабіць №6. Зацягнуў яго з-за хваробы. Яшчэ раз паглядзеў інтэрв'ю Алексіевіч – цікавы погляд на Чарнобыль. Якраз такога мне і не хапала, каб дарабіць сваё эсэ. Столькі ведаю, столькі бачыў, столькі разоў быў у зоне ў 1986-м – і амаль нічога не напісаў. Трэба брацца. Але – пакуль дарабляю "Пу-

ціну" – ня ведаю, што атрымаецца... Блытаная рэч – адзін сказ на больш чым пяцьдзясят старонак... Зрабіў (зьвярстаў) аповесьць Быкава ў №7. Нечаканая трохі рэч. Глыбокая, што дзіўна для дзеда. З падтэкстам – у адрозьненьне ад прытчаў-прыпавесьцяў, дзе ўсё на паверхні. І зразумела цяпер, чаму яна пісалася "ў стол". Дарэчы, В(асіль) У(ладзіміравіч) ці не адзіны пісьменьнік – беларускі – у каго засталіся недрукаваныя рэчы (ня дзёньнікі, а творы) пасьля сьмерці... Раней – хіба ў Гарэцкага, Караткевіча... І вось – Быкаў.

31.10. Зь Віцем зьезьдзілі да яго ў вёску – у Пугачы. Паглядзеў, як на Міншчыне "разьбіраюць кабана": зусім ня так, як у нас. У нас – гэта цэлы рытуал, усё прадумана: што за чым. А тут – сумятня, хаос. Зрэшты, гэта залежыць не ад мейсца (Міншчына ці Гомельшчына), а ад сям'і... Ва ўчарашняй «НН» напісалі, што Віцю звальняюць з "ЛіМа" і што на замену яму прыйдзе Ул(адзімір) Глушакоў. Віця па дарозе гаварыў пра "праблемы", але не пра тое, што ён зь "ЛіМа" зьбіраецца сыходзіць. Няўжо застанецца на паніжэньні? Я, падразумеваючы гэта, казаў яму, каб не заставаўся – і без таго аўтарытэт страціў, бо ўсе разумеюць, што здымаюць яго не за "сьмеласьць" і адстойваньне пазіцыі... <...>.

1.11. Няўжо Масква <...> не разумее, <...> што бел(арускі) нацыяналізм – не страшны, што трэба падтрымліваць нац(ыянальную) сьвядомасьць беларусаў – тады будзе лягчэй... <...>.

2.11. Працы – мора. І ніяк яе не перарабіць...

3.11. Трэба пасьпець усё зрабіць да ад'езду ў вёску. Галаву няма калі падняць...

4.11. Здалі №6 у друкарню (здаў...). Ноч праседзеў ля кампутара. А яшчэ трэ пасьпець дарабіць адну кнігу. *(Неабходны каментар": не стрымаюся і нарэшце пракаментую і гэты момант – я ўвесь час "мыкаю", пішу: "здалі", "дарабілі", "атрымалі" і да т. п., а тут нарэшце прарвалася ў дужках "здаў...", бо так і было насамрэч: не "здалі", "дарабілі", а "здаў", "дарабіў"... Ох, ужо гэтая ідыёцкая сьціпласьць... Хлопцы – Алесь, Міхась і Эдзік – дапамагалі, зразумела, як маглі, за што я быў і ёсьць удзячны ім, але ўсё роўна асноўная праца па часопісе ляжала толькі на мне адным: ад збору матэрыялаў у нумар, чыткі, вёрсткі... да атрыманьня нумара з друкарні і развозу па крамах, а потым і на пошту. Так было, і я з гэтым зьмірыўся, бо па ўласнай ініцыятыве некалі склікаў хлопцаў, з якімі жылі ў адным доме, і прапанаваў паспрабаваць зрабіць незалежны часопіс. Яны падтрымалі ідэю, але ніхто тады, і найперш я сам, ня думаў, што будзе ўсё так няпроста...).*

5.11. Ноч – праца, а ранкам выехалі ў вёску. Пяць гадзінаў і – дома. Адсыпаўся. Мама выглядае трошкі лепей, чымсьці летам, ажыла, бацька – горш, здае...

6.11. Выехалі ў Гомель. Зьезьдзілі да цешчы ў Прысно. Спаў урыўкамі: дзіўна нават, што навучыўся гэтак: вакол гамана, крыкі, а я сьплю. Раней нават на вакзале ня мог заснуць, а тут – горш: дзеці, госьці, а я – адключаюся...

7.11. Вярнуліся ў вёску. Паназіраў, як білі і смалілі кабана. Прыгажэй, чым у Віці, акуратней, эстэтней, калі можна ў гэтым бачыць нейкую эстэтыку ці прыгажосьць... Культурней, чысьцей – варта было б сказаць, спрактыкаваней... Дзень выдаўся сонечны, у Гомелі на сьвята, на дэманстрацыю, рабочых "Гомсельмашу" спакушалі выйсьці за 10 тысячаў рублёў – ішлі пустадомкі ды п'яніцы. Каму такое сьвята, такая паказуха трэба? Ды яшчэ за дзяржаўныя грошы... У савецкі час з гэтага сьмяяліся, але ішлі, бо іншага ня ведалі, а цяпер... злосьць бярэ.

8.11. Чатыры гадзіны, і ў Менску. Вакол Бабруйску, нарэшце, зрабілі аб’язную дарогу і шлях стаў карацейшым. Прынамсі, па часе. Бо раней амаль кожны раз блукаў па прыватных кварталах, шукаючы выезду з мазырска-рэчыцкай трасы на менскую – указальнікі ніхто паставіць не здагадваўся, а ўсе павароты сярод звычайных, амаль вясковых драўляных хат ды вулак вялікага горада запомніць амаль немагчыма было.

9.11. Жыву як у прастрацыі, як пад наркозам, як ня тут...

10.11. Віцю ўсё ж зьнялі з г(алоўнага) р(эдактара) “ЛіМа”. А паставілі на ягонае мейсца не Ул. Г(лушакова), а... Толю Казлова... Неверагодна... Чалавек, які ніколі не працаваў у газеце і ніколі не кіраваў нічым і нікім, і ў рэдактары... Алеся Бадака таксама панізілі, на ягонае мейсца прызначылі В(іктара) Гардзея. Шкада хлопцаў. І адных, і другіх. Віця і Алесь – дапрацаваліся, даслужыліся... Толя і Віктар – дапрацуюцца... Загубяць зусім і “Маладосьць”, і “ЛіМ”, бо трымаліся яны – на старой школе: толькі на Бадаку і Віцю... Асабліва “Маладосьць”. Не разумею Бондар і К°: што ім яшчэ трэба было ад хлопцаў? Працавалі ж – стараліся, выконвалі ўсё і пры гэтым хацелі яшчэ захаваць “твар” – рабіць добрыя выданьні. Асабліва шкада Бадака. Калі б я мог ім чым дапамагчы! Зрэшты – ужо “дапамог”... Ці не мая прысутнасьць на “сходзе” паўплывала на іх пазіцыю і рашэньне Бондар. Адносна Бадака – можа, і так. Адносна Віці – не... Але ж, Толя, Толя куды лезе, на што разьлічвае?

Размаўляў з Віцем і падумаў: а ў якім сьвятле выглядаю я, калі кагосьці звальняюць толькі за тое, што кантактуюць са мною, што сябруюць са мною?

Па тэле паказалі: настаўнікі расейскай літаратуры сабраліся, каб пратэставаць, што мала – усяго два на тыдзень – урокаў літаратуры ў школе. Так. Мала. Малайцы. Але – калі б сабраліся беларускамоўныя настаўнікі – ці паказалі б? А калі б і паказалі, дык абвінавацілі б у нацыяналізме.

11.11. Віця застаецца ў “ЛіМе”. Казлоў – рэдактар. П. (памятаю яго па журфаку) – міліцыянт (служыў да пенсіі), можа, і добры, а пісьменьніка такога няма... і яго ставяць адным з кіраўнікоў “ЛіМа”. Няўжо каб увогуле загубіць усё? Наіўны я чалавек – ня хочацца верыць... Віця кажа, у “ЛіМе” засталося 2 супрацоўнікі – С. Берасьцень і Л. Галубовіч, і тры начальнікі: ён (адказны сакратар), П. (нам. гал. рэд.) і Казлоў (гал. рэд.). Не разумею Віцю: навошта ён застаўся? Бо гэта ўжо не плявок яму <...> . А ён церпіць. <...>. І чым ён і Бадак не дагадзілі Бондар? Дзе яшчэ лепшых служак знайсьці? Навошта іх было звальняць – шукаць ворагаў, шукаць чорнага ката ў цёмным пакоі, дзе яго няма... Маразм... Зрэшты, мне б радавацца трэба было, што прагноз збываецца, а я перажываю... “Вяроўкі б віць...” А, Віць?

12.11. Выступ зь “Дзеясловам” у Купалаўскай бібліятэцы перад бібліятэкарамі Менску. Жанчыны ўражаныя: такі класны часопіс, дзякуючь: а мы й ня ведалі праўды пра холдынг... Але – ці падпішуцца, бо запалоханасьць вісіць у паветры... А мне, калі расклалі на стале 5 нумароў, падумалася: ёсьць чым ганарыцца. І... як добра, што ёсьць “Дз(еяслоў)”. Бо холдынгавыя выданьні дэградуюць на вачах. Пра ролю “Дз(еяслова)” ў сёньняшняй сітуацыі яшчэ хто-небудзь напіша. Але ці скажа хто, на чым (кім) ён трымаецца. І на колькі хліпкае гэтае трываньне... Гэта і “Дз(еяслоў)” надаў сьмеласьці хлопцам і дзяўчатам на тым сходзе “Мінскай” пісьменьніцкай арганізацыі. А мая прысутнасьць стала каталізатарам таго, што адбываецца і што тая арганізацыя так ня створана. Не пайшоў бы тады на сход. Усе б моўчкі прагаласавалі, і не было б “праверкі на вшывасьць”. Сёньня я адчуваю віну перад імі: справакаваў... Сёньня яны, можа, і крыўдзяцца на мяне. Але заўтра ўсё стане на свае мейсцы, і яны, можа, будуць удзячныя мне.

13.11. Палякі адмовіліся даць візы Акуліну і Пашкевічу на выезд у Польшчу на фестываль “Бязьмежжа”. Абсурд... Чаму не далі? Ці не таму, што ня хочуць кантактаў “метраполіі” з нацменшасьцю? Тое, што палякі паднялі галаву (як той верабей, што адагрэўся ў дзярме), я заўважыў яшчэ ў Любліне: дужа імпэтна яны лічылі, колькі палякаў жыве ў Беларусі. <...>

Але гэтым разам мы ня сьцерпім. Пойдзем на скандал, а на сустрэчу ў Беласток усё роўна паедзем.

Званіў Віця: кажа, усе віншуюць яго, што вырваўся з “балота” (Люда Р(ублеўская) звольнілася). Люда мо і вырвалася, а Віця застаўся. Толькі не ў балоце – нельга гэтым добрым словам называць сітуацыю ў “ЛіМе” і “холдынгу”. <...> Ці надоўга яго хопіць? Яго ды новасьпечанага рэдактара? Як добра, што я пралічыў сітуацыю і не застаўся ні ў намесьніках Мятліцкага ў “Полымі”, як ён ні прасіў, ні пайшоў да Бондар... *(Неабходны каментар: памыляўся я і наконт выданьняў – існуюць і па сёньня, у якім стане – гэта па-за абмеркаваньнем, і наконт Віці з Алесем – і цяпер працуюць, хай і на іншых, але ўсё ж дзяржаўных пасадах... Праўда, памыляўся толькі ў гэтым: усё астатняе спраўдзілася аж да падрабязнасьцяў...)*

14.11. Залез ноччу ў інтэрнет і напампаваў сабе тэкстаў з расейскіх часопісаў: “Новы мир”, “Звезда”, “Знамя”, “Иностранная литература”, “НЛО”, “Континент” ды інш. Колькі класных часопісаў! А колькі класных публікацыяў! І якая літаратура! Я кажу гэта ў параўнаньні з нашаю. Бо нашую ведаю знутры. Нават “Дз(еяслову)” цяжка цягацца з тымі часопісамі, а ня тое, што “Полымю”, “Маладосьці”, “Нёману”... Нават мне можна было б згубіцца ў той літаратуры, а ня тое што некаторым іншым... Ёсьць у іх і пісьменьнікі, і класныя рэдактары, і класныя крытыкі ды эсэісты. Ёсьць. І ёсьць што пачытаць.

15.11. Гляджу футбол па тэлевізары. Ва ўсім Менску, як мне здаецца, нармальная восень, а над стадыёнам “Дынама” – сьнег, мяцеліца. Гуляць немажліва. Вызірнуў у вакно – ні сьняжынкі ў Малінаўцы, а на “Дынама” лепіць і лепіць. Вялікі ўсё ж горад Менск.

16.11. Вельмі кепска мне. Здароўя няма... *(Неабходны каментар: не пішу я тут пра тое, што час ад часу мяне накрывае мая застарэлая, яшчэ ў дзяцінстве набытая, хвароба. Паўтараецца з перыядычнасьцю то раз на месяц, то часьцей... Выбівае з каляіны на дзень-два, а то і больш. Але і ў тым стане я працягваю працаваць і не паказваю выгляду, што мне кепска. Блізкія заўважаюць, астатнія – і не здагадваюцца нават, бо не відаць яе і не стагну ды плачуся я. І не іду ў бальніцу, бо не давяраю ўрачам з таго ж дзяцінства. Таму мо яшчэ жыву... І тут, у дзёньніку, я не акцэнтую ўвагу на хваробе, бо нібыта прывык да таго, што не-не ды і крутане.... Але часам усё ж, калі асабліва кепска, прарываецца згадка, згадачка, намёк без падрабязнасьцяў...)*

17.11. Дзень у турботах, у мітусьні. Палякі выпраўляюць памылку. Зьняты з рэктараў БДУ Казулін. “Апошні з магіканаў”, апошні з нармальнай альтэрнатывы <...>.

18.11. Праблемкі вырашаюцца. Была файная сустрэча ўчора. Ёсьць надзея, што “Дз(еяслоў)” будзе жыць. Прынамсі, яшчэ год. <...>

19.11. Усё трэба рабіць самому. З лета бухгалтар і Слава “вырашалі” адну праблему, але так і ня вырашылі. Давялося брацца самому. Панядзелак, аўторак і сёньня – усё добра, вырашана. Але ж часу колькі зьела тое, забрала...

20.11. Дзень у мітусьні. Зборы. Ад'езд... А потым: які ўсё ж кароткі шлях да неба... Наш аўтобус Менск-Беласток ад'ехаў ад "сталіцы" ўсяго 7 км. Я пасьпеў толькі ўбачыць, як імкліва набліжаецца да нас фура, што стаяла на ўзбочыне. Удар. Крыкі. Я выляцеў з крэсла і пакаціўся па праходзе, ударыўся бокам у нейкую стойку, і аўтобус спыніўся. Жывы. Усё скончылася – падумаў. Памятаю адчуваньне жаху ў момант удару – жаху, які быў вакол, не майго, а ўвогуле, і стан – нібыта душа адлятае, і ня толькі мая... Выйшлі з аўтобуса – увесь перад ягоны раскурочаны, падышлі да фуры (метрах у 150) – увесь бок развалены, як нажом зрэзаны. І аўтобус, і фура, рамонту не падлягаюць. А мы ўсе – жывыя. У Эдзіка разьбіты нос, Паліна (Качаткова) ўдарылася галавой, у мяне баліць бок – моцна, і ўражаньне, што рэбры зламаныя... Пахадзілі вакол аўтобуса з гадзіну, думалі – што рабіць: ехаць далей ці вяртацца ў Менск? За гэты час ні "хуткая", ні міліцыя не пад'ехалі. Спыніўся нейкі дзядзька на мікрааўтобусе – гатовы ўсіх падвезьці да Гародні (аднаму, кажа, ехаць сумна), мы вырашылі ехаць. Найперш таму, што чакаюць нас у Беластоку, расчараваньне будзе страшнае, калі не прыедзем, Яўгена (Вапу) шкада... Еду ў мікрааўтобусе і думаю: якога чорта? Бок баліць невыносна, невядома, што там, а я еду ў іншую краіну... У Гародні былі ў тры гадзіны ночы, на мяжы ў 4, а ў Беластоку ў 5. Без прыгодаў. Яўген сустрэў. Адпачылі трохі. Сустрэча ў "Ніве". Інтэрв'ю для радыё. Дарога ў Гайнаўку. Пачатак "Бязьмежжа". Прэзентацыя кнігі Гуменюка. Хлопец пакрасаваўся, памаляваўся... Мне трохі няёмка было глядзець на крыўляньне, але бачу – усе ўспрымаюць нармалёва, нібыта так і трэба: як генія... Тэлеінтэрв'ю. Потым сяброўская вячэра. Усё цудоўна.

21.11. Папярэдні запіс умясьціў у сябе падзеі 21 лістапада – пачынаючы ад рашэньня ехаць на мікрааўтобусіку да Гародні...

22.11. Нашы выступы. Спачатку я, потым Эдзік і Паліна. Здаецца, павярнулі сітуацыю на свой бок. Хай ведаюць, што ў Беларусі ёсьць іншая літаратура – сур'ёзная. А ня толькі Г. зь іхнім "водарам га...на" (цытата). Яўген, здаецца, задаволены нашым прыездам, а мне хочацца падтрымаць яго. Бо сітуацыя тут, у Польшчы, няпростая. Беларусаў ціснуць, даціскаюць, даасімілёўваюць, карыстаючыся нашай слабасьцю ў Менску. Яўгена за апошні месяц тройчы арыштоўвала палітычная паліцыя і ў кайданках везла на допыт. Казалі: навошта гэта табе, Менск ад вас адвярнуўся, вы нікому ня трэба. Ён расказвае гэта, а ў ягоных вачах такі боль!.. Як я яму веру! Які моцны хлопец! Які беларус! І як яму цяжка! Чым бы яму дапамагчы? А нашыя, тыя, хто раней прыязджаў, да нас, думаюць толькі, што б тут урваць. Гумянюк падышоў да мяне, спытаў, баючыся адказу: "Грошы прасіць у Вапы будзеце?" Спалохаўся: маўляў, канкурэнты ў яго ды іншых "манапалістаў" тут зьявіліся... Не, кажу, ня будзем. Ніколі!

23.11. Дома. Ехалі ў аўтобусе: а куды падзенешся і чаму быць – таго не мінаваць. Ад Гародні да Менску – суцэльны туман. Але ўсё добра. Праязджалі паўз "тое" мейсца (прыблізна, дакладна ня вызначыць, ноч жа была). І як мы выжылі? Там кювет метраў пяць глыбінёю. Добра, што не зьляцелі. Касьцей бы не сабралі пасьля такога ўдару. Паліна жартуе і кажа сур'ёзна: сёньня было б пахаваньне, усе б шкадавалі, трагедыя прыцягнула б увагу да імёнаў... К чорту такое прыцягненьне. Не, пэўна, мы яшчэ ня ўсё зрабілі на гэтай зямлі... Трэба жыць...

24.11. Рэбры не зламаныя – хоць удар быў дужа моцны. Але бліжэй да хрыбетніка. Гематома не малая. Хадзіць цяжка – баліць. І як я зьездзіў у Беласток, як жыў там тры дні з такім болем? З гарачкі, ці што? Увечары зайшоў Эдзік, і нарадзілася ў нас ідэя стварыць прэмію "Дз(еяслова)" і ўручыць яе на пачатку году. Так, як было некалі ў "Полымі" ды іншых выданьнях, а цяпер няма. Назву пакуль

не прыдумалі, але сталі круціцца вакол “моўных”. І выйшлі спачатку на “Залаты клічнік”, а потым на “Залатую кропку”. Эфектна. А трэба, каб яшчэ і значна было. *(Неабходны каментар: так нараджаўся “Залаты апостраф” – прэмія, якая доўгі час была ледзь не адзінай для пісьменьнікаў, калі памерлі, зьніклі, дакладней, былі зьнішчаныя – усе ранейшыя дзяржаўныя ды часопісныя прэміі. У многіх вядомых, вартых шматлікіх літаратурных прэміяў пісьменьнікаў яна сталася адзінай, ня толькі атрыманай у тыя цёмныя часы, але і наогул...)*

25.11. Сустрэча зь пераемнікам Карэнды. Дзядзька з Гомельшчыны. Партакрат былы. Што вельмі добра. Бо прайшоў “тую” школу, а “тады” пісьменьнікаў паважалі незалежна ад таго, якімі яны былі. Здаецца, размова атрымалася. Але што будзе далей – няясна. Мо што і зрушыцца. *(Неабходны каментар: усё-ткі, нягледзячы ні на што, заставаўся я тады непатапляльным аптымістам, мо таму і ўдалося нешта зрабіць – але і тут: дарэмныя надзеі на перамены да лепшага...)*

26.11. У Грузіі перамагла (за гэтыя дні) апазіцыя. Без крыві сышоў Шэварнадзэ. Ці не пачатак гэта новага выбуху? Ці не дакоціцца да нас? <...>

27.11. Гутарка ў “ЛіМе”. Ледзь не пасварыліся з Галубовічам: у “Дз(еяслове)”, бачыце, адныя і тыя ж людзі друкуюцца, а ён ня будзе, бо ня можа “служыць двум панам”... Назваў мяне “апазіцыянерам”. Дурнота. Гэта яны апазіцыянеры, а я на сваёй зямлі і працую на Беларусь. Добра, каб “панам” ён служыў, а то... Зрэшты, Лёню я ўсё роўна паважаю і, спадзяюся, адносіны нашыя ня зьменяцца. Як, нягледзячы ні на што – зь Віцем і Толем... Хоць, калі аб’ектыўна, з усіх, хто застаўся ў тых калідорах, адзін Бадак змог ня здрадзіць сабе і не спакусіцца... Гэта бачаць і “яны” і пачынаюць прапаноўваць “пасады”. Ці ўтрымаецца? І ці варта ўтрымлівацца? Ці ня лепей “заняць пасаду” і паспрабаваць нешта зрабіць? Калабарантаў у нас заўсёды не хапала. Мо і паспрабуе? Пра тое мы сёньня зь ім размаўлялі.

28.11. Чамусьці згадаўся Маракоў, якога даўно – зь вясны – ня бачыў і ня чуў. <...>

29.11. Чыхнуў – і ледзь ня страціў прытомнасьць ад жудаснага болю ў баку. Цяпер сяджу і нічога не магу рабіць. Нават пісаць...

30.11. Па РТР зьдзекуюцца зь Беларусі, беларусаў і <...>. Адкрыта. А гэта сёньня ці не адзіны дзяржаўны тэлеканал у Расіі. ОРТ – ужо камерцыйны. Брыдка і сорамна, бо справядліва...

1.12. На вуліцы плюсавая тэмпература. Дождж. Атрымаў №6. Бяда проста з друкарняю: кожны раз нешта новае выкінуць. Гэтым разам карацей абрэзалі нумары. За ўсім ня ўсочыш. І прыкра, і сьмешна...

Гутарка з С. Рублеўскім. Вучыў мяне не высоўвацца (па-сяброўску, добра), не чапаць, не згадваць у часопісе (улады), Чачню... Маўляў, ты ж ведаеш, у якім часе жывеш. Кажу – не, я ня ў гэтым часе жыву. Калі б я жыў у гэтым часе, я працаваў бы ў “Советской Белоруссии”...

Шчасьлівы, кажа, ты можаш сабе гэта дазволіць, а ў мяне дзеці... А мне абрыдла чуць, як дзецьмі прыкрываюцца, быццам я пра сваіх ня думаю... А празаік Сяргей – цудоўны. Хоць і хоча быць лепшым, чымсьці ёсьць. Ня быць – здавацца...

2.12. Дужа важная, а мажліва і лёсавырашальная была размова з С. Дубаўцом. Парадаваў ён мяне ўпершыню за доўгія гады і, мажліва, ня ўсё яшчэ страчана

ў нас, ёсьць сілы, якія зьберагуць Беларусь... *(Неабходны каментар: Сяргей ва ўсе часы быў і ёсьць яшчэ большым аптымістам, чым я... Сваёй бязьмежнай і бясспярэчнай верай у Беларусь і канчатковую перамогу беларускасьці ён натхняў, падтрымліваў і зараджаў ня толькі мяне. <...>.)*

Увогуле дзень быў насычаны. Былі з Алесем П. у Брыля. Дзед сумуе, але выгляду не падае.

3.12. Дабіў "Пуціну". У сэнсе – набраў. Дзеля гэтага застаўся дома і ў горад не выязджаў.

4.12. Рублеўскі наладзіў прэзентацыю сваёй кнігі ("Азярод"). Сабраўся "бамонд" – Р. І. Барадулін, Г. М. Бураўкін, С. І. Законьнікаў, У. А. Арлоў, В. В. Акудовіч, А. Анціпенка, І. Бабкоў, кіраўніцтва СП... На пачатку, калі Сяргея хвалілі, было ўсё добра, а калі ён сам пачаў сябе хваліць і хваліцца, дзяды ня вытрымалі і сыйшлі... Дзяды ў нас – яшчэ тыя: усё абходжвалі С. І. Законьнікава – "як у цябе, Сярожа, справы?" А ў таго – ніяк. Усё да мяне падыходзіў <...>, пытаўся, як зрабіць хоць нумар. Я на сур'ёзе расказваў: рабіць, як мы, альманах, які не патрабуе рэгістрацыі. Кажу і бачу: нічога ён рабіць ня будзе. <...>. Цапнуўся я на пачатку з А(лесем) А(нціпенкам). І з-за яго самога таксама, а ня толькі з-за С. І. Законьнікава. Сорас нам не дапамог якраз з-за пазіцыі А(леся) А(нціпенкі), які кіраўнік беларускае філіі ў Менску. Ён і сёньня псіхануў: ня люблю "Дз(еяслоў)". А за што яму любіць, калі мы без яго абышліся і часопіс зрабілі, у адрозьненьне ад тых, каму ён грошы даваў... <...> Не падышоў, не спытаў: як вы выжываеце і чым дапамагчы, а бачыце, гатовы прадукт яму не падабаецца. Сяргей (Рублеўскі) некалькі разоў казаў: "Дз(еяслоў)" найлепшы сёньня часопіс, і прасіў (нібыта ад нашага імя) А(леся) А(нціпенку) дапамагчы. Той усё пырхаў і маўчаў... І тады я сказаў, што ня трэба цяпер ніякой дапамогі. Позна. Дапамога трэ была год таму. Абыйшліся і абыйдземся. Гляджу, нібыта ў А(леся) А(нціпенкі) на твары нешта варухнулася: нібыта спалох прабег... Як так: безь яго. А вось так... *(Неабходны каментар: абыйшліся, дзякуй Богу... Але дагэтуль ня ведаю, бо зь ім гаварыць пра тое не хацелася, адкуль і чаму ў Анціпенкі была такая нелюбоў і непрыняцьце "Дзеяслова"? Памятаю, зь якой нянавісьцю кідануў ён "Дзеяслоў" праз увесь вялізны пакой старшыні СП: прыгожа ляцеў часопіс, махаючы сваімі старонкамі, як непакорная птушка крыламі, і, зьдзекуючыся зь яго, ня падаў... Маю адныя здагадкі, бо толькі сам Анціпенка ведае, колькі ён, як кіраўнік беларускага аддзяленьня Фонда Сораса, падтрымаў грантамі розных праектаў перыядычных выданьняў, што так і не былі рэалізаваныя ці сканчваліся на адзіным першым нумары... І апраўданьне было адно: "перашкоды рэжыму", што выглядала цалкам справядлівым. А тут раптам зьяўляецца часопіс, які ўдаецца зарэгістраваць і які выходзіць адносна перыядычна на ўзроўні не рэгіёну, а краіны, безь ніякой дапамогі, не падтрыманы ім і філіяй фонду, якой ён кіраваў, – і, адпаведна, абвяргае ўсе ранейшыя апраўданьні перад вышэйшым начальствам. Як тут не злаваць...)*

5.12. Дабіваю сёмы нумар "Дз(еяслова)". Бо наперадзе – непачаты край іншае працы.

6.12. З Эдзікам дарабілі ягоную кнігу "Непрычалены човен". На сваю часу няма. *(Неабходны каментар: дарабілі – гэта гучыць прыгожа. Рабіў я, Эдзік даў свае тэксты, у якія бясконца ўлазіў і ператасоўваў, што, ведае кожны вярстальнік, толькі нярвуе... Дарэчы, потым, да "Бібліятэчкі "Дзеяслова", я зрабіў яшчэ адну Эдзікаву кнігу – "Радно" і дапамог, як і ў выпадку зь першай, з выданьнем, аднак у сваім інтэрв'ю "Народнай Волі" пасьля разрыву са мной Эдзік абвінаваціў мяне ў тым, што я ня выдаў ніводнай ягонай кнігі і ня толькі ў дзеяслоўнай серыі, не*

*сказаўшы пры тым, што і сваёй ніводнай я ня выдаў, бо ў нас, "дзеяслоўцаў", была ўнутраная дамова, якой мы трымаліся да канца: сябе ў сваёй бібліятэчцы не выдаваць.)*

7.12. Цяжка.

8.12. Закалябалі некаторыя "капрызьлівыя" аўтары. "Пупы зямлі" з выбрыкамі. Пачаткоўцы, а ўжо хочуць дыктаваць сваю вялікасьць і выключнасьць. Абрыдла нянькацца...

9.12. Пабылі ў Ір(ыны) Міх(айлаўны) Быкавай з Алесем. Супярэчлівыя ўражаньні. Цікава: а якая ў яго (В. У. Быкава) была першая жонка? Такое ўражаньне, што ў нас увогуле няма "інстытуту жонак", што жанчыны часам так і не разумеюць – з кім яны жывуць... В(асіль) У(ладзіміравіч) – вялікі чалавек. Цэльны. Шкада, што мала яго ведаў зьблізку, толькі як чытач-рэдактар па "ЛіМу" ды "Полымі", куды ён прыносіў свае творы. "Дзяды" не падпускалі. А цяпер кінулі І(рыну) М(іхайлаўну) адну: "хварэюць" і зайсьці ім няма калі. А ёй і параіцца няма з кім... *(Неабходны каментар: словы пра "інстытут жонак" і "не разуменьня з кім яны жывуць" тычацца не Ірыны Міхайлаўны, а першай жонкі Васіля Уладзіміравіча, пра якую мы з Алесем тады шмат даведаліся. Зразумела, у пачатковым жыцьці ў Гародні ў Васіля Уладзіміравіча было шмат праблемаў: бесркватэр'е, безграшоўе, малыя дзеці...<...>. Зрэшты, спыняюся: ня мне пра гэта меркаваць, тым больш пісаць. Але пасьля шматгадовых зносінаў з Ірынай Міхайлаўнай – у мяне склалася ўражаньне, што Васіль Уладзіміравіч стаў такім, якім ёсьць, дзякуючы найперш ёй...)*

10.12. Цяжка, але... Усё ж не цяжэй, чымсьці было ў 80-я. Тады было безнадзейна. Суцэльная цемра наперадзе, здавалася. Цяпер ёсьць вера, што зло ня вечнае. Тады нішто не казала пра тое, што СССР рухне – такая махіна! Цяпер нішто ня кажа, што сёньняшняе будзе вечным...

11.12. Напярэдадні сустрэчы (уладаў) з тв(орчай) інтэлігенцыяй – арганізацыйная сустрэча ў СП. Размова ні пра што. Тварэньне выгляду працы. Прадстаўнік (уладаў) ня хоча назваць, хто будзе прысутнічаць ад тв(орчай) інт(элігенцыі) на сустрэчы. Марная марнасьць...

***

Сканчваецца сшытак, а новы не хачу заводзіць.

12.12. Паездка ў Оршу на адкрыцьцё выставы Алеся Пушкіна ў музеі Караткевіча. Зьдзівіў Хадановіч – цэльнасьцю: гэты хлопец ведае, чаго хоча, і адпаведна жыве (дзейнічае). Робіць тое, што любіць, і любіць тое, што робіць. Зайздрошчу...

13.12. Сьнег. Сур'ёзна. Зіма. Злавілі Хусэйна ў Багдадзе.

14.12. Пад вечар – дождж. Брыдота. Памёр Гейдар Аліеў.

15.12. Язда па Менску – суцэльны атракцыён. Вакол бітыя машыны – аварыя на аварыі ў горадзе. У Баку зьехаліся ўсе лідэры: з Грузіі і Шэварднадзе, і "замена", Пуцін і Кучма там, а нашага не запрасілі...

16.12. Выступ у інстытуце парламентарызму. Дужа няўдалы. Слухалі добра, але – часопіс не куплялі. Каня можна падвесьці да вады, але піць яго не прымусіш...

17.12. Секцыя прозы. Усё добра... Алесь быў на сустрэчы <...>. Казаў – ішлі ўсе ўзьнёслыя, выйшлі, як у дз...рмо апушчаныя. Зноў наезд на літаратуру: бляволіна ва ўсіх гэтых Бураўкіных, Барадаўкіных, Барадуліных... Наезд на СП... Быў шанец, а ён не скарыстаў яго... І дарогі назад ужо няма. <...>.

18.12. Сеў рабіць сваё – паклікалі ў СП. Абрыдла.

19.12. Полацак і Наваполацак. Сустрэчы з чытачамі. Усё прыстойна. Маладзец Аркуш, хоць і хворы быў – паспрыяў. Малайцы навапалачане: Неўдах, Мудроў, Жарнасек...

20.12. Згадалася. Аварыя, па дарозе ў Польшчу, адбылася, калі якраз я казаў афарызм, які не вычытаў у кагосьці, а самому падумалася раптам: "Паэты ніколі не становяцца на калені, бо ў іх, як у птушак, няма каленяў... Хто стаў на калені – ужо не паэт". А сёньня яшчэ запісалася ўсьлед: "Паэт не павінен жыць доўга – паэт павінен жыць вечна".

21.12. Данабраў і вычытаў "Пуціну". Знайшоў эпіграф з Басё. І зьявілася падсьветка да пасажу пра матылькоў у пачатку тэкста. (Думаю над назвай: можа, вярнуцца да пачатковай – "Шыкатан"? Але адразу круціцца Кіркораў са сваім "шыка дам, шыка дам... Пакіну "Пуціну", хоць алітэрацыі таксама ня лепшыя...)

22.12. Не люблю зіму. Ненавіджу зіму ў горадзе.

23.12. П'яны Д. вядзе прыёмную камісію СП – найбольшае ўражаньне дня...

24.12. Я паверыў у анёла-ахоўніка, у тое, што ён ёсьць, пасьля (падчас) аварыі па дарозе ў Польшчу. Я чуў гул у вушах... І ня проста гул, а словы...

25.12. Як добра. Як камфортна... Фактычна мой першы выходны сёлета. Не па хваробе, а – проста выходны, дзень нічоганерабленьня. Найперш таму, што зламаўся кампутар. Інакш сядзеў бы і нешта выстукваў...
26.12. Лёс?

27.12. Сьнег растаў даўно. Але холадна – зіма. Сёньня я першы раз апрануў паліто. А шапку яшчэ і не даставаў.

28.12. Галава ажно апухла ад працы. І пад вачыма сінія (чорныя) кругі.

29.12. Ноч на 30-е. На вуліцы падае сьнег. Будзем на Новы год са сьнегам.

30.12. Літфонд. N., з вылупленымі, вылузанымі вачыма... Дарэмна я зь ім счапіўся. Не даруе. Але і прамаўчаць немажліва было. Дурнота, а колькі нерваў і здароўя забірае. Каму сказаць... А потым яшчэ нехта ў "калабаранцтве" абвінаваціць.

31.12. Вось і Новы год. У сшытку, які сканчаецца, апошні запіс: "Чытача трэба прымушаць думаць. Пустоты (цэзуры, паўзы) ў тэксьце чытач павінен запаўняць сваімі мазгамі..." *(Неабходны каментар: дзёньнік не мастацкі твор, але пустотаў у ім аж зашмат. Толькі запоўніць іх праз гады "мазгамі" ня ў змозе ўжо нават я сам, а ня тое, што чытач. Шкада, што не запісваў падрабязна размовы – яны забыліся, шкада, што не апісваў падрабязьней падзеі – яны забыліся, але добра, што хоць засталося і не забудзецца тое, што засталося, бо запісалася...)*

***Дадатак.***
**Некалькі запісаў з 2002 году, якія тычацца “холдынгу” і “Дзеяслова”.**

*17 красавіка.*
Вакол беларускамоўных часопісаў закручваюцца сур’ёзныя справы: ім пагражае поўнае зьнішчэньне. Тое, у што зь цяжкасьцю верылася, ужо практычна адбылося: зьнішчэньне... <...>

*24 красавіка.*
“Полымю” прадставілі новага рэдактара – Міколу Мятліцкага. Сядзеў і думаў, як па-езуіцку подла нас “купілі” і тым самым нейтралізавалі, каб потым “разабрацца” з кожным паасобку.
Але, як кажуць расейцы – “нет худа без добра”. Меў гутарку з А. Б. наконт стварэньня новага часопіса на парэштках “Полымя”. Алесь падтрымаў ідэю стварэньня класічнага еўрапейскага цэнтрысцкага кансалідацыйнага часопіса, у якім маглі б друкавацца ўсе – ад Быкава да “бум-бам-літаўцаў”. Галоўнае – якасьць твораў...
Думаю пра назву. У галаве круціцца – “Пагоня” з дэвізам: “Не давайце чужынцамі быць!”, альбо “Гоман”, які выходзіў у 1884 годзе ў Пецярбургу... Ідэяў шмат, але найважнейшая думка – зьяднаць вакол часопіса ўсё жывое, што яшчэ ёсьць у Беларусі.
Вярнуся да “прадстаўленьня”. Як усё ж бальшавікі і іхнія метады прыжыліся ў Беларусі. Дзіўна, але з гадамі “бальшавікі” – Леніны альбо матросы Жалязьняковы – не зьмяняюцца. Нават зьнешне. І мова ў іх усё такая ж косназязыка-“афарыстычная”. На новым этапе, апроч <...>, Ельцына, Чарнамырдзіна ды іншых гэта яшчэ і новаяўлены Касьцян: хлус, папуліст, абсалютна неадукаваны чэл. Ён, бачыце, хоча ўнесьці ў “закасьцянелую” (не заўважыў, як гэта стасуецца з ягоным прозьвішчам!) бел(арускую) літ(аратуру) “свежыя ветры”, не задумваючыся, што значыць “ветры” на мове, на якой ён гаворыць – па-руску. А сёньня ён яшчэ і паабяцаў пасьля “ўрачыстага звальненьня” – “іспользовать С. І. Законьнікава на полную катушку”.
Хто намі кіруе! І хто прэцца намі кіраваць!..
Дарэчы, учора была Рада СБП, пасьля якой стала ясна, што няма ў нас ня толькі часопісаў, але і Саюзу. Дзіўлюся, як лёгка здалося “Касьцянам” пакаленьне Законьнікава.
Зрабіў выснову: няма нам на каго спадзявацца. Няма перад намі сьпінаў. Трэба прымаць удар на сябе.

*28 красавіка.*
Хопіць падманваць сябе ды іншых: на зямлі ёсьць толькі адзін Бог – грошы.

*14 траўня.*
Ужо шкадую, што ня стаў весьці храналогію зьнішчэньня “Полымя” і стварэньня на ягоным папялішчы новага часопіса.

*9 чэрвеня.*
І вось сёньня, патроху працуючы над стварэньнем новага часопіса і чытаючы першыя творы ў яго, я зразумеў, што трэба ствараць ня новы часопіс, а новую літаратуру...

*28 чэрвеня.*
У Ноўгарадзе знайшлі берасьцяную грамату з двумя словамі: “Женіўся тут” (напісаў “Ў”, а трэба “В”). Як па-беларуску: “Женівся тут”. 10-е стагоддзе. Вялікі Ноўгарад.



*29 чэрвеня.*

Патроху раблю часопіс. Набіраю. Перакладаю. Замаўляю і г.д. І думаю: “А навошта мне гэта трэба?”

*17 ліпеня.*

Чалавек прыходзіць на гэтую Зямлю дзеля таго, каб пасадзіць дрэва, узгадаваць сына і... стварыць часопіс...

*3 верасьня.*

І вось думаю я: на фіга мне ўсё гэта? Плыў бы па цячэньні, як большасьць, і ўсё было б... Не, няпраўда. Ня змог бы я плыць... Ня змог і не плыву.

*21 верасьня.*

Дапісаў першую частку “Стаха” – “Рай”. Перачытаў. І думаю: як жахліва, што гэтага магло б ня быць, што яе, гэтай часткі, магло б ня быць...

Зрабіў за тыдзень. Усяго тыдзень – і ёсьць...

А колькі б я мог напісаць, калі б хоць зрэдку мог выкройваць сабе па гадзінцы ў дзень...

Зрэшты, гэты тыдзень, калі дарабляўся і выйшаў “Дзеяслоў”, калі закруціліся справы ў СП і толькі пасяджэньняў камісіі было тры – быў неймаверна цяжкі.

І тым ня менш – “Няспраўджанасьць адзіноты” – ёсьць!

*23 кастрычніка*

Я тады дабіваўся ў жыцьці чагосьці, калі ні на кога (апроч самога сябе) не спадзяваўся.

Я сам сябе зрабіў.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (122-127) за 2023 год

***Паэзія***



***Проза***



***Дэбют***

# Нашыя аўтары

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Бабкова Вольга** – літаратарка, гісторык-архівіст. Займаецца даследаваннем і выданнем тэстаментаў беларускай шляхты XVI–XVIII стст. Аўтарка кнігі эсэ па гісторыі штодзённасці ВКЛ «...І цуды, і страхі». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча (2010). Нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Барысюк Таццяна** – паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі вершаў «Аўтапартрэт». Аўтарка кампаратывістычных прац «Сон у беларускай і польскай паэзіі 80-90-х гадоў XX стагоддзя», «Традыцыі англійскага і польскага рамантызму ў сучаснай беларускай паэзіі», «Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі», «Канцэпты “сваё” і “чужое” ў сучаснай беларускай і брытанскай англамоўнай паэзіі» ды інш. Нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «Яблычны пах цішыні», дакументальнай аповесці «Чорны год» ды інш. Перакладае на беларускую мову вершы нямецкіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх паэтаў. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Булавацкі Міхась** – празаік, паэт, перакладчык. Заснавальнік магілёўскай філіі аб’яднання «Мартыралог Беларусі», кіраўнік магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з рускай (у 1999 г. выйшла кніга У. Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага). Аўтар шэрагу падручнікаў па матэматыцы і трыганаметрыі. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Восы на Глушчыне. Жыве ў Магілёве.

**Вайль Пётр** – рускі ды амерыканскі журналіст, літаратар. Вядоўца, а потым і кіраўнік рускай службы «Радыё Свабода» ў Нью-Ёрку (1984-2005). Аўтар кніг «Гений места», «Карта Родины», «Стихи про меня», «Слово в пути», «Свобода — точка отсчёта», «Застолье Петра Вайля» ды інш. Складальнік і аўтар прадмоў да кніг І. Бродскага. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Рызе. Памёр у 2009 годзе ў Празе (пахаваны ў Венецыі).

**Варанец Віктар** – празаік. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў». Аўтар кнігі паэзіі і прозы «Рамізнік». Неаднаразова быў лаўрэатам літаратурных конкурсаў газеты «Звязда». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Дабкене Кацярына** – празаік, паэтка. Паводле адукацыі лінгвіст. Выкладала ангельскую мову, ладзіла праекты па развіцці крэатыўнасці для дзяцей і падлеткаў, працавала перакладчыкам. Працуе кантэнтрайтэрам. Друкавалася з вершамі і кароткай прозай у калектыўных зборніках.Нарадзілася ў Гародні ў 1988 годзе. Жыве ў Польшчы.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акрополь», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубавец Сяргей** – празаік, крытык, публіцыст. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як? Азбука паводзінаў», «Сіні карабель у блакіт-

ным моры плыве» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Вільні.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, журналіст, дызайнер, фатограф, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «На пачатку маўчання», «Родавыя аскепкі неба», «Тутсамасць», «Чоў», «Графіці» ды інш., мастацка-паэтычных выданняў «Лялькі, альбо музыка кахання», (пераможца Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2008»), «Мудраслоўе беларусаў» ды інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў», «Чорная лесвіца», «Азірнуўшыся, не скамянець...» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Івашчанка Анатоль** – празаік, паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг вершаў «Вершnick», «Хай так», кнігі прозы «Аналогія», манаграфіі «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй». Лаўрэат прэміі «Залатая літара» (2005), конкурсу «Экслібрыс» (2014), прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2015). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Касяк Канстанцін** – празаік, гісторык. Тэксты друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і «Літаратурная Беларусь»; часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Дзеяслоў», «Сівер» і «Макулатура» ды інш. Аўтар электроннай кнігі «Самааізаляцыя». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Беластоку.

**Кунцэвіч Яўген** – паэт, перакладчык. Скончыў філасофскі факультэт БДУ. Выпускнік Школы маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў (2021). Перакладае з украінскай, рускай, іспанскай і ангельскай моў. Пераможца Фэсту аднаго верша (2021). Нарадзіўся ў 2000 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Пашкевіч Алесь** – паэт, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі вершаў «Нябесная сірвента», раманаў «Пляц волі», «Круг», «Сімъ побѣдиши», аповесці «Рух», манаграфіі «Зваротныя дарогі. Проза беларускай эміграцыі ХХ ст.» ды інш. Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Валянціна Пікуля (2009) Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Набушава на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** – празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Піліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін», «...Роўна і трошкі ўправа» ды інш. Лаўрэат прэміі «Гліняны Вялес» (2008). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Рагін Яўген** – журналіст, публіцыст. У нядаўнім часе супрацоўнік тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў горадзе Ветка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сідарук Ігар** – паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона» ды інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне, дзе і жыве.

**Спрынчан Аксана** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ», «Смачная кніга» ды інш. Пераможца конкурсу «Літаратура – дзецям» (2009). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт», рамана-фэнтэзі «Князёўна Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996), прэміі «Залаты Апостраф» (2021). Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

# Contents

# Паслямова ад «Дзеяслова»

Дарагія, шаноўныя, любімыя нашыя чытачы!

Гэтым нумарам “Дзеяслоў” развітаецца з вамі. Далей як часопіс ён не будзе выходзіць. Такая сусветная тэндэнцыя, што літаратурныя і ўвогуле друкаваныя выданні, пачаўшы свой шлях адныя сотні, а іншыя дзясяткі гадоў таму, цяпер саступаюць месца выданням электронным. Хоць у нашым выпадку асноўная прычына іншая і, мяркуем, абсалютна зразумелая і вядомая вам…

Больш за 20 гадоў “Дзеяслоў” штодвамесяцы, не зважаючы на праблемы і перашкоды, якіх было нямала ў наш няпросты час, выходзіў бесперапынна і радаваў вас (шчыра верым у гэта) новымі творамі сучасных беларускіх (і не толькі) паэтаў і празаікаў, публіцыстаў і эсэістаў, крытыкаў і перакладчыкаў... Усе свае абяцанні, пра якія было заяўлена ў першым нумары, мы выканалі: з нумара ў нумар друкавалі ўсё лепшае, што стваралася і з’яўлялася ў нашай літаратуры, побач з класікамі публікавалі тэксты пачаткоўцаў-дэбютантаў, стараліся не забываць і пра культурнае жыццё краіны ўвогуле – пра выяўленчае мастацтва, тэатр, кіно, гісторыю Беларусі.

Падборка са 127 нумароў часопіса без перабольшвання – сапраўдная анталогія сучаснай беларускай літаратуры, якая пачэсна займае месца не толькі на паліцах бібліятэк, але і ў кватэрах многіх беларусаў. Рыхтуючы гэты, апошні, нумар, мы думалі проста паўтарыць першы, каб даказаць, што сапраўдная літаратура, як і добрае віно, з гадамі не старэе, а толькі робіцца лепшай. Але ўрэшце вырашылі зрабіць звычайны – чарговы, а не апошні – нумар, каб мець надзею на працяг.

Таму, развітваючыся, кажам: да новай сустрэчы!

***Вашыя дзеяслоўцы***


Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.